хроніка парушэньняў правоў чалавека
ў Віцебскім рэгіёне

# ШЭРАЯ КНІГА

*ліпень 2014 – чэрвень 2015*



**Віцебск, 2015**

Цягам ліпеня 2014 г. – чэрвеня 2015 г. сытуацыя з правамі чалавека ў Віцебскім рэгіёне, як і ў краіне ў цэлым, істотна не зьмянілася ў параўнаньні з ранейшым пэрыядам.

Улады па-ранейшаму ігнаруюць прынцып вяршэнства права і ў сваіх стасунках з грамадзянамі кіруюцца найперш палітычнай мэтазгоднасьцю, як яны яе бачаць, а не стандартамі правоў чалавека. Масавыя парушэньні правоў чалавека носяць сыстэмны характар.

Судовая сыстэма, якая цалкам залежыць ад выканаўчай улады, толькі ў рэдкіх выпадках здольная абараніць грамадзян, што спрабуюць адстаяць свае правы і законныя інтарэсы.

Паколькі судзьдзяў прызначае і адхіляе кіраўнік дзяржавы, яны знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад уладнай вэртыкалі. Гэта спрычыняецца да таго, што ні суды першай інстанцыі, ні касацыйныя суды не прымаюць апраўдальных рашэньняў ў дачыненьні да апазыцыянэраў і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці, якіх улады ўспрымаюць як ворагаў існуючага палітычнага рэжыму.

У рэгіёне асабліва востра стаіць праблема з адвольнымі абмежаваньнямі права на мірныя сходы і на выказваньне меркаваньняў. На працягу году палітычныя і грамадзкія актывісты Віцебску, Воршы і Полацку падалі ў мясцовыя органы ўлады дзясяткі заявак на правядзеньне пікетаў (у тым ліку адзіночных), мітынгаў і вулічных шэсьцяў, але ніводная зь іх заявак не была задаволеная. Забараняючы масавыя мерапрыемствы, прадстаўнікі мясцовай улады спасылаюцца на рашэньні выканкамаў, якімі рэгулюецца парадак арганізацыі і правядзеньня такіх мерапрыемстваў, патрабаваньні якіх немагчыма выканаць на практыцы. У тых выпадках, калі палітыкі і грамадзкія актывісты спрабавалі публічна выказваць свае меркаваньні або ладзіць мірныя сходы, не зьвяртаючыся па дазволы да ўладаў, яны падвяргаліся адміністрацыйным спагнаньням.

Так, за раздачу ўлётак у Полацку і Наваполацку сябра аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Андрэй Гайдукоў двойчы (у лістападзе і сьнежні 2014 г.) быў падвергнуты адміністрацыйным арыштам (на 5 і 10 сутак). Згодна з рашэньнем суду актывіст нібыта парушыў Закон аб масавых мерапрыемствах.

Міліцыя і суды пашырана трактуюць заканадаўства аб масавых мерапрыемствах, бачачы несанкцыянаваныя «масавыя мерапрыемствы» нават там, дзе ня ладзіцца ніводная з акцыяў, правядзеньне якіх рэгулюецца законам.

Напрыклад, у лістападзе 2014 г. некалькі віцебскіх журналістаў і грамадзкіх актывістаў далучыліся да сусьветнай акцыі ў падтрымку свабоды слова «Станем за журналістыку». Яны зладзілі флэшмоб, сфатаграфаваўшыся з папяровымі клеткамі і птушкамі ў руках, і пасьля разьмясьцілі фотаздымкі ў інтэрнэце. Нягледзячы на тое, што закон аб масавых мерапрыемствах ніяк ня згадвае такія віды мерапрыемстваў, як флэшмоб або супольнае фатаграфаваньне, не патрабуе для іх правядзеньня атрымліваць дазвол ад уладаў і не забараняе іх, шасьцёра ўдзельнікаў імпрэзы нібыта за правядзеньне пікету былі пакараныя штрафамі ад 18-ці да 25-ці базавых велічынь, яшчэ адзін удзельнік акцыі быў арыштаваны на 3

сутак.

Часам актывісты, якія спрабуюць публічна выказаць меркаваньне, караюцца не за парушэньне заканадаўства, якое рэгулюе парадак арганізацыі і правядзеньня масавых мерапрыемстваў, а за нібыта зьдзяйсьненьне імі іншых правапарушэньняў паводле сфабрыкаваных адміністрацыйных спраў.

Гэтак адбылося зь сябрам Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Сяргеем Каваленкам, які ў сьнежні 2014 г. выказваў свае палітычныя погляды праз вывешваньне ў горадзе нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцягу і быў падвергнуты 10-дзённаму арышту – за дробнае хуліганства і непадпарадкаваньне законным патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі.

У траўні 2015 г. за вывешаны ў гарадзкім сквэры Наваполацку сьцяг з надпісам «БХД» быў падвергнуты штрафу ў памеры 20 базавых велічынь актывіст аргкамітэту БХД Дзьмітры Дзякаў. Яго таксама пакаралі не паводле «палітычнага» артыкулу, а нібыта за парушэньне правілаў добраўпарадкаваньня і ўтрыманьня населеных пунктаў.  Пазьней штрафы ў 10 базавых велічынь былі накладзеныя і на дваіх сяброў Дзякава, якія да стваранай партыі БХД ня маюць ніякага дачыненьня.

Улады, якія хочуць, каб грамадзтва чула толькі іх голас, спрабуюць усталяваць татальную манаполію на СМІ. Яны ціснуць на свабоду слова, перасьледуючы незалежных журналістаў. У чэрвені 2015 г. на дваіх глыбоцкіх журналістаў – Зьмітра Лупача і Тацьцяну Смоткіну – былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэньнях за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ.

Парушаецца ў рэгіёне і права на свабоду асацыяцыяў. Так, ад актывістаў, якія падпісаліся за стварэньне партыі БХД, напярэдадні ўстаноўчага зьезду партыі патрабавалі пад пагрозай рэпрэсіяў адмовіцца ад сваіх подпісаў. А Полацкі райвыканкам больш як цягам году адмаўляецца рэгістраваць мясцовае «Таварыства абароны спажыўцоў».

Сутыкаюцца зь перашкодамі ў сваёй дзейнасьці незалежныя прафсаюзы. Старшыню арганізацыі Свабоднага прафсаюзу беларускага (СПБ) заводу «Полацак-Шкловалакно» Віктару Стукаву быў забаронены ўваход на тэрыторыю прадпрыемства, а самі сябры СПБ  падвяргаюцца дыскрымінацыі ў сувязі зь іх сяброўствам у незалежным прафсаюзе: калектыўная дамова прадпрыемства прадугледжвае розныя правы для рабочых у залежнасьці ад таго, зьяўляюцца яны сябрамі незалежнага або афіцыйнага прафсаюзу. Сябры СПБ ня раз спрабавалі ліквідаваць дыскрымінацыю праз звароты ў суды, але ў доступе да правасудзьдзя ім было адмоўлена.

Шырока пашыраная ў рэгіёне дыскрымінацыя і па моўнай прыкмеце. Яе зазнаюць тыя, хто ўжывае мову тытульнай нацыі краіны.

Многім палітычным і грамадзкім актывістам, якія прасілі ў судох весьці працэсы ў дачыненьні да іх на беларускай мове альбо даць ім перакладчыкаў, судзьдзі адмаўлялі ў іх хадайніцтвах, заяўляючы, што яны нібыта ў дастатковай ступені валодаюць расейскай мовай.

Прадпрымальніку зь Віцебску, які хацеў наладзіць выпуск новай прадукцыі з этыкеткай па-беларуску, забаранілі зрабіць гэта, спаслаўшыся на нормы Мытнага саюзу, у склад якога ўвайшла Беларусь, згодна з рэглямэнтам якога ўся прадукцыя нібыта мусіць маркіравацца па-расейску.

Музыка Яўген Валошын сутыкнуўся з адмовай, калі прапанаваў дзяржаўнай радыёстанцыі «Віцебск» песьні яго музычнага гурту, што знаходзяцца ў ратацыі дзяржаўных радыёстанцыяў іншых рэгіёнаў. Супрацоўнік радыё растлумачыў музыку, што творы на беларускай мове радыё «Віцебск» не пасуюць.

Апошнім часам у рэгіёне пашырыліся выпадкі распальваньня міжнацыянальнай варожасьці і прапаганды вайны. На вуліцах усіх буйных гарадоў Віцебскай вобласьці невядомыя прыхільнікі «русского мира» сталі актыўна распаўсюджваць сьцягі Расейскай Фэдэрацыі і СССР, раздаваць улёткі з заклікамі ваяваць за «ДНР» і «ЛНР». На звароты грамадзян, якія просяць спыніць дзейнасьць распаўсюднікаў, супрацоўнікі міліцыі як правіла не рэагуюць. Заклікі да ўдзелу ў вайне ва Ўкраіне на баку прарасейскіх сілаў зьмяшчаюцца і на старонках прэсы, напрыклад, у газэце Віцебскай праваслаўнай эпархіі «Наше православие».

Існуюць праблемы ў Віцебскай вобласьці таксама са свабодай сумленьня і веравызнаньня. Перасьледу з боку ўладаў падвяргаюцца прадстаўнікі малых канфэсіяў. Так, у студзені 2015 г. у Полацку былі затрыманыя двое вернікаў крышнаіцкіх суполкі. Іх абвінавацілі ў дробным хуліганстве. Затрымлівалі крышнаітаў і ў Віцебску. Пра тое, што выпадкі затрыманьня крышнаітаў тлумачацца не выпадковасьцю праз залішнюю засьцярогу або непрафэсіяналізм супрацоўнікаў праваахоўных органаў, а ёсьць праявай палітыкі ўладаў, сьведчыць той факт, што ў затрыманьні траіх вернікаў у чэрвені 2015 г. у Віцебску браў непасрэдны ўдзел галоўны спэцыяліст аддзелу па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Віцебскага аблвыканкаму. Ён ня толькі ўдзельнічаў у затрыманьні крышнаітаў, але і асабіста канфіскаваў у іх рэлігійную літаратуру, якую тыя распаўсюджвалі.

Асаблівую занепакоенасьць праваабаронцаў Віцебшчыны выклікае сытуацыя з правамі людзей, што ўтрымліваюцца ў закрытых установах Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў МУС. Праваабаронцы адзначаюць, што праз закрытасьць сыстэмы і адсутнасьць кантролю з боку грамадзтва, парушэньні правоў пацыентаў лячэбна-працоўных прафілякторыяў, асоб, што знаходзяцца пад вартай, і асоб, асуджаных да пазбаўленьня волі, носяць масавы характар.

Пагаршэньне эканамічнай сытуацыі ў краіне спрычынілася да павелічэньня зафіксаваных выпадкаў парушэньня эканамічных і сацыяльных правоў. Расьце колькасьць беспрацоўных. Работнікі прадпрыемстваў часьцяком падвяргаюцца неабгрунтаваным звальненьням. Шмат якія прадпрыемствы пераходзяць на скарочаны працоўны тыдзень, што адбіваецца на матэрыяльным становішчы рабочых.

Пагоршыліся ўмовы працы малога і сярэдняга бізнэсу. Праз новаўвядзеньні ў заканадаўстве ў сувязі з уступленьнем Беларусі ў Мытны саюз, многія вымушаныя былі спыніць свой бізнэс. Спрабуючы адстаяць свае правы, прадпрымальнікі вобласьці цягам апошняга году некалькі разоў ладзілі страйкі,

накіроўвалі звароты ў адміністрацыю прэзыдэнта і ўрад, і ў цяперашні час далейшы лёс малога і сярэдняга бізнэсу зьяўляецца няпэўным.

У гэтай кнізе падаюцца факты парушэньняў правоў чалавека, што былі зафіксаваныя ў Віцебскай вобласьці зь ліпеня 2014 г. па чэрвень 2015 г. Кніга складзеная на падставе публікацыяў, разьмешчаных на праваабарончых сайтах, а таксама матэрыялаў, апублікаваных іншымі інтэрнэт-рэсурсамі.

## Крымінальны перасьлед актывістаў грамадзянскай супольнасьці



Яўген Парчынскі

**19.07.2014 Палітвязьня Ігара Аліневіча** перавялі з навапалацкай калёніі ў калёнію "Віцьба-3", якая знаходзіцца непадалёк ад Віцебску. Раней у гэтай калёніі адбываў пакараньне былы **кандыдат на прэзыдэнта Аляксандар Казулін**.

«Мы атрымалі афіцыйнае паведамленьне, што ён знаходзіцца ў калёніі "Віцьба-3". Яго туды прызначыў Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў. І гэта ўсё. Ад яго пакуль адтуль лістоў не было. Што і як — дакладна ня ведаем. Хутчэй за ўсё, патрапіў у карантын і таму пакуль ад яго нічога няма», — сказаў бацька палітвязьня **Ўладзімер Аліневіч**.

Ігар Аліневіч раней адбываў пакараньне ў калёніі ў Наваполацку, якая лічылася найгоршай паводле экалёгіі. На пачатку году было прынятае рашэньне аб расфармаваньні гэтай калёніі.

27 траўня 2011 году судзьдзя Заводскага раёну Менска Жанна Хвайніцкая асудзіла актывіста анархісцкага руху Ігара Аліневіча на 8 гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцьненага рэжыму. Яго, а таксама **Мікалая Дзядка** і **Аляксандра Францкевіча** абвінавацілі ў арганізацыі шэсьця каля будынка Мінабароны, нападзе на казіно "Шангры Ла" і ізалятар на Акрэсьціна ў Менску, а таксама падпале дзьвярэй філіялу "Беларусбанку".

**28.08.2014** Наваполацкі суд вынес рашэньне аштрафаваць **грамадзянскага актывіста Яўгена Парчынскага**. Памер штрафу склаў 7,5 мільёну рублёў. Суд прызнаў актывіста вінаватым у дапамозе работнікам заводу «Палімір» у атрыманьні фальшывых позваў у міліцыю, якія мусілі апраўдаць факт іх адсутнасьці на працы. Пракуратура спрабавала прыпісаць актывісту яшчэ шэраг парушэньняў закону, такіх як махлярства і падбухторваньне да дачы хабару, але ў судзе такія дзеяньні не знайшлі пацьверджаньня.

Судовае паседжэньне вёў сам старшыня Наваполацкага суду Ляўчонак Пётар Уладзімеравіч.

Крымінальную справу на Яўгена Парчынскага завялі ў Наваполацку яшчэ ў 2009 годзе, калі ён актыўна ўдзельнічаў у працы няўрадавых арганізацыяў. Пасьля актывіст займаўся перадвыбарнай агітацыяй за кандыдатаў у прэзыдэнты на выбарах 2010 году. Яўген пастаянна аказваў дапамогу людзям, якія трапілі ў цяжкія, а часам крытычныя сытуацыі.

Пракуратура Наваполацку ўвесь гэты час пастаянна спрабавала сабраць матэрыялы для крымінальнага перасьледу актывіста. Апошні раз міліцыя затрымала Яўгена Парчынскага напярэдадні апошніх паседжаньняў суду, адразу пасьля пра-

цы. У кайданках актывіста даставілі ў аддзяленьне міліцыі і, пратрымаўшы тры гадзіны, адпусьцілі без прад'яўленьня абвінавачваньняў.

Пракурор у судзе настойваў на пазбаўленьні волі абвінавачанага тэрмінам да трох гадоў з адтэрміноўкай выкананьня пакараньня на два гады. Відавочна, каб трымаць актыўнага грамадзяніна на «кручку» і каб была магчымасьць за малейшае правапарушэньне адправіць яго ў калёнію. Магчыма, суд вырашыў, што гораду не патрэбны ганебны факт «мясцовага палітвязьня», таму абышлося без арышту.

Яўген Парчынскі раней працаваў журналістам у наваполацкай газеце «Хімік», быў галоўным рэдактарам. У сувязі са сваёй журналісцкай дзейнасьцю мае вялікае кола сяброў і знаёмых у Полацкім рэгіёне. На судовых паседжаньнях падчас разгляду яго справы ўвесь час прысутнічалі знаёмыя і сябры Яўгена з грамадзкіх арганізацыяў Полацкага рэгіёну і Віцебскай вобласьці.

**31.08.2014 Заснавальнік праваабарончай арганізацыі «Пляцформа»** (прыватная культурна-асьветніцкая ўстанова «Платформ інавэйшан») **Міхаіл Жамчужны** арыштаваны ў Віцебску.

Сябры «Пляцформы» ня маюць зьвестак пра тое, у зьвязку з чым Жамчужнаму прад'яўленыя абвінавачаньні, а ў адваката ўзятая падпіска пра неразгалошваньне.

«Інфармацыі аб прычынах арышту Міхаіла Жамчужнага няшмат. Дакладна вядома, што крымінальная справа адносна яго распачатая паводле часткі 1 артыкулу 375 (наўмыснае раскрыцьцё эканамічных, навукова-тэхнічных ці іншых зьвестак, якія складаюць службовую тайну, асобай, якая мае або мела доступ да гэтых зьвестак). А таксама паводле часткі 2 артыкулу 376 (незаконныя выраб або набыцьцё ў мэтах збыту або збыт спэцыяльных тэхнічных сродкаў, прызначаных для сакрэтнага атрыманьня інфармацыі) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь», — паведамляе сайт «Пляцформы».

Міхаіл Жамчужны — колішні асуджаны па эканамічнай справе прадстаўнік «Пляцформы» ў Віцебску, а да зьняволеньня — дацэнт Віцебскага тэхналягічнага інстытуту, кандыдат тэхнічных навук.

Былы **кіраўнік праваабарончай установы «Платформ інавэйшан» Андрэй Бандарэнка** ў жніўні 2014 году быў асуджаны на 3 гады зьняволеньня паводле артыкулу аб злосным хуліганстве. Праваабаронца на судзе прызнаў сваю віну часткова, але з такім прысудам не пагадзіўся і абскардзіў яго ў Менскім гарадзкім судзе. Калегія Менскага гарсуду пакінула прысуд бязь зьменаў. У апошнім слове на судзе Бандарэнка казаў пра магчымую правакацыю спэцслужбаў, але не адмаўляў і таго, што «сваімі дзеяньнямі гэтаму дапамог».

**15.09.2014** Тыповую для вязьняў з савецкіх часоў працу атрымаў у калёніі «Віцьба–3» **палітвязень Ігар Аліневіч**.

Ягоны бацька **Ўладзімер Аліневіч**: «Нешта робіць на дрэваапрацоўцы, але што дакладна, ня ведаю. У нас жа пакуль не было ані доўгатэрміновага, ані кароткага спатканьня. Вось падчас першага ў гэтай калёніі спатканьня распытаем больш падрабязна, што робіць. Пакуль ведаю, што з дрэвам працуе».

Паводле Ўладзімера Аліневіча, у калёніі пад Віцебскам ягонаму сыну ўжо выдалі


Ігар Аліневіч

тэлефонную картку, і ён можа хоць зрэдку, але рэгулярна тэлефанаваць дадому. У навапалацкай калёніі, дзе Ігар Аліневіч адбыў больш за 3 гады, гэтай магчымасьці ён фактычна быў пазбаўлены. Рэгулярна ад Ігара Аліневіча даходзяць і лісты.

**11.10.2014 Палітвязень Ігар Аліневіч** зьмешчаны ў штрафны ізалятар, дзе мусіць правесьці 10 дзён. Пра гэта паведаміла маці палітвязьня **Валянціна Аліневіч**: «На мінулым тыдні зьбіраліся да Ігара на кароткатэрміновае спатканьне, і тут нам паведамляюць, што ён у штрафным ізалятары», – распавяла яна.

«Спачатку канфіскавалі мой ліст, матывуючы тым, што там забароненыя зьвесткі. Потым пасадзілі на 10 дзён у штрафны ізалятар. Ня ведаю, што за нелюдзі і дамарослыя псыхолягі працуюць у нашых спэцслужбах, але гэта ўжо стала традыцыяй садзіць нашых палітычных менавіта на іх дні народзінаў. Так было і з **Колем Дзядком** на ягоны дзень нараджэньня ў жніўні (20 дзён штрафнога ізалятару), так і з астатнімі палітычнымі вязьнямі. Лаўры Васьковіча, які прасядзеў за год у штрафным ізалятары 240 дзён, мабыць, не даюць спакою», – сказала Валянціна Аліневіч.

**18.10.2014** Кіраўніцтва папраўчай калёніі «Віцьба-3» выказала пагрозу перавесьці **палітвязьня Ігара Аліневіча** на камэрнае ўтрыманьне. «На канец верасьня было заплянаванае нашае спатканьне з сынам, аднак за пару дзён нам патэлефанавалі з адміністрацыі «Віцьбы-3» і паведамілі, што спатканьне пераносіцца на нявызначаны тэрмін, паколькі Ігара за дысцыплінарнае парушэньне пакаралі дзесяцьцю днямі штрафнога ізалятару, – сказала маці Ігара Валянціна. – Празь дзесяць дзён мы даведаліся, што за першым ШЫЗА быў і другі, а за другім – трэці».

Што павінен быў такога злоснага ўчыніць палітвязень, каб на яго навесілі падобныя спагнаньні? Бацькі Ігара Аліневіча, не адкладаючы, пастанавілі даведацца пра гэта непасрэдна ў турэмнага кіраўніцтва. Як высьветлілася, палітвязень адмовіўся чысьціць прыбіральні, бо тады атрымаў бы ніжэйшы турэмны статус. Праз 10 дзён – паўторны загад. І зноў адміністрацыя пачула ад Аліневіча адмову.

«Трэцяе спагнаньне было за тое, што канваіры нібыта чулі, што палітвязень, які ўсе гэтыя 30 дзён сядзіць у адзіночцы, нібыта размаўляў зь сядзельцам ў суседняй камэры… Аднак з такім жа посьпехам наш сын, – кажа **Валянціна Аліневіч**, – мог чытаць ўслых якіясь вершы, якіх ён ведае шмат. Што яшчэ рабіць у ШЫЗА, дзе чалавеку не дазволена ні пісаць, ні чытаць?».

Кіраўніцтва калёніі таксама паведаміла бацьку Ігара Аліневіча, што наступнай штрафной санкцыяй у выпадку непадпарадкаваньня зьняволенага можа быць ізаляцыя ў ПКТ (памяшканьне камэрнага тыпу), а потым – перавод асуджанага ў так


Марылуізэ Бэк

званую «крытую» турму.

**Былы палітвязень Мікалай Аўтуховіч**, які ў свой час як злосны парушальнік турэмнага парадку быў пераведзены з Івацэвіцкай калёніі ў Гарадзенскую «крытую» турму, пракамэнтаваў сытуацыю наступным чынам: «Хутчэй за ўсё, выглядае так, што ёсьць указаньне зрабіць з Аліневіча злоснага парушальніка і асудзіць яго паводле 411 артыкулу з утрыманьнем на больш цьвёрдым, чымся ў калёніі, турэмным рэжыме».

**01.11.2014** Заклапочанасьць наконт умоваў утрыманьня пад вартай **вязьня Ігара Аліневіча** выказала **дэпутатка парлямэнту ФРГ Марылуізэ Бэк**. Яна напісала ліст амбасадару Беларусі ў Нямеччыне з патрабаваньнем стварыць годныя ўмовы турэмнага ўтрыманьня палітвязьню.

“У дадатак да шматгадовага тэрміну пазбаўленьня волі ён у цяперашні час у пакараньне ўтрымліваецца ў адзіночнай камэры і павінен цэлыя дні знаходзіцца ў неацяпляльным памяшканьні бяз коўдры і пасьцельнай бялізны. Лісты, што яму накіроўваюцца, напрыклад, віншаваньні з днём народзінаў, не дастаўляюцца. За паўгода яму было дазволена патэлефанаваць сваім бацькам толькі адзін раз. Пры такіх умовах утрыманьня пад вартай Ігар Аліневіч пазбаўлены асноўных правоў чалавека”, – гаворыцца ў лісьце, накіраваным беларускаму амбасадару ў Бэрліне.

Нямецкая дэпутатка Марылуізэ Бэк адзначае, што Ігар Аліневіч прызнаны праваабаронцамі палітычным вязьнем і што судовы працэс і прысуд супраць Аліневіча сьведчаць пра палітычныя матывы яго асуджэньня. “Я лічу загадам гуманнасьці неадкладнае стварэньне годных умоў турэмнага зьняволеньня для Ігара Аліневіча і дазвол яму кантакту зь сям’ёй і з адвакацкай абаронай. Я ўзяла на сябе шэфства над справай Ігара Аліневіча і патрабую яго неадкладнага вызваленьня і рэабілітацыі”, – заяўляе ў лісьце нямецкая дэпутатка.

**28.01.2015** Віцебскія актывісты зьбіраюць сродкі для **палітвязьня Яўгена Васьковіча**. Яўген Васьковіч, які адбывае тэрмін пакараньня ў магілёўскай калёніі, мае праблемы са здароўем. “Падтрымаць палітвязьня – гэта наш абавязак”, – гаворыць ініцыятарка збору сродкаў, **віцебская каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Таццяна Севярынец**.

Добраахвотныя ахвяраваньні рабілі ўсе ахвотныя падчас сустрэч прадстаўнікоў віцебскіх дэмакратычных сілаў. На думку Таццяны Севярынец, хлопцу, асуджанаму на такі вялікі тэрмін, неабходна і маральная, і матэрыяльная падтрымка:

“Мы ведаем, што да Яўгена даходзяць ня ўсе нашы лісты. І што, будучы асуджа-




ным на 7 гадоў, у магілёўскай турме №4 ён адбыў 247 сутак у штрафным ізалятары. Гэта не магло не адбіцца на ягоным здароўі – былі ў яго праблемы са сьпінай, са страўнікам. Мы разумеем, што ягоным сваякам цяжкавата ў матэрыяльным пляне – усё, што зьбіраюць у пасылкі і перадачы, каштуе нямала грошай. Таму ўсе сабраныя ахвяраваньні мы перададзім сваякам. Тым больш, што на пачатак наступнага месяцу – з 5 па 6 лютага – заплянаванае спатканьне Яўгена з маці".

Журналіст, сябар ГА БАЖ Яўген Васьковіч, які зьяўляецца таксама актывістам аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя", быў узяты пад варту 17 студзеня 2011 году. 18 траўня 2011 году ён быў асуджаны за спробу падпалу ў ноч на 17 кастрычніка 2010 года будынку Бабруйскага КДБ – паводле часткі 2 артыкулу 339 КК (злоснае хуліганства) і часткі 3 артыкулу 218 КК (пашкоджаньне маёмасьці ў асабліва буйным памеры) – да 7 гадоў пазбаўленьня волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэньнем суду ад 12 кастрычніка 2011 году ўмовы адбыцьця пакараньня былі зьмененыя на больш жорсткія, Васьковіч быў пераведзены з калёніі №15 у Магілёве ў турму №4 Магілёва. 12 кастрычніка 2014 году яго зноў вярнулі ў калёнію №15 у Магілёве.

**31.01.2015 Палітвязень Ігар Аліневіч** зноў кінуты ў ШЫЗА. Гэта, як мінімум, пятае пакараньне карцэрам за апошнія паўгода, што ён правёў у калёніі "Віцьба". Пра тое, што Ігар Аліневіч зноў знаходзіцца ў ШЫЗА, паведаміла яго маці – Валянціна Аліневіч. Пра афіцыйныя прычыны чарговага пакараньня Ігара Аліневіча нічога не вядома.

**21.02.2015 Валянціна Аліневіч** сустрэлася з **палітвязьнем Ігарам Аліневічам** у калёніі. «У суботу адбылося кароткатэрміновае спатканьне, – паведаміла маці палітвязьня. – Усё, як звычайна. Выехалі зь Менску ўранку, ня ведаючы, дадуць нам з мужам убачыць яго ці не. На гэты раз спатканьне адбылося, але права на перадачу, якая належыць адзін раз у чатыры месяцы, ён пазбаўлены».

«Шмат пытаньняў аб тым, што дзеецца ў сьвеце. Ва ўсім адчуваецца самы сапраўдны інфармацыйны голад. Газэты «Новы Час» і «Свабодныя Навіны» яму не аддаюць, хоць рэдакцыя пастаянна высылала і высылае яму кожны нумар. Большая частка лістоў зь невядомых прычын таксама не даходзіць да Ігара. Асабліва гэта тычыцца ягоных расейскіх сяброў. Тыя лісты, у якіх я пішу аб расейскіх і ўкраінскіх падзеях, таксама не даходзяць. І што ўжо зусім незразумела для мяне – не прапусьцілі камэнтары да Крымінальнага Кодэксу. Хоць у Наваполацкай калёніі ўсю законатворчую літаратуру прапускалі бесьперашкодна», – распавяла Валянціна Аліневіч.

**20.03.2015** Сьледзтва па справе **актывіста «Пляцформы» Міхаіла Жамчужнага**, які знаходзіцца пад вартай у Віцебскім СІЗА, працягнутае да 19 красавіка генэральным пракурорам. Пра гэта Міхаіл паведаміў у лісьце да **Тацьцяны Севярынец**, **каардынатаркі аргкамітэту па стварэньні БХД**.

Спадарыня Тацьцяна лістуецца зь Міхаілам Жамчужным, аднак ня ўсе лісты да яе даходзяць: «У апошнім допісе ад Міхаіла так ён гаворыць: „Няхай не засмучае, што лісты прыходзяць рэдка, бо іх забірае адміністрацыя. Я пра гэта расьпісваюся ў актах". Аднак адкрыты ліст да прэзыдэнта праз „Народную волю" 17.02.2015 усёткі ўдалося адправіць, на 10 аркушах».

Паводле ранейшай інфармацыі, суд над актывістам «Пляцформы» павінен быў распачацца яшчэ ў студзені.

**04.04.2015** У красавіку ў Віцебску можа пачацца працэс над **праваабаронцам**, **вынаходнікам Міхаілам Жамчужным**, якога абвінавачваюць у спробе завалодаць дзяржаўнымі сакрэтамі. Працэс будзе закрыты, напісаў у лісьце на волю Міхаіл Жамчужны.

Паводле сайту «Платформ інавэйшан», Міхаіл Жамчужны ўжо пачаў знаёміцца са сваёй крымінальнай справай і паведаміў з ізалятару некаторыя падрабязнасьці. Вытрымку зь ліста Міхаіла Жамчужнага зачытала журналістам **грамадзкая актывістка Ганна Шапуцька**:

«Ужо тыдзень знаёмлюся са сваёй крымінальнай справай. Скрозь усё сфальшавана і супярэчыць адно аднаму. Паспрабую гэтым скарыстацца на судзе. Законна мяне судзіць немагчыма, але для іх закон не пісаны. У любым выпадку я буду ганарыцца тым, што зрабіў, бо, нягледзячы на ўсё, мне ўдалося дамагчыся сваёй мэты. Паспрабавалі ў мяне ўзяць падпіску аб неразгалошваньні матэрыялаў справы, але я адмовіўся. Тое, што адбываецца, мусяць ведаць людзі. Суд празь месяц-паўтара, хутчэй за ўсё, будзе закрыты. Трымаюся. Апратэставаў у пракуратуры тое, што незаконна забралі ў мяне лісты. Пракуратура адправіла маю скаргу ў Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў, дзе мусяць правесьці расьсьледаваньне. За гэта на мяне наклалі спагнаньне, якое я таксама апратэставаў як перасьлед за крытыку. Учора пры вобшуку ў чаравік падклалі лязо, таму чакаю чарговага спагнаньня. Настрой баявы. Усе зэкі сьмяюцца з гэтай „мышынай важданіны", усяляк мяне падтрымліваюць».

Былы дацэнт Віцебскага тэхналягічнага ўнівэрсытэту, кандыдат навук Міхаіл Жамчужны, паводле сьледзтва, з дапамогай прыладаў, якія сам зрабіў, спрабаваў выведаць дзяржаўныя сакрэты. Пра якія сакрэты гаворка – невядома, бо справа адразу была засакрэчаная. Да праваабаронцаў дайшлі зьвесткі, што першапачаткова разам з Жамчужным у справе фігураваў чалавек, якога Жамчужны, як лічыла сьледзтва, падкупіў праз хабар. Пазьней эпізод аб хабарніцтве са справы Жамчужнага нібыта быў выключаны, але ўдакладніць гэта пакуль не ўдалося. Падрабязнасьці пра справу Міхаіла Жамчужнага праваабаронцы атрымаць ня могуць. З адваката ўзялі падпіску пра неразгалошваньне.

Актывісты грамадзкай ініцыятывы «За волю» заклікаюць прызнаць, што Міхаіла Жамчужнага беларускія ўлады перасьледуюць з палітычных прычын, і дамагацца



Міхаіл Жамчужны

ягонага вызваленьня ці адкрытага суду.

**12.05.2015 Палітвязень Ігар Аліневіч** адбыў 10 сутак у штрафным ізалятары. Пра гэта бацькі палітвязьня даведаліся зь ягонага тэлефанаваньня дамоў.

«Днямі пазваніў і сказаў, што адбыў 10 сутак, першамайскія сьвяты яшчэ быў у ШЫЗА, цяпер выйшаў. Прычыну пакараньня, як заўжды, не назваў. Магчыма, зноў за адмовы ўдзельнічаць у прыбіраньні, але не выключаю і іншых прычын. Яго на Першамай і раней каралі», – паведаміў бацька палітвязьня **Ўладзімер Аліневіч**.

Паводле падлікаў бацькоў Ігара Аліневіча, гэты было пятае за год яго пакараньне карцэрам.

«Раней ён адмаўляўся ўдзельнічаць у прыбіраньні памяшканьняў корпусу, бо гэта было не звычайнае прыбіраньне па чарзе, а выключна адносна некалькіх чалавек такія прызначэньні», – патлумачыў сытуацыю Ўладзімер Аліневіч.

**25.05.2015** Напярэдадні суду над **Міхаілам Жамчужным**, **адным з заснавальнікаў праваабарончай арганізацыі «Пляцформа»**, які знаходзіцца ў віцебскім СІЗА, віцебскі **праваабаронца Леанід Сьвецік** атрымаў ад яго чарговы ліст. Міхаіл паведамляе падрабязнасьці пра маючы адбыцца судовы працэс.

У лісьце паведамляецца, што з пастановы судзьдзі Віцебскага абласнога суду Валянціны Буевай вынікае, што судовы разбор па справе прызначаны на 1 чэрвеня. Працэс павінен распачацца ў памяшканьні Віцебскага абласнога суду ў закрытым паседжаньні. Жамчужны паўстане перад судом аднаасобна, з удзелам абароны.

Міхаіл Ігаравіч паведамляе наступнае: «Усё добра: настрой, здароўе і творчыя пляны. Змагацца, вядома, буду – напоўніцу. Ёсьць за што і за каго. Добра, што адзін. У адзіночку я мацнейшы. Буду, па магчымасьці, трымаць вас у курсе справы».

«Мяркуючы па лісьце і тых словах, якімі ён напісаны, праваабаронцу Жамчужнага не змаглі зламаць доўгае сьледзтва і знаходжаньне ў СІЗА», – распавёў адрасат ліста Леанід Сьвецік.

Сваім калегам – праваабаронцам Міхаіл раіць быць асьцярожнымі і абачлівымі пры выкананьні сваіх грамадзкіх абавязкаў: «Беражыце сябе і людзей. Не паддавайцеся на правакацыі. У іх прыёмы далёкія ад прыстойнасьці. Наша сіла ў розуме і слове. А Волю мы заваюем!»

Віцебскія актывісты праваабарончага руху ўзялі на сябе абавязак сачыць за маючым адбыцца судовым працэсам і інфармаваць грамадзкасьць пра ўсе працэсуаль-

ныя парушэньні, якія будуць заўважаныя падчас суду над Міхаілам Жамчужным.

**01.06.2015** У Віцебску распачаўся суд над заснавальнікам **арганізацыі «Платформ інавэйшан» Міхаілам Жамчужным**. Працэс праходзіць у Віцебскім абласным судзе ў закрытым рэжыме.

Паводле папярэдніх зьвестак, Міхаіла Жамчужнага вінавацяць паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэксу – 376 (часткі 1, 2), 375 (частка 1) і 431 (часткі 1, 2) – у наўмысным раскрыцьці зьвестак, якія ўтрымліваюць службовую таямніцу, незаконным набыцьці (вырабе) сродкаў для непублічнага атрыманьня інфармацыі, якая ўяўляе службовую таямніцу, і ў даваньні хабару.

Што працэс будзе закрыты, было вядома загадзя. Віцебскі **праваабаронца Павал Левінаў**, які яшчэ да пачатку прыйшоў у абласны суд, зафіксаваў працэсуальныя парушэньні.

«Паводле заканадаўчых нормаў, кожны працэс пачынаецца аднолькава: усіх ахвотных запрашаюць у залю, судзьдзя распачынае працу, прадстаўляецца, называе імёны і прозьвішчы ўдзельнікаў працэсу і толькі потым абвяшчае сваё рашэньне – маўляў, працэс будзе закрыты. Я прыйшоў, каб даведацца, хто сакратар на працэсе, хто дзяржаўны абвінаваўца, хто адвакат падсуднага. І, урэшце, як выглядае сам Міхаіл Жамчужны… Аднак я прастаяў пэўны час у фае суду, а ў залю ніхто нікога так і не запрасіў! Пра гэта я напісаў скаргу на імя старшыні абласнога суду. Бо інакш як непаважным стаўленьнем да грамадзян з боку работнікаў суду гэтую сытуацыю не назавеш!» – апавёў Павал Левінаў.

З прыватнага ліставаньня вядома, што Міхаіл Жамчужны адмовіўся супрацоўнічаць са сьледзтвам, спаслаўшыся на артыкул 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які дазваляе грамадзяніну адмовіцца ад любых сьведчаньняў, якія могуць быць выкарыстаныя супраць яго самога.

Арганізацыю «Платформ інавэйшан» Міхаіл Жамчужны заснаваў разам з **Андрэем Бандарэнкам**, і затрымалі спадара Жамчужнага неўзабаве пасьля арышту Бандарэнкі, у жніўні 2014 году. Паколькі ў Віцебску ён ня меў блізкіх сваякоў, пра ягонае апошняе затрыманьне і арышт стала вядома не адразу.

## Факты парушэньняў грамадзянскіх і палітычных правоў

**11.07.2014** Жыхары Віцебску скардзяцца на фэстываль «Славянскі базар» і яго гасьцей. У віцебчукоў адно жаданьне: каб хутчэй «гэтая вакханалія» скончылася.

Чытач сайту *charter97.org* **Артур Артузорын** распавёў пра атмасфэру ў ягоным родным горадзе ў гэтыя дні: «Данялі гэтым мерапрыемствам! У горад ня выйсьці: усюды аўтамабілі абы-дзе калхазаны пакідаюць – і на "зэбры", і на дзіцячых пляцоўках, двары забітыя металаломам. Шкада ім грошай на паркоўку», – піша ён.

«Стаўленьне да прыежджых як да акупантаў. Канцэрты такія, што на «Карлусе» [вул. Карла Маркса] з зачыненымі вокнамі спаць немагчыма. У «Задзьвіньне» не схадзіць, вакол усё застаўлена аўтамабілямі абы-дзе, – піша чытач і дадае, што салюты як на злосьць запускаюць вельмі позна. – Ад салютаў ужо дзеці плачуць. Салюты як знарок заплянаваныя роўна пад 23:00».

Чытач прапануе перанесьці гэты фэст за горад, далей ад цэнтру, бо «якая розьніца, дзе ім нажлукціцца?»: «Хай бы перанесьлі гэтую парнаграфію за горад побач з памыйкай, гарадзкім сьметнішчам. Там бы і бухалі сабе. "Горад майстроў" – нічога новага, таксама трэба пераносіць з цэнтру гораду. А то сябе адчуваеш у горадзе, як на акупаванай фашыстамі тэрыторыі. На дзіцячых пляцоўках алькаголікі, што наехалі, бухаюць. Там жа спаражняюцца – сьвята ж…» – бядуе ён.

**22.07.2014** У Воршы забаранілі пікеты. Заяўкі на правядзеньне пікетаў 27 ліпеня ў гонар прыняцьця дэклярацыі аб незалежнасьці Беларусі падавалі сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

У горадзе мусілі прайсьці тры пікеты – каля Кургану Бесьсьмяротнасьці, каля кавярні "Аронія" і ў парку культуры і адпачынку Тэкстыльшчыкаў. Аднак усе тры заяўкі Аршанскі райвыканкам не задаволіў, бо арганізатары не змаглі далучыць да заявак падпісаныя дамовы зь міліцыяй, хуткай дапамогай і прыбіральшчыкамі.

Ініцыятары ставілі сваёй мэтай актуалізацыю каштоўнасьці незалежнасьці нашай краіны і выказваньне салідарнасьці з украінскім народам у справе захаваньня цэласнасьці сваёй краіны. Ані міліцыя, ані хуткая дапамога дамовы на абслугоўваньне пікетаў у Воршы не падпісваюць ужо на працягу некалькіх гадоў.

**24.07.2014** У рэдакцыю сайту *belnovosti.by* прыйшоў ліст ад жыхаркі Віцебску **Івановай Валянціны Віктараўны**, якая сутыкнулася зь бязьмежжам з боку супрацоўнікаў Дзяржаўтаінспэкцыі. Паводле слоў жанчыны, месяц таму яна атрымала пастанову ДАІ Менску аб прыцягненьні яе да штрафу за перавышэньне хуткасьці на аўтамабілі. Пры гэтым, як піша чытачка, машыны яна ніколі ня мела, і рэгістрацыі нікому не давала.

«Я ў шоку за тое, што адбываецца ў нашай краіне, за тое беззаконьне, зь якім цяжка даць рады: у гэтым выпадку вядзецца пра бязьмежжа ў такіх органах, як ДАІ. Атрымліваю 24 чэрвеня нейкую пастанову аб прыцягненьні мяне да штрафу ў 150 тысяч руб. за перавышэньне хуткасьці на машыне – з ДАІ г. Менску. Машыны ня мела ніколі (беднота), рэгістрацыі ніякай нікому не давала.

Я адразу зьвярнулася ў ДАІ па месцы жыхарства, тут па базе дадзеных знайшлі нейкую рэгістрацыю цёзкі па прозьвішчы: г. Менск, вул. Кіжаватага, д.64-***. Мне

наша ДАІ дае адказ, што… “пастанова №1462896608 прызнаная страціўшай моц”.

Але зь Менску ад УУС Адміністрацыі Кастрычніцкага р-ну за подпісам намесьніка начальніка ўпраўленьня А.Ю. Любимова, В.В. Грыба адказ зноў абсурдны: раней прынятае рашэньне абскарджвайце ў судзе... Цяжка прабіць гэтае бязьмежжа. Як быць?» – піша жанчына.

**24.07.2014** Кіраўніка прафсаюзнай арганізацыі не пускаюць на «Шкловалакно». **Віктар Стукаў**, **кіраўнік суполкі Свабоднага прафсаюзу беларускага**, хацеў наведаць цэхі № 7 і № 12 ААТ «Шкловалакно», каб спраўдзіць скаргі працаўнікоў на ўмовы працы. Але варта было папярэдзіць пра свой візыт генэральнага дырэктара, як уваход на прадпрыемства яму пэрсанальна забаранілі.

Віктар Стукаў: «Проста на прахадную я выклікаў міліцыю па тэлефоне 102. Міліцыянты склалі пратаколы апытаньня абодвух бакоў. Я патэлефанаваў і ў пракуратуру, да таго супрацоўніка, які раней ужо тлумачыў мне мае правы — што я як кіраўнік прафсаюзнай суполкі маю права бесьперашкодна сустракацца з рабочымі. Гэтым разам пракурор параіў пакінуць адпаведны запіс у Кнізе скаргаў і прапановаў. Але і яе не ўдалося адваяваць: начальнік аддзелу прававога забесьпячэньня Васіль Заціpахін загадаў не даваць кнігу скаргаў — маўляў, яна прызначана толькі для водгукаў на якасьць прадукцыі».

Сытуацыю, якая склалася вакол ягонай асобы, Віктар Стукаў лічыць ненармальнай. Ён падаў заяву ў пракуратуру з просьбай прыслаць на «Шкловалакно» пракурорскае прадпісаньне, каб яго, лідэра СПБ, прапускалі на прадпрыемства, як гэта прадугледжана беларускім заканадаўствам. Таксама ён просіць ацаніць з пункту гледжаньня права паводзіны адказных кіраўнікоў, якія спрабуюць забараняць яму сустракацца з працаўнікамі дзеля абароны іхных правоў.

**02.08.2014** У Віцебску 4 жніўня мусіў адбыцца пікет у падтрымку палітвязьняў. Аднак мясцовыя ўлады правядзеньне акцыі забаранілі. Подпіс пад забаронай паставіла намесьніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальля Ляпёшкіна.

«Лічу, што сыстэматычныя адмовы ў правядзеньні масавых мерапрыемстваў з боку улады ёсьць замах на фундамэнтальныя правы і свабоды. Такая палітыка не спрыяе разьвіцьцю грамадзянскай супольнасьці ды зьніжае палітычную актыўнасьць грамадзян», – пракамэнтаваў забарону пікету **яго заяўнік праваабаронца Леанід Сьвецік**.

**04.08.2014** У кнізе заўваг і прапаноў ААТ «Полацак-Шкловалакно» зьявілася скарга на парушэньне адміністрацыяй прадпрыемства ўказу прэзыдэнта. Скарга напісаная 23.07.2014 г. ад імя **старшыні Свабоднага прафсаюзу Віктара Стукава**. Пры гэтым, як сьцьвярджае апошні, 23 ліпеня кнігу яму на рукі ня выдалі, таму ніякага запісу ў ёй ён у той дзень не рабіў.

Пра дзіўны запіс у кнізе заўваг і прапаноў стала вядома з пастановы полацкага РАУС аб спыненьні адміністрацыйнай справы супраць службовай асобы ААТ «Полацак-Шкловалакно», які адмовіўся выдаць кнігу заўваг. У матэрыялах справы ёсьць копія старонкі кнігі, дзе пазначаная дата 23.07.2014 г. і зроблены запіс, што «парушаны ўказ прэзыдэнта аб звароце грамадзян і арганізацыяў», з подпісам


Аляксей Гаўруцікаў

старшыні прафсаюзу.

У пастанове аб спыненьні справы сказана: «З пратаколу апытаньня Зацірахіна В.Д. вынікае, што перашкод заяўніку ў выдачы кнігі заўваг і прапаноў ніхто не чыніў і Стукаў зрабіў запіс у кнізе заўваг і прапаноў 23.07.2014 году». Васіль Зацірахін, згаданы ў пратаколе, зьяўляецца начальнікам аддзелу праававога забесьпячэньня ААТ «Полацак-Шкловалакно».

Паколькі прафсаюзны лідэр 23 ліпеня так і ня здолеў атрымаць кнігу заўваг і прапаноў, значыць, на яго думку, запіс быў кімсьці сфальшаваны. Тым больш, што, як сьцьвярджае Віктар Стукаў, пісаць скаргу ён зьбіраўся зусім не пра парушэньне ўказу прэзыдэнта, а пра парушэньне «Закону аб прафэсійных саюзах» – пра перашкаджэньне службовай асобай наведваньня прадпрыемства прадстаўніком прафсаюзу.

**15.08.2014** Некалькі дзясяткаў жыхароў Віцебску падпісаліся пад калектыўным лістом у Савет Міністраў з просьбай паспрыяць зьмене рашэньня Віцебскага гарвыканкаму №881 "Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску" і ініцыяваць зварот у Канстытуцыйны суд для праверкі адпаведнасьці гэтага дакумэнту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. **Абласны каардынатар руху "За свабоду" Хрыстафор Жаляпаў** атрымаў адказ.

У адказе гаворыцца, што Прэзыдыюм Савету Міністраў прыняў рашэньне не накіроўваць просьбу аўтараў калектыўнага ліста ў Канстытуцыйны суд. Без усялякіх тлумачэньняў, – падкрэсьлівае Хрыстафор Жаляпаў. Актывіст таксама адзначае, што з Саўміну не адказалі на яшчэ адно пытаньне – пра тое, каб у межах сваёй кампэтэнцыі гэты орган самастойна ўнёс зьмены ў рашэньне Віцебскага гарвыканкаму, якое немагчыма выканаць:

"З часу прыняцьця рашэньня гарвыканкаму №881 у 2009 годзе грамадзкім актывістам не далі дазволу ні на адзін пікет, ні на адзін мітынг, ні на адзін сход. Бо мясцовыя ўлады патрабуюць, каб да заявак на акцыі ініцыятары прыкладалі дамовы на абслугоўваньне супрацоўнікамі міліцыі, ЖКГ, а таксама мэдыкамі. Гэтыя структуры ўхіляюцца ад заключэньня дамоваў любымі магчымымі шляхамі. З абласнога ўпраўленьня МУС, як правіла, нам адказваюць, што будуць кіравацца законам аб масавых акцыях, а не рашэньнем гарвыканкаму, які патрабуе папярэдняга заключэньня дамоваў".

**Юрыст Аляксей Гаўруцікаў**, **актывіст аргкамітэту па стварэньні партыі "Народная Грамада"**, удакладняе: "Мы спадзяваліся, што Саўмін унясе карэктывы ў рашэньне гарвыканкаму хаця б дзеля таго, каб прывесьці яго ў адпаведнасьць са сваёй жа пастановай. Існуе адмысловая пастанова наконт узаемаадносін грамадзян з органамі міліцыі. І ў выпадку арганізацыі масавых акцыяў гэтая пастанова

прадугледжвае такі мэханізм: грамадзянін зьвяртаецца да мясцовых уладаў з заяўкай на пікет ці мітынг, і ўжо ўлады зьвязваюцца зь міліцыяй, каб тыя заключылі дамову з арганізатарамі. А ў Віцебску гарвыканкам загадаў грамадзянам зьвяртацца асабіста."

**15.08.2014** Больш за 50 службовых асоб Віцебскай вобласьці прыцягнутыя да адказнасьці за неналежную працу са зваротамі грамадзян, паведаміла старшы памочнік пракурора вобласьці па наглядзе за выкананьнем заканадаўства аб зваротах грамадзян Ірына Таўтын.

У першым паўгодзьдзі 2014 году органы пракуратуры правялі на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях рэгіёну 37 праверак выкананьня заканадаўства аб зваротах грамадзян. Па іх выніках унесена 43 прадстаўленьні, вынесена 14 прадпісаньняў. Да адміністрацыйнай адказнасьці прыцягнутыя 10 службовых асоб, да дысцыплінарнай – 44. Афіцыйныя папярэджаньні пра недапушчальнасьць парушэньняў закону атрымалі 22 кіраўнікі.

У поле зроку пракуратуры пастаянна знаходзяцца пытаньні арганізацыі працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб у абласных, гарадзкіх, раённых выканаўчых камітэтах і іх структурных падразьдзяленьнях. У студзені-чэрвені праверкі праведзеныя ў Новалукомальскім гарвыканкаме, Аршанскім (сумесна з прадстаўніком Камітэту дзяржкантролю Віцебскай вобласьці), Бешанковіцкім, Гарадоцкім, Лепельскім, Полацкім, Пастаўскім, Расонскім, Чашніцкім райвыканкамах, Ушацкім, Слаўнаўскім, Ваўковіцкім сельскіх выканкамах.

Падчас праверкі ўпраўленьня ЖКГ Віцебскага аблвыканкаму выяўленае невыкананьне тэрмінаў разгляду зваротаў, прадугледжаных арт.17 закону "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў". Без правядзеньня праверачных мерапрыемстваў больш за 15 дзён разглядалася скарга наконт пытаньня налічэньня жыльлёвай квоты. Акрамя таго, мелі месца выпадкі няправільнага тлумачэньня парадку абскарджаньня прынятых рашэньняў.

Аналіз нагляднай дзейнасьці сьведчыць, што ня ўсе кіраўнікі суб'ектаў гаспадараньня прымаюць дзейсныя меры па паляпшэньні працы са зваротамі грамадзян, што цягне абгрунтаваны зварот у кантралюючыя органы. Так, выяўленыя сур'ёзныя парушэньні падчас праведзенай пракуратурай Глыбоцкага раёну праверкі па калектыўнай скарзе аб неналежным вырашэньні адміністрацыяй УП ЖКГ Глыбоцкага раёну і райвыканкамам пісьмовых зваротаў. Па выніках праверкі начальнік аддзелу жыльлёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкаму і дырэктар УП ЖКГ прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасьці.

**18.08.2014** Прыхільнікі стварэньня партыі БХД напісалі скаргу ў Міністэрства аховы здароўя наконт "фармальнага і недабрасумленнага выкананьня віцебскімі ўладамі даручэньня Міністэрства аб правядзеньні сустрэчы з зацікаўленымі бакамі наконт пытаньня будаўніцтва паліклінічнага комплексу ў мікрараёне Білева, якая мелася адбыцца 30.07.2014 г.".

**Каардынатар аргакамітэту па стварэньні партыі БХД Тацьцяна Севярынец** абураная: "Нашы актывісты і простыя гараджане сабралі 4108 подпісаў жыхароў мікрараёнаў Білева наконт нявыкананых абяцаньняў пабудаваць паліклінічны


Алена Шабуня

комплекс. Калектыўныя лісты накіравалі ў розныя інстанцыі, у тым ліку і ў Міністэрства аховы здароўя. Атрымалі адказ зь віцебскага гарвыканкаму. Нам адказалі толькі тое, што мы ведалі і дагэтуль: маўляў, распрацаваны архітэктурны праект, ён прайшоў экспэртызу і на яго ўвасабленьне патрабуецца шмат грошай – 5600,0 млн. рублёў. Нам распавялі, што існуе праграма ўмацаваньня матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў аховы здароўя Віцебску і раёну на 2011-2015 гады, у адпаведнасьці зь якой прадугледжанае і фінансаваньне аб'ектаў. Праўда, ніякіх прыкмет будаўніцтва за паўтары гады да завяршэньня дзеяньня той праграмы ніхто ня бачыць… Чаму? Гэтае пытаньне мы і хацелі задаць прадстаўнікам улады, якія, паводле заканадаўства, мусілі арганізаваць сход жыхароў – як гэта робіцца пры ўмове, што калектыўны ліст падпісалі больш як 30 чалавек".

Аднак, як вынікае з адказу гарвыканкаму, такая сустрэча ўжо адбылася, але ініцыятарак збору подпісаў Тацьцяну Севярынец і **Алену Шабуню** на сход, які быццым бы прайшоў у памяшканьні СШ №46, чамусьці не запрасілі.

Тацьцяна Севярынец распавяла, што аб'яў пра сустрэчу не было ні на сайтах гарвыканкаму і гарсавету, ні ў мясцовых газэтах. Многія з тых, хто падпісаў калектыўны ліст, даведаліся пра сход ужо пасьля прызначанай даты, а большасьць зь іх – ня ведалі наогул.

**20.08.2014** Жыхарка Воршы **Тацьцяна Сячко** была затрыманая 12 жніўня падчас распаўсюду ўлётак пра "Народны рэфэрэндум" па паштовых скрынях. Пасьля затрыманьня спадарыню адпусьцілі без складаньня пратаколу, але цяпер, праз тыдзень пасьля затрыманьня, пратакол пра правапарушэньне ўсё ж быў складзены намесьнікам начальніка аддзелу аховы і прафіляктыкі правапарадку Сяргеем Бязьлюдавым. Ён кваліфікаваў дзеяньні актывісткі паводле артыкулу 22.9 КаАП – як парушэньне заканадаўства пра СМІ.

**24.08.2014 Віктар Бугаёў**, былы зьняволены з гораду Дуброўна, не пакідаючы спробаў аспрэчыць прысуд, па якім адбываў пакараньне, спрабуе адшукаць у сваёй крымінальнай справе канцы, якія мясцовыя праваахоўнікі паспрабавалі схаваць так, каб не ўсплыла праўда.

Падчас паўторнага азнаямленьня з крымінальнай справай былы зьняволены пажадаў прагледзець відэакасэту, якая, як сьцьвярджалася ў прысудзе, была прагледжаная ў судовым паседжаньні, высьветлілася, што відэакасэта ў суд ніколі не паступала. Ні са справай, ні іншым чынам. Так выйшла, што судзьдзя пра гэта сказала пры ўключанай функцыі запісу на тэлефоне Віктара Бугаёва. Таму ён быў вымушаны азадачыць Сьледчы камітэт новай праблемай – ці няма ў гэтай сытуацыі

прыкметаў крымінальнага злачынства.

У прысудзе суду выснова пра вінаватасьць Віктара Бугаёва заснаваная, у тым ліку, на паказаньнях сьведкі Д. Серады. Аднак у судовае паседжаньне апошні не зьяўляўся, таму суд толькі аб'яўляў яго паказаньні. Допыт названага сьведкі на дасудовай стадыі вытворчасьці па справе ажыцьцяўляўся сьледчым з выкарыстаньнем відэазапісу.

Як высьветлілася, відэакасеты з запісам допыту, якая ў суд не паступала, таксама няма і ў "пераемніка" сьледчага аддзелу РАУС – у Дубровенскім раённым аддзеле Сьледчага камітэту. А паколькі Дубровенскі РАСК пачаў сваю дзейнасьць з 01.01.2012 году, то і спытаць зь яго, як лічыць А. Цімошчанка, які часова выконвае абавязкі начальніка Дубровенскага РАСК, няма чаго. Выконваючы абавязкі начальніка аддзелу па працы з грамадзянамі Сьледчага камітэту В. Жукоўскі клапатліва прапанаваў былому вязьню зьвярнуцца з адпаведным зваротам у орган крымінальнага перасьледу, які вёў папярэдняе расьсьледаваньне па справе. Вось толькі гэты орган – сьледчы Дубровенскага РАУС, завяршыў сваю дзейнасьць тады ж, калі замест міліцыі расьсьледаваньне стаў ажыцьцяўляць Сьледчы камітэт.

Пры гэтым якойсьці падставы для правядзеньня праверкі Сьледчы камітэт ня бачыць. Быў запіс, які па правілах артыкулаў 193 і 219 КПК Рэспублікі Беларусь належала захоўваць пры крымінальнай справе і па заканчэньні папярэдняга расьсьледаваньня апячатаць, – і зьнік. А справы да гэтага нікому няма.

Суд пра гэта таксама не турбуецца – ён гэтай відэакасэты не атрымліваў. Судзьдзя, выходзіць, абвясьціў паказаньні сьведкі і не занепакоіўся адсутнасьцю відэазапісу. Больш таго, В. Бугаёў вырашыў зрабіць копію крымінальнай справы, і высьветлілася, што там не хапае аркушаў.

Пасьля аркушу 306 адразу ідзе 311. Нескладаны аналіз прыводзіць да высновы аб тым, што зьнікла як мінімум касацыйная скарга абаронцы-адваката.

Таксама раней згадвалася сытуацыя, калі выконваючы абавязкі начальніка РАУС Станіслаў Сьцепанькоў накіраваў у ПК-17, дзе адбываў пакараньне В. Бугаёў, інфармацыю, якая не адпавядае рэчаіснасьці. Гэты эпізод зноў стаў прадметам праверкі па заяве былога зьняволенага, па выніках якой у ліпені 2014 году начальнік УСК па Віцебскай вобласьці В. Шалухін паведаміў, што па выніках праверкі ад 10.11.2011 г., праведзенай ГУУБ МУС, парушэньняў у дзеяньнях С. Сьцепанькова ня выяўлена.

Але вось цытата з гэтага заключэньня: «У названай інфармацыі сапраўды ўтрымліваецца некарэктнае выказваньне ў частцы вашай прыналежнасьці да арганізаванай злачыннай групы… Разам з тым, ставіць пытаньне аб прыцягненьні Сьцепанькова С. С. да дысцыплінарнай адказнасьці ў цяперашні час немэтазгодна з прычыны заканчэньня адпаведных тэрмінаў…».

Дарэчы, сам С. Сьцепанькоў сьцьвярджаў, што накіраваў у калёнію толькі тыя зьвесткі, якім разьмяшчаў Дубровенскі РАУС. Але ў матэрыялах крымінальнай справы ёсьць характарыстыка В. Бугаёва, якую ў 2008 годзе склаў начальнік ААПП Дубровенскага РАУС, згодна зь якой той жыве зь сям'ёй, зарэгістраваны ў якасьці індывідуальнага прадпрымальніка, апошні раз прыцягваўся да адміністр-

рацыйнай адказнасьці за два гады да гэтага (у 2006 годзе) за рэалізацыю адной пляшкі гарэлкі вытворчасьці РФ. Тады незразумела, адкуль узяў дадзеныя пра злачынныя пляны і намеры Бугаёва Станіслаў Сьцепанькоў.

**28.08.2014** У Віцебску забаранілі пікет да 60-годзьдзя Лукашэнкі. Заяўку на акцыю ў адміністрацыю Кастрычніцкага раёну падаваў **доктар Ігар Пастноў**. Ён паспрабаваў выканаць усе патрабаваньні, рэглямэнтаваныя рашэньнем гарвыканкаму "Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску", але дазволу так і не атрымаў.

У лісьце з Кастрычніцкай раённай адміністрацыі напісана, што патрабаваньні рашэньня гарвыканкаму №881 заяўнік выканаў ня ў поўным аб'ёме. Паводле Ігара Пастнова, ён зрабіў усё, што ад яго патрабавалася. Падаў заяўку на акцыю, але сутыкнуўся з даўняй праблемай арганізатараў масавых мерапрыемстваў – неадпаведнасьцю патрабаваньняў выканкаму рэальнай сытуацыі.

Ігар Пастноў: "Заяўнік мусіць прадставіць раённай адміністрацыі дамовы на абслугоўваньне пікету супрацоўнікамі ЖКГ, гарадзкой паліклінікай і міліцыяй. Я зьвярнуўся ва ўсе гэтыя структуры па дамовы, але станоўчы адказ атрымаў толькі ад камунальнікаў: прадпрыемства "Зелянгас", якое займаецца прыборкай гарадзкой тэрыторыі, заключыла са мной дамову".

"З паліклінікі мне адказалі дзіўна – што не займаюцца арганізацыяй масавых мерапрыемстваў, хаця я і не прасіў іх нічога арганізоўваць. Мне параілі зьвярнуцца ў раённую адміністрацыю – маўляў, акцыямі займаюцца яны. Накіравалі зноў туды, куды я і мусіў прадставіць дамову. Зь міліцыі адказалі яшчэ больш дзіўна: напісалі, што ахова правапарадку ў любой якасьці займаюцца без усялякіх дамоў, бо гэта прафэсійны абавязак міліцыянтаў. Такім чынам, з паліклінікай і міліцыяй, якія згаданыя ў рашэньні выканкаму як другі бок, зь якім трэба заключыць дамовы, супрацоўніцтва не атрымалася. Але – не па маёй віне, я зрабіў усё, што прапісана ў рашэньні аб арганізацыі масавых мерапрыемстваў", – распавёў Ігар Пастноў.

Ён зьбіраўся 30 жніўня або ў найбліжэйшы пасьля гэтай даты выходны дзень правесьці аднаасобную акцыю – выйсьці з плякатам "Дзякуй Бацьку за наша шчасьлівае жыцьцё!". Апрача гэтага, на плякаце ён хацеў разьмясьціць фотаздымак свайго разьлікловага квітка з сумай заробку, а таксама фотаздымкі палат у віцебскіх шпіталях.

Гэтая ідэя, відавочна, не магла быць упадабанай раённай адміністрацыяй. Але забаранілі акцыю не з ідэалягічных, а з фармальных прычын. З тых самых, што апошнімі гадамі пэрыядычна пералічваюцца ў забаронах іншым віцебскім актывістам, – на падставе адсутнасьці дамоў з мэдыкамі, міліцыяй і камунальнікамі.

**30.08.2014 Старшыня першаснай арганізацыі СПБ «Шкловалакна» Віктар Стукаў** падаў у абласны суд скаргу на вызначэньне Полацкага гарадзкога суду, які 18 жніўня адмовіўся разглядаць справу аб дыскрымінацыі па прыкмеце членства ў адным або іншым прафсаюзе.

Прафсаюзная пяршоўка ААТ «Полацак-Шкловалакно» ўжо працяглы час змагаецца супраць дыскрымінацыйнага палажэньня ў калектыўнай дамове. На думку сяброў Свабоднага прафсаюзу, такім дыскрымінацыйным палажэньнем зьяўля-


Мікола Купава



ецца пункт калдамовы, згодна зь якім для таго, каб звольніць з прадпрыемства сябра праўладнага «Белхімпрафсаюзу», неабходная згода прафсаюзу, а для звальненьня сябра Свабоднага прафсаюзу ніякай згоды не патрабуецца – дастаткова толькі паведаміць прафсаюзу пра прынятае рашэньне аб звальненьні работніка.

Суды – пачынаючы з гарадзкога і аж да Вярхоўнага і Канстытуцыйнага – ня раз адмаўляліся прызнаць факт дыскрымінацыі. 18 жніўня у Полацкім гарадзкім судзе адбыўся разгляд чарговага пазову старшыні прафсаюзнай пяршоўкі супраць ААТ «Полацак-Шкловалакно» – па наноў адкрытых абставінах: больш як год таму Полацкі суд адмовіўся разглядаць па сутнасьці аналягічную справу і парэкамэндаваў Стукаву для ліквідацыі дыскрымінацыі зьвярнуцца ў «Белхімпрафсаюз».

Рэкамэндацыя суду была выкананая, але без станоўчага выніку. А тым часам з 1 жніўня бягучага году ўступіла ў сілу новая калектыўная дамова, у якой дыскрымінацыйны пункт захаваўся на сваім месцы. Згаданыя акалічнасьці і сталіся нагодай, каб зноў зьвярнуцца ў суд «па наноў адкрытых абставінах». Аднак суд Полацку застаўся на сваіх ранейшых пазыцыях і вынес вызначэньне: «Адмовіць Стукаву Віктару Якаўлевічу ў пераглядзе па наноў адкрытых абставінах вызначэньня суду Полацкага раёну і г. Полацку ад 19 сакавіка 2013 году».

«Хаця працоўны кодэкс канкрэтна дае дазвол работніку зьвярнуцца ў суд, калі ён лічыць, што падвергнуўся дыскрымінацыі, тым ня менш ужо больш як паўтара году Полацкі суд і ўсе суды, якія мы прайшлі, адмаўляюцца разгледзець факт дыскрымінацыі на ААТ “Полацак-Шкловалакно”», – наракае Віктар Стукаў.

**01.09.2014** Аршанскі райвыканкам забараніў правядзеньне 6 верасьня на Крапівенскім полі фэсту і канцэрту. Пра гэта гаворыцца ў афіцыйным адказе з Аршанскага райвыканкаму, які атрымаў **намесьнік старшыні аргкамітэту па сьвяткаваньні 500-годзьдзя бітвы пад Воршай мастак Мікола Купава**. Паводле Купавы, адмова грунтуецца нібыта на няправільна афармленай заяўцы, бо не былі пазначаныя крыніцы фінансаваньня імпрэзы, таксама ня ўключанае забесьпячэньне «хуткай дапамогі».

Спадар Купава пракамэнтаваў гэта наступным чынам: «Калі мы дасылалі заяўку, вялікай надзеі на станоўчы адказ і не было. Але калі б аршанскія ўлады захацелі абысьціся з намі па-людзку і па-людзку ставіліся да беларускай гісторыі, яны напісалі б нам, што яшчэ трэба зрабіць, каб атрымаць дазвол. Аднак яны вырашылі інакш: пасьля нашага звароту да іх прайшоў амаль месяц, яны маўчалі, а за 5 дзён да мерапрыемства даслалі ліст з забаронай».

Паводле рашэньня аргкамітэту, ва ўрачыстых імпрэзах на Крапівенскім полі, дзе

8 верасьня 1514 году адбылася бітва, гатовыя ўзяць удзел некалькі соцень чалавек, у тым ліку запрошаныя прадстаўнікі замежных амбасадаў. На 6 верасьня запланаваныя набажэнства, экскурсія па Воршы і паездка на Крапівенскае поле. На тым месцы, дзе войска ВКЛ 500 гадоў таму перамагло ўтрая большае войска Маскоўскага княства, мела адбыцца ўскладаньне кветак да памятнага знаку, усталяванага дэмакратычнымі актывістамі, урачыстая частка і канцэрт.

**21.09.2014** Мясцовыя ўлады Віцебску забаранілі пікеты ў падтрымку Ўкраіны. **Сябры Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў**, **Алег Емяльянаў** і **Пятро Сарапеня** падавалі заяўкі на акцыі ў трох раёнах Віцебску. І з ўсіх трох раённых адміністрацыяў атрымалі адмовы.

Ян Дзяржаўцаў: “Пікеты мусілі прайсьці з 22 па 24 верасьня ў месцах, адмыслова вызначаных уладамі для правядзеньня масавых акцыяў. Нам адмовілі на падставе таго, што мы не заключылі дамоваў на абслугоўваньне акцыяў з ЖКГ, мэдыкамі цэнтральнай гарадзкой паліклінікі і міліцыяй. Гэтых дамоў ад нас патрабуюць у адпаведнасьці з рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму. Аднак рашэньне гэтае невыканальнае – мэдыкі і міліцыя яшчэ ні разу не пагадзіліся заключыць з намі дамовы. Таму гэтым разам мы вырашылі да іх не зьвяртацца”.

**25.09.2014** Сьледчым камітэтам Рэспублікі Беларусь узбуджаная крымінальная справа па факце гібелі рабочых ААТ «Белэнэргарамналадка» падчас вытворчасьці рамонтных работ на Наваполацкай ЦЭЦ. Сьледчымі праведзены шэраг аглядаў на прадпрыемстве. У цяперашні час ажыцьцяўляецца выманьне дакумэнтацыі, вядуцца допыты спэцыялістаў ЦЭЦ. Прызначаныя экспэртныя дасьледаваньні. Сьледчая група працягвае працу на месцы.

“Сёньня днём пры ажыцьцяўленьні падрадных работ арганізацыяй “Белэнэргарамналадка” адбылося надзвычайнае здарэньне – выкід пары – у выніку якога два работнікі, якія рабілі працы, загінулі, – паведаміў першы намесьнік начальніка ГСУ СК РБ Васіль Галь. – Па гэтым факце СК узбуджаная крымінальная справа паводле ч. 3 арт. 306 КК РБ (Парушэньне правілаў аховы працы, што пацягнула па неасьцярожнасьці сьмерць двух або больш асоб). Праводзіцца комплекс сьледчых і іншых працэсуальных дзеяньняў, накіраваных на выяўленьне прычын і іншых абставінаў надзвычайнага здарэньня”.

**02.10.2014** Віцебскія пэдагогі выказваюць незадаволенасьць тым, што раённыя аддзелы адукацыі абавязваюць іх і вучняў выкупляць квіткі на хатнія матчы мясцовага футбольнага клюбу.

Настаўнікі адной са школ Першамайскага раёну Віцебску даслалі ў рэдакцыю *tut.by* копію дакумэнту, які паступіў з раённага аддзелу адукацыі, спорту і турызму (РАА).

“На падставе ліста аддзелу адукацыі, спорту і турызму Віцебскага гарвыканкаму “Аб футбольным матчы” запрашаюцца навучэнцы на футбольны матч паміж камандамі ФК “Віцебск” і ФК “Ліда”, які адбудзецца ў ДУ “ЦСК “Віцебск” 27 верасьня 2014 году а 15:00”, – гаворыцца ў пасланьні з РАА.

Чытаецца як запрашэньне, але ўжо ў другім абзацы тон становіцца дырэктыўным: “прыбыць к 14:30…”, “даць справаздачу аб колькасьці набытых квіткоў…”.

Да дакумэнту прыкладаецца разнарадка, якая вызначае, колькі футбольных заўзятараў павінна “прыцягнуць” на стадыён тая ці іншая ўстанова адукацыі. Да прыкладу, у Першамайскім раёне больш за ўсё квіткоў павінна была выкупіць СШ № 46 – 190 (155 дзіцячых па 10 000 рублёў і 35 дарослых – па 20 000 рублёў).

Настаўнікі сьцьвярджаюць, што адмовіцца ад “прапановы” купіць білет на футбольны матч яны ня могуць. Маўляў, пасьля адмовы могуць узьнікнуць негалосныя санкцыі з боку адміністрацыі: “Тады на наступны год не дадуць гадзін, і ты застанесься бяз працы”.

Многія пэдагогі проста выкупляюць квіткі, але на футбол не ідуць. Таксама робяць і некаторыя школьнікі. Самыя прадпрымальныя зь іх перапрадаюць свае “дзіцячыя” квіткі ля ўваходу ў ЦСК дарослым заўзятарам за 15 тыс. рублёў, зьдзяйсьняючы, магчыма, сваю першую ў жыцьці выгадную зьдзелку.

Старшаклясьніца адной зь віцебскіх школ прызналася, што за куплю квітка на футбольны матч фізрук паставіў ёй у журнал адразу дзьве “дзясяткі” па сваім прадмеце. Чаму бы і не схадзіць?

Настаўнікі б’юць трывогу і кажуць, што справа ня толькі ў футболе: апошнім часам яны і дзеці “сталі затычкай у кожнай бочцы”. Менавіта такую мэтафару ўжыў адзін зь віцебскіх пэдагогаў, які на ўмовах ананімнасьці распавёў пра вымушаныя паходы на футбол, хакей і шансон:

“Мала таго, што ўвесь час трэба купляць нейкія лятарэі, здаваць грошы ў розныя фонды, ладзіць акцыі па зборы макулятуры, – гэта яшчэ зразумець можна. Але ж мы яшчэ і на хакей ходзім! Штотыдзень – то хакей, то футбол! І справа ня толькі ў грошах, а ў часе: у вольны час ходзім – увечары ў выходныя. Самы апошні маразм быў на мінулым тыдні: школьнікаў пачалі заганяць на канцэрт шансону ў ЦСК. На шансон! Гэта ўжо занадта! Да таго ж было вельмі халодна. Прычым без варыянтаў: прыходзіць, да прыкладу, на школу 50 або 100 квіткоў, і трэба іх выкупіць. Гэта нават ніхто не абмяркоўвае. Клясныя кіраўнікі наогул без выходных працуюць. Бо выдаткі і так вялікія – сабраць грошы ў фонд клясы, на падпіску, падручнікі, рамонты. А тут яшчэ і квіткі на матчы купі. І настаўнікам гэта рэальна абрыдла.

Склалася ўражаньне, што школа ператварылася ў нейкі безадмоўны рэсурс. Мы ствараем масоўку на плошчы падчас сьвятаў. Прыходзіць разнарадка “прывесьці 50 чалавек” – і пайшлі. А куды дзенесься? Апошні раз рабілі масоўку на сьвята мікрараёну ў пойме ракі Віцьба.

Зразумейце правільна: гэта няблага, і настаўнікі да гэтага ставяцца станоўча, калі гэта адбываецца раз-два на месяц. Схадзіць на добры матч, канцэрт, падзея – гэта як сьвята. Але штотыдзень – гэта ўжо перабор”.

**09.10.2014** У Віцебскай друкарні адмовіліся рабіць сшыткі з патрыятычнымі вокладкамі. Раней такога не было, кажа **прыватны прадпрымальнік Уладзімер Рамановіч**, які выпускае сшыткі, альбомы для маляваньня і магніты на лядоўні зь беларускамоўнымі надпісамі.

Паводле Ўладзімера Рамановіча, ён замовіў партыю сшыткаў, дзе на вокладках



Уладзімер Рамановіч

меліся быць згадкі пра Аршанскую бітву і надпіс «Будзь беларусам, будзь пераможцам» з выявай Пагоні:

«Гэта ня першая мая замова ў Віцебскай друкарні. Але сёньня мне патэлефанаваў супрацоўнік і сказаў, што ёсьць праблема са сшыткамі. Я паехаў, каб разабрацца. У габінэце быў і намесьнік дырэктара друкарні — на жаль, я не спытаў ягонага прозьвішча. Размова паміж намі адбылася такая: ён спытаўся, ці ёсьць у мяне дзеці, і сказаў, што ў яго таксама ёсьць. Таму, маўляў, ён ня хоча праблемаў. Бо ў нас саюз з Расеяй, а што такое ВКЛ, ён ня ведае, і ўсё гэта да беларускай гісторыі ня мае дачыненьня. І што ён ня хоча, каб склалася „сытуацыя“ — а якая канкрэтна, не патлумачыў. Сказаў, што раіць мне друкаваць сшыткі ў Смаленску».

Уладзімеру Рамановічу таксама шматзначна сказалі: «Нам тэлефанавалі адтуль». Каб высьветліць, адкуль тэлефанавалі і ці быў які тэлефонны званок наогул, Уладзімер Рамановіч сам пайшоў у ідэалягічны аддзел аблвыканкаму:

«Там зьдзівіліся. Паводле майго ўражаньня, адтуль ніхто ўказаньняў у друкарню не даваў. Аднак сказалі, што ўплываць на кіраўніцтва прадпрыемства ня могуць, што яно само мае права вырашаць, што друкаваць, а што не. Параілі хіба крыху зьмяніць дызайн — можа, нейкі іншы варыянт друкарню і задаволіць».

Тое, што здарылася ў друкарні, прадпрымальнік лічыць непаразуменьнем і залішняй перастрахоўкай намесьніка дырэктара ад няведама якой небясьпекі. Інтэрнэт-крама *Belarusam.by* ужо працяглы час прапануе розныя канцылярскія тавары зь беларускамоўнымі надпісамі і беларускай сымболікай, і дагэтуль нічога падобнага не здаралася.

**16.10.2014 Сябру КХП БНФ Яну Дзяржаўцаву** зноў адмовілі ў правядзеньні двух пікетаў салідарнасьці з Украінай. Гэта ўжо другая забарона акцыяў аднолькавай тэматыкі.

“17 кастрычніка мы плянавалі акцыю салідарнасьці з Украінай у парку Мазурына, 20 кастрычніка – у Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Адміністрацыі Чыгуначнага і Кастрычніцкага раёнаў, куды мы зьвярталіся, дазволаў не далі. Мэтай меркаваных акцыяў было публічнае асуджэньне агрэсіі Расеі ў дачыненьні да незалежнай сувэрэннай Украіны. Аднак і ня гэта самае істотнае: забароны акцыяў, чаму б яны ні былі прысьвечаныя, працягваюцца ў Віцебску ўжо пяты год. І пяты год, згодна з рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму №881, парушаюцца нашы грамадзянскія правы”.

**28.10.2014 Віцебскі абласны кіраўнік партыі БНФ Леанід Аўтухоў** зьвярнуўся ў

Камітэт дзяржкантролю з заявай аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці шэрагу службовых асоб. На думку Аўтухова, начальнік Гарадоцкага аддзелу занятасьці Галіна Сталярова і начальнік Гарадоцкага вузла паштовай сувязі Людміла Камякова парушылі яго правы і законныя інтарэсы, даўшы яму наўмысна скажоную інфармацыю.

Леанід Аўтухоў зьвярнуўся ў дзяржкантроль пасьля таго, як няўдала паспрабаваў скарыстацца з паслугаў службы занятасьці. Хаця напачатку пэрспэктывы працаўладкавацца праз гэтую службу выглядалі аптымістычна: зьвярнуўшыся туды, Аўтухоў атрымаў накіраваньне на працу ў якасьці кіроўцы аўтамабіля на пошту. Таксама яму было выдадзенае накіраваньне на мэдычны агляд.

«Усе неабходныя працэдуры па згаданых накіраваньнях я добрасумленна выканаў. Пры гэтым аплаціў праезд і змарнаваў асабісты час. Насамрэч высьветлілася, што вышэйназваная вакансія адсутнічае», – распавёў Леанід Аўтухоў.

«Мяркую, што службовая асоба Сталярова Г.Л. наўмысна дала мне скажоную інфармацыю пра наяўнасьць у Гарадоцкім раённым вузьле паштовай сувязі ўнітарнага прадпрыемства “Віцебскаблпошта” вакансіі кіроўцы аўтамабіля, – напісаў ён у Камітэт дзяржкантролю. – Таксама мяркую, што службовая асоба Камякова Л.М. Наўмысна дала мне скажоную інфармацыю пра адсутнасьць вакансіі. Сваімі дзеяньнямі Сталярова Г.Л. і Камякова Л.М. парушылі мае правы, у прыватнасьці права на працу і працаўладкаваньне з дапамогай дзяржавы, якія гарантаваныя мне артыкулам 41 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і іншымі дзейнымі законамі краіны».

Паводле лёгікі партыйнага актывіста, прынамсі адна зь дзьвюх начальніц, наконт якіх ён зьвярнуўся ў КДК, падманула яго, чым парушыла адміністрацыйны кодэкс. Бо адна сьцьвярджала, што ёсьць вакансія, а другая – што гэтай вакансіі няма. Таму кагосьці зь іх трэба было прыцягнуць да адказнасьці. Аднак у Камітэце дзяржаўнага кантролю Віцебскай вобласьці палічылі па-іншаму.

Першы намесьнік старшыні камітэту Вадзім Заранкін паведаміў Аўтухову, што падставы для пачатку адміністрацыйнага працэсу адсутнічаюць: «Ня выяўлена доказаў, якія сьведчаць пра незаконнасьць дзеяньняў названых службовых асоб, а таксама пра наяўнасьць намеру ў скажэньні інфармацыі».

«Таксама інфармуем пра тое, што згодна з артыкулам 9.6 КаАП прыцягненьне службовай асобы да адміністрацыйнай адказнасьці магчымае ў выпадку адсутнасьці ў яго дзеяньнях складу злачынства. Такім чынам, пытаньне аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці паводле артыкулу 9.6 КаАП можа разглядацца толькі пры наяўнасьці пастановы органу крымінальнага перасьледу аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы паводле артыкулу 204 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь», – дадаў намесьнік старшыні Камітэту дзяржаўнага кантролю Віцебскай вобласьці.

Вось жа, як вынікае з паперы, атрыманай з КДК, скажэньне інфармацыі чыноўнікамі сапраўды мела месца. Але пры гэтым быццам бы ніхто не вінаваты.

**05.11.2014** Чарговую забарону ладзіць пікет атрымалі ад мясцовых уладаў **сябры**


Пятро Сарапеня

Dyjalog.info

**Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў** і **Пятро Сарапеня**. Прычына забароны – традыцыйная для Віцебску: адсутнасьць у заяўнікаў акцыі дамоваў зь лекарамі, дворнікамі і міліцыянтамі. Пікет мусіў адбыцца 7 лістапада.

Мэта забароненай акцыі, паводле заяўкі (цытата): «Інфармаваць грамадзян г. Віцебску аб наступствах контррэвалюцыйнага кастрычніцкага перавароту, зьдзейсьненага міжнароднай фашысцкай тэрарыстычнай арганізацыяй РСДРП-ВКП(б)-КПСС на чале зь нямецкім агентам, першым фашыстам у сьвеце Ўладзімерам Леніным (Л.Д. Ландаў) і аб неабходнасьці забароны ў Беларусі кампартыі і яе ідэалёгіі».

**06.11.2014** Полацкі райвыканкам зь лютага 2014 году не рэгіструе грамадзкую арганізацыю «Таварыства абароны спажыўцоў». Апошні раз адмова ў рэгістрацыі грунтавалася дрэнным санітарным станам арандаванага памяшканьня. Ранейшае памяшканьне грамадзтва было адабранае КУП ЖКГ Полацкау з-за штучна створанай запазычанасьці платы за арэнду.

Праблемы ў пакупнікоў пачаліся пасьля ўнясеньня зьменаў у заканадаўства, у выніку якіх таварыства абароны спажыўцоў (ТАС) засталося безь дзяржаўнай падтрымкі. У Полацкае аддзяленьне ТАС за год зьвярнулася больш за сто пакупнікоў па абарону ад нядобрасумленных вытворцаў і гандляроў. Юрысты таварыства працавалі часта бязвыплатна, аказваючы дапамогу пакупнікам па прадстаўленьні іх інтарэсаў, напісаньні пазоваў у суды і кансультацыі праз тэлефон. Але ўведзеная плата за арэнду памяшканьня стала непад'ёмнай для абаронцаў спажыўцоў.

Раней Полацкае ТАС дзяліла арэндную плату з партыяй камуністаў, потым арандавала самастойна. З-за праблемы спагнаньня даўгоў з парушальнікаў правоў пакупнікоў у таварыства ўтварылася запазычанасьць за арэнду памяшканьня перад КУП ЖКГ. Далей плацяжы за арэнду камунальнікі залічвалі як пеню за несвоечасовую аплату.

Каб неяк вырашыць праблему арэнды таварыства прапанавала ЖКГ зьмяніць дамову і зрабіць сумесную арэнду зь іншай арганізацыяй, але камунальнікі не пагадзіліся. У лютым 2013 году ТАС выселілі з памяшканьня праз суд. Дарэчы, гэтае памяшканьне ўжо 8 месяцаў пустуе і не прыносіць прыбытку ЖКГ, што сьведчыць пра безгаспадарлівае распараджэньне дзяржаўнай, народнай уласнасьцю.

Рэспубліканскае таварыства абароны спажыўцоў вырашыла ў лютым ліквідаваць полацкае аддзяленьне з-за запазычанасьці і адначасова стварыць і зарэгістраваць новае. Было арандаванае невялічкае памяшканьне з маленькай арэнднай платай і пададзеныя дакумэнты на рэгістрацыю. Але Полацкі райвыканкам адмовіўся рэгістраваць ТАС, спасылаючыся на дрэнныя санітарныя ўмовы арандаванага па-


Яўген Валошын

мяшканьня.

**24.11.2014** У Полацку міліцыя затрымала **актывіста Андрэя Гайдукова**, які раздаваў мінакам улёткі пра палітвязьняў. Разам з Андрэем Гайдуковым быў затрыманы **Антон Паўлаў**, які фатаграфаваў акцыю. Абодвух адвезьлі ў міліцыю і прымусілі выдаліць усе здымкі. На Андрэя Гайдукова ў пастарунку склалі пратакол пра правапарушэньне паводле артыкулу 23.34 КаАП. Яго вінавацяць у "правядзеньні несанкцыянаванага пікету з раздачай улётак".

**26.11.2014** У Віцебску гарадзкія ўлады адмовілі ў правядзеньні пікету 30 лістапада «За якасную мэдыцыну» ў горадзе. Заяўку 12 лістапада ў межах кампаніі «Народны кантроль» падалі прадстаўнікі «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі». Афіцыйная прычына адмовы – адсутнасьць дамоваў з камунальнымі, мэдычнымі і праваахоўнымі службамі па забесьпячэньні прыборкі і аховы пікету.

Аднак, адзначае **каардынатарка аргкамітэту БХД Тацьцяна Севярынец**, без дазволу на правядзеньне пікету камунальнікі, мэдыкі і міліцыянты адмаўляюцца падпісваць якія-кольвек дамовы.

**27.11.2014 Лідэр гурта HandmadE Яўген Валошын** сутыкнуўся з адмовай, калі прапанаваў да ратацыі на радыё «Віцебск» сваю новую песьню «Нямое кіно». Музычны рэдактар радыёстанцыі Дар'я Пацехіна, атрымаўшы аўдыёфайл, адразу папярэдзіла ў карэктнай форме, што творы на беларускай мове яны не ратуюць.

«Не хачу, каб гэта выглядала на скаргу, бо дзяўчына з радыё з увагаю паставілася да майго звароту, паслухала, адказала. Проста такая сытуацыя склалася канкрэтна ў Віцебску, я думаю. Даюць свае вынікі помнікі прарасейскім дзеячам. Ды яшчэ, можа, недагляд мясцовага аддзелу культуры, які курыруе гэтае радыё», — пракамэнтаваў гэты выпадак лідэр HandmadE.

Песьні гэтага гурта ратуюцца на іншых беларускіх дзяржаўных радыёстанцыях, у прыватнасьці на радыё «Гродна», «Мінская хваля», радыё «Сталіца». Гурт таксама пастаянна запрашае на здымкі тэлеканал АНТ.

**27.11.2014** Перад футбольным матчам паміж клюбамі "Ворша" і "Крумкачы", які адбыўся ў Воршы, мясцовыя фанаты групай прайшлі ад будынку езуіцкага калегіюму да стадыёну. Яны несьлі банэр і палілі фаеры. Пасьля таго, як інфармацыя пра шэсьце зьявілася ў СМІ, міліцыя ацаніла яго як несанкцыяванае шэсьце з элемэнтамі палітыкі.

Аршанская міліцыя пачала шукаць удзельнікаў акцыі з дапамогай фатаграфіяў на сайтах і ў сацыяльных сетках, а таксама з дапамогай вулічных камэр назіраньня і


Алена Валынец-Чарняева

запісаў са стадыёну.

У аўторак 18 лістапада ў горадзе пачалася аблава на фанатаў. Моладзь выклікалі да ўчастковых, забіралі з вучобы і працы, з дамоў. Фанаты кажуць, што часам з дамоў іх забіралі амапаўцы, хаця маладыя людзі не зьбіраліся супраціўляцца. За першы дзень аблавы, паводле слоў відавочцаў, было затрымана каля 20-25 чалавек. Сярод іх былі і тыя, хто ня меў дачыненьня да шэсьця.

19 лістапада аблава працягнулася, гэтым разам затрымоўвалі пераважна паўнагадовых фанатаў футбольнай каманды. Непаўнагадовым давалі падпісваць пратаколы тлумачэньня і адпускалі, на паўнагадовых складалі пратаколы за ўдзел і арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця. Суд аштрафаваў за акцыю трох чалавек.

Міліцыя дагэтуль працягвае шукаць фанатаў, якія ўдзельнічалі ў шэсьці.

**28.11.2014** Полацкія ўлады праігнаравалі котку ў плавільнай печы. Справа тычылася інцыдэнту на ААТ «Полацак-Шкловалакно»: актывісты хацелі атрымаць ад уладаў абгрунтаваны адказ, ці насамрэч на загад кіраўніцтва аднаго з цэхаў у плавільнай печы жыўцом спалілі котку з кацянятамі.

Пра такі выпадак работнікі прадпрыемства распавялі **старшыню суполкі Свабоднага прафсаюзу Беларускага Віктару Стукаву**. Той накіраваў афіцыйны запыт генэральнаму дырэктару Мікалаю Качаноўскаму, а таксама далучыўся да кампаніі электронных зваротаў, якую ініцыявала **Алена Валынец-Чарняева**, **кіраўніца грамадзянскай кампаніі «Не — жорсткаму абыходжаньню з жывёламі»**.

Паводле яе словаў, электронныя звароты адпраўляліся праз інтэрнэтны сэрвіс *zvarot.by* адразу ў дзьве інстанцыі — у Полацкі райвыканкам і ў Полацкую гарадзкую пракуратуру:

«Адказы павінны былі прыходзіць да кожнага адрасата індывідуальна. Але прайшлі ўсе тэрміны, прадугледжаныя заканадаўствам, а людзі нічога так і не дачакаліся. Усяго каля 200 чалавек хацелі, каб адказныя структуры правялі праверку і кожнаму далі абгрунтаваны адказ — гэтага патрабуе Закон Рэспублікі Беларусь „Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў“. Але звароты 200 чалавек проста праігнаравалі! З такімі паводзінамі чыноўнікаў у сваёй практыцы мы сутыкнуліся ўпершыню!»

Актывіст незалежнага СПБ Віктар Стукаў стаў адзіным, хто дамогся хоць нейкага адказу з райвыканкаму. І тое — толькі пасьля паўторнага звароту праз афіцыйны райвыканкамаўскі сайт:

«Першы электронны зварот я адправіў 15 кастрычніка. Праз тыдні два я зайшоў па сваіх справах у пракуратуру, заадно спытаў, ці хутка мне напішуць адказ. У пра-

куратуры зьдзівіліся: сказалі, што сыстэма электронных зваротаў у іх не працуе і што звароты, мусіць, акумулююцца ў абласной пракуратуры… Я зразумеў, што з гэтай структуры адказу чакаць безвынікова. Але ж у райвыканкаме гэткая сыстэма ёсьць! Чакаў 30 дзён, належных па законе, і нічога не дачакаўся. Калі часу прайшло ўжо больш за месяц, запытаўся праз форму электронных зваротаў на сайце: дык дзе ж мой адказ на папярэдні зварот? Тут мне нарэшце адказалі лістом. Маўляў, адказ вам ёсьць, і шукайце яго самі на сайце выканкаму ў рубрыцы «Пытаньне — адказ», — апавёў спадар Стукаў.

Адказ, разьмешчаны на сайце, складаецца з аднаго сказу: факты не пацьвердзіліся. На чым грунтуецца гэтае меркаваньне, ці праводзілася праверка на прадпрыемстве, кім яна праводзілася, якія былі вынікі — пра гэта нічога не гаворыцца. На сайце няма ні даты, калі зьявіўся гэткі адказ, ні прозьвішча чыноўніка, які яго напісаў. Пры тым, што закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў патрабуе, каб адказы былі абгрунтаваныя, утрымлівалі поўную інфармацыю і дасылаліся на электронную пошту заяўніка.

**09.12.2014** Заяўкі на акцыі ў тры раённыя адміністрацыі Віцебску падаваў **праваабаронца Павал Левінаў**. Ён хацеў правесьці тры аднахвілінныя пікеты ў розных раёнах гораду ў Дзень правоў чалавека, 10 сьнежня. Але атрымаў ужо традыцыйныя, шаблённыя забароны.

Віцебскі праваабаронца ўжо ня першы раз спрабуе прадэманстраваць, што віцебскія чыноўнікі, абапіраючыся ў сваіх адмовах на недасканалае рашэньне віцебскага гарвыканкаму “Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску”, самі ствараюць няёмкія сытуацыі.

“Згодна з гэтым рашэньнем, да заяўкі на пікет я мушу прыкласьці дамовы на абслугоўваньне акцыяў, заключаныя зь міліцыяй, паліклінікай і службай ЖКГ. Дамовы падпісваць усе яны адмаўляюцца, і праз гэта заяўнікам забараняюць акцыі. У мяне таксама не атрымалася дамовіцца са згаданымі структурамі. Тады я падаў такія заяўкі, дзе выкананьне патрабаваньняў гарвыканкаму выглядае абсурдным. Па-першае, усе тры мае пікеты разьлічаныя на адну хвіліну. Навошта тады дзяжурства ўрачоў, міліцыі і дворнікаў-прыбіральшчыкаў? Па-другое, пікеты я заплянаваў у адмыслова вызначаных месцах, але ў незвычайны час: адзін а 8-й раніцы, другі ў абед, а трэці – а 21:59 вечара – роўна на адну хвіліну да сканчэньня тэрміну, пакуль законам дазваляецца праводзіць акцыі. Вынік той самы, што і раней: у адказ на тры заяўкі – тры забароны”, – кажа Павал Левінаў.

**11.12.2014** У рэдакцыю *charter97.org* прыйшоў ліст ад **Васіля Касача**, які адбывае пакараньне ў папраўчай установе адкрытага тыпу №11 Віцебску. Ён піша, што папраўчая ўстанова ня можа знайсьці яму працу і адмаўляецца выплачваць грошы на ежу.

Васіль Касач быў звольнены з працы праз стан здароўя паводле пункту 4 артыкулу 52 Крымінальна-выканаўчага кодэксу РБ. Згодна зь першым пунктам артыкулу 51, працаўладкоўваць асуджаных абавязаная адміністрацыя папраўчай установы. Аднак насамрэч сытуацыя выглядае так: грошай на харчаваньне ўсё менш, а працы як не было, так і няма.

«Адміністрацыя ня можа знайсьці мне вакансію, бо ў мяне маюцца сур’ёзныя аб-

межаваньні што да стану здароўя. За мінулы месяц праз тое, што я не працаўладкаваны, я выдаткаваў усе ўласныя грошы, якія былі мне выплачаныя пасьля звальненьня. Згодна з пунктам 4 артыкулу 48 КВК РБ, у выпадку адсутнасьці ў асуджанага ўласных сродкаў, яго харчаваньне аплачваецца за кошт дзяржавы з наступнай кампэнсацыяй.

Адміністрацыя ўстановы адмаўляецца выконваць свой абавязак у забесьпячэньні мяне харчаваньнем за кошт дзяржавы. Працаўладкаваць мяне таксама ня можа, каб я сам мог зарабляць і сваё харчаваньне аплачваць. У выніку мяне ўтрымліваюць у нечалавечых умовах, бязь ежы! Зварот у органы пракуратуры, якія праводзяць нагляд за выкананьнем законаў у папраўчых установах, вынікаў не прынесьлі. Самастойна працаўладкавацца я ня маю права паводле закону. Атрымліваецца нейкае дзікунства!», – абураецца Васіль Касач.

**12.12.2014 Праваабаронца Павал Левінаў** зьвярнуўся ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну Віцебску, куды паведаміў, што зьбіраецца сфатаграфавацца зь сябрамі. Пры гэтым падкрэсьліў, што ўдзельнікі фотасэсіі маюць адзіную мэту – толькі сфатаграфавацца. Аднак у адказ атрымаў ліст з забаронай: маўляў, ён ня выканаў патрабаваньняў рашэньня гарвыканкаму “Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску”.

Падставай для звароту ў адміністрацыю быў інцыдэнт зь віцебскімі журналістамі і актывістамі, якіх раней аштрафавалі нібыта за правядзеньне несанкцыянаванай акцыі, калі іх фотаздымкі на фоне гарадзкога краявіду зьявіліся ў інтэрнэце.

“Я паведаміў у раённую адміністрацыю, што таксама зьбіраюся фатаграфавацца каля будынку з графіці – малюнкам трох клетак, зь якіх на волю вылятаюць птушкі. Адмыслова падкрэсьліў у заяве, што адзіная наша мэта – гэта фатаграфаваньне на памяць, а не выказваньне палітычных ці іншых меркаваньняў. Падкрэсьліў таксама, што людзі прыйдуць без плякатаў, транспарантаў, а таксама бяз зброі ці іншых прадметаў, якія могуць уяўляць небясьпеку для тых, хто побач… Але мне забаранілі фатаграфавацца, спаслаўшыся на рашэньне гарвыканкаму, якое тычыцца арганізацыі і правядзеньня масавых акцыяў у горадзе. Хоць я ўсялякім чынам падкрэсьліваў, што гэта будзе ня акцыя, а проста фатаграфаваньне”, – гаворыць Павал Левінаў.

**23.12.2014 Сябра аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Андрэй Гайдукоў** параўнаў умовы ўтрыманьня ў ЦІП Наваполацку з умовамі ў СІЗА.

Яго затрымлівалі за раздачу ўлётак 21 лістапада ў Наваполацку і 24 лістапада ў Полацку. 25 лістапада за адну з акцыяў яго асудзілі на 10 сутак, а пасьля, 5 сьнежня, яшчэ на 5 сутак. Актывіст распавёў праваабаронцам новыя падрабязнасьці гэтых затрыманьняў і судоў, а таксама пра ўмовы ўтрыманьня ў Наваполацкім цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў.

У судзе, які адбываўся 25 лістапада, судзьдзя Полацкага гарсуду Ўладзімер Бясецкі прызнаў былога палітвязьня вінаватым у парушэньні артыкулу 23.34 КаАП і за “правядзеньне несанкцыянаванага пікету з раздачай улётак” прысудзіў Андрэю Гайдукову арышт на 10 сутак. У той самы дзень ён быў дастаўлены ў Наваполацкі ЦІП.

Распавядае Андрэй Гайдукоў: "У ЦІП я захварэў ангінай, зьявіўся моцны кашаль, паднялася высокая тэмпэратура. Гэта з-за таго, што ў камэры, дзе мяне ўтрымлівалі, было холадна, дрэнная вэнтыляцыя і таму адчуваліся скразьнякі. Ежа, якую выдавалі, не заўсёды была цёплай, і я некалькі разоў прасіў з-за хваробы, каб выдавалі цяплейшую. Часам гэта спрацоўвала.

Адразу пасьля адбыцьця адміністрацыйнага арышту, мяне зноў павезьлі ў суд, на гэты раз у Наваполацак. У судзе я ўбачыў, што пастанова, паводле якой мяне вінавацілі ў распаўсюдзе прадукцыі СМІ, была перакваліфікаваная ў артыкул 23.34 КаАП, нібыта я браў удзел у незаконным масавым мерапрыемстве. Судзьдзя нават не зьвярнуў аніякай увагі на тую акалічнасьць, што тэмпэратура паднялася да 38 градусаў, і вынес пастанову аб арышце на 5 сутак. Ізноў я патрапіў у ЦІП, але ўжо зусім хворым. Кажу адразу – рэгіструйце, што я паступіў да вас у хворым стане. Гэтак і запісалі ў журнал: тэмпэратура, насмарк, кашаль. Але не дазволілі адтэрмінаваць адбыцьцё пакараньня, паколькі не было бальнічнага ліста. Кажу тады: "Я ж у вас тут і захварэў". Гэта іх не хвалявала. Але пазьней выклікалі хуткую дапамогу, каб зрабіць укол.

Мяне накіравалі ў тую ж самую камэру, дзе я адбываў папярэдні арышт. Мой сусед часта паліў цыгарэты і гэта прычыняла мне пакуты, я задыхаўся, паколькі вэнтыляцыя ўяўляла сабой невялікую дзірку дыямэтрам каля 10 цантымэтраў. Пасьля напісаньня заявы кіраўніцтву ЦІП, яго перавялі ў іншую камэру".

"Бялізну выдалі нармалёвую, – працягвае Гайдукоў, – аднак ад коўдры патыхала смуродам. І, увогуле, у камэры былі брудныя сьцены. Замест прыбіральні – адтуліна ў падлозе і невялічкі кран з халоднай вадой. Камэра вельмі дрэнна асьветленая, паколькі акно зробленае з тоўстых шкляных блёкаў, таму чытаць было немагчыма. Інакш можна папсаваць зрок".

Андрэй Гайдукоў таксама падрабязна распавёў пра харчаваньне, якое атрымліваюць арыштаваныя ў Наваполацкім ЦІП. Раніцай выдаецца гарбата зь нейкай кашай, вечарам тое ж самае, але дадаецца кавалак сялёдкі або некалькі кілек. У абед даюць часам не зусім гарачы і нясмачны суп, кашу і катлету.

Дазволілі перадаць ад сваякоў толькі сродкі гігіены, а харчовую перадачку не прынялі. На прагулку выводзяць на паўгадзіны.

Пры канцы размовы Андрэй Гайдукоў абагуліў сказанае і параўнаў умовы ўтрыманьня ў ЦІП з умовамі ў Віцебскім СІЗА.

Андрэй Гайдукоў – былы палітвязень, 8 лістапада 2012 году супрацоўнікі КДБ затрымалі яго і завялі крымінальную справу паводле часткі 1 артыкулу 356 Крымінальнага кодэксу (здрада дзяржаве ў форме правядзеньня агентурнай дзейнасьці). Справа Гайдукова разглядалася ў закрытым рэжыме, падчас суду абвінавачаньне Гайдукову было перакваліфікаванае. 1 ліпеня 2013 году Віцебскі абласны суд асудзіў Гайдукова паводле крымінальнага артыкулу "Спроба ўсталяваньня супрацоўніцтва са спэцслужбамі, органамі бясьпекі або органамі замежнай дзяржавы". Яго прызналі "вінаватым у спробах устанаўленьня кантактаў з супрацоўнікамі замежнай спэцслужбы без прыкмет дзяржаўнай здрады". 8 траўня 2014 году Андрэй Гайдукоў выйшаў на волю.

**06.01.2015** Віцебскі прадпрымальнік сутыкнуўся з дыскрымінацыяй паводле моўнай прыкметы, калі вырашыў наладзіць выпуск новай прадукцыі з этыкеткай па-беларуску. Аказваецца, з уступленьнем Беларусі ў Мытны саюз, уся прадукцыя, якая вырабляецца ў краіне, згодна з рэглямэнтам МС, павінна маркіравацца на расейскай мове. Пра гэта прадпрымальнік напісаў на форуме ў інтэрнэце.

«Аказваецца, у нас цяпер этыкеткі на беларускай – па-за законам. Я ў сябе ў Віцебску спрабую разьвіваць невялічкую харчовую вытворчасьць. Дык вось, вырашыў я ў Новы год ўвайсьці з новай прадукцыяй. Арганізаваў вытворчасьць дыетычных хлябцоў з суцэльнага збожжа. Рысавыя, пшанічныя, грачаныя. Правёў дасьледаваньне рынку, закупіў і наладзіў абсталяваньне, надрукаваў этыкеткі. Усяго ў мяне чатыры віды хлябцоў, і вырашыў я на адзін зь іх ляпіць этыкетку на беларускай мове. А на астатнія тры – на расейскай. Але Цэнтар стандартызацыі адмовіў мне ў выдачы важнай паперы на тыя хлябцы, што зь беларускай этыкеткай. Кажуць, якая такая беларуская мова? Пішыце на расейскай. Я спачатку падумаў, што гэта жарт. Кажу, вось жа, ёсьць дзяржаўны стандарт СТБ 1100-2007, у ім у п. 4.3 сказана, што этыкетка на тавары можа быць на беларускай і/або расейскай. Ён што, пытаюся, ня дзейнічае больш? А мне ў адказ: дзейнічае. Але яшчэ ў нас цяпер дзейнічае Тэхнічны рэглямэнт Мытнага саюзу 022-2011, дзе сказана (п. 1 арт. 4.1), што ўсе тавары цяпер павінны маркіравацца на расейскай мове, а пры вялікай ахвоце можна прадубляваць на беларускай або казахскай. Але расейская павіннна быць абавязкова. Карацей, сказалі мне, выкідвай партыю этыкетак на сваёй беларускай, і замаўляй новую – на расейскай».

**13.01.2015** У Полацку былі затрыманыя двое сяброў крышнаіцкай суполкі, на якіх былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэньні паводле артыкулу 17.1 “Дробнае хуліганства”.

Са словаў абвінавачаных стала вядома, што знаходзячыся каля гандлёвага дому ў Полацку, яны прапаноўвалі мінакам паразмаўляць і азнаёміцца зь літаратурай. У гэты час да іх падыйшла жанчына, якая прадставілася адміністратарам гандлёвага дому, і папрасіла адысьці далей ад будынку. Крышнаіты выканалі просьбу, але празь некаторы час былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі.

Пратрымаўшы беспадстаўна іх каля шасьці гадзінаў, не патлумачыўшы прычыны затрыманьня, іх правы і абавязкі, міліцыя прад’явіла ім абвінавачаньні ў “дробным хуліганстве”, у тым ліку за нецэнзурную лаянку ў публічным месцы. Пасьля складаньня пратаколаў на падставе заявы адміністрацыі гандлёвага дому сяброў крышнаіцкай суполкі адпусьцілі, а справы накіравалі ў суды па месцы іх рэгістрацыі – у Менск ды Воршу.

**25.01.2015 Віктар Стукаў**, **кіраўнік суполкі СПБ прадпрыемства «Полацак-Шкловалакно»**, зьвярнуўся ў абласны суд са скаргай на дыскрымінацыю чальцоў незалежнай прафсаюзнай арганізацыі. Але ў судзе сказалі, што ён зьвяртаецца «не па адрасе». Месяц таму ў задавальненьні ягонай скаргі адмовіў суд Полацку і Полацкага раёну.

Прафсаюзны актывіст распавёў: «У сьнежні я зьвяртаўся ў Полацкі суд па двух пытаньнях. Першае — каб мяне бесьперашкодна прапускалі на тэрыторыю прад-



Вольга Карач

прыемства, другое — каб спынілі дыскрымінацыю ў дачыненьні да нашага прафсаюзу. Дыскрымінацыя ў тым, што нас не запрашаюць і не пускаюць на калектыўныя перамовы з працадаўцам, у адрозьненьне ад афіцыйнага, прадзяржаўнага прафсаюзу. Без удзелу ў перамоўным працэсе мы ня можам уплываць, прыкладам, на складаньне працоўнай калектыўнай дамовы. З намі ўвогуле ня хочуць весьці аніякіх перамоваў, і таму судовыя рашэньні выглядаюць як зьдзек. Мясцовы суд не задаволіў гэтую скаргу, а абласны патлумачыў, што дыскрымінацыя прафсаюзу — гэта не прадмет судовага разбору. Што гэта, маўляў, вырашаецца ў працэсе перамоваў з кіраўніцтвам. Якія перамовы, калі іх няма, бо за гэтае права я якраз і змагаюся?»

**27.01.2015** Невядомыя разьмясьцілі ў сацыяльных сетках абразьлівыя ды ілжывыя допісы пра прыхільнікаў стварэньня партыі БХД і іншых актывістаў. Інфармацыю пра допісы разаслалі як іхным асабістым знаёмым, так і аднадумцам зь ліку дэмакратычнай апазыцыі ды незалежным журналістам.

Журналістаў спрабуюць уцягнуць у дыскусіі, прапануючы ім «гарачыя тэмы» і «сэнсацыйныя навіны».

Пра тое, што стаіць за «сэнсацыямі», паведаміла **Алена Шабуня**, **віцебская актывістка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД**:

«Я атрымала ліст у „Фэйсбуку“ ад невядомай мне асобы, што ў сацыяльнай сетцы „ЎКантакце“ ёсьць згадкі пра **Тацьцяну Севярынец** і маю зь ёй супольную працу. А ва „Укантакце“ я ўбачыла суполку, якая знарок створаная для „ўкідаў“ ілжывых і абразьлівых зьвестак: у суполцы пяць удзельнікаў, і сярод іх таксама, здаецца, няма ніводнай рэальнай асобы — няма прозьвішчаў, а замест фотаздымкаў нейкія карцінкі. Усе допісы — спрэс абразьлівыя: то камэнтары да фотаздымкаў Тацьцяны Севярынец, што былі апублікаваныя на сайце *bchd.info*, то абмеркаваньне ўлётак, дзе нехта шукаў артаграфічныя памылкі, то ўжо зусім правакацыйныя паведамленьні пра прыватнае жыцьцё — і Тацьцяны Севярынец, і каардынатара руху „За свабоду“ Хрыстафора Жаляпава, і мясцовага палітыка Сяргея Рыжова. Пасьля допісаў імітуюцца абмеркаваньні тымі самымі пяцьцю чальцамі суполкі, прычым зусім ужо непрыстойнага зьместу».

Гэткага кшталту «ўкіды» нібыта скандальнай інфармацыі мелі месца і раней. Напярэдадні мінулых мясцовых выбараў у той самай суполцы «Укантакце» распаўсюджвалі паклёпніцкую інфармацыю пра апазыцыйнага кандыдата **Хрыстафора Жаляпава**, **каардынатара руху «За свабоду»**, які балятаваўся ў абласны савет. Тамсама друкаваліся і карыкатуры на **праваабаронцу Паўла Левінава**, **палітыкаў Вольгу Карач** і **Сяргея Рыжова**.


Юры Бельскі

**29.01.2015** Полацкі райвыканкам адмовіў у правядзеньні публічнага мерапрыемства жыхарам Полацку. Грамадзяне прасілі мясцовую ўладу дазволіць правядзеньне пікету 30 сьнежня для прыцягненьня ўвагі да стварэньня Таварыства абароны спажыўцоў, якога няма ў Полацку.

Мясцовая ўлада ўжо доўгі час адмаўляецца рэгістраваць у Полацку Таварыства абароны спажыўцоў. Прычыны адмовы розныя, у асноўным зьвязаныя зь юрыдычным адрасам і арэндай памяшканьня.

Мэтай пікету 30 сьнежня зьяўляўся збор подпісаў грамадзян пад заявай аб аказаньні спрыяньня выканаўчай уладай рэалізацыі іх законнага права спажыўцоў у стварэньні Таварыства абароны спажыўцоў. Меркавалася, што колькасьць удзельнікаў масавага мерапрыемства будзе ўсяго тры чалавекі, месцам правядзеньня мусіла стаць пляцоўка ля цэнтральнага ўваходу кінатэатру "Радзіма". Прычым да заявы на пікетаваньне прыкладалася пісьмовае забавязаньне з гарантыяй арганізатараў па выкананьні парадку, а таксама копіі заяваў ў мясцовую міліцыю, у камунальную гаспадарку і ў шпіталь аб дапамозе ў правядзеньні пікету. Усе гэтыя гарадзкія службы адмовіліся на платнай аснове абслугоўваць пікет.

**Арганізатар пікету Юры Бельскі**, які падаваў заяўку на пікет у райвыканкам: «Мясцовыя ўлады ўпарта ня хочуць рэгістраваць у Полацку Таварыства абароны спажыўцоў, аказваюць ціск на арганізатараў, перашкаджаюць арэндзе памяшканьня для Таварыства. Нават дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Натальля Гуйвік не змагла нам дапамагчы з рэгістрацыяй арганізацыі абароны пакупнікоў».

«А пікет мясцовыя ўлады забаранілі афіцыйна таму, што не заключаныя дамовы з ЖКГ, міліцыяй і шпіталем, якія, дарэчы, адмовіліся абслугоўваць пікет нават за грошы», – распавёў Юры Бельскі.

**09.02.2015** Ізноў у Віцебску не адбыліся пікеты, заяўкі на правядзеньне якіх падавалі мясцовыя апазыцыянэры. Чыноўнікі раённых адміністрацыяў гораду патлумачылі свае рашэньні пра забароны пікетаў стандартна: арганізатары акцыяў ня выканалі рашэньне гарвыканкаму пра дамовы на абслугоўваньне акцыяў са службай ЖКГ, міліцыянтамі і мэдыкамі.

Заяўкі на пікеты (па адной у кожную з трох раённых адміністрацыяў Віцебску) падавалі пяцёра сяброў КХП-БНФ. Усе пікеты мусілі ладзіцца ў розны час 10 лютага. Іх мэта: давесьці грамадзянам, што знаходжаньне Беларусі ў Эўразійскім эканамічным саюзе стане асновай для страты дзяржаўнага сувэрэнітэту краіны, прывядзе да далейшага зьнішчэньня беларускай мовы, гісторыі і культуры беларускай дзяржавы.

Апроч заявак на пікеты, падаваліся таксама заявы пра заключэньне патрэбных дамоваў генэральнаму дырэктару УКВП «Віцебская гарадзкая жыльлёва-камунальная гаспадарка», ва Ўпраўленьне ўнутраных спраў Віцебскага абласнога выканаўчага камітэту ды ва ўстанову аховы здароўя «Віцебская гарадзкая цэнтральная паліклініка». Згодна з рашэньнем гарвыканкаму, прынятым у 2009 годзе, такія дамовы трэба мець абавязкова, каб прэтэндаваць на атрыманьне дазволу ад мясцовых уладаў на правядзеньне якога-кольвек масавага мерапрыемства.

Заключыць дамову з апазыцыянэрамі пагадзіліся толькі камунальнікі. Зь міліцыі паведамілі, што будуць ахоўваць парадак падчас пікетаў, але толькі калі ўлады дадуць дазволы на іх правядзеньне. Самым жа катэгарычным аказалася кіраўніцтва УАЗ «Віцебская гарадзкая цэнтральная паліклініка»: Каардынаваць загадзя дзейнасьць мэдычных брыгад установы на дату меркаванага мерапрыемства не ўяўляецца магчымым, таму не ўяўляецца магчымым заключыць дамовы, – напісаў, адказваючы на заяву, галоўны лекар паліклінікі Станіслаў Цітовіч.

Менавіта адсутнасьцю дамоваў з патрэбнымі службамі мясцовыя ўлады зазвычай абгрунтоўваюць свае забароны на правядзеньне акцыяў. Але гэтым разам яны праявілі крэатыўнасьць і дадалі яшчэ адзін пункт у абгрунтаваньне забаронаў пікетаў. **Яну Дзяржаўцаву**, аднаму з заяўнікаў, чыноўнікі паведамілі, што цягам апошняга году ён прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня масавых мерапрыемстваў, таму, маўляў, быць заяўнікам ня можа.

Сябра КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў такім адказам абураны, бо заяўкі на правядзеньне пікетаў падпісалі яшчэ чацьвёра яго аднапартыйцаў, якія нічога не парушалі. Таксама Ян Дзяржаўцаў абураны тым фактам, што з адной з адміністрацыяў – Першамайскага раёну – адказ прыйшоў на расейскай мове, хаця заяўка падавалася па-беларуску.

**12.02.2015** Полацкі раённы выканаўчы камітэт забараніў рабочым заводу «Шкловалакно» публічна выказаць сваё меркаваньне наконт новых патрабаваньняў Дэкрэту нумар пяць. Пра гэта пісьмова паведаміў намесьнік старшыні выканкаму Пётар Пяткевіч арганізатарам пікету. Адмова абгрунтоўваецца тым, што заяўнікамі «не былі заключаныя дамовы» зь міліцыяй і гарадзкім шпіталем.

Рабочыя лічаць абсурдам, што для выказваньня свайго меркаваньня неабходна аплаціць працу міліцыянтаў і лекараў. «Пакуль яшчэ хуткая дапамога і міліцыя прыяжджаюць па выкліку бясплатна…» – кажуць рабочыя.

Заяўка аб дазволе на пікет да мясцовых уладаў падавалася 5 лютага ад імя грамадзян, рабочых «Шкловалакна». Рабочыя ўзялі на сябе забавязаньне самастойна забясьпечваць парадак падчас правядзеньня пікету і лічаць, што няма неабходнасьці ў заключэньні платных дамоваў з гарадзкімі службамі на абслугоўваньне пікету.

Памочнік майстра заводу «Шкловалакно» **Мікалай Шарах**, **намесьнік старшыні Свабоднага прафсаюзу Беларускага**: «Мы ня лічым неабходным дадаткова аплачваць працу гарадзкіх службаў, і ў іх паслугах пры правядзеньні пікету мы не маем патрэбы. Абмежаваньне права рабочых у выказваньні свайго меркаваньня на новаўвядзеньні дэкрэту №5 лічым парушэньнем закону, неабгрунтаваным аб-


Віталь Барташ

межаваньнем правоў рабочых. Такое рашэньне райвыканкаму робіць права працоўных на мірны сход ілюзорным».

**06.03.2015** Увосень 2013 году ўраджэнец Полацку **Віталь Барташ** быў накіраваны на тэрміновую вайсковую службу ў Барысаў. Амаль праз год яго камісавалі паводле стану здароўя, а праз пару месяцаў афіцыйна паставілі інваліднасьць 3-й ступені па зроку. У выніку хлопцу давялося рабіць апэрацыю на адным воку, другая будзе толькі праз пару гадоў у чаканьні сваёй чаргі.

Былы салдат і ягоныя родныя ўпэўнены: такога пагаршэньня здароўя можна было своечасова пазьбегнуць, але ніхто з супрацоўнікаў санчасткі не сьпяшаўся дапамагаць вайскоўцу.

Цяпер СМІ паведамілі пра ўзбуджэньне крымінальнай справы ў дачыненьні да начальніка мэдычнага пункту адной з вайсковых частак па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага ч. 1 арт. 455 КК Беларусі (Бязьдзейнасьць улады). Такое рашэньне прыняла пракуратура пасьля разгляду скаргі былога вайскоўца. Санкцыя артыкулу прадугледжвае пакараньне аж да пазбаўленьня волі тэрмінам да 6 гадоў з пазбаўленьнем права займаць пэўныя пасады.

Журналістам удалося высьветліць падрабязнасьці гэтай справы ў пацярпелага салдата, Віталя Барташа. Па адукацыі 22-гадовы ўраджэнец Полацку – тэхнік-праграміст. У 2013 годзе ён скончыў мясцовы гандлёва-тэхналягічны каледж, а ўжо ўвосень заступіў на службу ў 740 зэнітна-ракетную брыгаду вайсковай часткі 15847 у Барысаве. Пасьля вяртаньня на цывільку ў хлопца канстатавалі інваліднасьць 3-й ступені.

Як паведамлялі раней у пракуратуры Менскай вобласьці, афіцэр-мэдык санчасткі падазраецца ў тым, што са сьнежня 2013 году па чэрвень 2014 году, "пэўна ведаючы пра неабходнасьць аказаньня кваліфікаванай афтальмалягічнай мэддапамогі салдату, насуперак інтарэсам службы ўхіліўся ад абавязкаў і ня накіраваў яго на стацыянарнае абсьледаваньне". У выніку гэтай бязьдзейнасьці салдату нанесеная істотная шкода здароўю, а ваенна-лекарскай камісіяй Узброеных сілаў Беларусі ён прызнаны непрыгодным да вайсковай службы.

Крымінальная справа распачатая толькі ў дачыненьні да былога начальніка мэдпункту вайсковай часткі, хоць сам салдат амаль ніколі ня бачыў гэтага супрацоўніка. Усе пройдзеныя працэдуры, паводле слоў пацярпелага, суправаджалі іншыя работнікі санчасткі (у кожным выпадку розныя). І тыя цалкам разумелі, што адбываецца, але не рабілі належных захадаў.

Віталь распавядае, што да арміі праблем са зрокам ён ня меў наогул. Мэдкамісія ў

ваенкамаце Полацку прызнала яго прыдатным для службы. Але праз месяц пасьля заступленьня на службу, падчас агляду ў 592-м мэдцэнтры Ўзброеных сілаў афтальмолягі выявілі сур'ёзнае захворваньне вачэй – кератаконус. Доктар паведаміў прапаршчыку, які суправаджаў з санчасткі, што салдата неабходна накіраваць для абсьледаваньня ў Галоўны ваенны клінічны мэдцэнтар Узброеных сілаў у Менску. Хаця, прыгадвае былы салдат словы мэдыкаў, з такім дыягназам нібыта можна было працягваць службу.

Рашэньне адправіць салдата на дбайнае абсьледаваньне папросту праігнаравалі ў санчастцы. У сакавіку і ліпені 2014 году салдат двойчы трапляў у мэдпункт вайсковай часткі па іншых прычынах, але пра праблемы са зрокам там ня ўзгадвалі.

1 верасьня Віталь ў другі раз трапіў да мэдыкаў у 592-гі шпіталь, ужо з скаргамі на зубны боль. Тады яго праводзіла да мэдыкаў мэдсястра санчасткі, а пасьля візыту да стаматоляга салдату ўдалося зноў трапіць да афтальмоляга. Там дужа зьдзівіліся, калі даведаліся, што на працягу 9 месяцаў ніякага рэкамэндаванага абсьледаваньня з нагоды захворваньня вачэй так і не было.

Гэтым разам мэдыкі выпісалі салдату вочныя кроплі, пасьля якіх ізноў зважылі на неабходнасьць зьвярнуцца ў Галоўны ваенны клінічны мэдцэнтар УС Беларусі. Неабходнае лекі маладому чалавеку прыйшлося шукаць сваімі намаганьнямі – толькі праз тыдзень іх дапамог купіць на цывільцы адзін з таварышаў па службе.

"Гэтыя лекі патрэбныя былі, каб пашырыць зрэнкі і абсьледаваць вочнае дно і сятчатку. Мэдыкі з санчасткі не прапаноўвалі дапамогі, тым больш купіць прэпарат – не было ініцыятывы нейкай", – кажа Віталь.

Але супрацоўнікі санчасткі не сьпяшаліся падрыхтаваць салдата да абсьледаваньня. Хаця лекі былі на руках, трохдзённы курс вочных кропель адкладалі тры разы. У выніку працэдуры распачалі толькі праз месяц пасьля указаньняў лекараў з 592-га шпіталя.

Нарэшце, на пачатку кастрычніка 2014 году Віталь трапіў у Галоўны мэдцэнтар УС у Менску, дзе пасьля абсьледаваньня была выяўленая неабходнасьць у апэрацыі на вачох.

Пытаньне пра тое, як на разьвіцьцё захворваньня паўплывала прамаруджваньне з абсьледаваньнем і лячэньнем, мэдыкамі не вывучалася.

**12.03.2015** У **сябра партыі БНФ Леаніда Аўтухова** ўзялі тлумачэньні ў міліцыі. Паводле ягоных слоў, справу рыхтуюць для перадачы ў суд.

Гарадоцкі актывіст Леанід Аўтухоў параўнаў чыноўніка з «тэрарыстам у Луганску і Данецку». Запіс з такімі словамі ён пакінуў у кнізе скаргаў рэгіянальнага цэнтру занятасьці, абураны паводзінамі кіраўніка ўстановы Пятра Прасолава. Чыноўнік напісаў заяву ў міліцыю.

«Участковы інспэктар Уладзімер Касноў паведаміў мне, што кіраўнік цэнтру занятасьці напісаў скаргу пра абразу. Міліцыя распачала адміністрацыйную справу паводле артыкулу 9.3 «Абраза, сьвядомае прыніжэньне гонару і годнасьці, выказанае ў непрыстойнай форме». Але я не лічу, што тут мела месца нейкая непры-


Алег Емяльянаў

стойнасьць. Кніга скаргаў для таго і існуе, каб вышэйшае начальства рэагавала на тое, што там выкладзена. А я напісаў, што 13 лютага, калі я прыйшоў у цэнтар занятасьці, кіраўнік установы паводзіў сябе груба, «як тэрарысты ў Луганску і Данецку». На мой погляд, мела месца і парушэньне заканадаўства: мяне незаконным чынам зьнялі з уліку па беспрацоўі. Падчас разьбіральніцтва па гэтым пытаньні і здарыўся інцыдэнт. Па гэтых фактах я яшчэ месяц таму падаў скаргу ў пракуратуру», – распавёў Леанід Аўтухоў.

Актывіст не выключае, што пададзеная ў міліцыю скарга за абразу – гэта помста кіраўніка цэнтру занятасьці. Бо пракуратура праводзіць праверку працы ўстановы. Леанід Аўтухоў паведаміў пракурору, што цэнтар занятасьці прапануе беспрацоўным вакансіі, якіх насамрэч не існуе. І таму непасрэдна на прадпрыемствах у працаўладкаваньні або адмаўляюць, або прапануюць іншую працу. Якая, прыкладам, не адпавядае кваліфікацыі, ці працаваць трэба за дужа нізкі заробак.

**12.03.2015** Гарвыканкам прызнаў парушэньне Закону аб мовах намесьніцай старшыні адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску.

Скаргу на службовую асобу ў Віцебскі гарвыканкам падавалі **сябры КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў**, **Пятро Сарапеня** і **Алег Емяльянаў**. Намесьніца старшыні адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску Вольга Гурчанка адказала на іх заяўку на пікет, складзеную па-беларуску, на расейскай мове. Гэткім чынам, на думку скаржнікаў, чыноўніца парушыла Закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, які патрабуе ад службоўцаў адказваць на мове звароту.

Адказ на скаргу падпісаў намесьнік старшыні гарвыканкаму Дзьмітры Шэрыкаў. Згодна з гэтым адказам, Гурчанка згаданы закон не парушыла. Маўляў, парадак падачы і разгляду заявак на правядзеньне масавых мерапрыемстваў рэгулюецца Законам аб масавых мерапрыемствах, а Закон аб зваротах грамадзян не тычыцца тых зваротаў, у дачыненьні да якіх заканадаўчымі актамі вызначаны адмысловы парадак іх падачы і разгляду.

Тым ня менш гарвыканкам прызнаў, што чыноўніца парушыла іншы закон – аб мовах: «Артыкулам 5 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" гарантавана права грамадзян атрымліваць адказ на зварот на мове звароту. За парушэньне артыкулу 5 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" у дачыненьні да намесьніка кіраўніка Першамайскага раёну г. Віцебску Гурчанкі В.В. будуць прыменены меры дысцыплінарнага характару».

Што гэта за «меры дысцыплінарнага характару» – намесьнік кіраўніка Віцебскага гарвыканкаму не ўдакладніў.

**18.03.2015** Гарадзкая пракуратура Віцебску ў якасьці мэтаду барацьбы з бытавой і рэцыдыўнай злачыннасьцю, сямейнымі дэбашырамі, вырашыла укараніць новы мэтад работы і правяла комплекснае мерапрыемства. Паводле яго вынікаў больш за 50 чалавек, якія маюць судзімасьці, стаяць на ўліку ў міліцыі або абвінавачаныя у парушэньні грамадзкага спакою, былі запрошаныя на прафіляктычную сустрэчу ў ППСМ УУС аблвыканкаму. Некалькі чалавек проста з залі адвялі ў кайданках.

Пракуратура, разгледзеўшы пытаньні пра парушэньні ўмоў і парадку адбыцьця пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі без накіраваньня ў папраўчую ўстанову, прыняла рашэньне пра накіраваньне 7 чалавек у ІЧУ, і яшчэ аднаго заключылі пад варту. Таксама было выдадзена больш за 30 афіцыйных папярэджаньняў.

Раптоўнае пакараньне стала шокам для парушальнікаў і паказальным прыкладам для тых, хто мае падобныя грахі. Паводле слоў намесьніка пракурора Віцебску Валера Грынько, у далейшым такія мерапрыемствы прафіляктычнай накіраванасьці мяркуецца ладзіць штоквартальна. А пры пагаршэньні крымінагеннай абстаноўкі – штомесяц.

**22.03.2015** Адміністрацыя Чыгуначнага раёну Віцебску зноў адмовіла сябрам Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ ў правядзеньні пікету. Імпрэза, прымеркаваная да Дня Волі, мусіла адбыцца 25 сакавіка. Заява была пададзена ад імя **Яна** і **Аляксандра Дзяржаўцавых**, **Пятра Сарапені**, **Алега Емяльянава** і **Аляксея Леаненкава**.

Напярэдадні сьвята кожны з заяўнікаў атрымаў цалкам ідэнтычны адказ, падпісаны намесьніцай кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Натальляй Ляпёшкінай: "…заява разгледжаная", "…дагаворы, прадугледжаныя пунктам 3 рашэньня Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту ад 10 ліпеня 2009 году №881 "Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску", Вамі не прадстаўленыя, забараняю правядзеньне масавага мерапрыемства – пікету 25 сакавіка 2015 году з 15:00 да 16:00 у парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў у раёне сцэнічнай пляцоўкі".

**29.03.2015** **Леаніда Аўтухова** выклікалі ў падатковую інспэкцыю, каб ён даў справаздачу пра свае даходы за апошнія 10 гадоў. Актывіст папрасіў даць дэклярацыю на беларускай мове, аднак яму адмовілі і заявілі, што згодна з пастановай Савету Міністраў дэклярацыі павінны быць толькі па-расейску. Таксама ў выпадку адмовы запаўненьня дэклярацыі актывіста прыстрашылі, што на яго складуць пратакол.

Перад выклікам у падатковую Леанід Аўтухоў дапамагаў сем'ям з аграгарадка Верамееўка ў Гарадоцкім раёне. Дзьве сям'і зь непаўнагадовымі дзецьмі засталіся без электрычнасьці. Яны займаюць службовыя кватэры ад прадпрыемства «Райаграснаб», аднак паколькі спынілі працоўныя адносіны з гэтым прадпрыемствам, павінны вызваліць і кватэры. Пры гэтым была парушаная заканадаўчая працэдура.

«Што робяць яны наогул?! Я сам быў у жаху. Я толькі даведаўся, калі пачуў у су-


Ігар Пастноў

дзе, што дзяўчына плача. Пытаюся: што здарылася? Яна кажа: адключаюць сьвятло. Потым прыяжджае апякунства. Лядоўня не працуе, умоваў для жыцьця ніякіх. Забіраюць дзетак проста. Забіраюць прымусова. Ты застаесься безь дзетак. І калі не падымаць "шухеру"… Але цяпер зло на мяне маюць», – пракамэнтаваў сытуацыю Леанід Аўтухоў.

**03.04.2015** Улады вырашылі пазбавіць працы **сябра аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» Сержука Васільева** зь Мёраў. Чалавек, які мае дзьве вышэйшыя адукацыі і шмат гадоў прапрацаваў настаўнікам, ня можа ўладкавацца на працу нават вартаўніком.

Праблемы з працай у актывіста пачаліся пасьля 15-суткавага арышту за Плошчу 2010 году. Да красавіка 2012 году ён даглядаў сваю хворую маці, а пасьля таго, як маці памерла, яго не хацелі нідзе ўладкоўваць на працу. У рэшце рэшт, ён уладкаваўся грузчыкам на камбікормавы завод. Але ціск на яго не спыніўся. 2 ліпеня 2013 году раённыя ўлады, баючыся яго актыўнасьці на афіцыйны дзень Незалежнасьці, прымусілі дырэктара заводу паставіць актывісту дзьве працоўныя зьмены запар.

У выніку з-за праблемаў са здароўем Сяржук Васільеў быў вымушаны звольніцца і ўладкавацца на працу ахоўнікам у краму. Аднак пасьля таго, як ён стаў прамоўцам БХД падчас мясцовай выбарчай кампаніі 2014 году, калектыў крамы прымусілі напісаць, што яны яму не давяраюць, і яго звольнілі. І гэта нягледзячы на тое, што, абараняючы маёмасьць крамы, актывіст перад гэтым пацярпеў ад злачынцы.

Сяржук Васільеў зноў уладкаваўся на працу грузчыкам. Але з-за праблемаў са здароўем дактары забаранілі яму падымаць больш за 5 кіляграмаў. Паводле кантракту яго перавялі ў пункт другаснай сыравіны вартаўніком. Але працуе ён там толькі да 10 красавіка 2015 году, калі заканчваецца кантракт.

У размове з старшынём райвыканкаму Кузьняцовым апошні прагаварыўся, што ўсе праблемы з працай Васільеў мае з-за сувязяў з апазыцыяй. «Вы ж самі ўсё разумееце», – дадаў ён.

Пра тое, што праз апазыцыйную дзейнасьць актывіст нібыта шкодзіць Беларусі, заяўляў і начальнік раённага аддзелу адукацыі, намякаў на гэта і галоўны ідэоляг.

«Гэта ня проста перасьлед, гэта зьдзекі. Зь мяне фактычна зрабілі палітбамжа», – адзначае Сяржук Васільеў.

**08.04.2015 Доктар Ігар Пастноў** быў выкліканы для гутаркі ў Віцебскі гарадзкі аддзел Сьледчага камітэту. Позву сьледчая ўручыла асабіста, прыйшоўшы проста


Сяржук Васільеў

на працу.

Як распавёў спадар Ігар, маёр СК Кісьляк Н.В. паводзілася вельмі карэктна, патлумачыўшы, што пакуль ідзе праверка па факце напісаньня яго ліста Сяргею Рыжову ў СІЗА. У лісьце былі нядобрыя выказваньні пра адну з судзьдзяў Першамайскага суду, якая праславілася сваім паказным жорсткім стаўленьнем да іншадумцаў.

Ліст «вертухаі» прачыталі, адрасату не аддалі, паслужліва пераслалі ў суд, асабіста судзьдзю, пра якую ў ім вялося. Тая ў сваю чаргу пераслала яго ў СК для праверкі на прадмет наяўнасьці складаў злачынстваў.

Пастноў абураецца: «Рэжым баязьлівы. Ён баіцца адкрытай барацьбы з апанэнтамі, шукае слабыя месцы, пункты мішэні і б'е па іх. Паскудна і жорстка. Я ж заявіў, што гэта маё асабістае інтымнае ліставаньне».

**14.04.2015** З 10 красавіка **актывіст ствараной партыі БХД** зь Мёраў **Сяржук Васільеў** застаўся бяз працы – зь ім не працягнулі кантракт. 14 красавіка ён стаў на ўлік па беспрацоўі, але грашовую дапамогу памерам 360 тысяч рублёў зможа атрымаць толькі 20 траўня.

Раней намесьнік начальніка раённага цэнтру занятасьці Ігар Швец абяцаў, што спадара Васільева не пакінуць бяз працы. Больш таго – што падбяруць яму працу па спэцыяльнасьці. Але абяцаньні аказаліся марныя, кажа цяпер ужо беспрацоўны актывіст, наведаўшы сацыяльную ўстанову:

«У цэнтры занятасьці літаральна выкінулі мяне на вуліцу! Паставілі на ўлік, узялі два мае дыплёмы аб вышэйшай адукацыі і нават нічога не паабяцалі. Прызначылі грашовую дапамогу памерам дзьве базавыя, а першая выдача – ажно 20 траўня. Як хочаш камунальныя плаці, лекі купляй, я ўжо не кажу пра тое, што трэба есьці і апранацца. Яшчэ добра, што ў мяне сям'і няма! Во ў якой сацыяльна-арыентаванай дзяржаве мы жывём – не працаўладкавалі, ды яшчэ й літаральна голадам морaць! Я ж да таго часу магу і ласты склеіць!».

**14.04.2015** Кіраўнікі прадпрыемстваў раёну атрымалі ліст за подпісам старшыні Полацкага раённага выканаўчага камітэту Мікалая Шаўчука. У лісьце зьмяшчаецца прапанова заахвоціць работнікаў квіткамі на канцэрты фэстывалю і даць адпаведную справаздачу.

«У мэтах выкананьня даручэньня Віцебскага аблвыканкаму ад 23.03.2015 № 63-67 "Аб аказаньні садзейнічаньня" і ў мэтах заахвочваньня найбольш заслужаных работнікаў Вашага прадпрыемства Вам неабходна набыць квіткі (гл. дадатак) на канцэртныя праграмы ў рамках XXIV Міжнароднага фэстывалю мастацтваў




“Славянскі базар у Віцебску”», – дае ўказаньне кіраўнікам прадпрыемстваў старшыня выканкаму.

**16.04.2015** Напярэдадні Радаўніцы на месцы меркаваных масавых забойстваў грамадзян у 1937-38 гадох у лесе пад вёскай Хайсы **актывіст КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў** са сваімі аднадумцамі меў намер прыбраць тэрыторыю і ўсталяваць ва ўшанаваньне памяці ахвяраў рэжыму крыжы. Зьдзейсьніць задуму перашкодзілі прадстаўнікі мясцовай улады і праваахоўных органаў.

На выезьдзе з гораду аўтамабіль, у якім знаходзіўся Ян Дзяржаўцаў, пачаў суправаджаць легкавік ДАІ. Пасьля таго, як машына з актывістамі спынілася, супрацоўнікі ДАІ запатрабавалі суправаджальныя дакумэнты на выраблены крыжы. Спадар Ян заявіў, што крыжы ён зрабіў сам, і таму ніякіх дакумэнтаў быць ня можа. Гэткі адказ даішнікаў не задаволіў, і вельмі хутка да іх пад’ехалі некалькі машын зь міліцыянтамі і людзьмі ў цывільным. На месца затрыманьня прыехаў таксама і старшыня Мазалаўскага сельсавету Леанід Дубіна разам з прадстаўніком лясгасу.

Яна Дзяржаўцава разам з кіроўцам даставілі ў РАУС Віцебскага раёну, дзе ўзялі пісьмовыя тлумачэньні па сутнасьці справы. Пратрымаўшы грамадзян у пастарунку блізу трох гадзін, міліцыянты заявілі, што зь іхняга боку да затрыманых няма аніякіх прэтэнзіяў, пасьля чаго адпусьцілі.

**18.04.2015** На віцебскага праваабаронцу за зварот у міліцыю была заведзеная справа. Гэта вынікае з адказу, атрыманага **Паўлам Левінавым** з Кастрычніцкага РАУС Віцебску. Праваабаронца напісаў заяву з просьбай разабрацца наконт фактаў распаўсюду ў абласным цэнтры савецкіх сьцяжкоў. Вынікі праверкі аказаліся, мякка кажучы, дзіўнымі, кажа Левінаў.

У заяве Павал Левінаў распавёў, што каля гандлёвага цэнтру “Эвіком” хлопец і дзяўчына некалькі дзён распаўсюджваюць чырвоныя сьцяжкі зь сярпом і молатам. Яны чапляюцца да мінакоў, торкаюць ім у рукі сьцяжкі, потым вымагаюць грошай. Пры гэтым, лічыць Левінаў, яны выказваюць свае грамадзкія перакананьні: паказваюць мінакам паперку, дзе напісаны лёзунг іхнай акцыі – “Народжаны ў СССР”. Таму праваабаронца папрасіў кіраўніка абласной міліцэйскай управы правесьці праверку гэтых фактаў, высьветліць асобы распаўсюднікаў, пакараць іх за несанкцыянаваныя акцыі, забараніць ім чапіцца да мінакоў і кіроўцаў аўтамашын, парушаючы правілы дарожнага руху.

З абласной управы прыйшоў адказ, што ліст Левінава пераслалі ў Кастрычніцкі РАУС, бо “Эвіком” тэрытарыяльна знаходзіцца ў Кастрычніцкім раёне. У райаддзеле правялі праверку – прынамсі, у матэрыялах гэтай справы ёсьць некалькі

рапартаў ад супрацоўнікаў, кажа Левінаў:

“Есьць рапарты, што міліцыянты патрулявалі тэрыторыю, выбарачна размаўлялі з гандлярамі і пакупнікамі гандлёвага цэнтру, але нікога не знайшлі. Гэта вялікае дзіва! Я даслаў у міліцыю фотаздымкі распаўсюднікаў, дзе добра бачныя твары. Між тым згадайце сумнавядомую фотасэсію “з клеткамі і птушкамі”! Усіх удзельнікаў вызначылі па фотаздымках менш як за два тыдні, у тым ліку выпадковага мінака, які сфатаграфаваўся за кампанію. І ўсіх тут жа пакаралі! А тут – нікога не знайшлі. І на гэтай падставе зрабілі выснову, што правапарушэньня не было!”

У адказе, падпісаным старшым лейтэнантам міліцыі Сяргеем Вяраксам, сапраўды гаворыцца, што “падчас праведзенай праверкі асобы (распаўсюднікаў) высьветленыя не былі. Такім чынам, праведзенай праверкай было выяўлена, што ў дзеяньнях нявызначаных асобаў няма складу адміністрацыйнага правапарушэньня”.

Зь іншага боку, калі правапарушэньня няма, то навошта было шукаць тых людзей, адзначае праваабаронца. Але самы вялікі шок ён атрымаў, прачытаўшы пастанову Сяргея Вяраксы пра тое, што ў адносінах да яго, Левінава, была заведзеная адміністрацыйная справа! І скасаваная праз тое, што складу правапарушэньня няма…

“Я ўсяго толькі напісаў заяву ў міліцыю. У нас што, кожны, хто зьвярнуўся з заявай, ужо правапарушальнік? Пра якое правапарушэньне мне пішуць? Можа, усё тлумачыцца тым, што пастанова датаваная 12 красавіка, калі ўсе людзі сьвяткавалі Вялікдзень, адпачывалі… У чым міліцэйская лёгіка? Гэта ж я прасіў праверыць факты, якія лічу правапарушэньнем, але ня я распаўсюджваў тыя сьцяжкі”.

**20.04.2015** Намесьнік старшыні Віцебскага гарвыканкаму Дзьмітры Шэрыкаў забараніў вулічнае шэсьце ў гадавіну Чарнобыльскай катастрофы. Прычына забароны акцыі, заяўку на правядзеньне якой падавалі віцебскія сябры КХП-БНФ, традыцыйная: адсутнасьць у заяўнікаў дамоваў на яе абслугоўваньне камунальнікамі, мэдыкамі і міліцыянтамі.

Арганізатары шэсьця накіравалі заявы на заключэньне дамоваў у патрэбныя інстанцыі – і атрымалі адмовы.

Галоўны лекар Віцебскай гарадзкой цэнтральнай паліклінікі Станіслаў Цітовіч паведаміў, што мэдычнае абслугоўваньне масавых мерапрыемстваў ажыцьцяўляецца брыгадамі гарадзкой станцыі хуткай дапамогі пры адсутнасьці вялікай колькасьці выклікаў, «у сапраўдны перыяд назіраецца высокая абарачальнасць насельніцтва» (дакладная цытата на мове арыгіналу), таму скаардынаваць загадзя дзейнасьць брыгад хуткай дапамогі на дату меркаванага мерапрыемства нельга – такім чынам, заключэньне дамовы не ўяўляецца магчымым.

Быў атрыманы адказ і зь міліцыі. Намесьнік начальніка УУС Віцебскага аблвыканкаму Юры Манькоў напісаў, што яго ведамства нібыта ня супраць заключэньня дамовы, але толькі пасьля таго, як гарвыканкам дасьць дазвол на правядзеньне шэсьця. Фактычна, гэта ёсьць адмова: згодна з рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску», прынятым у 2009 годзе, арганізатары акцыяў павінны заключаць неабходныя дамовы да, а не пасьля атрыманьня дазволаў на масавыя мерапрыемствы; без такіх дамоваў, заключаных


Аляксандар Холад

загадзя, правядзеньне мерапрыемстваў не дазваляецца.

**27.04.2015** Вядомы ўкраінскі гурт «Акіян Эльзы» дае канцэрт у Віцебску. Але, як сьведчаць гледачы, сьвята было сапсаванае ахоўнікамі. Яны не прапускаюць у залю гледачоў са стужкамі колераў украінскага сьцягу.

Асабістыя дадзеныя тых, хто спрабаваў быў пранесьці ў залю ўкраінскія стужкі, перапісваюцца. Паводле словаў гледачоў, ахоўнікі паводзяцца груба. Таксама забараняюць карыстацца відэа– і фотакамэрамі, а ад тых, хто пасьпеў нешта зьняць, патрабуюць выдаліць здымкі.

**27.04.2015** Пракурор Віцебску Юры Раманоўскі адмовіў **сябру Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Яну Дзяржаўцаву** ў пракурорскім пратэсьце на рашэньне Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску», якое, на думку палітыка, супярэчыць пастанове Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Зьвярнуцца ў пракуратуру Яна Аляксеевіча падштурхнула тая акалічнасьць, што на цягам 6 гадоў з боку мясцовых уладаў ён атрымаў забароны на правядзеньне больш як сарака масавых мерапрыемстваў – пікетаў, мітынгаў і шэсьцяў. Падставай для гэтых забаронаў была адсутнасьць у спадара Дзяржаўцава дамоваў зь міліцыяй, камунальнымі службамі і мэдустановамі на абслугоўваньне імі масавым мерапрыемстваў. Усе спробы заключыць дамовы заканчваліся катэгарычнымі адмовамі з боку кіраўніцтва міліцыі і гарадзкой паліклінікі.

**28.04.2015** Адстойваючы свае правы і законныя інтарэсы, жыхар Віцебску **Аляксандар Холад** цягам апошніх гадоў вядзе ліставаньне зь дзяржаўнымі органамі і судамі ўсіх узроўняў. Аднак яму так і не ўдалося абараніць сябе ад самавольства і злоўжываньняў з боку прадстаўнікоў дзяржаўнай улады.

У лютым гэтага году Аляксандар Холад зьвярнуўся да прэзыдэнта краіны як гаранта законнасьці. Прычынай звароту паслужыў той факт, што старшыня Вярхоўнага суду Вадзім Сукала і яго намесьнікі не разгледзелі ягоную скаргу па сутнасьці, бо ў скаргах прысутнічала адкрытая жорсткая крытыка працы суду Чыгуначнага раёну Віцебску. Таксама ў зваротах ўскрываліся злоўжываньні службовым становішчам некаторых судзьдзяў гэтага раённага суду. Шукальнік праўды Аляксандар Холад у доказ сваіх слоў гатовы быў пайсьці на крайнія меры – прайсьці праверку на дэтэктары хлусьні.

Аднак дробны чыноўнік Адміністрацыі прэзыдэнта ня даў ходу скарзе Аляксандра Холада, і кіраўнік дзяржавы так і не даведаўся пра парушэньне кіраўнікамі Вярхоўнага суду яго права на доступ да правасудзьдзя.


Кастусь Смолікаў

Дзеяньні чыноўніка былі абскарджаныя. Аднак яго непасрэдны кіраўнік, на імя якога была накіраваная скарга, начальнік галоўнага ўпраўленьня па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб Адміністрацыі прэзыдэнта Станіслаў Буко адмовіў у разглядзе звароту па надуманых падставах.

**30.04.2015** Актывісты Віцебшчыны **Ян Дзяржаўцаў**, **Леанід Аўтухоў**, **Кастусь Смолікаў**, **Барыс Хамайда** патрабуюць ад пракуратуры Віцебскай вобласьці ўзбуджэньня крымінальнай справы, правядзеньня ўсіх неабходных сьледчых экспэрымэнтаў і эксгумацыі чалавечых парэшткаў, знойдзеных імі 28 красавіка ў лясным масіве недалёка ад вёскі Хайсы.

Паводле сьведчаньняў старажылаў вёсак Хайсы і Дрыкольле, у лясным масіве падчас сталінскіх рэпрэсіяў расстрэльвалі беларускіх грамадзян. Занепакоеныя фактам вандалізму і свавольства з боку нявысьветленых асоб, вышэйпамянёныя спадары зьвярнуліся ў пракуратуру Віцебскай вобласьці.

У сваім звароце актывісты паведамляюць пра занепакоенасьць грамадзкасьці і той розгалас, што быў выкліканы з нагоды апублікаваных у СМІ матэрыялаў пра чарговую жахлівую знаходку.

Далей ў заяве гаворыцца: «…З мэтай поўнага, аб’ектыўнага і ўсебаковага дасьледаваньня прычын сьмерці, высьвятленьня маштабу расстрэлаў і колькасьці забітых грамадзян, устанаўленьня даты забойстваў людзей, а таксама асоб, якія маюць дачыненьне да масавых забойстваў, просім распачаць крымінальную справу і зрабіць дадатковыя неадкладныя сьледчыя мерапрыемствы».

**05.05.2015** Мінула менш за тыдзень пасьля абвяшчэньня аршанскім судом адмовы **сябру аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Ігару Грышанаву** ў задавальненьні яго пазову супраць птушкафабрыкі, як прадстаўнікі мясцовай улады сабралі сход жыхароў, каб адхіліць яго ад пасады старасты вёскі. Жыхары не падтрымалі ініцыятыву ўладаў, але апошнія не супакоіліся і распачалі кампанію па дыскрэдытацыі няўгоднага вясковага кіраўніка.

Кароткая храналёгія падзеяў: 24 красавіка адбыўся суд па пазове старасты вёскі Стаўры Аршанскага раёну, мясцовага фэрмэра і гаспадара аграсядзібы Ігара Грышанава. Пазоўнік прасіў суд прызнаць дзеяньні ААТ «Птушкафабрыка Аршанская» па зносе будынку «Стаўроўскі сельскі клюб» парушаючымі права на духоўнае разьвіцьцё, захаваньне абрадаў, нацыянальнай культуры і звычаяў. Суд пазоў не задаволіў. А 30 красавіка старшыня сельсавету тэрмінова абвясьціла сход жыхароў вёскі. Галоўным пунктам парадку дня было пераабраньне старасты. Вяскоўцы не падтрымалі ініцыятыву сельсавету, і Ігар Грышанаў застаўся пры сваёй

пасадзе. І вось цяпер, 5 траўня, сельсавет расклеіў па ўсё вёсцы абвесткі, у якіх паведамляецца, што Ігар Грышанаў нібыта быў абраны старастам незаконна.

**05.05.2015** Рабочыя ААТ «Полацак-Шкловалакно» не задаволеныя дыскрымінацыяй з-за сяброўства ў прафсаюзе. Скарга рабочых на дырэктара перададзеная старшыню канцэрну «Белнафтахім» Ігару Ляшэнку падчас яго асабістага прыёму. Рабочых заводу прадстаўляў **старшыня Свабоднага прафсаюзу на прадпрыемстве Віктар Стукаў**. Гутарка старшыняў аб правох рабочых у менскім офісе канцэрну доўжылася больш за гадзіну.

У скарзе выкладзеныя факты парушэньня дырэктарам заводу Мікалаем Качаноўскім законаў Беларусі і Міжнародных дамоваў. Рабочыя адзначаюць, што дырэктар незаконна адмаўляецца ад калектыўных перамоваў з прадстаўнікамі працоўных, у калектыўнай дамове заводу закладзеная дыскрымінацыя рабочых з-за ўдзелу ў прафсаюзе, дырэктар чыніць перашкоды прафсаюзным работнікам у наведваньні тэрыторыі заводу. Асаблівае абурэньне рабочых выклікае цынізм начальнікаў, якія прымушаюць выходзіць са Свабоднага прафсаюзу, што зьяўляецца адкрытым парушэньнем наймальнікам канстытуцыйнага права рабочых на ўступленьне ў прафсаюз. Бо дзяржава абавязалася перад грамадзянамі і сусьветнай супольнасьцю забясьпечыць рабочых «адпаведнай абаронай супраць любых дыскрымінацыйных актаў» – гэтага і патрабуюць рабочыя ад канцэрну «Белнафтахім» як дзяржаўнага органу.

Як сказаў **актывіст Свабоднага прафсаюзу** работнік завода «Шкловалакно» **Мікалай Шарах**, «Адна з задач прафсаюзу – інфармаваць дзяржаўныя органы аб парушэньні правоў рабочых. Пакуль розныя дзяржаўныя арганізацыі – такія як пракуратура, інспэкцыя працы, мясцовыя ўлады – не выконваюць сваіх забавязаньняў па забесьпячэньні абароны правоў рабочых. Пры гэтым, мы мяркуем, найлепшай формай абароны інтарэсаў працоўных зьяўляюцца іх самастойныя калектыўныя дзеяньні. Калі наймальнік не выконвае сваіх забавязаньняў, то рабочыя калектыўна могуць прыпыніць выкананьне сваіх працоўных абавязкаў. Аднак пакуль права рабочых на аб'яднаньне ў прафсаюз парушанае, рабочым праблематычна адстойваць свае эканамічныя інтарэсы».

Адказ з канцэрну на скаргу рабочых паабяцалі даць цягам месяца.

**09.05.2015** Сьвяточную акцыю, якая ладзілася ў Полацку на Кургане Бесьсьмяротнасьці, мясцовыя ўлады назвалі патрыятычна: «Паклонімся вялікім тым гадам». На доўгай бэтоннай лесьвіцы, якая вядзе ад кургану, школьнікі-піянэры трымалі партрэты вэтэранаў вайны. Дзеці стаялі без галаўных убораў пад пякучым сонцам.

Мерапрыемства доўжылася больш за паўгадзіны. Некаторым дзецям станавілася блага. Дваіх дзяцей, якіх стала хістаць, каб тыя ня страцілі прытомнасьць, забралі зь лесьвіцы і разьмясьцілі ў цень.

Адзін школьнік страціў прытомнасьць і ўпаў на бэтонную лесьвіцу. Дзіцяці аказалі першую мэдычную дапамогу і пасьля панесьлі зь лесьвіцы. Хлопчык упаў фактычна на вачох у намесьніка старшыні Полацкага райвыканкаму Пяткевіча Пятра Мяфодзьевіча. Апошні з зайздроснай вытрымкай і спакоем, знаходзячыся ў не-



Уладзімер Собалеў

пасрэднай блізкасьці, назіраў за сытуацыяй, не беручы якога-небудзь ўдзелу.

Больш за 60 школьнікаў-піянэраў трымалі партрэты. Варта ўлічыць ўзрост піянэраў: паводле статуту БРПА, гэта дзеці з 10 да 14 гадоў. Ці была неабходнасьць прымушаць дзяцей удзельнічаць непасрэдна ў гэтым мерапрыемстве? Бо згодна з абавязаньнем Беларусі па Канвэнцыі аб правох дзіцяці, дзяржава прызнае права дзіцяці на абарону ад эканамічнай эксплёатацыі і ад выкананьня любой працы, якая можа ствараць небясьпеку для яго здароўя.

**10.05.2015** Перад футбольным матчам 1-й лігі «Ворша» – «Рэчыца-2014», які адбыўся 10 траўня, як актыўныя фанаты, так і звычайныя заўзятары на ўваходзе падвяргаліся асабістаму і дэталёваму дагляду з боку супрацоўнікаў АМАПу. Чым былі выкліканыя такія меры – сказаць складана: за апошнія гады на гарадзкім стадыёне Воршы не фіксавалася ніякіх сур’ёзных парушэньняў.

Безумоўна, гэта выклікала пэўную хвалю абурэньня ў людзей, якія ў свой выходны прыйшлі падтрымаць улюбёную каманду. Гэта ўжо ня першы падобны выпадак у горадзе.

**15.05.2015** Як гаворыцца на сайце ТАА «Лазер графікс», кампанія аказвае якасныя паслугі па друку рэклямнай паліграфічнай прадукцыі. Паслугамі кампаніі вырашыў скарыстацца і жыхар Лёзна **Ўладзімер Собалеў**, які замовіў шыльду з надпісам «Жыве беларус». Аднак такі надпіс не спадабаўся супрацоўнікам кампаніі, і заказчыку было прапанавана зьмяніць тэкст.

**19.05.2015 Актывіст аргкамітэту па стварэньні партыі “Беларуская хрысьціянская дэмакратыя” Дзьмітры Дзякаў** аштрафаваны на 20 базавых велічыняў (3,6 мільёну рублёў).

Ён вывесіў у Наваполацку бел-чырвона-белы сьцяг з надпісам “БХД” на агароджу сквэру па вуліцы Маладзёжнай насупраць плошчы Будаўнікоў. Дзякаў быў затрыманы і дастаўлены ў пастарунак міліцыі. Ён аштрафаваны на падставе артыкулу 21.14 КаАП (парушэньне правілаў добраўпарадкаваньня і ўтрыманьня населеных пунктаў).

**21.05.2015** Аб’яднанай грамадзянскай партыі Аршанскі райвыканкам не дазволіў зладзіць пікеты. Усяго партыйныя актывісты падавалі заяўкі на 6 пікетаў. Зь іх тры мусілі прайсьці 24 траўня ў вызначаных для такіх мерапрыемстваў месцах: каля кавярні “Аронія”, у Парку Герояў і ў парку льнокамбінату. Яшчэ тры павінны былі прайсьці ў тых самых месцах 25 траўня.

Мэта пікетаў: давесьці да жыхароў гораду пазыцыю партыі аб недапушчэньні ўвя-


Яўген Бялянка

дзеньня ў краіне прымусовай працы, што прадугледжана дэкрэтам прэзыдэнта №3.

Аднак, традыцыйна для Воршы, заяўкі на пікеты закруціліся на "карусэлі" забаронаў. Міліцыя адмовілася падпісваць з арганізатарамі дамову на ахову парадку, матывуючы гэта тым, што на правядзеньне пікетаў ня даў дазволу выканкам. А выканкам у сваю чаргу матываваў сваю адмову тым, што арганізатары не заключылі дамову зь міліцыяй. Мэдычныя работнікі, як і раней, спасылаліся на тое, што ў іхным прэйскуранце паслуг не прапісанае платнае абслугоўваньне масавых мерапрыемстваў, хаця без аказаньня такой паслугі масавае мерапрыемства, згодна з рашэньнем уладаў, правесьці немагчыма.

**23.05.2015** Фанатаў футбольнага клюбу «Віцебск» перад гульнёй зь менскім «Дынама» пускалі на сэктар толькі па пашпартах. У многіх фанатаў «Дынама» пасьля праходу некалькіх «кардонаў» міліцыі ўсё адно патрабавалі здымаць абутак.

З чым гэта зьвязана – невядома. Многія, бачачы такое стаўленьне, вырашалі ісьці на цэнтральныя сэктары або наогул не ісьці на футбол. Таксама варта сказаць, што на большасьць матчаў «Віцебску» стадыён запаўняецца штучнымі мэтадамі. На матч зганяюць шкаляроў і навучэнцаў іншых навучальных установаў у Віцебску.

Варта адзначыць, што ў рэглямэнце чэмпіянату Беларусі па футболе не прапісаная неабходнасьць мець з сабой дакумэнты падчас наведваньня стадыёну.

**26.05.2015** У Наваполацку працягваюць штрафаваць за вывешаны 19 траўня сьцяг. Усьлед за **сябрам аргкамітэту БХД Дзьмітрыем Дзякавым**, пакараным «па гарачых сьлядох» 20-цю базавымі велічынямі, праз 2 дні штраф у 10 базавых быў накладзены на студэнтку Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, якая пажадала застацца невядомай. Апошняя пастанова аб штрафе была вынесеная 26 траўня. Згодна зь ёй, 10 базавых велічынь у даход дзяржавы мусіць заплаціць **Яўген Бялянка**, гулец гандбольнага клюбу імя Лёвіна.

Усе трое падвергнутыя адміністрацыйным спагнаньням нібыта за парушэньне імі правілаў добраўпарадкаваньня і захаваньня населеных пунктаў паводле часткі 2 артыкулу 21.14 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Пастановы аб накладаньні штрафаў вынес начальнік аддзелу ўнутраных справаў Наваполацкага гарвыканкаму палкоўнік міліцыі Дзьмітры Разянкоў.

Падвергнуты штрафу за сьцяг першым, Дзьмітры Дзякаў, абураецца тым, што апроч яго самога пакаралі ягоных сяброў: «Яны атрымалі штрафы толькі за тое, што выйшлі з інтэрнату амаль у той самы час, што і я, і знаходзіліся са мною ў момант затрыманьня. Начальнік аддзелу ўнутраных справаў з гэтага зрабіў выснову,

што яны супольна са мной разьмясьцілі плякат, і палічыў, што гэтага дастаткова, каб накласьці на іх адміністрацыйнае спагнаньне».

Імаверна, спачатку ў міліцыі хацелі абмежавацца пакараньнем толькі Дзякава. Бо ў першай па часе пастанове аб накладаньні штрафу пазначалася, што менавіта ён разьмясьціў на агароджы гарадзкога сквэру плякат бел-чырвона-белага колеру. У пастановах, вынесеных пазьней, фармулёўка была зьмененая, і палкоўнік міліцыі Разянкоў запісаў, што ў зьдзяйсьненьні «правапарушэньня» разам удзельнічалі трое маладзёнаў.

Чым кіраваўся наваполацкі міліцэйскі начальнік, прызначаючы розныя пакараньні за адно і тое ж правапарушэньне, не зразумела. Тым больш выклікае зьдзіўленьне розьніца ў памерах штрафаў, калі зважыць на тое, што Яўген Бялянка, які атрымаў штраф у памеры 10 базавых велічынь, сваёй віны ў зьдзяйсьненьні правапарушэньня не прызнаў, у той час як Дзьмітры Дзякаў (20 б.в.), згодна з пастановай, віну прызнаў.

**08.06.2015 Актывіст партыі КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** ня змог пераканаць Віцебскі гарадзкі выканаўчы камітэт ўнесьці зьмяненьне ў рашэньне ад 10 ліпеня 2009 году № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску», якое, на думку апазыцыянэра, супярэчыць Пастанове Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 сакавіка 2012 году № 207.

Ян Дзяржаўцаў – адзін зь нямногіх віцебскіх палітычных дзеячаў, які імкнецца рэалізаваць свае палітычныя амбіцыі праз арганізацыю і правядзеньне публічных масавых мерапрыемстваў. Цягам апошніх 7 гадоў у розныя выканаўчыя органы ўлады Дзяржаўцавым і яго таварышамі па партыі было пададзена больш за сотню заяваў на правядзеньне пікетаў, мітынгаў і шэсьцяў ў Віцебску. Аднак намесьнікі адміністрацыяў раёнаў гораду і гарадзкога выканкаму раз-пораз адмаўляюць палітыку ў правядзеньні масавых мерапрыемстваў. Тым самым чыноўнікі парушаюць права Яна і іншых сяброў партыі КХП БНФ на публічны пратэст.

Нарматыўным актам, на які спасылаюцца чыноўнікі, забараняючы апазыцыянэрам ладзіць масавыя мерапрыемствы, было і застаецца рашэньне гарвыканкаму №881. Гэтае рашэньне ня толькі абмяжоўвае заяўнікаў масавых акцыяў у выбары месца правядзеньня, але і абавязвае іх заключаць дамовы з трыма арганізацыямі гораду: міліцыяй, камунальнікамі і паліклінікай. Калі заяўнікі не падаюць уладам разам з заявай усіх неабходных дамоваў, чыноўнік забараняе правядзеньне масавага мерапрыемства.

Дзяржаўцаў рабіў неаднаразовыя спробы адстаяць свае правы і законныя інтарэсы і пры адмовах ў правядзеньні масавых акцыяў ня раз падаваў на кіраўнікоў мясцовай выканаўчай улады скаргі ў суды. Але віцебскія суды, якія знаходзяцца ў наўпроставай залежнасьці ад выканаўчай вэртыкалі ўлады, адмаўлялі апазыцыянэру у аднаўленьні яго палітычных правоў.

Ян Дзяржаўцаў неаднаразова ладзіў пікеты без дазволу ўладаў – у парушэньне дзейнага заканадаўства. За што, паводле рашэньняў судоў, падвяргаўся штрафаваньню або турэмнаму зьняволеньню.

У траўні бягучага году Дзяржаўцаў зьвярнуўся ня толькі ў гарадзкі выканкам, але


Андрэй Салаўёў

і ў гарадзкую і абласную пракуратуры.

Аднак чарговая спроба дамагчыся зьмены рашэньня гарвыканкаму не ўвянчалася посьпехам. З адказу ідэалягічнага аддзелу Віцебскага гарвыканкаму апазыцыянэру вынікае, што рашэньне №881 не супярэчыць дзейнаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

А Віцебская абласная пракуратура паведаміла Яну Дзяржаўцаву, што рашэньне гарвыканкаму №881 не супярэчыць Пастанове Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 сакавіка 2012 году № 207. З гэтага вынікае, што для правядзеньня масавага мерапрыемства ў Віцебску без удзелу ў ім уладаў трэба выканаць рашэньне №881, што азначае – неабходна заключаць дамовы зь міліцыяй, камунальнікамі і гарадзкой паліклінікай. Інакш кажучы, абласная пракуратура ўсё вярнула ў зыходны пункт.

**10.06.2015** Старшыня суду Гарадоцкага раёну Віцебскай вобласьці Аляксандар Ляшковіч адмовіўся паведаміць **актывісту партыі БНФ Леаніду Аўтухову** зьвесткі пра колькасьць жыхароў раёну, якія былі накіраваныя судом на лекаваньне ад алькагольнай і наркатычнай залежнасьці ў Лячэбна-працоўныя прафілякторыі (ЛПП).

На пачатку траўня спадар Аўтухоў вусна зьвярнуўся да старшыні суду Ляшковіча з просьбай паведаміць яму інфармацыю пра колькасьць асоб, якія паводле рашэньня суду ў 2015 годзе былі накіраваныя ў ЛПП. Старшыня суду прапанаваў апазыцыйнаму палітыку зьвярнуцца да суду пісьмова.

Аднак Аўтухову здалося, што такім чынам кіраўнік раённага суду парушыў ягонае канстытуцыйнае права на атрыманьне інфармацыі аб працы дзяржаўных органаў і ўстаноў. Зыходзячы з гэтага меркаваньня, Леанід Аляксандравіч зьвярнуўся ў Віцебскі абласны суд са скаргай на старшыню Гарадоцкага раённага суду.

Старшыня абласнога суду Мікалай Хамічонак правёў праверку па скарзе. Прааналізаваўшы дадзеныя, атрыманыя ў выніку гэтай праверкі, галоўны судзьдзя Віцебскай вобласьці не знайшоў парушэньняў заканадаўства ў дзеяньнях свайго падначаленага. Апраўдваючы дзеяньні гарадоцкага судзьдзі, Хамічонак паведаміў скаржніку, што доступ да інфармацыі можа быць абмежаваны заканадаўствам у мэтах абароны гонару, годнасьці, прыватнага і сямейнага жыцьця грамадзян і поўнай рэалізацыі імі сваіх правоў.

**14.06.2015** Былы жыхар вёскі Паўлавічы Віцебскага раёну, спаленай на загад уладаў у 2012 годзе, **Андрэй Салаўёў** ня змог у дзень 70-годзьдзя Перамогі ў Другой сусьветнай вайне аддаць даніну памяці ваяру, які ўступіў у няроўны бой з праўзыходнымі сіламі нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Месца пахаваньня невядомага


Аляксей Уласюк, Павал Іваноў, Аляксандар Гранкін

салдата аказалася зьнішчаным – не засталося нават грудка.

Андрэй Салаўёў, паспрабаваў даведацца ва ўладаў пра лёс месца пахаваньня. Аднак ні ў адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску (у 1992 годзе землі вёскі былі перададзеныя ў распараджэньне гораду), ні ў Ноўкінскім сельскім савеце ён ня змог дамагчыся ад чыноўнікаў уцямнага адказу.

У выніку Андрэй Лукіч вырашыў зьвярнуцца ў пракуратуру. У сваёй заяве на імя пракурора гораду Віцебску ён просіць «даць прававую ацэнку зьнішчэньню месца пахаваньня воіна Чырвонай Арміі, які загінуў пры абароне Айчыны ад карычневай чумы».

**18.06.2015** Спроба распаўсюду духоўнай літаратуры на вуліцах Віцебску завяршылася для пасьлядоўнікаў Міжнароднага таварыства сьвядомасьці Крышны затрыманьнем і некалькімі гадзінамі, праведзенымі ў міліцэйскім пастарунку. Непасрэдны ўдзел у затрыманьні вернікаў браў галоўны спэцыяліст аддзелу па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Віцебскага аблвыканкаму Сяргей Фадзеенкаў.

Распавядае адзін з затрыманых **Аляксандар Гранкін**: «17 чэрвеня я знаёміў людзей у Віцебску зь ведычнымі ведамі аб правільным харчаваньні, здаровым ладзе жыцьця, самаразьвіцьці і філязофіі ўсходняй рэлігіі Гаудыя-вайшнавізму. Тым грамадзянам, якія праяўлялі жывую цікавасьць да гэтых тэмаў, мной дарыліся кнігі і брашуры. Галоўны спэцыяліст аддзелу па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Віцебскага аблвыканкаму Фадзеенкаў, не праяўляючы ніякай цікавасьці да згаданых тэмаў, супраць маёй волі забраў у мяне чатыры кнігі, дзьве зь якіх потым вярнуў. Мае неаднаразовыя патрабаваньні вярнуць астатнія кнігі ён праігнараваў».

8-10 кнігаў былі адабраныя і ў іншага верніка, **Паўла Іванова**: «Фадзеенкаў разам зь невядомым мне чалавекам, не прадставіўшыся, без тлумачэньня прычын, з прымяненьнем фізычнай сілы адвёў мяне ў больш бязьлюднае месца, дзе забраў у мяне кнігі. Пасьля чаго падманным шляхам завабіў мяне ў будынак Камітэту дзяржаўнага кантролю, дзе ўтрымліваў супраць маёй волі».

Яшчэ адзін пацярпелы, **Аляксей Уласюк** сьцьвярджае, што ў дачыненьні да яго таксама прымянялася фізычная сіла. Ён таксама апынуўся ў будынку Камітэту дзяржаўнага кантролю, куды яго, паводле ягоных словаў, завялі гвалтоўна і пасьля перашкаджалі выхаду вонкі.

Супрацоўнікі міліцыі, якія прыбылі на месца, даставілі вернікаў у АУС Кастрычніцкага раёну Віцебску. Крышнаіты кажуць, што там іх пратрымалі амаль пяць гадзін, адкуль адпусьцілі пасьля спраўджваньня асобаў без складаньня прата-


Мікалай Шарах

колаў.

Вернікі лічаць, што сваімі супрацьпраўнымі дзеяньнямі галоўны спэцыяліст аддзелу па справах рэлігіяў Фадзеенкаў перашкодзіў рэалізацыі іх правоў на свабоднае выказваньне меркаваньня і на свабоду думкі, сумленьня і рэлігіі, неправамерна завалодаў маёмасьцю, якая належала ім, і пазбавіў іх волі.

**23.06.2015** Пяршоўка Белхімпрафсаюзу на заводзе «Шкловалакно» ў Полацку пакуль ня хоча бачыць у камісіі па калектыўных перамовах з наймальнікам прадстаўніка рабочых ад Свабоднага прафсаюзу. Хоць дамоўленасьць пра гэта была дасягнутая на міжнародным сэмінары ў прысутнасьці **старшыні Белхімпрафсаюзу Сьвятланы Клачок** і **старшыні ФПБ Міхаіла Орды**.

Старшыня першаснай арганізацыі Белхімпрафсаюзу работнікаў ААТ «Полацак-Шкловалакно» Тацьцяна Гурава 23 чэрвеня паведаміла Свабоднаму прафсаюзу, які дзейнічае на гэтым жа прадпрыемстве, пра заўчаснасьць уключэньня прадстаўніка рабочых ад Свабоднага прафсаюзу ў камісію па калектыўных перамовах з наймальнікам. Гурава тлумачыць такое рашэньне тым, што «Саветам (пры Міністэрстве працы) па пытаньнях удасканаленьня заканадаўства ў сацыяльна-працоўнай сфэры не прынятыя рашэньні па праекце Кіруючых прынцыпаў вядзеньня калектыўных перамоў на ўзроўні прадпрыемстваў, дзе дзейнічаюць некалькі прафсаюзных арганізацыяў, выпрацаваных падчас працы сэмінару».

Аднак на самім сэмінары Міжнароднай арганізацыі працы, які прайшоў 14 траўня ў Менску, не ўзьнікла ніякіх пярэчаньняў па стварэньні адзінай прафсаюзнай камісіі для перамоваў з наймальнікам – ані з боку Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, ані з боку Белхімпрафсаюзу і Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі, ані з боку наймальнікаў.

Безь пярэчаньняў на сэмінары была прынятая норма Кіруючых прынцыпаў пра «ўключэньне ў склад камісіі па вядзеньні калектыўных перамоваў прадстаўнікоў усіх першасных прафсаюзных арганізацыяў, якія дзейнічаюць на прадпрыемстве, па рашэньні іх выбарных органаў, прапарцыйна колькасьці (але ня менш за аднаго чалавека), з правам замены».

**Актывіст Свабоднага прафсаюзу**, рабочы заводу «Шкловалакно» **Мікалай Шарах**: «Для нас такі адказ заводзкага Белхімпрафсаюзу не зьяўляецца нечаканым. Яны не адмаўляюцца ўключыць нашага прадстаўніка ў камісію, аднак выстаўляюць дадатковыя ўмовы, не агавораныя на міжнародным сэмінары. Такім чынам, яны выстаўляюць сябе не зусім добрасумленнымі партнэрамі перад Міжнароднай арганізацыяй працы».


Дзьмітры Дзякаў

**26.06.2015 Сябра аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Дзьмітры Дзякаў** паведаміў, што да яго дахаты прыйшлі супрацоўнікі міліцыі. Хлопец адмовіўся адказваць на іх пытаньні.

Дзьмітры Дзякаў ніколі не хаваў, што расьцяжку "Свабоду палітвязьням" на вуліцы Ленінградзкай у Віцебску вывесіў ён – інфармацыя пра гэта 14 траўня шырока разышлася па інтэрнэт-сайтах. Але яго зьбянтэжыў падыход міліцыянтаў да гэтай справы.

"Дзьмітры патэлефанаваў і сказаў, што яго зьбіраюцца апытаць у якасьці сьведкі правапарушэньня. І што яму паказалі раздрукоўкі з інтэрнэту, дзе напісана, што сьцяг вывесіў ён. Чаму сьведкі? Навошта было прыходзіць дахаты, калі можна выклікаць у пастарунак афіцыйна – позвай? Дзьмітры сказаў, што ён адмовіўся адказваць на пытаньні, спаслаўшыся на права не сьведчыць супраць сябе, гарантаванае 27-м артыкулам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь", — распавёў **праваабаронца Павал Левінаў**.

**28.06.2015** Упраўленьне Сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці ня лічыць заяўнікамі сяброў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ, якія знайшлі чалавечыя парэшткі паблізу вёскі Хайсы. На падставе гэтага сьледчыя органы адмаўляюць ім у атрыманьні пастановы аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы і ў азнаямленьні іх з матэрыяламі праверкі, праведзенай аддзяленьнем СК па Віцебскім раёне.

Згодна зь дзейным крымінальным законам, заяўнікамі зьяўляюцца грамадзянін альбо група грамадзян, якія ў вуснай або пісьмовай форме паведамілі ўладам пра злачынства, якое адбылося або рыхтуецца.

Калі ў лістападзе 2014 году былі знойдзеныя шматлікія косткавыя парэшткі людзей з прыкметамі гвалтоўнай сьмерці, сябры КХП БНФ зьвярнуліся з заявамі ў мясцовыя органы ўлады: у сьледчы камітэт і ў міліцыю. У заявах партыйныя актывісты паведамілі пра сваю страшную знаходку.

Праверка іх паведамленьня была даручаная СК па Віцебскім раёне. Работнікі гэтай дзяржаўнай установы ў тэрміновым парадку забралі зь ямін некалькі чалавечых чэрапаў меркавана з кулявымі адтулінамі ў патылічнай частцы, некалькі гільзаў і куль ад наразной агнястрэльнай зброі, фрагмэнты вопраткі і абутку.

Усе гэтыя прадметы былі перададзеныя экспэртам, каб яны вызначылі час масавай гібелі людзей, іх пол і ўзрост, від агнястрэльнай зброі, з дапамогай якой адбывалася забойства людзей.

Па сканчэньні 6 месяцаў начальнік аддзелу СК па Віцебскім раёне Аляксей Лар-

кін паведаміў апазыцыянэрам пра тое, што сьледзтва не здабыла дастатковых дадзеных для такіх працэсуальных дзеяньняў, як распачацьце і расьсьледаваньне крымінальнай справы па факце масавых расстрэлаў грамадзян.

Апроч таго, спадар Ларкіна паведаміў сябрам КХП БНФ, якія падпісалі заявы ў органы ўлады аб выяўленьні парэшткаў расстраляных людзей, што яны не зьяўляюцца заяўнікамі. А гэта азначае, што яны аўтаматычна пазбаўляюцца працэсуальных правоў, у тым ліку атрымліваць і аспрэчваць у судзе пастанову аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы, а таксама знаёміцца з матэрыялямі праверкі.

Аднак апазыцыйныя актывісты не пагадзіліся з дыскрымінацыйнымі, на іх думку, дзеяньнямі начальніка аддзелу СК А. Ларкіна і падалі на яго скаргу ва Ўпраўленьне СК па Віцебскай вобласьці, у якой прасілі аднавіць іх працэсуальныя правы заяўнікаў.

Адказ на зварот сябраў КХП БНФ падпісаў начальнік Упраўленьня СК па Віцебскай вобласьці Ўладзімер Шалухин. Ён пацьвердзіў і зацьвердзіў пазыцыю сваіх падначаленых з раённага аддзяленьня. На яго думку, апазыцыянеры не зьяўляюцца сапраўднымі заяўнікамі і таму пазбаўленыя ўсіх працэсуальных правоў у межах крымінальна-працэсуальнага закону.

На гэтай падставе ён не знаходзіць службовых і працэсуальных парушэньняў з боку яго падначаленага А. Ларкіна і ня бачыць прычын для прыцягненьня яго да якога-кольвек пакараньня.

## Маніторынг судовых працэсаў

**01.07.2014** Судзьдзя суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Тацьцяна Жураўкова вынесла пастанову аб спыненьні прымусовых мер бясьпекі і лекаваньня ў дачыненьні да віцебскага **праваабаронцы Валера Місьнікава**. Такога рашэньня суду праваабаронца дамагаўся больш за шэсьць гадоў.

Перасьлед Валера Місьнікава з выкарыстаньнем прымусовага псыхіятрычнага лячэньня распачаўся ў верасьні 2007 году. Тады пастановай суду Кастрычніцкага раёну Віцебску да праваабаронцы былі ўжытыя прымусовыя меры бясьпекі і лячэньня ў сувязі з учыненьнем, у стане бесьсьвядомасьці, грамадзка небясьпечных дзеяньняў, прадугледжаных арт. 269 (Абраза прадстаўніка ўлады), ч. 2 арт. 377 (Крадзеж, зьнішчэньне, пашкоджаньне або ўтойваньне дакумэнтаў, штампаў, пячатак, крадзеж блянкаў). Судзьдзя Жураўкова ў закрытым судовым пасяджэньні палічыла даказанымі факты таго, што Місьнікаў публічна абразіў работніка пракуратуры і выкраў з будынку абласной пракуратуры матэрыялы сваёй крымінальнай справы.

Дзеля лекаваньня Місьнікаў быў накіраваны ў УАЗ «Браслаўскі абласны псыхіятрычны шпіталь », які знаходзіцца ў в. Слабодка Браслаўскага раёну Віцебскай вобласьці, дзе ён правёў больш за сем месяцаў. Пад ціскам Сусьветнай псыхіятрычнай асацыяцыі (Швэйцарыя) у траўні 2008 году адміністрацыя псыхлякарні зьвярнулася ў суд з просьбай зьмякчыць ўмовы лячэньня – замяніць знаходжаньне ў закрытым псыхіятрычным шпіталі на прымусовае амбуляторнае назіраньне і лячэньне ў псыхіятра па месцы жыхарства. Хадайніцтва было задаволенае, і да красавіка 2014 году Валер Місьнікаў штомесяц сустракаўся са сваім які лечачым урачом-псыхіятрам.

Падчас кожнай сустрэчы з доктарам праваабаронца заяўляў пра тое, што яму няма неабходнасьці ў назіраньні і лячэньні ад псыхіятрычнага захворваньня, бо адчувае сябе здаровым. Ён настойліва патрабаваў ад кіраўніцтва УАЗ «Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі» вырашыць пытаньне аб спыненьні прымяненьня прымусовых мер бясьпекі і лячэньня.

Але толькі па заканчэньні шасьці гадоў зьнявагаў камісіяй лекараў было вызначана, што ў Місьнікава псыхічны стан палепшыўся і наступіла такое зьмяненьне характару захворваньня, пры якім адпала неабходнасьць у прымусовых мерах бясьпекі і лячэньня ў выглядзе амбуляторнага назіраньня. Камісія клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі, аднак, палічыла, што праваабаронцу трэба ўсё ж пакінуць пад дыспансэрным наглядам.

У выніку суду не засталося нічога, як пагадзіцца з рашэньнем мэдычнай камісіі і вынесьці пастанову аб спыненьні ў дачыненьні да Валера Місьнікава амбуляторнага назіраньня і лекаваньня ў псыхіятра.

**22.07.2014** Актывістка **Надзея Куканос** выклікала міліцыю, каб тая ўгамавала п’яную кабету, якая чаплялася да яе. Калі праз паўгадзіны міліцэйскі нарад прыбыў на месца здарэньня, сьлед дэбашыркі прастыў. Але міліцыянты вырашылі не вяртацца ў свой пастарунак зь мілым ліхам і даставілі туды саму актывістку. У пастарунку на яе быў складзены пратакол – нібыта за фальшывы выклік міліцыі.


Надзея Куканос

Потым быў суд – актывістку пакаралі. Надзея Куканос абскардзіла рашэньне пра пакараньне, і – рэдкі выпадак – у абласным судзе прыслухаліся да аргумэнтаў актывісткі. Пастанову суду першай інстанцыі скасавалі, а справу накіравалі на новы разгляд.

Інцыдэнт, які паклаў пачатак справе, адбыўся ў раёне аўтавакзалу Віцебску яшчэ ў сакавіку. Надзея Куканос прасіла міліцыянтаў, якія прыбылі на яе выклік, каб тыя прагледзелі запісы камэраўназіраньня і апыталі сьведак, што пацьвердзіла б факт канфлікту. Аднак супрацоўнікі міліцыі нічога гэткага рабіць ня сталі.

Пра далейшае распавядае актывістка: «У мяне адабралі мабільны тэлефон, выкруцілі мне рукі, не далі ўзяць верхнюю вопратку і даставілі мяне ў Чыгуначны РАУС. У дачыненьні да мяне былі складзеныя тры адміністрацыйныя пратаколы: паводле артыкулу 17.6 КаАП – заведама фальшывае паведамленьне, якое пацягнула рэагаваньне супрацоўнікаў міліцыі, паводле артыкулаў 23.5 і 23.4 – зьнявага супрацоўнікаў міліцыі і непадпарадкаваньне законным патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі. У гэты самы дзень я была дастаўленая ў будынак суду Чыгуначнага раёну і судзьдзя Дзягода прыняў да свайго разгляду адміністрацыйныя матэрыялы».

Надзея Куканос працягвае: «13 сакавіка суд зрабіў перапынак у судовым паседжаньні да 21 сакавіка. Да 21 сакавіка я самастойна сабрала доказы ўласнай невінаватасьці: выпатрабавала дадзеныя камэры відэаназіраньня і перапісала іх на свой дыск, знайшла ўсіх сьведак і перапісала іх прозьвішчы, аплаціла ім праезд да Віцебску, заключыла пагадненьне з адвакатам і заплаціла яму».

«І вось 21 сакавіка мы дружнай кампаніяй – я, адвакат і сьведкі – зьявіліся ў судовае паседжаньне. Убачыўшы нашу кампанію, судзьдзя Дзягода, нічым не матываваўшы, судовае паседжаньне праводзіць адмовіўся. А праз 2 месяцы, 16 траўня, я атрымала ліст з позвай, зь якой я даведалася, што мне неабходна прыбыць 13 траўня ў суд. Інакш кажучы, пра месца і час правядзеньня судовага паседжаньня я належным чынам апавешчаная не была. 16 траўня па гэтай позьве я ўсё ж прыйшла ў суд і даведалася, што 13 траўня ў маю адсутнасьць, у адсутнасьць адваката, без апытаньня сьведак, без дасьледаваньня якіх-небудзь абставін зьдзяйсьненьня адміністрацыйнага правапарушэньня судзьдзём Дзягодам была сфабрыкаваная пастанова, якой ён прызнаў мяне вінаватай», – распавяла Надзея Куканос.

Цяпер рашэньне ў дачыненьні да актывісткі скасаванае. Судзьдзя Віцебскага абласнога суду Сьвятлана Іванова пагадзілася з Надзеяй Куканос, што справа су-


Міхаіл Пятроўскі

праць яе вялася з парушэньнямі працэсуальнага заканадаўства.

**22.07.2014** Судзьдзя суду Лёзьненскага раёну Віцебскай вобласьці Сьняжана Кіндзеева вынесла пастанову пра спыненьне адміністрацыйнай справы ў дачыненьні да **сябра палітвыканкаму Віцебскай абласной арганізацыі Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасьці Міхаіла Пятроўскага**. Такая пастанова вынесеная ў сувязі з тым, што скончыўся тэрмін накладаньня адміністрацыйнага спагнаньня.

Да адміністрацыйнага перасьледу палітыка спрычынілася тая акалічнасьць, што пры канцы траўня ён зьвярнуўся ў пракуратуру з заявай. Міхаіл Пятроўскі паведамляў пракурору Лёзьненскага раёну Вячаславу Котаву пра два факты незаконнай агітацыі з боку сяброў выбарчых камісіяў у пэрыяд галасаваньня на мясцовых выбарах, якія праходзілі на пачатку бягучага году ў Беларусі.

Праведзеная пракуратурай праверка паведамленьня партыйнага актывіста ня выявіла парушэньняў дзейнага выбарчага заканадаўства. Матэрыялы праверкі былі перададзеныя ў Лёзьненскі раённы аддзел міліцыі, дзе на Міхаіла Мікалаевіча быў складзены адміністрацыйны пратакол аб зьдзяйсьненьні ім правапарушэньня паводле арт. 24.4 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (заведама фальшывае тлумачэньне або заява).

Паводле гэтага артыкулу партыйцу  пагражаў штраф у памеры ад дзесяці да пяцідзесяці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт. Пасьля складаньня пратаколу міліцыя перадала яго ў суд Лёзьненскага раёна для разгляду па сутнасьці справы. Аднак суд палічыў недастатковай доказную базу для пачатку адміністрацыйнага працэсу, і матэрыялы справы былі вернутыя ў міліцыю на дапрацоўку.

Дапрацоўка зацягнулася, і калі матэрыялы справы зноў аказаліся ў судзе, мінуў двухмесячны тэрмін, на працягу якога, паводле закону, павінна быць разгледжаная адміністрацыйная справа. На гэтай падставе судом і была спыненая вытворчасьць па адміністратыўнай справе ў дачыненьні да Міхаіла Пятроўскага.

**30.07.2014** У судзе Чыгуначнага раёну Віцебску распачаўся новы разгляд адміністрацыйнай справы ў дачыненьні да актывісткі **Надзеі Куканос**. Справу вядзе судзьдзя Алена Цыганкова. 30 ліпеня судовае паседжаньне пачалося са значным спазьненьнем, і адна з выкліканых у суд сьведак, **Людміла Савельева**, падала наконт гэтага скаргу. Пасьля, паводле слоў спадарыні Савельевай, судзьдзя запрасіла яе ў свой габінэт, дзе зьневажала яе і пагражала прыцягнуць да адказнасьці за фальшывыя паказаньні. У выніку жанчына мусіла зьвярнуцца да лекараў, якіх выклікалі наўпрост у суд…


Людміла Савельева

«Судзьдзя пытала ў мяне: Хто пісаў, хто дыктаваў гэтую заяву, хто дапамагаў, хто? Потым была выкліканая хуткая. Я вельмі доўга сядзела на калідоры. Прыехала хуткая. Судзьдзя крычала ім: Яна можа даваць паказаньні? Далей ў шпіталі хуткай дапамогі мне зрабілі кардыяграму сэрца, зьмерылі ціск – у мяне на той момант было 180 на 100. Я вельмі абураная паводзінамі судзьдзі Цыганковай», – распавяла Людміла Савельева.

**09.08.2014** Жыхар Віцебску **Павал Тулубенскі** зьвярнуўся з заявай у Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусі. У сваёй заяве ён просіць кіраўніцтва вышэйшай судовай інстанцыі краіны прыцягнуць да адказнасьці і адхіліць ад займаемай пасады старшыню суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Яўгена Бурунова. На думку заяўніка, судзьдзя Буруноў вынес у дачыненьні да яго неправасуднае рашэньне па адміністрацыйнай справе.

Апроч таго, Павал Тулубенскі настойвае на кампэнсацыі яму маральнай шкоды ў памеры 3 000 000 рублёў і вяртаньні грашовых сродкаў, выдаткаваных ім на аплату дзяржаўнай пошліны, у памеры 300 000 рублёў.

Прычынай звароту віцебчука ў ВС РБ паслужыла вынесеная ў красавіку 2014 году судовая пастанова. На думку заяўніка, яна было неабгрунтаванай і прадузятай. Згодна з гэтай пастановай, Тулубенскі быў прызнаны вінаватым у зьдзяйсьненьні правапарушэньня, прадугледжанага арт. 9.2 (паклёп) КаАП Рэспублікі Беларусь, і атрымаў штраф у памеры 20 базавых велічынь на суму 3 000 000 рублёў.

Павал Васільевіч упэўнены ў тым, што ніякіх законных падстаў для ўзбуджэньня адміністрацыйнага судаводзтва і вынясеньня названай судовай пастановы старшыня суду Буруноў ня меў. Судовае разьбіральніцтва ён палічыў прадузятым – судзьдзя ўзяў бок пацярпелага – С.А. Літвінчука, які зьяўляецца кіраўніком камэрцыйнай структуры ТДА «НВП Мера».

Спадар Тубуленский лічыць, што матывам паводзін судзьдзі зьяўляецца магчымая спроба запалохаць асоб, якія падпісалі абгрунтаваную калектыўную скаргу на адрас прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі на дзеяньні кіраўніцтва ТДА «НВП Мера», што парушаюць іх правы і законныя інтарэсы.

На пачатку ліпеня бягучага году пастановай старшыні Віцебскага абласнога суду Мікалая Хамічонка пастанова судзьдзі Бурунова ад 18 красавіка была скасаваная, а справа аб адміністрацыйным правапарушэньні ў дачыненьні да Тулубенскага спыненая. Старшыня абласнога суду матываваў сваё рашэньне тым, што на дзень вынясеньня пастановы судом першай інстанцыі мінуў тэрмін накладаньня адмі-


Павал Тулубенскі

ністрацыйнага спагнаньня, вызначаны працэсуальным законам.

Павал Тулубенскі ўпэўнены: судзьдзя Буруноў ведаў пра тое, што тэрмін накладаньня адміністрацыйнага спагнаньня на яго скончыўся, але, у парушэньне закону, прыняў рашэньне на карысьць Літвінчука. Тым ня менш, нягледзячы на грубыя парушэньні закону з боку судзьдзі, старшыня абласнога суду не наважыўся належным чынам прарэагаваць на самавольства і беззаконьне, дапушчаныя яго падначаленым і не прыцягнуў яго да заслужанага пакараньня. Апошняя акалічнасьць і змусіла жыхара Віцебску зьвярнуцца з заявай у Вярхоўны суд.

**18.08.2014** Суд Полацку адмовіўся разглядаць пазоў супраць ААТ «Полацак-Шкловалакно» аб ліквідацыі дыскрымінацыі ў працоўных адносінах. Заяву ў суд накіроўваў **старшыня Свабоднага прафсаюзу** рабочых заводу «Шкловалакно» **Віктар Стукаў**. Гэта быў паўторны зварот у суд па наноў адкрытых абставінах, аналягічная адмова суду ў судовай абароне была ў сакавіку 2013 году.

Рабочыя заводу бачаць дыскрымінацыю ў пункце калектыўнай дамовы, які абмяжоўвае права рабочага на абарону ад звальненьня паводле прыкметы ўдзелу ці няўдзелу ў прафсаюзе. У ААТ «Полацак-Шкловалакно» каб звольніць рабочага, які зьяўляецца сябрам Белхімпрафсаюзу, патрабуецца згода гэтага прафсаюзу. Але калі рабочы ўваходзіць у Свабодны прафсаюз Беларускі (СПБ), то дырэктару прадпрыемства дастаткова толькі праінфармаваць прафсаюз пра звальненьне яго сябра.

Такое новаўвядзеньне ў калектыўную дамову ААТ «Полацак-Шкловалакно» ўнесла са згоды Белхімпрафсаюзу з 1 студзеня 2013 году. Пратэст Свабоднага прафсаюзу наймальнік ня ўзяў пад увагу, хаця зьмена пагаршала прававое становішча толькі рабочых з СПБ. У сакавіку 2013 году дырэктар «Шкловалакна» Мікалай Качаноўскі скарыстаўся дыскрымінацыйнай нормай калектыўнай дамовы, каб звольніць рабочага Віктара Стукава, старшыню Свабоднага прафсаюзу.

Працоўны кодэкс Рэспублікі Беларусь дае права рабочаму зьвярнуцца ў суд, калі ён лічыць, што быў падвергнуты дыскрымінацыі ў працоўных адносінах. Аднак суды ўсіх узроўняў, аж да Вярхоўнага і Канстытуцыйнага, адмовілі рабочаму заводу ў разглядзе па сутнасьці яго патрабаваньня аб ліквідацыі дыскрымінацыі.

У сакавіку 2013 году Полацкі суд адмовіў Віктару Стукаву ў разглядзе па сутнасьці факту дыскрымінацыі і рэкамэндаваў яму зьвярнуцца ў прафсаюз для ліквідацыі дыскрымінацыі праз калектыўныя перамовы. Рэкамэндацыя суду была выкананая, але камісія па калектыўных перамовах заводу «Шкловалакно» адмовілася зьмяніць калектыўную дамову. З 31 ліпеня перамоўная камісія спыніла сваё існа-


Хрыстафор Жаляпаў

ваньне, бо скончыўся тэрмін калектыўнай дамовы. Менавіта гэтыя абставіны былі ўзятыя за аснову як наноў адкрытыя, каб заахвоціць суд Полацку зноў разгледзець факт дыскрымінацыі па сутнасьці.

**18.09.2014** Вярхоўны суд не абараніў права віцебчукоў на мірныя сходы. Ліст з адмовай абавязаць цэнтральную гарадзкую паліклініку выконваць рашэньне выканкаму, кіраўніцтва якой адмаўляецца заключаць дамовы на абслугоўваньне акцыяў, атрымаў віцебскі **абласны каардынатар руху “За свабоду” Хрыстафор Жаляпаў**.

Зьвяртаючыся ў Вярхоўны суд, спадар Жаляпаў чарговы раз спрабаваў вырашыць набалелую віцебскую праблему: раённыя адміністрацыі на працягу ўжо амаль пяці гадоў забараняюць праводзіць любыя акцыі з ініцыятывы мясцовых актывістаў. Спасылаюцца чыноўнікі на рашэньне Віцебскага гарвыканкаму, якое рэглямэнтуе парадак зваротаў па дазвол. Паводле гэтага рашэньня, разам з заяўкай ініцыятары мусяць падаваць дамовы на абслугоўваньне акцыяў супрацоўнікамі ЖКГ, цэнтральнай гарадзкой паліклінікай і міліцыяй. Аднак цэнтральная паліклініка заключыць такую дамову не пагадзілася ні разу, што і станавілася падставай для неаднаразовых забаронаў.

Годам раней віцебскія актывісты зьвярнуліся ў Кастрычніцкі райсуд, каб такім чынам змусіць кіраўніцтва паліклінікі выконваць прапісаны ў рашэньні гарвыканкаму парадак. Але 15 сакавіка 2013 году суд адмовіўся прыняць рашэньне на карысьць Хрыстафора Жаляпава. Паводле рашэньня суду, змусіць адміністрацыю аховы здароўя да заключэньня дамовы на абслугоўваньне акцыі немагчыма: маўляў, гэтая структура вольная вырашаць, ці хоча яна заключыць дамову, або не. І парадак, прадугледжаны рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму №881 “Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску”, такім чынам, абавязковы толькі для заяўнікаў: гэта яны мусяць заключаць дамовы на абслугоўваньне акцыяў. А другі бок, паводле суду, не абавязаны на гэта пагаджацца.

Аспрэчыць рашэньне Кастрычніцкага райсуду не ўдалося ў абласным судзе. А цяпер права на правядзеньне мірных сходаў і публічнае выказваньне не падтрымаў і Вярхоўны суд.

**24.09.2014** Прыёмная маці-выхавальніца **Сьвятлана Грачуліна** дамаглася таго, каб аддзел адукацыі Аршанскага райвыканкаму адклікаў яе з фармальнага адпачынку. У Воршы прайшоў першы ў Беларусі суд па пазове прыёмных бацькоў-выхавальнікаў да мясцовага аддзелу адукацыі, у якім разглядалася немагчымасьць работніка адмовіцца ад працоўнага водпуску.

Сутнасьць канфлікту Сьвятланы Грачулінай і аддзелу адукацыі палягала ў тым,


Сьвятлана Грачуліна

што жанчыну, якая зьяўляецца ня толькі мамай, але і выхавальнікам аддзелу адукацыі, чыноўнікі неаднаразова адпраўлялі ў фармальны адпачынак. Сёлета яе вымушана адправілі ў адпачынак з 28 ліпеня па 21 верасьня, хаця прыёмнае дзіця ўвесь гэты час заставалася зь ёй. У пазове Грачуліна прасіла прызнаць незаконным загад наймальніка аб прадастаўленьні адпачынку, прызнаць, што яна знаходзіцца на працоўным месцы, і абавязаць наймальніка выплаціць за гэты пэрыяд заробак, а не адпускныя.

Гэты суд стаў прэцэдэнтам, і прычынай яму паслужыла сыстэма адносін, якая склалася паміж прыёмнымі бацькамі і чыноўнікамі. Справа ў тым, што ў Беларусі прыёмныя бацькі – гэта ня толькі апекуны дзіцяці-сіраты (гэта значыць фактычна звычайныя бацькі), але і працаўнікі аддзелу адукацыі. Прывязка да мясцовага выканкаму ў выглядзе працоўнай дамовы, лічаць прыёмныя бацькі, робіць іх празьмерна залежнымі ад волі чыноўнікаў.

У судзе Сьвятлана Грачуліна настойвала на тым, што яна ня супраць, каб прыёмнае дзіця было зь ёй, але тады і адпачынак павінен паводле закону застацца нявыкарыстаным. За год нявыкарыстанага адпачынку работніку належыць кампэнсацыя. У выпадку са Сьвятланай гадавая кампэнсацыя – гэта 4,5 мільёны рублёў. Калі ж яе адпраўляюць у адпачынак фармальна, па факце і адпачыць яна не можа, і адначасова губляе прыстойную суму.

**Юрыст Алена Кашына**, якая займаецца праблемамі прыёмных сем’яў, падкрэсьлівае, што сытуацыя з фармальнымі адпачынкамі актуальная практычна для ўсёй краіны: “Ва ўсёй Беларусі, апроч Магілёўскай вобласьці, прыёмных бацькоў адпраўляюць у неіснуючыя адпачынкі. Толькі адзінкам атрымоўваецца сысьці ў рэальны адпачынак. Тады навошта гэтыя адпачынкі наогул патрэбны? Да мяне са скаргамі на фармалізм зьвяртаюцца прыёмныя бацькі з усёй краіны, аднак да суду справу ніхто даводзіць ня рызыкаваў”.

Аддзел адукацыі Аршанскага райвыканкаму яшчэ да паседжаньня настойваў на тым, што наймальнік можа адправіць работніка ў адпачынак і безь яго жаданьня. Пры гэтым фармальным адпачынак Сьвятланы Грачулінай там не лічылі. У дасудовай сустрэчы чыноўнікі адмовіліся ад прапановы суду пайсьці на міравое пагадненьне. Намесьнік начальніка аддзелу адукацыі Аксана Булаўка таксама заяўляла, што пазоў прызнаваць яны не зьбіраюцца.

“Пасьля публікацыі ў СМІ пазыцыя аддзелу адукацыі зьмянілася. Я нават не чакала. У судзе юрыст аддзелу адукацыі заявіла, што яны прапануюць мне міравое пагадненьне. Прапанавалі, што адклічуць мяне з адпачынку з 1 верасьня. Я па-

гадзілася, ня стала настойваць, каб прызнавалі нявыкарыстаным ўвесь адпачынак з 28 ліпеня, бо цалкам віну аддзелу адукацыі суд бы не наважыўся прызнаць. Для мяне важна было, каб аддзел адукацыі проста прызнаў сваю памылку, і ён зрабіў гэта", – сказала Грачуліна, падкрэсьліваючы, што надалей такое рашэньне суду дае ёй права зноў патрабаваць не адпраўляць яе ў адпачынак, калі не атрымаецца ўладкаваць дзіця, напрыклад, у лягер. – І я ўсьцешаная, што мы паказалі шлях астатнім бацькам, што магчыма адмаўляцца ад адпачынку, калі дзеці застаюцца зь імі", – дадала прыёмная маці-выхавальніца.

**02.10.2014** Судовая калегія Віцебскага абласнога суду адмовіла рабочаму ААТ «Полацак-Шкловалакно» ў судовай абароне. Пазоў аб ліквідацыі дыскрымінацыі ў дачыненьні да рабочага заводу **Віктара Стукава, кіраўніка пяршоўкі незалежнага прафсаюзу**, ужо паўтара года адмаўляюцца разгледзець па сутнасьці ў беларускіх судох. Ужо адбылося шэсьць судовых адмоваў у разглядзе пазову аб дыскрымінацыі – ад Полацкага раённага да Вярхоўнага судоў, – хоць у Працоўным кодэксе сказана: «Асобы, якія лічаць, што яны падвергліся дыскрымінацыі ў сфэры працоўных адносін, маюць права зьвярнуцца ў суд з адпаведнай заявай аб ліквідацыі дыскрымінацыі».

Пасьля скаргі рабочых аб дыскрымінацыі і парушэньні Указу ў адміністрацыю прэзыдэнта, для адказу рабочым скарга была перапраўленая ў Міністэрства працы, якое настойвала, што гэтая працоўная спрэчка павінна разглядацца ў судзе. Рабочым была зробленая спроба разгледзець працоўную спрэчку па наноў адкрытых абставінах, бо скончыўся тэрмін паўнамоцтваў камісіі па калектыўных перамовах заводу «Полацак-Шкловалакно», якая магла зьмяніць калектыўную дамову. Але суды ўпарта адмаўляюцца разгледзець пазоў аб дыскрымінацыі ў працоўных адносінах.

Нават калектыўны зварот працоўных заводу «Шкловалакно" ў Канстытуцыйны суд у лістападзе 2013 году са скаргай на дыскрымінацыю не падзейнічаў. Канстытуцыйны суд ня стаў разглядаць нормы калектыўнай дамовы ААТ «Полацак-Шкловалакно» на адпаведнасьць Канстытуцыі. Рабочыя лічаць, што ў калдамове парушаныя не толькі Працоўны кодэкс Беларусі, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, але і Ўказ Прэзыдэнта аб роўных сацыяльных гарантыях для працоўных аднй прафэсіі, а таксама міжнародныя забавязаньні краіны па выкананьні правоў грамадзян.

Судовая калегія Віцебскага абласнога суду таксама адмовіла Віктару Стукаву ў задавальненьні ягонага хадайніцтва аб ініцыяваньні звароту ў Канстытуцыйны суд наконт неадпаведнасьці калектыўнай дамовы Канстытуцыі Беларусі.

**24.10.2014** У сеціве распаўсюдзілася відэа з Полацку, у якім фігуруе «цывільны» Volkswagen, за стырном якога знаходзіўся апрануты ў форму супрацоўніка ДАІ мужчына. Кіроўца змушае аўтара роліку на Mercedes спыніцца, пасьля чаго падыходзіць і зьвяртаецца да яго ў нецэнзурнай форме. Паводле слоў аўтара роліку Міхаіла, ужо ў мінулую пятніцу адбыўся суд паводле двух артыкулаў КаАП, у якасьці абвінавачанага выступаў інспэктар, які ў выніку страціў сваю пасаду.

«Інспэктар ня быў апрануты па форме і спыніў машыну не па правілах, – распавёў пра інцыдэнт Міхаіл, які ехаў у якасьці пасажыра і распаўсюдзіў ролік. – Кіроўца


Алесь Шутаў

Mercedes (у якім усталяваны рэгістратар) ня даў перабудавацца Volkswagen перад уездам на мост. Перад мастом наш кіроўца скінуў хуткасьць. Мабыць, Volkswagen хацеў перабудавацца ў наш шэраг. У выніку з-за нашага манэўру ня змог. Але мы і не абавязаныя былі яго прапускаць. Нам пагражалі пазбавіць правоў, зьневажалі».

Міхаіл адразу запэўніў: «Нікуды, ні ў якія органы мы ня маем намеру зьвяртацца». Аднак, паводле яго слоў, зь міліцыі патэлефанавалі самі – пасьля зьяўленьня нататкі ў СМІ. ДАІ Віцебскай вобласьці ў дзень абвяшчэньня запісу паведаміла, што будзе праведзенае разьбіральніцтва. «Вынікам яго стаў суд, – распавёў Міхаіл. – На яго быў запрошаны мой сябар, ён жа кіроўца Mercedes. Пасяджэньне прайшло хутка. Справу разглядалі паводле двух артыкулаў: нецэнзурная лаянка ў грамадзкім месцы і пагроза. Інспэктара – супрацоўніка ДАІ Расонскага раёну – прызналі вінаватым і вызвалілі ад займанай пасады, прызначыўшы пры гэтым штраф».

**24.10.2014** У Віцебскім абласным судзе адбыўся разгляд скаргі **Тацьцяны Сячко**. Жыхарку Воршы аштрафавалі за распаўсюд улётак пра “Народны рэфэрэндум”, абвінаваціўшы яе ў парушэньні заканадаўства пра СМІ. Міністэрства інфармацыі пацьвердзіла, што ўлёткі да СМІ не належаць, але абласны суд ня ўзяў гэта пад увагу.

Раней, 11 верасьня, справу разглядаў аршанскі суд. Судзьдзя Алеся Дранькова пастанавіла аштрафаваць Тацьцяну Сячко. “За парушэньне заканадаўства аб СМІ” распаўсюдніца ўлётак атрымала штраф памерам 40 базавых велічынь.

“Гэта блізка да “верхняе планкі”, бо паводле артыкулу 22.9 прадугледжаны штраф ад 20 да 50 базавых велічынь, — падкрэсьлівае аршанскі **актывіст кампаніі “Гавары праўду” Алесь Шутаў**. – Убачыўшы такое, мы вырашылі зьвярнуцца ў Міністэрства інфармацыі. Бо ўлёткі – гэта ніяк ня СМІ, і пакараньне, ды такое жорсткае, выглядае беспадстаўным”.

У адказ на запыт аршанскіх актывістаў зь Міністэрства інфармацыі прыйшоў ліст, падпісаны намесьнікам міністра Ўладзімерам Матусевічам. У лісьце было сказана, што “згодна з ГОСТ 7.60-2005 “Выданьні. Асноўныя віды.Тэрміны і вызначэньні” і тэхнічных умоваў BY 100083317.002-2007 дасланая вамі друкаваная прадукцыя зьяўляецца непэрыядычным выданьнем і, адпаведна, не зьяўляецца сродкам масавай інфармацыі”.

Ліст зь Міністэрства інфармацыі Тацьцяна Сячко ўзяла з сабой на разгляд скаргі ў Віцебскім абласным судзе. На яе хадайніцтва судзьдзя абласнога суду Сьвятлана Іванова далучыла гэты ліст да судовай справы, аднак на вынік ён не паўплываў.

“Судзьдзя аблсуду не скасавала рашэньня суду першай інстанцыі, нягледзячы на тлумачэньні намесьніка міністра інфармацыі пра тое, што ўлёткі – гэта ня СМІ, і, адпаведна, распаўсюд ўлётак нельга лічыць парушэньнем заканадаўства аб СМІ”, – распавёў прысутны на разглядзе Алесь Шутаў.

**16.11.2014** Жыхар Воршы **Іван Іваноў** зьвярнуўся ў адміністрацыю прэзыдэнта са скаргай на судзьдзю суду Аршанскага раёну і гораду Воршы Алесю Драньковау. Вынік звароту: факт “неабачлівасьці” з боку судзьдзі прызнаны Вярхоўным Судом, у дачыненьні да яе прынятыя “меры ўзьдзеяньня”.

Нагодай для скаргі стала тое, што адразу пасьля заканчэньня судовага паседжаньня судзьдзя Дранькова разам з прадстаўніком абвінавачаньня па справе накіравалася ў краму, дзе яны куплялі сьпіртное. Іваноў палічыў такія дзеяньні непрацэсуальнымі адносінамі. Ён зьвярнуўся ў адміністрацыю прэзыдэнта, адкуль атрымаў адказ:

“Разгледзеўшы Ваш зварот наконт пытаньня непрацэсуальных адносін судзьдзі суду Аршанскага раёну і г. Воршы Драньковой А.А. з начальнікам Магілёўскай міжраённай інспэкцыі аховы жывёльнага і расьліннага сьвету Мельнікавым Д.А., паведамляем наступнае.

Вярхоўным Судом па выніках праверкі пацьверджаная прадстаўленая Вамі інфармацыя аб сумеснай паездцы на аўтамабілі і наведваньні крамы судзьдзёй Драньковой А.А. і Д.А. Мельнікавым пасьля судовага паседжаньня.

У сувязі з гэтым, пытаньні ўзаемаадносін судзьдзяў з работнікамі праваахоўных органаў, якія прадстаўляюць у судзе бок абвінавачаньня альбо ўдзельнічаюць у складаньні працэсуальных дакумэнтаў, што разглядаюцца ў судох, сталіся прадметам прынцыповага абмеркаваньня судзьдзямі і іншымі супрацоўнікамі суду Аршанскага раёну і г. Воршы.

Дапушчаны факт неабачлівасьці судзьдзі Драньковой А.А. у пазаслужбовых зносінах са службовай асобай інспэкцыі, які склаў пратакол і зьяўляўся стараной па справе пра адміністрацыйнае правапарушэньне, разгледжаны на паседжаньні прэзыдыюму Віцебскага абласнога суду.

Да судзьдзі Драньковой А.А. прынятыя адпаведныя меры ўзьдзеяньня, якія, на думку адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь і Вярхоўнага Суду, зьяўляюцца дастатковымі.

Беручы пад увагу выкладзенае, мяркуем, што падстаў для прыняцьця іншых мер па Вашым звароце з боку адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ня маецца”.

**25.11.2014** Судзьдзя Полацкага гарадзкога суду Ўладзімер Бясецкі прызнаў **былога палітвязьня Андрэя Гайдукова** вінаватым у парушэньні артыкулу 23.34 КаАП і за “правядзеньне несанкцыянаванага пікету з раздачай улётак” прысудзіў яму арышт на 10 сутак.

Інцыдэнт, які разьбіраўся ў судзе, адбыўся 24 лістапада ў Полацку. Міліцыя затрымала Гайдукова, які раздаваў мінакам улёткі пра палітвязьняў. На Андрэя Гайдукова ў міліцэйскім пастарунку склалі пратакол пра правапарушэньне і ўручылі по-


Андрэй Гайдукоў

зву ў суд – 27 лістапада на 16:30. Аднак на наступны дзень пасьля падзеі апоўдні Андрэю Гайдукову дахаты прынесьлі іншую позву: пра тое, што суд адбудзецца зараз жа, а 14:00.

“У судзе я заявіў, што мне патрэбны абаронца, і што я маю дамову зь менскім адвакатам. Але дабрацца так хутка да Полацку ў яго няма фізычнай магчымасьці. Судзьдзя Ўладзімер Бясецкі чакаць не пагадзіўся: ён сказаў, што дае мне паўгадзіны, каб я заключыў дамову з полацкім адвакатам. Давялося гэта зрабіць, і я лічу, што маё права на абарону ў судзе парушанае: спачатку суд быў прызначаны на пазьнейшую дату, а потым яго перанесьлі і, фактычна, не далі магчымасьці запрасіць да ўдзелу ў працэсе таго адваката, якому я давяраю”, – сказаў Андрэй Гайдукоў.

**03.12.2014** Суд Чыгуначнага раёну Віцебску разгледзеў адміністрацыйную справу **Пятра Бярлінава**, аднаго з удзельнікаў мастацкага пэрформансу “з птушкамі і клеткамі”. Спадар Бярлінаў да мастацкай акцыі ў падтрымку свабоды прэсы далучыўся выпадкова, але усё адно быў абвінавачаны паводле часткі 1 артыкулу 23.34 КаАП (парушэньне парадку арганізацыі ці правядзеньня масавых мерапрыемстваў).

З пратаколам, складзеным начальнікам аддзелу аховы правапарадку і прафіляктыкі РАУС Чыгуначнага раёну Віцебску маёрам Аляксандрам Рыбаковым, Пётар Бярлінаў не пагадзіўся і ад дачы паказаньняў супраць сябе адмовіўся, спаслаўшыся на артыкул 27 Канстытуцыі Беларусі.

Падчас разгляду справы абвінавачваны даў некалькі тлумачэньняў адносна ягонага затрыманьня з надуманых прычын 28 лістапада, якія аднак ніякім чынам не паўплывалі на ход вядзеньня справы.

Вывучыўшы матэрыялы справы, аргумэнты бакоў, судзьдзя Алена Цыганкова вынесла пастанову: адміністрацыйны арышт тэрмінам на трое сутак, у які мусіць быць залічаны час знаходжаньня спадара Бярлінава ў ізалятары часовага ўтрыманьня з 28 лістапада па 1 сьнежня.

**05.12.2014 Сябра аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Андрэя Гайдукова** асудзілі на 5 сутак арышту за раздачу ўлётак у падтрымку палітвязьняў. Суд адбыўся адразу пасьля таго, як актывіста выпусьцілі з-за кратаў пасьля 10-дзённага арышту, які ён адбываў таксама за раздачу ўлётак.

«Маці бачыла актывіста толькі 20 хвілін. Ён хворы: у яго кашаль, баліць горла», — паведаміла **каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД па Віцебшчыне Тацьцяна Севярынец**.

**14.12.2014 Сябра партыі КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў** пакінуў запіс у кнізе заўвагаў

і прапановаў суду Чыгуначнага раёну Віцебску. Ён паскардзіўся на парушэньне працэсуальных нормаў судзьдзёй Аленай Цыганковай, якая не пусьціла яго на адкрытае судовае паседжаньне. Вынік: скарга прызнаная абгрунтаванай.

Адказ на сваю скаргу Ян Дзяржаўцаў атрымаў за подпісам старшыні Чыгуначнага райсуду Раісы Лупянковай. У адказе паведамляецца: "Праверкай выяўлена, што судзьдзёй А.М. Цыганковай 9.12.2014 году было дапушчанае парушэньне патрабаваньняў артыкулу 2.14 ПВКаАП на адкрыты разгляд справы…" У выпадку выяўленьня гэткіх фактаў у далейшым "судзьдзя А.М. Цыганкова будзе прыцягнутая да дысцыплінарнай адказнасьці".

9 сьнежня Ян Дзяржаўцаў ня змог скарыстацца са свайго законнага права прысутнічаць на адкрытым судовым паседжаньні ў судзе. Судзьдзя Алена Цыганкова не дазволіла яму трапіць на адкрыты разгляд справы аб адміністрацыйным праваапарушэньні ў дачыненьні да грамадзяніна У.М. Сушчанкі паводле артыкулу 23.4 КаАП Рэспублікі Беларусь. У сувязі з гэтым актывіст вымушаны быў запатрабаваць кнігу заўвагаў і прапановаў суду.

**17.12.2014** У Чыгуначным райсудзе Віцебску завяршыўся апошні судовы працэс над удзельнікамі фотасэсіі «з клеткамі і птушкамі». Судовы працэс над **праваабаронцам Паўлам Левінавым** вяла судзьдзя Алена Цыганкова. Паводле яе рашэньня, Павал Левінаў мусіць выплаціць штраф у памеры 25 базавых адзінак — 3 мільёны 750 тысяч рублёў.

Сьведкаў на гэтым судзе не было. Супраць Паўла Левінава сьведчыў супрацоўнік Чыгуначнага РАУС, маёр Аляксандар Рыбакоў, які склаў на ўдзельнікаў фотасэсіі пратаколы правапарушэньня за несанкцыянаванае пікетаваньне. Паводле ягоных словаў, усе ўдзельнікі фотасэсіі, якія сфатаграфаваліся на фоне графіці з такімі ж папяровымі клеткамі і птушкамі-арыгамі з газэт, каб працягнуць ідэю невядомага мастака, — без дазволу ўладаў выказвалі свае «асабістыя і грамадзкія інтарэсы».

Маёр міліцыі не хавае, што справы супраць семярых жыхароў Віцебску былі распачатыя з ініцыятывы начальніка аддзелу аховы правапарадку і прафіляктыкі абласной міліцэйскай управы Аляксандра Каліноўскага. Ён даў загад, каб Чыгуначны РАУС «разабраўся» з журналістамі і актывістамі, якія сфатаграфаваліся ў грамадзкім месцы. Бо потым гэтыя фотаздымкі трапілі ў інтэрнэт, што і стала для міліцыянтаў галоўнай прыкметай і доказам правапарушэньня.

Давесьці суду іншае меркаваньне Паўлу Левінаву не далі. Судзьдзя Алена Цыганкова не задаволіла ніводнага хадайніцтва праваабаронцы, у тым ліку пра перанос паседжаньня на пазьнейшы час, бо ён прыйшоў у суд хворым. Дакумэнт з паліклінікі судзьдзя не прыняла, выклікаць хуткую мэдычную дапамогу не пагадзілася. А наконт хадайніцтваў заявіла, што іх «занадта шмат», і зрабіла Паўлу Левінаву дзьве заўвагі — за тое, што ён нібыта сьвядома зацягвае працэс.

Спадарыня Цыганкова не дазволіла зрабіць нават дзьвюххвілінны перапынак — каб Павал Левінаў занёс скаргу старшыню суду ў суседні габінэт. Скарга тычылася паводзінаў судзьдзі Алены Цыганковай, якая катэгарычна не задавальняе хадайніцтвы і не прымае адводаў сваёй кандыдатуры.

Адзіным хадайніцтвам, задаволеным судзьдзёй яшчэ ў першы дзень суду, 12

сьнежня, быў дазвол на відэаздымкі працэсу. Аднак Алена Цыганкова забараніла здымаць суд прысутным у залі, дазволіўшы гэта толькі падсуднаму. Таму Левінаву давялося выступаць з хадайніцтвамі і даваць паказаньні, трымаючы ў руках відэакамэру.

Адно з хадайніцтваў праваабаронцы было пра тое, каб далучыць да матэрыялаў справы фотаздымкі з інтэрнэту, дзе сам Павал Левінаў праводзіць аднаасобны пікет. Адбывалася гэта год таму, таксама ў лістападзе, аднак пад увагу міліцыі чамусьці ня трапіла. На думку спадара Левінава, пільны інтарэс менавіта да фотасэсіі журналістаў і актывістаў — відавочны. Але чым ён выкліканы — засталося невядомым.

Раней у судзе Чыгуначнага раёну адбыліся працэсы па адміністрацыйных справах астатніх удзельнікаў мастацкай імпрэзы. Судзьдзі Дзяніс Губанаў і Алена Цыганкова прызналі ўсіх удзельнікаў фотасэсіі правапарушальнікамі. Апроч Паўла Левінава, нібыта за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі штрафы атрымалі **журналісты Зьміцер Казакевіч**, **Алена Сьцяпанава**, **Кастусь Мардзьвінцаў** (па 20 базавых велічыняў кожны), **каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Тацьцяна Севярынец** (25 базавых велічыняў) і **актывістка таго ж аргкамітэту Алена Шабуня** (18 базавых велічыняў). Выпадковы мінак **Пётар Бярлінаў**, які далучыўся да фотасэсіі, быў асуджаны на трое сутак арышту.

**20.12.2014** Суд Полацку прыняў рашэньне абавязаць дырэктара ААТ «Полацак-Шкловалакно» не чыніць перашкоды ў наведваньні заводу **старшыню Свабоднага прафсаюзу рабочых прадпрыемства Віктару Стукаву**. Рашэньне ўступіць у сілу 1 студзеня 2015 году, калі да 31 сьнежня дырэктар не абскардзіць рашэньне ў Віцебскі абласны суд. Абскарджаньне можа зацягнуць наведваньне заводу прадстаўніком Свабоднага прафсаюзу яшчэ на паўтара месяца.

Зварот у суд на дырэктара ААТ «Полацк-Шкловалакно» быў прыняты Свабодным прафсаюзам на запатрабаваньне рабочых. Апошнія палічылі сябе дыскрымінаванымі тым, што іх прадстаўнік ня можа прайсьці да працоўнага месца сябраў Свабоднага прафсаюзу, у той час як, да чальцоў «Белхімпрафсаюзу» пастаянна прыходзяць прадстаўнікі іх прафсаюзу.

Рабочых ААТ «Полацак-Шкловалакно» ў судзе прадстаўлялі **намесьнік старшыні Свабоднага прафсаюзу Беларускага па Віцебскай вобласьці Мікалай Шарах**, які працуе на заводзе памочнікам майстра, і старшыня заводзкай пяршоўкі Віктар Стукаў, які прапрацаваў на заводзе 29 гадоў і які знаходзіцца на датэрміновай пэнсіі за працу ў шкодных умовах працы.

У суд былі пададзеныя доказы, што Свабодны прафсаюз на заводзе зарэгістраваны мясцовымі органамі ўлады; дакумэнты, якія пацьвярджаюць, што спадар Стукаў зьяўляецца старшынём першаснай арганізацыі; дакумэнты пра пералічэньне рабочымі праз бухгальтэрыю заводу прафсаюзных унёскаў, якія пацьвярджаюць факт прыналежнасьці працоўных да Свабоднага прафсаюзу Беларускага.

Мэтай звароту ў суд з пазовам сталася ліквідацыя дыскрымінацыі і перашкодаў у наведваньні старшынём Свабоднага прафсаюзу прадпрыемства, якія чыняцца з боку адміністрацыі заводу. Пры гэтым, на думку прадстаўнікоў Свабоднага праф-

саюзу, ці будзе гэта забясьпечана праз выдачу пропуску або ў іншым парадку – значэньня ня мае. Неабходнасьць наведваньня працоўных месцаў сябраў прафсаюзу не зьвязаная з правядзеньнем грамадзкага кантролю, парадак якога ўрэгуляваны дзейным заканадаўствам. Рабочыя прасілі абавязаць дырэктара заводу не перашкаджаць старшыню Свабоднага прафсаюза Віктару Стукаву наведваць прадпрыемства.

У судовым паседжаньні і ў пісьмовых пярэчаньнях на пазоў прадстаўнік адказчыка Васіль Зацірахін паказаў, што пазоўныя патрабаваньні не прызнае ў поўным аб’ёме. На думку адміністрацыі заводу, ААТ «Полацак-Шкловалакно» эксплёатуе небясьпечныя вытворчыя аб’екты, зьяўляецца рэжымным прадпрыемствам, і адвольнае наведваньне яго прамысловых аб’ектаў не дапускаецца.

Згодна з паведамленьнем у судзе Зацірахіна, у ліпені 2014 году старшыня прафсаюзу спрабаваў незаконна наведаць вытворчыя аб’екты з мэтай правядзеньня праверкі умоваў працы работнікаў і захаваньня іх працоўных правоў, ня маючы на тое адпаведнага дакумэнту і іншых неабходных дакумэнтаў. Прапускны і ўнутрыаб’ектны рэжым у адказчыка ўрэгуляваныя інструкцыяй, зацьверджанай 22.04.2014, у адпаведнасьці зь якой падстаў для выдачы пропуску Стукаву В.Я. ня маецца, – так мяркуе адміністрацыя прадпрыемства.

Зацірахін сьцьвярджаў, што колькасьць сябраў Свабоднага прафсаюзу Беларускага на заводзе складае 0,36% ад агульнай колькасьці работнікаў, першасная арганізацыя не зьяўляецца ўдзельнікам заключанай на прадпрыемстве калектыўнай дамовы; у той самы час сябрамі «Белхімпрафсаюзу» зьяўляюцца 97,7% работнікаў, зь першаснай арганізацыяй гэтага прафсаюзу адказчыкам ажыцьцяўляецца сацыяльнае партнэрства.

У сваіх патрабаваньнях рабочыя спасылаліся на нормы міжнароднага права. У заяве ў суд паказвалася, што дырэктарам заводу Мікалаем Качаноўскім не даецца магчымасьці наведаць цэхі і працоўныя месцы сябраў Свабоднага прафсаюзу, што супярэчыць палажэньням артыкулу 23 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб прафэсійных саюзах», зьяўляецца парушэньнем забавязаньняў Рэспублікі Беларусь па Канвэнцыях Міжнароднай арганізацыі працы №87 і №98, Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Разам з тым працаўнікоў заводу, якія знаходзяцца ў «Белхімпрафсаюзе», на працоўных месцах свабодна наведваюць прадстаўнікі апошняга.

Заслухаўшы пазоўніка Віктара Стукава, прадстаўніка пазоўніка – першаснай арганізацыі ААТ «Полацак-Шкловалакно» Свабоднага прафсаюзу Беларускага – Мікалая Шараха, прадстаўніка адказчыка Васіля Зацірахіна, дасьледаваўшы пісьмовыя матэрыялы справы, суд прыйшоў да высновы, што пазоўныя патрабаваньні рабочых падлягаюць задавальненьню.

У рашэньні суду пазначаныя наступныя патрабаваньні да дырэктара ААТ «Полацак-Шкловалакно»:

1. Абавязаць адкрытае акцыянэрнае таварыства «Полацак-Шкловалакно» не чыніць перашкоды ў наведваньні адкрытага акцыянэрнага таварыства «Полацак-Шкловалакно» старшыню Першаснай арганізацыі ААТ «Полацак-Шкловалакно» Свабоднага прафсаюзу Беларускага Стукаву Віктару Якаўлевічу.


Пётар Іваноў

2. Спагнаць з адкрытага акцыянэрнага таварыства «Полацак-Шкловалакно» на карысьць Стукава Віктара Якаўлевіча дзяржаўную пошліну ў суме 450 000 рублёў.

**20.12.2014** Судзьдзя суду Першамайскага раёну Віцебску Андрэй Прэйс прыняў рашэньне спагнаць зь **Пятра Іванова**, **кіраўніка ствараннага грамадзкага аб'яднаньня «За сумленную ўладу»**, 1,500 мільёну рублёў (10 базавых велічынь) за непавагу да суду (артыкул 24.1 КаАП). Прычым судовае паседжаньне, на якім было прынятае гэтае рашэньне, праходзіла без удзелу абвінавачанага ў правапарушэньні.

«У судовае паседжаньне Іваноў П.Я. не зьявіўся, будучы належным чынам апавешчаным пра дату і час судовага разбору непасрэдна падчас складаньня пратаколу пра адміністрацыйнае правапарушэньне», – гаворыцца ў вынесенай судзьдзём Прэйсам пастанове. Сам жа Пётар Іваноў сьцьвярджае, што пра дзень і час суду яму паведамлена не было, прычым зроблена гэта было наўмысна.

**23.12.2014** Па 25 базавых велічынь штрафу **сябрам ствараннага міжнароднага аб'яднаньня «За сумленную ўладу» Пятру Іванову** і **Аляксандру Холаду** і 10 базавых велічынь **Пятру Бярлінаву** – такое рашэньне абвясьціла 23 сьнежня судзьдзя суду Першамайскага раёну Віцебску Натальля Карабліна. Усе трое былі прызнаныя вінаватымі ў парушэньні артыкулу 17.1 КаАП (дробнае хуліганства).

Актывістаў абвінавацілі ў тым, што 5 сьнежня яны нібыта незаконна ўварваліся на ўчастак, дзе стаяў дом Пятра Бярлінава, які згодна з рашэньнем мясцовых уладаў падлягаў зносу, зламалі пры гэтым весьнічкі і зьбілі вартаўніка. У якасьці доказу віны абвінавачаных выкарыстоўваўся дыск з відэазапісам і паказаньні сьведак.

Распавядае Пётар Бярлінаў: «Зямля знаходзілася ў маім карыстаньні, я прыйшоў на сваю зямлю. «Жылбуд» сваім лістом мяне раней апавясьціў, што я ў любы час магу прыходзіць і забіраць сваю маёмасьць. Але вартаўнік мяне не пускаў. Гэтак было неаднаразова. 5-га чысла я прывёў на ўчастак сваіх знаёмых, каб яны засьведчылі, што чыніцца беззаконьне. Мы нічога неправамернага не зьдзяйсьнялі, парадак не парушалі – мы проста прыйшлі на мой участак. Я адчыніў весьнічкі правільна – унутар, не ламаў іх. А нас абвінавацілі, што мы іх зламалі. Ды напалі на вартаўніка. Хаця гэта ён мне парваў куртку і швэдар, спрабуючы нас не пусьціць».

Галоўным сьведкам на судзе выступаў вартаўнік, нібыта зьбіты актывістамі. Паводле словаў спадара Бярлінава, адказы вартаўніка на пытаньні судзьдзі былі супярэчлівымі, ён блытаўся ў сваіх паказаньнях. Вартаўнік сьцьвярджаў, што акты-


Кастусь Мардзьвінцаў

вісты зламалі весьнічкі, павалілі яго ды ўтраіх ляжалі на ім. Ніхто зь іншых сьведкаў гэтага не пацьвердзіў.

Што тычыцца астатніх сьведак – двух рабочых «Жылбуду», якія працавалі на ўчастку падчас інцыдэнту, – дык яны спрабавалі казаць праўду. «Сьведкі пацьвердзілі, што мы падышлі, прадставіліся. Хаця вартаўнік казаў, што мы падбеглі, пачалі нагамі біць па брамцы мэталёвай – кажа Бярлінаў. – Аднак судзьдзя Карабліна пачынала задаваць ім навадныя пытаньні, каб у выніку яны блыталіся і сьведчылі супраць нас».

«Напрыклад, заходзіць сьведка. Я і іншыя задаюць яму пытаньне: Ці гучаў з нашага боку мат? Ён: Не, не гучаў. А судзьдзя тады запытваецца: Ці ўсё поўнасьцю, ад пачатку да канца вы чулі, усе размовы? Або, мабыць, нешта маглі ня чуць? То бок судзьдзя наводзіла сьведку на тое, каб ён сказаў, што, маўляў, так, я мог не пачуць нейкіх словаў».

**24.12.2014** Віцебскі абласны суд разгледзеў касацыйныя скаргі журналістаў і актывістаў, пакараных штрафамі за фатаграфаваньне з птушкамі і клеткамі. Справы шасьці ўдзельнікаў фотасэсіі разьбіралі розныя судзьдзі – Эдгар Марцірасян, Сьвятлана Іванова і Ірына Смалякова, – але вынік іх разбораў аднолькавы: скаргі задаволеныя не былі, рашэньні, прынятыя судом Чыгуначнага раёну, пакінутыя бязь зьменаў.

Судзьдзі абласнога суду не пагадзіліся з аргумэнтамі пакараных, якія сьцьвярджалі, што фотасэсія не зьяўляецца пікетаваньнем або іншым масавым мерапрыемствам, на правядзеньне якога трэба браць дазвол. Таксама не былі ўзятыя пад увагу спасылкі на шматлікія працэсуальныя парушэньні, дапушчаныя судом першай інстанцыі.

«Я не чакаў нічога добрага ад гэтага суду, таму што ведаю, што наша судовая сыстэма створаная не дзеля абароны правоў людзей, а дзеля абароны рэжыму. Таму вынік быў вядомы», – пракамэнтаваў рашэньне судзьдзі абласнога суду адзін з удзельнікаў фотасэсіі, незалежны журналіст Кастусь Мардзьвінцаў.

**Сябры Беларускай асацыяцыі журналістаў Алена Сьцяпанава**, **Зьміцер Казакевіч**, **Кастусь Мардзьвінцаў**, **Алена Шабуня**, **Павал Левінаў**, а таксама **актывістка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Тацьцяна Севярынец** на пачатку лістапада сфатаграфаваліся на фоне гарадзкога графіці з птушкамі і клеткамі, зробленымі з паперы. Фотаздымкі былі выкладзеныя ў інтэрнэт. Справай заняліся міліцыянты, якія палічылі ўдзел у фотасэсіі несанкцыянаваным пікетам. На ўдзельнікаў фотасэсіі склалі пратаколы, пасьля яны былі пакараныя штрафамі ў памеры ад 18-ці да 25-ці базавых велічынь.


Сяргей Каваленка

Яшчэ адзін удзельнік фотасэсіі, выпадковы мінак **Пётар Бярлінаў**, быў пакараны 3-дзённым арыштам. Ён таксама падаваў касацыйную скаргу, якую абласны суд разгледзеў у паскораным парадку раней. Прычым, як сьцьвярджае спадар Бярлінаў, павестку з інфармацыяй пра дату і час суду ён атрымаў на наступны дзень пасьля таго, як судовы разгляд яго скаргі ўжо адбыўся. Вынік такі самы: абласны суд прызнаў пакараньне за ўдзел у фотасэсіі справядлівым.

**24.12.2014 Аляксандар Мухін**, стваральнік і кіраўнік рок-клюбу Doors, быў вывезены псыхіятрычнай брыгадай з уласнага дому і два дні ўтрымліваўся ў ізаляцыі. За гэты час яму пасьпелі паставіць дыягназ, па Барані пайшлі чуткі пра ягонае, як высьветлілася, неіснуючае псыхічнае захворваньне, міліцыя пасьпела забраць паляўнічую стрэльбу, якая зьяўлялася сямейнай рэліквіяй, і быў дастаўлены шэраг іншых непрыемнасьцяў.

Аляксандар палічыў такія дзеяньні мэдычных работнікаў парушэньнем сваіх законных правоў і зьвярнуўся ў суд, і суд прызнаў незаконным зьмяшчэньне ў вар'ятню кіраўніка бараньскага рок-клюбу.

Лекары дыягназ зьнялі, і, згодна з рашэньнем суду, мэдычная ўстанова «Аршанская цэнтральная паліклініка» цяпер павінна выплаціць Аляксандру Мухіну 3.000.000 кампэнсацыі маральнай шкоды і 450.000 дзяржаўнай пошліны.

**27.12.2014** Трое сутак да суду віцебскі **актывіст КХП-БНФ Сяргей Каваленка** ўжо адбыў у ізалятары часовага ўтрыманьня, трымаючы галадоўку. Ён быў зьмешчаны пад варту 24 сьнежня – у той дзень у Віцебску быў вывешаны бел-чырвона-белы сьцяг. На судовы працэс Сяргея Каваленку прывезьлі ў кайданках, што асабліва абурыла сваякоў і праваабаронцаў.

Паводле першага міліцэйскага пратаколу, Сяргей Каваленка быў затрыманы за дробнае хуліганства – нібыта недалёка ад уласнага дому ён спраўляў малую патрэбу. У другім пратаколе супрацоўнікі РАУС Першамайскага раёну напісалі, што ён не падпарадкаваўся іх патрабаваньням – адмаўляўся ехаць для разьбіральніцтва ў пастарунак.

Актывіст хадайнічаў, каб яму далі час на заключэньне дамовы зь менскім адвакатам. Але судзьдзя Першамайскага райсуду Андрэй Прэйс хадайніцтва не задаволіў: ён заявіў, што ў Каваленкі быў час, каб наняць адваката, пакуль ён знаходзіўся ў ізалятары часовага ўтрыманьня. Актывіст засьведчыў, што такой магчымасьці яму не далі: у першы дзень забаранілі тэлефанаваць жонцы, каб даведацца нумар адваката, а на другі дзень сказалі, што ў ІЧУ зламаўся тэлефонны апарат.


Аляксандар Мухін

Сяргей Каваленка хадайнічаў, каб на працэсе прысутнічаў перакладчык. Гэтае хадайніцтва было задаволенае, але запрошаны сацыяльны пэдагог сярэдняй школы №12 Алег Уласаў прадэманстраваў далёка не дастатковае валоданьне беларускай мовай. Актывіст заявіў адвод прakладчыку, але гэтае хадайніцтва не было задаволенае. Ня быў задаволены і адвод судзьдзі: судзьдзя Андрэй Прэйс абвясьціў адвод беспадстаўным.

Пасьля заўваг за рэплікі зь месца з паседжаньня выдалілі маці Сяргея Каваленкі, а сьледам і жонку, Алену Каваленку. Суд прыняў да ўвагі сьведчаньні сьведак-міліцыянтаў, якія заявілі, што актывіст зьдзейсьніў дробнае хуліганства, а потым адмаўляўся выконваць законныя патрабаваньні супрацоўнікаў міліцыі. Праўда, яны паведамілі, што ў пастарунку Каваленка паводзіў сябе адэкватна. Не парушаў дысцыпліну ён і ў ІЧУ. Тым больш незразумелым выглядала тое, што на суд актывіста прывезьлі ў кайданках.

Паводле судовага рашэньня, Сяргею Каваленку вынесеныя 10 сутак арышту: трое сутак за дробнае хуліганства, і яшчэ сем – нібыта за непадпарадкаваньне міліцыянтам. Судовую пастанову перадалі Сяргею Каваленку, жонцы даць пастанову адмовіліся, хаця яна і прасіла пра гэта, каб перадаць дакумэнты адвакату для складаньня касацыйнай скаргі.

Тэрмін арышту Сяргея Каваленкі адлічваецца з моманту затрыманьня 24 сьнежня і скончыцца 3 студзеня. На думку актывіста, які адмаўляе факты хуліганства і непадпарадкаваньня, адзіным тлумачэньнем інцыдэнту зьяўляецца тое, што 24 сьнежня ў Віцебску быў вывешаны бел-чырвона-белы сьцяг. Раней Сяргей Каваленка неаднаразова арыштоўваўся і нават адбыў турэмны тэрмін за вывешваньне ў Віцебску нацыянальных бел-чырвона-белых сьцягоў.

**22.01.2015** Кіраўнік рок-клюбу «Doors» **Аляксандар Мухін** адстаяў свае правы ў Віцебскім абласным судзе. Яму ўдалося канчаткова давесьці, што летась яго незаконна затрымалі і зьмясьцілі на прымусовае псіхіятрычнае лекаваньне.

Гісторыя ўзаемаадносінаў жыхара Барані Аляксандра Мухіна зь мясцовымі лекарамі-псіхіятрамі пачалася ў 2014 годзе. 10 траўня яго забралі з дому ў аршанскі псыханэўралягічны дыспансэр. Пасьля гутаркі зь лекарамі яму паставілі дыягназ «Сындром залежнасьці ад алькаголю» і распачалі прымусовыя лячэбныя працэдуры.

Прымусовае лекаваньне працягвалася тры дні. Аляксандру Мухіну не дазвалялі патэлефанаваць родным, забралі акуляры, безь якіх яму цяжка абыходзіцца, бо ён мае высокую ступень блізарукасьці. А пэрсанал, паводле ягоных слоў, увесь час паўтараў, што яго са шпіталя больш не выпусьцяць. Тым ня менш 12 траўня яго ад-

пусьцілі дадому, але паставілі на ўлік у псыханэўралягічным дыспансэры.

Спадар Мухін ня стаў шырока паведамляць пра гэтае здарэньне, але напісаў заяву ў аршанскую пракуратуру. Дадаў таксама і пра свае безвыніковыя памкненьні зьняцца з псыхіятрычнага ўліку.

Пасьля звароту ў пракуратуру Мухіна з уліку зьнялі, і 23 ліпеня ён атрымаў ліст з цэнтральнай паліклінікі, дзе кіраўніцтва прызнавала, што псыхіятры паставілі беспадстаўны дыягназ і парушылі правы пацыента. Гэты дакумэнт стаў аргумэнтам у судзе: Аляксандар Мухін напісаў пазоў пра нанясеньне шкоды ягонаму гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі ды запатрабаваў кампэнсацыі маральнай шкоды памерам 25 мільёнаў рублёў.

Суд прыняў рашэньне спагнаць з паліклінікі 3 мільёны рублёў на карысьць Мухіна. Аднак з такім рашэньнем не пагадзіўся галоўны ўрач мэдычнай установы Аляксандар Плыткевіч. Нягледзячы на тое, што Мухіну быў дадзены адказ, у якім былі пацьверджаныя парушэньні, галоўны ўрач паліклінікі спрабаваў апраўдаць дзеяньні калег.

Тым ня менш Віцебскі абласны суд пакінуў бязь зьменаў рашэньне аршанскага суду наконт матэрыяльнай кампэнсацыі пацярпеламу. Што да дзеяньняў мэдпэрсаналу, то сытуацыя з Мухіным стала падставай для атэстацыі спэцыялістаў на веданьне заканадаўства, якім яны мусяць кіравацца ў падобных выпадках.

**01.02.2015** За мінулы год значна зьнізілася колькасьць разгляданых судом Віцебскага раёну спраў па ўсіх катэгорыях. Пра гэта, падводзячы вынікі, распавяла старшыня суду раёну Марына Гарохава.

Так, праз суд Віцебскага раёну прайшлі 1410 адміністрацыйных спраў. Самым распаўсюджаным аказалася парушэньне грамадзкага парадку – зафіксавана 388 выпадкаў дробнага хуліганства. Сярод прадпрыемстваў раёну нямала неплацельшчыкаў па абавязковых страхавых узносах або узносаў на прафэсійнае пэнсійнае страхаваньне. 76 разоў «чапляліся» аматары лёгкай нажывы аб «снасьці» закону, тым самым парушаючы правілы вядзеньня рыбалоўства.

Вялікая колькасьць правапарушэньняў, зьвязаных з наўмысным прычыненьнем цялесных пашкоджаньняў і іншымі гвалтоўнымі дзеяньнямі. Па-ранейшаму адной з асноўных прычын канфлікту з законам зьяўляецца расьпіцьцё сьпіртных напояў альбо зьяўленьне ў грамадзкіх месцах або на працы ў стане алькагольнага ап’яненьня, за што 94 асобы панесьлі спагнаньні. У якасьці спагнаньня ў большасьці выпадкаў грамадзяне атрымалі штрафы, адміністрацыйныя арышты, а вось самымі распаўсюджанымі дадатковымі мерамі пакараньня сталі пазбаўленьне спэцыяльнага права і канфіскацыя.

За мінулы год у судзе раёну скончана 1011 грамадзянскіх спраў. Сярод матэрыялаў адмысловай вытворчасьці найбольшую папулярнасьць атрымалі прызнаньне грамадзян абмежавана дзеяздольнымі, прымусовая шпіталізацыя і лячэньне. У лік апошніх трапілі 77 жыхароў Віцебскага раёну, зь іх 60 чалавек атрымалі пуцёўку ў ЛПП. Ільвіную долю загаднай вытворчасьці склалі матэрыялы пра спагнаньне алімэнтаў на непаўнагадовых дзяцей. Скасаваньне шлюбу, устанаўленьне бацькоўства, пазбаўленьне бацькоўскіх правоў сталі лідэрамі па пазовах.

Што тычыцца крымінальных спраў, то іх было разгледжана 215. На першых крымінальных пазыцыях знаходзяцца злачынствы супраць укладу сямейных адносін і інтарэсаў непаўнагадовых, а таксама уласнасьці. Прычым сярод апошняга, напрыклад, прайшлі 70 эпізодаў, зьвязаных з крадзяжамі.

На судовых паседжаньнях дамінуючымі матэрыяламі спраў сталі паўторнае кіраваньне транспартным сродкам у стане алькагольнага ап'яненьня на працягу году, ухіленьне ад адбыцьця пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі. Самую строгую меру пакараньня – пазбаўленьне волі – атрымалі 54 падсудных. Умоўна-датэрміновае вызваленьне «зарабілі» 26 чалавек, а 93 грамадзянам замянілі неадбытую частку пакараньня больш мяккай.

З мэтай выхаваўчага і прафіляктычнага ўзьдзеяньня праведзена 39 выязных судовых паседжаньняў. Гэта, на думку Марыны Гарохавай, зьяўляецца дзейсным сродкам забесьпячэньня правільнага і своечасовага вырашэньня спраў, абароны парушаных правоў і законных інтарэсаў грамадзян і юрыдычных асоб.

**09.02.2015** Грамадзяне прасілі мясцовую ўладу Полацку дазволіць правядзеньне пікету 30 сьнежня для прыцягненьня ўвагі да стварэньня Таварыства абароны спажыўцоў. Полацкі райвыканкам акцыю забараніў. Рашэньне аб забароне было абскарджанае, але суд Полацку не знайшоў у дзеяньнях райвыканкаму па забароне пікету парушэньняў закону.

**28.02.2015** Незвычайнае судовае паседжаньне адбылося ў Віцебску. **Праваабаронца Павал Левінаў** падаў скаргу на дзеяньні чыноўніцы, якая забараніла яму праводзіць пікет, і прысутнічаў на паседжаньні, знаходзячыся ў сваёй кватэры. Суд прайшоў у выглядзе тэлеканфэрэнцыі праз інтэрнэт.

Зрэшты, незвычайная тэхналёгія вядзеньня суду не паўплывала на рашэньне, прынятае судзьдзёй Натальляй Дасько: суд прызнаў забарону пікету слушнай.

Павал Левінаў абскарджваў адмову ў правядзеньні пікету, падпісаную намесьніцай кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску Вольгай Гурчанкай. Пікет працягласьцю ўсяго 1 хвіліну мусіў адбыцца 10 сьнежня 2014 году. Яго мэтай было: спрыяньне дзяржаўным інстытутам ва ўмацаваньні і разьвіцьці правоў чалавека, прапаганда дакумэнтаў у падтрымку правоў чалавека і публічнага выказваньня свайго меркаваньня па праблеме парушэньня правоў чалавека.

Намесьніца раённай адміністрацыі правядзеньне пікету забараніла, спаслаўшыся, як зазвычай, на адсутнасьць у заяўніка дамоваў на абслугоўваньне акцыі зь міліцыяй, мэдыкамі і ЖКГ, хаця заяўкі на заключэньне неабходных дамоваў ва ўсе згаданыя службы Павал Левінаў накіроўваў.

Праваабаронца спадзяваўся, што чыноўніца, якая адмовіла яму ў пікеце, дасьць свае тлумачэньні ў судзе хаця б на адлегласьці – таму папрасіў судзьдзю правесьці паседжаньне праз скайп. Але спадарыня Гурчанка не захацела сустрэцца з пазоўнікам нават онлайн, і таму паседжаньне адбывалася безь яе ўдзелу.

Суд ня ўзяў пад увагу аргумэнты праваабаронцы Левінава, яго згадкі міжнароднага права і рашэньняў Камітэту па правах чалавеку ААН. Вэрдыкт суду: забараніўшы пікет, намесьніца адміністрацыі раёну ўсё зрабіла правільна.


Віктар Расьлякоў

**06.03.2015** Судзьдзя Полацкага суду не дапусьціла юрыста Свабоднага прафсаюзу абараняць інтарэсы рабочых у судовым паседжаньні. Дырэктар крамы «Аліса-Плюс» падаў у суд пазоў на трох былых работнікаў для кампэнсацыі нястачы амаль у 22 мільёны рублёў, работнікі з пазовам ня згодныя. Двое з трох былых рабочых крамы зьяўляюцца сябрамі Свабоднага прафсаюзу, але якраз у гэтым і засумнявалася судзьдзя.

На папярэднім паседжаньні суду **Віктар Расьлякоў**, які працаваў раней у краме ахоўнікам, заявіў хадайніцтва аб дапушчэньні **юрыста Свабоднага прафсаюза Мікалая Шараха**. Суду былі дадзеныя дакумэнты, якія пацьвярджаюць законнасьць удзелу прафсаюзнага юрыста: заявы аб уступленьні ў прафсаюз, даверанасьць юрыста прадстаўляць інтарэсы сябраў Свабоднага прафсаюзу Беларускага і Статут СПБ.

Судзьдзя Ірына Даротка палічыла, што гэтыя дакумэнты не пацьвярджаюць факт сяброўства спадара Расьлякова у СПБ і запатрабавала прадставіць дакумэнт з рашэньнем кіруючага органу прафсаюзу аб прыёме Віктара Расьлякова ў Свабодны прафсаюз. Юрыст Віцебскай калегіі адвакатаў, які прадстаўляе інтарэсы дырэктара крамы, таксама была супраць удзелу абаронцы рабочых ад Свабоднага прафсаюзу.

Юрыст СПБ Мікалай Шарах: «Яшчэ не было такога выпадку, каб мяне не дапускалі прадстаўляць у судзе інтарэсы сябраў прафсаюзу. Да гэтага выпадку ўсіх судзьдзяў задавальняла ў якасьці пацьверджаньня сяброўства ў прафсаюзе работніка копія ягонай заявы аб уступленьні ў прафсаюз. Такія паводзінаў судзьдзі толькі зацягваюць разгляд гэтай справы».

Актывісты Свабоднага прафсаюзу мяркуюць, што была парушаная Канвэнцыя міжнароднай арганізацыі працы №87 аб свабодзе аб’яднаньня ў прафсаюз. Гэтая канвэнцыя забараняе дзяржаўным органам умешвацца ў арганізацыйную дзейнасьць прафсаюзу. А судзьдзя стала камэнтаваць Статут прафсаюза і загадваць, якім чынам павінен быць арганізаваны прыём рабочых у прафсаюз.

Судзьдзя Ірына Даротка запатрабавала ад рабочых: «Падайце да наступнага паседжаньня рашэньне прафсаюзу аб прыняцьці адказчыкаў у прафсаюз. Калі ня хочаце, такім чынам, я Вам растлумачваю права наняць адваката, які знаходзіцца ў юрыдычнай кансультацыі ў нашым будынку».

Рабочыя заявілі хадайніцтва аб адводзе судзьдзі, паколькі была створаная перашкода рабочым мець прадстаўніка для абароны іх эканамічных інтарэсаў. Бо дырэктар крамы Юры Савін просіць суд спагнаць з трох былых рабочых у агульнай складанасьці амаль 22 мільёны рублёў (7 827 000 + 10 222 100 + 3 831 500

= 21 880 600 бел. руб.). Судзьдзя Ірына Даротка адхіліла гэтае патрабаваньне рабочых і працягнула судовае паседжаньне. Але пасьля, па хадайніцтве рабочых, судзьдзя вымушаная была абвясьціць перапынак у судовым паседжаньні да 11 сакавіка, каб рабочыя змаглі наняць адваката.

Суд праходзіў ня ў залі паседжаньняў, а ў габінэце судзьдзі. Судзьдзя гэта патлумачыла праблемамі з кампутарам сакратара. Сама судзьдзя не была апранутая ў судовую мантыю, аддала перавагу звычайнай цывільнай вопратцы…

**20.03.2015** Да 5 сутак арышту прысуджаны 25-гадовы жыхар Віцебску за забойства шчанюка. Прысуд па справе аб жорсткім абыходжаньні з жывёламі вынесены ў раённым судзе абласнога цэнтру. Зоаабаронцы з вэрдыктам катэгарычна ня згодныя.

У Беларусі справы аб жорсткім абыходжаньні з жывёламі да суду даходзяць вельмі рэдка. Складана сабраць доказную базу. Але ня ў гэтым выпадку. Работнікі прытулку для жывёлаў настойліва патрабавалі пакараць вінаватага. Знайшліся і сьведкі. Суд адбыўся.

Ганна Тельпукова, прэс-сакратар суду Першамайскага раёну Віцебску: «Гэтае правапарушэньне было зьдзейсьненае ім яшчэ да ўступленьня ў законную сілу зьмяненьняў, унесеных у Крымінальны Кодэкс Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае крымінальную адказнасьць паводле артыкулу 339-1 за жорсткае абыходжаньне з жывёламі».

Максымальнае пакараньне, якое пагражала правапарушальніку, – штраф у памеры да 30 базавых велічынь альбо арышт да 15 сутак. Аднак суд палічыў дастатковым абмежаваць свабоду толькі на 5 сутак. Хоць забойца сабакі так і не прызнаў цалкам сваёй віны.

З 28 студзеня ў Беларусі адказнасьць за гэткія дзеяньні ўзмоцненая. Згодна з новым артыкулам Крымінальнага кодэксу за зьдзек з жывёл з гэтага часу можна атрымаць буйны штраф або арышт. Пры паўторным зьдзяйсьненьні злачынства ёсьць імавернасьць сесьці ў турму на цэлы год.

**20.03.2015** Толькі з трэцяй спробы падаць заяву ў суд Полацку, судзьдзя разгледзела пісьмовую просьбу грамадзяніна дазволіць яму фатаграфаваць падчас судовага паседжаньня, але ў задавальненьні просьбы было адмоўлена. Гэта адбылося падчас судовага разгляду пазоўнага патрабаваньня дырэктара крамы да былых работнікам пакрыць нястачу, выяўленую пры рэвізіі.

Палачанін Віктар, які прыйшоў у суд паслухаць ход судовага паседжаньня, падаў першую заяву аб дазволе фатаграфаваць у канцылярыю суду за паўгадзіны да судовага паседжаньня. Пачаўшы судовы працэс, судзьдзя Ірына Missing Дародка ніяк не адрэагавала на гэтую заяву.

У перапынку судовага паседжаньня сакратарка суду сказала, што гэтую заяву адправілі старшыню суду, і адказ будзе праз 15 дзён. Такая хада падзеяў Віктара не задаволіла. Тут жа, у перапынку, была напісаная другая заява – канкрэтна судзьдзю Дародцы з той жа просьбай: дазволіць фатаграфаваньне.

Судзьдзя, якая прыйшла пасьля перапынку, паглядзеўшы на заяву, спытала ў Вік-


Сяргей Рыжоў

тара: «А хто вы такі?» – На што Віктар адказаў: «У заяве напісана – “грамадзянін Беларусі, які не зьяўляецца ўдзельнікам судовага працэсу”». На што судзьдзя сказала: «…Забярыце гэтую паперку», – просьба грамадзяніна не была разгледжаная.

Пасьля перапынку на абед Віктар падаў у канцылярыю суду трэцюю заяву. Яна была адрасаваная судзьдзю Randzcy Дародцы і ўтрымлівала тую самую просьбу – са спасылкай на Пастанову Пленуму Вярхоўнага Суду Беларусі ад 20 сьнежні 2013 г. № 11 «Аб забесьпячэньні публічнасьці». У згаданай пастанове сказана, што асобы, якія не зьяўляюцца ўдзельнікамі судовага працэсу, і журналісты зьвяртаюцца да суду з просьбай (заявай) аб дазволе фатаграфаваньня і відэаздымкаў.

Працягнуўшы судовае паседжаньне, судзьдзя заявіла, што «паступіла належным чынам афармленая заява грамадзяніна», але просьбу аб фатаграфаваньні не задаволіла. Хадайніцтва аб фатаграфаваньні і відэаздымцы падавалі і ўдзельнікі судовага працэсу, былыя работнікі крамы, якія зьяўляюцца адказчыкамі па пазове дырэктара, але і іх хадайніцтвы не былі задаволеныя судом.

**25.03.2015** У Віцебску распачаўся суд над **палітыкам Сяргеем Рыжовым**. Судовы працэс адбываецца ў Першамайскім райсудзе Віцебску і праходзіць у закрытым рэжыме. Зрабіць працэс закрытым – ініцыятыва судзьдзі Андрэя Прэйса. Даведаўшыся пра рашэньне судзьдзі, Сяргей Рыжоў прапанаваў зрабіць суд адкрытым, аднак судзьдзя не пагадзіўся. Сяргей Рыжоў заявіў суду адвод, але той ня быў прыняты.

Хоць у судовую залю трапіць было немагчыма, некалькі чалавек прыйшлі да будынку райсуду, каб даведацца пра ход судовага працэсу. Сярод іх – **праваабаронца Павал Левінаў**:

«Да пачатку суду Сяргей Рыжоў пасьпеў паведаміць, што на працягу першых 19 дзён пасьля арышту ён трымаў галадоўку. Гэта супярэчыць папярэднім заявам ягонага сябра, **лекара Ігара Пастнова**, які цьвердзіў, што жыцьцё і здароўе Рыжова пад пагрозай праз працяглую галадоўку, якую ён нібыта трымае дагэтуль. Выглядае Рыжоў ня лепшым чынам – твар змучаны, нязвыкла кароткая стрыжка. Перад пачаткам працэсу 25 сакавіка каля Першамайскага райсуду сабралася шмат міліцыі, у форме і ў цывільным – верагодна, яны чакалі нейкіх пратэстных акцыяў ці нечага падобнага. Аднак гэты працэс надзвычайнай цікаўнасьці ў віцяблянаў не выклікае».

Адвакат Сяргея Рыжова ніякіх падрабязнасьцяў не распавядае, спасылаючыся на падпіску аб неразгалошваньні. Сябры Рыжова ведаюць, што яго судзяць паводле абвінавачаньня ва ўчынках, рэглямэнтаваных артыкулам 167 («Гвалтоўныя

дзеяньні сэксуальнага характару»), частка 1, і артыкулам 339 («Хуліганства»), частка 1.

Суд разьбірае інцыдэнт у віцебскім выцьвярэзьніку, куды Сяргей Рыжоў трапіў увосень 2013 году. Ён скардзіўся, што ў выцьвярэзьніку яго зьбівалі супрацоўнікі-міліцыянты, а тыя цьвердзілі, што Рыжоў хуліганіў і не падпарадкоўваўся іхным патрабаваньням. Але прысуджаныя за гэта 15 сутак арышту ён так і не адбыў: зьехаў у Расею, дзе прабыў да сярэдзіны студзеня. У першыя ж дні знаходжаньня ў Беларусі яго затрымалі і зьмясьцілі ў СІЗА праз абвінавачаньні, паводле якіх цяпер судзяць.

**03.04.2015** У Віцебску да шасьці з паловай гадоў калёніі строгага рэжыму прысуджаны **ўдзельнік прэзыдэнцкай кампаніі 2010 году Сяргей Рыжоў**.

Рыжова абвінавачвалі ў хуліганстве падчас знаходжаньня ў выцьвярэзьніку. Яго судзілі за дзеяньні сэксуальнага характару ў дачыненьні да мужчыны бяз пэўнага месца жыхарства. Галоўным доказам супраць Сяргея Рыжова праваахоўнікі называлі здымкі відэакамэраў, усталяваных у выцьвярэзьніку. Суд праходзіў у закрытым рэжыме.

Прысуд быў абвешчаны 3 красавіка ў судзе Першамайскага раёну Віцебску. Пракурор прасіў 7 гадоў пазбаўленьня волі. Прысудзілі паводле арт. 167 ч. 1 – 5 гадоў, паводле арт. 339 ч. 1 – 2 гады, праз частковае складаньне налічылі агульны тэрмін – шэсьць з паловай гадоў пазбаўленьня волі з адбываньнем пакараньня ў папраўчай калёніі ва ўмовах строгага рэжыму, а таксама на карысьць аднаго з пацярпелых кампэнсацыю маральнай страты 15 мільёнаў, плюс кампэнсацыя судовых выдаткаў.

**09.04.2015** Падставай для адміністрацыйнай справы, якую разглядаў Гарадоцкі райсуд, стаў запіс у кнізе скаргаў, зроблены **сябрам партыі БНФ Леанідам Аўтуховым**. Ён параўнаў начальніка раённай управы па працы, занятасьці і сацыяльным забесьпячэньні Пятра Прасолава з «тэрарыстам у Луганску і Данецку». Суд прызначыў пакараньне – 30 базавых штрафу.

Судзіць Леаніда Аўтухова пачалі яшчэ 30 сакавіка. 9 красавіка судзьдзя Аляксандра Носава вынесла пастанову пра штраф. За гэты час у Гарадоцкім РАУС пасьпелі памяняць абвінавачаньне супраць актывіста.

Запіс, які стаў падставай для судовага разбору, зьявіўся пасьля таго, як Аўтухова зьнялі з уліку па беспрацоўі ў цэнтры занятасьці. Актывіст перакананы, што гэта было незаконна. І зрабіў запіс у кнізе скаргаў, хочучы падкрэсьліць, што начальнік раённай управы па працы, занятасьці і сацыяльным забесьпячэньні спадар Прасолаў падтрымлівае несправядлівае рашэньне. Аднак чыноўнік убачыў у словах пра «тэрарыста ў Луганску і Данецку» абразу, распавёў Леанід Аўтухоў:

«Я хацеў, каб на запіс у кнізе скаргаў зьвярнула ўвагу начальства Пятра Прасолава. А ён напісаў заяву ў міліцыю. На мяне склалі пратакол паводле адміністрацыйнага артыкулу 9.3 – за «абразу, сьвядомае прыніжэньне гонару і годнасьці асобы, выказанае ў непрыстойнай форме». 30 сакавіка распачаўся суд, і ў першы ж дзень судзьдзя Аляксандра Носава абвясьціла перапынак больш як на тыдзень. Не паведаміўшы пра гэта падчас працэсу, яна пастанавіла адправіць пратакол на дапра-


Ігар Грышанаў

цоўку ў райаддзел міліцыі. Я даведаўся пра гэта выпадкова, калі прыйшоў у суд больш падрабязна вывучыць матэрыялы справы. А іх там ужо не было».

Судзьдзя сказала спадару Аўтухову зайсьці да яе па абедзе 3 красавіка. Маўляў, матэрыялы справы ўжо будуць у яе. Аднак тут жа ў суд зьявіліся міліцыянты і заявілі, што склалі на актывіста новы пратакол – ужо паводле іншага артыкулу – 23.5 КаАП за «абразу службовай асобы пры выкананьні службовых паўнамоцтваў асобай, не падначаленай па службе».

Пра лёс першага пратаколу і першай сваёй справы Леаніду Аўтухову засталося толькі здагадвацца – у пачатку судовага паседжаньня 8 красавіка судзьдзя сказала, што ранейшай справы няма, і што яна разьбірае ўжо новую.

«У маім запісе не было ніводнага нецэнзурнага слова, аднак міліцыянты сьпярша склалі пратакол менавіта з такім абвінавачаньнем. Судзьдзя адправіла дакумэнты «на дапрацоўку». Аднак ніхто нічога дапрацоўваць не стаў. У міліцыі проста склалі іншы пратакол», – працягвае Леанід Аўтухоў.

Падчас судовага працэсу ён хадайнічаў, каб у якасьці сьведак выклікалі капітана міліцыі Собалева, які склаў новы пратакол, нават ня ўзяўшы тлумачэньняў. Аднак судзьдзя не задаволіла ні гэтае хадайніцтва, ні яшчэ 4 хадайніцтвы, зь якімі зьвяртаўся Аўтухоў. Істотна, што адно зь іх тычылася ўдзелу ў працэсе адваката. Таму актывіст лічыць, што суд незаконна пазбавіў яго права на абарону:

«8 красавіка, калі суд распачаўся ўжо паводле новага пратаколу, я ўсё ж вырашыў зьвярнуцца па дапамогу адваката. Заявіў пра гэта на судзе, і судзьдзя Аляксандра Носава абвясьціла перапынак на адны суткі. Пошукі адваката я пачаў у Віцебску, але ў адвакацкай канторы вольных адвакатаў не было. Вярнуўся ў Гарадок, знайшоў адваката, але гэтая спадарыня была вольная 9 красавіка толькі з 16 гадзін. Яна пагадзілася мяне бараніць, але зранку на працы яе не было, і дамову заключыць я ня змог. Суд распачаўся а 14-й, я папрасіў дадатковы перапынак, каб да 16 прыйсьці да адваката па дамову. Але судзьдзя сказала, што чакаць ня будзе».

**24.04.2015** У судзе Аршанскага раёну і гораду Воршы разглядалася грамадзянская справа па скарзе старасты вёскі Стаўры, **сябра аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Ігара Грышанава** на дзеяньні ААТ «Птушкафабрыка Аршанская». Першае, папярэдняе, паседжаньне стала і апошнім: судзьдзя Натальля Архіпава ў «сувязі з пропускам тэрміну звароту ў суд, вызначанага ў грамадзянска-працэсуальным кодэксе Рэспублікі Беларусь», адмовіла ў задавальненьні выказаных скаржнікам прэтэнзіяў.



Аляксандар Антоненка

Зьвярнуцца ў суд Ігара Грышанава змусілі абсурдныя, на яго думку, дзеяньні кіраўніцтва птушкафабрыкі. Пасьля праведзенага ў 2013 годзе капітальнага рамонту вясковага клюбу, нечакана для жыхароў вёскі Стаўры, было прынятае рашэньне пра знос будынку.

Мясцовыя жыхары нават гатовыя былі ўзяць клюб на сваё поўнае ўтрыманьне, бо меркавалі, што гэты культурніцкі асяродак спрыяў захаваньню мясцовых традыцыяў, нацыянальнай культуры і звычаяў. Але ўсе спробы знайсьці паразуменьне з кіраўніцтвам птушкафабрыкі былі марнымі: літаральна праз год пасьля капітальнага рамонту будынак клюбу быў зраўнаваны зь зямлёю. Вяскоўцы абурыліся гэткім грэблівым стаўленьнем да сваіх правоў і пачалі скардзіцца. Зьвярнуліся ў Аршанскі раённы і Віцебскі абласны выканкамы, пасьля – у адміністрацыю прэзыдэнта. Нарэшце вырашылі шукаць праўду ў судзе.

**27.04.2015** Жыхар Віцебску **Аляксандар Антоненка** праходзіў сьведкам па адміністрацыйнай справе. Па заканчэньні судовага разбору ён падаў у суд хадайніцтва аб азнаямленьні яго з пратаколам паседжаньня для прадстаўленьня сваіх заўвагаў датычна яго паўнаты і правільнасьці складаньня. Аднак судзьдзя суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Алеся Жарыкава задаволіць хадайніцтва адмовілася. Віцябчук вымушаны быў зьвярнуцца са скаргай у Вярхоўны Суд.

Судзьдзя Жарыкава пісьмова паведаміла ў адказ на хадайніцтва, што падставаў для азнаямленьня заяўніка з пратаколам судовага паседжаньня ня маецца. Аляксандар Антоненка палічыў, што судзьдзя парушыла ягоныя правы, і зьвярнуўся са скаргай у найвышэйшую судовую ўстанову краіны.

Вярхоўны Суд пераслаў скаргу спадара Антоненкі ў Віцебскі абласны суд, старшыня якога Мікалай Хамічонак прызнаў яе слушнасьць. Ён пацьвердзіў, што ў адпаведнасьці з артыкулам 11.8 Працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях усе ўдзельнікі адміністрацыйнага працэсу маюць права цягам трох дзён падаць свае заўвагі наконт паўнаты і правільнасьці складаньня пратаколу судовага паседжаньня. Гэтым правам валодаюць у тым ліку і сьведкі як удзельнікі працэсу.

«Такім чынам, судзьдзёй неабгрунтавана адмоўлена Вам у азнаямленьні з пратаколам судовага паседжаньня. У сувязі з выкладзеным судзьдзю суду Кастрычніцкага раёну г. Віцебску Жарыкавай А.С. строга ўказана на недапушчэньне ў далейшай працы гэткіх парушэнняў і дачу Вам магчымасьці рэалізаваць сваё права на азнаямленьне з пратаколам судовага паседжаньня. Па выніках працы за месяц судзьдзя Жарыкава А.С. дэпрэміяваная», – паведаміў кіраўнік абласнога суду скаржніку.


Яраслаў Берніковіч

**29.04.2015** Аўтамабіль актывіста **Яраслава Берніковіча** Volvo S60 наляцеў на люк, які рамонтнікі пакінулі тырчэць на глыбоцкай вуліцы, зьняўшы асфальтавае пакрыцьцё. ДАІ выпісала штраф кіроўцу — 20-гадоваму сыну Яраслава, а ў аўтамабіля было разьбітае лабавое шкло, пашкоджаныя падвеска, мацаваньні рухавіка, утварылася трэшчына ў каробцы перадач. Берніковіч вырашыў судзіцца з ЖКГ.

Ён апавядае, што люк узвышаўся над дарогай на 12 цантымэтраў. Усё здарылася ўначы, а асьвятленьне на вуліцы кепскае. Сын Яраслава сам выклікаў ДАІ, якое выпісала яму штраф у 75 тысяч рублёў за наезд. Сам Яраслаў з такім рашэньнем не пагадзіўся.

Яраслаў па выніках незалежнай экспэртызы, якой дамогся сам, прасіў ад ЖКГ кампэнсацыі 70 мільёнаў рублёў. ЖКГ прызнаваць сваю віну доўга адмаўлялася. што ЖКГ за гэта адказнае».

Замінала ў судзе і тое, што сын Яраслава пагадзіўся з прысуджаным яму штрафам, нібыта «прызнаў сваю віну». ЖКГ як адказчык выкарыстаў гэта на сваю карысьць. Таму ў канчатковым рашэньні раённы суд зьнізіў суму кампэнсацыі для Берніковіча да 50 мільёнаў рублёў. Яраслава гэта задаволіла, а вось пракуратура Глыбокага падала на рашэньне касацыйную скаргу ўжо ў Віцебскі абласны суд. Але і ў гэтай інстанцыі пакінулі рашэньне раённага суду ў сіле.

Паводле Яраслава Берніковіча, самае цяжкае тое, што ўсё цягнулася вельмі доўга – 10 месяцаў. «Цябе выклікаюць позвай у суд, едзеш зь Менску ў Глыбокае на 5 хвілінаў, на паўгадзіны. Былі моманты, калі здавалася, што так абрыдлі гэтыя суды, навошта гэтым займаюся», — распавядае ён.

**06.05.2015** Судзьдзя Віцебскага абласнога суду Сьвятлана Іванова падчас касацыйнага разгляду скаргі **кіраўніка абласной арганізацыі партыі БНФ Леаніда Аўтухова** вырашыла не зьмяняць рашэньне Гарадоцкага райсуду. Цяпер беспрацоўнаму апазыцыйнаму актывісту прыйдзецца заплаціць дзяржаве штраф у памеры 5,4 млн. рублёў.

9 красавіка судзьдзя суду Гарадоцкага раёну Аляксандра Носава прызнала Леаніда Аўтухова вінаватым у парушэньні артыкулу 23.5 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Актывіст БНФ, згодна з рашэньнем судзьдзі, нанёс абразу службовай асобе – начальніку раённага ўпраўленьня па працы, занятасьці і сацыяльным забесьпячэньні Пятру Прасолаву, параўнаўшы яго з тэрарыстамі з Луганску і Данецку ў сваім запісе ў кнізе заўваг і прапаноў райвыканкаму. Гэты запіс Аўтухоў зрабіў пасьля таго, як яго зьнялі з уліку па беспрацоўі. Апазіцыянер упэўнены, што быў пазбаўлены статусу беспрацоўнага незаконна, і гэта адбылося па ўка-

заньні Прасолава.

Падаць касацыйную скаргу Леаніда падштурхнула тое, што ён не пагадзіўся з пастановай, вынесеным яму судом правінцыйнага Гарадка. На думку «правапарушальніка», суд над ім быў прадузятым, а судзьдзя ня выбрала часу разабрацца ва ўсіх абставінах яго справы, каб вынесьці справядлівае і кампэтэнтнае рашэньне.

У сваёй пазоўнай заяве спадар Аўтухоў згадаў адзінаццаць акалічнасьцяў, на якія мусіла зьвярнуць увагу касацыйная інстанцыя. Апазыцыйны палітык хацеў дамагчыся таго, каб яго справа была разгледжаная паўторна з удзелам іншага судзьдзі суду Гарадоцкага раёну.

Да найбольш значных акалічнасьцяў можна аднесьці сур’ёзныя працэсуальныя парушэньні, якія дапусьціла судзьдзя Гарадоцкага суду. Так, яна не пагадзілася адкласьці судовае паседжаньне для арганізацыі абароны і ўступленьня ў справу адваката. Не была таксама задаволеная просьба «правапарушальніка» аб выкліку важных сьведак па справе. Апроч таго, на думку Аўтухова, судзьдзя ўзяла на сябе адказнасьць ацэньваць словы, запісаныя ў кнізе заўваг і прапаноў гарадокскага выканаўчага камітэту, з пункту гледжаньня іх абразьлівасьці, хаця такое права ёй ня дадзенае працэсуальным законам.

Судзьдзя Іванова не прыняла ніводнага доваду апазыцыянэра. Яе выснова: пакараньне, вынесенае судзьдзёй суду Гарадоцкага раёну А. Носавай, заснаванае на законе і не супярэчыць яму. Яна таксама зрабіла рэмарку, што штраф накладзены не па максімуме па прымененым артыкуле (50 базавых велічынь). А тыя 30 базавых, якія атрымаў у выглядзе штрафу Аўтухоў, трэба расцэньваць як гуманнасьць ў дачыненьні да яго з боку яе гарадоцкай калегі.

Просьба апазыцыйнага палітыка замяніць яму штраф на адміністрацыйны арышт была таксама адхіленая, паколькі ў касацыйнай інстанцыі ня можа быць ужытае пакараньне больш суворае, чымся прызначанае судом першай інстанцыі.

**18.05.2015** Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь разгледзеў у парадку нагляду скаргу віцебчука **Пятра Бярлінава** на рашэньне суду Першамайскага раёну Віцебску і Віцебскага абласнога суду, якія задаволілі пазоў ААТ «Жылбуд» аб яго высяленьні ў сувязі са зносам жылога дому. Выснова, да якой прыйшоў ВС: ніякіх парушэньняў нормаў матэрыяльнага і працэсуальнага права судамі не дапушчана.

Найвышэйшы суд краіны, як раней раённы і абласны суды, палічыў, што, перасяліўшы грамадзяніна з уласнага дыхтоўнага драўлянага дому ў цэнтры гораду ў трохпакаёвую кватэру аж на дзевяты паверх бэтоннага гмаху ў мікрараёне Білева, і ААТ «Жылбуд», і гарвыканкам дзейнічалі выключна ў рамках заканадаўства і зрабілі цалкам раўназначны абмен, з непрыхаваным клопатам пра гаспадара.

У сувязі зь меркаванай пабудовай шматпавярховіка зямельны ўчастак па праезьдзе Дзімітрава, 4 у Віцебску, на якім разьмяшчаліся дом, гараж, лазьня і цагляны будынак майстэрні Пятра Бярлінава, па рашэньні Віцебскага гарвыканкаму мусіў быць перададзены іншаму ўладальніку. Толькі вось лёс і намеры гаспадара, які меркаваў займацца ўласнай справай у збудаванай майстэрні абсалютна нікім не былі прынятыя пад увагу.

Пагадзіцца з гэткім нераўназначным для сябе абменам спадар Бярлінаў ня змог, таму і спадзяваўся адшукаць праўды ў апошняй судовай інстанцыі. Аднак Вярхоўны Суд ня ўзяў пад увагу ніводнага з прыведзеных Пятром Бярлінавым аргумэнтаў.

Довад спадара Бярлінава пра неабходнасьць выдзяленьня яму кватэры агульнай плошчай 367 квадратных мэтраў прызнаны неабгрунтаваным. Бо ў адпаведнасьці з нормамі дзейнага заканадаўства ў агульную плошчу жылога дому, які падлягае зносу, не ўваходзіць плошча гаспадарчых пабудоў, разьмешчаных на ўчастку. Не ўваходзіць нават тады, калі іх агульны рыначны кошт можа перавышаць кошт дому – парадаксальна, але факт.

Ня змог былы гаспадар знайсьці і доказаў, пераканаўчых для суду, якія б пацьвердзілі ягонае сьцьверджаньне пра недакладную каштарысную ацэнку будынкаў.

Апошні з аргумэнтаў, прыведзеных Пятром Бярлінавым, таксама абвергнуты судовай інстанцыяй. Скаржнік не падаў доказаў, якія засьведчылі б яго няздольнасьць па стане здароўя пражываць на дзевятым паверсе шматпавярховага дому. Хаця, калі ўдумацца ў сутнасьць усяе гэтае пературбацыі, ужо сам факт перасяленьня чалавека, які, штодня выходзячы са свайго ўласнага дому, ступаў не ў кабіну ліфту, а адразу на зямлю, то факт перасяленьня на дзевяты паверх можна ўспрымаць, як непрыхаваны зьдзек зь незгаворлівага ўласьніка.

**28.05.2015** Калегія па грамадзянскіх справах Віцебскага абласнога суду аднавіла права жыхара Віцебску **Аляксандра Антоненкі** на свабоду выезду за межы краіны. Ранейшае рашэньне старшыні суду Кастрычніцкага раёну Яўгена Бурунова, згодна зь якім права на выезд Антоненка было абмежаванае, калегіяй прызнанае незаконным і скасаванае.

Гэтая гісторыя пачалася ў красавіку бягучага году, калі Аддзел прымусовага выкананьня (АПВ) Кастрычніцкага раёну Віцебску зьвярнуўся ў суд, палічыўшы, што Аляксандар Антоненка не выплачвае грошы дзяржаве на ўтрыманьне свайго дзіцяці ў прытулку. Кіраўніцтва раённага АПВ папрасіла суд Кастрычніцкага раёну Віцебску абмежаваць спадару Антоненку права на выезд за межы краіны.

Судзьдзя суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Яўген Буруноў пагадзіўся з довадамі АПВ і сваім вызначэньнем 9 красавіка абмежаваў права Антоненкі на выезд за межы Рэспублікі Беларусь. Аднак апошні не пагадзіўся з такім рашэньнем суду і зьвярнуўся з прыватнай скаргай у Віцебскі абласны суд.

У сваёй скарзе Аляксандар Генадзевіч сьцьвярджаў, што зьяўляецца ахвярай судовай памылкі і прасіў скасаваць як незаконную і неабгрунтаваную судовую пастанову. Ён прывёў неабвержныя факты таго, што судзьдзя Буруноў, прымаючы рашэньне па ягонай справе, не ўлічыў адсутнасьць запазычанасьці па выплаце расходаў на ўтрыманьне дзіцяці.

Па стане на 1 лютага 2015 году пераплата выдаткаў на ўтрыманьне на карысьць аддзелу адукацыі, спорту і турызму Віцебскага гарвыканкаму складала 476 рублёў. На 9 красавіка, калі судзьдзя выносіў вызначэньне па справе, запазычанасьць таксама адсутнічала – наадварот, была пераплата ў памеры 31 тысячы рублёў. То бок спадар Антоненка выконваў свае абавязкі перад дзяржавай цалкам, і прэ-

тэнзіяў да яго быць не павінна.

Аднак судзьдзя Буруноў вырашыў па-свойму і вынес вэрдыкт, які абмежаваў права законапаслухмянага грамадзяніна. І толькі дзякуючы досьведу і прафэсіяналізму судзьдзяў Віцебскага абласнога суду судовая памылка была выпраўленая, а правы грамадзяніна былі адноўленыя.

**04.06.2015** Сваёй пастановай ад калегія Віцебскага абласнога суду ў складзе судзьдзяў Тацьцяны Матушайкес, Натальлі Хількевіч і Ніны Сазонавай, разгледзеўшы касацыйную скаргу старасты вёскі Стаўры **Ігара Грышанава** на рашэньне суду Аршанскага раёну і гораду Воршы наконт зносу кіраўніцтвам Аршанскай птушкафабрыкі будынку вясковага клюбу, пакінула яго ў сіле.

Дзеяньні кіраўніцтва птушкафабрыкі, якое зьнсла «лядашчы» будынак клюбу, капітальны рамонт якога быў у 2013 годзе, актывіст сьпярша намагаўся аспрэчыць у раённым судзе, але праўды дамагчыся там не ўдалося. Суд спаслаўся на тое, што пазоўнік не скарыстаўся нормай закону, якая давала яму магчымасьць абскардзіць дзеяньні адказчыка ў судовым парадку ў месячны тэрмін – гэты тэрмін быў прапушчаны. Грышанаў прасіў суд аднавіць прапушчаны тэрмін, але хадайніцтва пра гэта задаволенае не было.

Цяпер абласны суд пацьвердзіла рашэньне раённага суду: на думку судзьдзяў судовай калегіі падставаў для скасаваньня рашэньня, вынесенага судом ніжэйшай інстанцыі, няма.

**12.06.2015** Калегія Віцебскага абласнога суду, разгледзеўшы у закрытым рэжыме касацыйную скаргу асуджанага на шэсьць з паловай гадоў зьняволеньня **кіраўніка незарэгістраванай партыі «Белая Русь» Сяргея Рыжова**, пакінула ў сіле рашэньне суду першай інстанцыі.

Сяргей Рыжоў мусіць адседзець прызначаны яму тэрмін зьняволеньня ў папраўчай калёніі ва ўмовах строгага рэжыму. Прысуд у дачыненьні да палітыка быў абвешчаны 3 красавіка. Ён асуджаны паводле артыкулу 167 (гвалтоўныя дзеяньні сэксуальнага характару) і артыкулу 339 (хуліганства) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Пра падрабязнасьці разгляду касацыйнай скаргі Сяргея Рыжова паведаміў яго прадстаўнік лекар **Ігар Пастноў**: «Абаронцай асуджанага быў зроблены націск на тое, што на прадстаўленых фотаздымках няма выразнасьці. А зьнешнія абрысы постаці і тып фрызуры сфатаграфаванай асобы не адпавядаюць постаці і фрызуры Рыжова. Акрамя таго, няма фактаграфічных доказаў дзеяньня, у якім былы кандыдат у прэзыдэнты абвінавачвацца».

**23.06.2015** Нягледзячы на тое, што з 2 траўня 2013 году **грамадзкі актывіст Рафаэль Габрыэль Саламонавіч Кірылаў-Шмільхольдхард** зарэгістраваны ў гарадзкім цэнтры занятасьці ў якасьці беспрацоўнага, дапамогі па беспрацоўі ён не атрымлівае: ад яго патрабуюць спачатку адпрацаваць на грамадзкіх працах 22 працоўныя дні. Актывіст паспрабаваў зьмяніць сытуацыю, зьвярнуўшыся ў суд.

Судзьдзя суду Кастрычніцкага раёну гораду Віцебску Алена Папкова, разгледзеўшы скаргу актывіста на адмову Віцебскага гарадзкога ўпраўленьня па працы, за-


Рафаэль Габрыэль Кірылаў-Шмільхольдхард

нятасьці і сацыяльнай абароне насельніцтва ў выплаце яму дапамогі па беспрацоўі, пакінула пададзены працэсуальны дакумэнт бяз руху. Як тлумачыцца ў судовым вызначэньні, скарга пададзеная з парушэньнем вызначаных заканадаўствам нормаў.

Сутнасьць у тым, што з пункту гледжаньня суду «заяўленыя Кірылавым-Шмільхольдхардам патрабаваньні неканкрэтныя», з прычыны чаго ня можа быць разгледжаная і просьба заяўніка аб вызваленьні яго ад выплаты дзяржпошліны, а, «значыць, судом ня можа быць вырашанае пытаньне пра ўзбуджэнне вытворчасьці па справе».

Спадар Кірылаў-Шмільхольдхард, зьвяртаючыся ў суд, спадзяваўся, што той возьме пад увагу факт наяўнасьці ў яго справе беспрацоўнага шматлікіх мэдычных заключэньняў «урачэбна-кансультацыйных камісіяў, якія забараняюць па наяўных шматлікім мэдычных паказаньнях (хранічных захворваньнях) удзельнічаць (яму) у грамадзкіх працах». Хоць сваімі ранейшымі дзеяньнямі ўпраўленьне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне ўскосна пацьвердзіла наяўнасьць у актывіста такіх хранічных захворваньняў – за ўвесь пэрыяд яго рэгістрацыі беспрацоўным ні разу не накіравала яго для ўдзелу ў грамадзкіх працах.

Незаконныя, на яго думку, дзеяньні з боку дзяржавы, якія пазбавілі яго сацыяльных гарантыяў, Кірылаў-Шмільхольдхард лічыць перасьледам па палітычных матывах. Актывіст мяркуе, што яго ранейшая палітычная і грамадзкая дзейнасьць прывяла да прадузятага стаўленьня з боку асобных чыноўнікаў, якія маюць да яго асабістую непрыязнасьць.

## Абмежаваньне эканамічных і сацыяльных свабод

**01.07.2014** Больш за 90% індывідуальных прадпрымальнікаў, якія ажыцьцяўляюць гандаль прамысловымі таварамі на тэрыторыі Калгаснага рынку ў Полацку, ня выйшлі на працу 1 ліпеня.

Падставай для такога рашэньня стала ўступленьне ў моц указу № 222 "Аб рэгуляваньні прадпрымальніцкай дзейнасьці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізычнымі асобамі», які прэзыдэнт падпісаў у траўні.

Гэты ўказ забараняе гандаль без сэртыфікатаў і суправаджальных дакумэнтаў на тавары, у тым ліку тыя, якія ўвозяцца з краін Мытнага саюзу. Без дакумэнтаў рэалізаваць рэшткі тавараў, увезеных з Расеі ці Казахстану да 1 ліпеня 2014 году, можна да 1 сакавіка 2015 году.

Прадпрымальнікі неаднаразова заяўлялі, што гэтае патрабаваньне невыканальнае – неабходныя дакумэнты практычна немагчыма атрымаць у пастаўшчыкоў (у асноўным расейскіх), а працаваць на рэштках тавару (калі няма памераў і асартымэнту) абсалютна не рэнтабэльна.

Паколькі да думкі прадпрымальнікаў не прыслухаліся, напярэдадні 1 ліпеня яны падалі ў падатковыя органы «нулявыя дэкларацыі».

**01.07.2014** Прадпрымальнікі ў Віцебску на знак пратэсту ня выйшлі на працу. Таксама сталі рынкі ў іншых рэгіёнах – па ўсёй Беларусі. Віцебскія прадпрымальнікі лічаць, што Менск сваёй бяззубай пазыцыяй здрадзіў рэгіёнам.

1 ліпеня для індывідуальных прадпрымальнікаў стаў чорным днём: уступілі ў моц новыя правілы дзейнасьці прадпрымальнікаў. Ўведзеная абавязковая сэртыфікацыя тавараў, што ўвозяцца з краін Мытнага саюзу, і пачаў дзейнічаць прэзыдэнцкі ўказ № 222, які загадвае мець суправаджальныя дакумэнты на ўвесь тавар.

Прадпрымальнікі атрымалі магчымасьць распрадаваць рэшткі тавару, увезенага ў Беларусь з тэрыторыі Мытнага саюзу, да 1 сакавіка 2015 году без сэртыфікатаў. Але пытаньне: як жыць далей.

**Каардынатар аргкамітэту па стварэньні прафсаюзу прадпрымальнікаў "Разам"**, прадстаўнік гандлёвага цэнтру "Эвіком" **Ірына Яскевіч**:

«Мы спынілі сваю працу яшчэ 5 чэрвеня. З таго часу мы атрымалі лісты ад дзяржаўных органаў – чакайце, і вам адкажуць. Учора прыйшоў ліст зь Дзяржстандарту, у якім гаворыцца, што з рэшткамі прадукцыі, увезенымі ў Беларусь да 1 ліпеня, мы можам працаваць без сэртыфікатаў, якія пацьвярджаюць іх якасьць. Мы не атрымалі адказаў на яшчэ два пастаўленыя пытаньні. Таму мы прынялі рашэньне пачакаць і не выходзіць на працу. Віцебскія ініцыятары кампаніі – "Смаленскі рынак", "Эвіком", "Паўднёвы", "Чкалаўскі", часткова – "Кантынент", "Вольга" – папросту ня выйшлі на працу. Нас падтрымалі каля 90% прадпрымальнікаў, якія выплачваюць адзіны падатак. Мы прынялі рашэньне стаяць да таго часу, пакуль не атрымаем адказу на пытаньні, якія цікавяць нас».

**10.07.2014** На Пастаўшчыне бракуе вакцыны для прышчэпак маленькім дзеткам. У гарадзкім пасёлку Лынтупы на 15 дзяцей на цяперашні момант выдаткавана

толькі 4 вакцыны. Бацькі хвалююцца, бо ўжо мінаюць тэрміны вакцынацыі.

“Прышчэпкі выдзяляюць не рэгулярна і мала, і ўсе тэрміны мінаюць, — распавядае жыхар Лынтупаў Уладзімер. — Дзеткам, якія ў тры месяцы павінны быць уколатыя, ужо і па пяць, і па шэсьць, а яны не прышчэпленыя. Дзеці да году і звыш году таксама не атрымалі вакцыну. Наогул, у шпіталі нават не агучваюць, колькі дзяцей не прышчэплена пасьля году”.

Галоўны лекар Пастаўскага шпіталя Ўладзімер Чакавы тлумачыць адсутнасьць прышчэпак тым, што сама раённая лякарня вакцыну не закупляе, гэта робіцца на абласным узроўні. Матэрыял для вакцыны паступае з-за мяжы, таму некаторы час займае кантроль яе якасьці.

**11.07.2014** Страйк ІП ва ўсёй Беларусі прыпынены, але можа аднавіцца ў кожны момант. Пра гэта паведаміла **каардынатарка аргкамітэту ў стварэньні прафсаюзу прадпрымальнікаў «Разам» Ірына Яскевіч**. Яна адзначыла, што пастанова прадпрымальнікаў Віцебску аб прыпыненьні страйку зусім ня значыць канец іх барацьбы за свае правы, а толькі яе пераход у іншую форму.

«Хутка мы будзем сустракацца з рэгіянальнымі актывістамі і паспрабуем стварыць грамадзкую арганізацыю, якую ня трэба будзе рэгістраваць і якая дазволіць падтрымліваць сувязь паміж усімі ІП Беларусі», – сказала яна.

Ірына Яскевіч дадала, што віцебскія прадпрымальнікі не атрымалі адказу ўладаў на звароты і патрабаваньні: «Пасьля падарожжа нашых папер з інстанцыі ў інстанцыю мы атрымалі адказ толькі на адно пытаньне – што працаваць з рэшткамі нашых тавараў мы можам. Але нават у гэтым адказе не зусім зразумела, якія патрабаваньні будуць да тых дакумэнтаў, якія павінны быць у нас», – канстатавала актывістка.

**14.07.2014** Наймальнікі Віцебскай вобласьці ня хочуць браць на працу непаўналетніх і нават студэнтаў. «Паводле прыблізных падлікаў, у нас у вобласьці 67 тысяч падлеткаў школьнага ўзросту, але летняй занятасьцю зь іх ахопленыя ня больш за 30%», – адзначыў першы намесьнік начальніка ўпраўленьня адукацыі Віцебскага аблвыканкаму Леанід Сьцяпанаў на паседжаньні камісіі па справах непаўнагадовых.

Прычыны для гэтага розныя: фінансавыя і бюракратычныя складанасьці пры стварэньні прышкольных лягераў працы і адпачынку (а часам і проста фармальны падыход да пытаньня) з аднаго боку і адсутнасьць заявак ад наймальнікаў – з другога.

«Мы маем два асноўных напрамкі работы, – патлумачыла намесьнік старшыні – начальнік упраўленьня занятасьці насельніцтва камітэту па працы, занятасьці і сацыяльнай абароне аблвыканкаму Ірына Матвеева. – У межах дзяржаўнай праграмы сёлета выдзелена 4,5 млрд рублёў для арганізацыі працы 3,5 тыс. навучэнцаў. У асноўным гэта працы па рамонце школьнай мэблі, добраўпарадкаваньні, пашыве простых элемэнтаў інтэр’еру. Другі напрамак – за кошт сродкаў наймальнікаў. Але ў 2014 годзе дагэтуль няма заявак зь Бешанковіцкага, Гарадоцкага, Лепельскага, Докшыцкага, Мёрскага раёнаў, хаця раней сельгаспрадпрыемствам заўсёды патрабавалася дапамога на палёх. Нават Віцебск ня цешыць вакансіямі для не-


Юлія Бутар

паўнагадовых».

Трывогу б'е і абласны штаб працоўных спраў. Паводле слоў **першага сакратара абкаму БРСМ Юліі Бутар**, на сёньняшні дзень заключаныя дамовы на працаўладкаваньне 2883 чалавек, працуюць пакуль 1495. У такіх умовах вельмі складана фармаваць нават будаўнічыя атрады: пакуль толькі два наймальнікі – будтрэст № 9 і ВКПДУП «ВІТЭК» УП «Віцебскаблрамбуд» – пагадзіліся на заключэньне дамоваў.

«У нас столькі ахвотных папрацаваць! Студэнты тэлефануюць штодня. Але калі цяпер нічога не распачаць, то мы іх проста выпусьцім: скончацца экзамэны, і маладзёны разьедуцца па дамох», – агучыла пэрспэктыву Юлія Бутар.

Але ёсьць яшчэ адзін аспэкт, зьвязаны з другаснай занятасьцю, які ў сьвятле гэтых падзеяў набывае асаблівую актуальнасьць: «Працаўладкаваньне – гэта ня толькі магчымасьць з карысьцю правесьці летнія вакацыі, зарабіць кішэнных грошай, – падкрэсьліў намесьнік старшыні аблвыканкаму Ўладзімер Цярэнцьеў. – Гэта яшчэ і забесьпячэньне занятасьці дзяцей, падчас якой яны будуць пад наглядам, а не аддадзеныя самі сабе. Такім чынам, менш шанцаў падвергнуцца рызыцы або зьдзейсьніць супрацьпраўнае дзеяньне».

Старшы інспэктар па асаблівых даручэньнях УУС Дзьмітры Новікаў распавёў, што пры агульнай тэндэнцыі да зьніжэньня злачыннасьці сярод непаўнагадовых у Верхнядзьвінскім, Полацкім, Пастаўскім, Мёрскім, Аршанскім раёнах такіх фактаў стала больш у параўнаньні зь мінулым годам. Асабліва нядобрай статыстыкай вызначыўся Барковіцкі ліцэй Верхнядзьвінскага раёну, дзе сёлета ўжо ўзбуджана 11 крымінальных спраў у адносінах да непаўналетніх.

Але яшчэ больш праваахоўнікаў вобласьці турбуе тое, што за 5 месяцаў заведзена ўжо 18 крымінальных спраў, зьвязаных зь незаконным абаротам наркотыкаў. У большасьці выпадкаў вядзецца пра спайсы. Таму міліцыя прапануе аб'ядноўвацца з аддзеламі адукацыі для сумесных праверак, уводзіць практыку заахвочваньня установаў адукацыі, якія выявілі ў сябе факт спажываньня або куплі-продажу наркатычных рэчываў.

**20.07.2014** Віцебскае ААТ «КІМ» ужо некалькі гадоў на слыху. Гаротны фінансавы стан і праграма выхаду на бясстратную працу прадпрыемства, назва якога расшыфроўваецца як «Клясыка індустрыі моды», неаднаразова абмяркоўваліся на самых розных узроўнях.

Год таму тут пабываў прэм'ер-міністар Міхаіл Мясьнікові і прапанаваў як адзін з варыянтаў выратаваньня ААТ, дзяржаўная доля ў статутным фондзе якога скла-

дае 99,76 адсотка, далучэньне да голдынгу на базе «Сьвітанку». Кіраўніцтва прадпрыемства было катэгарычна супраць такога рашэньня і настойвала на чарговай, чацьвертай па ліку фінансавай дзяржпадтрымцы.

Прасіла «усяго» 100 мільярдаў рублёў на пагашэньне даўгоў, пратэрміновак, неплацяжоў і папаўненьне абаротных сродкаў прыкладна да 5 мільёнаў эўра на закупку абсталяваньня. Прэм'ер-міністар тады назваў гэткія інвэстыцыі чарговым закідам грошай у прорву…

Праблема так і засталася нявырашанай. Эканамічнае становішча «КІМ» па-ранейшаму выклікае немалую трывогу абласных і рэспубліканскіх органаў кіраваньня, а нядаўна праведзеная тут Камітэтам дзяржкантролю праверка паказвае, што нават наяўныя мізэрныя сродкі ААТ выдаткоўваюцца, мякка кажучы, своеасабліва. Прадпрыемства вось ужо сем гадоў зьяўляецца устойліва неплацежаздольным, ня можа ажыцьцяўляць бягучую дзейнасьць, своечасова выконваць свае абавязкі перад банкам і пастаўшчыкамі, мадэрнізаваць вытворчасьць. Тым ня менш тут, высьвятляецца, знаходзяць грошы на вельмі сумнеўныя выплаты…

«Перш за ўсё, нас зьдзівіла, што канцэрн “Беллегпрам” ня ставіць зарплату кіраўніка ў залежнасьць ад вынікаў працы прадпрыемства, – кажа намесьнік начальніка ўпраўленьня кантролю галін гаспадаркі і грашова-крэдытнай сфэры КДК Віцебскай вобласьці Сьвятлана Панкратава. – Вось глядзіце: рабочыя атрымлівалі 2-3 мільёны рублёў, кіраўнік – ад 12 да 18,5 мільёна. Пры тым, што зь лютага 2013 году заробкі супрацоўнікам выплачваліся з затрымкай у некалькі месяцаў. Толькі пасьля нашага ўмяшаньня заработную плату генэральнага дырэктара паменшылі ў два разы. Не саромеліся кіраўнікі таварыства і ў налічэньні сабе матэрыяльнай дапамогі да адпачынку».

Штатным намесьнікам нават на час аднадзённых камандзіровак генэральнага налічваўся дадатковы заробак за выкананьне яго абавязкаў. Пры наяўнасьці ў штаце 5 намесьнікаў генэральнага дырэктара, галоўнага інжынэра, намесьнікаў галоўнага інжынэра, галоўнага тэхноляга, галоўнага бухгальтара, 18 начальнікаў аддзелаў, іншых кіраўнікоў і спэцыялістаў быў прыцягнуты яшчэ і пазаштатны супрацоўнік. У абавязкі мінчука 1938 году нараджэньня ўваходзіла даваць кансультацыі па стабілізацыі фінансава-эканамічнага становішча таварыства. Таварыш кансультаваў цэлы год. За гэты час справы фінансавыя толькі пагоршыліся. У тым ліку і таму, напэўна, што на арганізацыю яго паездак у Віцебск, пражываньне ў гатэлі, харчаваньне і нават аплату цыгарэт ды іншых выдаткаў затрачана больш за 300 мільёнаў рублёў.

«Інфармацыя пра шматлікія парушэньні, выяўленыя падчас праверкі, ужо перададзеная ў праваахоўныя органы, – працягвае Сьвятлана Панкратава. – Справа пагаршаецца тым, што на рахунках бухгальтарскага ўліку ў «КІМ» – велізарная запазычанасьць незразумелага паходжаньня. Ніякімі дакумэнтамі не пацьверджаныя даўгі прадпрыемству ў суме больш за 8 мільярдаў рублёў, а таксама яго запазычанасьць у памеры звыш 6 мільярдаў рублёў. Гэта значыць, сёньня незразумела, хто, каму і за што завінаваціўся. Варта адзначыць, што адсутнасьць ўліку і дакумэнтацыі стварала добрую глебу для злоўжываньняў».

**21.07.2014** Афрыканская чума зьменшыла пагалоўе сьвіней на Віцебшчыне больш




як на 217 тысяч галоваў. Сьвіньні зьніклі ў шасьці раёнах вобласьці. Усяго ж па краіне сьвіней стала менш на 620 тысяч галоваў.

Паводле гэтых дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэту за пяць месяцаў 2014 году на Віцебшчыне на канец траўня засталося крыху больш за 293 тысяч галоваў сьвіней з 510 431 парсюка, якія былі ў 2013 годзе.

Пры гэтым калі год таму ў Бешанковіцкім раёне было 23 477, Віцебскім – 21 897, Дубровенскім – 20 065, Сеньненскім – 20 647, Талачынскім – 46 213, Ушацкім – 20 103 галоваў сьвіней, то зараз на сьвінагадоўчых прадпрыемствах гэтых раёнаў сьвіней няма зусім.

**24.07.2014** Другое лета запар сьцены аднаго з найбуйнейшых на Віцебшчыне аздараўленчага лягеру "Віцязь" застаюцца пустымі. Справа ў тым, што ва ўласьнікаў няма сродкаў на яго ўтрыманьне. Перадаць базу новаму ўласьніку рашэньне ўжо прынятае, і нават частка карпусоў перададзеная, але водазабесьпячэньне, электрасеткі ўсё яшчэ на балянсе ранейшага ўладальніка.

Кацельня, эстрада, футбольнае поле, дзьве баскетбольныя пляцоўкі. Тэрыторыя – 15 гектараў зямлі. Сем карпусоў, у некаторых нават душавыя ў нумарох. Такой інфраструктурай могуць пахваліцца нямногія аздараўленчыя лягеры ў вобласьці, а гэты прыходзіць у заняпад. Былыя выхавальнікі і бацькі дзяцей б'юць ва ўсе званы.

**Дзьмітры Рыжыкаў**, жыхар Віцебску, былы важаты: "Калі цяпер ня ўзьняць гэтае пытаньне, то яшчэ пару гадоў – і лягер прасьцей пабудаваць зноўку, чымся рэканструяваць гэты. Пасьля ўрагану абяцалі прыбраць, відаць, ды, на жаль, на ўсё гэта глядзець сумна, балюча і прыкра".

Першая зьмена ў лягеры тут адкрылася ў сярэдзіне 90-х. А апошнімі гадамі ўладальніку – тэлезаводу "Віцязь" – хапала грошай толькі на касмэтычны рамонт.

Апошняй кропляй стаў ўраган ў 2012 годзе, яго наступствы бачныя і сёньня. Тады ж прадпрыемства пачало перадачу лягеру новаму ўласьніку. Гэтая працэдура цягнецца аж дагэтуль. Патлумачыць сытуацыю кіраўніцтва тэлезаводу пагадзілася толькі па тэлефоне. Прычынамі цяганіны назвалі вялікую колькасьць дакумэнтацыі і фінансавыя цяжкасьці.

**30.07.2014** У цэху № 201 заводу «Палімір» ААТ «Нафтан» з флянцавага злучэньня помпы адбылася ўцечка воднага раствору ацэтанітрілу, які разьліўся на плошчы 1 квадратны мэтар. Падчас спробы самастойна ліквідаваць цечу атручваньне парамі сінільнай кіслаты (уваходзіць у склад рэчыва) атрымалі сьлесар-рамонтнік і старшы майстар цэху. Абодва шпіталізаваныя.

Работнікі МНС наклалі бандаж з устаноўкай заціску на месца разгермэтызацыі флянцавага злучэньня і стварылі пенную падушку для спыненьня выпарэньня сінільнай кіслаты.

**30.07.2014** Пытаньне закрыцьця пасутачнай арэнды жытла, якое яшчэ нядаўна гучала толькі для сталіцы, наўпрост закрануў рэгіёны. Так, спэцыялістам КУП «Воршакамгас» было даручана ўзмацніць кантроль за выкарыстаньнем жылых памяшканьняў. У выніку, прадпрымальнікам прапануюць два варыянты: альбо пераводзіць жытло ў нежылы фонд, альбо проста адмовіцца ад бізнэсу.

У рэдакцыю *hata.by* зьвярнулася прадпрымальнік з Воршы, якая займаецца здачай жытла ў кароткатэрміновую арэнду. Як высьветлілася, жанчыне патэлефанавалі зь мясцовага ЖЭА і, спасылаючыся на пастанову Савету Міністраў, дасланую ў рэгіёны Міністэрствам ЖКГ, паведамілі пра тое, што кватэру, якую яна здае ў посутачную арэнду, неабходна перавесьці ў нежылы фонд, альбо наогул адмовіцца ад гэтага віду дзейнасьці.

Нягледзячы на тое, што ў Менску спрэчкі пра закрыцьцё пасутачнага бізнэсу не сьціхаюць, а прадпрымальнікі стварылі асацыяцыю «Гасьціннасьць», якая змагаецца за іх правы, пытаньне ліквідацыі сутачнікаў для рэгёнаў здаецца даўно вырашаным.

«Нават калі разважаць лягічна, гэта ўжо не жытло, а гатэль, – распавялі ў камгасе Воршы. – Атрымліваецца, што жылое памяшканьне выкарыстоўваецца не па прызначэньні, значыць, гэтыя памяшканьні трэба выводзіць са складу жылых і рэгістраваць як нежылыя, а выводзіць са складу жылых, паводле заканадаўства, можна толькі памяшканьні, разьмешчаныя на першым паверсе. Тэрмін, да якога прадпрымальнікам трэба перавесьці сваё жытло, не пазначылі, пакуль нам неабходна проста ўзмацніць кантроль за выкарыстаньнем жылых памяшканьняў. Мы павінны хадзіць, выяўляць, афармляць на адміністрацыйную камісію, а ім даручана пераводзіць у нежылы фонд. У адваротным выпадку трэба будзе зьмяніць сваю дзейнасьць і здаваць кватэры ў працяглую арэнду, а не на суткі».

Як паведамілі ў камунальнай гаспадарцы, такое рашэньне было прынятае ўжо даўно: «Цяпер нічога не абмяркоўваецца, гэтая пастанова ўжо прынята. Саветам Міністраў нам ужо дадзенае ўказаньне выяўляць. Ствараць камісію і прапаноўваць людзям пераводзіць жытло ў нежылы фонд".

У гэты ж час у інспэкцыі па падатках і зборах Воршы лічаць, што ліст быў проста няправільна зразуметы ЖЭА і іншымі прадпрыемствамі: «У выканкам прыйшло тлумачэньне Міністэрства жыльлёвай гаспадаркі, якое потым адпісалі іншым ведамствам, – распавядае начальнік упраўленьня інспэкцыі Юры Каган. – Выканкам даў указаньне нашым ЖЭКам пакараць прадпрымальнікаў альбо перавесьці ў нежылы фонд. Я ня ведаю, чаму так атрымалася, нам самім тэлефанавалі з ЖЭА, пыталіся, але ў нас людзі як плацілі, так і працягваюць плаціць – гэты від падаткаабкладаньня не адменены».

**02.08.2014** Як паведамляюць беларускія турапэратары, у айчынных турыстычных кампаніяў узьніклі складанасьці зь пераводам грошай партнэрам за мяжу праз банкі з расейскім капіталам, прадстаўленыя ў Беларусі. Так, на цэлы тыдзень за-

трыманы даляравы плацёж праз «Белзьнешэканомбанк» у аднаго з буйных беларускіх турапэратараў.

Вядзецца пра некалькі плацяжоў праз амэрыканскі карэспандэнцкія рахункі ў памеры дзясяткаў тысяч даляраў. Грошы «падвісьлі», на просьбу растлумачыць сытуацыю супрацоўнікі банку ў неафіцыйнай гутарцы адказалі турапэратару, што гэта адбылося «ў сьвятле апошніх падзеяў» (гаворка ідзе пра санкцыі, якія наклалі Эўразьвяз і ЗША на шэраг расейскіх структур).

Паводле слоў турапэратара, банк абяцае разабрацца з праблемай, хоць і намякае, што грошы «БелВЭБ», як і мае быць, пералічыў амэрыканскаму банку, такім чынам, сваю частку апэрацыі выканаў, а пакуль прапануе другі раз перавесьці грошы за мяжу празь іншыя карэспандэнцкія рахункі. Сытуацыя пагаршаецца той акалічнасьцю, што ў цяперашні момант у разгары актыўны турыстычны сэзон і чакаць доўга, пакуль банк знойдзе спосаб вярнуць «замарожаны» плацёж, фірма ня можа – замежныя партнэры могуць адмовіцца разьмяшчаць турыстаў, за туры якіх не паступілі грошы.

У той самы час, паводле афіцыйнай інфармацыі, якую агучыў намесьнік старшыні праўленьня «БелВЭБ» Андрэй Раманенка, затрымка ніяк ня можа быць зьвязаная з санкцыямі. На гэта ёсьць шэраг абставінаў. Па-першае, санкцыі ніякім чынам ня тычацца такога пытаньня, як плацяжы, яны зьвязаныя толькі з забаронай на дачу замежных рэсурсаў і крэдытаў адпаведным банкам. Па-другое, беларускія банкі з расейскім капіталам такіх крэдытаў ніколі ня бралі, дык што наогул адсутнічае якая-небудзь магчымасьць зьвязаць дзеяньні амэрыканскага банку з санкцыйнымі праблемамі. Паводле слоў Андрэя Раманенкі, затрымкі плацяжоў праз амэрыканскія карэспандэнцкія рахункі ня рэдкасьць, бо банкі ЗША досыць часта практыкуюць праверкі фірмаў, якія ажыцьцяўляюць плацяжы. Праўда, як правіла вядзецца толькі пра затрымкі на 1-2 дні, у цяперашнім жа выпадку некалькі плацяжоў «замарожаныя» ўжо тыдзень.

«Такога ніколі не было, – кажа прадстаўнік турфірмы, – у будучыні будзем выбіраць для працы банкі без расейскіх актываў!»

**13.08.2014** Рабочым аршанскіх электрасетак часам даводзіцца працаваць па 13-16 гадзін на суткі. Аднак адпаведнай аплаты за сваю працу яны так і ня бачаць, як і ня бачаць за гэта дадатковых выходных. Акрамя таго, па надуманых прычынах іх пазбаўляюць прэміяў, не аплачваюць усе працоўныя пуцёўкі і недаплачваюць за пераразьменку, якая штодня доўжыцца 30 хвілін.

Пра гэта распавёў рабочы РУП электраэнэргетыкі «Віцебскэнэрга» філіялу Аршанскія электрычныя сеткі **Мікалай Пранузa**, які зьвярнуўся па прававую дапамогу на сацыяльны офіс кампаніі “Гавары праўду”.

Мікалай Пранузa паведаміў, што ў іх арганізацыі існуе некалькі табеляў – адзін для бухгальтэрыі, а другі для праверак, і таму колькасьць няўлічанага працоўнага часу часам дасягае некалькіх дзён на працягу паўгодзьдзя. Шматлікія скаргі ў адрас кіраўніцтва арганізацыі не далі ніякіх вынікаў. Не дапамагае адстаяць свае правы і дзяржаўны прафсаюз, які ў 2012 годзе падтрымаў наймальніка і даў дазвол на тое, каб працоўным не даплачваць штодня 30 хвілін падчас пераразьменкі.


Віктар Стукаў

Сытуацыю камэнтуе **юрыст Алена Барысава**: "Усе адказы на свае скаргі, якія атрымаў Мікалай Прануза, не адпавядаюць дзейнаму заканадаўству. Зь іх вынікае, што чалавек, які адпрацаваў на працягу апошніх шасьці месяцаў звыш нормы, застаўся вінен арганізацыі 8 працоўных гадзін. Мною падрыхтаваная скарга аб пераліку звышурочных, а таксама разьязных КТС. Акрамя таго, была падрыхтаваная скарга аб правядзеньні атэстацыі працоўных месцаў атэстацыйнай камісіяй".

Рабочы зьбіраецца праз суд абараняць свой гонар, годнасьць і дзелавую рэпутацыю і спрабаваць законным шляхам даказаць сваю правату. Справа ў тым, што прадстаўнік адміністрацыі філіялу Аршанскіх электрасетак з-за таго, што Мікалай Прануза пісаў скаргі на імя кіраўніцтва і спрабаваў абараніць свае працоўныя правы пачала абражаць яго і пагражала яму наступствамі за яго актыўнасьць у прысутнасьці іншых рабочых.

**23.08.2014** Пасьля працоўнай зьмены работнікі ААТ «Полацак-Шкловалакно» змушаныя былі мыцца вадой з мазутам, распавёў **старшыня пяршоўкі Свабоднага прафсаюзу Беларускага Віктар Стукаў**. Паводле слоў рабочых, аказалася, што ва ўстаноўцы падагрэву вады адбылася ўцечка гаручага мазуту, які трапіў у гарачую ваду. Аднак выказваць абурэньне з прычыны здарэньня рабочыя не гатовыя.

"Пасьля душу 19 жніўня людзі казалі, што дома ад іх пахла газай. Непаладку неўзабаве ліквідавалі. Але, як я зразумеў з размоў з рабочымі, непрыемны пах дагэтуль стаіць у душы, – паведаміў Віктар Стукаў. – Пасьля зьмены душ прымае 300-400 чалавек. Рабочыя ня могуць не памыцца. Я сам там працаваў, і памятаю, што калі не прыняць душ, то ўсё цела будзе калоцца і чухацца ад дробнага шклянога пылу, які прысутнічае пры вытворчасьці і апрацоўцы шкловалакна. Нават калі няма гарачай вады, рабочыя мыюцца халоднай".

"Я цікавіўся, ці ёсьць абурэньне сярод рабочых, ці гатовыя яны ўзьняць гэтае пытаньне перад начальствам, запатрабаваць кампэнсацыю маральную шкоды. Але работнікі не разумеюць, што ў гэтай сытуацыі трэба адстойваць свае інтарэсы, каб больш такога не паўтаралася. Пакуль рашучых людзей, гатовых нешта патрабаваць, на жаль, няма", – распавёў Віктар Стукаў.

**30.08.2014** У беларускіх прадпрымальнікаў пачалі правяраць рэчы на беларуска-расейскай мяжы. Гандляры, якія езьдзяць па тавар у Расею, падчас вяртаньня ў Беларусь цяпер падлягаюць праверкам на мяжы з боку супрацоўнікаў адказных службаў, у тым ліку падатковай інспэкцыі. Пра гэта паведаміла віцебская прадпрымальніца, **старшыня стваранага прафсаюзу «Разам» Ірына Яскевіч**.

Паводле слоў Ірыны Яскевіч, службы цікавіць выключна тавар, які ўвозіцца ў Беларусь: «Ім важней за ўсё тыя паперы, тыя дакумэнты, якія яны ім паказваюць. Гэтыя дакумэнты фіксуюць для таго, каб потым прадпрымальнік заплаціў дваццаць працэнтаў пошліны ад кошту гэтых тавараў. А больш на сёньняшні дзень іх нічога не турбуе. Гэта будзе адной з крыніц папаўненьня бюджэту».

Таксама Ірына Яскевіч зьвяртае ўвагу на той факт, што расейскія сэртыфікаты якасьці і бясьпекі далей не прызнаюцца ў Беларусі, таму пасьля таго, як тавар увезены ў краіну, неабходна падцьвердзіць яго бясьпеку яшчэ і ў беларускіх адказных органах.

**01.09.2014** За несвоечасовую выплату заработнай платы ў студзені – жніўні да адміністрацыйнай адказнасьці на Віцебшчыне прыцягнутыя 569 юрыдычных і 541 службовая асоба, у тым ліку на падставе інфармацыі, якая паступіла з органаў Камітэту дзяржаўнага кантролю – 109 юрыдычных і столькі ж службовых. Паводле дадзеных кантрольнага ведамства, да 1 верасьня своечасова не разьлічыліся з працаўнікамі ў 28 арганізацыях на суму 10,5 мільярдаў рублёў.

КДК вобласьці трымае гэтае пытаньне на кантролі. Адкрытая пастаянна дзеючая «гарачая лінія».

**21.09.2014** У Глыбокім жанчына-інвалід змагаецца за працу. Прыбіральшчыцы з заробкам у 1,3 мільёна могуць не працягнуць кантракт у мясцовай ЖКГ. Аксана ўладкавалася на працу ў мясцовую жыльлёва-камунальную гаспадарку 4 гады таму. Паводле слоў жанчыны, першапачаткова ў яе абавязкі ўваходзіла прыборка пад'ездаў шматпавярховікаў, але ў выніку яе пачалі скіроўваць і ў калгас, і на прыборку гарадзкога сьметніку.

Аксана мае праблемы са здароўем. Жанчына сьцьвярджае, што па мэдычных паказчыках ёй нельга працаваць у марознае і ветранае надвор'е, ёсьць і адпаведная даведка.

Пазьней Аксане далі трэцюю ступень інваліднасьці, і, паводле слоў жанчыны, кіраўніцтва вырашыла разарваць зь ёй кантракт. Але высьветлілася, што кантракт з Аксанай быў заключаны толькі на першы год працы, на астатнія тры гады ён не працягваўся. Жанчыне прапанавалі падпісаць паперы заднім днём, а пасьля яе адмовы прапанавалі скласьці працоўную дамову:

"Юрыст сказаў: калі не падпішаце працоўную дамову, вы звольненыя, вы працуеце без дакумэнтаў, гэта незаконна. Аддзел кадраў сказаў: няма розьніцы, што паводле кантракту, што паводле дамовы – вы будзеце атрымліваць тую самую зарплату. І вось у мяне ў выніку зарплата зьнізілася на мільён – да мільёна трохсот – мільёна чатырохсот. Я ўзяла крэдыт у банку на рамонт кватэры. Зрабіла рамонт, цяпер павінная выплаціць 39 мільёнаў, і мне трэба з гэтага мільёна трыста жыць, дачцэ дапамагаць і яшчэ крэдыт выплачваць".

**02.10.2014** У двухпавярховым інтэрнаце на вуліцы 4-й Прадзільнай у Віцебску – доме на ўскраіне гораду, пабудаваным ваеннапалоннымі немцамі ў канцы 40-х, раней разьмяшчаўся дзіцячы садок. У перабудоўны час аддалі будынак «Віцебскім дыванам». Менавіта тут сталі пражываць сямейныя пары і адзінокія людзі, якія працуюць на прадпрыемстве.


Сьвятлана Матвеева

На цяперашні момант у інтэрнаце пражывае 25 чалавек. На кожным паверсе па 6 жылых пакояў. Плата за апошні месяц склала каля 400 тысяч. Будынак мае патрэбу ў капітальным рамонце. Гэта пацьвярджаюць і абшарпаны фасад і старыя аконныя рамы.

«Нашаму інтэрнату №2 патрэбен рамонт, – кажа **Сьвятлана Матвеева**, – у 2004 годзе ўнутры будынку пабялілі сьцены, падмалявалі – і на гэтым усё! Памянялі вось яшчэ стаякі на кухні… А прыводзіць у парадак столь каму?»

На адсутнасьць выгодаў жыхары ня скардзяцца. На першым паверсе ёсьць душавыя, дзе ёсьць і халодная, і гарачая вада. У кожнай сям'і – свая прыбіральня. На паверсе кухня з электраплітамі. У месцах агульнага карыстаньня дастаткова чыста.

«Мы звыкліся прыбіраць за сабой, – кажуць жыхары, – але нас не задавальняе, што да тэрыторыі інтэрнату не прымацаваны дворнік. Летам – добра, кветнік і гародзік даглядаем самі. А зімой дрэнна. Няма добрых пад'язных шляхоў, дарожак. Выпадае сьнег – мусім чысьціць самастойна, а часу не заўсёды хапае».

Сьвятлана Матвеева скардзіцца, што зімой некалькі разоў даводзілася «адкопвацца»: сьнег не даваў адчыніць уваходныя дзьверы.

Яшчэ адна надзённая праблема: вокны. Іх штовосень даводзіцца ўцяпляць капітальна, звычайны шырокі скотч адлятае, ледзь падзьме моцны вецер. Акно ў агульным калідоры разьмяшчаецца на вышыні 5-6 мэтраў ад падлогі. Яго заляпіць праблематычна, дый павуціньне зьмесьці з кутоў таксама.

«Мы ня хочам ставіць вокны ПВХ, бо пакой у інтэрнаце не зьяўляецца асабістай уласнасьцю, – тлумачыць Сьвятлана, – калі раптам наш будынак абвесьцяць непрыдатным для жыльля, грошы за ўстаноўку вокнаў ня вернуць. Выселяць, калі я звольнюся, знайду працу лепей. Хацелася б нам з мужам мець прыбытак пабольш, каб набыць у крэдыт уласную кватэру. Але пакуль гэта толькі мары».

**08.10.2014** Органамі пракуратуры Віцебскай вобласьці праведзены маніторынг выкананьня заканадаўства аб барацьбе з п'янствам і алькагалізмам, аб тэхніцы бясьпекі і ахове працы на аб'ектах будаўніцтва, паведамляе Генэральная пракуратура Беларусі.

У першым паўгодзьдзі 2014 году ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасьці ў Віцебскай вобласьці загінулі 10 чалавек (за аналягічны пэрыяд 2013 году — 18), цяжка траўмаваныя 31 (35). Рост колькасьці загінулых і тых, хто атрымаў цяжкія траўмы ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасьці, адзначаны ў арганізацыях Наваполацку, Чыгуначнага раёну Віцебску, Бешанковіцкага, Верхнядзьвінскага, Лепельскага, Ушацкага і іншых раёнаў вобласьці.

Вынікі рэйдавых мерапрыемстваў паказалі, што на аб'ектах будаўніцтва не праводзіліся інструктажы па ахове працы, не выконваўся парадак вядзеньня адпаведных журналаў. Такія парушэньні выяўленыя пракурорамі Глыбоцкага, Чашніцкага, Полацкага, Віцебскага раёнаў.

Склад, устройства і абсталяваньне санітарна-бытавых памяшканьняў для асоб, якія ажыцьцяўляюць будаўнічыя і будаўніча-мантажныя работы, не заўсёды адпавядалі патрабаваньням.

Аб'екты будаўніцтва ў Віцебску, Віцебскім, Браслаўскім, Лёзьненскім, Полацкім раёнах не былі агароджаныя, што стварала ўмовы для крадзяжу маёмасьці. Апроч таго, выяўленыя шматлікія факты ажыцьцяўленьня работ без засьцерагальных касак і мантажных паясоў, іншых неабходных сродкаў індывідуальнай засьцярогі.

У выніку рэйдавых мерапрыемстваў пракурорамі гарадоў і раёнаў кіраўнікам будаўнічых арганізацыяў Віцебскай вобласьці ўнесеныя сем прадстаўленьняў, вынесеныя 32 прадпісаньні, аб'яўленыя тры афіцыйныя папярэджаньні. Паводле вынікаў разгляду актаў пракурорскага нагляду 23 службовыя асобы прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасьці, пяць — да адміністрацыйнай, адна — да матэрыяльнай.

**09.10.2014** Пад руінамі свайго двухпавярховага дому баяцца апынуцца жыхары дому №21 па вуліцы Садовай, што ў Глыбокім. Там жывуць дзьве сям'і, у адных кватэра – прыватызаваная, у другіх – не. Сам дом знаходзіцца на балянсе кансэрвавага заводу, які амаль банкрут. У доме разбураецца цагляная сьцяна, працякае дах і паўсюль цьвіль.

Жыхары зьвярталіся да старшыні Глыбоцкага райвыканкаму Алега Морхата з просьбай пасадзейнічаць у рамонце дому, але атрымалі абяцаньні на паперы і шквал адмоўных эмоцыяў у свой адрас на асабістым прыёме:

«Цэгла пачала крышыцца, увесну там з вуліцы гэтая цэгла ўжо падала, я баялася, што калі-небудзь цэглай прыб'е. Я нават агарод не садзіла ў гэтым годзе, таму што думала, што будуць рамантаваць. Ад красавіка адпіскі, і ніхто нічога не зрабіў».

«Тры гады дах цячэ. Тры гады жывем у адной маленькай спальні – 1,70 на 2,20, а кухня наогул згніла цалкам».

«Тут калі паспаць у такой вільгаці, дык на сухоты можна захварэць».

Паводле жыхароў, поўнасьцю за свой кошт зрабіць рамонт яны ня могуць. «Што будзе далей, – страшна падумаць», – кажуць людзі. І спадзяюцца на тое, што толькі праз СМІ ўлады іх пачуюць і вырашаць пытаньне з рамонтам дому.

**24.10.2014** Жыхары двух дзясяткаў прэзыдэнцкіх домікаў у вёсцы Славені, што на Віцебшчыне, масава адмаўляюцца ад іх прыватызацыі. Да гэтага іх схіляе кіраўніцтва аграгарадка "Талачынская навінка". Пад засваеньне на ўсё далі мільярд беларускіх грошай. Гэтага не хапіла, каб ва ўсёй вёсцы пакласьці асфальт. Два дзясяткі аградамкоў давялося "складаць" з фанерных шчытоў.

Кажуць жыхары аграгарадка:

«Гэты аграгарадок – мінулае стагодзьдзе. Стала горш, чымся было раней».

«Зрабілі падсыпку жвірам і друзам вуліцы. Цяпер людзі задыхаюцца. Даюць гэтыя домікі, але яны недаробленыя».

Мясцовыя жыхары наракаюць, што „кішэня” аграгарадка ад унёскаў за прыватызацыю можа і папоўніцца, аднак, паводле будаўнікоў, “канструкцыі” з фанеры могуць і году не вытрымаць, калі прыйдуць моцныя маразы.

**04.11.2014** Кіраўніцтва Полацкага лякаматыўнага дэпо намінальна павысіла аклад і адначасова з гэтым урэзала прэмію. У выніку рабочыя сталі атрымліваць яшчэ менш, чымся раней. Пра гэта паведаміў рэдакцыі charter97.org чытач.

«Заробак на чыгунцы не павышалі ўжо як мінімум два гады, ніхто і не памятае дакладна… Па Полацкім лякаматыўным дэпо надоечы праляцела чутка, што падымаюць зарплаты ажно на 25%, проста сэнсацыя! І вось, паднялі аклад. Праўда, на 15%. Але заадно зрэзалі прэмію. У выніку сталі атрымліваць яшчэ менш, чымся раней. Шкада і машыністаў, і пуцейцаў, і сьлесараў! Хлопцы ж працуюць, ахвяруючы сваім здароўем. Дый працаваць хутка ня будзе каму – моладзь з гэтага дурдому валіць. Затое ў чым ніколі не было браку, дык гэта ў рэвізорах. Па тры чалавекі на аднаго рабацягу!» – распавёў чытач.

Раней паведамлялася аб праблемах на іншых падразьдзяленьнях Беларускай чыгункі. Так, у Баранавіцкім лякаматыўным дэпо супрацоўнікаў адпраўляюць у адпачынак за свой кошт, касіры «Баранавічы Цэнтральныя» паведамляюць, што прадпрыемства ўзяло крэдыт, каб выплаціць ім заробкі і дапамогі, а ў Гомельскім вагонным дэпо панізілі заробкі.

**20.11.2014** Паўмесяца спатрэбілася «Жылбуду», каб ушчэнт разбурыць дыхтоўны дом амаль ў самым цэнтры Віцебску. Участак зямлі блізу моста Блахіна стаўся для кагосьці смачным кавалкам.

Гадоў пяць таму гаспадару дому, пабудаванага на гэтым участку, паведамілі, што ёсьць рашэньне мясцовых уладаў пра знос ягонага жытла. Уладальніку дому, **Пятру Бярлінаву**, паабяцалі, што кампэнсуюць ягоныя страты – пабудуюць яму аналягічнае жытло ў выбраным ім месцы. Але неўзабаве спадар Бярлінаў даведаўся, што было прынятае рашэньне прыпыніць любое будаўніцтва на новым участку і прыпыніць выраб праектна-каштарыснай дакумэнтацыі…

Зрэшты, Пётар Берлінаў пэўную «кампэнсацыю» ўсё-такі атрымаў – кватэру на ўскрайку гораду, у Білева, – плошчаю 70 квадратных мэтраў. Але ён лічыць, што яго ашукалі. І ўсяляцца ў новую кватэру не зьбіраецца, каб не падтрымліваць беззаконьне. Паводле словаў Берлінава, згодна з рашэньнем суду ў яго мусілі забраць толькі 67 квадратных мэтраў жытла, а астатняе ня мелі права бурыць, – а забралі ўсё: плошча дому складала 131 квадратны мэтар – і гэта не ўключаючы мансарду, – а былі ж яшчэ гараж, лазьня, цагляная майстэрня.

«Мне гэта складана зразумець, бо начальнік упраўленьня прымусовага выкананьня Лысёнак сказаў: судом вырашана забраць у мяне 67 квадратных мэтраў. На якой падставе сталі нішчыць іншыя пабудовы і сталі маёмасць забіраць?» – абураецца Пётар Бярлінаў.

Паводле Пятра Бярлінава, у яго на ўчастку захоўвалася будаўнічых матэрыялаў,



Вадзім Міхайлаў

дастатковых для пабудовы яшчэ адной хаты. І ўсё вывезьлі. Ды ня толькі тое. Ялінкі і ядлоўцы – і іх выкапалі. І вывезьлі. Нават ягонага сабаку вывезьлі – «у невядомым накірунку».

**01.12.2014** З 1 студзеня 2015 году работнікам, якія працуюць у шкодных і небясьпечных умовах на ААТ «Нафтан», малако будзе выдавацца толькі ў дзень працы. Таксама нельга будзе выносіць малако за межы прадпрыемства.

Гэтае рашэньне было прынятае на Наваполацкім прадпрыемстве загадам гендырэктара Ўладзімера Трацьцякова ад 1 сьнежня. У ім гаворыцца, што загад заснаваны на пастанове Савету міністраў РБ ад 27.02.2002 № 260. У адпаведнасьці з патрабаваньнямі заканадаўства, «не дапускаюцца: замена малака таварамі і прадуктамі (апроч раўнацэнных малаку харчовых прадуктаў); выдача малака за адну ці некалькі зьмен наперад, а таксама за мінулыя зьмены і адпачынак на дом».

Некаторыя працаўнікі прадпрыемства разглядаюць гэты загад, як спробу зэканоміць на работніках: “Раней работнікі насілі малако дадому і пілі яго дома, а цяпер прыдумалі даваць яго ў дзень па паўлітра, калі ты выходзіш на працу, – абураецца работнік прадпрыемства **Вадзім Міхайлаў**. – Вось я выйшаў 10-га чысла і толькі сёньня атрымаў першы талён, г.зн. у мяне будзе пратэрміноўка дзесяць дзён. І мне дзеля паўлітра малака трэба будзе ісьці прыкладна некалькі кілямэтраў са свайго цэху, каб яго атрымаць. Натуральна, многія адмовяцца хадзіць, а адміністрацыя зэканоміць на гэтым безьліч грошай. Тыя, хто ў сталоўку ходзіць, у сталоўцы яго і пап’е, а для іншых патрэбны пакоі прыёму ежы, шмат у каго няма кружак. Мне што, прыйдзецца кружку прыносіць з дому?”

**03.12.2014 Пэнсіянэр Іван Кавальчук** зь вёскі Аўтушкова Віцебскага раёну паведаміў, што яго зьбіраюцца пазбавіць цяпла, нягледзячы на набліжэньне зімы. Паводле слоў Івана Адамавіча, пры канцы кастрычніка ён атрымаў ліст за подпісам першага намесьніка Віцебскага райвыканкаму Пятра Каранковіча. У дакумэнце гаварылася: «Пры ўсталёўцы пелетнага катла ў лістападзе 2014 году ваш дом будзе адключаны ад цэнтральнага ацяпленьня».

Вядома, такая пэрспэктыва пэнсіянэра ня ўсьцешыла.

«Уся рэч у тым, што маё жытло прыватызаванае. Тых, у каго дзяржаўныя кватэры, «Віцрайкамгас» не адключае. Але ў мяне іншага ацяпленьня няма, – распавёў ён. – На кухні стаіць старая пліта, аднак яна ўжо развальваецца, ёй карыстацца нельга. А калі б яна і грэла, – пяць пакояў хаты ёй адной ня абагрэеш. Адрамантаваць яе і паставіць свой кацёл ў мяне няма грошай. Я на пэнсію жыву, прычым частка яе выдаткоўваю на лекі».



Іван Кавальчук

Гісторыя з ацяпленьнем пачалася раней. Іван Адамавіч згадаў, што раней яму была дадзеная ў сувязі з маючым адбыцца адключэньнем гарачага водазабесьпячэньня матэрыяльная дапамога ў памеры 1 мільён 200 тысяч рублёў. Як патлумачыў мужчына, на гэтыя грошы ён купіў дровы для лазьні, а цяпер райвыканкам робіць націск на тое, што фінансы пэнсіянэр атрымаў, а печку не перарабіў.

«Але кацёл каштуе 6 мільёнаў, а не 1 мільён 200 тысяч, – цалкам слушна заўважае Іван Кавальчук. – І калі ўжо рэч у гэтых грошах, я магу іх вярнуць. Хай лепш ацяпленьне пакінуць!»

Каб зразумець, чаму наогул у Аўтушкове паўстала гэтая сытуацыя, трэба зазірнуць у мінулае населенага пункту. У гэтым дапамог старшыня Задуброўскага сельсавету Сяргей Макуха. Ён распавёў, што калісьці ў вёсцы жыло куды больш людзей, таму была разьвітая неабходная інфраструктура. Стацыянарная кацельня, што мелася там, гадоў дзесяць таму яшчэ падавала цяпло ў шпіталь і разьмешчаныя паблізу хаты. Аднак потым будынак мэдустановы прызналі аварыйным і перасталі эксплёатаваць. З тых часоў кацельня з двума катламі дае гарачае водазабесьпячэньне толькі падлучанаму жыльлёваму фонду, што застаўся. А такога ў Аўтушкове няшмат: 8-кватэрны шматпавярховік ды тры дамы сядзібнага тыпу на вуліцы Шмырова.

Дарэчы, такая сытуацыя ў Віцебскім раёне не адзінкавая. Населеныя пункты пусьцеюць, паўстае пытаньне пра аптымізацыю іх абслугоўваньня і рацыянальнае выкарыстаньне сродкаў. Кіруючыся дырэктывай прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь №3 «Эканомія і ашчаднасьць – галоўныя чыньнікі эканамічнай бясьпекі дзяржавы», райвыканкам пры канцы красавіка 2014 году вырашыў, што ўнітарнаму прадпрыемству «Віцрайкамхас» варта «ажыцьцявіць адключэньне ад цэнтралізаванага гарачага водазабесьпячэньня» шэрагу «аднакватэрных і блякаваных жылых дамоў» у аграгарадку Заронава (Заронаўскай с/с), а таксама ў вёсках Аўтушкова (Задуброўскі с/с), Лукі (Летчанскі с/с) і Камары (Ноўкінскі с/с).

Камунальнікі ў выніку пакінулі за сабой толькі ацяпленьне шматкватэрных будынкаў. Каб астатнія вяскоўцы, якія жывуць у дамох сядзібнага тыпу, у выніку не засталіся безь цяпла, яны павінны перарабіць свае печкі, усталяваць ўласныя катлы. Рашэньне райвыканкаму ад 25 красавіка 2014 году загадвала «аказаць дапамогу грамадзянам, дамы якіх знаходзяцца на балянсе УП ЖКГ« Віцрайкамхас», у пераводзе жылых памяшканьняў на індывідуальнае ацяпленьне».

**14.12.2014** Як паведаміла Генэральная пракуратура Беларусі, органамі пракуратуры Віцебскай вобласьці выяўленыя парушэньні заканадаўства ў дзейнасьці прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу ў пэрыяд уборачнай кампаніі. Вынікі

наглядных праверак сьведчаць пра тое, што кіраўнікамі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў не прымаліся вычарпальныя меры па забесьпячэньні захаванасьці ўласнасьці, спыненьні безгаспадарчасьці, выкананьні правілаў аховы працы і працоўнай дысцыпліны.

Так, падчас наведваньня зернесушыльных комплексаў і зернескладоў выяўленыя шматлікія парушэньні супрацьпажарных норм, непадрыхтаванасьць аб’ектаў для збору і захоўваньня ўраджаю.

Неналежныя ўмовы працы, невыкананьне санітарных норм і правілаў, несвоечасовае прыбіраньне тэрыторыяў і памяшканьняў мэхдвароў, складоў, фэрмаў і іншых аб’ектаў выяўленыя падчас праверак у Докшыцкім, Чашніцкім, Талачынскім і іншых раёнах.

На шмат якіх прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу мелі месца выпадкі несвоечасовай выплаты заработнай платы. Утойваньне гэтых фактаў кіраўнікамі сельгаспрадпрыемстваў прывяло да скажэньня дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасьці.

Па выніках праверак пракурорамі раёнаў унесена 32 прадстаўленьні аб ліквідацыі парушэньняў заканадаўства, вынесена 70 прадпісаньняў. На запатрабаваньне пракурораў да дысцыплінарнай адказнасьці прыцягнутыя 23 работнікі сельгасарганізацыяў, да адміністрацыйнай — 22.

**21.12.2014** У Віцебску зачысьцілі стыхійны гандаль. Блышыны кірмаш, які ўтварыўся насупраць Полацкага рынку каля дому №12 на рагу вуліц Цітова і Лякаматыўнай, зачышчаны і пустуе. У нядзелю, 21 сьнежня, на ўскрайку звычайнай пляцоўкі таўкучкі заставаліся толькі з паўтара дзясятка самых трывалых бабуль. Яны прадавалі зь зямлі салёныя агуркі і квашаную капусту. Таксама за шапікам ля прыпынку хавалася пара прадавачак шчанюкоў і кацянят.

Як і на кожным блышыным кірмашы тут гандлявалі ўжыванымі рэчамі, звычайна пажылыя людзі. Таксама тут калекцыянэры прадавалі або зьмянялі прадметы свайго хобі: манэты, значкі, узнагароды і іншыя прадметы даўніны.

Спачатку зачыстка кранула толькі Лякаматыўную вуліцу: міліцыя сагнала зь яе стыхійных гандляроў, а на слупах былі разьвешаныя забараняльныя шыльды. Пасьля абвяшчэньня гарадзкімі ўладамі кампаніі па барацьбе зь несанкцыянаваным вулічным гандлем ліквідаваны і эпіцэнтар таўкучкі ля крамы «Востраў чысьціні». Толькі вельмі невялікая частка гандляроў з барахолкі перабралася на тэрыторыю Полацкага рынку, астатніх не відаць.

**08.01.2015 Леанід Аўтухоў**, **актывіст партыі БНФ**, страціў працу ў 2008 годзе — яго скарацілі пасьля выбараў у Палату прадстаўнікоў, куды ён балятаваўся. З тае пары ён зрабіў каля 40 спробаў уладкавацца на працу, у тым ліку з дапамогай мясцовага цэнтру занятасьці. Усе яны былі безвыніковыя.

Апошні раз яму адмовілі ў працы ўжо пасьля абвешчанай на дзяржаўным узроўні «вайны з дармаедзтвам».

«Я хачу працаваць, і я гатовы працаваць!» — з такім лёзунгам Леанід Аўтухоў жыве ўжо восьмы год. З гэткай думкай ён мінулай восеньню чарговы раз наведаў Га-


Леанід Аўтухоў

радоцкі цэнтар занятасьці і нарэшце атрымаў веру ў станоўчы вынік — яго накіравалі на навучаньне пэрспэктыўнай спэцыяльнасьці, на курсы падвышэньня кваліфікацыі кіроўцаў да катэгорыі «Е».

Пасьля курсаў Леанід Аўтухоў зноў зьявіўся ў цэнтар занятасьці. І атрымаў накіраваньне ў гарадоцкую філію ляспрамгасу, дзе была вакантная пасада кіроўцы. Але езьдзіць, як высьветлілася, там няма на чым.

Леанід Аўтухоў: «Пайшоў, сустрэўся з кіраўніком прадпрыемства, мне паказалі аўтамабіль. Ен стаіць ня першы год на вуліцы, разабраны, у глыбока непрацоўным стане. Я сказаў, што тут патрэбны не кіроўца, а аўтасьлесар. Але не адмаўляюся ад пасады кіроўцы — толькі спачатку заключыце са мной дамову, каб я аднаўляў машыну як аўтасьлесар. Толькі так, бо пакуль машына лічыцца ў рамонце, кіроўца атрымлівае толькі мінімальны заробак, 2 мільёны. А калі працуе на машыне — ад трох да пяці. Кіраўнік адмовіўся ад такога катэгарычна».

У філіі гарадоцкага леспрамгасу кажуць, што гэта Леанід Аўтухоў адмовіўся ад працы: «Вакансія ў нас ёсьць, гэта ён адмовіўся. Яму паказалі машыну, яна вымагае рамонту, і ён адмовіўся. У нас дзьве такія машыны, якія стаяць няспраўныя. Іншых машын няма. А гэтыя трэба рамантаваць, перш як езьдзіць».

Абураны Леанід Аўтухоў пайшоў у райвыканкам, каб высьветліць: як можа быць такое, каб прадпрыемства абвяшчала вакансію, калі няма рэальнай працы: «Гэта закранае маю годнасьць! Калі тры такія адмовы, то зь мяне могуць спагнаць грошы за навучаньне, і такія судовыя працэсы ў Гарадку ўжо ёсьць! Цэлыя 4 прызначаныя на гэтым тыдні! Я ж не адмаўляўся! Няхай бы напісалі, што няма вакансіі, дый усё! У райвыканкаме спэцыяліст па ахове працы, Валянціна Конанава, са мной пагадзілася: якое дачыненьне я маю да рамонту машыны, які мусіць рабіць адмысловец-аўтасьлесар 4-га разраду! А людзі ходзяць і ходзяць па такіх вакансіях, якіх няма! Дык я і пытаўся: куды зьвяртацца і што з гэтым рабіць?»

Паводле Леаніда Аўтухова, кіраўнік сацыяльнай службы, спадар Прасолаў, абрынуўся на яго з папрокамі — маўляў, няма чаго скардзіцца, цэнтар занятасьці можа даць новае накіраваньне. Аднак у тэлефоннай гутарцы з гэтай службай высьветлілася, што і яны не гарантуюць наяўнасьці вакансіяў: «Мы даём накіраваньне на вакансіі, якія ў нас ёсьць, а калі яны зьнікаюць — то зьнікаюць. Гэта жыцьцё!»

Пра тое, як вакансіі «зьнікаюць», Леанід Аўтухоў добра ведае: пасьля ўдзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў у 2008 годзе яго скарацілі зь мясцовай структуры ЖКГ. І з тае пары пагалоска пра тое, што на працу хоча ўладкавацца апазыцыянэр, бяжыць паперадзе яго самога: «Толькі прыходжу, як мне заяўляюць: вакансіі больш няма, вось толькі што ўзялі чалавека. Так было 32 разы, потым я ўжо пера-

стаў лічыць! Дзяўчатам з цэнтру занятасьці казаў: не называйце прозьвішча! Не называлі. Тэлефаную: „Ёсьць вакансія?“ Адказваюць: „Так, ёсьць, дужа трэба“. Прыходжу, на мяне глядзяць і кажуць: „Выбачайце, вось толькі што прыйшоў іншы чалавек“».

**12.01.2015** Вёска Шылкі знаходзіцца прыкладна ў 25 кілямэтрах ад Віцебску, амаль на мяжы зь Сеньненскім раёнам. Тут, ня лічачы дачнікаў, 9 жылых хатаў, у пераважнай большасьці якіх жывуць пэнсіянэры, і з пачатку сьнежня ў іх няма крыніцы вады.

У спадчыну ад ліквідаванага калгасу і малочна-таварнай фэрмы ў Шылках засталася помпавая станцыя з воданапорнай вежай, яна і сілкавала тры вясковыя калёнкі. Вада была так сабе – зь зялезным прысмакам і пакідала моцны накіп на посудзе – аднак была.

Паводле расказаў вясковых жыхароў, на пачатку сьнежня падчас моцнага ветру ў Шылках ноччу некалькі разоў зьнікала электрычнасьць. Пасьля гэтай «рабінавай ночы» і перастала працаваць помпавая станцыя. Жыхары вёскі засталіся без уласнай крыніцы вады.

Звароты вяскоўцаў да кіраўніцтва сельсавету і мясцовага саўгасу з просьбай адрамантаваць помпу посьпехам не ўвянчаліся: начальства адказвала пэнсіянэрам, што ні тэхнічных, ні фінансавых сродкаў для рамонту ня маецца. Маўляў, выкручвайцеся самі. Нават цэнтралізаванага падвозу вады для людзей, якія жывуць тут, за месяц арганізаваць ніхто не знайшоў часу.

Пэнсіянэры, якія ўсё жыцьцё прапрацавалі ў сельскай гаспадарцы, яшчэ і цяпер трымаюць жывёлу: трусоў, кароў, у адной жанчыны ёсьць конь. Найбліжэйшая крыніца вады знаходзіцца ў суседняй вёсцы Скрыдлёва – да калёнкі, якая працуе, прыкладна паўтара кілямэтру ад Шылак.

Дзьмітрыеўна, якая пераехала сюды пры канцы 1980-х з Крыму – муж захацеў вярнуцца на Радзіму, распавядае, як выкручваюцца вяскоўцы, пра якіх забыліся ўлады: «Ва ўсе ёмістасьці, якія ёсьць, зьбіраем дажджавую і адталую ваду. Вось цяпер пасьля адлігі і сьнегападу набегла – змагу прыбраць у пакоі. Дапамагае суседка, у якой ёсьць конь – прывезла бітон вады. Але ёй самой цяжка – акрамя каня самотная жанчына трымае яшчэ двух кароў, дык што даводзіцца прасіць жыхароў Скрыдлёва, каб яны загадзя набіралі для яе ваду. Сёньня прыяжджаў зь Віцебску сын, змаглі папоўніць запас вады».

Паводле словаў вяскоўцаў праблемы з вадой у іх вёсцы назіраюцца амаль штогод, асабліва пасьля таго як у Шылках ня стала фэрмы. Аднак гэтым разам, па іх ўражаньні, паломку ўжо ніхто не зьбіраецца ліквідаваць і мясцовых жыхароў проста кінулі на волю лёсу.

**15.01.2015** Начальнік управы аховы здароўя Віцебскага аблвыканкаму Юры Дзеркач публічна абвінаваціў найбольш актыўных прыхільнікаў будаўніцтва паліклінікі ў мікрараёне Білева ў тым, што яны нібыта падрываюць дзяржаўны лад. Пра іх жа намесьнік старшыні гарвыканкаму Ўладзімер Шлома выказаўся расейскай прымаўкай: «В семье не без урода».


Таццяна Севярынец

Адбылося гэта на сходзе жыхароў мікрараёну, арганізаваным уладамі ў адказ на калектыўны ліст, пад якім стаяла без малога пяць тысяч подпісаў. Усяго ў мікрараёнах Білева-1, Білева-2 і Білева-3 жывуць каля 23 тысяч чалавек. І ніводнай мэдычнай установы тут няма.

Мікрараёны на ўскраіне Віцебску пад агульнай назвай Білева пачалі будаваць 10 гадоў таму. Сёньня тут ёсьць адзіная на ўсіх мясцовых дзяцей перапоўненая школа і ніводнай паліклінікі.

Менавіта ў школе № 46 і быў сабраны сход мясцовых жыхароў, якія падпісаліся пад лістом за будоўлю паліклінікі. Ініцыятарамі збору подпісаў былі актывісты стваранай партыі БХД.

Кажа **каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі Таццяна Севярынец**: «22 ліпеня мы адправілі калектыўны ліст з 4756 подпісамі ў Міністэрства аховы здароўя і да кіраўніцтва гораду і вобласьці. Потым сабраўся гарадзкі форум „За якасную мэдыцыну ў Віцебску“ — за паляпшэньне якасьці мэдычнага абслугоўваньня, куды ўвайшлі прадстаўнікі і іншых структур. Мы зноў зьбіралі подпісы — па шырэйшым коле праблемаў. І гэты сход — рэакцыя міністэрства».

Сход быў прадстаўнічы, калі меркаваць па колькасьці людзей у прэзыдыюме.Тут былі прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя, аблвыканкаму, гарвыканкаму, раённай адміністрацыі, дэпутат, прозьвішча якога так і засталося невядомым… У залі было шмат журналістаў, настаўнікаў, якіх «папрасілі» застацца пасьля ўрокаў, і нязначная частка звычайных жыхароў мікрараёну. Нязначная — бо абвестак пра сход у мікрараёне не было, толькі на будынку школы, паводле словаў адміністрацыі, і на асобных дамох. Прычым запрашалі на сустрэчу з дэпутатам, які на сходзе так і ня выступіў.

Рэй вёў начальнік управы аховы здароўя Віцебскага аблвыканкаму Юры Дзеркач. Толькі напрыканцы прамовы ён дайшоў да прадмету сходу: сказаў, што ў 2015 годзе нарэшце распачнецца будоўля паліклінічнага комплексу для мясцовых жыхароў. Такія абяцаньні ў Віцебску гучалі ўжо шмат гадоў — у тым ліку і ад былога губэрнатара Аляксандра Косінца, нядаўна прызначанага кіраўнікам адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта чыноўніку тут жа нагадала спадарыня з залі:

«Напрыканцы 2013 году спадар Косінец урачыста абяцае жыхарам Білева нарэшце пабудаваць паліклініку. Хоць капсулу на месцы будучай будоўлі закапалі яшчэ раней, цяпер ніхто знайсьці ня можа — ня памятаюць дзе… Дык я што хачу сказаць: ня трэба даваць пустых абяцаньняў, ня трэба хлусіць! Я ж вам веру, і дэпутату, якога тут не назвалі, таксама. І вы такім чынам страчваеце давер людзей!»

Пасьля гэтага і распачаўся адкрыты канфлікт. Адказны за стан мэдыцыны ў вобласьці спадар Дзеркач паспрабаваў перацягнуць людзей у залі на свой бок, абвінаваціўшы актывістаў у фальшаваньні подпісаў за будоўлю паліклінікі: «Я сабраў бы ўсіх, хто падпісаўся, ды спытаў: „Пад чым яны падпісваліся?“ Бо ёсьць рэчы, якія тычацца фальсыфікацыяў. Я ўжо бачу ў залі людзей, якія дзівяцца: „Няўжо мы пад гэтым падпісваліся?“ Гэта ўсё — нападкі на нашу дзяржаву, на дзяржаўны лад. Яны беспадстаўныя, і людзі, якія тут сабраліся, гэта пацьвердзяць». Аднак людзі не пацьвердзілі.

Жыхары Білева езьдзяць у паліклінікі іншых раёнаў, таму тыя мэдустановы перапоўненыя.

Мясцовая жыхарка **Алена Шабуня** зьбірала подпісы за будаўніцтва новага аб'екту. Яе ўразіла рэакцыя намесьніка старшыні гарвыканкаму Ўладзімера Шломы: «Ён спачатку казаў, што гэта добра — такія сустрэчы, што патрэбная зваротная сувязь… Але ж яны гаварылі не пра тое, што ў іх пыталіся. А напрыканцы сустрэчы ён заявіў: „Мы ведаем, хто тут ёсьць хто, і, як той казаў, «в семье не без урода“. Значыць, гэта і я такі „ўрод“, і людзі „ўроды“, якія падпісваліся».

**19.01.2015** На ААТ «Полацак-Шкловалакно» 19 студзеня ў сувязі са складаным фінансавым становішчам у два разы паменшылі выдаткі на культурна-масавыя і спартовыя мерапрыемствы для работнікаў, прыпыненая выплата сацыяльнага пакету.

Рабочыя кажуць, што атрымалі апавяшчэньне ад адміністрацыі наконт прыпыненьня дзеяньня калектыўнай дамовы па выплаце матэрыяльнай дапамогі на аздараўленьне да працоўнага адпачынку (на сёньня гэта складае каля 2-4-х мільёнаў рублёў, у залежнасьці ад стажу) і выхадной дапамогі пры выхадзе работніка на пэнсію (пры стажы 20 гадоў складае 5 сярэдніх заробкаў працаўніка). Адміністрацыя заводу заяўляе пра адсутнасьць сродкаў на выплаты паводле калектыўнай дамовы і абяцае аднавіць выплаты пры атрыманьні прыбытку.

Калектыўная дамова «Шкловалакна» гарантуе сацыяльныя выплаты толькі «пры наяўнасьці сродкаў». Пры такой фармулёўцы нават не патрабуецца зьмяняць калектыўную дамову. Рабочыя, якія сыходзяць цяпер у адпачынак, не атрымліваюць матэрыяльнай дапамогі на аздараўленьне. Застаецца толькі спадзявацца, што гэтыя сродкі выплацяць ў будучыні, калі будзе прыбытак у заводу. Аднак індэксаваць на працэнт інфляцыі гэтыя сродкі ніхто не абяцае. «Адна рэч – цяпер 4 мільёны (каля 250 даляраў ЗША), іншая рэч – праз паўгода. Колькі яны тады будуць каштаваць?» – кажуць рабочыя.

Рабочыя таксама кажуць, што заробак апошнім часам зьнізілася, купіць на яе можна ўсё менш і менш. Выплата сацыяльнага пакету прыпыненая. Ад прафэсійных пэнсіяў за шкодныя ўмовы працы маладыя рабочыя адмаўляюцца на карысьць павелічэньня заробку на 10%, але сёньня. Ну а месца ў інтэрнаце – гэта зусім ня асобная пакой, гэта жыцьцё ў калектыве.

**22.01.2015** «Ужо ня ведаем, што і рабіць», – уздыхаюць работнікі фэрмы ў вёсцы Лажані, што ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласьці. Фэрма належыць ААТ «Гарадоцкі райаграпрамснаб» – гэта сельскагаспадарчае прадпрыемства, якое займа-

ецца вытворчасьцю малака і мяса буйной рагатай жывёлы.

На фэрме старыя даільныя апараты і печка на дровах, каб грэць ваду. У «ленпакоі» – невялічкай бытоўцы, дзе пераапранаюцца даяркі, стаіць печка-буржуйка.

«За апошні год у нас зьмянілася чатыры дырэктары. А заробкі толькі падаюць, – наракаюць рабочыя. – За лістапад нам заплацілі менш, чымся за кастрычнік. На рукі мы атрымалі па 1,2 – 1,8 мільёну. Дый тое часткамі далі. 700 тысяч спачатку, а потым астатняе даплацілі».

«А літаральна пасьля Новага году выклікалі ўсіх брыгадзіраў і сказалі, што, маўляў, жыць трэба па сродках. На гэтай сустрэчы ім сказалі, што ў сувязі зь цяжкім фінансавым становішчам усім работнікам зьнізяць на 50% заробак. Мы самі загад бачылі, – распавядаюць рабочыя. – Гэта значыць, атрымліваецца, што нам налічаць па 900 тысяч ці максымум па мільёне. На рукі тады выйдзе і таго менш».

«І як нам цяпер жыць? Мы ж крэдыты ўзялі, каб хоць што-то купіць. Адна камуналка цяпер каштуе ледзь ня ўвесь заробак. Газ жа даражэе. Ды кожны месяц нешта даражэе, – абураюцца даяркі. – Крэдыторы тэлефануюць, пішуць паперы ў суд. І з заробку вылічваюць гэтыя грошы цяпер. А ўсё таму, што нам ня плацяць нармальна».

«А што рабіць мне, калі ў мяне муж таксама тут працуе, вось мы і атрымаем на дваіх 1,8 мільёну», – кажа жанчына.

«У мяне жонка-інвалід, ды і мне толькі 600 тысяч на лекі трэба», – паўтарае за ёй рабочы Сяргей.

Разьлікоўкі рабочым не выдаюць: «Зараз у канторы сьвятло і ацяпленьне адключылі. Ад рукі нам іх выпісвалі раней, а цяпер не», – уздыхаюць рабочыя.

Паводле словаў рабочых, найвялікшы заробак даяркі нават летам не дасягаў трох мільёнаў: «Як насілі мы малако за 533 рублі, так і носім. Ні дэвальвацыя, ні інфляцыя нашых расцэнак не закранулі. І так на ўсіх фэрмах».

533 рублі плацяць за перанос 100 літраў малака. У дзень зімой на фэрме надоі ў 1,2 тысячы літраў. Іх пераносяць рукамі. Гэта каштуе ўсяго 6400 рублёў. У год жа, нават пры найлепшым раскладзе, калі адна карова дасьць 3000 літраў, за перанос малака ад 200 кароў работнікі фэрмы атрымаюць на ўсіх крыху больш за тры мільёны ў год.

Работнікі тлумачаць, чаму не звальняюцца з такой працы: «Ды ў нас ужо звольніліся людзі. Раней было амаль 700 чалавек, а цяпер вось 288 чалавек. Ну, нас жытло трымае, а так і мы б звольніліся ўсе».

Ня лепш як на фэрме, працуецца і ў адміністрацыі ААТ «Гарадоцкі райаграпрамснаб». У двухпавярховым будынку ідзе рамонт. Тут усталявалі новыя шклопакеты, пафарбавалі фасад. Але ўнутры вельмі халодна. Прыёмная дырэктара зачыненая, а ўсе работнікі ходзяць па калідорах у куртках і валёнках.

У габінэтах на тэрмомэтры ўсяго 4 градусы. Работнікі тлумачаць, чаму так холадна: «Дык адключылі ў нас ацяпленьне, цяжкае матэрыяльнае становішча», – кажуць работнікі, грэючы дыханьнем рукі. – А ў нас яшчэ і са сьвятлом перабоі, –

На ўсёй тэрыторыі яго няма. Ні ў гаражах, нідзе. Толькі нам уключаюць. Але ён то ёсьць, то яго няма. Таму з раніцы мы сядзім дзьве гадзіны ў цемры. Прыходзіцца пры ліхтарыку ад рукі ўсе паперы пісаць».

На пытаньне, які сярэдні заробак па прадпрыемстве, дырэктар адказвае: «Менш за мінімальны, Вы зразумейце, я працую тут тры тыдні. У мяне паступленьне грошай толькі ад малаказаводу. Малаказавод даў толькі 400 мільёнаў. Гэта грошы за малако, якое надаілі, калі я яшчэ практычна не працаваў. У мяне 288 чалавек, што б вы зрабілі на маім месцы? У людзей такое паняцьце, што новы кіраўнік прыйшоў і не зьбіраецца плаціць. Але я ж ня ўцёк і ня зьехаў нікуды. Я тлумачу сытуацыю. Я разумею, што гэта вельмі складана растлумачыць, калі такія грошы людзі атрымліваюць, калі зарплата менш за мінімальную. Але хто вінаваты, калі раней 1,5 мільярду на малацэ атрымлівалі, а цяпер 400 мільёнаў. Пакуль разьбіраюся ў сытуацыі. Часу-то зусім у абрэз было. Вы ж разумееце, што мы спрабуем павялічыць надоі і заплаціць людзям грошы. Але пакуль так».

**01.02.2015** Заробкі супрацоўнікам на 1 лютага ня выплацілі 77 прадпрыемстваў Віцебскай вобласьці, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. Сярод даўжнікоў перад работнікамі – ААТ "Клясыка індустрыі моды", ААТ "Сьцяг індустрыялізацыі", камбінат ядвабных тканін, завод "Эвістар", прадпрыемства вылічальнай тэхнікі і інфарматыкі (Віцебск), Гарадоцкі льнозавод, прадпрыемства "Салодкая краіна" (Ворша), ААТ "Купцовъ" (Глыбокае), цэлы шэраг сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у раёнах вобласьці.

**01.02.2015** ААТ «Нафтан» пазбаўляецца ад сацыяльных аб’ектаў, якія засталіся ва ўласнасьці прадпрыемства. Гораду ўжо перададзеныя два апошнія дзіцячыя садкі, на чарзе «Ленінец», дзевяць інтэрнатаў, паліміраўская паліклініка і многае іншае.

«Аб’екты сацсфэры, якія знаходзяцца на балянсе ААТ "Нафтан", трэба дыфэрэнцаваць: уласнасьць, якая належыць дзяржаве і перададзеная нашаму прадпрыемству ў доўгатэрміновую арэнду, і ўласнасьць, якая належыць непасрэдна нам, – адзначыў генэральны дырэктар прадпрыемства Ўладзімер Трацьцякоў. – Зь першай групы аб’ектаў пры канцы 2014 году гораду былі перададзеныя два апошнія дзіцячыя садкі. Таксама прынятае рашэньне пра перадачу ў камунальную ўласнасьць аздараўленчага лягеру "Ленінец". Сюды ж уваходзяць, але пакуль застаюцца ў нас, дзевяць інтэрнатаў, паліміраўская паліклініка, аўтадарога "А".

Астатнія аб’екты належаць ААТ "Нафтан". І сёньня ідуць перамовы пра перадачу ва ўласнасьць Полацкаму дзяржунівэрсытэту двух адміністрацыйна-бытавых карпусоў у пасёлку Міжрэчча. Праектная служба, што працуе там, будзе пераведзеная на завод – цяпер шукаем, дзе разьмясьціць гэтае падразьдзяленьне. У сувязі зь перадачай будынку мяркуецца з 1 красавіка зачыніць бар, які знаходзіцца ў ім, паколькі новы ўласьнік адмаўляецца яго абслугоўваць.

Таксама з 1 чэрвеня будзе зачыненая крама "Палімір", паколькі яна прыносіць нам страты, а дзейнасьць па такой рэалізацыі прадукцыі неўласьцівая для нашага прадпрыемства.

З 1 лютага спыняе працу цяплічная гаспадарка ў пасёлку Міжрэчча. Гэты аб’ект мяркуецца аддаць у арэнду або выставіць на продаж».




**01.02.2015** Прадпрыемства «Віцебскэнэрга» прымушае рабочых частку часу працаваць без аплаты працы. Пры прыёме-перадачы зьмены рабочых, якія працуюць на абсталяваньні зь няспынным рэжымам, абавязваюць 20-30 хвілін прымаць зьмену ў асабісты час.

Такія навацыі ўведзеныя з 1 лютага загадам выконваючага абавязкі генэральнага дырэктара Міхаіла Лузіна для асобных катэгорыў работнікаў і ўнесеныя ў іх працоўныя інструкцыі. Пры гэтым в.а. гендырэктара загадвае, што «час прыёму-перадачы зьмены ў працоўны час не ўключаецца», а значыць і не аплачваецца.

Такія дзеяньні наймальніка парушаюць працоўнае заканадаўства Беларусі. Для нядобрасумленных наймальнікаў крызысныя часы – зручны пэрыяд, каб пад шумок павялічыць свой прыбытак. На падставе дрэннага эканамічнага становішча ў краіне, адміністрацыі прадпрыемстваў часам для скарачэньня выдаткаў вымушаюць сваіх работнікаў працаваць больш за тыя ж самыя заробкі, што дазваляе павялічыць прыбыткі за кошт здароўя рабочых.

Рабочыя «Віцебскэнэрга» зьвярнуліся па тлумачэньні да юрыста Свабоднага прафсаюзу, які адзначыў, што абавязкі наймальніка па арганізацыі ўліку працоўнага часу вызначаюцца артыкулам 133 Працоўнага кодэксу Беларусі. У гэтым артыкуле ёсьць вычарпальны сьпіс дзеяньняў працоўнага, якія не ўлічваюцца ў працоўны час. Гэта праезд ад дому да працоўнага месца, пераапрананьне рабочага адзеньня і (калі ёсьць) рэгістрацыя падчас сыходзе дадому. Пры гэтым у працоўны час мусіць залічвацца час выкананьня падрыхтоўчых апэрацыяў.

**07.02.2015** Гаўбцы дому ў цэнтры Віцебску могуць абрынуцца ў кожны момант. Рабіць рамонт камунальнікі не зьбіраюцца. Пра гэта паведаміла **Алена Рызо**. Яе бацька-пэнсіянэр жыве ў доме па вуліцы Чарняхоўскага, 12 у Віцебску, спраўна плаціць за капітальны рамонт дому, а рамонту, як такога, усё няма і няма.

«У гэтым доме жыве мой бацька, яму 78 гадоў. У доме большасьць людзей пэнсійнага ўзросту. Вядома ж, бегаць у ЖЭК і выканкам у многіх няма сіл і здароўя. Вось і мірацца з такім становішчам спраў. Грошы на рамонт, у тым ліку капітальны, плацяць спраўна. Мой бацька пісаў у ЖЭК наконт гаўбца, у адказ: «чакайце»… Колькі толькі чакаць – не сказалі», – шкадуе яна.

**07.02.2015** Службы занятасьці Віцебскай вобласьці адзначаюць павелічэньне патоку грамадзян, якія хочуць зарэгістравацца ў чарзе на працаўладкаваньне на тле абвешчанай барацьбы з дармаедствам. Пра гэта паведаміла намесьніца старшыні камітэту па працы, занятасці і сацыяльнай абароне аблвыканкаму – начальніца ўпраўленьня пэнсійнага забесьпячэньня Натальля Хваль перад пачаткам выні-


Паліна Русакова

ковай калегіі камітэту.

Па выніках 2014 году сытуацыя на рынку працы характарызавалася зьніжэньнем колькасьці тых, хто зьвярнуўся па садзейнічаньне ў працаўладкаваньні і зьніжэньнем попыту на працоўную сілу (часткова гэта абумоўлена аптымізацыяй штатнай колькасьці арганізацыяў, часткова – запаўненьнем вакансіяў грамадзянамі Ўкраіны). "Але калі цягам мінулага году мы казалі, што колькасьць вакансіяў пераважае над колькасьцю прэтэндэнтаў на іх, то ўжо цяпер колькасьць вакансіяў і прэтэндэнтаў зраўнаваліся. А з улікам таго што ў грамадзтве абмяркоўваецца дэкрэт пра барацьбу з дармаедамі і утрыманцамі, мы ня толькі чакаем, але ўжо адчуваем, што ўсё больш грамадзян прыходзіць рэгістравацца ў службу занятасьці. Мы будзем забясьпечваць даваньне дзяржаўных гарантыяў на працу", – падкрэсьліла Натальля Хваль.

На фінансаваньне мерапрыемстваў па забесьпячэньні занятасьці насельніцтва летась выкарыстана амаль 40 мільярдаў рублёў. У 2015 годзе ставіцца задача працягнуць стымуляваньне эканамічнай актыўнасьці насельніцтва, спрыяньне занятасьці вызваляемых працаўнікоў ва ўмовах аптымізацыі штатнай колькасьці арганізацыяў, павышэньне эфэктыўнасьці выкарыстаньня працоўных рэсурсаў і інтэграцыю ў працоўную дзейнасьць мэтавых групаў насельніцтва.

**10.02.2015** Заробкі работнікаў Віцебшчыны ў студзені значна зьменшыліся. Налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў вобласьці ў першым месяцы году склала 5 316 850 і за месяц зьнізілася амаль на 550 000 рублёў. Сярэдні заробак па краіне таксама паменшылася.

Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэту, намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў Рэспублікі Беларусь у студзені 2015 году склала 6 023 213 рублёў, і зьменшылася ў параўнаньні са сьнежнем 2014 году на 11,5%, або на 782 800 рублёў.

**13.02.2015** Пацыенты, якія прайшлі праз інфэкцыйныя аддзяленьні лякарняў Наваполацку і Віцебску, скардзяцца на ўмовы знаходжаньня ў іх.

Жыхарка Наваполацку **Паліна Русакова**: «Патрапілі з шасьцімесячнай дачушкай у лякарню Наваполацку. Прывезьлі ў інфэкцыйнае аддзяленьне. Як высьветлілася, месцаў у аддзяленьні наогул няма. Сказалі, маўляў, будзеце спаць у калідоры, ды яшчэ і на канапе, бо нават ложку не было вольнага. Аддзяленьне страшнае, на калідоры скразьняк, дзіця было страшна нават разьдзець. Мэдсёстры ходзяць, равуць, стукаюць дзьвярыма, ім нават напляваць, што сьпіць маленькае дзіця! Калі я спытала ў адной мэдсястры дзе я магу ўзяць кіпню, каб зрабіць дачцэ сумесь, яна мне адказвае: «На другім паверсе стаіць мікрахвалёўка, набярыце вады з-пад кра-

ну і пастаўце на 2 хвіліны. А каб вада была ня моцна гарачай, разьвядзіце той жа вадой з-пад крану!». Гэта быў нейкі жах. Я тут жа патэлефанавала мужу і папрасіла прывезьці вады. Крам шыкоўных наадкрывалі цэлую сьціжму, а зрабіць аддзяленьне, дзе ляжаць ня толькі маленькія дзеці, але і людзі з усякай заразай і бамжы нават, яны ня ў сілах! 3 дні суцэльнага жаху!»

**Надзея Сьвідзінская** пацьвярджае, што варункі сапраўды жахлівыя: «Набалела і ў мяне. Самі патрапілі туды месяц таму. Гэта не аддзяленьне, а поўная ка! Ледзь выпрасіла шклянку вады, лекара ледзь упрасіла, кропельніцу проста ўмольвала паставіць, на што мне заяўлялі, маўляў, навошта вам, ставілі ж уночы, выстарчыць. А тое, што ў дзіцяці жудаснае абязводжваньне і яно паўдня ня сікала – гэта нічога. Каб пагрэць ваду, даводзілася дзіця цягаць на другі паверх за сабой, бо няма каму за ім прыгледзець. Прывезьлі дзяўчынку з дыярэяй і ванітамі, яна ляжала ўвесь дзень і толькі потым дадумаліся яе звазіць на УГД – выявілася, апэндыцыт. А калі б яна ляжала ў ложку ўсе выходныя? Увогуле, усім шчыра кажучы на*ць на пацыентаў. У дзіцяці яшчэ рэзаліся зубы, а абязбольвальных лекаў так і не далі. Дзіця ванітуе – ім усё адно, «ідзіце ў палату, нам не да вас». Нэрвы здалі, малой палягчэла, сказала ўвечары, што пасьля кропельніцы пайду пад расьпіску дадому. На раніцу выклікала лекара, дык ён не прыходзіў да самага вечару. Хацела напісаць скаргу, ды проста не захацелася зьвязвацца. Дарагія мэдработнікі, калі вам такая гідотная вашая праца, што ж вы ў мэдычны ўнівэрсытэт паступалі? Ня дай Бог патрапіць у гэтае аддзяленьне. Кіпню няма, адна разэтка на палату, пры мне люстра са сьцяны ўпала проста на ложак, добра, што ён быў пусты!» – абураецца яна.

**Сьвятлана Валькоўская** распавяла пра інфэкцыйнае аддзяленьне абласной лякарні ў Віцебску: «У Віцебску таксама інфэкцыйнае аддзяленьне – барані, Божа! З п'янымі санітаркамі і мурашкамі на падлозе. Хараство! Вось такая абласная ў нас лякарня».

Пра свой сумны досьвед, зьвязаны з інфэкцыйным аддзяленьнем, распавяла **Вольга Чарняўская**: «Два гады таму ляжала ў інфэкцыйным аддзяленьні зь пяцімесячным немаўлём. Мне яшчэ больш-менш пашанцавала: ляжала ў нейкім дапаможным памяшканьні. Першую ноч ня спала, бо ложак быў адзін. Раніцай ад стомы ўпаў ціск, губляла прытомнасьць, выклікала мужа на дапамогу. Спытала, ці можна ўзяць з дому калыску, каб дзіця там спала, на мяне зьдзіўлена паглядзелі і спыталі: «А што, у вас няма дзіцячага ложачку ў палаце?». Гэта пры тым, што да мяне заходзілі сто разоў і бачылі ўсё, што было ў гэтым пакойчыку 2 на 4 мэтры. У калідоры ляжала некалькі чалавек. Добра, што карміла грудзямі, а так ня ведаю, як бы кідала немаўля адно і хадзіла па ваду і гэтак далей. Нават у прыбіральню праблематычна было выйсьці. Карацей, гэта былі чатыры дні пекла. Дадому вярнулася з тэмпэратурай 39°С. Да саміх лекараў прэтэнзіяў няма, ставіліся нармальна, дзіця вылечылі. Гады ідуць, нічога не мяняецца, сумна… Няўжо нічога нельга зрабіць?» – зьдзіўляецца яна.

**16.02.2015** Да незалежных журналістаў зьвярнуліся жыхары вёсак Баяры і Сялец з паведамленьнем пра тое, што на працягу восені і зімы не выконваюцца рэйсы прыгараднага аўтобусу «Чашнікі-Сялец». Для насельніцтва вёсак Асташова, Баяры, Вяжоўка, Сялец і Тарантава гэты маршрут, па якім аўтобус хадзіў два разы ў пятніцу і два разы ў нядзелю, быў адзіным спосабам дабрацца да райцэнтру.

У аддзеле перавозак ААТ «Віцебскаблаўтатранс» пасьля доўгіх удакладненьняў пацьвердзілі, што на мінулым тыдні рэйсы па маршруце «Чашнікі-Сялец» сапраўды не выконваліся, спаслаўшыся на тое, што ў ААТ «Аўтатранспартнае прадпрыемства №9 г. Чашнікі» гэта тлумачаць нізкім пасажырапатокам. А для далейшага тлумачэньня сытуацыі запатрабавалі накіраваць ім афіцыйны запыт.

У той самы час вяскоўцы сьцьвярджаюць, што ўжо ўлетку аўтобус на прыпынках у іх вёсках зьяўляўся ад выпадку да выпадку, і трэба было тэлефанаваць на аўтавакзал, каб удакладніць – ці прыйдзе ён гэтым разам. Інфармацыю пра нібыта нізкі пасажырапаток яны схільныя тлумачыць тым, што кіроўцы часьцяком кладуць аплату праезду сабе ў кішэню і не выдаюць квіткоў, з-за чаго, натуральна, і складваецца ўражаньне, што аўтобус катаўся пусты.

Паводле словаў вяскоўцаў, цяпер яны пазбаўленыя магчымасьці трапіць на рынак, каб прадаць на рынку плады сваёй працы, што зьяўлялася падтрымкай да невысокім пэнсіяў былых калгасьнікаў. Яшчэ больш цяжкасьцяў узьнікае ў выпадку хваробы – да лекара даводзіцца дабірацца на спадарожках або выклікаць «хуткую дапамогу».

Забытыя раённым начальствам жыхары вёсак, што засталіся без аўтобуснага злучэньня, з прыкрасьцю кажуць, што калі дзяржаве яны не патрэбныя, то і ў дзяржаве яны ня маюць патрэбу і дапускаюць магчымасьць байкатаваньня маючых адбыцца выбараў прэзыдэнта.

**17.02.2015** Каля 30 работнікаў вязальнага цэху збанкрутавалага ААТ «КІМ» падалі калектыўную скаргу ў пракуратуру. Кімаўцы скардзяцца ў гарадзкую пракуратуру на тое, што ім яшчэ не выплачаная заработная плата за лістапад і сьнежань 2014 году.

Гэта адбылося ў той самы дзень, калі эканамічны суд прызначыў на Віцебскае ААТ «КІМ» часовага кіраўніка. Паводле слоў работнікаў «КІМ» кіраўніцтва ахапіла паніка. Яны непакояцца, што кіраўнікі цяпер больш дбаюць пра ўдалае звальненьне са збанкрутавалага прадпрыемства, чымся пра свае службовыя абавязкі.

**21.02.2015** У **прадпрымальніцы** з Докшыцкага раёну **Тацьцяны Полазавай** падаткавікі канфіскавалі тавар. Прычым здарылася гэта не калі прадпрымальніца прадавала тавар, а калі перавозіла, вяртаючыся з Новалукомлю ў Докшыцы.

Паводле словаў Тацьцяны Полазавай, непадалёку ад рынку ў Новалукомлю яе спыніў супрацоўнік ДАІ для праверкі дакумэнтаў: “Пасьля праверкі дакумэнтаў, невыразнай, незразумелай, усё толкам да канца не праверылі, падышоў малады чалавек, не прадставіўся, не растлумачыў, што ды як, сказаў паказаць дакумэнты на тавар. Я не паказала, яны сказалі праехаць за імі”.

Каля будынку падатковай інспэкцыі з машыны прадпрымальніцы вынесьлі ўсе рэчы. У віну Тацьцяне ставілася тое, што яна прадавала тавар без дакумэнтаў: “Я ня стала падпісваць ніякіх дакумэнтаў, пачалі пужаць міліцыяй, што мяне забяруць у пастарунак, арыштуюць. Пасьля ў мяне пачалася гістэрыка, потым у стане афэкту мне пачалі падпіхваць нейкія дакумэнты”.

Тацьцяну пратрымалі ў падатковай сем гадзін. Там ёй зрабілася дрэнна, і су-


Ганна Мартыноўская

працоўнікі выклікалі “хуткую”. Канфіскаваную маёмасьць не вярнулі. Пастанову на арышт і канфіскацыю падпісала інспэктар Кацярына Ваўчок. Што цікава, тавар Тацьцяны Полазавай яна ацаніла ў нуль рублёў.

Паводле словаў **праваабаронцы** з Глыбокага **Ганны Мартыноўскай**, таварам можна лічыць прадметы толькі тады, калі яны рэалізуюцца на рынку, у краме або ў іншым адведзеным для гэтага месцы: “У гэтым выпадку падатковая інспэкцыя ня мае права на дарозе, у працэсе руху, спыняць грамадзяніна, індывідуальны прадпрымальнік ён ці не, ня мае права праводзіць нейкія несанкцыянаваныя праверкі”.

Тацьцяна Полазава разам з бацькамі падала скаргу ў пракуратуру на незаконныя дзеяньні супрацоўнікаў падатковай інспэкцыі Чашніцкага раёну.

**22.02.2015** «Марко» можа ня выканаць забавязаньняў, ускладзеных на кампанію ўказам прэзыдэнта – стварэньне абутковага голдынгу да 2016 году знаходзіцца пад пагрозаю. Далучэньне стратных прадпрыемстваў да пасьпяховых, і стварэньне такім спосабам буйных голдынгаў было гітом прамысловай палітыкі мінулага ўраду Міхаіла Мясьніковіча. Не абмінула чара гэтая і лідэра абутковай прамысловасьці кампанію «Марко».

Пабачыўшы, што прадпрыемства пасьпяхова дало рады павешанаму на яго яшчэ ў 2008 годзе заводу «Чырвоны Кастрычнік», улады вырашылі дадаць да іх і Віцебскі футравы камбінат. Так у 2013 годзе нарадзіўся голдынг «Беларуская гарбарна-абутковая кампанія «Марко”».

Аднак стратны футравы камбінат быў аддадзены «Марка» ня проста так, а разам з маштабнымі забавязаньнямі. Згодна з указам прэзыдэнта, голдынг павінен правесьці мадэрнізацыю камбінату, уклаўшы 70 мільёнаў даляраў. Увод у эксплёатацыю пераўтворанага прадпрыемства заплянаваны на кастрычнік 2016-га.

Паралельна павінна ладзіцца мадэрнізацыя ўсяго голдынгу (6 прадпрыемстваў) з дэдлайнам у 2017 годзе. «Марко» абавязаны павялічыць аб’ём вытворчасьці абутку да 5 мільёнаў пар у год. Рэнтабэльнасьць продажаў пры гэтым неабходна забясьпечыць ня менш за 12%, выручку ад рэалізацыі прадукцыі на аднаго працаўніка – 40 тысяч даляраў. Заплянавана стварыць 926 новых працоўных месцаў, напалову зьнізіць імпартны складнік пры вытворчасьці абутку і павялічыць аб’ём экспарту.

Агульны аб’ём інвэстыцыяў у рэалізацыю ўсяго праекту ўказам ацэньваецца ў 120 мільёнаў даляраў. Згодна з дакумэнтам, праект фінансуецца як уласнымі сродкамі голдынгу, гэтак і банкаўскімі крэдытамі пры падтрымцы дзяржавы.



Мікалай Мартынаў

Пры канцы 2014 году **ўладальнік «Марко» Мікалай Мартынаў** заяўляў, што найбліжэйшым часам атрымае крэдыты. Аднак неўзабаве стала вядома, што бізнэсовец мае цяжкасьці з прыцягненьнем сродкаў.

Так, Мікалай Мартынаў зьвяртаўся з адпаведнай скаргай да старшыні віцебскага аблвыканкаму Мікалая Шарстнёва. Кампанія заяўляла, што для таго, каб мадэрнізаваць прадпрыемства ў належны тэрмін, ужо з красавіка 2015-га трэба пачаць крэдытаваньне. Інакш работы спыняцца.

Гэтую ж праблему ён агучыў на паседжаньні Савету па разьвіцьці прадпрымальніцтва, дзе яго выслухалі старшыня Савету Пётар Пракаповіч і віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі.

Паводле словаў бізнэсоўца, пытаньне фінансаваньня стопарыцца на ўзроўні банкаў: «Сёньня мы ўзялі на сябе сьмеласьць – мабыць, яна нават на мяжы глупства – будаўніча-мантажныя работы часткова прафінансаваць у валюце, – сказаў кіраўнік голдынгу. – Але нават у валюце пачынаюцца нейкія перашкоды. Мы зьбіраліся тыдзень таму – была адна стаўка па працэнтах, учора – ужо значна вышэйшая».

На думку Мікалая Мартынава, банкі адмыслова гэтак паводзяцца, каб зусім не адкрываць фінансаваньня: «Але нейкая мяжа павінна быць. Ёсьць указ, там прапісаныя стаўкі – і ў валюце, і ў рублёх», – абураецца бізнэсовец.

«Банкі сёньня – гэта недатыкальная каста, да іх нельга падысьці, – заявіў кіраўнік "Марко". – Але яны, у рэшце рэшт, таксама ўдзельнікі гэтага рынку. Я прайшоў усе банкі, і ў Нацбанку быў. І бачу: урад ім – ня ўказ, указ прэзыдэнта – таксама ня ўказ».

Бізнэсовец заявіў, што бачыць выкананьне праекту толькі ў тым выпадку, калі будзе выкананая «тая частка, якая зьвязаная з крэдытнай палітыкай нашай дзяржавы». Ён разьлічвае на ўмяшаньне ўраду ў вырашэньне праблемы.

**22.02.2015** Пюрэ ў шырокім асартымэнце вырабляе цэх дзіцячага харчаваньня Віцебскага садавінагародніннага камбінату. **Дар'я Гараюціна** – зь ліку пастаянных спажыўцоў, заўсёды з даверам ставілася да першага прыкорму свайго малога, пакуль не знайшла ў слоічку пюрэ зь яблыкаў і чарніцаўкавалак шкла.

Натуральна, жанчына была проста шакаваная, тым больш што дзіця само выплюнула аскепак. На шчасьце, усё абышлося, малы адчувае сябе добра.

Выпадак сапраўды абуральны, але, як адзначыла начальніца вытворчай лябараторыі Дыяна Катовіч, адзінкавы. «Падчас правядзеньня расьследаваньня па згада-


Аксана Мушкат

ным выпадку выяўлена, што прычынай патрапленьня шкла ў прадукт стала нядбалае стаўленьне работнікаў да выкананьня сваіх абавязкаў. Вінаватыя асобы ўжо панесьлі пакараньне», – запэўніла спэцыяліст.

Таксама падчас расьследаваньня высьветлілася, што ўся партыя харчаваньня ўжо раскупленая, у сувязі з чым адклікаць прадукцыю не ўяўляецца магчымым.

**04.03.2015** Глыбоцкая дворнічыха другі год ня можа дамагчыся пераводу на больш лёгкую працу. У жанчыны трэцяя група інваліднасьці па зроку, але яе кіраўніцтва мяркуе, што гэта не замінае цягаць цяжкія мяхі са сьмецьцем.

**Аксана Мушкат** уладкоўвалася прыбіраць пад’езды ў дамох. Аказалася, трэба і на сьметнік езьдзіць, сьмецьце сартаваць, і на розныя іншыя працы па горадзе. Калі ж Аксана стала адмаўляцца выконваць гэтыя абавязкі, ёй сталі ставіць менш працоўных гадзін, адпаведна, і зарплата стала меншая. А жанчыне трэба выплачваць яшчэ і крэдыт за рамонт кватэры.

Спрэчкі з працадаўцам расьцягнуліся не на адзін год. Аднак 4 сакавіка яе выклікалі на паседжаньне камісіі па працоўных спрэчках. Незалежных журналістаў, якіх запрасіла Аксана, камісія туды не дапусьціла, ім давялося чакаць за дзьвярыма. Не дазволілі Аксане і рабіць аўдыёзапіс паседжаньня. Разгляд справы цягнуўся каля дзьвюх гадзін.

“Дзяўблі, што яны ва ўсім маюць рацыю, а я вінаватая, – расказала жанчына пра ход паседжаньня. – Зрабілі зь мяне авечку – я вінаватая, і ўсё. Зрабілі зь мяне інваліда, маўляў, гэта яны ідуць мне на саступкі, што трымаюць мяне тут”.

Аксана паводле адукацыі бухгальтар, але такой працы ёй даць ня могуць: “У нас няма працы, тут МРЭК (мэдычная камісія) прызначае, што я магу на пасадзе бухгальтара працаваць. Зразумела, я сказала, што магу быць бухгальтарам. Мне сказалі, што ім трэба бухгальтар з вышэйшай адукацыяй”.

Майстар ЖКГ Аляксандра Плыгаўка з журналістамі размаўляць адмовілася.

Паводле слоў начальніцы Аксаны, зьбіраць па горадзе паперкі – праца ня цяжкая. Аднак жанчына з гэтым ня згодная: “Паперкі, ну… Гэта цэлы дзень так адхадзіць, нагрузка на вочы ў мяне ідзе. Цягаць мяшкі са сьмецьцем з аднаго канца гораду ў другі – гэта, відаць, лёгка для іх, пясок цягаць. Калі атрымоўваецца, пад’язджаюць, а калі не атрымоўваецца, пешшу трэба хадзіць”.

**13.03.2015** У гандлёвым цэнтры «Эвіком» у Віцебску прайшоў сход прадпрымальнікаў. Некаторыя адмыслова прыйшлі на сустрэчу, бо зь 1 сакавіка так і не пачалі

працаваць. Паводле **Ірыны Яскевіч**, **удзельніцы аргкамітэту па стварэньні прафсаюзу прадпрымальнікаў «Разам»**, аднавілі працу каля паловы гандляроў.

Ірына Яскевіч: «Выйшлі на працу тыя, хто паверыў уладам. Гэта, скажам так, крэдыт даверу: што насамрэч ня будзе пакуль ніякіх пакараньняў за гандаль таварамі зь непацьверджанай якасьцю — якія ня маюць сэртыфікацыйных дакумэнтаў. Праз тое, што такіх дакумэнтаў мы здабыць ня можам, і праз тое, што непамерна растуць падаткі, прадпрымальнікі і спынялі працу. Хтосьці ўжо пачаў працаваць, і я мяркую, што такіх яшчэ дабавіцца бліжэйшым часам. На сходзе я распавяла, што 9 сакавіка ў дэпартамэнце прадпрымальніцтва прынялі прапановы ад нашай дэлегацыі, што зь імі пазнаёміліся і ў міністэрстве падаткаў. Прынамсі, нас выслухалі, і цяпер мы будзем чакаць вынікаў».

Паводле спадарыні Яскевіч, адна з прапановаў ад прадпрымальнікаў – зьменшыць падаткі, у прыватнасьці, за кошт спыненьня росту падвышальнага каэфіцыенту. Яшчэ адна – стварыць працоўную групу з уключэньнем туды прадпрымальнікаў, каб разам вырашаць праблему з дакумэнтамі аб сэртыфікацыі тавараў.

Яснасьці ў апошнім пытаньні няма. Прадпрымальнікам абяцаюць, што працаваць можна «без дакумэнтаў» і што вось-вось будзе выдадзенае тлумачэньне, што гэта значыць – безь якіх канкрэтна дакумэнтаў. Таму палова віцебскіх прадпрымальнікаў аднавіла гандаль на рынках і ў гандлёвых цэнтрах, а палова чакае. Яны баяцца, што празь некарэктныя фармулёўкі абяцаньняў ад дзяржаўных структураў могуць трапіць пад карныя санкцыі за парушэньне правілаў гандлю.

З 1 сакавіка большасьць гандлёвых месцаў на рынках Віцебску, Полацку, Воршы, Гарадку і іншых гарадоў Віцебскай вобласьці, якія гандлююць таварамі лёгкай прамысловасьці, апусьцелі, а ралеты зачыніліся.

Гэткая сытуацыя склалася з-за таго, што 1 сакавіка, у адпаведнасьці з нормамі ўказу прэзыдэнта №222 ад 16 траўня 2014 году, скончыўся пэрыяд, на працягу якога індывідуальныя прадпрымальнікі, якія плацяць адзіны падатак, маглі рэалізаваць рэшткі прадукцыі лёгкай прамысловасьці, увезенай з краін Мытнага саюзу без дакумэнтаў, якія пацьвярджаюць набыцьцё і паступленьне гэтых тавараў.

З-за боязі, што кантралюючыя органы з гэтага дня пачнуць прымяняць санкцыі ў дачыненьні да гандляроў такой несэртыфікаванай прадукцыяй прадпрымальнікі вырашылі спыніць гандаль.

28 лютага на брыфінгу ў Менску намесьнік міністра эканомікі Дзьмітры Круты заявіў, што найбліжэйшым часам урад Беларусі падрыхтуе дакумэнт наконт легалізацыі продажу рэштках тавараў лёгкай прамысловасьці індывідуальнымі прадпрымальнікамі, якія ня маюць на іх дакумэнтаў. Апроч таго, чыноўнік паведаміў, што кантралюючыя органы ня будуць прымяняць якія-небудзь санкцыі ў дачыненьні да ІП да прыняцьця новага ўказу. «Усе могуць працаваць у спакойнай абстаноўцы», – запэўніў намесьнік міністра.

Аднак шмат хто з прадпрымальнікаў паставіліся да гэтай заявы зь недаверам. У адказ на яе Рэспубліканскае грамадзкае аб’яднаньне «Пэрспэктыва» (арганізацыя, якая аб’ядноўвае прадстаўнікоў малога бізнэсу) прыняло ўласны зварот да намесьніка міністра Дзьмітрыю Крутога, у якім просіць на заканадаўчым узроўні




накласьці маратор на любыя праверкі ІП, да выпрацоўкі рашэньня, якое задаволіла б усе бакі. Паводле ацэнак гэтай арганізацыі 1 сакавіка на рынках і ў гандлёвых цэнтрах Беларусі ня выйшлі на працу блізу 80% індывідуальных прадпрымальнікаў.

На шмат якіх рынках прайшлі сходы прадпрымальнікаў. Так, на Полацкім рынку ў Віцебску гандляры, якія вырашылі не плаціць падаткаў і не выходзіць на працу, пакуль ня ўбачаць новых дакумэнтаў, што рэглямэнтуюць прадпрымальніцкую дзейнасьць, сабраліся на сход, ініцыяваны **Анатолем Шапавалавым**, **актывістам грамадзкага аб'яднаньня «Пэрспэктыва»**.

«Няма надзеі на тое, што новы дакумэнт нешта істотна зьменіць у нашым жыцьці. Бо яго рыхтуюць тыя самыя структуры, якія раней стваралі нам толькі праблемы ў працы. «Пэрспэктыва» сфармулявала шэраг прапаноў, мы даслалі іх на разгляд. Праўда, маю асабістую прапанову не ўключылі, а я прапаноўваў запісаць, каб неадкладна паднялі заробкі нашым пакупнікам, інакш гандлёвыя цэнтры і рынкі застануцца пустыя, і ўжо не праз тое, што мы не працуем. У людзей папросту няма грошай!» – заявіў Анатоль Шапавалаў.

Індывідуальныя прадпрымальнікі, якія гандлююць на рэчавых рынках Віцебску, напісалі зварот да Аляксандра Лукашэнкі. Тэкст звароту некаторыя зь іх вывесілі і на сваіх зачыненых ралетах – каб пакупнікі разумелі, чаму яны не працуюць.

**17.03.2015** У віцебскай прадпрымальніцы канфіскавалі тавар на 152 мільёны. Як распавяла **прадпрымальніца Сьвятлана Ваяводзіна**, да яе гандлёвага пункту ў віцебскім гандлёвым цэнтры «Эўропа» прыйшлі прадстаўнікі ІМПЗ і АБЭЗ, якія заявілі, што канфіскоўваюць тавар з-за адсутнасьці суправаджальных дакумэнтаў.

На запэўніваньні жанчыны, што ўсе неабходныя дакумэнты знаходзяцца якраз у інспэкцыі па падатках і зборах, яе прадстаўнікі не адрэагавалі. Выклікалі панятых, пачалі вопіс сканфіскаванай маёмасьці.

Сьвятлана скарысталася момантам і ўцякла ў раённую падатковую, каб высьветліць на якой падставе канфіскуецца яе маёмасьць. Зь яе слоў, начальніца ІМПЗ заявіла, што яе супрацоўнікі дзейнічаюць у рамках закону.

Сьвятлана Ваяводзіна: «Канфіскавалі тавар на 152 мільёны рублёў. Пратакол канфіскацыі мне не далі. Незразумела, як дзейнічаць далей. А трэба ж неяк жыць… На мне крэдыт, які трэба штомесяц выплачваць. І дачка вучыцца на платным».

Адзначым, што прадпрымальніца Сьвятлана Ваяводзіна не зьяўляецца плацельшчыкам адзінага падатку.

**19.03.2015** Супрацоўнік УП «Віцебскаблгаз» ПУ «Віцебскгаз» распавёў пра тое, што на прадпрыемстве распачалася «аптымізацыя кадраў», што можа азначаць скарачэньне на 25% штату: «У нас распачалася масавая «рэарганізацыя прадпрыемства». Зь Міністэрства прыйшло распараджэньне аб колькасьці працуючых у кожнай службе. У нас, напрыклад, згодна з гэтым распараджэньнем – значнае перавышэньне колькасьці супрацоўнікаў. Як мяркуецца, гэта перавышэньне складае блізу 25%, але дакладная колькасьць тых, што звольняць, яшчэ не вядомая, бо плянуецца пазбавіцца ад так званых няпрофільных актываў. Са складу прадпрыемства будуць выдзеленыя будаўнічыя службы, наша кавярня «Мэтан», крама «Мэтан», дзіцячы лягер і гэтак далей».

Але гэта яшчэ ня ўсё. Рабочы скардзіцца, што супрацоўнікаў прадпрыемства таксама прымушаюць за свае грошы закупляць торф: «А больш за ўсё абурае тое, што пры сытуацыі, якая склалася, нас прымушаюць купляць торф, таму што ў нашым абласным прадпрыемстве ёсьць некалькі падшэфных торфазаводаў. Патрабуецца купіць мінімум 1 тону коштам 983 000 і 820 000 беларускіх рублёў. Людзі ад безвыходнасьці пачалі пісаць заявы і купляць той торф, што таньнейшы. Аднак сталі прывозіць той, што даражэйшы, і, што дзіўна, горшай якасьці. Поўнае бязьмежжа! Кіраўніцтва спрабуе разьвязаць свае праблемы за наш кошт. Ведамасьць разнарадкі торфу па службам прыкладаю».

На прадпрыемстве пацьвердзілі, што звальненьні сапраўды будуць, але пакуль не вядома, у якіх маштабах. Пра гэта паведаміў намесьнік дырэктара, начальнік аддзелу прававой і кадравай работы Валер Ярамееў: «Гэта не зусім так. Рэч у тым, што ў нас будзе аптымізацыя, але афіцыйныя дакумэнты яшчэ не прынятыя, таму дакладных лічбаў яшчэ няма», – сказаў ён.

**21.03.2015** У сельскай гаспадарцы няпростая сытуацыя, а трэба праводзіць пасяўную. У рэдакцыю *Onliner.by* прыйшоў ліст з Талачынскага раёну. Аксана Сяргееўна, працаўніца бюджэтнай арганізацыі, распавяла пра схему, якую зноў рэанімавалі ў глыбінцы. Сутнасьць, паводле яе слоў, простая: людзей «настойліва просяць» атаварвацца на фіксаваную суму айчыннай ежай.

«Кіраўнікоў арганізацыяў выклікалі ў райвыканкам і выдалі распараджэньне, што кожны работнік, ад прыбіральшчыцы да начальства, абавязаны штомесяц купляць набор прадуктаў мясцовай вытворчасьці, – распавядае Аксана. – Першапачаткова называлася сума 300 тысяч у месяц, а для начальства – наогул 1 мільён. Ініцыятыва гэта мясцовай улады або абласной – невядома. Але распараджэньне дакладна закранула мэдыкаў, культуру, адукацыю і іншых. Фактычна ўсяго раёну, невядома толькі пра міліцыю, напрыклад. У якасьці прычын агучвалася тое, што працаўнікам калгасаў няма чым плаціць заробкі».

«Першапачаткова казалася, што можна будзе пайсьці ў краму, узяць прадуктаў на гэтыя 300 тысяч. І даць справаздачу чэкамі, – працягвае аўтар паведамленьня. – Па факце ж аказалася так: калгас прывозіць «падшэфнай» арганізацыі вельмі абмежаваны набор прадуктаў, у асноўным мясных – рулеты, тушонка, куры, кілбаса. Казалася, што ўсё гэта будзе рэалізоўвацца без гандлёвай нацэнкі, са зьніжкай прыкладна ў 20%. Але пры параўнаньні коштаў з крамнымі выйшла аднолькава амаль усё. Таньней толькі некаторыя віды прадукцыі. Ёсьць сярод прадуктаў нават

тыя, тэрмін прыдатнасьці якіх мінае праз 3 дні. Затое абавязковую суму зьнізілі да 250 тысяч. Прадукты «рэалізуюцца» пад подпіс».

«Як мы зразумелі, – працягвае Аксана, – схема атрымліваецца такая: калгасы Талачынскага раёну пастаўляюць сыравіну такім прадпрыемствам, як Аршанскі мясакамбінат, Лепельскі малочны камбінат і інш. Тым няма чым зь імі расплачвацца, калгасьнікі не атрымліваюць зарплату, вось і знайшлі такое арыгінальнае выйсьце. Колькі гэта будзе доўжыцца – не паведамляецца, ходзяць розныя чуткі – ад 3 месяцаў да году. Наконт санкцыяў у дачыненьні да тых, хто адмовіцца, пакуль таксама нічога не вядома. У маёй арганізацыі ніхто не адважыўся адмаўляцца: усе хочуць працаваць. Наўпрост звальненьнямі ня пагражалі, але ўсім зразумела, што лепш не пярэчыць».

**22.03.2015** Рабочы Віцебскага камбінату ядвабных тканін паведаміў, што заробкі на прадпрыемстве затрымліваюць са сьнежня. Дзяржаўная фабрыка тканін, некалі перадавік савецкай вытворчасьці, бясслаўна дажывае свой век. Абвешчаная працэдура банкруцтва, выкліканы антыкрызісны кіраўнік.

Пра сытуацыю на фабрыцы распавёў сайту onliner.by фарбавальшчык Андрэй. У доказ сваіх слоў ён выслаў у рэдакцыю выпіску са свайго карт-рахунку: «На Віцебскім камбінаце ядвабных тканін я працую больш за тры гады. Калі прыйшоў сюды з «Віцебскіх дываноў» ў 2012 годзе, атрымліваў 5,5 мільёну рублёў. Гэта былі добрыя грошы. Але ў 2013 годзе ў прадпрыемства зьявіліся сур'ёзныя фінансавыя праблемы. Усё пачалося з таго, што бяз нашага ведама нас захацелі далучыць да магілёўскага «Магатэкс». Мы былі супраць, бо ў нас была свая вытворчасьць, мы спраўляліся з аб'ёмамі. Ну што, думаеце, паслухалі нас? Зьнялі тагачаснага дырэктара, таму што ён быў супраць, і ўсё адно распачалі гвалтоўна далучаць нас. Людзі супраціўляліся. Кіраўніцтва канцэрну прызначыла аднаго кіраўніка, другога, трэцяга… У выніку камбінат – банкрут, грошай няма. Кажуць: выходзьце, працуйце. А навошта выходзіць? Са сьнежня нам зарплату ня плацяць. Перавялі на частковы рэжым працы: у студзені мы адпрацавалі толькі 2/3 зьмен, у лютым – тры тыдні з чатырох. Але нават і за гэтыя адпрацаваныя суткі мы не атрымлівалі ні разьліковыя аркушы, ні грошы. За сьнежань мне павінны былі заплаціць 3,5 мільёну (з улікам таго, што адпраўлялі ў адпачынак на два тыдні). Але выплацілі толькі 1,8 мільёну. На цяперашні момант прадпрыемства вінна мне каля шасьці мільёнаў рублёў».

Рабочы патлумачыў, чаму ня звольніліся адразу, як толькі перасталі плаціць зарплату: «Я баюся, што мяне на грошы «кінуць». Шмат людзей з нашай, фарбавальна-аздобнай вытворчасьці кажуць: «Мы баімся, што калі звольняць, усе свае заробленыя грошы страцім. Нам не заплацяць наогул нічога». Я сёньня напісаў заяву, сказаў: ня заплаціце грошы на працягу тыдня – буду з вамі судзіцца. Праблема ў тым, што ў Віцебску складана з працай, няма вакансіяў. А калі і ёсьць нешта цікавае – ахвотных зашмат… Я сёньня зайшоў у бухгальтэрыю, там восем чалавек сядзяць. У каторы раз запатрабаваў выплаціць мне грошы. А мне адказваюць: рахункі камбінату замарожаныя, лічыць няма чаго».

Па камэнтар *Onliner.by* зьвярнуўся да дырэктара Віцебскага камбінату ядвабных тканін Сяргея Лосеву. Новы кіраўнік, які спрабуе вывесьці прадпрыемства з кры-

зысу на працягу апошняга году, не стаў адмаўляць існуючых праблем. Але і канкрэтных тэрмінаў, калі прадпрыемства расплаціцца з супрацоўнікамі, назваць ня змог.

«Сапраўды, праблемы з выплатай заработнай платы ёсьць. Мы знаходзімся ў працэдуры эканамічнай неплацежаздольнасьці, прызначаны часовы антыкрызысны кіраўнік, выраўноўваем сытуацыю. Але нашы сёньняшнія фінансавыя праблемы – гэта ня вынік дэвальвацыйных працэсаў. Крызыс на камбінаце пачаўся некалькі гадоў таму, гэта гісторыя трох-пяцігадовай даўнасьці. Я ж працую тут толькі адзін год. Усё праглядаецца на ўзроўні аздараўленьня і санацыі. Папросту старыя даўгі не даюць жыцьця. Іх зашмат», – канстатаваў Сяргей Лосеў.

**22.03.2015** Адразу некалькі працаўнікоў ААТ «Віцебскія прадукты» паведамалі аб праблемах на прадпрыемстве: пачынаецца «аптымізацыя кадраў», а заробак налічваюць паводле нейкай дзіўнай схемы – то дадуць гатоўкай, то на карту, то наогул бяз прэміі. Таксама пачала дзенічаць новая схема выплат: раз у месяц, без авансу.

Гэтую інфармацыю пацьвердзіў чытач сайту *charter97.org*: «Працаўнікам заявілі пра тое, што аванс яны атрымліваюць апошні раз, пра што і апавясьцілі наўпрост на працоўным месцы. Акрамя гэтага, сказалі, што хутка вышлюць дапаўненьні да кантрактаў, у якіх будзе пазначана, што выплата заробку будзе праводзіцца адзін раз у месяц. Наколькі нам вядома, прадпрыемства можа само вызначаць, колькі разоў ім выплачваць заробак, але ж становіцца відавочным адно: не ад добрага жыцьця ўсё гэта робіцца. Людзі, якія прывыклі да двухразовых грашовых паступленьняў, якія былі стабільнымі цягам многіх гадоў, цяпер павінны пераглядаць сямейны бюджэт, фінансава ўціскацца, выкручвацца і зьмяняць выплаты крэдытаў, камунальных і іншых плацяжоў. Выбару самому работніку не застаецца. Не падпісваеш дапаўненьне ці не згодны зь ім – кантракт аўтаматычна скасоўваецца. Пры гэтым гучыць вельмі зручная для ўсіх кіраўнікоў у нашай краіне фраза: «Калі каму-небудзь штосьці не падабаецца – звальняйцеся». Вось такая сытуацыя», – напісаў ён.

**26.03.2015** Завод «Палімір», які ўваходзіць у склад ААТ «Нафтан», спыніў выпуск сынтэтычнага валакна Нітрон-З, аднаго з асноўных відаў сыравіны, якія выкарыстоўваюцца ў беларускай лёгкай прамысловасьці. Прадпрыемства пазбавілася каля 600 працоўных месцаў.

Пра гэта распавялі работнікі заводу «Палімір»: «Нас загадзя папярэдзілі пра скарачэньне. Прафсаюзы нічога не зрабілі дзеля захаваньня працоўных месцаў. Праўда, і работнікі не абураліся. Наймальнік, вядома, прапаноўваў месца на заводзе, і вялікую частку работнікаў перавялі на іншыя працоўныя месцы, але засталіся прыкладна 200 чалавек непрацаўладкаваных. Шмат хто пагадзіліся на скарачэньне, ім выплацілі па пяць сярэдніх заробкаў. Гэта, у асноўным, пэнсіянэры. Але ёсьць сярод звольненых і моладзь. Перад закрыцьцём нашу далучылі да іншай вытворчасьці, таксама валакна, але іншага, зрабілі агульную вытворчасьць сынтэтычнага валакна і абʼявілі, што неабходна скараціць магутнасьці».

Работнікі расказалі, што такая самая доля чакае яшчэ каля шасьці прадпрыемстваў лёгкай прамысловасьці гораду.


Іван Сьвятоха

**Старшыня першаснай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюзу (БНП) работнікаў ААТ «Нафтан» Іван Сьвятоха** пацьвердзіў інфармацыю, якая паступіла ад рабочых: «Створаная камісія па працаўладкаваньні. Разглядаецца справа кожнага работніка пэрсанальна, у першую чаргу, ільготнікі, згодна з заканадаўствам. Камісія засядае два разы на тыдзень, і будзе засядаць да таго часу, пакуль усе працаўнікі ня будуць працаўладкаваныя. Пакуль усё ідзе так. Калі нашых сяброў скарачаюць, я таксама прысутнічаю».

Прафсаюзны лідэр растлумачыў, што рашэньне наймальніка зьвязанае са стратнасьцю вытворчасьці.

**03.04.2015** Больш за 260 парушэньняў выяўлена цягам першага тыдня месячніку па забесьпячэньні бясьпечных умоў працы ў пэрыяд правядзеньня вясновых палявых работ у Віцебскай вобласьці. Пра гэта паведаміў першы намесьнік начальніка абласнога ўпраўленьня дэпартамэнту дзяржаўнай інспэкцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Сяргей Ануфрыеў.

Віцебскае абласное ўпраўленьне дэпартамэнту дзяржаўнай інспэкцыі працы з 23 сакавіка абсьледуе ўмовы працы і выкананьне патрабаваньняў заканадаўства на прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу. За першы тыдзень месячніку дзяржінспэктары ў складзе мабільных груп праверылі 34 арганізацыі АПК, пры гэтым былі выяўленыя 262 парушэньні.

Сярод найбольш характэрных – допуск да працы сельгастэхнікі, якая не адпавядае патрабаваньням бясьпекі, і эксплёатацыя такога ж абсталяваньня (што зьвязана ў асноўным з адсутнасьцю ахоўных агароджаў на элемэнтах канструкцыі). У шэрагу прадпрыемстваў уязныя брамы не абсталяваныя прыладамі для фіксацыі іх у адкрытым становішчы, а рамонт тэхнікі ажыцьцяўляецца з парушэньнем элемэнтарных нормаў па ахове працы. Напрыклад, пад вывешаную тэхніку ўстаноўленыя драўляныя калодкі і сілікатныя блёкі.

У рэкамэндацыях па ліквідацыі выяўленых парушэньняў кіраўнікам арганізацыяў указвалася на адхіленьне ад працы 16 работнікаў, якія не прайшлі навучаньне, інструктаж, праверку ведаў і якія не выкарыстоўваюць ці не забясьпечаныя сродкамі індывідуальнай абароны. Усяго прапанавана прыпыніць працу 23 адзінак абсталяваньня, якое не адпавядае патрабаваньням бясьпекі, і забаронена 18 відаў работ. У райвыканкамы накіравана 7 інфармацыяў і яшчэ 2 – у пракуратуры.

**04.04.2015** Віцебскі завод электравымяральных прыбораў праз складаную фінансавую сытуацыю перайшоў на скарочаны працоўны тыдзень. Пра гэта паведамілі работнікі аднаго з цэхаў заводу: «Віцебскі завод электравымяральных прыбораў

перайшоў на трохдзёнку, і нідзе няма гэтай інфармацыі. Заробкі 1 200 000 рублёў. Дырэктар пэнсіянэр пайшоў, і паставілі яго сына. На прадпрыемстве дзеецца нейкі жах».

Кіраўніцтва заводу адмовіліся камэнтаваць сытуацыю. Па нумары в.а. дырэктара Яўгена Лядвіна, які пазначаны на сайце, заявілі: «Я ня буду размаўляць з вамі пра гэтае пытаньне праз тэлефон».

**05.04.2015** Падатковая канфіскавала ў аднаго зь віцебскіх прадпрыемстваў дробнага бізнэсу тавар на суму звыш 640 мільёнаў рублёў. Тавар нібыта рэалізоўваўся без дакумэнтаў,

Паводле афіцыйнай інфармацыі, інспэкцыя МПЗ па Чыгуначным раёне Віцебску правяла ў дачыненьні да гандлёвага прадпрыемства “ГД” пазаплянавую тэматычную апэратыўную праверку з мэтай спыненьня абароту тавараў, што рэалізуюцца арганізацыяй без дакумэнтаў. Было выяўлена, што ў гандлёвым аб’екце ТАА “ГД” дапушчаны продаж набораў посуду, фільтраў ачысткі вады і паветра, камплектуючых да іх на агульную суму 640,5 мільёну рублёў без наяўнасьці дакумэнтаў, якія пацьвярджаюць водпуск тавараў для рэалізацыі.

Па выніках праверкі ўсе тавары, што рэалізоўваліся з парушэньнем заканадаўства, выручка ад іх рэалізацыі за пэрыяд з 19 студзеня па 5 сакавіка ў суме 45,6 мільёну рублёў арыштаваныя і канфіскаваныя. Апроч таго, эканамічны суд Віцебскай вобласьці прыцягнуў ТАА “ГД” да адміністрацыйнай адказнасьці паводле ч. 4 арт. 12.17 КаАП Беларусі ў выглядзе штрафу ў суме 1,8 мільёну рублёў з канфіскацыяй тавараў і выручкі.

**05.04.2015** У Наваполацку «адкрылі» дзіцячы сад, які ў рэальнасьці не функцыянуе. На думку карыстальнікаў сацыяльных сетак, бацькоў маленькіх дзетак, якія літаральна засыпалі сваімі паведамленьнямі журналістаў, дзіцячы сад адкрыты не для наваполацкіх дзяцей, а асабіста для Натальлі Іванаўны Качанавай.

Віцэ-прэм’ер прыбыла 3 красавіка ў Наваполацак, на ўрачыстае адкрыцьцё комплекснай установы «Ясьлі-сад-пачатковая школа» ў раёне крамы «Нафтан» на Васілеўцах. Казалася пра тое, што гэта ўнікальны праект, аналягаў якому няма ў Беларусі. Усю цырымонію здымала тэлебачаньне, а самае галоўнае – у дзіцячым садку рэальна прысутнічалі дзеці, і казалася пра тое, што адчуваюць яны сябе ў новым садку вельмі камфортна.

Убачыўшы гэты сюжэт па тэлевізары, узрадаваныя жыхары Наваполацку памчаліся ў дзіцячы сад з мэтай уладкаваць туды сваіх дзетак – і гэта зразумела, паколькі прыгожая, новая, камфортная дзіцячая ўстанова не магла не прыцягнуць увагі многіх месьцічаў. Але рэальнасьць аказалася не такой ўжо і сьветлай, бацькі, якія прыйшлі ў дзіцячы садок, атрымлівалі аднолькавую інфармацыю пра тое, што дзіцячы сад яшчэ зусім не адкрыты, мала таго, набор пэрсаналу ў ім нават яшчэ не пачынаўся, а толькі стаіць у плянах.

У дадатак высьветлілася, што ў будучыні дзіцячым садзе-школе-ясьлях, будзе функцыянаваць ўсяго тры дзіцячыя групы, хоць у тэлевізійным сюжэце казалі пра найвялікшую па ўмяшчальнасьці дзіцячую ўстанову ў краіне. Калі адбудзецца адкрыцьцё дзіцячай установы – ніхто адказаць ня здолеў. Расчараваным дзецям і

бацькам змаглі толькі прапанаваць адпраўляцца дадому і чакаць тэлефанаваньня.

На жаль, наяўнасьць выхаванцаў у дзіцячым садку, які яшчэ не адкрыўся, стала не адзіным кур'ёзным здарэньнем. Паводле слоў абураных бацькоў, перад прыездам зь Менска Натальлі Качанавай супрацоўнікамі МНС старанна мыўся ўвесь асфальт перад дзіцячым садам. Усьлед за супрацоўнікамі МНС работнікі камунальных службаў старанна даводзілі асфальт «да бляску» з дапамогай мётлаў, швабраў і ануч.

**05.04.2015** Чыгуначная станцыя Руміна, што пад Воршай, у сэзон дажджоў аказваецца фактычна адрэзанай ад сьвету. Так выйшла, што з аднаго боку пад'язны шлях праходзіць праз поле мясцовага фэрмэра, які пэрыядычна ўзорвае ўсю сваю зямлю. З другога – разьбітая транспартам каляіна.

**Аляксей Кузьмін** жыве акурат ля чыгункі. Таму і ўсе зьмены на гэтым участку ад аграгарадка Бабінічы да станцыі Руміна адбываюцца ў яго на вачох. Аляксей Кузьмін, жыхар аграгарадка Бабінічы: «Здарылася гэта ў мінулым годзе, калі захварэў лес і ўсё павыразалі. Наогул незразумела, хто тут прыяжджае: і зь лясгасу, і не зь лясгасу. Незразумела, як яны тут бярвёны бяруць. У выніку атрымалася вось такое».

Буйнагабарытныя машыны сапсавалі дарогу так, што легкавік да чыгункі, як гэта было раней, не пад'едзе. Зрэшты, рэч не столькі ў машынах, колькі ў людзях.

Каб дабрацца да станцыі, мясцовыя жыхары адразу абуваюць гумовыя боты ці ж пераабуваюцца каля дрэва. Тыя ж, хто ня мае такога патрэбнага абутку, абуваюць на ногі поліэтыленавыя пакеты.

Прыкладна ў такім выглядзе на станцыю Руміна з Бабініч ідуць і работнікі чыгункі, і пасажыры. Зрэшты, апошніх тут у сэзон дажджоў практычна няма. І гэта нягледзячы на тое, што студэнтам з аграгарадка да сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках Магілёўскай вобласьці адсюль дабрацца прасьцей і таньней.

Вольга Грук, начальнік чыгуначнай станцыі Руміна: «Студэнты не ідуць на нашу станцыю, яны едуць да Воршы, потым з Воршы едуць, дапусьцім, у Пагодзіна, у акадэмію. І тое самае з акадэміі: яны едуць да Воршы і потым аўтобусам прыяжджаюць. Бо ад нас ісьці вельмі складана».

Выходзіць, праезд да Горак тым жа студэнтам абыходзіцца даражэйшым разы ў чатыры і займае куды больш часу. Як запэўніваюць мясцовыя жыхары і работнікі станцыі, яны неаднаразова зьвярталіся ў сельвыканкам.

**06.04.2015** Віцебскі домабудаўнічы камбінат звальняе 200 чалавек. Пра будучыя праблемы на прадпрыемстве паведаміў чытач *charter97.org*: «Падпісаны загад аб пераводзе работнікаў на чатырохдзёнку. Гэтаксама плянуецца скараціць усіх пэнсіянэраў і блізу двухсот чалавек дзейнага зьвяна, як мяркуецца, з заводу буйнапанэльнага домабудаваньня, які зусім нядаўна быў "мадэрнізаваны"».

На самім Віцебскім домабудаўнічым камбінаце сытуацыю пракамэнтаваць адмовіліся.

**12.04.2015** Замест таго, каб рамантаваць, пэрсанал паставіў на падлогу вёдры для

збору вады. Чытачка *charter97.org* даслала фота сумнага відовішча, якое яна ўбачыла ў дзіцячай паліклініцы Полацку.

«Хадзіла надоечы зь дзіцем у дзіцячую паліклініку і ўбачыла там такое відовішча. Цячэ дах. А між іншым, там нашыя дзеткі лечацца», – піша яна.

«Назіраю такое відовішча ўжо ня першы год. Дах у дзіцячай паліклініцы цячэ, радзільня – усяго адна на два гарады (Полацак і Наваполацак), дарогі не адрамантаваныя, а гандлёвыя цэнтры будуюцца і будуюцца… Пытаньне: дзе грошы зь бюджэту?», – піша жыхар Наваполацку Аляксандар.

У Полацкай дзіцячай паліклініцы працуе амаль 150 мэдычных работнікаў і лечыцца больш за 18 тысяч дзяцей і падлеткаў ва ўзросьце да 17 гадоў.

**12.04.2015** Рабочыя Наваполацкага заводу буйнапанэльнага домабудаваньня паведамілі, што іх прадпрыемства перайшло на новую форму аплаты працы. Яны сьцьвярджаюць, што кіраўніцтва выдала ім карткі на 3 мільёны беларускіх рублёў, якія можна атаварыць толькі ў крамах "Базыс". Гэта сетка дзяржаўных крамаў, у якіх карткі маюць нейкую цану.

«Адміністрацыя прадпрыемства перайшла да калгасных працадзён: за працадні рабочым прапануюць узяць збожжа, прычым у той кармушкі, куды яго насыпалі. Поўнае прыніжэньне рабочых», – заявіў рабочы ў размове з карэспандэнтам.

**12.04.2015** Віцебскае кадравае агенцтва папярэджвае прэтэндэнтаў на вакансію распаўсюдніка ўлётак, што гэтая праца не зьяўляецца «сапраўднай». Чытачка сайту *charter97.org* пераслала копію аб'явы аб цікавай вакансіі, якая прыйшла ёй на электронную пошту.

«Наважылася падзяліцца з вамі надзённай вакансіяй. Патрабуецца досьвед працы і свая каманда, але за працу ня толькі плацяць шэлегі, але і яна не вызваляе ад адказнасьці паводле закону аб дармаедзтве. Гэта рассылка ад афіцыйнага кадравага агенцтва Віцебску», – напісала яна.

У аб'яве сапраўды пазначаная вакансія распаўсюдніка ўлётак, у апісаньні якой падаецца, што гэтая праца зь незразумелых прычын за «сапраўдную» працу не ўважаецца, і прэтэндэнт усё адно будзе плаціць падатак на «дармаедзтва».

**18.04.2015** Перад абласнымі «Дажынкамі» людзі будуць па трое сутак сядзець без электрычнасьці. Улады Талачынскага раёну вырашылі, што за грошы на падрыхтоўку да сёлетняга абласнога «сельскагаспадарчага сьвята» трэба выправіць адным махам усё, што не рэканструявалася дзесяцігодзьдзямі. Напрыклад, ліквідаваць такія даўнія праблемы Талачына, як зношанасьць высакавольтных лініяў. І работы ў гэтым кірунку чакаюцца настолькі глябальныя, што насельнікі шасьці вуліц разам з вакольнымі завулкамі будуць вымушаныя па некалькі дзён – аж да трох сутак – жыць без электрычнасьці.

Праз мясцовую газэту «Наша Талачыншчына» жыхароў райцэнтру папярэджваюць, каб яны чакалі аб'яваў пра тэрміны адключэньняў і «загадзя паклапаціліся пра месцы захоўваньня прадуктаў», каб тыя не сапсаваліся. Адпаведна, некаторым талачынцам давядзецца на пэўны час застацца без тэлебачаньня, інтэрнэту, магчымасьці скарыстацца пральнай машынай ды іншымі бытавымі прыборамі ды

правесьці колькі вечароў упоцемках. Зразумела, такія пэрспэктывы нікога ня цешаць, асабліва сем'і з малымі дзецьмі.

**20.04.2015** Камітэт дзяржкантролю Віцебскай вобласьці правёў праверкі ў арганізацыях рэгіёну своечасовасьці выплаты заработнай платы і праўдзівасьці яе адлюстраваньня ў дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасьці, а таксама разгледзеў звароты грамадзян аб фактах нявыплаты зарплаты, якія паступілі ў першым квартале.

У шэрагу раёнаў былі выяўленыя парушэньні існуючага парадку выплаты зарплаты, а таксама факты ўтойваньня рэальнага становішча спраў. Так, па дадзеных статыстыкі на 1 сакавіка 2015 году пратэрмінаваная запазычанасьць па выплаце заработнай платы за студзень у арганізацыяў Лёзьненскага раёну адсутнічала. Разам з тым праверкамі выяўленыя парушэньні тэрмінаў выплаты зарплаты на агульную суму 1,3 мільярду рублёў у чатырох сельскагаспадарчых арганізацыях, якія да таго ж не падалі справаздачнасьць аб пратэрмінаванай зарплаце ў органы статыстыкі.

Напрыклад, у ААТ «Барсеева» заробак за студзень фактычна была выплачаны толькі 2 і 5 сакавіка. Пры гэтым кіраўніцтва ААТ «Барсеева», дакладна ведаючы пра неабходнасьць своечасовай падачы ў органы дзяржаўнай статыстыкі справаздачы аб пратэрмінаванай запазычанасьці па заработнай плаце, зрабіла справаздачу аб яе наяўнасьці толькі пасьля распачатай праверкі КДК. Пры гэтым варта адзначыць, што за непадачу дзяржстатсправаздачнасьці аб пратэрмінаванай запазычанасьці па заработнай плаце дырэктар ААТ «Барсеева» раней ужо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці, як і галоўны бухгальтар таварыства (тройчы).

Аналягічна, нягледзячы на наяўнасьць пратэрмінаванай запазычанасьці за студзень, не падалі неабходную дзяржстатсправаздачнасьць ААТ «Лёзьненскі райаграсэрвіс», ААТ «Новая Дуброва-Агра» і КУСП «Крынкі». Як паказала праверка, Лёзьненскім райвыканкамам не забясьпечваўся належны кантроль за выкананьнем згаданымі суб'ектамі гаспадараньня раёну патрабаваньняў заканадаўства аб працы і не прымаліся вычарпальныя меры па недапушчэньні ўтойваньня рэальнага становішча спраў з выплатай зарплаты, паведамляе прэс-служба КДК.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, на якіх выяўленыя парушэньні парадку і тэрмінаў выплаты зарплаты, прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасьці. Матэрыялы па фактах непадачы ў дзяржаўныя статыстычныя органы справаздачнасьці формы 12-т (запазычанасьць) «Справаздача аб пратэрмінаванай запазычанасьці па заработнай плаце» накіраваныя ў праваахоўныя органы для прававой ацэнкі дзеяньняў службовых асоб.

Аналіз вынікаў праверкі быў зроблены на паседжаньні калегіі Камітэту дзяржкантролю Віцебскай вобласьці. Калегія прапанавала Віцебскаму аблвыканкаму, старшыням гар- і райвыканкамаў: даць прынцыповую ацэнку кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацыяў, якія дапусьцілі парушэньні заканадаўства аб працы і дзяржаўнай статыстыцы; прыцягнуць вінаватых асоб да дысцыплінарнай адказнасьці аж да вызваленьня ад пасады (з улікам патрабаваньняў дэкрэту прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 15.12.2014 № 5); забясьпечыць жорсткі кантроль за выка-


Ірына Яскевіч

наньнем суб’ектамі гаспадараньня патрабаваньняў заканадаўства і прыняць меры па недапушчэньні фактаў утойваньня рэальнага становішча спраў аб сытуацыі з выплатай зарплаты на тэрыторыі раёнаў.

Паводле дадзеных на 1 красавіка ў 195 арганізацыях Віцебскай вобласьці мелася пратэрмінаваная запазычанасьць па заработнай плаце, што складае 37% ад 518 арганізацыяў, якія завінаваціліся сваім работнікам па ўсёй краіне.

**25.04.2015** Зарплату ў сельскагаспадарчым каапэратыве ў Шаркоўшчынскім раёне выдалі кілбасой, але спробу заплаціць за крэдыт спыніла міліцыя. Пра канфуз, які адбыўся, распавёў чытач *charter97.org* **Андрэй Бука**. «Заробак ў сельскагаспадарчым комплексе часткова выдалі кілбасамі. Прыйшоў чалавек у банк і паспрабаваў імі ж заплаціць за крэдыт. Апынуўся на «сутках»… Гэта не пачатак раману, гэта суворая праўда жыцьця!» – паведаміў ён.

Выпадак адбыўся ў Шаркоўшчынскім раёне, у вёсцы Більдзюгі. Прадпрыемства, якое выдала зарплату кілбасой, называецца СВК «Жвіранка», а банк, у які прыйшоў чалавек з добрымі намерамі, аказаўся аддзяленьнем «Белаграпрамбанку».

«Інфармацыя дакладная. Усё, што я вам расказаў, я асабіста правяраў па сваіх каналах. Гэта адбылося некалькі тыдняў таму. Імя чалавека ня ведаю, а СВК гэты калісьці быў самы багаты, «узорна-паказальны». Нават кампутары на фэрмах стаялі…» – паведаміў спадар Бука.

Як удакладнілі *charter97.org* у СВК «Жвіранка», зарплату пару тыдняў таму сапраўды выдалі кілбасой, аднак дакладных працэнтных суадносін кілбаснага ўзнагароджаньня назваць не змаглі. «Дакладна ня ведаем, пératэлефануйце заўтра. Але дзесьці менш за палову», – паведамілі ў прыёмнай.

**30.04.2015** Напрыканцы працоўнага дня ў гандлёвым цэнтры «Эвіком» прайшоў прадпрымальніцкі сход. Вынікам яго стаўся зварот у Нацыянальны банк, шэраг міністэрстваў і да Аляксандра Лукашэнкі.

«Усе цьвердзяць, што ў краіне цяжкая эканамічная сытуацыя і прадпрыемствам даюць дзяржаўныя датацыі. А прадпрымальнікі нібыта жывуць у нейкай іншай Беларусі – замест датацыяў з нас спрабуюць яшчэ і яшчэ спаганяць грошы», – так характарызуе сытуацыю **Ірына Яскевіч**, прадпрымальніца з гандлёвага цэнтру «Эвіком», **удзельніца аргкамітэту па стварэньні прафсаюзу прадпрымальнікаў «Разам»**.

Адна з нагодаў правесьці сход і зьвярнуцца зь лістамі пратэсту да адказных дзяржаўных асобаў – гэта неабходнасьць набываць тэрміналы для разьлікаў па плас-

тыкавых картках. Такую ўмову – абсталяваць працоўныя месцы тэрміналамі да 1 ліпеня – выставіў Нацбанк. Гэткае абсталяваньне немагчыма набыць у растэрміноўку, за яго трэба адразу заплаціць ад 5 да 9 мільёнаў рублёў. Ды яшчэ штомесяц пералічваць па 300 тысяч «на абслугоўваньне». Прадпрымальнікі ўжо плацяць «за абслугоўваньне» касавых апаратаў, якія таксама мусілі набыць паводле дзяржаўнага распараджэньня. Але загад набываць у абавязковым парадку яшчэ й тэрміналы, называюць проста «выпампоўваньнем грошай»: людзі разьлічваюцца на рынках грашыма, прычым выдаткоўваюць на пакупкі параўнальна невялікія сумы.

«У нас не такі вялікі абарот грошай, каб набываць дадаткова дужа дарагое абсталяваньне», – так прадпрымальнікі сфармулявалі свае прэтэнзіі да Нацбанку. І такі ж пункт зьбіраюцца ўключыць у ліст да Аляксандра Лукашэнкі.

Дарэчы, адказу на свой мінулы зварот да яго віцебскія прадпрымальнікі так і не дачакаліся. З адміністрацыі прыйшоў ліст, што зварот пераадрасавалі ў шэраг міністэрстваў, а адтуль прыслалі «адпіскі», як кажа Ірына Яскевіч:

«Цяпер мы зробім наадварот: самі дашлем лісты і ў міністэрствы, і ў адміністрацыю прэзыдэнта. Каб гэтыя структуры не займаліся дарэмнай працай – перасылкай ліставаньня без аніякага плёну. Бо так і засталося нявырашаным пытаньне падаткаў – мы просім хаця б не павялічваць памер падвышальнага каэфіцыенту. Бо гэткае падвышэньне для тых, хто плаціць адзіны падатак, ізноў плянуецца ў ліпені. Таксама ніяк не вырашаецца пытаньне з сэртыфікацыяй тавараў. Мы ізноў нагадваем: прадпрымальнікі – гэта гандляры, а не вытворцы! Мы набываем тавар для продажу, і наша мэта – закупіць яго таньней, каб хутчэй рэалізаваць. Мы ня часта працуем наўпрост з вытворцамі – пераважна купляем у тых, хто пастаўляе тавар гуртам. А таму мы ня можам патрабаваць ад такіх самых гандляроў нейкіх дакумэнтаў, якія сьведчаць пра якасьць. Мы – прыватнікі. А калі ўжо наша дзяржава кажа, што дбае пра бясьпеку пакупнікоў, то і якасьць тавару, які перасоўваецца ў межах Мытнага зьвязу, мусіць кантралявацца на дзяржаўным узроўні. А прадпрымальнікі – не кантралюючы орган, каб браць на сябе такія функцыі».

**30.04.2015** У Наваполацку ў прадпрымальніка канфіскавалі абутак. Пры праверцы супрацоўнікі падатковай інспэкцыі выявілі парушэньне парадку рэалізацыі тавараў – прадпрымальнік прадаваў тавар без дакумэнтаў, якія пацьвярджаюць яго водпуск для рэалізацыі. Жаночы абутак і выручка, атрыманая ад рэалізацыі тавараў без дакумэнтаў, на агульную суму 3,4 млрд. рублёў арыштаваныя.

Матэрыялы праверкі накіраваныя ў Эканамічны суд Віцебскай вобласьці для вырашэньня пытаньня аб прыцягненьні індывідуальнага прадпрымальніка да адміністрацыйнай адказнасьці.

**22.05.2015** Эканамічны суд Віцебскай вобласьці вынес вызначэньне аб адкрыцьці конкурснага вядзеньня ў дачыненьні да віцебскага ААТ «КІМ» па справе аб яго банкруцтве. Тым часам кіраўніцтва акцыянэрнага таварыства ва ўзаемадзеяньні з гарадзкім цэнтрам занятасьці і іншымі службамі прапрацоўваюць розныя варыянты працаўладкаваньня работнікаў.

За апошнія тры месяцы звольніліся 120 чалавек, і колькасьць калектыву пра-

цягвае скарачацца. Пакуль жа ў штаце больш за 630 спэцыялістаў. Праблемным застаецца пытаньне ліквідацыі запазычанасьці па заработнай плаце. Ледзьве не адзінай магчымасьцю знайсьці рэсурсы для першачарговых плацяжоў зьяўляецца распродаж нерухомай маёмасьці. Ужо выстаўленыя на таргі два аб'екты – крама і кавярня на плошчы Перамогі з сумарнай пачатковай цаной амаль 11 мільярдаў рублёў. Грошы ад іх продажу пойдуць на пагашэньне зарплатных даўгоў і выплаты па іншых сацыяльных забавязаньнях.

**25.05.2015** На «Нафтане» ня выплацілі дзьве квартальныя прэміі за выкананьне патрабаваньняў аховы працы – за апошні квартал 2014 году і першы квартал 2015-га. Работнікі ААТ у зьдзіўленьні, паколькі іх калегі па канцэрне – нафтаперапрацоўшчыкі з Мазырскага НПЗ грошы атрымалі.

«Прэмія выплачваецца пры выкананьні пэўных паказчыкаў. Як патлумачыла кіраўніцтва, гэтыя паказчыкі не былі выкананыя (у 4-м квартале 2014-га адбыўся няшчасны выпадак са сьмяротным зыходам). Думаю, што выплата прэміі таксама залежыць ад фінансавай абстаноўкі, якая была ня вельмі добрай», – сказаў **старшыня першаснай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюзу (БНП) працаўнікоў ААТ «Нафтан» Іван Сьвятоха**.

Не было выплачанае на прадпрыемстве і матэрыяльнае ўзнагароджаньне па выніках 2014 году («трынаццатая зарплата»). «Працаўнікам абяцана, што грошы яны атрымаюць у дзьвюх частках найбліжэйшымі месяцамі. Затрымка таксама была зьвязаная зь фінансавымі цяжкасьцямі», – паведаміў Іван Сьвятоха.

**28.05.2015 Экс-капітан хакейнага клюбу «Віцебск» Аляксей Страхаў** ініцыяваў зварот у СМІ з нагоды сытуацыі ў клюбе: «Усе разумеюць, што такое ХК «Віцебск», ад яго ніхто шмат чаго не чакае: няма стужкі, няма ў дастатковай колькасьці клюшак, але неяк выкручваліся, прызвычаіліся, не патрабавалі нічога звышнатуральнага, усе разумелі, зь якім клюбам падпісваем кантракт, усе туды прыходзяць ад безвыходнасьці. Сабралася нармальная дружына, калектыў аднадумцаў, які выконвае задачу, пастаўленую перад клюбам, практычна бясплатна аддаючыся на лёдзе».

Хакеіст паведаміў, што праблемы з выплатай заробкаў былі і раней: «Месяц магла быць затрымка па зарплаце, два, але заўсёды была надзея». цяпер жа сытуацыя стала катастрафічнай.

«Наконт прэміяў, усе дамоўленасьці былі на словах. Крыўдна, за паўтара сэзону выступу ў «Віцебску» я атрымаў у суме 2,5 мільёну прэміяльных. І зараз далі мільён за перамогу ці то над «Лідай», ці то над «Нёманам», ня памятаю. І тое, гэта былі грошы, раней зрэзаныя за невыкананьне задачы, напрыклад, калі прайгралі «Магілёву». Мы тады стрымалі ўдар, калі з нас зьнялі грошы, хоць выходзіш на лёд, рукі апушчаныя, настрою няма. Атрымліваецца, за «Магілёў» утрымалі грошы, а потым іх жа за нейкую перамогу аддалі, вось і прэміяльныя. А так, каб хакеіст мог перамогамі зарабіць за сэзон, такога няма. Мы зь **Яўгенам Курылінымі** і **Ільлём Бусілкам** езьдзілі ва ўпраўленьне спорту і турызму аблвыканкаму да Васіля Захарэвіча і тлумачылі сытуацыю, маўляў, так і так, затрымкі грошай пастаянныя», – распавёў Аляксей Страхаў.



Аляксей Страхаў

«Яшчэ ў «Віцебску» такая асаблівасьць: каб атрымаць першую зарплату, трэба адгуляць два месяцы. Напрыклад, ты падпісваеш кантракт з 1 ліпеня, а заробак атрымліваеш 25 жніўня, можа быць … Кантракты ад 5 да 10-12 мільёнаў. Можа, у кагосьці больш, я ня ведаю. Але ўявіце, трэба адпрацаваць два месяцы, каб атрымаць ўмоўна 300 даляраў – 5 мільёнаў, і то невядома, ці атрымаеш ты іх. Так, у пачатку сэзону неяк лягчэй было, можа, фундатары давалі грошы, але цяпер нават гэтыя грошы ня могуць выплаціць своечасова. Гэта проста зьдзек з хакеістаў, калі ты тэлефануеш хлопцам па ўсёй лізе, і ўсё табе дапамагаюць, але гэта зьневажальна для спартоўца, які паважае сябе. Мала таго, што ўсе клюбы дапамагаюць стужкамі, лёзамі, клюшкамі, абменамі, дык яшчэ і трэба прасіць дапамогу ў сяброў-хакеістаў. Гэта зьдзек, калі ў цябе клюшка для правага хвату, а табе прыходзіцца гуляць зь левым. Мы ведалі, дзе будзем гуляць, але не да такой жа ступені».

Не абараняе спартоўцаў і кантракт: «У ім пішацца твая сума зарплаты і ўсё. А прэмія – на словах. За гэта і чапляюцца: у вас, маўляў, прэміі ў кантракце і не пазначаныя. Хоць перад сэзонам мне асабіста намесьнік губэрнатара Ўладзімер Цярэнцьеў казаў: дзякуй, Аляксей, што застаўся. Але калі кіраўнікі перад сэзонам кажуць дзякуй, а пасьля сэзону ня хочуць цябе бачыць… Скажыце шчыра: мы ня можам вам выплаціць грошы за сакавік і красавік, і ўсе ўсё б зразумелі. А так ідуць тэлефанаваньні, усе адзін аднаго пытаюцца – налічаць-не налічаць. Пэрыядычна паступаюць на картку бюджэтныя грошы – то 300 тысяч, то 500, то паўтара мільёну, але ўсё непрадказальна, там і бухгальтар пастаянна мяняецца. Узяць, напрыклад, Юру Ільіна. Яму давялося прадаць машыну, каб разьлічыцца з даўгамі. Дзе справядлівасьць? Хлопцы ня могуць аплаціць здымныя кватэры, гэта што наогул?! Калі б мы пастаянна атрымлівалі грошы штомесяц, мы б своечасова закрывалі ўсе пытаньні. Сем'і сядзяць галодныя дома, а ты быццам бы і працуеш, а разумееш, што даўгі растуць як сьнежны ком. Усім гэта ўсё надакучыла! Для чаго тады гэтыя каманды ўсім?»

Шмат у чым удалося выжыць праз дапамогу заўзятараў: «Усе чым маглі, дапамагалі, і ў палацы – лішняя другая порцыя ежы і ўсё, што хочаш. Людзі адгукаюцца на твае праблемы, бо разумеюць, што ты ходзіш бяз грошай. Людзі ў Віцебску вельмі спагадныя, яны любяць хакей, за што ім вялікі дзякуй! Мы, гульцы, шчыра зрабілі сваю справу, ад нас патрабавалі трапіць у васьмёрку. Усяму палацу спорту шчыра дзякую, кожнаму супрацоўніку і гледачу. У іх ў палацы таксама невялікія заробкі – па два мільёны, але мы бачым, як яны шчыра за нас перажываюць, пытаюцца кожны дзень, як у нас справы. А кіраўніцтва … Паводзіны Цярэнцьева і Захарэвіча для мяне шок. Быў у нас аднойчы страйк, мы ня выйшлі на трэніроў-

ку. Паехалі ў аблвыканкам – нам пераканаўча сказалі: у сакавіку аддамо грошы. Можа, я даўно не гуляў у Беларусі? Я прывык, што кантракт на 10 месяцаў, я нармальна атрымліваў адпускныя, прэміяльныя. Тут жа пастаянна шукаюць шчыліны і спосаб не аддаць грошы хлопцам, якія шчыра рабілі сваю працу», – абураецца Аляксей Страхаў.

«Пры падпісаньні кантракту казалі, маўляў, выканаеце задачу – атрымаеце. Ды Бог зь імі, з прэміямі! Я разумею, што цяжкая фінансавая сытуацыя. Але прыйдзі шчыра скажы, якая сытуацыя, а не абяцай на словах за выйграны матч мільёны! А потым трэнэры ня ведаюць, як расьпісаць атрыманую прэмію – камусьці 247 тысяч, а камусьці 2 мільёны. І гэта была адна прэмія за год».

«Можа, камусьці і за сьнежань вінныя, ня ведаю, а можа, камусьці і закрылі даўгі. Разумееце, пачынаеш блытацца, як налічваюць грошы. Напрыклад, табе вінныя за сьнежань 4 мільёны, і ўсе грошы, што паступаюць, ты ўпісваеш у гэты доўг, сам уяўляеш, за колькі месяцаў табе яшчэ вінныя. Таму ва ўсіх гульцоў па-рознаму. Цяпер толькі дзякуючы Багрунову Міхаілу Віктаравічу ўсё трымаецца, дзякуй яму, мне, можа, як больш ўзроставаму і аўтарытэтнаму з двума дзецьмі хоць нешта выплачваюць. А маладым гульцам кажуць: ідзі да мамы, няхай яна цябе накорміць! Што гэта за размова з 20-гадовымі пацанамі? Даўгі растуць як сьнежны ком. Ты атрымліваеш грошы і адразу раздаеш даўгі, бо няма зарплаты менавіта ў належныя чыслы, і ты ня можаш плянаваць выдаткі».

На пытаньне, колькі асабіста яму завінаваціўся клюб, Страхаў адказаў: «Ня ведаю, можа, мільёнаў дваццаць восем – трыццаць. Здаецца, ідзі ў суд, няўстойку атрымаеш, але усё абяцаюць, што з дня на дзень атрымаем грошы. Але кожны дзень нейкая новая гісторыя. Скажыце нам шчыра: ці нам разьлічваць на гэтыя грошы або не?!»

**01.06.2015** У Віцебску павялічылася колькасьць зарэгістраваных беспрацоўных. Калі на канец 2014 году на ўліку ва Ўпраўленьні па працы, занятасьці і сацыяльнай абароне насельніцтва гарвыканкаму знаходзілася 1144 беспрацоўныя, то ўжо на 1 чэрвеня 2015 году іх колькасьць склала 2608 чалавек.

Узровень беспрацоўя ў Віцебску у 2014 годзе складаў 0,7 % ад агульнай колькасьці працаздольнага насельніцтва, сёлета ж гэты паказчык за пяць месяцаў падвысіўся да 1,6 %. Такім чынам, менш як за паўгода колькасьць беспрацоўных у Віцебску вырасла амаль у 2,3 разы. Лічбы, вядома, пакуль невялікія, але тэндэнцыя насьцярожвае.

Насьцярожвае і той факт, што колькасьць вакансіяў, якія віцебскія прадпрыемствы прапануюць праз гарадзкі цэнтар занятасьці, толькі за першую дэкаду чэрвеня зьменшылася амаль у тры разы. Калі на канец траўня прапаноўвалася 1500 працоўных месцаў, то цяпер цэнтар можа працаўладкаваць усяго крыху больш за пяцьсот грамадзян.

Зьвяртае на сябе ўвагу і той факт, што нават вядучыя прадпрыемствы гораду скарацілі колькасьць заявак на працаўладкаваньне, якія яны раней накіроўвалі ў цэнтар занятасьці.

Масавых скарачэньняў на прадпрыемствах гораду пакуль не фіксуецца, але скара-

чэньні асобных работнікаў адбываюцца амаль паўсюдна. У сувязі з неспрыяльнымі эканамічнымі ўмовамі на бальшыні прадпрыемстваў назіраюцца тыя ці іншыя формы схаванага беспрацоўя, якое стрымліваецца валявым рашэньнем улады. Так, на шэрагу віцебскіх прадпрыемстваў выкарыстоўваецца няпоўны працоўны тыдзень, што зьяўляецца адной з прыкметаў схаванага беспрацоўя. Па краіне ў рэжыме няпоўнай занятасьці працуюць каля 300 тысяч чалавек.

Ратуючыся ад эканамічных стратаў, віцебскія фірмы вымушаныя замарожваць альбо зьмяншаць узровень заробку. Распаўсюджанай практыкай зьяўляецца і адпраўленьне грамадзян у пазачарговыя адпачынкі без захаваньня або з частковым захаваньнем заробку. Існуе і такая форма прыхаванага беспрацоўя, як рабочы на прастоі.

**01.06.2015** На Віцебшчыне працягваюць затрымліваць выплату заробкаў. 175 прадпрыемстваў вобласьці не даюць рады з абавязкамі па заробках перад работнікамі. Сярод віцебскіх прадпрыемстваў, якія вінныя сваім работнікам грошы, фабрыкі «КІМ», «Знамя індустрыялізацыі», ДСК, ядвабны камбінат, тры ўправы будтрэсту №9, садавінагародніны камбінат і іншыя.

Таксама запазычанасьці перад людзьмі па-ранейшаму не пагасілі прадпрыемства «Купцовъ» з Глыбокага, інструмэнтальны завод і фабрыка мастацкіх вырабаў з Воршы.

У параўнаньні з 1 траўня запазычанасьць павялічылася на 45,5%.

**04.06.2015** Падатковыя органы Віцебскай вобласьці працягваюць працу па зьверцы даходаў і расходаў фізычных асоб і выяўленьні фактаў незадэкляраваных паступленьняў. У выніку на Віцебшчыне з пачатку году грамадзянам прад'яўлена да выплаты 3 мільярды рублёў падаходнага падатку. 32 тысячы жыхароў Віцебскай вобласьці ўнесеныя ў сьпісы дармаедаў.

Як паведаміў першы намесьнік начальніка інспэкцыі МПЗ па Віцебскай вобласьці Валер Лабацэвіч, у цэлым за 4 месяцы 2015-га дэкларацыі аб даходах і маёмасьці запатрабаваныя ў 1,6 тысячы чалавек. Апроч таго, у адпаведнасьці з патрабаваньнямі Дэкрэту №3 «Аб папярэджаньні сацыяльнага ўтрыманства» асаблівая ўвага ў бягучым годзе надаецца кантролю за даходамі грамадзян, якія ня ўдзельнічаюць у фінансаваньні дзяржвыдаткаў. У сувязі з гэтым у рэгіёне фармуецца адмысловы рэестар працаздольных грамадзян, якія ня маюць афіцыйных крыніц грашовых сродкаў у Беларусі.

«На сёньняшні дзень рэестар зьмяшчае зьвесткі пра 32 тысячы жыхароў вобласьці, – удакладніў Валер Лабацэвіч. – Больш за ўсё іх у Віцебску (7,5 тысячы) і Полацку (4,9 тысячы). Амаль у тысячы ўжо выпатрабаваныя дэкларацыі пра даходы і маёмасьць. Па выніках праверкі прыкладна 140 грамадзянам прад'яўлены да выплаты падаходны падатак у суме 1 мільярд рублёў».

**10.06.2015** Уладальнікі лецішчаў пратэстуюць супраць зносу лецішчаў дзеля Віцебскай ГЭС. Пра змаганьне за лецішчы яны распавялі **актывістцы кампаніі «Гавары праўду» Тацьцяне Караткевіч**, якая абвясьціла пра свой намер балятавацца на прэзыдэнцкую пасаду.



Уладзімер Гушчанка

У садаводчым таварыстве «Суднабудаўнік», якое месьціцца ў вакольлях вёскі Цяцёркі Віцебскага раёну, каля 130 лецішчаў. У траўні ўладальнікі атрымалі афіцыйнае папярэджаньне, каб рыхтаваліся да зносу пабудоваў, бо іхныя ўчасткі ў выніку працы ГЭС будуць падтопленыя.

Начальнік управы па будаўніцтве ГЭС «Віцебскэнэрга» Іван Пугачоў абвясьціў, што пабудовы пачнуць зносіць восеньню, правёў некалькі сходаў для ўладальнікаў лецішчаў і асабіста прайшоўся па ўчастках – паказваў, на колькі ўздымецца ўзровень вады ў Дзьвіне.

Аднак у садаводчым таварыстве жывуць адмыслоўцы, якія шмат гадоў адпрацавалі ў віцебскім рачным порце. Яны падлічылі, што абяцанае падвышэньне ўзроўню вады на 7 мэтраў ніякім чынам не закране іхных уладаньняў, якія знаходзяцца значна вышэй на беразе. Першая ж «нестыкоўка» у прагнозах будаўнікоў ГЭС пацягнула за сабой больш істотныя сумненьні, і адпаведна, пытаньні.

У людзей узьніклі пытаньні: Чаму пад знос вырашана адправіць ня ўсе пабудовы, а толькі на 72-х участках? Чаму за зьнесеныя дамы прапануюць досыць істотную кампэнсацыю, хаця выкарыстаньне сучасных тэхналёгіяў дазволіла б «ізаляваць» жылыя дамы ад падтапленьня і вільгаці за куды меншыя сумы?

Апошні варыянт усіх задаволіў бы, гаворыць мясцовы «нефармальны лідэр» **Уладзімер Гушчанка**: «Для нас гэта – ня проста маёмасьць, у якую ўжо некалькі пакаленьняў нашых сем’яў укладалі грошы. Тут прайшло маё дзяцінства, тут я гадаваў дзяцей, тут я па-сапраўднаму адпачываю. Гэта ўжо не матэрыяльнае, а нешта духоўнае! Дык чаму я мушу ад гэтага адмаўляцца? Нам не патрэбны грошы і кампэнсацыі, проста пакіньце нас у спакоі!»

Ва ўладальнікаў лецішчаў зьявіліся падазрэньні, што іх хочуць падманным шляхам «выселіць» з маляўнічага месца, каб збудаваць тут, прыкладам, базу адпачынку. На іхную думку, не выглядае, што ўзровень вады ў гэтых мясьцінах узьнімецца так высока. Вада, безумоўна, стане бліжэй, але гэта не прынясе нязручнасьцяў — наадварот, спуск да ракі стане зручнейшы.

**23.06.2015 Пэнсіянэрка Жанна Ціханенка** пражывае ў трохпакаёвай кватэры на праспэкце Ф. Скарыны, 38, у Полацку. Паводле яе слоў, пасьля нядаўняга касмэтычнага рамонту пад’езду, зробленага з ініцыятывы мясцовага ЖКГ, камунальнікі выставілі ёй рахунак амаль у 2 мільёны рублёў. Уласьнікі «аднушак» павінны заплаціць мільён, «двушак» – амаль 1,5 мільёну рублёў.

Пэнсіянэрка зьдзіўляецца, чаму кошт збольшага касмэтычных работ у пад’езьдзе чатырохпавярховіку, збудаванага больш за 50 гадоў таму, гэткі вялікі. Дый не ха-


Жанна Ціханенка

целі жыхары, паводле яе слоў, сьпяшацца з рамонтам пад'езду.

«На пачатку вясны работнікі ЖЭУ арганізавалі сход жыхароў нашага пад'езду, – распавяла Жанна Ціханенка. – Паставілі ўсіх перад фактам, што будзе рамонт і неабходна падпісаць адпаведную дамову. З 16 кватэраў былі прадстаўнікі далёка ня ўсіх, а дакумэнты пагадзіліся падпісаць ня больш як трое жыхароў. Я адмовілася. Але работы распачаліся амаль адразу – пад'езд абтынкавалі і пафарбавалі літаральна за тыдзень. Пасьля прыйшло паведамленьне, што мне трэба заплаціць за ўсё гэта 2 мільёны рублёў, а агульны каштарысны кошт рамонту – амаль 20 мільёнаў. Ці не занадта дорага для нашага маленькага пад'езду? Плаціць не хачу, але работнікі ЖКГ паабяцалі спаганяць грошы пры аплаце камунальных паслуг».

Высьветлілася, што замоўцам рамонтных работ зьяўляўся КУП «ЖКГ г. Полацку». Намесьнік дырэктара прадпрыемства Канстанцін Лагун растлумачыў, што каштарысны кошт работ у пад'езьдзе, якую агучыла пэнсіянэрка, насамрэч быў толькі папярэднім.

## Ціск на журналістаў


Павал Клімянок

**27.08.2014** Як паведаміў **журналіст Зьміцер Лупач**, у межах штогадовага фэстывалю каталіцкіх фільмаў "Magnificat", што праходзіць у Глыбокім, была арганізаваная паездка для журналістаў. Аднак нягледзячы на папярэднюю акрэдытацыю ў старшыні фэстывалю Зьмітру Лупачу не дазволілі разам зь іншымі журналістамі наведаць вёску Івесь.

У першы дзень мерапрыемства глыбоцкі журналіст безь якіх-кольвек перашкодаў удзельнічаў у кінапраглядах і рыхтаваў матэрыялы. Аднак 27 жніўня пасьля папярэдняй акрэдытацыі ў старшыні фэстывалю Юрыя Гарулёва Зьмітра Лупача не пусьцілі ў аўтобус, падрыхтаваны для паездкі журналістаў.

Супрацоўніца аддзелу ідэалёгіі Глыбоцкага райвыканкаму заявіла, што журналіст "Каталіцкага весьніку" нібыта ня мае акрэдытацыі і ня можа ехаць з усімі іншымі журналістамі. Сам жа Лупач не выключае, што паводзіны чыноўніцы – гэта рэакцыя на яго матэрыял для рэсурсу *westki.info*, дзе на адной з ілюстрацыяў відаць памылковае напісаньне назвы краіны-ўдзельніцы – "Макідонія".

**18.11.2014** У блогера зь Віцебску забралі квадракоптар за палёт над кацельняю. Міліцыя заўважыла, як хлопец запусьціў квадракоптар з камэраю непадалёк ад кацельнай «Паўднёвая» ў Віцебску. Праваахоўнікі завезьлі хлопца ў пастарунак.

«Лепш бы я піў і паліў, як той хлопец, што сядзеў побач са мной у Першамайскім РАУС, – піша ў сваім блогу **Павал Клімянок**. – Супрацоўнік КДБ пасьля доўгіх кансультацыяў праз тэлефон растлумачыў работнікам РАУС, што мне інкрымінуюць два артыкулы адміністрацыйнага кодэксу: «парушэньне паветранай прасторы» ды «пранікненьне на тэрыторыю аб'екту, статус якога мы яшчэ ўдакладнім».

«Што я там спадзяваўся ўбачыць? Ды нічога! Я проста мог зазірнуць у трубу. Проста маючы такую магчымасць, яе не рэалізаваць – злачынства супраць свайго ўнутранага дзяцінства», – тлумачыць блогер.

Віцебскае аддзяленьне ўнутраных спраў Першамайскага раёну правярае факт канфіскацыі лятальнага апарату, які «быў зафіксаваны ў стане палёту над рэжымным аб'ектам», – зазначаецца ў адказе віцебскай гарадзкой пракуратуры на зварот Паўла Клімянка.

**28.11.2014** У судзе Чыгуначнага раёну Віцебску адбыліся слуханьні адміністрацыйных справаў журналістаў, якія 5 лістапада сфатаграфаваліся на фоне гарадзкога


Зьміцер Казакевіч

графіці. **Зьміцер Казакевіч** і **Алена Сьцяпанава** атрымалі штрафы ў 20 базавых велічыняў кожны (3 мільёны беларускіх рублёў), а **Алена Шабуня** – 18 базавых за парушэньне артыкулу 23.34 КаАП (парушэньне парадку арганізацыі альбо правядзеньня масавых мерапрыемстваў).

Разгляд справы Казакевіча судзьдзёй Аленай Цыганковай заняў каля 30 хвілін. З боку абвінавачаньня выступаў складальнік пратаколаў, начальнік аддзелу аховы правапарадку і прафіляктыкі АУС Чыгуначнага раёну Віцебску Аляксандар Рыбакоў. Ён сказаў, што "фотасэсія" была "акцыяй", бо, маўляў, так пісалі ў інтэрнэце. Вынік – штраф у 20 базавых велічыняў.

Пасьля абедзеннага перапынку падобны судовы працэс адбыўся і над журналісткай Аленай Сьцяпанавай. Судзьдзя Дзяніс Губанаў прызнаў яе вінаватай у парушэньні парадку арганізацыі альбо правядзеньня масавых мерапрыемстваў і таксама прызначыў штраф у 20 базавых велічыняў.

Пазьней той самы судзьдзя вынес рашэньне аштрафаваць Алену Шабуню на 18 базавых велічыняў. Меншыя памеры штрафу Дзяніс Губанаў патлумачыў тым, што ў яе трое дзяцей, сярод якіх двое непаўнагадовых.

Усяго заведзена сем адміністрацыйных спраў.

**01.12.2014** У судзе Чыгуначнага раёну Віцебску працягнуліся слуханьні адміністрацыйных спраў віцебчукоў, якія далучыліся да сусьветнай кампаніі ў падтрымку свабоднай журналістыкі, сфатаграфаваўшыся на фоне вядомага ў горадзе графіці. 1 сьнежня разглядам спраў **журналіста Кастуся Мардзьвінцава** і **каардынаткі аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Тацьцяны Севярынец** займалася судзьдзя Алена Цыганкова, а з боку абвінавачваньня выступаў усё той жа начальнік аддзелу аховы правапарадку і прафіляктыкі РАУС Чыгуначнага раёну Віцебску маёр Аляксандар Рыбакоў.

Улады вінавацяць грамадзян у парушэньні парадку арганізацыі і правядзеньня масавых мерапрыемстваў (артыкул 23.34 КаАП).

Першай аб 11-й гадзіне раніцы разглядалася справа Кастуся Мардзьвінцава. Напачатку судзьдзя, спаслаўшыся на невялікую плошчу свайго габінэту, запрасіла да сябе толькі абвінавачванага паводле адміністрацыйнай справы журналіста і прадстаўніка праваахоўных органаў. Абураныя гэткімі паводзінамі прысутныя журналісты і праваабаронцы зьвярнуліся да старшыні Чыгуначнага суду, якая ў выніку дазволіла разьмясьціцца ў габінэце яшчэ некалькім прысутным, аднак большасьць ахвочых так і ня трапіла на разгляд справы.


Алена Сьцяпанава

Віцебскі журналіст абверг высунутыя супраць яго абвінавачваньні і запатрабаваў, каб справа вялася на беларускай мове, але судзьдзя адхіліла ягонае хадайніцтва, спаслаўшыся на тое, што спадар Мардзьвінцаў вучыўся ў расейскай школе, таму, маўляў, разумее расейскую мову. Таксама не было задаволенае хадайніцтва пра ўдзел ў паседжаньні перакладчыка. Ня быў задаволены і адвод судзьдзі.

Кастусь Мардзьвінцаў абверг аргументы сваіх апанэнтаў, пераканаўшы прысутных у тым, што міліцыя ня мае нават дакладных доказаў наконт даты правядзеньня акцыі. Передрукаваныя ж зь Сеціва фотаздымкі, на якіх зафіксаваная дата правядзеньня пэрформансу, зь лёгкасьцю можа быць зьмененая на любую патрэбную. Што і было прадэманстравана судзьдзі на кампутары.

Журналіст, спаслаўшыся на Канстытуцыю РБ, Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правох, пераканаўча аргумэнтаваў, што нават калі б праведзеная акцыя не была пэрформансам ці фотасэсіяй, а сапраўды пікетам, усё адно няма ніякіх падставаў караць удзельнікаў фотасэсіі за выказваньне імі сваіх меркаваньняў.

Суд, аднак, ня ўзяў пад увагу ані лёгіку, ані літару закону і вынес загадзя заплянаванае рашэньне: штраф у 20 базавых велічыняў (3 мільёны рублёў).

А 12-й гадзіне, ужо ў вялікай судовай залі, распачаўся працэс-блізьнюк над Тацьцянай Севярынец. Спадарыня Таццяна выказала недавер суду і ўсёй тутэйшай судовай сыстэме, але гэтыя заўвагі не былі пачутыя. Яна зазначыла, што выкладзеныя ў пратаколе факты не маюць аніякага дачыненьня да таго, што адбывалася насамрэч. Абвінавачваньні надуманыя, а таму яна зь імі ня можа пагадзіцца. Ейная апэляцыя да Канстытуцыі, як найгалоўнейшага закону краіны, які дазваляе вольна выказваць грамадзянам свае перакананьні, быў ізноў праігнараваны судзьдзёй.

Напрыканцы паседжаньня Тацьцяне Севярынец былі прыгаданыя ейныя мінулыя адміністрацыйныя справы трохгадовай даўніны. Відаць, з пункту гледжаньня існага тут “правасудзьдзя” паважаную ў Віцебску грамадзянку можна лічыць ледзьве не рэцыдывісткай. Мабыць, таму спадарыня Таццяна атрымала і самы высокі на сёньняшні дзень штраф – у 25 базавых велічыняў (3 мільёны 750 тысяч).

**05.01.2015** Невядомыя зламысьнікі ўзламалі блог «Вольная зона Беларусь», які вядзе ў «Жывым часопісе» віцебчук **Сяргей Белязека**. Цягам двух сутак аўтар ня мог зайсьці на свой сайт. І толькі ўмяшаньне адміністрацыі «Жывога часопісу» дапамагло вырашыць праблему: праца блогу была адноўленая.




Блогер Сяргей Белязека: «На мой сайт адбылася атака нейкага “Кібэрберкуту”. Мне прыйшло на электронную паштовую скрыню паведамленьне ад адміністрацыі “Жывога часопісу”, што ў мой сайт спрабавалі залезьці чужыя людзі. У выніку шмат хто спрабавалі зайсьці на сайт, каб пачытаць, і пісалі, што не маглі. Маглі ўзламаць і зь Беларусі, і з Расеі, і з Украіны – розныя фанаты “Кібэрберкуту”. Пазьней ад адміністрацыі “Жывога часопісу” мне прыйшло паведамленьне такога зьместу: Дзякуй за ваш допіс. Вашаму акаўнту вернуты дзеючы статус. На гэты момант мы пасьпяхова выдалілі запісы, пакінутыя зламысьнікам у вашым часопісе».

Сяргей Белязека за свой удзел у акцыях апазыцыі ў сярэдзіне 2000-х гадоў неаднаразова затрымліваўся супрацоўнікамі міліцыі і падвяргаўся адміністрацыйным спагнаньням. Апошні такі выпадак адбыўся ў кастрычніку 2007 году, калі актывіст быў затрыманы ля вёскі Паляі за ўдзел у акцыі ў памяць ахвяр камуністычнага рэжыму і аштрафаваны на 20 базавых велічынь нібыта за парушэньне парадку правядзеньня масавага мерапрыемства. Пазьней Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў, што, затрымаўшы і аштрафаваўшы Сяргея Белязеку, улады Беларусі парушылі ягоныя правы.

У рэшце рэшт ім было прынятае рашэньне больш ня ўдзельнічаць у апазыцыйных акцыях – «каб аплачанымі штрафамі не фінансаваць дзяржаву». Цяпер Сяргей Белязека вядомы сваёй актыўнасьцю ў інтэрнэце. У сваім блогу «Вольная зона Беларусь» ён публікуе развагі наконт бягучых падзеяў, свае вершы і тэксты песень з акордамі, жарты, а таксама пародыі ўласнага аўтарства.

**09.01.2015** Сябры КХП-БНФ давалі тлумачэньні ў Сьледчым камітэце наконт знойдзеных імі парэштказ меркаваных ахвяраў масавых расстрэлаў у лесе пад вёскай Хайсы Віцебскага раёну. Калі партыйцы выйшлі з будынку СК, мясцовыя незалежныя журналісты папрасілі іх адказаць на пытаньні з запісам на відэа. Але ледзь пасьпелі журналісты ўключыць відэакамэру, як з будынку Сьледчага камітэту выйшаў афіцэр, які папрасіў спыніць здымкі.

На пытаньне **Яна Дзяржаўцава**, які пачаў быў даваць інтэрвію журналістам, – «Мы штосьці парушылі?» – прагучаў адказ: «Вы нічога не парушылі. Але вы павінны разумець, што гэта рэжымны аб’ект, і здымкі без дазволу кіраўніцтва гэтага аб’екту ня вельмі прыемныя нам як супрацоўнікам гэтага аб’екту».

Супрацоўнік СК, які папрасіў спыніць відэаздымкі, быў чалавек у чыне падпалкоўніка юстыцыі, начальнік аддзелу апэратыўна-дзяжурнай службы Ўпраўленьня сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці Вячаслаў Бысеў. Ён прадставіўся і па-


Зьміцер Лупач

водзіўся карэктна. Але пры гэтым так і не патлумачыў, на падставе якога закону трэба мець дазвол на здымкі і ўзгадненьне зь ягоным кіраўніцтвам.

«Вы робіце гэта на фоне ўпраўленьня Сьледчага камітэту. Я мяркую, што вы можаце гэтыя відэаздымкі выкарыстаць у нейкіх нядобрых, не пажаданых для нас мэтах, – так спадар падпалкоўнік патлумачыў сваю просьбу. – Таму прапаную здымкі спыніць, аддаліцца ад будынку на “бясьпечную адлегласьць” – ды працягнуць рабіць тое, што вы робіце, але крыху наводдаль ад будынку».

Журналісты і ўдзельнікі відэаздымак зрабілі так, як папрасіў афіцэр.

**06.03.2015** Глыбоцкага **незалежнага журналіста Зьмітра Лупача** не пусьцілі ў райвыканкам з фотаапаратам у торбе. Паводле спадара Лупача, ён скіроўваўся ў аддзел эканомікі перадаць дакумэнты, якія тычацца ягонага прыватнага прадпрымальніцтва: “Я ішоў з торбай. Міліцыянт, які дзяжурыць пры ўваходзе, папрасіў паказаць, што там ляжыць. А ўнутры ляжаў фотаапарат “Nikon”. Тут міліцыянт заявіў, што “з прафэсійнымі фотаапаратамі” ўваход у райвыканкам забаронены – маўляў, ёсьць такое распараджэньне кіраўніка спраў райвыканкаму. Добра, што мы былі ўдвох зь сябрам, якому я пакінуў торбу са здымачом, пакуль хадзіў аддаваць паперы”.

Заадно Зьміцер Лупач вырашыў завітаць і да кіраўніцы спраў райвыканкаму – распытаць, чым выкліканая забарона мець здымачы ў грамадзкім будынку (дзе, дарэчы, месьціцца ня толькі райвыканкам, але і шэраг грамадзкіх арганізацыяў, у тым ліку і мясцовы ЗАГС).

“Як быць у тым выпадку, калі давядзецца фатаграфаваць вясельле? Я ж зарэгістраваны прыватным прадпрымальнікам, і адзін зь відаў маёй прадпрымальніцкай дзейнасьці – гэта якраз фатаграфаваньне. Дужа карцела запытацца пра гэта ў кіраўніцы спраў райвыканкаму Іны Анатольеўны Пачопкі. Але мне сказалі, што яна пайшла на нараду, і яшчэ дзьве гадзіны я тэлефанаваў да яе ў габінэт, каб даведацца, што да чаго. Урэшце працоўны дзень скончыўся, а адказу я так і не атрымаў”, – распавёў спадар Лупач.

На сайце райвыканкаму ён адшукаў тэлефонны нумар “гарачай лініі” для “апэратыўнага вырашэньня сацыяльна-побытавых праблем”. Аднак апэратыўнага вырашэньня не адбылося: журналісту сказалі, што гэта нумар прыёмнай выканкаму, і што там ніколі ня чулі пра распараджэньне наконт “прафэсійных фотаапаратаў”.

**13.03.2015** Наведвальнікі сайту «Віцебскага кур’еру» сутыкнуліся зь цяжкасьцямі ў адкрыцьці онлайн-вэрсіі газэты. Цягам пэўнага часу замест старонак сайту чы-

тачы маглі бачыць паведамленьне пра памылку. Пасьля адміністратары сайту разьмясьцілі інфармацыю пра тое, што іх рэсурс падвергся DDos-атацы. Неўзабаве праца сайту была адноўленая.

**28.04.2015** Каля тузіну заяваў у папраўчыя ўстановы, ЛПП і СІЗА Віцебскай вобласьці разаслаў **праваабаронца** і **незалежны журналіст Леанід Сьвецік**. У сваіх заявах ён прасіў даць яму магчымасьць наведаць згаданыя ўстановы для падрыхтоўкі журналісцкага матэрыялу аб умовах утрыманьня і побыце асоб, што знаходзяцца ў іх. Ніводная з заяваў задаволеная не была.

Адказы, атрыманыя Леанідам Сьвецікам, напісаныя нібыта пад капірку – у патрэбных месцах мяняюцца толькі назвы ўстаноў. «Асьвятленьнем дзейнасьці папраўчых устаноў у крымінальна-выканаўчай сыстэме займаюцца ведамасныя пэрыядычныя выданьні, такія як газэта “На страже” і газэта “Трудовой путь”, якія ў поўнай меры адлюстроўваюць стан побыту і ўмоваў утрыманьня…» – слова ў слова паўтараецца ва ўсіх адказах.

«У цяперашні час адміністрацыя – на гэтым месцы кожны з начальнікаў знайшоў час, каб адкарэктаваць стандартны тэкст і ўставіць сюды назву сваёй установы – ня бачыць неабходнасьці дадатковага асьвятленьня дзейнасьці ўстановы ў іншых пэрыядычных выданьнях».

Такім чынам, на думку кіраўнікоў установаў ДВП Віцебскай вобласьці, грамадзяне могуць атрымаць поўную, аб’ектыўную і ўсебаковую інфармацыю пра жыцьцё людзей, што знаходзяцца па той бок калючага дроту, калі будуць чытаць ведамасную міліцэйскую прэсу. І гэтай інфармацыі цалкам дастаткова.

**12.05.2015** Міністэрства інфармацыі шукае ўладальніка сайту «Свабодны рэгіён». Ліст за подпісам міністра Лііі Ананіч быў дасланы на электронны адрас, пазначаны на сайце.

«Даводзім да ведама, што на інфармацыйным рэсурсе, разьмешчаным па адрасе *www.freeregion.info*, выяўленыя факты парушэньня заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі. У сувязі з гэтым прапануем у тэрмін да 15 мая 2015 году падаць на адрас Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь зьвесткі, датычныя ўладальніка гэтага інфармацыйнага рэсурсу», – гаворыцца ў лісьце.

Міністар інфармацыі хоча ведаць, у прыватнасьці, найменьне юрыдычнай асобы (ўладальніка), або прозьвішча, імя, імя па бацьку фізычнай асобы (ўладальніка), а таксама юрыдычны адрас ці месца жыхарства.

Міністэрства паведамляе адрасату ліста, які пазначаны як «уладальнік інфармацыйнага рэсурсу» (бязь імя), што «ў адпаведнасьці з падпунктам 1.2 пункту 1 артыкулу 49 Закону Рэспублікі Беларусь “Аб сродках масавай інфармацыі” ўладальніку інфармацыйнага рэсурсу выносіцца пісьмовае папярэджаньне за распаўсюд непраўдзівай інфармацыі, якая можа прычыніць шкоду дзяржаўным ці грамадзкім інтарэсам».

Уладальніку сайту нагадваецца: «Апроч таго, згодна з пунктам 1 артыкулу 511 Закону аб СМІ па рашэньні Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь ажыцьцяўляецца абмежаваньне доступу да прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі, якая


Таццяна Смоткіна

распаўсюджваецца праз інфармацыйны рэсурс, разьмешчаны ў глябальным кампутарным сеціве Інтэрнэт».

**25.06.2015** На глыбоцкіх **журналістаў Таццяну Смоткіну** і **Зьмітра Лупача** склалі пратаколы за парушэньне заканадаўства аб СМІ паводле артыкулу 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ).

Абодвух журналістаў апытаў старшы інспэктар аддзелу аховы правапарадку і прафіляктыкі Глыбоцкага РАУС Вячаслаў Барыла. Празь некалькі дзён ён жа склаў пратаколы аб правапарушэньнях.

“Падчас складаньня пратаколу я сказала, што адмаўляюся адказваць на пытаньні, бо 27-ы артыкул Канстытуцыі дазваляе ня сьведчыць супраць самой сябе. А ў судзе гатовая паўтарыць, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь дае права кожнаму грамадзяніну як здабываць інфармацыю, так і дзяліцца ёй зь іншымі”, – распавяла Таццяна Смоткіна.

Супраць Таццяны распачатая адміністрацыйная справа за артыкул “Дарогі ў Глыбокім стануць пазытыўнымі”, разьмешчаны 9 чэрвеня на сайце Беларускага “Радыё Рацыя” (Польшча). Паводле матэрыялаў справы, яна ініцыяваная Глыбоцкай пракуратурай. Міліцыі было дадзенае даручэньне спраўдзіць, ці мае журналістка акрэдытацыю ад замежнага СМІ, і ці зьяўляецца яе журналісцкая дзейнасьць правапарушэньнем. На думку міліцыі, гэта так, і старшы інспэктар Вячаслаў Барыла перадаў дакумэнты справы ў суд.

Перададзеныя ў суд і матэрыялы адміністрацыйнай справы Зьмітра Лупача. Яго вінавацяць паводле таго самага артыкулу 22.9 КаАП за матэрыял “Знайшліся сваякі памежніка, які загінуў на Глыбоччыне 17 верасьня 1939 году”, разьмешчаны на сайце “Эўрарадыё”.

Пратакол пра правапарушэньне склаў таксама старшы інспэктар Вячаслаў Барыла, кажа Зьміцер: “У маёй справе ёсьць раздрукоўка гэтага тэксту з інтэрнэт-сайту без пазначэньня аўтарства, а таксама ксэракопія з газэты “Вольнае Глыбокае”, дзе пад артыкулам стаіць маё прозьвішча. На думку супрацоўніка міліцыі, аўтарства артыкулу ў газэце зьяўляецца доказам таго, што я супрацоўнічаю і з замежным СМІ. Вінаваты я нібыта таму, што “разьмясьціў гэты матэрыял у кампутарнай сетцы інтэрнэт”. Сфармуляванае гэтае абвінавачаньне ня дужа літаратурна, дый само яно не адпавядае рэчаіснасьці – я нічога нідзе не разьмяшчаў, не распаўсюджваў, а напісаньне артыкулаў і збор інфармацыі не зьяўляецца правапарушэньнем”.

## Распальваньне міжнацыянальнай варожасьці і прапаганда вайны


Кастусь Шыталь

**12.07.2014** Віцебскі **палітык Аляксандар Кірылаў** абураецца тым, што адбываецца ў Чыгуначнай раённай арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа. Ён сьцьвярджае, што старшыня гэтай арганізацыі Ірына Канаплёва распальвае міжнацыянальную варожасьць. Паводле слоў палітыка, Канаплёва ня раз адмаўляла грамадзянам у атрыманьні дапамогі на падставе іх нацыянальнай прыналежнасьці.

«Канаплёва мела нахабства казаць: "Вы – жыд. Вы беларускія прадукты не атрымаеце. У Беларусі Чырвоны Крыж не для жыдоў", – распавядае Аляксандар Кірылаў. – Але ж ня важна, кім я зьяўляюся па нацыянальнасьці – жыдом, татарынам, расейцам, украінцам ці беларусам. У мяне ёсьць пашпарт нацыянальнага ўзору Рэспублікі Беларусь. Я – грамадзянін Рэспублікі Беларусь».

Кірылаў кажа, што за парушэньні заканадаўства аб зваротах грамадзян і парадку разьмеркаваньня гуманітарнай дапамогі Канаплёва неаднаразова прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасьці. Паводле яго слоў, пракуратура таксама прасіла абласны «Чырвоны Крыж» прыцягнуць яе да дысцыплінарнай адказнасьці, аднак кіраўніцтва абласной арганізацыі БТЧК на словы пракурора ніяк не адрэагавала.

**15.07.2014** На чыгуначным пераезьдзе «Харобрава» пры ўезьдзе ў Воршу былі затрыманыя распаўсюднікі расейскіх сьцяжкоў. Высьветлілася, што распаўсюджвалі сьцяжкі жыхары Барысава — Максім Андрэевіч Ціханаў, 1989 году нараджэньня, і Павал Васільевіч Жыльцоў, 1977 году нараджэньня, абодва глуханямыя.

Сьцяжкі — менавіта расейскія — раздаюць глуханямыя адразу ва ўсёй краіне. За гэтай ідэяй і тэхналёгіяй раздачы, як бачыцца, стаіць нехта ў спэцслужбах Расеі. Той, хто першым аддаў сьцяжкі ў рукі глуханямых. Попыту на тыя сьцяжкі раней не было ніякага. Пакуль не пачалі раздаваць. Прывучаючы, фактычна, беларусаў да наяўнасьці расейскіх сьцяжкоў паўсюль.

**18.07.2014** Распаўсюд расейскіх сьцягоў у Беларусі доўжыцца. Чарговы факт продажу кіроўцам сьцяжкоў Расеі быў зафіксаваны ў Наваполацку. 17 ліпеня чытач Генадзь з Наваполацку даслаў сайту *charter97.org* фотаздымкі. На наступны дзень у рэдакцыю сайту прыйшоў яшчэ адзін ліст са здымкамі з гэтага гораду.

Выглядае, чарговыя фотаздымкі зробленыя на тым самым месцы. А гэта сьведчыць пра тое, што наваполацкую міліцыю дагэтуль ніяк не зацікавіў факт несанкцыянаванага распаўсюду сымболікі чужой краіны ў беларускім горадзе. Як вядома, сьцягі раздаюцца не бясплатна, а гэта, апроч іншага, падпадае пад азначэньне нелегальнай прадпрымальніцкай дзейнасьці.

**02.08.2014** Праяжджаючы праз Глыбокае, **журналіст Кастусь Шыталь** пабачыў

расейскі сьцяг на лабавым шкле аўтобуса. Ён зайшоў у дыспэтчарскую аўтавакзалу і напісаў скаргу ў Кнігу заўваг і прапаноў.

Празь некалькі дзён журналіст атрымаў адказ з аўтапарку, у якім адзначаецца, што з кіроўцам праведзеная тлумачальная гутарка ў сувязі са знаходжаньнем староньніх прадметаў у аўтобусе. Расейскі сьцяг з аўтобуса зьняты.

**13.09.2014** Кіраўнік прадстаўніцтва агенцтва "Россотрудничество" Віктар Малашэнка сустрэўся з працоўным калектывам і навучэнцамі аршанскай школы №8. Ён павіншаваў школу з 60-годзьдзем. Апроч таго, Малашанка падарыў школе больш за 260 кніг па гісторыі, культуры і мэтодыцы выкладаньня. "Россотрудничество" – расейскае фэдэральнае агенцтва па справах Садружнасьці Незалежных Дзяржаў, суайчыньнікаў, якія пражываюць за мяжой, міжнародным гуманітарным супрацоўніцтве.

Кампанія аказвае садзейнічаньне расейцам, у тым ліку і ў непрызнаных уладай Беларусі і абсалютнай большасьцю краін сьвету Абхазіі і Паўднёвай Асэціі.

Дзейнасьць агенства актыўна асьвятляецца на адкрыта імпэрскіх сайтах кшталту "Румола" ("Русь молодая"), якія часта зьмяшчаюць у сябе і відавочна беларусафобскія матэрыялы, дзе Беларусь называецца "гістарычнай недарэчнасьцю", а беларускія гарады, у тым ліку і Ворша – тэрыторыяй Расеі. Таму застаецца толькі здагадвацца, якія псэўдагістарычныя паведамленьні могуць зьмяшчацца ў кнігах, падораных беларускай школе.

**13.09.2014** Праваслаўная царква ў Чашніках лічыць Беларусь часткай Расеі. Чытач сайту *charter97.org* даслаў у рэдакцыю фота са стэнду царквы. У аб'явах гаворыцца пра колькасьць расейцаў у Расеі і пра шкоду алькаголю, тытуню і наркотыкаў. Царкоўная антыалькагольная кампанія ў Беларусі чамусьці зьвернутая да расейцаў і праходзіць пад грыфам «Нас забіваюць!».

«Забі ворага ў сабе і дапамажы бліжняму! Рускія хлопцы і дзяўчаты, прачніцеся! Будучыня Расеі ў вашых рукох! У расейскай моладзі ёсьць сьветлая і шчасьлівая будучыня, свабоднае ад бруду і нечыстаты на Сьвятой Русі!!!» – гаворыцца ва ўлётцы. Далей прапануецца прачытаць, памножыць і распаўсюдзіць улётку па прынцыпе «лістоў шчасьця».

**21.09.2014** У Воршы распаўсюднікі касмэтыкі рэклямуюць тэрарыстаў «Наваросіі». З улёткай данецкіх тэрарыстаў можна азнаёміцца ў офісе касмэтычнай фірмы Avon па вул. Герцэна, 4.

Улётка называецца "Фонд дапамогі Наваросіі" і ўтрымлівае фатаграфіі Стралкова-Гіркіна, Бабая і іншых дзеячаў так званай Данецкай народнай рэспублікі. Пра тое, як такая ўлётка зьявілася ў офісе вядомай касмэтычнай фірмы, інфармацыі няма.

**13.10.2014** У Беларусі працягваецца распаўсюджваньне сымболікі Расеі. Пра гэта сайту *charter97.org* паведаміў адзін з чытачоў: «Сёньня быў праездам у Віцебску. Ля Макдональдза (дрэнна ведаю горад, таму дакладнае назву вуліцы не скажу), на сьвятлафоры глуханямы раздаваў сьцяжкі РБ і РФ».

«Я паклікаў яго, вырваў з рук сьцяжок нашых усходніх суседзяў-барбараў і са сло-

вамі «тут табе не Расея. Няма чаго тут гэтыя анучы раздаваць», шпурнуў сьцяжок на зямлю. Раптам у глуханямога прарэзаўся слых (з выразу ягонага твару было відаць, што ён зразумеў кожнае маё слова). Ён падняў гэтую анучу і рэціраваўся да іншага аўто», – распавёў чытач.

Выпадкі раздачы сьцягоў Расеі зафіксаваныя і ў іншых абласных цэнтрах і буйных гарадох. Практычна ва ўсіх выпадках беларускія ўлады ігнаруюць факт раздачы сымболікі суседняй дзяржавы на вуліцах беларускіх гарадоў.

**29.10.2014** У суполцы праваслаўнага вайскова-патрыятычнага брацтва, якое дзейнічае пры друцкім храме Раства Прасьвятой Багародзіцы, зьявіліся фатаздымкі з вучэньняў, якія прайшлі 27–29 кастрычніка ў вайсковай частцы № 71325, што ў вёсцы Заслонава Лепельскага раёну. На фатаздымках — падлеткі ў камуфляжнай форме з «георгіеўскімі стужкамі», павязанымі ў каго на плячы, у каго на рукаве, у каго на грудзёх. Хлопцы 12–16 гадоў, а таксама й некалькі дзяўчат сфатаграфаваліся і ў танку, і падчас знаёмства з тэхнікай МНС, і на турніры па лязэртагу.

Значная колькасьць фатаздымкаў — дзеці са зброяй: яны ня толькі вучацца зьбіраць-разьбіраць аўтамат, але й па-баявому цэляцца ў сваіх жа сяброў.

Настаяцель храму Раства Прасьвятой Багародзіцы, намесьнік благачыннага па працы з моладзьдзю гіерэй Алег Плаксіцкі тлумачыць: «Гэта, верагодна, памылка тактычная, але не ідэалягічная. Я разумею, настаўляць зброю на чалавека нельга. Але найбольш нашы зборы крытыкуюць не за гэта, а за георгіеўскія стужкі, якія павязалі дзеці. Павязалі хто дзе хацеў. І для мяне асабіста гэта не „каларадзкія“ стужкі, як пішуць у камэнтарах, а сымбаль антыфашызму — такія стужкі былі на ордэне Славы і на мэдалі за перамогу над фашысцкай Германіяй. Мы супраць фашысцкіх настрояў, якія распальваюцца цяпер у Беларусі. І я ніколі не адкажу на заклік „Слава героям!“, папулярны на Ўкраіне, бо менавіта ўкраінцы спалілі Хатынь».

Пра Ўкраіну айцец Алег Плаксіцкі загаворвае сам, без пытаньняў-наводак: у камэнтарах да фотарэпартажу з вучэньняў шмат хто пісаў, што вось гэткім чынам рыхтуюць будучых баевікоў, якія панясуць «русский мир». Кіраўнік праваслаўнага вайскова-патрыятычнага брацтва перакананы, што расейскіх вайсковых фармаваньняў ва Ўкраіне няма. Затое нібыта ёсьць нейкія ўзброеныя атрады, якія хаваюцца ў беларускіх лясох:

«Мне прыхаджане казалі, што бачылі такія атрады пад Віцебскам. Там вучацца ваяваць і крычаць „Жыве Беларусь!“ Дык што сытуацыя ў нас цяпер далёка не спакойная, і вельмі важная вайсковая падрыхтоўка, а таксама патрыятычнае выхаваньне. Мы супрацоўнічаем з рознымі дзяржаўнымі структурамі, з МНС, з вайскоўцамі, і дзеці атрымліваюць навыкі, прадугледжаныя яшчэ колішнім школьным курсам пачатковай вайсковай падрыхтоўкі. Гэта ўжо ня першыя нашы зборы, але якраз цяпер розныя апазыцыянэры выступаюць супраць нас, бо ў нашых выхаванцаў георгіеўскія стужкі».

Апазыцыянэрамі кіраўнік праваслаўнага вайскова-патрыятычнага брацтва называе тых, хто піша ў інтэрнэце няўхвальныя камэнтары на адрас ягонай ініцыятывы. Адказваюць на іх у суполцы «Ўкантакце» пераважна самі падлеткі. Яны ў раз-


Ігар Казьмярчак

губленасьці, бо не да канца ўсьведамляюць, пра што гаворка: для іх вучэньні — гэта перадусім гульні, у тым ліку са зброяй. Ні з падзеямі ва Ўкраіне, ні зь нібыта існаваньнем узброеных атрадаў у віцебскіх лясох яны вайсковыя зборы ня зьвязваюць. А кіраўнік брацтва раіць ім у спрэчкі ня ўвязвацца, бо гэта «палітыка».

**16.11.2014** Невядомыя агітатары наведваюць бюджэтныя арганізацыі Віцебску і агітуюць за далучэньне да Расеі.

Пра гэта сайту *charter97.org* распавёў адзін з чытачоў: «Надоечы, да нас на працу ў бюджэтную арганізацыю прыйшоў незвычайны наведвальнік, жанчына гадоў сарака, прыстойна апранутая. Яна пачала весьці агітацыю за Расею, распавядаць, што за ёй будучыня, аб далучэньні да арганізацыі, якую яна прадстаўляе».

«Калі шчыра, мы яе спачатку зусім не зразумелі, настолькі нечаканай была яе прапаганда, але потым яна стала раздаваць яшчэ і ўлёткі, газэты і агіткі», – піша аўтар допісу. Фота агітацыйных матэрыялаў чытач даслаў у рэдакцыю.

«Больш за ўсё зьдзівіла тое, што жанчына з запалам даводзіла, што гэта ня сэкта, а зарэгістраваная ў Беларусі арганізацыя – працягвае ён. – што пры праглядзе агіткі і відаць – пасьведчаньне Міністэрства юстыцыі РФ! Гэты «дакумэнт» наогул заслугоўвае на асобны разгляд, асабліва на тле таго, што адбываецца цяпер ва Ўкраіне, сваімі цынічнымі выказваньнямі і здагадкамі, якія падаюцца, як адкрыцьці. Мяркуючы па добра адпрацаваным дзеяньням гэтай замбаванай асобы, склалася ўстойлівае меркаваньне аб плянамернай працы ў нашым горадзе. Мо' такое адбываецца ня толькі ў нас? Вельмі б хацелася праверыць, што гэта за арганізацыя і хто яе курыруе, мэты, фінансаваньне?»

**05.12.2014** Аршанскі **актывіст Ігар Казьмярчак** зьвярнуўся да міністра інфармацыі Ліліі Ананіч з просьбай даць ацэнку дзеяньням адказных асоб, якія дапусьцілі ў этэр СТВ праграмы, якія папулярызуюць сучасных дзеячоў фашызму.

У адкрытым лісьце Ігар Казьмярчак адзначае:

“3 сьнежня 2014 году ў этэры тэлеканалу СТВ (Сталічнае тэлебачаньне) а 18:30 распачалася праграма “Нам и не снилось. Рождённые верой. 2 серия”. У гэтай перадачы ў якасьці экспэрта (у тытрах пад прозьвішчам ён пазначаны як “лідэр грамадзкага руху”) быў паказаны грамадзянін Расейскай Фэдэрацыі Максім Марцінкевіч. Той самы Марцінкевіч, які ў асяродку нэанацыстаў і сучасных прыхільнікаў фашызму вядомы пад мянушкай “Цясак”.

Сталічнае тэлебачаньне паказала Марцінкевіча як экспэрта, а, значыць, чалавека, які зьяўляецца аўтарытэтам, і да ягонага меркаваньня варта прыслухоўвацца.

Чым жа знакаміты гэты “лідар грамадзкага руху”. Першы раз ён праславіўся ў асяродку сучасных фашысцкіх рухаў тым, што патрапіўшы па прызыве ў войска Расейскай Фэдэрацыі зьбіў свайго саслужыўца з прычыны нацыянальнай варожасьці – саслужывец быў выхадцам з Каўказу. Тады паводле рашэньня псыхіятраў Марцінкевіч быў камісаваны з войска. Пазьней ён быў стваральнікам некалькіх грамадзкіх арганізацыяў, дзейнасьць якіх была забароненая на тэрыторыі Расеі пастановай суду, як арганізацыяў фашысцкай ідэалёгіі. Сам Марцінкевіч тройчы прыгаворваўся судом да розных пакараньняў за распальваньне міжнацыянальнай варожасьці. Цяпер паводле таго ж артыкулу адбывае чарговае пакараньне ў калёніі. Марцінкевіч шмат разоў публічна казаў пра тое, што зьяўляецца прыхільнікам нацыянал-сацыялізму.

Першы раз (на 24-й хвіліне запісу) у этэры паказанай на СТВ перадачы Марцінкевіч зьяўляецца пад час самасуду, які ўчыніў разам са сваімі паплечнікамі і проста на камэру наносіць удар чалавеку. Другі раз ён зьяўляецца на 42-й хвіліне і разважае на тэму, што такое грэх. Пры гэтым, другі раз ён апрануты ў майку з лягатыпам фірмы “White rex” (схаваная рэкляма), якая спэцыялізуецца на выпуску вопраткі для нэанацыстаў. У асартымэнце фірмы ёсьць і майкі са стылізаванай свастыкай.

Гэтая перадача ёсьць і ў сеціве інтэрнэт у адкрытым доступе, праўда, без лягатыпу СТВ (першапачаткова гэтая рэкляма фашызму зьявілася на Расейскім РЕН-ТВ), прыводжу вам адрас гэтай рэклямы фашызму.

І вось такога чалавека выдае за экспэрта, аўтарытэта, лідэра Сталічнае тэлебачаньне. Тэлебачаньне той сталіцы, якая была амаль цалкам зьнішчаная пад час вайны з фашыстамі. Сталіцы той краіны, дзе ў кожнай ці амаль у кожнай сям’і нехта загінуў ад рук фашыстаў.

Шаноўная Лілія Станіславаўна, мне падаецца, што паказ такой перадачы ў этэры дзяржаўнага тэлебачаньня ўскосна таксама падпадае пад артыкул пра заклік да міжнацыянальнай варожасьці. Калі і не магчыма прыцягнуць рэдактараў і кіраўніцтва тэлеканалу СТВ да адказнасьці крымінальнай ці адміністрацыйнай, то яны павінны панесьці маральную адказнасьць за прапаганду фашыстаў. Калі сёньня “ня даць па рукох” за паказ сучаснага лідэра нацыстаў у этэры, то заўтра нам пакажуць Гітлера як маральнага аўтарытэта.

У сувязі з вышэйнапісаным прашу вас:

Даць ацэнку зь юрыдычнага і маральнага пункту гледжаньня дзеяньням тых адказных асобаў, якія дапусьцілі ў этэр СТВ праграмы, якая папулярызуе сучасных дзеячоў фашызму;

Прыняць меры па недапушчэньні ў далейшым зьяўленьня на тэлебачаньні лідэраў сучасных фашыстаў у якасьці экспэртаў ці аўтарытэтаў;

Пасадзейнічаць таму, каб цыкль перадачаў “Нам и не снилось” і іншых перадачаў сумніўнага характару, якія трансьлююцца на СТВ, зьніклі з этэру беларускіх тэлеканалаў.

Пра прынятыя меры прашу паведаміць ў адведзеныя законам тэрміны на адрас,


Ігар Палынскі

пазначаны вышэй".

**08.01.2015** У новай кнігарні на аўтавакзале ў Полацку прадаюць цішоткі з выявай Уладзімера Пуціна і чорна-жоўта-белым сьцягам імпэрскай Расеі. Пра гэта ў сваім акаўнце ў Facebook напісаў карыстальнік **Ігар Палынскі**.

„У Полацку на аўтавакзале адкрылі кнігарню. Апроч кніжак, прадаюцца там цацкі і цішоткі. Калі пачаў фатаграфаваць, прадаўцы – мужчына і жанчына за сорак – занэрваваліся. На ўсе іх пытаньні я адказаў, што, на маю думку, у Полацку і ў Беларусі наогул ня месца прадукцыі такога кшталту. З імпэрскім-то сьцягам…", – напісаў Ігар Палынскі.

**18.03.2015** Акцыя прыхільнікаў адраджэньня імпэрыі адбылася ў Віцебску. Як паведаміла ініцыятыва «Мая краіна Беларусь», у Віцебску невядомыя каля гандлёвага цэнтру «Эвіком» мінакам раздавалі сьцяжкі СССР і ўлёткі.

Аналягічная акцыя імпэрцаў прайшла і ў Воршы. Пра тое, як жыхарам гораду прапанавалі купіць сьцягі Савецкага Саюзу, паведаміў сайту *charter97.org* адзін з чытачоў:

«На ажыўленым скрыжаваньні ў Воршы ля гарадзкога рынку малады хлопец зладзіў бойкі гандаль сымболікай былога СССР. Карыстаючыся тым, што машынам на «чырвоным» у гэтым месцы прыходзіцца прастойваць па 40-50 секунд, за зьмену сьветлафору ён пасьпяваў рэалізаваць 3-4 вырабы. Як потым высьветлілася, кошт сьцяжка быў роўны 20 тысячам рублёў. Прыняўшы мяне спачатку за свайго прыхільніка, хлопец спрабаваў нават пазіраваць перад камэрай. Аднак, пачуўшы мае прэтэнзіі да сваіх дзеяньняў, па легендзе «закасіў» пад нямога, паціскаючы плячыма і паказваючы паперку, велічынёй з цукерачны фанцік, дзе было напісана, што менавіта ён прадае і па чым, гэтакі цэньнік зь вітрыны. Цікава, што на маё папярэджаньне патэлефанаваць у міліцыю ён усё ж адрэагаваў, як толькі я схаваўся за брамай рынку», – піша ён.

Міліцыя ніяк не адрэагавала на распаўсюд незарэгістраванай сімволікі: «Убачыўшы таго самага хлопца на тым самым месцы з тымі самымі сьцяжкамі праз 5 гадзін, я ня надта зьдзівіўся. Прыехаўшы дадому, усё ж набраў 102. Паводле адказу дзяжурнага, зразумеў, што мая навіна для іх ужо не навіна. А яшчэ з вуснаў дзяжурнага атрымаў адказ, што ніякіх законаў (г.зн. ні ПДР, ні падатковага заканадаўства, ні якіх-небудзь іншых) гэты чалавек не парушае. І наогул ён нямы. Я так зразумеў, значыць, ня можа лаяцца матам. А таму і прыцягнуць яго няма за што», – піша чытач.

**01.04.2015** «Русский мир» прыйшоў у школу ў Воршы. «Казакі» праводзяць свае


Барыс Хамайда

мерапрыемствы ў беларускіх навучальных установах пры поўным патураньні ўладаў. Фотасправаздача аб адным зь іх была разьмешчаная на сайце школы №19 гораду Воршы.

«Школа прымала Праваслаўны казацкі вайскова-патрыятычны клюб у імя Міхала Арханёла з гораду Віцебску», – гаворыцца ў паведамленьні. Вучням раздавалі мэдалі і «калярадзкія» стужкі, якія праз падзеі ва Ўсходняй Украіне асацыююцца з тэрарыстамі «ДНР» і «ЛНР», а сама сустрэча прайшла пад сьцягамі Расеі і «казацкімі» сьцягамі.

Псэўдапатрыятычная сустрэча, якая прайшла ў школе, некалькі месяцаў заставалася невядомай для журналістаў. Калі ж, нарэшце, у СМІ зьявілася інфармацыя пра яе, гэта выклікала скандал.

Хваля абурэньня, скаргі людзей і розгалас прымусілі школу выдаліць са свайго сайту ганебныя здымкі патэнцыйных тэрарыстаў. Абураная грамадзкасьць спадзяецца на тое, што простым выдаленьнем кампраматных фотаздымкаў сытуацыя ня скончыцца, і вінаватыя будуць пакараныя.

**12.04.2015** Хуліган – прыхільнік «Русского мира» правакаваў **распаўсюдніка незалежнай прэсы Барыса Хамайду** на бойку. Барыс Хамайда стаяў пад сваім бел-чырвона-белым парасонам каля так званага «сіняга дому» – дому № 28 па вуліцы Леніна ў Віцебску. Але ўвагу невядомага хулігана прыцягнуў не парасон і нават ня бел-чырвона-белая стужка, прышпіленая побач з газэтамі і часопісамі. Паводле спадара Хамайды, хлопец гадоў пад 25 дужа агрэсіўна паставіўся да габэлену, якая аздабляе «працоўнае месца» распаўсюдніка.

На гэтым габэлене на белай палатніне вышытая чырвонымі літарамі малітва «Ойча наш». Хуліган запатрабаваў, каб апазыцыянэр зьняў палатніну, бо яму не падабаецца тэкст на беларускай мове, а потым хацеў яе сарваць. Калі ж спадар Хамайда яго прысарамаціў, то пачаў пагражаць: «Ты стары дзед, а варта было б табе даць як сьлед», і нешта яшчэ ў такім духу.

Хлопец пакуражыўся і сышоў. Барыс Хамайда адзначае, што нічога падобнага зь ім не здаралася ўжо года паўтара. На ягоную думку, такая неапраўдана агрэсіўная рэакцыя мінака выклікана расейскай прапагандай па тэлебачаньні. А яшчэ й тым, не выключае апазыцыянэр, што ў Віцебску апошнім часам актыўна распаўсюджваюцца небеларускія сымбалі – расейскія і савецкія сьцяжкі, саколкі з выявамі Ўладзімера Пуціна і гэтак далей.

**12.04.2015 Прадстаўнік Беларускага Хэльсынскага Камітэту** ў Віцебску **Павал Левінаў** атрымаў адказ з абласной міліцыі наконт вулічных раздатчыкаў савецкіх



Аляксандар Галавань

сьцяжкоў.

“Там сказана, што для правядзеньня праверкі мая заява перасланая ў раённую міліцыю па месцы, дзе адбылося здарэньне. Я прасіў кіраўніка абласной міліцыі ўзяць на кантроль гэтую сытуацыю. Але, зыходзячы з адказу, зразумеў, што на кантроль нічога ня ўзята”, – паведамляе Левінаў.

На пачатку красавіка, калі пашырылася інфармацыя пра раздатчыкаў савецкіх сьцяжкоў у Віцебску, Левінаў сфатаграфаваў такіх актывістаў на вуліцы Церашковай. Ён даслаў здымкі ў міліцыю з просьбай разабрацца.

Левінаў праводзіць аналёгію з украінскімі падзеямі. У Крыме, на Данбасе і ў цэнтральнай частцы Ўкраіны да вайны таксама актыўна раздавалі савецкія і расейскія сьцяжкі. Такія ж дзеяньні ў Беларусі, як лічыць праваабаронца, нясуць патэнцыйную небясьпеку.

“Камусьці гэта патрэбна мэтанакіравана. Гэта ж не адзін дурань бегае па Беларусі і нешта раздае. Гэта плянамерная акцыя. Праміргаўшы такое і яшчэ пэўныя моманты, мы ў пэрспэктыве можам праміргаць сувэрэнітэт”, — выказвае меркаваньне Левінаў.

**21.04.2015** У праваслаўных цэрквах Віцебску, а таксама вобласьці актыўна распаўсюджваецца газэта «Наше Православие». Гэта афіцыйны друкаваны орган Віцебскай эпархіі БПЦ (Маскоўскі патрыярхат). Наклад – 1000 асобнікаў. Старыя нумары распаўсюджваюцца ў цэрквах бясплатна.

**Актывіст кампаніі «Маладая Беларусь», праваслаўны вернік Аляксандар Галавань** азнаёміўся са зьместам газэты. «Выданьне друкуе інтэрвію з расейскімі наймітамі – сэпаратыстамі з шэрагу «ДНР» і «ЛНР» на сваіх старонках і адкрыта ўсхваляе тым удзел праваслаўных вернікаў ва ўзброенным канфлікце ва Ўкраіне», – кажа Галавань.

Так, у адным з сакавіцкіх нумароў «Наше православие» надрукавала матэрыял з назвай «Захад ня можа зьмірыцца з тым, што Расея памацнела». Гэта гутарка з Маргарытай Зайдлер, грамадзянкай Нямеччыны, якая ваюе за баевікоў «Наваросіі». Зайдлер прызнаецца, што «прыняла Праваслаўе і стала ў шэрагі апалчэнцаў у абложаным Славянску, а пасьля ў Данецку» ды цяпер ваюе там «ня толькі супраць фашызму, а іменна за веру праваслаўную».

Найміты прадстаўленыя, як «праваслаўныя байцы: …яны самыя адважныя, …яны сабой прыкрываюць таварышаў, гатовыя “пакласьці душу сваю за другі свая”, як сказана ў Сьвятым Пісаньні». Няўдзел праваслаўнага верніка ў ваенным канфлікце ва Ўкраіне (вуснамі М. Зайдлер) «калі вера Праваслаўная і Айчына ў небясьпе-

цы» называецца грэхам.

«Я ўважаю… за грэх скласьці рукі і сказаць: “Ну, я вернік, пацыфіст, я не магу браць у рукі зброю”. Далей “апалчэнцаў” і сябе асабіста яна ставіць у адзін шэраг з Александрам Неўскім і Сергіем Раданескім», – расказвае жыхар Віцебску Аляксандар Галавань.

Актывіст «Маладой Беларусі» задаецца пытаньнем, ці не падпадаюць гэтыя заклікі і «артыкулы» да артыкулу 123 Крымінальга Кодэксу РБ – «Прапаганда вайны».

Аляксандар Галавань разам зь іншымі праваслаўнымі вернікамі зьвярнуўся ў Міністэрства інфармацыі з просьбай праверыць выпускі газэты «Наше православие» на адпаведнасьць заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

Дарэчы, адметна, што галоўным рэдактарам газэты «Наше православие» зьяўляецца актывіст рускага руху Андрэй Герашчанка. Раней ён працаваў начальнікам аддзелу па справах моладзі адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Віцебску. У сваіх шматлікіх матэрыялах ён адмаўляў існаваньне беларускай нацыі і дзяржавы. Празь некаторы час яго звольнілі з чыноўніцкай пасады.

**30.05.2015** Праваслаўны дзяк зь Віцебску называе беларускіх чыноўнікаў ворагамі «русского мира».

У першай палове мая Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджаньне газэце Віцебскай епархіі БПЦ (Маскоўскі патрыярхат) «Наше православіе». У сувязі з гэтым на некаторых праваслаўных сайтах, што знаходзяцца ў дамэннай зоне.by (*sobor.by*, *odigitria.by*), а таксама на расейскіх сайтах, як zavtra.ru, нехта Анатоль Шлыкаў распаўсюджвае дзіўныя звароты. Пры гэтым у сваіх шматлікіх публікацыях Анатоль Шлыкаў называе сябе «выконваючым абавязкі панамара ў храме сьвятой роўнаапостальнай Алены».

Напрыклад, Шлыкаў выносіць пісьмовае папярэджаньне беларускім чыноўнікам: «Нядаўняя правакацыйная заява чыноўнікаў Міністэрства інфармацыі ў адрас газэты «Наше православіе» зьяўляецца недружалюбным выпадам супраць праваслаўных хрысьціян і ставіць перад сабой мэту вывесьці праваслаўных хрысьціян на вуліцы. Таму мы, праваслаўныя хрысьціяне, не сядзім склаўшы рукі. Мы рыхтуемся да антымайдану. Ніхто ня зможа нам забараніць гэта рабіць. Мы выйдзем на вуліцы, але толькі для таго, каб разагнаць дзярждэпаўскі майдан».

Самае цікавае, што аўтар перакананы, што на дзярждэпаўскіх пайках сядзяць ня толькі зьненавідныя яму «сьвядомыя», але і дзяржаўныя ідэолягі. На думку Шлыкава, яны атрымалі непасрэдную задачу – «даводзіць да сьлёз праваслаўных вернікаў». «Але ці паслухаюць ідэолягі свой народ? Не. Бо для гэтага ім трэба адмовіцца ад дзярждэпаўскіх піражкоў, а гэта ня ў сілах беларускіх ідэолягаў», – сьцьвярджае Шлыкаў.

«Калі раптам беларускаму прэзыдэнту зь нейкіх прычын ня ўдасца ўтрымаць у краіне сытуацыю пад кантролем, то мы, праваслаўныя хрысьціяне, ня будзем абыякава назіраць за падзеямі, што адбываюцца. Мы паступім гэтаксама, як і жыхары Данбасу. Але ў адрозьненьне ад іх, мы ня будзем абмяжоўвацца адной або двума

абласьцямі – мы вызвалім усю Беларусь ад майданшчыкаў», – ад імя праваслаўных вернікаў гаворыць Шлыкаў.

У правіну беларускім чыноўнікам, якіх Шлыкаў проста дэманізуе, ён ставіць спробу расколу Беларускай праваслаўнай царквы. Пад расколам ён мае на ўвазе большую самакіраванасьць БПЦ, пра якую казаў мітрапаліт Павал напрыканцы мінулага году. Іншы пункт – перапісваньне гісторыі вайны 1812 году. Так склалася, што ў беларускай гістарыяграфіі тая вайна лічыцца хутчэй грамадзянскай, але зусім не айчыннай.

Адзінымі пазытыўнымі чыноўнікамі ў матэрыялах Анатоля Шлыкава паўстаюць былы кіраўнік Інфармацыйна-аналітычнага цэнтру Аляксандар Базанаў, а таксама ягоны намесьнік Леў Крыштаповіч, якія летась былі пазбаўленыя пасад.

У іншай публікацыі аўтар адзначае: «Беларусы зайздросьцяць расейцам. У іх ёсьць тысячагадовая гісторыя. У нас, беларусаў, няма гісторыі, але ёсьць гісторыкі, якія абвясьцілі яе выдуманай».

«Застаёмся быць рускімі і мы, карэнныя жыхары Беларусі, таму што рускімі мы былі тысячу гадоў таму, рускімі мы застанемся і цяпер. На жаль, у самой Расеі ня ўсе разумеюць, што мы, карэнныя беларусы, зьяўляемся такімі самымі рускімі, як самі расіяне», – перакананы аўтар.

Шлыкаў катэгарычна супраць ушанаваньня ў Беларусі памяці вялікіх князёў літоўскіх. Ён параўноўвае гэта з тым, як калі б сёньня ў Расеі пачалі ўшаноўваць татарскіх ханаў. А час знаходжаньня сёньняшніх беларускіх земляў у складзе ВКЛ і Рэчы Паспалітай называе не інакш, як «літоўска-польскае ярмо».

**10.06.2015** На віцебскіх рынках 7 гандлёвых крамаў займаюцца продажам цішотак з прынтамі прарасейскай і савецкай тэматыкі. Саколкі з выявамі Пуціна, Сталіна і так званых «ветлівых людзей» былі заўважаныя на Полацкім і Смаленскім рынках Віцебску.

У пэўных шапіках прысутнічаюць паведамленьні аб тым, што тавар не сэртыфікаваны. Цана саколак вагаецца ад 150 да 290 тысяч беларускіх рублёў.

Саколак на беларускую тэматыку у гандляроў няма. Прапанову прадаваць вышымайкі гандляры сустракаюць адмоўна, тлумачачы, што наяўны асартымэнт іх задавальняе.

Адзеньне з расейскімі шавіністычнымі прынтамі даступнае на аптовых рынках у Расеі. Адтуль яно трапляе ў Беларусь.

## Пагрозы бясьпецы асяродзьдзя пражываньня

**01.07.2014** У Віцебскай вобласьці за парушэньні прыродаахоўнага і зямельнага заканадаўства да дысцыплінарнай, адміністрацыйнай і матэрыяльнай адказнасьці прыцягнутыя 373 асобы, паведаміла старшы памочнік пракурора вобласьці па наглядзе за выкананьнем прыродаахоўнага заканадаўства Алена Казлова. За 6 месяцаў бягучага году ў гэтай сфэры было арганізавана 96 праверак, па выніках якіх падрыхтавана 309 актаў рэагаваньня, па патрабаваньнях пракурораў кампэнсаваныя матэрыяльныя страты на суму звыш Br80 млн.

Падчас праверак на жывёлагадоўчых фэрмах, разьмешчаных у водаахоўных зонах, выяўленае нагрувашчаньне значнай колькасьці арганікі. Яе захоўваньне арганізаванае ў тым ліку на тэрыторыях, якія маюць ухіл, што павялічвае магчымасьць трапленьня адходаў у рэкі і іншыя водныя аб’екты. Ня рэдкія выпадкі, калі тэрыторыі комплексаў забруджаныя бытавымі і іншымі адходамі. Такія парушэньні выяўляліся ў Лёзьненскім, Полацкім, Аршанскім, Мёрскім, Гарадоцкім, Віцебскім, Талачынскім раёнах.

У шэрагу раёнаў пракуроры выявілі факты, якія сьведчаць аб адсутнасьці з боку выканкамаў належнага дзяржаўнага кантролю над станам спраў у сфэры выкананьня заканадаўства аб ахове і выкарыстаньні зямель. У прыватнасьці, не заўсёды службовымі асобамі выканкамаў выконваюцца патрабаваньні заканадаўства аб праверцы выкананьня грамадзянамі умоў адводу зямельных участкаў і выдачы пры неабходнасьці адпаведных прадпісаньняў не пазьней як цягам аднаго месяца з дня заканчэньня тэрміну асваеньня зямельных ўчасткаў (Докшыцкі, Віцебскі, Браслаўскі раёны). Паводле слоў Алены Казловай, маюць месца шматлікія факты непрыняцьця мер па прыцягненьню да адказнасьці вінаватых у неасвоеных у вызначаны тэрмін зямельных участкаў ці іншых парушэньнях заканадаўства аб ахове і выкарыстаньні зямель. Такія хібы выяўленыя ў Бешанковіцкім, Браслаўскім, Докшыцкім, Віцебскім, Аршанскім, Глыбоцкім раёнах.

Вынікі праверак сьведчыць і пра тое, што ў рэгіёне ня ўсё добра з выкананьнем заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Вывучаны стан помнікаў архітэктуры і археалёгіі, брацкіх магіл і воінскіх пахаваньняў, а таксама выкананьне ўласьнікамі і ўладальнікамі гісторыка-культурных каштоўнасьцяў патрабаваньняў ахоўных забавязаньняў. Выяўлена, што на большасьць аб’ектаў гісторыка-культурнай спадчыны не распрацаваная праектная дакумэнтацыя зон аховы, ня ўсюды ўсталяваныя ахоўныя дошкі, не на ўсе гісторыка-культурныя каштоўнасьці маюцца пашпарты і падпісаныя ахоўныя забавязаньні (Браслаўскі, Талачынскі, Лепельскі, Пастаўскі, Расонскі, Шумілінскі і Мёрскі раёны).

Апроч таго, выяўленыя факты знаходжаньня гісторыка-культурных каштоўнасьцяў у неналежным санітарным і тэхнічным стане, у тым ліку, калі прылеглыя і непасрэдна іхныя тэрыторыі (паркі, сядзібы) зарасьлі пустазельлем, забруджаныя адходамі. “Гэтыя абставіны сьведчаць ня толькі пра адсутнасьць належнага кантролю ў гэтай сфэры з боку мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, але і пра непасрэднае парушэньне выканкамамі патрабаваньняў заканадаўства, бо ў шмат якіх выпадках яны зьяўляюцца ўладальнікамі названых аб’ектаў. Такія факты выяўленыя ў Бешанковіцкім, Шаркаўшчынскім, Сеньненскім , Глыбоцкім раё-

нах”, – канстатавала старшы памочнік пракурора.

**08.07.2014** На гарачую лінію парталу *tut.by* зьвярнуліся жыхары гораду Новалукомаль у Віцебскай вобласьці і распавялі пра дзіўную зьяву. Некалькі дзён таму ў вадзе Лукомскага возера (на беразе якога разьмешчаны сам горад і цеплавая электрастанцыя) зьявіліся разводы белага і зялёнага колераў, а частка берагу афарбавалася ў насычаны бірузовы колер.

Здымкі вады і берагу зрабіў чытач парталу з Новалукомля **Дзьмітры Асташка**. “Вада па ўсім беразе возера моцна забруджаная. Мясцовыя жыхары з гораду і іншых населеных пунктаў, разьмешчаных побач з вадаёмам, сур’ёзна занепакоеныя яго станам”, – паведамляе мужчына.

Мору рыбы ў возеры не зафіксавана, паведамілі ў Лепельскай міжраённай інспэкцыі аховы жывёльнага і расьліннага сьвету.

Варта адзначыць, што на беразе возера знаходзіцца найбуйнейшая гідраэлектрастанцыя Беларусі – Лукомальская ДРЭС. Тут жа побач пабудаваны спэцыяльны канал, па якім вада з возера падаецца на станцыю для астуджэньня. Назад яна вяртаецца ў вадаём з падвышанай на 8-12 градусаў тэмпэратурай. Вялікая акваторыя дапамагае вадзе раўнамерна зьмешвацца, тым ня менш агульная тэмпэратура ў вадаёме амаль заўсёды вышэй на 2-3 градусы, чымся ў іншых азёрах.

**11.07.2014** Жыхары Віцебску абураюцца тым, што ўлады наважылі ўшчыльніць жылую забудову ў цэнтры гораду. Мясцовыя ўлады адмовіліся ад будаўніцтва аквапарку і спартовага цэнтру. Замест гэтага тамсама зьбіраюцца будаваць шматпавярховікі. У новых 760 кватэрах зьбіраюцца пасяліць яшчэ 1300 чалавек. Пра гэта кажа новы плян забудовы раёну.

Аднак гэта пакуль знаходзіцца на стадыі грамадзкага абмеркаваньня горадабудаўнічага праекту.

Блогер HighAley сумняваецца, што «ў адміністрацыі гораду хопіць розуму гэтага не рабіць»: «Бачыце ўверсе справа круглы будынак? Гэта будзе Палац водных відаў спорту. Паводле маіх грубых падлікаў ён у дыямэтры трохі больш за 50 мэтраў. І які басэйн у ім зьмесьціцца? – зьдзіўляецца ён. – Палову будынку паставілі на балота, а другую палову – на круты спуск. Калі глядзець далей, то пад запраўкай яны зьбіраюцца ўторкнуць падземную паркоўку. Як да такога можна дадумацца? Хіба гэта дазволена?»

«Увогуле, я ў шоку. Дапаможыце спыніць гэтае блюзьнерства! Бо пасьля гэтай забудовы цэнтар гораду ператворыцца ў бэтонавае гета. Я ўжо не кажу пра паркоўвачныя месцы. Сумняваюся, што яны там будуць у дастатковай колькасьці. І які жах будзе ў сама розрух. Я баюся далей разьвіваць думку. Скажу адно: Я супраць ушчыльненьня цэнтру гораду!» – кажа жыхар Віцебску.

**15.07.2014** На беразе ўнікальнага возера Балдук у Пастаўскім раёне будуюць праваслаўны храм. Але будуюць насуперак грамадзкай думцы, заканадаўству і прыродзе. Скандальная будоўля пастаянна абрастае новымі дэталямі.

Так, навукоўцы прызналі месца для будаўніцтва геапатагенным, а грамадзкасьць знайшла пацьверджаньні незаконнасьці адвядзеньня зямельнага ўчастку для бу-


Ігар Пастухоў

даўніцтва. Адмыслоўцы Нацыянальнай акадэміі навук лічаць, што дадатковая нагрузка на возера можа прывесьці да гібелі яго экасыстэмы.

Гэтыя факты, тым ня менш, не спыняюць ініцыятараў будаўніцтва. Віцебская абласная пракуратура і адміністрацыя прэзыдэнта адказваюць на скаргі грамадзкасьці фармальнымі фразамі: «у адпаведнасьці з заканадаўствам».

Возера Балдук справядліва называюць пэрлінай беларускага Паазер'я – яно адметнае крышталёва чыстай вадой, вялікай глыбінёй – да 40 мэтраў, і ўнікальным ляндшафтам наўкола. Паўднёвы бераг Балдука належыць да прыроднай тэрыторыі, якая асабліва ахоўваецца, і зьяўляецца часткай Нацыянальнага парку «Нарачанскі».

З Балдуком зьвязана шмат легенд, і штогод туды прыяжджае вялікая колькасьць турыстаў. Турыстычны бум у апошняе дзесяцігодзьдзе стаў прычынай рэзкага пагаршэньня стану возера. Як сьцьвярджаюць эколягі, з-за слабога водаабмену Балдук мае вельмі адчувальную экасыстэму – для таго, каб у возеры цалкам зьмянілася вада, неабходна больш за 30 гадоў.

У адпаведнасьці з заключэньнем НДІ па біярэсурсах ад 2012 году, экасыстэма возера Балдук дэградуе ад нулявой да чацьвёртай ступені, якая характарызуецца незваротнымі працэсамі, менавіта з-за высокай антрапагеннай нагрузкі, гэта значыць, з прычыны чалавечага чыньніку.

Каб спыніць гібель возера, навукоўцы Акадэміі навук рэкамэндавалі нацпарку «Нарачанскі» абмежаваць наведваньне турыстычнай стаянкі на паўднёвым беразе Балдука выходнымі днямі ў летні час і скараціць колькасьць наведвальнікаў да 30 чалавек у дзень.

Аднак нацпарк не выконваў гэтую рэкамэндацыю. Як сьцьвярджае **каардынатар экалягічнай групы «Балдук»**, экс-дырэктар заказьніку «Сарачанскія азёры» **Ігар Пастухоў**, апошнімі гадамі на стаянцы на паўднёвым беразе возера летам адпачывалі да 300 чалавек на дзень.

«Чалавек, які разава выкупаўся ў возеры, прыносіць туды каля 150 мг фосфару, ня лічачы фасфатнага забруджваньня ад вымытых ў возеры турыстычных кацялкоў і рондаляў. Памножце гэта на 300 і дадайце да гэтага яшчэ сто чалавек – прыкладна столькі паломнікаў будуць наведваць царкву, і мы атрымаем кактэйль, ад якога возера ў найбліжэйшай будучыні рызыкуе загінуць. І гэты працэс ужо пачаўся», – пракамэнтаваў Ігар Пастухоў.

Эколяг адзначае, што да забруджваньня вады турыстамі апошнімі гадамі дадаліся факты актыўнага будаўніцтва, якое суправаджаецца незаконнымі высечкамі дрэў.




Быў зафіксаваны і выпадак вываду сьцёкавай трубы ад адной зь сядзібаў наўпрост у возера.

Сталічны бізнэсовец Мікалай Раманевіч, ініцыятар узьвядзеньня царквы, які нядаўна пабудаваў сабе лецішча ў выглядзе комплексу катэджаў каля вёскі Вайшкуны, абраў для будаўніцтва храму на беразе возера самы высокі пагорак, зь якога добра праглядаецца мясцовасьць. Гэта значыць, што і сама царква будзе добра відаць амаль зь любой кропкі возера і яго прыбярэжнай паласы.

У траўні 2014 году, адмыслоўцы міжнароднага грамадзкага Камітэту кантролю, дасьледаваньня, папярэджаньня і ліквідацыі наступстваў прыродных і некаторых экалягічных катастроф дасьледавалі месца для будаўніцтва царквы на прадмет геамагнітных анамаліяў.

**Біяфізык Галіна Раманенка** разам з калегамі, сярод якіх былі і ўкраінскія навукоўцы, двойчы праводзіла неабходныя вымярэньні сертыфікаванымі прыборамі. Высьветлілася, што па меркаваным месцы будаўніцтва праходзіць геалягічны разлом, які спарадзіў геамагнітную анамалію. Як тлумачыць Раманенка, Балдуцкая геамагнітная анамалія падобная да Хоперскай, Варонескай і Ўральскай у Расеі.

На думку адмыслоўца, на гэтым узгорку нельга будаваць, а тым больш храм, там наогул не рэкамэндуецца доўга знаходзіцца чалавеку – такое заключэньне навукоўцы накіравалі ў траўні ў Віцебскі аблвыканкам і ў Пастаўскі раённы выканаўчы камітэт.

Паводле інфармацыі, атрыманай мясцовымі жыхарамі ад Лынтупскага сельсавету, у вёсках Вайшкуны і Станчыкі, як мінімум у апошнія дзесяць гадоў, участкі пад забудову вылучаліся ў адсутнасьць архітэктурных плянаў гэтых населеных пунктаў, што, падкрэсьліваюць мясцовыя жыхары, супярэчыць прадугледжанаму дзейным заканадаўствам парадку выдзяленьня зямельных участкаў пад забудову.

Мясцовыя жыхары сьцьвярджаюць, што гэтае парушэньне тычыцца і адводу ўчастку пад пабудову царквы. Яны знайшлі і іншыя неадпаведнасьці закону пры выдзяленьні зямлі для гэтага культавага збудаваньня. Так, грамадзкія абмеркаваньні Ацэнкі ўзьдзеяньня на навакольнае асяродзьдзе праекту царквы ня ладзіліся, што зьяўляецца парушэньнем дзейнага заканадаўства, і, найперш, Орхускай канвэнцыі.

Аднак, пераходзячы ад дэталяў да галоўнай праблемы, жыхары вёскі Станчыкі адзначаюць, што ўчастак зямлі быў выдзелены «на падложнай падставе». Як вы-

нікае з матэрыялаў дзяржэкспэртызы праекту царквы, падставай для адводу зямлі пад будаўніцтва стала «просьба праваслаўных вернікаў вёскі Станчыкі Лынтупскага сельсавету». Аднак у Станчыках жывуць усьцяж каталікі, якія пра будаўніцтва праваслаўнай царквы нікога не прасілі.

Праваслаўная абшчына «Парафія храму Сьвяціцеля Мікалая Цудатворца» гораду Паставы атрымала ўчастак у вёсцы Станчыкі, каля возера Балдук яшчэ ў 2011 годзе. Ад Паставаў да ўчастку – каля сарака кілямэтраў, як мінімум дзесяць зь якіх пралягаюць па прасёлкавых дарогах, і грамадзкі транспарт туды ня ходзіць.

Згодна зь дзейным заканадаўствам рэлігійная абшчына можа будаваць культавыя будынкі толькі на тэрыторыі, пазначанай у яе статуце. Пастаўская абшчына зьмяніла свой статут у лістападзе 2010 году, уключыўшы туды аддаленую вёску Станчыкі. Віцебскі аблвыканкам зацьвердзіў гэтыя зьмены 17 студзеня 2011 году.

Як лічаць жыхары вёскі Станчыкі, для такога кроку не было законных падстаў, паколькі ў самой вёсцы і паблізу пастаянна пражывае ня больш за 5-6 чалавек і ўсе яны каталікі. А ў адпаведнасьці з законам «Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях» для пашырэньня тэрыторыі дзейнасьці абшчыны на той ці іншы населены пункт неабходна наяўнасьць у ім вернікаў, якія пастаянна пражываюць там, гэтай самай рэлігійнай канфэсіі.

Жыхары вёскі Станчыкі накіравалі ў Віцебскую пракуратуру лісты-паведамленьні пра тое, што яны вызнаюць каталіцкую веру і не ўваходзяць у склад абшчыны. Але замест праверкі акалічнасьцяў пашырэньня яе тэрыторыі, Віцебская пракуратура перанакіравала гэтыя лісты ў Віцебскі аблвыканкам, які парэкамэндаваў жыхарам вёскі зьвярнуцца ў Пастаўскую праваслаўную парафію з просьбай памяняць яе статут. Гэты адказ Віцебскага аблвыканкаму быў прызнаны намесьнікам упаўнаважанага па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Беларусі Ўладзімерам Ламекам адпаведным нормам закону.

Адказы Віцебскага аблвыканкаму і Віцебскай пракуратуры прымусілі мясцовых жыхароў зьвярнуцца наўпрост да прэзыдэнта. Разам з аргумэнтамі супраць будаўніцтва царквы ў водаахоўнай зоне ўнікальнага возера, аўтары ліста прыклалі больш за 80 подпісаў на карысьць пераносу месца будаўніцтва праваслаўнай царквы ў найбліжэйшы гарадзкі пасёлак Лынтупы, дзе пастаянна жывуць праваслаўныя вернікі.

Праз некалькі дзён гэта ліст быў перанакіраваны ў апарат Савету міністраў, а яшчэ праз некалькі дзён – у Віцебскі аблвыканкам.

«Няўжо функцыі адміністрацыі прэзыдэнта зводзяцца толькі да перанакіраваньня лістоў скаржнікаў у тыя арганізацыі, на якія яны скардзяцца?», – зьдзіўляюцца жыхары вёскі Станчыкі.

Удзельнікі экалягічнай групы «Балдук» лічаць, што гэтай канфліктнай сытуацыі магло б і ня быць, калі б мясцовыя ўлады падчас прыняцьця такіх далікатных рашэньняў, як будаўніцтва культавых збудаваньняў, улічвалі думку насельніцтва.

Ініцыятыўная экалягічная група «Балдук» была сфармаваная 10 траўня гэтага го-

ду на сходзе мясцовых жыхароў. У гэтым сходзе таксама ўзялі ўдзел прадстаўнікі Лынтупскага пасялковага савету, Пастаўскага райвыканкаму, экалягічных грамадзкіх аб'яднаньняў «Экадом», «Зялёная сетка», АПБ.

Па выніках сходу жыхары правялі галасаваньне, якое паказала, што пераважная большасьць выказваецца за перанос месца будаўніцтва праваслаўнай царквы ў гарадзкі пасёлак Лынтупы. У гэтым населеным пункце пражывае больш за 1500 чалавек, і дагэтуль няма царквы.

Гэтае хадайніцтва было разгледжанае Віцебскім аблвыканкамам. Паводле інфармацыі групы «Балдук», адказам стала парада аблвыканкаму зьвяртацца ў Пастаўскую праваслаўную абшчыну.

«Але ж функцыя аддзелу па рэлігіях і нацыянальнасьцях Віцебскага аблвыканкаму і палягае ў тым, каб не даводзіць справу па рэлігійных пытаньнях да суду і спрыяць мірнаму вырашэньню спрэчных пытаньняў», – кажа жыхар вёскі Станчыкі **Мікалай Івашын**.

**22.09.2014** Праверка Камітэту дзяржаўнага кантролю і пракуратуры Віцебскай вобласьці выявіла ў дзяржаўнай лесагаспадарчай установе "Лёзьненскі лясгас" грубыя парушэньні патрабаваньняў ляснога заканадаўства пры ажыцьцяўленьні нарыхтоўкі драўніны, а таксама факты безгаспадарчасьці. Пра гэта паведамілі ў прэс-службе Камітэту дзяржаўнага кантролю Беларусі.

Яшчэ ў студзені 2010 году лесаводы Лёзьненскага лясгасу ў 26-м квартале Залескага лясьніцтва выявілі каранёвую гнілізну ў ясянёвых насаджэньнях на плошчы 21,7 га. Гэта зафіксавана ў акце абсьледаваньня, складзеным ўзімку, калі дрэвы стаяць бязь лісьця. Запісана, што акт складзены ў прысутнасьці галоўнага лясьнічага. У дзяржаўных кантралёраў такія дэталі з самага пачатку выклікалі сумневы, але далейшае вывучэньне выявіла і больш абуральныя акалічнасьці. Пацярпелым у 26-м квартале аказаўся ўвесь 7-ы выдзел плошчай больш за 40 га. Для тэрміновай распрацоўкі загінулых ясеньнікаў на дапамогу Лёзьненскаму лясгасу паступіла лесанарыхтоўчая тэхніка зь Верхнядзьвінскага, Аршанскага і Расонскага лясгасаў, а таксама з прыватных арганізацыяў. Гэтая тэхніка мусіла ў 2010-2011 гадох нарыхтаваць 7 тыс. куб.м драўніны (уключаючы 3,4 тыс. куб.м дзелавой), але было нарыхтавана, вывезена і рэалізавана каля 6 тыс. куб.м драўніны. Кантралёраў зацікавіла, дзе яшчэ тысяча кубамэтраў драўніны.

Апэратыўныя кантрольна-аналітычныя мерапрыемствы паказалі, што насамрэч распрацоўка лесасек не была завершаная аж да чэрвеня 2014 году: на лесасеках мелiся шматлікія недасекі і нестралёваная драўніна (ля карча, зваленая і расьпілаваная). Службовыя асобы Лёзьненскага лясгасу тлумачылі яе наяўнасьць тым, што за тры гады драўніну немагчыма было вывезьці ані зімой, ані летам. Нібыта за тры зімы ні разу не было моцных маразоў, а за тры лета – сухога надвор'я, якая дазваляла завяршыць тралёўку і вывазку драўніны.

У чэрвені бягучага году, прайшоўшы па дыяганалі ўсе 40 га праз былыя ясеньнікі (з прамыўным тыпам воднага рэжыму), кантралёры так і ня выявілі ніякай вільгаці, а ў жніўні перасох нават натуральны ручаёк. Таму ў Лёзьненскім лясгасе бы-

ла прызначаная пазаплянавая праверка.

Паводле дадзеных бухгальтарскага ўліку па гасразьліковай дзейнасьці ДЛГУ “Лёзьненскі лясгас” у 26-м і 28-м кварталах Залескага лясьніцтва лічылася 1250 куб.м нестралёванай ліквіднай драўніны агульным коштам Br295,2 млн. Драўніна была нарыхтаваная лясгасам ў 2010-2011 гадох і да пачатку праверкі (20 жніўня гэтага году) заставалася нестралёванай на лесасеках. Установа парушыла патрабаваньні, выкладзеныя ў лесарубных квітках на нарыхтоўку драўніны, тэрмін нарыхтоўкі якой з улікам адтэрміноўкі скончыўся 31 сьнежні 2012 году.

Да зьяўленьня кантралёраў ніхто і не спрабаваў, выкарыстоўваючы ідэальнае надвор’е мінулага лета, забраць 1250 куб.м драўніны зь лесасек. Такое становішча спраў можна расцаніць як абуральную безгаспадарлівасьць. Службовыя асобы лясгасу, якія праводзілі агляды месцаў высечак, не пазначылі наяўнасьць на двух лесасеках 412 куб.м лесапрадукцыі, а значыць, у акты былі ўнесеныя няпраўдзівыя зьвесткі.

Толькі падчас праверкі нарыхтаваная і ня вывезеная своечасова з кварталаў 26 і 28 Залескага лясьніцтва драўніна ў аб’ёме 1250 куб.м агульным коштам Br295,2 млн была прынятая бязвыплатна на ўлік лесагаспадарчай дзейнасьці (бюджэтнай) ДЛГУ “Лёзьненскі лясгас”, а ў бухгальтарскім уліку былі зробленыя адпаведныя запісы.

**08.10.2014** У Віцебску ў каналізацыйны бэтонны калодзеж упаў чатырохгадовы хлопчык. Дапамогі ў супрацоўнікаў МНС папрасіла маці дзіцяці. Ратавальнікі пры дапамозе лесьвіцы паднялі дзіця з калодзежа глыбінёй два з паловай мэтры. Для далейшага абсьледаваньня дзіця шпіталізаванае ў абласны шпіталь з папярэднім дыягназам «удар каленнага сустава».

Высьветлілася, што дзіця з маці шпацыравалі па асфальтаванай дарожцы ходнікаў уздоўж вуліцы Ленінградзкай. Дзіця адбегла ад маці на адлегласьць каля двух мэтраў і праваліліся ў калодзеж. На момант здарэньня калодзеж быў зачынены мэталёвай накрыўкай, якая перакулілася і правалілася ўнутар калодзежа пад вагай дзіцяці.

**08.10.2014** Жыхарцы вёскі Лужасна **Галіне Жураўлёвай** павінны былі прывезьці дровы, замяніць газавы балён, аднак у абодвух выпадках кіроўцы вымушана разварочваліся, а жанчына заставалася ні з чым. Праезд у завулку да дому № 18 па вуліцы М. Лынькова і да суседніх зямельных участкаў аказаўся перакрыты бэтоннымі плітамі, якія 17 верасьня гэтага году выгрузілі будаўнікі.

Адстойваць зямлю мясцовым жыхарам прыходзіцца не ўпершыню. Як абвяшчае афіцыйны адказ за подпісам намесьніка старшыні аблвыканкаму Э.Дзьям’янава аб разглядзе калектыўнага звароту ў рэдакцыю «Советской Белоруссии» наконт пытаньня канфіскацыі зямельных участкаў для будаўніцтва дамоў, квартал шматкватэрнай жылой забудовы ў Лужасна, які складаецца з 4 дамоў, быў распрацаваны УП «Інстытут Віцебсксельбудпраект» у адпаведнасьці з нормамі праектаваньня. Разьмяшчэньне забудовы на згаданай тэрыторыі аблвыканкам палічыў мэтазгодным з пункту гледжаньня кампактнай арганізацыі асяродзьдзя пражываньня

і эканомячым значныя сродкі на разьвіцьцё інжынэрна-транспартнай інфраструктуры. Разам з тым, паведамлялася ў дакумэнце, ўлічыўшы шматлікія звароты, на пачатку 2012 году было вырашана адмяніць будаўніцтва двух жылых дамоў з наяўных у праектнай дакумэнтацыі чатырох.

«Я асабіста езьдзіў на прыём да тагачаснага міністра архітэктуры і будаўніцтва Анатоля Нічкасава як прадстаўнік грамадзкасьці, – распавядае сын Галіны Іванаўны Ўладзімер. – І ў аблвыканкаме нас прынялі, выслухалі, усе патрабаваньні прызналі абгрунтаванымі і пагадзіліся выканаць. Але цяпер на чале ведамства іншы міністар, і там, мабыць, вырашылі, што пра дасягнутыя дамоўленасьці можна забыцца».

Жураўлёвы падкрэсьліваюць, што безь якіх-кольвек узгадненьняў зь мясцовымі жыхарамі на пачатку ліпеня гэтага году было адноўленае будаўніцтва дома і хуценька, без уліку інтарэсаў уласьнікаў зямельных участкаў, складзены новы плян, зь якім забудоўшчык ня даў людзям азнаёміцца да пачатку прац. Паабяцалі, праўда, згаданую дарогу не блякаваць, ды толькі атрымалася з дакладнасьцю да наадварот, і цяпер выключаная магчымасьць праезду ня толькі асабістага аўтатранспарту, але таксама камунальных і аварыйна-выратавальных службаў.

Галіна Іванаўна кажа таксама пра парушэньне права фізычных асоб на спрыяльнае асяродзьдзе пражываньня, якое прадугледжвае іхны ўдзел у горадабудаўнічым плянаваньні разьвіцьця тэрыторыяў, у тым ліку населеных пунктаў (згодна з артыкулам 4 Закону «Аб архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасьці ў Рэспубліцы Беларусь»). Прапанова старшыні Мазалаўскага сельскага савету Леаніда Дубіны пра будаўніцтва часовай дарогі па беразе Заходняй Дзьвіны, на яе думку, не вырашае праблемы, бо гэта магчыма толькі ў вельмі абмежаваных умовах, што дазволіць праехаць толькі легкавіку.

«Мне патрэбны дровы і сена на зіму, газавы балён, пляную куплю будаўнічых блёкаў – усё гэта патрабуе выкарыстаньня грузавой тэхнікі, у тым ліку прычапной, – кажа Г. Журавлева. – Нам не праезд да хаты заблякавалі, а перакрылі дарогу жыцьця».

**14.10.2014** Масавая гібель рыбы ў Аршанскім раёне зафіксаваная 14 кастрычніка ў вадасховішчы на ручаі Хатынь, які ўпадае ў рэчку Крапівенка. Інспэктары Аршанскай Дзяржінспэкцыі аховы жывёльнага і расьліннага сьвету супольна з супрацоўнікамі Аршанскай інспэкцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя правялі абсьледаваньне. Паводле папярэдніх дадзеных, крыніца забруджваньня – неачышчаныя сьцёкавыя воды сьвінагадоўчага комплексу.

На месца выклікаліся сьледча-апэратыўная група Аршанскага РАУС, прадстаўнікі сельгаспрадпрыемства, райвыканкаму, райвэтстанцыяў і МНС. У розных пунктах узятыя пробы вады для аналізу. Сабрана каля 6 тысяч асобін карася срэбнага агульнай вагой 455 кіляграмаў.

**16.10.2014** Стан гаўбцоў, падстрэшкаў і іншых элемэнтаў жылых дамоў у Віцебскай вобласьці часьцяком не адказвае патрабаваньням заканадаўства. Пра гэта паведаміла пракурор аддзелу па наглядзе за выкананьнем заканадаўства і закон-

насьці прававых актаў пракуратуры Віцебскай вобласьці Марына Рыжова.

Органамі пракуратуры Віцебскай вобласьці праведзены маніторынг выкананьня патрабаваньняў жыльлёвага заканадаўства ў сфэры забесьпячэньня захаванасьці і належнай эксплёатацыі жыльлёвага фонду. Выяўлена, што насуперак патрабаваньням артыкулаў 96 і 98 Жыльлёвага кодэксу Беларусі арганізацыямі, якія ажыцьцяўляюць эксплёатацыю жыльлёвага фонду і (або) аказваюць жыльлёва-камунальныя паслугі, не заўсёды належна ажыцьцяўляецца тэхнічнае абслугоўваньне жылых дамоў. Стан гаўбцоў і падстрэшкаў жылых дамоў часьцяком не адказвае прад'яўляным патрабаваньням.

Так, у горадзе Віцебску, Лепельскім, Глыбоцкім, Полацкім, Віцебскім, Аршанскім, Чашніцкім, Ушацкім і іншых раёнах вобласьці выяўленыя неадзінкавыя факты частковага абвалу гаўбечных канструкцыяў, неналежнага стану агародж гаўбцоў, наяўнасьці расколін на паверхні пліт падстрэшкаў жылых дамоў. “Гаўбцы і іншыя аварыйныя элемэнты будынкаў у большасьці выпадкаў знаходзяцца непасрэдна над ходнікамі і пешаходнымі дарожкамі, і іх абвальваньне можа нанесьці траўмы пешаходам, у тым ліку і дзецям”, – канстатавала Марына Рыжова.

На шэрагу гаўбцоў жылых дамоў па вуліцах Кірава, Дзімітрава і Еўсьцягнеева ў Віцебску часткова разбураныя канструктыўныя элемэнты. Большасьць гэтых збудаваньняў таксама знаходзяцца над месцамі руху пешаходаў, а адзін зь іх непасрэдна над уваходам у бібліятэку. У Віцебскім раёне неналежны стан гаўбцоў адзначаны ў вёсцы Задуброўе і аграгарадку Копці, дзе з мэтай недапушчэньня абвальваньня складовых частак гаўбцоў усталяваныя самаробныя апоры.

Аналягічныя парушэньні выяўленыя пры абсьледаваньні брылёў жылых дамоў, якія таксама не заўсёды адказвалі патрабаваньням тэхнічных нарматыўных прававых актаў: ня фарбаваліся, не ачышчаліся ад расьліннасьці, былі захламленыя бытавым сьмецьцем і г.д. (Бешанковіцкі, Лепельскі, Браслаўскі і іншыя раёны).

Падчас рэканструкцыі будынкаў і правядзеньня іншых рамонтных работ насуперак вызначаным патрабаваньням небясьпечныя ўчасткі не заўсёды агароджваліся, што таксама стварала небясьпеку для жыцьця і здароўя грамадзян.

Прыведзеныя парушэньні заканадаўства супярэчаць патрабаваньням дырэктывы №1 “Аб мерах па ўмацаваньні грамадзкай бясьпекі і дысцыпліны”, накіраванай на забесьпячэньне здаровых і бясьпечных умоў жыцьцядзейнасьці, папярэджаньне няшчасных выпадкаў і траўматызму. У гэтай сувязі пракуратурай вобласьці ў Віцебскі аблвыканкам унесенае прадстаўленьне аб ліквідацыі парушэньняў заканадаўства ў сфэры забесьпячэньня захаванасьці і бясьпечнай эксплёатацыі жыльлёвага фонду, прычын і ўмоў, што ім спрыяюць, у якім узьнятае пытаньне пра дысцыплінарную адказнасьць вінаватых службовых асоб.

**18.10.2014** Падчас падрыхтоўкі да «Дажынак» у Гарадку зьвяўся міні-палігон адходаў. Ён створаны мясцовымі чыноўнікамі каля Іванаўскага могілак.

Дзясяткі машын будаўнічага сьмецьця было выкінута за апошнія месяцы паміж прыпынкам для аўтамашын і старой тэрыторыяй могілак. Пры гэтым сьмецьце



Георгі Станкевіч

аказалася ня толькі цьвёрдым, але і рэштkамі пенапласту для уцяпленьня будынкаў.

Рэшткі пенапласту вецер разносіць па ваколіцах і ў лес. І ўжо залатой восеньню гэты "сьнег" бялее каля лесу. Летась такая несанкцыянаваная звалка была арганізаваная ў двары па вул. Пралетарскай, а цяпер вось ля таго месца, куды ўсе адпраўляюцца ў апошні шлях.

**08.11.2014 Актывіст Георгі Станкевіч** дамогся закрыцьця сьметніку пад Бешанковічамі.

Празь месяц пасьля яго звароту на наўпроставую лінію актывісту Георгію Станкевічу прыйшоў адказ зь Бешанковіцкага райвыканкаму. У лісьце паведамляецца, што Ранчыцкі мініпалігон зачынены, а вываз сьмецьця забаронены.

"Бешанковіцкі раённы выканаўчы камітэт на Ваш зварот наконт пытаньня закрыцьця мініпалігону для захаваньня цьвёрдых камунальных адходаў у н.п. Старыя Ранчыцы паведамляе, што з 01.11.2014 г. мініпалігон зачынены. Вываз і захаваньне адходаў забароненыя, пра што праінфармаванае насельніцтва раёну праз газэту "Заря"… Да 15 лістапада 2014 г. будзе зробленая прыборка прылеглай тэрыторыі, абмежаваны ўезд на тэрыторыю аб'екту, усталяваныя на скрыжаваньні дарог перад шлюзам і непасрэдна на мініпалігоне інфармацыйныя знакі пра спыненьне яго эксплёатацыі", – гаворыцца ў паведамленьні, атрыманым Георгіем Станкевічам з райвыканкаму.

**18.11.2014** Віцебскія эколягі ў бягучым годзе правялі 7250 абсьледаваньняў гарадзкіх тэрыторыяў і суб'ектаў гаспадараньня, 1074 кілямэтры прыдарожных палос аўтамабільных дарог, 156 тэрыторыяў водных аб'ектаў, 106 могілак і 913 тэрыторыяў садаводчых таварыстваў і гаражных каапэратываў. Выяўлена 405 несанкцыянаваных звалак, якія ліквідаваныя. Але на зьмену адным зьяўляюцца іншыя. Фактычна, вакол Віцебску сьціскаецца кольца несанкцыянаваных сьметнікаў.

Падчас чарговага рэйду эколягі выправіліся на тэрыторыю комплексу культурна-масавага адпачынку імя Савецкай Арміі (парк у Мазурына). Каля прыпынку «Вэтэран» на пляцоўцы часовага складаваньня сьмецьця ўбачылі пагрузчык, што працуе. Трактарыст **Руслан Цуранаў** толькі што загрузіў аўтамабіль бытавымі адходамі і чакаў чарговага: «За выходныя ў гэтым месцы зьбіраецца столькі сьмецьця, што трэба зрабіць восем рэйсаў, каб вывезьці ўсё, – дзеліцца гаваркі трактарыст».

«Увосень дачнікі вызваляюцца ад назапашаных бытавых адходаў, таму іх так шмат на пляцоўцы, – тлумачыць сытуацыю начальнік гарадзкой інспэкцыі пры-


Валер Фандо

родных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя **Валер Фандо** і дадае: – Пад гэтую марку відавочна выкідваюць бытавыя адходы і гараджане, якія едуць міма. Няхай, абы не засьмечвалі лесапаркавую зону».

Праехалі далей і ўбачылі несанкцыянаваную звалку непадалёк ад іншага прыпынку – «Улановічы-1».

«Відавочна, нейкі прыватнік напракудзіў. Цяпер паспрабуй знайдзі яго, – робіць здагадку Валер Фандо. – І галоўнае, мэтрах у ста ад крамы, каб прыкметней было!»

Не былі ачышчаныя кантэйнэры ад сьмецьця і на могілках у Мазурына, адны зь якіх належаць спэцкамбінату, другія – спэцаўтабазе. А вось з такім непарадкам, які ўбачылі на ўскрайку лесу па дарозе ў садоўніцкае таварыства «Бібіраўка», даўно не даводзілася сустракацца. Так званая кантэйнэрная пляцоўка была заваленая бытавымі адходамі і ўсякай усячынай.

Утварылася велізарная звалка вышынёй у некалькі мэтраў. Чаго тут толькі не было! Поліэтылен, старая мэбля, сапсаваныя яблыкі і нават плястыкавыя тубы з-пад тонэру для запраўкі картрыджаў… Гэта так «разраслася» стацыянарная кантэйнэрная пляцоўка, зь якой доўгі час не вывозілі сьмецьце. Наўрад ці толькі дачнікі пакінулі ўсё гэта «дабро» на фоне надзвычай прыгожага хвойніку.

**13.01.2015** Полацкія службы ачысткі вуліц труцяць пешаходаў рэагентамі, пасыпаючы тратуары для пешаходаў хімікатамі, прызначанымі для апрацоўкі аўтамабільных дарог. Але гэта не ратуе ад галалёду, што прыводзіць да траўмаў грамадзян, часам са сьмяротным зыходам.

Калі яшчэ не было сьнегу, полацкія камунальники рассыпалі па дарогах і ходніках белую сумесь супраць абледзяненьня. Па праспэкце Францішка Скарыны пешаходную дарожку засыпалі белым парашком. Складвалася ўражаньне, што выпаў сьнег. Жыхарам Полацку давялося ўвечары шпацыраваць па хімічных рэагентах, што выклікала абурэньне.

Грамадзяне сталі скардзіцца ў службу камунальнай гаспадаркі і райвыканкам. На адну з такіх скаргаў прыйшоў пісьмовы адказ ад намесьніка старшыні райвыканкаму Аляксандра Міхалевіча. З адказу вынікае, што пешаходныя ходнікі пасыпаюцца рэагентамі, прызначанымі для аўтамабільных дарог, і гарадзкія ўлады лічаць гэта нармальным.

Вось што піша спадар Міхалевіч: «Полацкі раённы выканаўчы камітэт, разгледзеўшы Ваш зварот, які паступіў на тэлефон “гарачай лініі”, паведамляе, што ў мэтах своечасовай і якаснай расчысткі ад сьнегу і наледзі вуліц гораду Полацкай спэцыяльнай базай па санітарнай ачыстцы гораду вядзецца работа па падсыпцы


Галіна Пілавец

процігалалёднымі сродкамі праезнай часткі і ходнікаў. Гэтыя работы праводзяцца ў адпаведнасьці з тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі (ТКП-100-2011 «Парадак арганізацыі і правядзеньня работ па зімовым утрыманьні аўтамабільных дарог» і СТБ 1158-2008 «Матэрыялы процігалалёдныя для зімовага ўтрыманьня аўтамабільных дарог. Агульныя тэхнічныя ўмовы».

Палачанін Алег абураны дзеяньнямі камунальнікаў: «Увечары немагчыма было прайсьціся па праспэкце, усюды быў параскіданы белы парашок, як пры хімічнай атацы. Людзі, што выгульвалі сабачак, вымушаныя былі насіць іх на рукох, каб іх не атруціць. Што яшчэ вельмі абурае – кучы гэтага рэагенту былі высыпаныя пад дрэвы, што можа прывесьці да гібелі дрэваў. Паглядзім, што будзе ўвесну, ці выжывуць яны».

Месьцічы наракаюць на дрэнную прыборку ходнікаў ад сьнегу. Палачанка Алена: «Гэта першая зіма на маёй памяці, калі абсалютна не пасыпаюцца пяском ходнікі… І вельмі дрэнна чысьцяць дарогі…»

Сьнег, што выпаў у студзені, мала дзе прыбіраўся на ходніках і ў дварох. ЖКГ практычна перасталі плаціць дворнікам за прыборку сьнегу. Пешаходы паступова ўтоптваюць сьнег і ўтвараюцца ледзяныя сьцежкі. Калі надыходзіць адліга, ходнікі ператвараюцца ў ледзяны каток. Так стала і 13 студзеня пасьля начнога дажджу пры тэмпературы 1 градус, калі палачане выйшлі з раніцы па страшным галалёдзе. У гэты дзень многім не ўдалося пазьбегнуць падзеньняў і ўдараў.

На самым шматлюдным прыпынку аўтобусаў, каля вакзалу, у гэты дзень раніцай памёр мужчына. Яго цела доўга ляжала на тратуары, накрытае плёнкай, пакуль міліцыя праводзіла сьледчыя дзеяньні. Хоць улады і кажуць пра сьмерць ад інсульту, але грамадзяне зьвязваюць сьмерць з падзеньнем на галалёдзе. Здагадка пацьвярджаецца тым, што пасьля сьмерці на гэтым месцы камунальныя службы тэрмінова арганізавалі прыборку сьнегу і лёду з ходнікаў.

**13.03.2015** У Віцебску прайшло грамадзкае абмеркаваньне наконт высечкі дрэваў ля бібліятэкі імя Леніна. Мерапрыемства адбылося 13 сакавіка побач з будынкам, на двары, з удзелам каля 30 чалавек. Грамадзкае абмеркаваньне выклікала ў горадзе вялікі рэзананс і шмат пытаньняў. Найперш, так і засталося незразумелым, хто быў ініцыятарам. **Каардынатар грамадзкага аб'яднаньня "Экапраект" Галіна Пілавец** то цьвердзіла, што арганізоўвалі яе грамадзкія актывісты, то спасылалася на гарвыканкам.

За ўдзельнікамі дыскусіі назіралі каля дзясятку супрацоўнікаў міліцыі, у тым ліку Аляксандар Каліноўскі – начальнік аддзелу аховы правапарадку МУС Віцебскага аблвыканкаму. Увага з боку праваахоўных органаў зьвязаная найперш з тым, што

жыхары Віцебску зь вялікім абурэньнем сустракаюць кожную ініцыятыву, якая тычыцца зьнішчэньня зялёных насаджэньняў. А грамадзкае абмеркаваньне якраз і тычылася высечкі 4-х дрэваў і 2-х кустоў бэзу каля бібліятэкі.

Асабліва шмат незадавальненьня жыхары гораду выказалі ў 2009 годзе, калі на загад тагачаснага старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца была праведзеная рэканструкцыя плошчы Перамогі, падчас якой зьнішчылі парк з рэдкімі дрэвамі. Віцебчукі дагэтуль папракаюць улады за ліквідаваную зялёную зону. Згадвалі пра гэта і падчас цяперашняга абмеркаваньня – дарэчы, першага ў Віцебску: раней высечкі дрэваў у знакавых месцах Віцебску не абмяркоўваліся ні разу.

Людзі канстатавалі: зьнішчэньне зялёных насаджэньняў працягваецца і цяпер, прычым ня так далёка ад бібліятэкі – каля рэстарацыі "Журавінка". Але ні "Экапраект", ні гарвыканкам абмеркаваньняў ня ладзіў. Дарэчы, на адкрытую крытыку жыхары Віцебску адважыліся пасьля таго, як пераканаліся, што ніхто ня будзе фіксаваць іх прозьвішчы. Бо напярэдадні на афіцыйным сайце гарвыканкаму зьявілася аб'ява, што на абмеркаваньне будуць пускаць толькі пры наяўнасьці пашпарту. Гэтая акалічнасьць шмат каго стрымала ад удзелу ў абмеркаваньні. Да ўсяго, і ладзілася яно ў нязручны час – а 10-й раніцы ў працоўны дзень.

Адна з удзельніц агучыла меркаваньне, зь якім пагадзіліся многія прысутныя: у Віцебску добраўпарадкаваньнем занадта часта называюць менавіта высечку дрэваў і пасадку новых, на якія выдаткоўваюцца грашовыя сродкі, замест таго, каб захоўваць тыя, што ўжо пасаджаныя. Засталося незразумелым таксама, да якой высновы прыйшлі ўдзельнікі абмеркаваньня. Не было ні галасаваньня, ні ўліку думак асобных жыхароў – мерапрыемства, здаецца, правялі "для галачкі".

**19.03.2015** На Хмяльніцкім пахаваньні стойкіх арганічных забруджвальнікаў, што пад Гарадком, выяўленае перавышэньне нарматываў пэстыцыдаў на сьвідравіне №3 ў дзесяткі разоў. Толькі Віцебскі аблвыканкам і Мінпрыроды сарвалі пляны яго ліквідацыі ў 2013-2014 гадох.

Лякальны маніторынг навакольнага асяродзьдзя ў жніўні 2014 году зафіксаваў на пахаваньні пэстыцыдаў у сьвідравіне №3 у ААТ "Гарадоцкі РАПЗ", што велічыня гексахлёрцыклягексану (ГХЦГ ) (сума ізамэраў) перавышала вызначаныя нарматывы ў 34,36 разоў, альфа-ГХЦГ – у 21,78 разоў, дэльта-ГХЦГ– ў 45,22 разоў.

У нацыянальны плян выкананьня забавязаньняў, прынятых Рэспублікай Беларусь па рэалізацыі палажэньняў Стакгольмскай канвэнцыі аб стойкіх арганічных забруджвальніках, у 2011-2015 гадох была ўключана ліквідацыя гэтага пахаваньня за кошт бюджэтных сродкаў Віцебскага аблвыканкаму і Мінпрыроды. Ліквідацыі Хмяльніцкае пахаваньне падлягала ў 2013-2014 гадох пасьля ліквідацыі буйнага Слонімскага пахаваньня, якое рабілася за кошт міжнароднай дапамогі.

Але гэтыя пляны завісьлі ў паветры, бо ў 2014 годзе ў Гарадку рыхтаваліся да Дажынак. І калі раней пра пляны Мінпрыроды і мясцовай улады па ліквідацыі небясьпечнага пахаваньня напачатку году паведамляла БЕЛТА, то сёлета "абяцанак" не чуваць.

**01.04.2015** У першым квартале 2015 году Віцебскім абласным камітэтам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя і інспэкцыямі праведзена

113 праверак суб'ектаў гаспадараньня. Праверкі па кантролі за выкананьнем прыродаахоўнага заканадаўства праводзіліся на прадпрыемствах сельскай гаспадаркі, лёгкай прамысловасьці, броварнай прамысловасьці, жыльлёва-камунальнай гаспадаркі, дрэваапрацоўкі, хлебпраму і інш.

Асноўнымі парушэньнямі, выяўленымі ў выніку праведзеных праверак, зьяўляецца адсутнасьць дакумэнтацыі, зьвязанай з узьдзеяньнем на навакольнае асяродзьдзе, неналежны стан вытворчых і прылеглых тэрыторыяў, несвоечасовае выдаленьне адходаў вытворчасьці, несанкцыянаванае захоўваньне адходаў, мэталялому, апонаў, парушэньне правілаў эксплёатацыі газаачышчальнага абсталяваньня, перавышэньне нарматываў дапушчальных выкідаў (скідаў) і іншыя.

Так, падчас правядзеньня праверак парушэньні прыродаахоўнага заканадаўства былі выяўленыя на СТАА «Вітканпрадукт». На тэрыторыі цэху «Бешанковічы» СТАА «Вітканпрадукт» было выяўленае забруджваньне драўняна-хмызьняковай расьліннасьці будаўнічымі адходамі і мэталяломам. Адсутнічаў улік першаснага водаспажываньня і водаадвядзеньня ў цэху па вырошчваньні куранят «Пастушкі». Парушаліся ўмовы, вызначаныя ў дазволе на спэцыяльнае водакарыстаньне, у цэху забою птушкі «Шуміліна», у частцы невыкананьня аб'ёмаў адвядзеньня сьцёкавых вод.

ААТ «Віцебскія дываны» былі парушаныя ўмовы, вызначаныя ў дазволе на спэцыяльнае водакарыстаньне, у частцы перавышэньня аб'ёмаў забору вады. У аздараўленчым лягеры «Буравесьнік» ААТ «Віцебскія дываны» парушаўся парадак першаснага ўліку выкарыстаньня вод.

На ААТ «Клясыка індустрыі моды» не забясьпечанае правядзеньне інструмэнтальных замераў фактычных парамэтраў працы газаачышчальнай устаноўкі. Не забясьпечаны своечасовы рамонт і паверка вадамераў павярхоўнага водазабору з ракі Заходняя Дзьвіна.

На ААТ «Віцебскі камбінат хлебапрадуктаў» не забясьпечанае правядзеньне інструмэнтальных замераў фактычных парамэтраў працы газаачышчальных установак таварыства. Мядзьведзкім хлебапрыёмным участкам парушаныя правілы эксплёатацыі газаачышчальных установак: на батарэйнай устаноўцы цыклёнаў асьпірацыйнай сыстэмы працоўнай вежы меліся месцы дэфармацыі карпусоў цыклёнаў, а таксама парушэньне гермэтычнасьці флянцавых злучэньняў. ААТ «Віцебскі камбінат хлебапрадуктаў» з 2013 году рабіла выкіды забруджвальных рэчываў на пляцоўцы Мядзьведзкага хлебапрыёмнага ўчастку ад збожжаачышчальна-сушыльнага комплексу КЗСВ-40г без дазволу на выкіды забруджвальных рэчываў у атмасфэрнае паветра, а таксама парушала ўмовы, вызначаныя ў дазволе на выкіды забруджвальных рэчываў у атмасфэрнае паветра. Шкода, прычыненая навакольнаму асяродзьдзю, склала 4,076 млн. рублёў.

У ходзе правядзеньня палявых мерапрыемстваў (рэйдаў) выяўлена:

ГП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтар "Задняпроўскі"» (Аршанскі раён): факт забруджваньня драўняна-хмызьняковай расьліннасьці камунальнымі адходамі, зношанымі апонамі тэрыторыі арашальнай помпавай станцыі сыстэмы гноевыдаленьня сьвінагадоўчага комплексу;

ААТ «Жвіранка» (Шаркоўшчынскі раён): факт несанкцыянавана разьмешчаных адходаў ад забою жывёлы на тэрыторыі за жывёлагадоўчым будынкам фэрмы «Жвіранка»;

ААТ «Сьцяг Перамогі Агра» (Пастаўскі раён): факт нерацыянальнага выкарыстаньня вады на воданапорнай вежы;

ААТ «Прыазёрны сьвет» (Шумілінскі раён): факт нерацыянальнага выкарыстаньня вады на воданапорнай вежы на жывёлагадоўчай фэрме Непароты.

Зафіксавана 7 фактаў забруджваньня атмасфэрнага паветра на суму 63,8 млн. рублёў. Шкода навакольнаму асяродзьдзю нанесены ААТ «БелВітуніфарм», ГУ «Рэспубліканскі сухотны шпіталь Сасноўка», РУП ЖКГ «Докшыцы камунальнік».

Выяўлена 8 фактаў прычыненьня шкоды водным аб’ектах на суму 471 млн. рублёў. Шкода водным рэсурсам нанесенае УП ЖКГ Лёзьненскага раёну, РУП ЖКГ «Докшыцы камунальнік», Полацкім КУП водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі і інш.

У галіне абыходжаньня з адходамі выяўленыя 23 факты прычыненьня шкоды навакольнаму асяродзьдзю на суму 32 млн. руб. Факты прычыненьня шкоды былі дапушчаныя КУСГП «Каханавічы», ЗАТ «Віцебскаграпрадукт», філіял Віцебскае ДРБУ №144 і інш.

**18.04.2015** Прадпрыемствы АПК Віцебскага раёну масава парушаюць прыродаахоўнае заканадаўства. Найбольш істотныя парушэньні прыродаахоўнага заканадаўства ў водаахоўных зонах і прыбярэжных палосах дапускаюць прадпрыемствы, якія маюць жывёлагадоўчыя аб’екты. Пра гэта паведаміла старшая памочніца пракурору раёну Натальля Барысенка па выніках праверкі сумесна з супрацоўнікамі міжраённай інспэкцыі аховы жывёльнага і расьліннага сьвету.

«Кантроль тычыўся выкананьня заканадаўства пра забарону і абмежаваньне гаспадарчай і іншай дзейнасьці ў водаахоўных зонах і прыбярэжных палосах водных аб’ектаў. Выяўлена, што юрыдычнымі асобамі, разьмешчанымі на тэрыторыі раёну, дапускаюцца парушэньні прыродаахоўнага заканадаўства, у частцы выкананьня патрабаваньняў артыкулу 77 Воднага кодэксу Рэспублікі Беларусь», – адзначыла супрацоўніца пракуратуры.

На фэрме КУСГП «Вымна» было зафіксавана значнае нагрувашчаньне вадкіх фракцыяў арганікі, складаваньне якой ажыцьцяўляецца без абвалоўкі. Праз схіл ад фэрмы арганіка трапляе ў яр, а пасьля – у возера Вымна. Апроч таго, тут арганізаваны несанкцыянаваны сьметнік бытавых адходаў, маецца нагрувашчаньне раскіданых парэшткаў жывёлаў. Аналягічныя парушэньні выяўленыя і падчас абсьледаваньня фэрмы «Варашылы» КУСГП «Пестуніца».

Небясьпечна для навакольнага асяродзьдзя працуе малочна-таварная фэрма «Котава» (КУСГП «Вымна»). Тут не даюць рады па вывазе арганікі і абвалоўцы месцаў яе захоўваньня, што стварае пагрозу забруджваньня ракі Вымнянка ў выпадку выпадзеньня багатых ападкаў.

**01.06.2015** На возеры Бараноўскае каля вёскі Канавалава Віцебскага раёну Віцебскай і Гарадоцкай раённымі інспэкцыямі прыродных рэсурсаў і аховы навакольна-

га асяродзьдзя супольна з Гарадоцкай міжраённай інспэкцыяй аховы жывёльнага і расьліннага сьвету быў выяўлены факт гібелі рыбы.

У выніку праведзеных апэратыўных мерапрыемстваў інспэктарамі быў выяўлены несанкцыянаваны скід сьцёкавых вод з разьмеркавальнага калодзежу прыёмнага рэзэрвуару ачышчальных збудаваньняў сьвінагадоўчага комплексу УП «Паўночны» Гарадоцкага раёну.

Сьцёкавыя воды па рэльефе мясцовасьці патрапілі ў меліярацыйны канал, які зьяўляецца часткай сеткі каналаў, злучаных з возерам Бараноўскае, паведамляецца ў прэс-рэлізе Віцебскага абласнога камітэту прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя.

Спэцыялістамі Віцебскай абласной лябараторыі аналітычнага кантролю зроблены адбор пробаў паверхневых і сьцёкавых вод. Атрыманыя вынікі аналізаў пацьвердзілі факт забруджваньня водных аб’ектаў.

УП «Паўночны» праведзеныя работы па ліквідацыі аварыйнай сытуацыі. Па фактах забруджваньня водных аб’ектаў і парушэньня правілаў эксплёатацыі водагаспадарчых збудаваньняў і прылад распачаты адміністрацыйны працэс, рыхтуюцца матэрыялы па прад’яўленьні прэтэнзіі аб кампэнсацыі шкоды, нанесенай навакольнаму асяродзьдзю.

**15.06.2015** У карпункт газэты «Рэспубліка» патэлефанавалі занепакоеныя вяскоўцы і паведамілі, што ў мікрараёне пасёлку Руба Віцебскай вобласьці няма чым дыхаць. На думку заяўнікаў, прадпрыемства па перапрацоўцы даляміту павялічыла выкіды пылу ў атмасфэру.

«Да суседзтва з прамыслоўцамі мы ўжо прызвычаіліся, – скардзяцца жыхары. – Але гэтым разам з-за куравых комінаў не відаць нават сам завод. Ані дзіця ў вазку вывезьці, ані бялізну на дварэ пасушыць, лісьце дрэў таксама ўсё ў пылу. Хай бы адмыслоўцы патлумачылі, у чым прычына і наколькі гэта шкодна для чалавека».

Разам з эколягамі журналісты выехалі на месца і пабывалі ў некалькіх вёсках, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасьці ад ААТ «Даламіт». Пагаварылі з жыхарамі аддаленай ад цэнтру вуліцы Яравай і вёскі Аўдзеевічы. Дамы першай зь іх знаходзяцца ў нізіне і аточаныя лесам, а таму ніякіх нараканьняў на завадчан ў мясцовых жыхароў няма. А вось у Аўдзеевічы, у залежнасьці ад моцы і накірунку ветру, далямітавы пыл часам трапляе. Тут вокны ў хатах адчыняюць з асьцярогай.

Асноўная колькасьць насельніцтва пражывае ў самой Рубе і Вярхоўі – звыш 7 тысяч чалавек. Падчас будаўніцтва заводу ўлічвалася ружа вятроў, і пыл вельмі рэдка трапляе ў буйныя населеныя пункты. У радыюсе пяці кілямэтраў – менш за дзясятак вёсак.

Жыхары, якім пэрыядычна даводзіцца дыхаць выкідамі, хвалююцца: хто і як кантралюе сытуацыю? Па тлумачэньні я зьвярнулася да загадчыцы Віцебскай абласной лябараторыі аналітычнага кантролю Натальлі Астапавай.

Чэрвень – не сэзон для даламітчыкаў. Але ўжо пры канцы ліпеня прадпрыемства павялічыць выпуск прадукцыі, і тады, вядома, будуць больш маштабнымі і выкіды.

Гендырэктар ААТ «Даламіт» Іван Бабак ня ўтойвае: «Праблема з ачысткай паветра, бясспрэчна, існуе. Дзейныя асьпірацыйныя ўстаноўкі састарэлі і маральна, і фізычна, яны адпрацавалі свой рэсурс. Самы новы цэх быў пабудаваны амаль 40 гадоў таму. Таму ў цяперашні час мы ўшчыльную займаемся пытаньнямі мадэрнізацыі прадпрыемства. Асаблівая ўвага пры вызначэньні тактыкі і стратэгіі яе правядзеньня – ачышчальным збудаваньням. Цяпер у нас дзейнічае трохступеньчатая сыстэма ачысткі паветра. Цыклёны двух відаў ствараюць завіхрэньне, у выніку чаго адсейваюць дробныя часьцінкі, плюс электрафільтры. Але такая тэхналёгія ўжо састарэла, зьявіліся больш эфэктыўныя рукаўныя фільтры. Менавіта іх мы і мяркуем задзейнічаць падчас рэканструкцыі. Хутчэй за ўсё, мадэрнізацыяй заводу будзе займацца кітайская карпарацыя «Сітык», спэцыялісты якой ужо маюць аналягічны досьвед працы ў Беларусі – яны пабудавалі тут тры цэментныя заводы. Цяпер займаемся праектам, нашы спэцыялісты знаёмяцца з працай калег у Тульскай вобласьці. Выберам канкрэтную тэхналёгію, потым будзем пралічваць крыніцы фінансаваньня. Патэнцыйныя кітайскія партнэры ўжо пабывалі ў Рубе. Абмеркавалі ўвесь цыкль – ад здабычы да адгрузкі прадукцыі. На першым этапе мадэрнізацыі спатрэбіцца прыкладна 25-30 мільёнаў эўра».

Гендырэктар «Даламіту» ўпэўнены, што пасьля абнаўленьня прадпрыемства незадаволенасьць грамадзян будзе зьведзеная на нішто.

Нягледзячы на тое, што довады кіраўніцтва ААТ «Даламіт» вельмі пераканаўчыя, з улікам тэлефанаваньня, які паступіў у рэдакцыю, эколягі ініцыявалі пазачарговую праверку прадпрыемства.

**15.06.2015** Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў дадзеныя аб ахове навакольнага асяродзьдзя за 2014 год. Сярод шматлікіх дадзеных па ахове прыроды падаюцца дадзеныя і пра забруджваньне атмасфэрнага паветра па гарадох і раёнах краіны з 2010 па 2014 год.

Так, па Гарадоцкім раёне за гэтыя гады назіраецца рост шкодных рэчываў, якія трапляюць у атмасфэру. Так, калі ў 2010 годзе ў атмасфэру было выкінута 900 тон забруджвальных рэчываў, то ў 2013 – 1500 тонаў, а летась – 1700 тонаў. Гэта прыблізна па 70 кіляграмаў шкодных рэчываў на кожнага жыхара раёну. Рост выкідаў шкодных рэчываў, такім чынам, за пяць гадоў склаў 188%.

Па гарадох вобласьці гэтыя паказчыкі значна меншыя па выкідах на аднаго жыхара: Віцебск – 10 кг, Ворша – 17 кг, Полацак – 27 кг. "Рэкардсмэнам" у краіне па выкідах на аднаго жыхара зьяўляецца Наваполацак – 481 кг.

Пры гэтым у Віцебскай вобласьці ўлоўліваецца і абясшкоджваецца самы малы працэнт шкодных рэчываў, што выкідаюцца ў атмасфэру, – 52,2%, пры агульнанацыянальным паказчыку ў 88,7%. Яшчэ меншая частка шкодных рэчываў улоўліваецца і абясшкоджваецца ў Гарадоцкім раёне. З тых 1700 тонаў шкодных рэчываў, якія трапілі ў атмасфэру ў раёне пераважна на дрэваапрацоўчых цэхах, улоўленыя толькі 500 тонаў – 34%.

## Супрацьдзеяньні рэалізацыі культурных правоў


Ірына Гаеўская

**03.08.2014** Віцебскі апэратар кабельнага ТБ ААТ «ВОТТЦ “Гарант”» спыніў трансьляцыю ўкраінскага тэлеканалу «Інтэр+». На яго ранейшай частаце цяпер вяшчаецца расейскі забаўляльны канал «Сарафан». У службе тэхнічнай падтрымкі апэратара па нумары «1-34» адключэньне ўкраінскага тэлеканалу пацьвердзілі. Паводле слоў супрацоўніка тэхпадтрымкі канал больш трансьляваца ня будзе, што, нібыта, зьвязана з тэхнічнымі непаладкамі сыстэмы, якая яго перадае.

На сайце іншага віцебскага правайдэра кабельнага тэлебачаньня ТДА «Перадавыя Тэхналёгіі» тэлеканал «Інтэр+» пакуль прысутнічае ў сетцы вяшчаньня. Ёсьць ён і ў тэлепраграме на наступны тыдзень, надрукаванай віцебскімі газэтамі.

**30.08.2014** У Воршы з будынку зьнялі мэмарыяльную шыльду Ўладзімера Караткевіча. Аршанцы абураныя дзеяньнямі прадпрымальніка, які не дазваляе вярнуць на набыты ім будынак шыльду і гарэльеф памяці іх земляка.

Шыльда і гарэльеф з выявай пісьменьніка з 1990 году былі на першым будынку вуліцы Караткевіча. Некалькі месяцаў таму яна зьнікла, калі ў будынку пачаўся рамонт. Цяпер ён скончаны, але шыльда на сваім ранейшым месцы не зьявілася.

У будынку, на сьцяне якога былі шыльда ў гонар Уладзімера Караткевіча і гарэльеф аўтарства талачынскага скульптара Юрыя Палякова, цяпер знаходзіцца Парытэтбанк. Аднак да зьнікненьня шыльды ў памяць пра славутага пісьменьніка гэтая ўстанова дачыненьня ня мае — банк арандуе гэты будынак. І супрацоўнікі банку, падобна, няёмка пачуваюцца ў гэтай сытуацыі: адразу скіроўваюць за рог будынку, дзе ўзьведзены высокі плот. А перад зачыненымі весьніцамі — перамоўнае прыстасаваньне.

Новы ўласьнік будынку — прыватны прадпрымальнік Уладзімер Андрэевіч Панасенка. Цяперашні будынак Парытэтбанку раней быў адміністрацыйным корпусам аршанскага піўзаводу. Пасьля закрыцьця прадпрыемства спадар Панасенка і набыў будынак. Потым там рабілі рамонт, і напачатку здавалася, што шыльда і гарэльеф вернуцца на сьвежапафарбаваную сьцяну. Але гэтага ня здарылася. І аршанцы непакояцца, што сьцяна так і застанецца пустой.

У двухстах мэтрах адсюль — аршанскі музэй Уладзімера Караткевіча. Там пра праблему з шыльдай і гарэльефам ведаюць. Пару месяцаў таму **дырэктар музэю Ірына Гаеўская** размаўляла са спадаром Панасенкам, ці зьбіраецца ён вяртаць на месца гарадзкую маёмасьць: «Я спыталася, на якіх падставах, навошта шыльду



Алесь Пушкін

зьнялі, і ці зьбіраецеся яе вяртаць. Ён сказаў: "Я вам зараз не скажу ні "так", ні "не". Гэта было ў ліпені, і ён сказаў — не кажу ні "так", ні "не"…»

Паводле Ірыны Гаеўскай, шыльда і гарэльеф цяпер знаходзяцца ў тым самым будынку. А што да пэрспэктывы, то Уладзімер Панасенка нібыта прапануе павесіць іх не на старым месцы, а насупраць — зрабіць праз вуліцу нейкі «мэмарыял», прафінансаваўшы ўвасабленьне гэтай ідэі асабіста.

Ніякіх прыкметаў узьвядзеньня «мэмарыялу» не відаць. І аршанцы кажуць, што гаспадар будынку ня мае рацыі, калі не вяртае на месца шыльду і гарэльеф.

**04.09.2014 Мастак Алесь Пушкін** разам з калегамі-мастакамі **Генадзем Драздовым**, **Рыгорам Батальёнкам**, **Лявонам Грыщуком** ды іншымі сябрамі Саюзу мастакоў і суполкі «Пагоня» праводзіць пленэр на месцы знакамітай Аршанскай бітвы. Паводле слоў мастака, на жаль, ушаноўваюць месца беларускай вайсковай славы не беларускія вайскоўцы, а творчыя людзі і грамадзкія дзеячы:

"Пішам поле само. Поле ў стане ўзараным, трактары на ім раскідаюць гной. У дзяржавы свая канцэпцыя сьвяткаваньня 500-годзьдзя слаўнай бітвы. На гэтым полі, дзе была бітва, якой можна ганарыцца, няма манумэнту. Ёсьць толькі дубовы крыж, усталяваны ў 1992 годзе. Каля гэтага крыжа ўсё ўзарана, ёсьць яшчэ камень з шыльдай "Вечная слава героям Аршанскай перамогі 1514 год". А таксама тры камяні ў гэтым годзе зьявіліся з выявамі Сапегі, Хадкевіча і гетмана Астроскага".

Па выніках мастацкага пленэру заплянаваная выстава прац мастакоў. 8 верасьня споўніцца 500 гадоў з дня перамогі 30-тысячнага войска ВКЛ Канстантына Астроскага ў Аршанскай бітве над 80-тысячным войскам Вялікага Княства Маскоўскага.

**05.09.2014** Побач з гісторыка-культурнымі і архітэктурнымі помнікамі Полацку былі ўсталяваныя шыльды з кароткім апісаньнем помнікаў. Зьявілася такая і ля «Барысава каменя», разьмешчанага на ўзгорку побач з Сафійскім саборам. Праўда, прыведзеная на ёй інфармацыя зьмяшчае шэраг недакладнасьцяў.

Пра гэта распавёў **гісторык Ігар Залілаў**: «"Не вер вачам сваім" – гэтыя словы зь вядомага афарызму Казьмы Пруткова паўсталі ў памяці пры аглядзе "Барысава каменя" – помніка манумэнтальнай эпіграфікі Беларусі першай паловы XII стагодзьдзя, які стаяў ля Сафійскага сабора ў Полацку. Дагэтуль быў упэўнены, што крыж, выбіты на яго паверхні ў тыя даўнія часы – чатырохканцовы. Аднак у суправаджальным тэксьце на інфармацыйнай пласьціне, разьмешчанай побач з ка-


Ігар Случак

менем, насуперак відавочнаму, сцьвярджаецца, што ён шасьціканцовы. Уважліва агледзеў яшчэ раз арыгінал малюнку на камені – крыж чатырохканцовы, які стаіць асновай на трохуступістым падножжы – Галгофе. Чытаю на пласьціне – "шасьціканцовы".

Не здымаючы даўно ўжо адзетыя акуляры, чытаю далей і са зьдзіўленьнем даведваюся, што, на думку складальнікаў тэксту, вёска Падкасьцельцы, у якой і ляжаў шматлікія стагодзьдзі гэты камень, разьмешчаная на правым беразе Заходняй Дзьвіны. Гляджу на захад, па цячэньні ракі, і з палёгкай пераконваюся, што вёска Падкасьцельцы, нават пасьля ўваходу ў склад Наваполацку, засталася на сваім спрадвечным месцы – на паўднёвым, левым беразе ракі Заходняя Дзьвіна.

Далей па тэксьце мы даведаемся, што парода гэтага каменя – "палявы шпат". Аднак у 1981 годзе, яшчэ да падняцьця каменя з рэчышча ракі, мною быў зроблены запыт на вызначэньне геалёгіі каменя ў Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР, на імя дырэктара Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага. У адказе на запыт, за подпісам старшага інжынэра інстытуту Вінакурава В. Ф. і малодшага навуковага супрацоўніка Рунца Е. П., парода каменя пазначаная як "граніт рапаківі", што ў перакладзе зь фінскай азначае "гнілы камень". Карэннае заляганьне гэтай пароды – Выбарскі масіў поўначы Ленінградзкай вобласьці. Дакумэнт гэты павінен захоўвацца ў архіве ГПІКЗ. А палявы шпат зьяўляецца толькі адным з кампанэнтаў сярод лушчака, кварца, рагавой падманкі і іншых складнікаў, якія ў выніку і ўтвараюць пароду гранітаў.

Чытаючы тэкст пласьціны са зьдзіўленьнем думаеш, – няўжо час знаходжаньня Барысава каменя ў Верхнім Замку згуляў зь ім злы жарт – ператварыў яго з граніту-рапаківі ў палявой шпат, а чатырохканцовы крыж у "шасьціканцовы"?»

**12.09.2014 Актывіст грамадзянскай кампаніі «Справаводзтва па-беларуску!» Ігар Случак** зьвярнуўся да дэпутатаў Нацыянальнага сходу, якія нарадзіліся па-за Беларусьсю, з прапановай выступіць з заканадаўчай ініцыятывай пра унясеньне зьменаў у закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», якія б дазволілі пашырыць ужываньне беларускай мовы ў афіцыйных зносінах з чыноўнікамі. Адным з адрасатаў прапановы стала дэпутат ад Полацкай гарадзкой акругі № 28 Натальля Гуйвік, у мінулым судзьдзя Полацкага гарадзкога суду, якая нарадзілася ў г. Кіраве (Расея).

Натальля Гуйвік адказала на прапанову (цытата паводле арыгіналу): «На мой погляд, Ваша прапанова на сённяшні дзень не з'яўляецца для краіны найбольш важнай і патрабуючай першачарговага вырашэння ў Палаце прадстаўнікоў, таму я лічу немэтазгодным у дадзены час выступаць з прапанаванай Вамі заканадаўчай ініцыятывай

цыятывай», – напісала дэпутат актывісту.

Дэпутатка Гуйвік запрапанавала аўтару звароту да яе зьбіраць подпісы: «Паводле часткі 1 артыкула 99 Канстытуцыі права заканадаўчай ініцыятывы належыць таксама грамадзянам, якія валодаюць выбарчым правам, у колькасці не менш як 50 тысяч чалавек. Такім чынам, Вы маеце права выступіць з заканадаўчай ініцыятывай самастойна, калі Вас падтрымае ў гэтым 50 тысяч грамадзян, якія валодаюць выбарчым правам».

«Іншымі словамі: тое, што я магу зрабіць сама, зрабі ты, Ігар, сам, але яшчэ і 50 тысяч подпісаў зьбяры. Чаму тады ў Парлямэнце ня Ігар Случак, а Натальля Гуйвік, калі яна сваёй працай не жадае займацца?» – пракамэнтаваў словы дэпутаткі ад Полацку Ігар Случак.

«Прадстаўніца Полацку, гораду, дзе зараджалася беларуская дзяржаўнасьць, і адкуль паходзіць першадрукар Скарына, ня лічыць пашырэньне беларускай мовы важным пытаньнем. Цікава, калі гэтае пытаньне стане важным? Тады, калі на мяжы апынуцца расейскія танкі, як гэта было ва Ўкраіне?» – задаецца пытаньнем актывіст.

**13.09.2014** Дом-вэтэран на вуліцы Калініна ў Віцебску зраўнавалі зь зямлёй. Жылы дом з 80-гадовай гісторыяй спыніў сваё існаваньне. Тое, што не змаглі зрабіць немцы за тры гады акупацыі і час за 80 гадоў, за два тыдні зрабілі цяперашнія гарадзкія ўлады. Дыхтоўны дом з тоўстымі цаглянымі сьценамі пятнаццаць дзён супраціўляўся будаўнічай тэхніцы.

Дом №2, на вуліцы Калініна, зносілі марудна і цяжка, мэтар за мэтрам, паверх за паверхам, пакуль на яго месцы не засталася куча будаўнічага сьмецьця. Іншыя старыя дамы ў Віцебску зносілі куды хутчэй, усяго за некалькі дзён. Разам са старадаўнім будынкам была зьнішчаная частка гісторыі гораду і памяць пра людзей, якія тут пражывалі. Сярод іх былі вядомыя артысты драматычнага тэатру імя Якуба Коласа.

Замест таго, каб дом адрамантаваць і зрабіць зь яго частку культурнай спадчыны Віцебску, яго проста сьцерлі з мапы гораду. Вуліца Калініна, якую задумалі зрабіць часткай музэйнага кварталу, пазбавілася аднаго з патэнцыйна цікавых аб’ектаў. Хаця, мабыць, на думку заказчыка і адначасова падрадчыка зносу, клюмба, разьбітая на гэтым месцы, будзе прыцягваць турыстаў куды больш.

**18.09.2014** Калектыўны ліст да Архіяпіскапа Віцебскага і Аршанскага Дзімітрыя падрыхтавалі мясцовыя краязнаўцы, занепакоеныя станам помніку архітэктуры, які належыць Віцебскай эпархіі праваслаўнай царквы. Ужо 10 гадоў будынак стаіць бяз даху, і аршанцы вымушаныя назіраць, як на іхных вачох рабураецца гістарычная каштоўнасьць, перададзеная мясцовымі ўладамі Віцебскай эпархіі.

«Нам даводзіцца зьвяртацца ўжо да Вас, каб не дапусьціць разбурэньня сьвятыні. Гаворка ідзе пра помнік архітэктуры XVIII стагодзьдзя, былы жылы будынак Аршанскага базылянскага кляштару, дзе пазьней разьмяшчаўся Сьвята-Пакроўскі праваслаўны мужчынскі манастыр і Аршанскае духоўнае вучылішча. Вас, магчыма, знаёмілі ўжо раней з гэтай праблемай: у кастрычніку 2013 году мы атрымалі

адказ на наш ліст да Мітрапаліта Менскага і Слуцкага, Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, зь якога вынікала, што наш ліст быў накіраваны Вам. На жаль, тады мы так і не дачакаліся ад Вас адказу. Але самае прыкрае, што мы не дачакаліся і дзеяньняў», — гаворыцца ў лісьце.

«Гэты будынак – прадмет мастацтва і памяць пра нашу гісторыю. Ён ёсьць фактычна напамінам пра лепшыя якасьці і здольнасьці нашых продкаў. Нарэшце, гэты будынак – пасланец вечнасьці, які сваім існаваньнем сьцьвярджае вечныя каштоўнасьці. Ён ня можа належыць аднаму чалавеку ці групе людзей, як мог бы належыць любы іншы будынак ці матэрыяльны аб'ект. Гэты будынак – агульнанацыянальная каштоўнасьць. Фактычна ён належыць усёй беларускай нацыі, усім яе прадстаўнікам, якія жывуць у Беларусі цяпер, жылі да нас, і будуць жыць пасьля нас. Валоданьне такім будынкам – гэта грамадзкая місія, якая накладае на ўладальніка дужа сур'ёзныя абавязкі. Цяперашні паўразбураны стан гэтага будынку, такім чынам, падрывае тыя асновы, на якіх трымаецца Вашая царква, фактычна абвяргае тое, пра што гаворыцца з амбонаў, штодня пярэчыць факту існаваньня праваслаўнай царквы як аб'яднаньня людзей на аснове прыярытэту духоўных каштоўнасьцяў», — пішуць аршанскія краязнаўцы і актывісты.

Прадстаўнікоў грамадзкасьці гораду абурае, што канструктыўнага адказу ім не ўдалося атрымаць ні на адзін са сваіх ранейшых лістоў, у якія б інстанцыі яны ні зьвярталіся. Адусюль ім пішуць толькі пра адно: за стан гістарычнага будынку адказвае гаспадар, адпаведна – Віцебская эпархія праваслаўнай царквы.

Аршанцы і многія неабыякавыя людзі зь іншых гарадоў спрабавалі дапамагчы ў справе кансэрвацыі будынку – ахвяравалі грошы на тое, каб над базыльянскім кляштарам узьвялі хаця б часовы дах. Аднак сканчваецца чарговы будаўнічы сэзон, неўзабаве пачнуцца восеньскія дажджы, а пра лёс сабраных грошай нічога не вядома, гаворыцца ў лісьце: «Нават стварэньне дабрачыннага рахунку скончылася непаразуменьнем. Пры агучаных раней немалых сабраных на ім сродках страчаны яшчэ адзін будаўнічы сэзон, на працягу якога можна было хаця б накрыць будынак часовым дахам. Між тым, у лісьце, падпісаным «адказнымі за адраджэньне Сьвята-Пакроўскага манастыра ў Воршы» ігуменьняй Анфісай (Любчак) і манахіняй Даніілай (Цяцьковай), было чорным па белым напісана, што працы будуць распачатыя ў красавіку. І мы не разумеем, чаму па ўсім горадзе растаўленыя скарбонкі, сродкі зьбіраюцца таксама падчас публічных мерапрыемстваў, арганізаваных праваслаўнай царквой, але гэтыя сродкі накіроўваюцца на будаўніцтва новых храмаў, у той час калі перададзеныя вашай царкве помнікі архітэктуры дзесяцігодзьдзямі не рамантуюцца і разбураюцца».

**14.10.2014** Базыльянскі кляштар у Воршы – па-ранейшаму бяз даху. Ці захаваецца, ці будзе адрэстаўраваны Базыльянскі комлекс у Воршы – гэтае пытаньне даўно хвалюе грамадзкасьць.

Гістарычны помнік перададзены праваслаўнай царкве і ўжо з 2004 году стаіць бяз даху. У двары комплексу ў апошні год зьявіліся новыя царкоўныя пабудовы з новым дахам. Між тым унікальны помнік разбураецца.

Комплекс Базыльянскага кляштару ў Воршы – унікальны помнік архітэктуры.



Ліліяна Карачун

На сёньняшні дзень ён перададзены праваслаўнай царкве, каля яго пабудаваная драўляная праваслаўная капліца з характэрнай "цыбулінай".

У 1758-74 гадох храм быў узьведзены ў цэнтры Воршы на правым беразе ракі Аршыцы ў стылі Віленскае барока. Першапачаткова гэта была вуніяцкая царква Апекі Маткі Боскай. Побач знаходзіліся жылыя корпусы кляштару базыльянаў. Пасьля адмены Вуніі і храм, і кляштар былі перададзеныя праваслаўным – там разьмясьціўся праваслаўны мужчынскі Пакроўскі манастыр і духоўнае вучылішча. Царква стала называцца Сьвята-Пакроўскай.

Саракамэтровы будынак храму ўзарвалі напрыканцы 60-ых гадоў. Аршанцы памятаюць, як гэта было, і сьцьвярджаюць, што нават у выглядзе руінаў царква выглядала велічна і пакідала моцнае ўражаньне. Сярод тых, хто бачыў, як зьнішчалі царкву, быў і вядомы **мастак Мікола Купава**, які зараз робіць дабрачынную акцыю – арганізаваў адмысловы аўкцыён і перадае грошы ад прададзеных карцін на рэстаўрацыю "базыльянаў".

Царкву ўзарвалі, а манастырскія корпусы на беразе ракі Аршыцы пакінулі. Доўгі час у іх былі камуналкі, у якіх жылі людзі. У сутарэньні разьмяшчалася хакейная сэкцыя, а на месцы ўзарванай царквы знаходзілася спартовая пляцоўка. Потым на месцы пляцоўкі пабудавалі Гарадзкую ўправу міліцыі. А ў 1994 годзе міліцыя пачала тут будаваць ізалятар часовага ўтрыманьня (ІЧУ), але ў той раз ўдалося адстаяць падмурак царквы. У 90-ыя гады тут плянавалі зрабіць карцінную галерэю, але на той момант у будынку кляштару яшчэ жылі людзі.

**26.11.2014** У Шаркоўшчынскім раёне ўзаранае месца з пахаваньнямі ахвяр гета. Іх забілі ў Другую сусьветную вайну падчас уцёкаў. Ніякага знака на пахаваньнях не было, але мясцовыя жыхары ведалі пра трагедыю і на тым месцы стараліся не касіць і не пасьвіць жывёлу. Гады чатыры таму мясцовае сельгаспрадпрыемства імя Маркава ўзарала гэты ўчастак зямлі. Гэтым летам тут пасьвілі быдла.

Пра даўнюю трагедыі распавяла жыхарка вёскі Радзюкі **Ліліяна Карачун**. Падчас вайны іх хутар стаяў побач зь месцам гібелі людзей. Нямецкія акупанты расстралялі з кулямёту жыдоў, уцекачоў з гета. Некалькі дзесяткаў чалавек былі пахаваныя на полі, побач зь цяперашняй дарогаю з Глыбокага на Шаркоўшчыну.

Мясцовыя жыхары, якія памятаюць пра трагедыю, спадзяюцца, што інфармацыя ў СМІ дапаможа годна ўшанаваць памяць пахаваных тут людзей.

**28.11.2014** У Гарадку да «Дажынак» паставілі помнік «Тарас на Парнасе». Аднак да


Таццяна Аляксеева

зьдзіўленьня мясцовых жыхароў цяпер помнік дэмантавалі.

Мясцовы сайт *Haradok.info* зьвязаў зьнікненьне помніку з барацьбой чыноўнікаў з магчымай карупцыяй: нібыта цана помніку ў 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў камусьці падалася падазрона высокай. «Паводле чутак, чыноўнікі ад казначэйства зьвярнуліся ў праваахоўныя органы наконт абгрунтаванасьці заяўленага кошту помніку і не атрымалі дабра на пералічэньне грошаў аўтарам помніку», — піша сайт.

Аднак відаць па ўсім, прычына дэмантажу помніку больш празаічная: чыноўнікі проста адмовіліся плаціць за помнік. Начальнік аддзелу ідэалягічнай работы, культуры і па справах моладзі Гарадоцкага райвыканкаму Натальля Гамзюк паведаміла, што помнік знаходзіўся ў Гарадку па дамове бязвыплатнага карыстаньня, і цяпер надышоў час вярнуць помнік яго ўладальніку — ААТ «Ліцейны двор».

**05.01.2015** На вышэйшую школу Віцебску насоўваецца русіфікацыя. Адна з найстарэйшых віцебскіх ВНУ – Віцебскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя Машэрава – мае ўсяго адну спэцыяльнасьць, непасрэдна зьвязаную з прафэсійнай падрыхтоўкай дзеля папулярызацыі беларускай мовы і навучаньня ёй. Гэта спэцыяльнасьць «Беларуская філялёгія (літаратурна-рэдакцыйная дзейнасьць)». На пачатку году ўнівэрсытэцкая адміністрацыя выказала прапанову яе ліквідаваць.

У Віцебскім дзяржаўным унівэрсытэце імя Машэрава вырашаецца пытаньне, зьліквідаваць ці пакінуць адзіную спэцыяльнасьць, зьвязаную з падрыхтоўкай настаўнікаў роднай мовы і журналістаў — спэцыяльнасьць «Беларуская філялёгія (літаратурна-рэдакцыйная дзейнасьць)». Пра гэта паведамілі ў прыёмнай камісіі ўнівэрсытэту.

**Таццяна Аляксеева**, якая працуе і ў прыёмнай камісіі і на катэдры беларускай літаратуры, распавяла пра сытуацыю: «Ведаеце, усё пад пытаньнем: мы чакаем адказу міністра адукацыі. Як ён вырашыць, так і будзе! А так — чакаем скарачэньня дзьвюх спэцыяльнасьцяў — фізыкі і беларускай філялёгіі. Так што чакаем! І вельмі сумна, што беларуская мова ў нас нікому не патрэбная!»

Летась на беларускую філялёгію набіралі 20 студэнтаў-бюджэтнікаў і 10 платнікаў на дзённае аддзяленьне, а яшчэ 8 бюджэтнікаў і 17 платнікаў — на завочнае. На платныя месцы вялікага попыту няма, на іх не набіраецца ахвотных. На бюджэтныя — штогод бывае конкурс, і прахадны бал — недзе сярэдні па ўнівэрсытэце: на дзённую форму навучаньня летась трэба было набраць 164 балы. Для параўнаньня: на прыкладную матэматыку — 147 балаў, на спэцыяльнасьць «матэматыка і інфарматыка» — 107.


Юры Бабіч

Паводле зьвестак супрацоўніка катэдры беларускай мовы, **дацэнта Юрыя Бабіча**, трывожныя чуткі пра скасаваньне беларускай філялёгіі ходзяць ужо працяглы час: «Чуткі былі небеспадстаўныя, бо адміністрацыя вырашала, якім чынам скасаваць некалькі дзясяткаў бюджэтных месцаў — за кошт якіх спэцыяльнасьцяў скасаваць. Але наколькі я ведаю, літаральна на працягу некалькіх гадзінаў зьявілася інфармацыя, што пытаньне вырашанае, і вырашанае станоўча! Вялікая барацьба тут ішла, але на цяперашні дзень і момант, наколькі мне вядома, адбіліся. Пакуль трымаемся. Але не магу сказаць, як там далей пойдзе».

Пра імавернасьць захаваньня адзінай і апошняй спэцыяльнасьці па беларускай філялёгіі выкладчыкі гавораць асьцярожна. Бо летась у красавіку яны ўжо перажывалі малапрыемныя пэртурбацыі: тады быў закрыты факультэт беларускай філялёгіі, які некалькі гадоў існаваў асобна. На чатыры месяцы «асірацелыя» катэдры беларускай мовы і беларускай літаратуры замацавалі за гістарычным факультэтам. Паводле інтэрнэт-прэзэнтацыі гэтага факультэту на афіцыйным сайту ВДУ, да яго яны належаць і дагэтуль. Хоць насамрэч абедзьве катэдры ўжо далучаныя да філялягічнага факультэту. Гэткая няўважлівасьць або неахайнасьць у стаўленьні да абітурыентаў, студэнтаў і выкладчыкаў у пэўнай ступені характарызуе і стаўленьне і да беларускай мовы як такой.

Што да абітурыентаў, то конкурс на беларускую мову быў невысокі — трошкі болей, чымся адзін чалавек на месца. Сказаць, што над задачай папулярызацыі спэцыяльнасьці ва ўнівэрсытэце мэтанакіравана працуюць — таксама нельга. Так, сёлета перастала дзейнічаць вочна-завочная школа «Беларуская філялёгія» для вучняў 11 клясаў агульнаадукацыйных школ і гімназіяў, якая займалася падрыхтоўкай і кансультаваньнем ахвотных паступіць у ВДУ.

Зьніжэньнем прэстыжнасьці настаўніцкай працы тлумачыць невысокія конкурсы і недаборы на факультэты Віцебскага ўнівэрсытэту **колішні выкладчык факультэту беларускай філялёгіі Сяргей Міхайлаў**: «Вядома, калі студэнты адчуваюць сваю незапатрабаванасьць у будучыні, то і набраць іх цяжэй! Калі на дзённым аддзяленьні не набіраецца 200 чалавек, то маюць законнае права факультэт закрыць. Вось у нас сёлета праблема з мастацка-графічным факультэтам — там толькі 196 чалавек. А філялягічны — адзін з найбольш маштабных, там асобна расейская філялёгія, ёсьць рамана-германская філялёгія, людзей паступае шмат, і за колькасьць яны „ня парацца“. Але, я лічу, беларускую філялёгію трэба пакінуць! Гэта ж ня толькі 20 бюджэтных месцаў — гэта дзьве катэдры, мовы і літаратуры, давядзецца скарачаць!»


Сяргей Міхайлаў

Беларушчыны ў Віцебскім дзяржаўным унівэрсытэце, які рыхтуе перадусім настаўнікаў для беларускіх школ, з кожным годам усё меншае. Афіцыйны сайт ВНУ ня мае беларускамоўнай вэрсіі, хоць прадубляваны па-ангельску, па-расейску, па-нямецку, па-кітайску і па-арабску. Тут, вядома, разьлік на замежных студэнтаў, якія навучаюцца за грошы.

Унівэрсытэцкая газэта «Мы і час» мае толькі назву на роднай мове: усе артыкулы на інтэрнэт-старонцы выданьня — па-расейску. На расейскай мове працуе і ўнівэрсытэцкае інтэрнэт-тэлебачаньне. На інтэрнэт-старонцы ўнівэрсытэту засталася толькі эмблема зь беларускамоўнай абрэвіятурай «ВДУ».

**06.02.2015** У Віцебску будзе зьнесены яшчэ адзін даваенны будынак — клюб лётчыкаў. Як вынікае з нататкі ў газэце «Віцьбічы», найбліжэйшым часам віцебскі мартыралёг будынкаў папоўніцца яшчэ адным «нябожчыкам»: будзе зьнесены будынак былога клюбу лётчыкаў на праспэкце Чарняхоўскага (пад дзіўным нумарам 13/99).

Гісторыю яго ўзьнікненьня яшчэ варта вывучыць. Старажылы сьцьвярджалі, што пабудаваны ён яшчэ да рэвалюцыі, што жыла тут чэлядзь апошняга ўладальніка маёнтку Лукішкі нейкага Паляжаева. Пасьля 1917 году будынак быццам бы пуставаў, а калі на пачатку 1930-х гадоў на тэрыторыі, дзе цяпер знаходзяцца мікраёны «Поўдзень-5» і «Поўдзень-6», распачалося будаўніцтва новага ваеннага аэрадрому, на яго зьвярнулі ўвагу і перабудавалі пад клюб лётчыкаў.

Насамрэч гэта, найхутчэй, ня так. Гэты будынак – аб’ект пабудовы 1930-х гадоў. Ён зьявіўся пры будаўніцтве ў Віцебску новага ваеннага аэрадрому і гарадка лётчыкаў на паўднёвай ўскраіне гораду. Прычым, адразу як клюб лётчыкаў. Да яго ўзьвядзеньня (як і ўсяго ваеннага аб’екту) мае непасрэднае дачыненьне адзін са стваральнікаў Ваенна-паветраных сіл СССР, адзін зь першых двойчы Герояў Савецкага Саюзу Якаў Смушкевіч (1902-1941), які ў гэты час камандаваў віцебскай авіяцыйнай брыгадай (перад адпраўкай у Гішпанію).

Апроч таго з гэтым будынкам, найхутчэй, зьвязанае знаходжаньне ў Віцебску дзясяткаў вядомых лётчыкаў, будучых герояў Вялікай Айчыннай вайны. Вось імёны толькі некаторых зь іх: двойчы Героі Савецкага Саюзу Б. Сафонаў, С. Супрун, Т. Хрукін, Героі Савецкага Саюзу А. Пушкін, І. Серапко, С. Шчаглоў, Н. Худзякоў, Н. Папівін, А. Сенатараў, генэрал-палкоўнік Г. Счотчыкаў і Г. Чучаў, генэрал-лейтэнанты С. Сінякоў, Н. Пермінаў, А. Златацьветаў, Я. Бялецкі і В. Сьцепічаў, генэрал-лейтэнант мэдычнай службы М. Зяцілаў, генэрал-маёры А. Аднавол і А. Сухарскі і інш. Тут жа ў розны час выступалі перад лётчыкамі «зоркі» савецкай эстрады і кіно – Л. Арлова, М. Ладыніна і інш., якія прыяжджалі ў Віцебск.

Падчас нямецка-фашысцкай акупацыі гэты будынак быў часткова разбураны, таму трэці яго паверх нават ня сталі аднаўляць, у 1960-я гады адрамантавалі двухпавярховым, прыстасавалі пад жытло. Як і да шмат якіх іншых жылых аб’ектау гораду, належнай увагі не надавалі. У выніку чаго ўжо пры канцы мінулага стагодзьдзя будынак прыйшоў у страшны стан. 20 гадоў таму назад (25 жніўня 1994 году), распавядаючы пра гісторыю гэтага будынку ў газэце «Народнае слова», аўтар гэтага матэрыялу выказаў пажаданьне аддаць яго ў прыватныя рукі для стварэньня тут, напрыклад, музэю гісторыі віцебскіх авіятараў.

За мінулыя дзесяцігодзьдзі нічога не зьмянілася: толькі адсялілі людзей, бо жыць у такіх умовах было немагчыма. А вось цяпер ужо афіцыйна «прысудзілі» аб’ект, які мае несумненную гістарычную каштоўнасьць, да зносу. Дарэчы, усьлед за многімі іншымі будынкамі, якія ня толькі можна было, але і трэба было проста адрамантаваць і выкарыстоўваць або пад жытло, або дзеля грамадзкіх патрэбаў.

На жаль, былым клюбам лётчыкаў віцебскі мартыралёг будынкаў, найхутчэй, не завяршыцца. Яго неўзабаве папоўніць яшчэ адзін помнік архітэктуры і гісторыі: былы клюб металістаў (ён жа Дом культуры Віцебскага раёну). Будынак ужо шмат гадоў не эксплёатуецца. Нядаўна яго перадалі тэатру “Лялька”, распрацавалі праект рэканструкцыі пад тэатар, але на выкананьне рамонтных работ грошай (як потым высьветлілася) не знайшлося.

**06.02.2015** Дом у Воршы, дзе жыў Уладзімер Караткевіч, застаўся без гаспадара. Ня выключана, што драўляную забудову  могуць зьнесьці, каб пабудаваць на гэтым месцы “шматпавярховік”. Менавіта ў гэтым доме пісьменьнік працаваў над першым варыянтам «Дзікага паляваньня караля Стаха», аповесьцю «У сьнягах драмае вясна», пісаў вершы.

Драўляная аднапавярховая хатка на былой вуліцы Касманаўтаў (цяпер вуліца імя Караткевіча) зьявілася ў пасьляваенным 1946 годзе. Грошай на будаўніцтва ў бацькоў пісьменьніка не было, і яны набылі дом у вёсцы і перавезьлі ў Воршу. Да цяперашняга часу дом зьмяніў некалькі гаспадароў, якія старанна захоўвалі памяць пра пісьменьніка-земляка і з задавальненьнем запрашалі ў двор экскурсантаў і гасьцей гораду.

Апошні гаспадар, Юрый Барабаш, які памёр 2 лютага, ня быў простым нашчадкам Караткевічаў. Шмат гадоў таму ён ажаніўся на дзяўчыне, якой апекаваліся бацькі пісьменьніка: падчас вайны Раіса страціла сваякоў, і Караткевічы прынялі яе ў сваю сям’ю.

Уладзімер і Раіса вырасьлі разам, а потым яна засталася жыць у гэтай хаце, якая стала для яе роднай. Сама Раіса Барабаш ужо памерла, а яе муж Юры да апошніх дзён, у вельмі пажылым веку, даглядаў «караткевіцкі» дом.

Цяпер далейшы лёс дому пакуль няясны. Распарадзіцца спадчыннай маёмасьцю маюць права сваякі: у Юрыя Барабаша засталася дачка, якая жыве ва Ўкраіне, а з найбліжэйшых сваякоў Уладзімера Караткевіча – пляменьніца, Алена Сінкевіч. Яна часта прыяжджае ў Воршу на ўрачыстасьці, прысьвечаныя дзядзьку, брату яе маці.

Аднак у Воршы ўжо некалькі гадоў ходзяць упартыя чуткі, што драўляную забу-


Аляксей Бухавецкі

дову па вуліцы Караткевіча хочуць зьнесьці, каб пабудаваць на гэтым месцы «шматпавярховік».

**19.02.2015** За пашкоджаньне помніку архітэктуры XII стагодзьдзя ў Полацку няма каго прыцягнуць да адказнасьці. Праектна-каштарысная дакумэнтацыя на правядзеньне газаправоду ў завулку Юбілейным у Полацку распрацоўвалася яшчэ Полацкім гарвыканкамам, які ў 2013 годзе быў рэарганізаваны. Як вынік, «прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці асоб, якія падпісалі акт выбару зямельнага ўчастку, не ўяўляецца магчымым».

Помнік археалёгіі – падмурак адной з пабудоў Барысаглебскага манастыра XII стагодзьдзя быў пашкоджаны падчас пракладкі газаправоду ў завулку Юбілейным. Гэты раён знаходзіцца практычна ў самым цэнтры старажытнага гораду і ўваходзіць у склад ахоўнай зоны гісторыка-археалягічнага музэю-запаведніку Полацку.

Паведаміў пра здарэньне полацкі **краязнаўца Аляксей Бухавецкі**.

Міністэрства культуры 6 лютага накіравала прадпісаньне ў Полацкі райвыканкам і Віцебскі аблвыканкам з патрабаваньнем прыпыніць правядзеньне земляных работ, забясьпечыць выкананьне Палажэньня аб ахове археалягічных аб’ектаў пры правядзеньне земляных і будаўнічых работ, зацьверджанага Саветам Міністраў.

Галоўнае ж патрабаваньне – атрымаць ад Міністэрства культуры дазвол на правядзеньне работ. Чаго зроблена не было, паведамляе «СБ».

Як патлумачыла начальнік аддзелу па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Натальля Хвір, усё што здарылася ў Полацку – прыклад або няведаньня, або ігнараваньня закону.

Як гаворыцца ў прадпісаньні Мінкультуры, мясцовым уладам варта было разам з Нацыянальнай акадэміяй навук «забясьпечыць ажыцьцяўленьне мер па ахове выяўленых археалягічных аб’ектаў». Прасьцей кажучы – павінен быў прысутнічаць археоляг з Інстытуту гісторыі НАН. У выпадку, калі былі б знойдзены падмуркі старажытнага будынку (што і адбылося), ён меў бы права прыпыніць работы.

У адказе Полацкага райвыканкаму сказана, што праектна-каштарысная дакумэнтацыя распрацоўвалася яшчэ ў 2012 годзе і тады «ў склад камісіі прадстаўнікі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музэю-запаведніку, зь невядомых прычын, уключаныя не былі».

Райвыканкам паведаміў, што работы прыпыненыя, а ў склад камісіі ўключаны

прадстаўнік музэю-запаведніку.

Аднак, як заўважыла Натальля Хвір, у Мінкультуры патрабавалі ня гэта. Тут так і не атрымалі ад полацкіх уладаў адказу на галоўнае пытаньне: чаму не было ад іх запыту на дазвол міністэрства і ніхто ня выклікаў археолягаў, безь якіх наогул ніякія дзеяньні на тэрыторыі, якая знаходзіцца пад аховай дзяржавы, праводзіцца ня могуць.

Усе гэтыя грубыя парушэньні, як гаворыцца ў прадпісаньні Міністэрства культуры, павінны пацягнуць адміністрацыйную адказнасьць вінаватых асоб.

У райвыканкаме заявілі, што «у сувязі з рэарганізацыяй ў 2013 годзе Полацкага гарвыканкаму прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці асоб, якія падпісалі акт выбару зямельнага ўчастку, не ўяўляецца магчымым».

**04.04.2015** У Полацку руйнуюцца помнікі Сімяону Полацкаму і Францішку Скарыну. Чытачы *charter97.org* дасылаюць фота полацкіх помнікаў, якія знаходзяцца ў недагледжаным стане зь віны гарадзкіх уладаў. Гарадзкія ўлады не сьпяшаюцца іх рамантаваць.

««Паглядзіце, вось як выглядае помнік нашаму Сімяону Полацкаму. Нікому няма справы! – піша чытач і дасылае фатаграфіі, што пацьвярджаюць яго словы. – З пастамэнту помніку Францішку Скарыну адвальваюцца камяні і пліты. Скульптура знаходзіцца ў самым цэнтры старажытнага гораду Беларусі, на плошчы Францішка Скарыны. Тут заўсёды шмат турыстаў, асабліва шмат іх у выходныя дні. І госьці зь іншых краін ня толькі бачаць, у якім стане знаходзіцца помнік, але яшчэ і фатаграфуюць гэта. Які сорам!» – піша чытач.

Каля яшчэ аднаго помніку ў цэнтры гораду – героям вайны 1812 году – зь мінулага году не працуе ніводзін ліхтар ніжняга падсьвятленьня.

**03.05.2015** Каля 20 крыжоў у месцы масавых пахаваньняў ахвяр канцлягеру «5-ы полк» (Stalag 313) у Віцебску зламаныя і валяюцца на зямлі. Таксама цалкам разламаны адзін з драўляных абэліскаў, другая пірамідка пазбавілася зоркі, яшчэ адна – пашкоджаная.

На месцы канцлягеру, дзе паводле савецкіх ацэнак загінула 80 000 ваеннапалонных і мірных грамадзян, у 1964 годзе быў усталяваны абэліск, а ў 2012 побач зь ім адкрылі капліцу. Аднак само месца, дзе знаходзяцца магілы, застаецца практычна не дагледжаным.

У нізіне з самымі буйнымі магіламі былі ўсталяваныя некалькі абэліскаў у выглядзе дашчаных пірамід з чырвонымі пяціканцовымі зоркамі ўверсе. Потым, у 1990-х гадох, гэтае месца было аточанае сымбалічнай агароджай з драўляных крыжоў.

Цяпер каля 20 гэтых крыжоў паваленыя. Большасьць зь іх, хутчэй за ўсё, упалі з натуральнай прычыны – адгнілі на ўзроўні зямлі. Падзеньне, выглядае, паскорыла і выпальваньне сухой травы, якое прайшлося па могілках з боку гаражоў. Аднак частка крыжоў разламаная, і іх папярочкі параскіданыя на такую адлегласьць, на якую не маглі адляцець пры падзеньні.

Цалкам разбураны адзін з абэліскаў – у яго адарваныя два бакі пірамiды і яны часткова разламаныя на асобныя дошкі. Наўрад ці такое пад сілу стыхіі – хутчэй за ўсё, тут былі прыкладзеныя чалавечыя рукі. На іншым абэліску таксама спрабавалі адарваць адну са сьценак. Яшчэ адна пірамідка пазбавілася зоркі, але тут, здаецца, іржа зрэзала цьвікі, якімі яна трымалася.

Цікава, што нядаўна тут праводзіліся работы – па пэрымэтры пахаваньня высаджаны некалькі дзясяткаў саджанцаў. Аднак усе разбурэньні пры гэтым пакінутыя як ёсьць. Другое па велічыні пахаваньне ахвяр нацыстаў у Беларусі, здаецца, нягледзячы на набліжэньне 70-годзьдзя Перамогі прыводзіць у парадак не зьбіраюцца.

**30.05.2015** Уначы на Пастаўшчыне на тэрыторыі экспазыцыйнага сэктару “Паазер’е” Беларускага дзяржаўнага музэю народнай архітэктуры і побыту згарэла адрына зь вёскі Лявонавічы Пастаўскага раёну, унікальны помнік традыцыйнага гаспадарчага дойлідства.

Зьнікае традыцыйная драўляная архітэктура. Кажучы пра аб’екты па ўсёй тэрыторыі Беларусі, якія адыходзяць у нябыт, – ніхто іх не дасьледуе, ніхто іх не фіксуе. Мінкульт адхіляе прапановы, каб найбольш яскравым прыкладам дойлідства надаць статус помніку.

А пра музэй наогул гаворка асобная. Навукова-асьветная установа нават не дасылае супрацоўнікаў у камандзіроўкі для вывучэньня і фіксацыі драўляных традыцыйных пабудоў. У лепшым выпадку сьпіхвае гэтыя праблемы на сельсаветы, быццам бы там спэцыялісты.

Ды ня толькі. Нават нармальна не забясьпечваюць захаваньне экспазыцыйных помнікаў на сваёй тэрыторыі. Ужо колькі год, як на тэрыторыі экспазыцыйнага сэктару “Паазер’е”, у музэі, скарочаны вартавы пост.

Як вынік, калі адбылося ўзгараньне адрыны, то пажарных выклікалі не вартаўнікі музэю, якія пажару не заўважылі пад час свайго пільнага нясеньня службы, а жыхары суседняй вёскі Азярцо. І яшчэ для паўнаты карціны безадказнасьці і абыякавасьці: на тэрыторыі музэю ёсьць ўласнае пажарнае дэпо на дзьве машыны.

## Факты карупцыі і злоўжываньня службовым становішчам

**10.07.2014** Сьледчы камітэт Беларусі расьследуе крымінальную справу аб карупцыі ў дачыненьні да шэрагу службовых асобаў зь ліку адміністрацыі ААТ "Віцебская бройлерная птушкафабрыка", паведамілі ў аддзеле інфармацыі і сувязі з грамадзкасьцю СК.

Справа была распачатая Генпракуратурай па матэрыялах УБЭП УУС Віцебскага аблвыканкаму. "Сёньня службовыя асобы затрыманыя, зь імі працуюць сьледчыя. Дзеяньні падазраваных кваліфікаваныя паводле ч.3 арт.424 КК Беларусі ("злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі")", – дадалі ў СК. Па крымінальнай справе праводзяцца працэсуальныя дзеяньні.

**15.07.2014** Гарадоцкім раённым аддзелам Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь расьследуецца крымінальная справа ў дачыненьні да першага намесьніка старшыні Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэту. Крымінальная справа распачатая пракуратурай Гарадоцкага раёну па матэрыялах праверкі супрацоўнікаў 7-га ўпраўленьня ГУБАЗіК МУС Рэспублікі Беларусь.

Сьледчыя мяркуюць, што чыноўнік, працуючы на пасадзе дырэктара ААТ "Гарадоцкі льнозавод", сумесна з галоўным бухгальтарам гэтага ж прадпрыемства, зьдзейсьніў службовую падробку і перавысіў свае службовыя паўнамоцтвы. Дзеяньні падазраваных кваліфікаваныя паводле ч.1 арт.427 (Службовы падлог) КК РБ. Санкцыі паводле гэтага артыкулу прадугледжваюць пазбаўленьне волі да 2 гадоў.

"З 31 студзеня па 1 лістапада 2013 году, раней працуючы на пасадзе дырэктара ААТ "Гарадоцкі льнозавод", сумесна з галоўным бухгальтарам гэтага ж прадпрыемства, дзейнічаючы з карысьлівай зацікаўленасьці, якая выявілася ў імкненьні пазьбегнуць прыцягненьня да матэрыяльнай і дысцыплінарнай адказнасьці за несвоечасовую выплату заработнай платы, унесьлі загадзя фальшывыя зьвесткі ў неабходныя для налічэньня заработнай платы даведкі, якія пасьля падалі ў банк, – паведамілі ў СК. – у даведках ж паказалі зьвесткі пра адсутнасьць забавязаньняў перад Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва, пры наяўнасьці фактычнай запазычанасьці".

У цяперашні час сьледчымі Гарадоцкага раённага аддзелу Сьледчага камітэту праводзяцца неабходныя сьледчыя дзеяньні. Першы намесьнік старшыні Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэту таксама падазраецца ў перавышэньні ўлады або службовых паўнамоцтваў.

Паводле вэрсіі сьледзтва, чыноўнік даў указаньні галоўнаму бухгальтару ААТ "Гарадоцкі льнозавод" аб унясеньні загадзя фальшывых зьвестак у афіцыйны дакумэнт, які адлюстроўваў скажоныя дадзеныя пра ўвядзеньне ў эксплёатацыю малочна-таварнай фэрмы, якая належыць ААТ "Гарадоцкі льнозавод". Крымінальная справа расьследуецца паводле ч.2 арт.426 (Перавышэньне ўлады або службовых паўнамоцтваў) КК РБ. Паводле гэтага артыкулу чыноўніку пагражае таксама ад 2 да 6 гадоў пазбаўленьня волі.

Імя чыноўніка, які знаходзіцца пад сьледзтвамі, не паведамляецца. Аднак, калі верыць афіцыйнай старонцы Гарадоцкай раённай адміністрацыі, пасаду першага на-

месьніка старшыні займае Ўладзімер Варонка.

**24.07.2014** Як паведамляе ўпраўленьне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Віцебскага аблвыканкаму, пры канцы 2012 году супрацоўнікамі БЭЗ была атрыманая апэратыўная інфармацыя аб тым, што службовая асоба, выконваючы абавязкі дырэктара дыягнастычнай станцыі ў Дуброўне, у сваім службовым габінэце атрымлівае матэрыяльныя каштоўнасьці за вырашэньне пытаньняў, што ўваходзяць у яго кампэтэнцыю.

Падчас правядзеньня апэратыўна-вышуковых мерапрыемстваў па праверцы гэтай інфармацыі на працягу 2012—2013 гадоў супрацоўнікамі служб па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Аршанскага і Дубровенскага РАУС было выяўлена 11 эпізодаў атрыманьня хабараў за праходжаньне тэхнічнага агляду і выдачу станоўчага заключэньня аб прыгоднасьці легкавых транспартных сродкаў, што належаць грамадзянам, да ўдзелу ў дарожным руху.

Судом Дубровенскага раёну былы выконваючы абавязкі кіраўніка дыягнастычнай станцыі асуджаны на падставе ч. 2 арт. 430 КК на пяць гадоў пазбаўленьня волі ў папраўчай калёніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці і пазбаўленьнем права займаць пасады, зьвязаныя з выкананьнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў на прадпрыемствах усіх форм уласнасьці, на тры гады.

**30.07.2014** Сьледчы камітэт паведамляе пра чарговае гучнае затрыманьне топ-мэнэджэраў, уключна з намесьнікам гендырэктара ААТ «Нафтан» і шэрагам кіраўнікоў прадпрыемстваў рэальнага сэктару эканомікі. Супрацоўнікі «Нафтана» ананімна апавялі, што затрыманы намесьнік генэральнага дырэктара па матэрыяльным і тэхнічным забесьпячэньні Сяргей Карась і тры ягоныя падначаленыя. Сярод іншага, затрыманыя асобы адказвалі за правядзеньне тэндэраў.

Цяпер галоўнае сьледчае ўпраўленьне праводзіць працэсуальныя дзеяньні па крымінальнай справе аб карупцыі ў дачыненьні да службовых асобаў ААТ «Нафтан». Пра гэта паведамляе агенцтва Інтэрфакс-Захад са спасылкай на аддзел інфармацыі і сувязі з грамадзкасьцю Сьледчага камітэту. Падставай для ўзбуджэньня крымінальнай справы паслужылі матэрыялы Галоўнага ўпраўленьня па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй Міністэрства ўнутраных спраў.

«У межах крымінальнай справы затрыманыя намесьнік генэральнага дырэктара і шэраг іншых службовых асобаў названага акцыянэрнага таварыства, а таксама кіраўнікі прадпрыемстваў рэальнага сэктару эканомікі. Ажыцьцяўляюцца сьледчыя дзеяньні, накіраваныя на ўстанаўленьне ўсіх абставінаў ўчыненьня гэтых злачынстваў», — паінфармавалі ў Сьледчым камітэце.

Дзеяньні падазраваных кваліфікаваныя паводле ч. 3 арт. 424 («Злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі») Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

**30.07.2014** Камітэт дзяржаўнага кантролю выявіў шматлікія парушэньні падчас рэстаўрацыі Сафійскага сабору ў Полацку. Яны абышліся бюджэту ў больш як 650 мільёнаў рублёў. Матэрыялы праверкі перададзеныя ў праваахоўныя органы для дачы прававой ацэнкі.

Як адзначае КДК, Сафійскі сабор у Полацку мае велізарную гісторыка-культурную каштоўнасьць для краіны, таму работы па яго рэстаўрацыі знаходзяцца на асаблівым кантролі. Між тым, нягледзячы на існуючую сур'ёзную сыстэму кантролю, без парушэньняў, у тым ліку і без адкрытага завышэньня кошту выкананых работ на гэтым аб'екце таксама не абышлося. Больш таго, мясцовыя ўлады праявілі проста дзіўную безадказнасьць, якая наводзіць на думку, што хтосьці з адказных асоб мог мець свой інтарэс на аб'екце.

Напрыклад, нягледзячы на выключную важнасьць Сафійскага сабору, мясцовыя ўлады аддалі падрадную замову прыватнай кампаніі, якая, паводле дадзеных КДК, нават ня мела штатных будаўнікоў. Арганізацыя, якая выйграла тэндэр, прыцягвала для выкананьня работ па дамове падраду беспрацоўных, якія стаяць на ўліку ў мясцовым цэнтры занятасьці. У прыцягнутых беспрацоўных нават не глядзелі дакумэнты, ці ёсьць у іх якая-небудзь будаўнічая кваліфікацыя. І гэта пры тым, што і ў вобласьці, і ў Полацку маюцца дзяржаўныя будаўнічыя арганізацыі з дасьведчанымі будаўнічымі кадрамі. Зразумела, што з такой арганізацыяй рэканструкцыі Сафійскага сабору і гаворкі не магло весьціся пра нейкую якасьць або захаваньне тэрмінаў выкананьня работ.

Так, паводле дадзеных КДК, з-за зьменаў і дапаўненьняў, што неаднаразова ўносіліся ў праект, працягласьць будаўніцтва аб'екту павялічылася ўдвая. Калі раней меркавалася правесьці ўсе работы за 13 месяцаў, што і было абумоўлена пры выбары падрадчыка, то потым тэрмін склаў 26 месяцаў. Працы на аб'екце, які мае важную гісторыка-культурную каштоўнасьць, таксама праводзіліся без выкананьня тэхналёгіі і безь неабходнага дасьледаваньня.

Напрыклад, да пачатку правядзеньня работ па рэстаўрацыі тынкоўкі заказчыкам не былі праведзеныя неабходныя дасьледаваньні па наяўных дэфэктах. У выніку пры замене шыбаў сабору быў парушаны цепла-вільготнасны рэжым памяшканьняў, што запатрабавала дадатковага прыладжаньня прытокавай вэнтыляцыі з мэханічным імпульсам. Але нават гэта ня выратавала тынкоўку, і падчас праверкі супрацоўнікі КДК выявілі шматлікія пашкоджаньні вонкавых сьцен. Карэктаваньне праекту па гэтым кірунку каштавала бюджэту дадаткова 90 мільёнаў рублёў.

Зрэшты, у кантралёраў знайшліся прэтэнзіі ня толькі да якасьці, але і сумленнасьці падрадчыка, які ўключаў у кошт работ усё што толькі магчыма: камандзіровачныя выдаткі, розныя кампэнсацыі і выплаты стымулюючага характару. У выніку агульнае завышэньне кошту работ на аб'екце склала 654 мільёны рублёў.

Матэрыялы праверкі КДК накіраваныя ў праваахоўныя органы, якія павінны даць прававую ацэнку дзеяньням ня толькі падрадчыка, але і службовых асоб з боку выканаўчай улады, якія зь незразумелай прычыны аддалі сацыяльна значны праект на выкананьне прыватнаму падрадчыку.

**05.08.2014** Супрацоўнік віцебскай ДАІ выкрыты ў атрыманьні хабару. "За першае паўгодзьдзе ў нас не было ні крымінальных дзеяньняў, ні парушэньняў дысцыпліны. На жаль, ліпень аказаўся адзначаны фактам даваньня хабару супрацоўніку ДПС ДАІ", — паведаміў у інтэрвію МУС Беларусі "На страже" начальнік УУС Віцебскага аблвыканкаму Ігар Яўсееў.

“Адрэагавалі жорстка: арышт праводзілі на інструктажы, у прысутнасьці яго калег. Апошнімі словамі чалавека, які аказаўся нячыстым на руку, сказанымі на адрас ужо былых калег, былі: “Не рабіце так, як я!” Паказчыкі нам сапсавала і ДТЗ, учыненае адным з участковых. Маем намер і надалей жорстка патрабаваць за кожнае парушэньне дысцыпліны, бо, патрабуючы выкананьня закону ад іншых, трэба найперш рабіць гэта самаму”, — заявіў начальнік міліцыі Віцебскай вобласьці.

**11.08.2014** Больш як на 600 мільёнаў рублёў былі завышаныя аб’ёмы будаўнічых работ на аб’ектах сыстэмы аховы здароўя ў Віцебскай вобласьці. Як паведаміў Камітэт дзяржаўнага кантролю, такая сытуацыя характэрная для будаўніцтва ўсіх сацыяльна значных аб’ектаў.

Паводле дадзеных Віцебскага аблвыканкаму, толькі ў 2013 годзе на рэканструкцыю дзеючых аб’ектаў аховы здароўя і на будаўніцтва новых вобласьць накіравала каля 300 мільярдаў рублёў. За кошт гэтых сродкаў быў пабудаваны першы дзевяціпавярховы корпус на 300 ложкаў у Віцебскім абласным клінічным шпіталі, у дзіцячым абласным клінічным шпіталі былі адкрытыя шэсьць новых апэрацыйных, а Віцебскі дзяржаўны мэдычны каледж змог рэканструяваць пад студэнцкі інтэрнат будынак былога прафілякторыя. Аднак, як адзначае Камітэт дзяржаўнага кантролю, нягледзячы на існуючую сыстэму кантролю за выдаткоўваньнем бюджэтных сродкаў на сацыяльна значных аб’ектах, практычна на кожным зь іх падчас праверак выяўляюцца завышэньні будаўнічых работ. Ня сталі выключэньнем і аб’екты аховы здароўя ў Віцебскай вобласьці.

Так, Камітэтам дзяржкантролю выяўленыя факты парушэньня заканадаўства з боку прыватнай будаўнічай кампаніі, якая ажыцьцяўляла функцыі падрадчыка пры будаўніцтве аднаго з аб’ектаў аховы здароўя ў Віцебску. Паводле дадзеных КДК, завышэньне кошту будаўнічых работ толькі па адным гэтым аб’екце склала 474 мільёны рублёў. Падчас праверкі супрацоўнікі КДК выявілі, што да аплаты падрадчыкам былі прад’яўленыя работы, выкананьне якіх не прадугледжвалася праектнай дакумэнтацыяй. Таксама заказчык зь незразумелай прычыны аплаціў падрадчыку работы, выкананыя з парушэньнем патрабаваньняў тэхнічных нарматыўных прававых актаў. Апроч таго, правяральнікі КДК выявілі, што пры будаўніцтве аб’екту аховы здароўя былі выкарыстаныя матэрыялы, якія не прадугледжаныя праектам. Пры гэтым кошт гэтых матэрыялаў быў значна завышаны ў параўнаньні з рэальным.

Падобную схему выпампоўваньня бюджэтных сродкаў КДК выявіў і пры рэканструкцыі аднаго з раённых шпіталяў Віцебскай вобласьці. Там падрадчык сьпісаў ў адыходы больш за 3 тоны арматуры на суму больш за 87 мільёнаў рублёў. Аналягічна, пры ўладкаваньні агароджы шпіталя падрадчык здолеў завысіць аб’ём сьпісанага мэталу на 2 тоны. Для гэтага спатрэбілася толькі зьмяніць сячэньне мэталічнага квадрату ўсяго на 1 мілімэтар. Таксама падрадчыку была аплачаная ўстаноўка 173 слупоў і 211 сэкцыяў агароджы, хаця насамрэч слупоў было ўсталявана 166, а сэкцыяў – 204. Паводле дадзеных КДК, агульнае завышэньне аб’ёмаў будаўнічых работ на гэтым аб’екце перавысіла 150 мільёнаў рублёў.

Матэрыялы праверак перададзеныя ў праваахоўныя органы для дачы прававой


Ганна Шарэйка

ацэнкі дзеяньням службовых асобаў, падрадчыкаў і заказчыкаў. Як адзначае КДК, для выяўленьня апісаных завышэньняў не патрабавалася якіх-небудзь адмысловых ведаў або навыкаў. Трэба было толькі трымаць вочы расплюшчанымі і добрасумленна выконваць свае абавязкі. Але заказчыкі зь дзіўнай прычыны нічога не заўважалі.

**11.08.2014** Сьледчым камітэтам працягваецца расьсьледаваньне крымінальнай справы ў дачыненьні да службовых асоб адкрытага акцыянэрнага таварыства «Нафтан». Пра гэта паведамілі ў Сьледчым камітэце. У цяперашні час пад вартай знаходзяцца 6 чалавек – 3 службовыя асобы прадпрыемства, уключаючы намесьніка генэральнага дырэктара ААТ «Нафтан», і тры прадстаўнікі суб’ектаў гаспадараньня прыватнай формы ўласнасьці.

«Выяўлена, што службовыя асобы прадпрыемства, дзейнічаючы групай асоб па папярэдняй змове з прадстаўнікамі камэрцыйных структур, наўмысна, насуперак інтарэсам службы зьдзейсьнілі дзеяньні з выкарыстаньнем сваіх службовых паўнамоцтваў, якія пацягнулі прычыненьне істотнай шкоды дзяржаўным інтарэсам і цяжкія наступствы ў выглядзе шкоды прадпрыемству ў асабліва буйным памеры. Гэта зьвязана з працэдурамі закупак і выкананьня кантрактаў прадпрыемства.

Нанесеная прадпрыемству шкода ў цяперашні час складае каля чатырох мільярдаў рублёў. Усім падазраваным прад’яўленыя абвінавачваньні. Частка зь іх ужо пачалі даваць паказаньні наконт сваёй супрацьпраўнай дзейнасьці і выказалі гатоўнасьць кампэнсаваць прычыненую шкоду», – заявілі там.

Дзеяньні службовых асоб кваліфікаваныя сьледзтвам паводле ч. 3 арт. 424 (злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, дзеяньні прадстаўнікоў камэрцыйных структур – паводле ч. 6 арт. 16 г. 3 арт. 424 (дапамаганьне ў злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. На маёмасьць абвінавачаных сьледчымі накладзены арышт. Падчас ператрусаў канфіскавана больш за паўмільёна даляраў ЗША, арыштаваныя сем дарагіх аўтамабіляў бізнэс-кляса, а таксама ювэлірныя вырабы.

**16.08.2014** У Генэральнай пракуратуры распавялі, за што **сябра Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Ганна Шарэйка** была пазбаўленая недатыкальнасьці.

У чэрвені бягучага году Генэральнай пракуратурай узбуджаная крымінальная справа ў дачыненьні да шэрагу службовых асоб ААТ “Віцебская бройлерная птушкафабрыка” па фактах злоўжываньня імі службовымі паўнамоцтвамі. Пра гэта паведаміла намесьнік начальніка аддзелу інфармацыі і сувязяў з грамадскась-

цю Генпракуратуры РБ Лілія Дзенісенка.

Выяўлена, што кіраўнікі птушкафабрыкі цягам некалькіх гадоў, уваходзячы ў склад конкурснай камісіі, прымалі рашэньні аб закупках кармоў і кармавых дабавак у замежнай камэрцыйнай структуры па завышаных цэнах, што пацягнула прычыненьне птушкафабрыцы шкоды ў суме больш за 4 мільярдаў рублёў, што зьяўляецца асабліва буйным памерам.

“Паводле наяўных дадзеных, генэральны дырэктар ААТ “Віцебская бройлерная птушкафабрыка” Шарэйка давала незаконныя ўказаньні чальцам конкурснай камісіі аб прызнаньні пераможцам конкурсу адной з замежных кампаніяў, з уладальнікам якой была ў сяброўскіх адносінах”, – распавялі ў Генпракуратуры.

14 жніўня на пазачарговай сэсіі Савету Рэспублікі сэнатары далі згоду на зьдзяйсьненьне крымінальнага перасьледу яшчэ аднаго свайго калегі – генэральнага дырэктара “Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі” Ганны Шарэйка. Гэта было зроблена пасьля запыту генэральнага пракурора.

У гэты дзень яна прызнаная падазраванай у зьдзяйсьненьні злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 424 КК (злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі). Паводле гэтага артыкулу прадугледжанае пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі на тэрмін ад 3 да 10 гадоў з канфіскацыяй або без канфіскацыі маёмасьці.

З санкцыі Генэральнай пракуратуры 15 жніўня 2014 году ў дачыненьні да Ганны Шарэйка прыменена мера стрыманьня ў выглядзе заключэньня пад варту.

Таксама было выяўлена, што ў выніку незаконных дзеяньняў Шарэйка ў кароткія тэрміны пабудавала дарагі катэдж плошчай 240 кв. мэтраў, набыла дарагую бытавую і электронную тэхніку, “забясьпечыла сабе матэрыяльны дабрабыт у будучыні”.

Папярэдняе расьследаваньне па гэтай крымінальнай справе ажыцьцяўляецца групай сьледчых цэнтральнага апарату Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь.

**28.08.2014** Малочна-таварная фэрма ў Сеньненскім раёне не дабудаваная па віне генпадрадчыка, паведамілі ў прэс-службе Камітэту дзяржаўнага кантролю. Аршанскі міжрайаддзел фінансавых расьсьледаваньняў Камітэту дзяржкантролю па Віцебскай вобласьці выявіў факты злоўжываньняў службовымі паўнамоцтвамі з боку дырэктара дзяржаўнага будаўнічага прадпрыемства.

Зьяўляючыся генэральным падрадчыкам па будаўніцтве малочна-таварнай фэрмы ў Сеньненскім раёне, прадпрыемства ў 2012 годзе атрымала больш за Br500 млн мэтавых авансаў для аплаты зялезабэтонных вырабаў (пліт перакрыцьця). Грошы былі выдаткаваныя за кошт крэдытнай лініі, адкрытай у банку заказчыку па будаўніцтву.

Нягледзячы на гэта на загад дырэктара будаўнічага прадпрыемства гэтую суму накіравалі на іншыя мэты – на пагашэньне крэдыторскай запазычанасьці і адсоткаў па раней выдадзеных крэдытах, выплату заработнай платы і адлічэньні ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

У выніку на аб’ект, які будуецца, дагэтуль не пастаўленыя ўсе неабходныя пліты

перакрыцьця, і, адпаведна, малочна-таварная фэрма ў эксплёатацыю ня ўведзеная. Такім чынам, дзеяньні дырэктара будаўнічага прадпрыемства прычынілі істотную шкоду дзяржаўным інтарэсам.

Па гэтым факце пракуратурай Аршанскага раёну распачатая крымінальная справа паводле часткі 2 артыкулу 424 (злоўжываньне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Максымальны тэрмін пакараньня паводле гэтага артыкулу прадугледжвае пазбаўленьне волі на тэрмін да шасьці гадоў з пазбаўленьнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасьцю. У цяперашні час па крымінальнай справе вядзецца папярэдняе сьледзтва.

**28.08.2014** Віцебская вобласьць зьяўляецца аўтсайдэрам паводле ўзроўню фінансавай дысцыпліны сярод рэгіёнаў Беларусі. Пра гэта заявіў выконваючы абавязкі старшыні Камітэту дзяржаўнага кантролю Леанід Анфімаў на паседжаньні калегіі КДК.

Віцебская вобласьць зьяўляецца “лідэрам” па выяўленых парушэньнях – падчас праверак выкананьня мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, іншымі арганізацыямі Віцебскай вобласьці бюджэтнага заканадаўства за 2012-2013 гады выяўленыя парушэньні на рэкордную суму ў Br48,3 млрд.

Аналягічныя праверкі былі праведзеныя ў Віцебскай вобласьці ў 2011 годзе, тады было выяўленае выкарыстаньне не паводле мэтавага прызначэньня, з парушэньнем заканадаўства, а таксама незаконнае атрыманьне бюджэтных сродкаў на агульную суму Br3,2 млрд. “Відавочна, што належных высноў кіраўнікі фінансавых службаў не зрабілі і парушэньні дапускаюцца зноў, па нарастаючай, – сказаў выконваючы абавязкі старшыні КДК. – Па-ранейшаму выяўляюцца факты парушэньняў аблвыканкамам заканадаўства пры арганізацыі бюджэтнага працэсу, а таксама парадку і ўмоў аказаньня дзяржаўнай падтрымкі”.

Штогод з абласнога бюджэту суб’ектам гаспадараньня вылучаліся немалыя фінансавыя сродкі ў выглядзе бюджэтных пазык. Аблвыканкам ажыцьцяўляў вяртаньне крэдытаў банкаў за неплацежаздольныя прадпрыемствы. Праблема вяртаньня гэтых сродкаў у бюджэт ня страчвае вастрыні. Аб’ём пратэрмінаванай запазычанасьці арганізацыяў па пазыках на пачатак 2014 году складаў Br47 млрд (30% сумы доўгу), а запазычанасьць па выкананых гарантыях – амаль Br690 млрд. “Прычына такога становішча ў тым, што бюджэтныя сродкі працягваюць вылучацца неплацежаздольным прадпрыемствам зь нізкай імавернасьцю вяртаньня даўгоў у прадпісаныя тэрміны”, – лічыць Леанід Анфімаў.

Так, дзяржпадтрымка ў выглядзе кампэнсацыі часткі адсоткаў за карыстаньне банкаўскімі крэдытамі з абласнога бюджэту ў 2012 годзе была аказаная 68 прадпрыемствам АПК на суму Br14,4 млрд, у 2013 годзе – 97 прадпрыемствам АПК на Br44,7 млрд. Прымаючы рашэньні аб аказаньні дзяржпадтрымкі ў выглядзе кампэнсацыі з абласнога бюджэту часткі адсоткаў за карыстаньне крэдытамі, аблвыканкам часьцяком ня ўлічваў дадзеныя аб выкананьні арганізацыямі умоў аказаньня дзяржпадтрымкі за ранейшы пэрыяд. Так, у 2012 годзе ня выканалі ўмоваў аказаньня дзяржпадтрымкі 207 арганізацыяў (57,3% ад тых, што атрымалі), у 2013 годзе – 293 арганізацыі (80,5%). Пры гэтым у 2013 годзе аблвыканкам не

прымаў рашэньняў пра захаваньне або адмену дзяржпадтрымкі арганізацыям, якія ня выканалі ў 2012 годзе ўмоваў яе аказаньня.

Аблвыканкам і аблсельгасхарч не зьдзяйсьнялі дастатковага кантролю за аказаньнем дзяржпадтрымкі і своечасовым павелічэньнем долі камунальнай уласнасьці вобласьці ў статутных фондах недзяржаўных юрыдычных асоб.

Леанід Анфімаў акцэнтаваў увагу на праблемах, выяўленых у жыльлёва-камунальнай сфэры: “Праверкі паказалі, што ў Віцебскай вобласьці не забясьпечваецца бюджэтная дысцыпліна пры выкарыстаньні сродкаў, выдзеленых на гэтую галіну”. У арганізацыях ЖКГ выяўленыя некаторыя парушэньняў: ад завышэньня кошту будаўнічых, рамонтных і мантажных работ і выдаткаў па добраўпарадкаваньні да завышэньня сабекошту жыльлёва-камунальных паслуг (на суму Br6 млрд), што пацягнула неабгрунтаваныя выплаты зь бюджэту субсыдыяў на пакрыцьцё часткі панесеных выдаткаў.

Такім чынам, рэзюмаваў Леанід Анфімаў, парушэньні бюджэтнага заканадаўства ў Віцебскай вобласьці носяць масавы характар. Мясцовыя органы ўлады ня ў поўнай меры рэалізуюць дадзеныя ім паўнамоцтвы па эфэктыўным і мэтавым выкарыстаньні дзяржаўных сродкаў. Тэрытарыяльныя фінансавыя органы і аблвыканкамы не заўсёды своечасова, у поўным аб’ёме і комплексна праводзяць працу па папярэджаньні і выяўленьні парушэньняў бюджэтнага заканадаўства.

Начальнік галоўнага ўпраўленьня кантролю бюджэтна-фінансавай сфэры КДК Аляксандр Курлыпо праінфармаваў, што на 25 ліпеня бягучага году па матэрыялах праверак прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасьці 13 юрыдычных асоб на суму Br482,8 млн і 27 фізычных асоб на суму Br20,4 млн. Да дысцыплінарнай і матэрыяльнай адказнасьці прыцягнутыя 39 службовых асоб. Вернутыя ў бюджэт Br11,7 млрд (з улікам адсоткаў), незаконна атрыманых і выкарыстаных з парушэньнем бюджэтнага заканадаўства.

Калегія Камітэту дзяржкантролю прапанавала Віцебскаму аблвыканкаму прыняць меры па ліквідацыі парушэньняў, поўным аднаўленьні незаконна атрыманых і з парушэньнем заканадаўства выкарыстаных бюджэтных сродкаў, а таксама разгледзець пытаньне аб прыцягненьні да адказнасьці вінаватых службовых асоб.

**08.10.2014** Першая крымінальная справа аб карупцыі падчас падрыхтоўкі да «Дажынак-2014» распачатая ў Гарадку. Намесьнік пракурора Гарадоцкага раёну Максім Зіновік распавёў пра крадзеж больш за чвэрць мільярду рублёў з заробкаў работнікаў Гарадоцкага прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак праз завышэньне заробкаў. Гэтае крымінальнае злачынства было зьдзейсьненае 49-гадовай бухгальтаркай КУВП «Гарадоцкае прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак» цягам 23 месяцаў падчас падрыхтоўкі і правядзеньня сьвята працаўнікоў вёскі Віцебскай вобласьці «Дажынкі-2014» у Гарадку.

Жанчына скрала грошы пры налічэньні і выплаце заработнай платы ў падрадных арганізацыях, якія выконвалі работы па капітальным рамонце жыльлёвага фонду ў раёне. Бухгальтар прадпрыемства за гэты час праз завышэньне ў плацежных даручэньнях сум, якія падлягалі выплаце ёй і работнікам прадпрыемства ў якасьці заработнай платы, выкрала 278 838 000 рублёў.

Распачатая крымінальная справа паводле ч. 4 арт. 210 КК Рэспублікі Беларусь (крадзеж праз злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі, зьдзейсьнены ў асабліва буйным памеры). У якасьці пакараньня артыкул прадугледжвае толькі пазбаўленьне волі на тэрмін ад пяці да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасьці і з пазбаўленьнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасьцю. Цяпер толькі поўнае пакрыцьцё шкоды можа дазволіць раскрадальніцы сустрэць пэнсію на волі.

**10.01.2015** Праваахоўныя органы выявілі ў 2014 годзе ў Віцебскім раёне 13 злачынстваў карупцыйнай і эканамічнай накіраванасьці, у тым ліку 7 злачынстваў, зьвязаных са злоўжываньнем уладай або службовымі паўнамоцтвамі, 2 крадзяжы праз злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі і 4 факты парушэньня правілаў аб зьдзелках з каштоўнымі мэталамі і камянямі, паведаміла старшы памочнік пракурора раёну Ірына Тарасевіч.

Найбольшая колькасьць такіх незаконных дзеяньняў зьдзейсьненая службовымі асобамі аграпрамысловага комплексу.

Так, Алена Міхайлава (імя і прозьвішча зьмененыя), выконваючы абавязкі галоўнага заатэхніка аднаго зь сельгаспрадпрыемстваў раёну, праз злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі зьдзейсьніла крадзеж 23 галоў кароў агульным коштам больш за 300 мільёнаў рублёў. Дзейнічаючы ў групе па папярэдняй змове з кіраўніцай малочна-таварнай фэрмы Аксанай Пятровай (імя і прозьвішча зьмененыя), з мэтай утойваньня крымінальнага факту і недастачы, што ўтварылася ў справаздачы ў кіраўніцы фэрмы, а таксама каб пазьбегнуць прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці галоўны заатэхнік наўмысна аддавала незаконныя ўказаньні Пятровай аб складаньні заведама фальшывых дакумэнтаў першаснага бухгальтарскага ўліку аб выбыцьці з прычыны паморку на кароў. Алена падпісала заведама падробныя дакумэнты, складзеныя Аксанай, і выдала іх у бухгальтэрыю прадпрыемства.

Паводле словаў Ірыны Тарасевіч, прысудам суду Віцебскага раёну Міхайлава прызнаная вінаватай у зьдзяйсьненьні злачынстваў, прадугледжаных часткай 3 артыкулу 210 і часткі 1 артыкулу 427 КК Рэспублікі Беларусь, ёй прызначанае пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі тэрмінам на 4 гады 6 месяцаў з канфіскацыяй маёмасьці і пазбаўленьнем права займаць пасады, зьвязаныя з выкананьнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў тэрмінам на 5 гадоў. Да яе таксама ўжытая частка 2 артыкулу 77 КК Рэспублікі Беларусь, і выкананьне пакараньня ў выглядзе пазбаўленьня волі адтэрмінаванае на 3 гады. Супрацоўнік пракуратуры зьвярнула ўвагу на тое, што ўжыць адтэрміноўку выкананьня пакараньня стала магчымым толькі пры кампэнсацыі абвінавачанай шкоды сельгаспрадпрыемству. У адваротным выпадку Міхайлава была б накіраваная ў месцы пазбаўленьня волі. Не ўдалося пазьбегнуць адказнасьці паводле крымінальнага артыкулу і Пятровай, якой яшчэ трэба будзе пачуць вэрдыкт суду.

**14.01.2015** У Віцебскай вобласьці часьцей за ўсё на хабарах пападаюцца лекары. Гэтая тэндэнцыя назіраецца ня першы год і звычайна вядзецца пра атрыманьне хабараў за незаконнае афармленьне бальнічных лістоў. У 2014 годзе за такія дзеяньні асуджаныя лекар-хірург палiклінікі № 4 у Воршы, лекар-тэрапэўт Талачын-

скай ЦРБ, лекар-нэўроляг Дубровенскай ЦРБ. Працягваецца расьследаваньне крымінальных спраў па фактах атрыманьня хабараў лекарам Навапалацкай гарадзкой паліклінікі № 1, загадчыкам аднаго з аддзяленьняў Дубровенскай ЦРБ.

За 2014 год у сфэры аховы здароўя на Віцебшчыне зарэгістравана 43 факты атрыманьня хабараў, на другім месцы – транспарт (22), на трэцім – прамысловасьць (5).

Самы буйны хабар ў 2014 годзе (паводле прысудаў, якія набылі моц) узяў міліцыянт, паведаміў старшы пракурор аддзелу па арганізаванай злачыннасьці пракуратуры Віцебскай вобласьці саветнік юстыцыі Ігар Марозаў: «Працу і рэпутацыю супрацоўнік праваахоўных органаў страціў за тысячу даляраў. Узнагароджаньне ён атрымаў за выкананьне дзеяньняў з выкарыстаньнем сваіх службовых паўнамоцтваў, якія выявіліся ў разгалошваньні абмежаванай для распаўсюду службовай інфармацыі».

Хабарніцтва – зборны тэрмін. Ён ахоплівае сабой тры самастойныя склады злачынства супраць інтарэсаў службы – атрыманьне хабару (арт. 430 КК), дача хабару (арт. 431 КК) і пасярэдніцтва ў хабары (арт. 432 КК). Усяго летась у Віцебскай вобласьці ўлічаныя 72 злачынствы паводле гэтых артыкулаў КК, атрыманьне хабараў склала 40,2 адсотку.

**22.01.2015** У Чашніках прыватызацыйны кошт кватэры перавышаў сапраўдны ў 2 разы. Як паведаміла пракурор аддзелу па наглядзе за выкананьнем заканадаўства і законнасьцю прававых актаў пракуратуры Віцебскай вобласьці Марына Рыжова, завышэньне кошту выяўленае падчас праверкі.

Выяўлена, што згодна з рашэньнем Чашніцкага райвыканкаму сям'і ў складзе трох чалавек была дазволеная прыватызацыя чатырохпакаёвай кватэры ў Чашніках. У адпаведнасьці са зробленымі разьлікамі і актам ацэнкі, кошт згаданай кватэры склаў Br331,6 млн.

Вывучэньне матэрыялаў па прыватызацыі паказала, што пры разьліках кошту гэтага жылога памяшканьня ацэначнай камісіяй быў няправільна прыменены індэкс зьмяненьня кошту будаўніча-мантажных работ, а таксама не былі ўлічаныя асобныя характарыстыкі прыватызаванай кватэры (вышыня столяў і інш.). У сувязі з гэтым пракуратура апратэставала рашэньне аб прыватызацыі. Паўторная ацэнка згаданага жылога памяшканьня паказала, што сапраўдны кошт кватэры складае каля Br165 млн.

Па выніках вывучэньня рашэньняў аб прыватызацыі Сеньненскага выканкаму ў студзені 2015 году пракуратура вобласьці вынесла 7 пратэстаў. Адначасова ў райвыканкам накіраванае прадстаўленьне пра ўстараненьне парушэньняў заканадаўства аб прыватызацыі жылых памяшканьняў, прычынаў і ўмоў, што ім спрыялі, у якім пастаўленае пытаньне пра дысцыплінарную адказнасьць вінаватых асобаў.

Марына Рыжова падкрэсьліла, што няправільная ацэнка аб'ектаў нерухомасьці, якія падлягаюць прыватызацыі, – самае распаўсюджанае з выяўленых парушэньняў.

Усяго за мінулы год і мінулы пэрыяд 2015 гаду па выніках праверак выкананьня

заканадаўства аб прыватызацыі жылых памяшканьняў органамі пракуратуры вобласьці ў тэрытарыяльныя гаррайвыканкамы ўнесеныя 16 прадстаўленьняў і прынесены 21 пратэст на рашэньні аб прыватызацыі.

Пракуратурай вобласьці ў Віцебскі аблвыканкам унесенае прадстаўленьне, па выніках разгляду якога за допушчаныя парушэньні заканадаўства да дысцыплінарнай адказнасьці прыцягнутыя 38 службовых асобаў.

**13.02.2015** Віцебскім абласным судом вынесены прысуд былым пракурору Шумілінскага раёну і яго намесьніку, абвінавачаным ва ўчыненьні злачынства, прадугледжанага часткай 3 артыкулу 430 КК. Справа слухалася ў закрытым судовым паседжаньні.

Як паведаміла прэс-сакратар Вярхоўнага суду Беларусі Юлія Ляскова, былыя пракурорскія работнікі прызнаныя вінаватымі ў прыняцьці службовай асобай, што займае адказнае становішча, для сябе матэрыяльных каштоўнасьцяў, перададзеных выключна ў сувязі зь яе службовым становішчам, за спрыяльнае вырашэньне пытаньняў, што ўваходзяць у яе кампэтэнцыю, за выкананьне ў інтарэсах хабарадавальніка якога-небудзь дзеяньня, якое гэтая асоба магла зрабіць з выкарыстаньнем сваіх службовых паўнамоцтваў (атрыманьне хабару), учыненым групай асоб паводле папярэдняй змовы, у буйным памеры.

На падставе часткі 3 артыкулу 430 КК судом былому пракурору Шумілінскага раёну прызначанае пакараньне ў выглядзе васьмі гадоў пазбаўленьня волі ў папраўчай калёніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці, пазбаўленьнем права займаць пасады, зьвязаныя з праходжаньнем службы ў праваахоўных органах і судох, на пяць гадоў. Намесьніку раённага пракурора — у выглядзе сямі гадоў пазбаўленьня волі ў папраўчай калёніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці, пазбаўленьнем права займаць пасады, зьвязаныя з праходжаньнем службы ў праваахоўных органах і судох, на пяць гадоў.

На падставе артыкулу 60 КК абодва пазбаўленыя спэцыяльных званьняў пракурорскіх работнікаў.

**23.02.2015** Крымінальная справа паводле карупцыйнага артыкулу ўзбуджаная ў дачыненьні да кіраўніка Віцебскага аддзяленьня Беларускай чыгункі, паведамілі ў пракуратуры Віцебскай вобласьці.

Па матэрыялах праверкі прадпрыемства КДК Віцебскай вобласьці, якая ладзіцца на падставе інфармацыі УКДБ, пракурорам вобласьці распачатая крымінальная справа паводле ч.3 арт.424 Крымінальнага кодэксу Беларусі (злоўжываньне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі) у дачыненьні да кіраўніка УП «Віцебскае аддзяленьне Беларускай чыгункі».

Зьяўляючыся службовай асобай, ў чэрвені 2013 году ён злоўжыў службовымі паўнамоцтвамі з карысьлівых меркаваньняў і ў мэтах атрыманьня грашовай пазыкі ў завышаным памеры аддаў распараджэньне сваім падначаленым падрыхтаваць неабходныя дакумэнты для атрыманьня ім асабіста грашовай пазыкі са сродкаў узначаленага ім прадпрыемства.

Гэтыя сродкі былі накіраваныя для аплаты пакупкі ў сваю ўласнасьць жылога па-

мяшканьня ў Віцебску на сям'ю з 5 чалавек. Пры гэтым у склад чальцоў сям'і, якія маюць патрэбу ў паляпшэньні жыльлёвых умоў, мужчына неправамерна уключыў сваю дачку, якая была ў шлюбе і мела ў сумеснай уласнасьці з мужам 2-пакаёвую кватэру ў абласным цэнтры.

У выніку незаконных дзеяньняў кіраўніка дзяржаўнаму прадпрыемству нанесеная шкода ў асабліва буйным памеры – 239,5 мільёнаў рублёў. Матэрыялы справы перададзеныя на разгляд ва ўпраўленьне Сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці.

**06.03.2015** Пракурорам Аршанскага раёну распачатая справа паводле часткі 1 артыкулу 210 КК (крадзеж шляхам злоўжываньня службовымі паўнамоцтвамі) у дачыненьні да дырэктара КУП «Аршанскае ПМС» (Прадпрыемства мэліярацыйных сыстэмаў). Кіраўнік прадпрыемства падазраецца ў крадзяжы будматэрыялаў больш як на 7 мільёнаў рублёў.

Санкцыя гэтага артыкулу прадугледжвае пазбаўленьне права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасьцю са штрафам, або абмежаваньне волі на тэрмін да чатырох гадоў са штрафам, або пазбаўленьне волі на тэрмін да чатырох гадоў са штрафам або без штрафу і з пазбаўленьнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасьцю.

На сайце Аршанскага ПМС сказана, што дырэктарам прадпрыемства зьяўляецца Крывін Андрэй Паўлавіч.

**22.03.2015** Каля 100 мільярдаў рублёў, укладзеных у мадэрнізацыю Віцебскай вобласьці, змарнаваныя.

Замарожаныя дзяржаўныя сродкі, неўстаноўленае абсталяваньне і неакупныя праекты на агульную суму каля Br100 млрд выяўленыя падчас сумеснай праверкі пракуратуры і КДК Віцебскай вобласьці. Такія дадзеныя былі агучаныя падчас сумеснага паседжаньня калегіі двух ведамстваў па пытаньні эфэктыўнасьці плянаў мадэрнізацыі і выкарыстаньня абсталяваньня.

Згодна з даручэньнем кіраўніка дзяржавы, дадзеным на нарадзе аб выніках працы рэальнага сэктару эканомікі ў 2014 годзе, КДК сумесна з пракуратурай правялі праверку вынікаў мадэрнізацыі ў арганізацыях прамысловасьці і будаўніцтва. “Кантрольна-аналітычныя мерапрыемствы паказалі, што на асобных прадпрыемствах мадэрнізацыя праводзілася, а выніку няма і не пралічваецца ў найбліжэйшай пэрспэктыве. Набытае абсталяваньне застаецца доўгі час неўстаноўленым, павярхоўна прапрацаваныя бізнэс-пляны правальваюцца. Растуць інвэстыцыйныя затраты, а чаканы эканамічны эфэкт не дасягаецца. Замарожаныя дзяржаўныя сродкі, не ўсталяванае ў тэрмін абсталяваньне і затрымкі ў рэалізацыі інвэстыцыйных праектаў на агульную суму каля Br100 млрд выяўленыя на прадпрыемствах рознай ведамаснай падпарадкаванасьці”, – канстатавала намесьніца старшыні КДК Віцебскай вобласьці Юлія Аўхукова.

Найважнейшыя парамэтры канкурэнтаздольнасьці выпускаемай прадукцыі не дасягаюцца, што спрыяе росту цэн, стратам рынкаў збыту. Напрыклад, экспарт будаўнічых паслуг па вобласьці ў 2014 годзе склаў толькі 23,8% ад заданьня, а экспарт будаўнічых матэрыялаў зьнізіўся на 28,5% у параўнаньні з 2013 годам. І гэта пры тым, што праводзілася мадэрнізацыя двух найбуйнейшых будаўнічых

прадпрыемстваў – Віцебскага ДСК і будтрэсту №16 Навапалацку. Ніводзін з праектаў не завершаны. На БМТ №16 на працягу трох гадоў не выкарыстоўваецца абсталяваньне, закупленае пры рэалізацыі інвэстыцыйнага праекту. Не запушчаная лінія аўтаматычнай падачы бэтону, у выніку аўтаматыка коштам Br5 млрд прастойвае, а прадпрыемства нясе дадатковыя выдаткі на падвоз бэтону транспартам. І гэткіх прыкладаў з будаўнічай сфэры на паседжаньні прагучала каля дзясятку. “Названыя факты сьведчаць пра недастатковую працу Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, аблвыканкаму па кантролі над своечасовым ажыцьцяўленьнем мерапрыемстваў па мадэрнізацыі і рацыянальным выкарыстаньні сродкаў на падведамных прадпрыемствах”, – падкрэсьліла Юлія Аўхукова.

Павышэньня кантролю патрабуе і праца прадпрыемстваў прамысловасьці. За нерацыянальнае выкарыстаньне сродкаў інавацыйнага фонду, зрыў тэрмінаў мадэрнізацыі і рэалізацыі найважнейшых інвэстыцыйных праектаў крытыцы падвергліся ААТ “Віцязь”, ААТ “Завод прыбораў аўтаматычнага кантролю”, КУП “Зара”, ААТ “Полацак-гандаль”, ААТ “БелВітуніфарм”. Таксама выяўленыя факты неэфэктыўнага выкарыстаньня ўстановамі аховы здароўя сродкаў на набыцьцё абсталяваньня. Адным з самых балючых пытаньняў застаецца сытуацыя з мадэрнізацыяй ў сыстэме АПК. Будаўніцтва малочна-таварных фэрм у асобных раёнах вядзецца вельмі маруднымі тэмпамі, маюцца факты пастаўкі няякаснага абсталяваньня. Але замест выстаўленьня прэтэнзіяў сельгасарганізацыі ўкладваюць сродкі ў куплю новага.

Кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацыяў прымаюць недастатковыя меры па захаванасьці абсталяваньня, дапускаюць факты безгаспадарчасьці, адзначыла начальніца аддзелу па наглядзе за выкананьнем заканадаўства і законнасьцю прававых актаў пракуратуры Віцебскай вобласьці Ірына Януковіч. Пракуроры на пастаяннай аснове праводзяць праверкі і маніторынг сытуацыі і фіксуюць як першасныя, так і паўторныя выпадкі парушэньняў. Падчас такіх кантрольных мерапрыемстваў было ўнесена дзесяць прадстаўленьняў і пяць прадпісаньняў. “Часта толькі пасьля ўмяшаньня пракурора кіраўніцтва прадпрыемства робіць захады па забесьпячэньні належнага захоўваньня закупленага абсталяваньня”, – дадала Ірына Януковіч.

У паседжаньні ўзялі ўдзел першы намесьнік старшыні аблвыканкаму Генадзь Грабнёў, прадстаўнікі Міністэрства прамысловасьці і Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, старшыні шэрагу райвыканкамаў і кіраўнікі прадпрыемстваў. Па яго выніках прынятыя абавязковыя для выкананьня рашэньні наконт вырашэньня адзначаных праблем.

**22.03.2015** Супрацоўнікамі падразьдзяленьняў па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Віцебскага аблвыканкаму і Лепельскага РАУС у выніку апэратыўна-прафіляктычных мерапрыемстваў, накіраваных на спыненьне злоўжываньняў з боку службовых асоб у сфэры будаўніцтва, у Віцебскай вобласьці выкрытая злачынная схема, у якую былі ўцягнутыя прадстаўнікі камэрцыйных структур і органаў дзяржаўнай улады.

Як паведамляе УУС Віцебскага аблвыканкаму, выяўлена, што на працягу 2009—2010 гадоў былы дырэктар КУП “Упраўленьне капітальнага будаўніцтва Віцеб-

скага аблвыканкаму" даваў незаконныя ўказаньні падначаленым работнікам на падпісаньне актаў з завышанымі аб'ёмамі выкананых работ пры будаўніцтве базавай школы ў вёсцы Літусава Сеньненскага раёну, а таксама аб'екту "Дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтар "Жамчужына" Лепельскага раёну, пададзеных двума дырэктарамі таварыстваў з абмежаванай адказнасьцю.

У сваю чаргу кіраўнікі камэрцыйных структур, ведаючы, што суб'екты гаспадараньня, якімі яны кіруюць, ня маюць права атрымліваць бягучыя авансы на названыя аб'екты будаўніцтва, арганізоўвалі падрыхтоўку, складаньне і падпісаньне актаў выкананых работ з указаньнем у іх наўмысна завышанага кошту, паказваючы адпрацоўку раней атрыманых імі бягучых авансаў у двайным памеры, пасьля чаго падавалі сфальсыфікаваныя дакумэнты ў КУП "УКБ Віцебскага аблвыканкаму". Гэтымі дзеяньнямі быў прычыненая матэрыяльная шкода ў памеры каля 1,5 мільярду рублёў.

Пры канцы 2012 году – пачатку 2013 году ў дачыненьні да службовых асоб былі распачатыя крымінальныя справы за перавышэньне ўлады або службовых паўнамоцтваў. Усе трое звольненыя з пасад і ўзятыя пад варту. У другой палове 2013 году расьсьледаваньне гэтых крымінальных спраў завяршылася. Разгляд спраў судом быў завершаны толькі пры канцы мінулага году.

У выніку былы дырэктар УКБ прызнаны вінаватым у наўмысным учыненьні дзеяньняў, якія яўна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, дадзеных яму па службе, што пацягнула істотную страту дзяржаўным і грамадзкім інтарэсам, учыненых з карысьлівай і іншай асабістай зацікаўленасьці. Ён асуджаны на адбываньне пакараньня ў выглядзе пазбаўленьня волі на тры гады і шэсьць месяцаў без канфіскацыі маёмасьці з адбываньнем пакараньня ў папраўчай калёніі ўзмоцненага рэжыму, з пазбаўленьнем права займаць пасады, зьвязаныя з арганізацыйна-распарадчымі функцыямі, на тры гады.

Былыя кіраўнікі камэрцыйных структур прызнаныя вінаватымі ў дапамаганьні ў наўмысным учыненьні службовай асобай дзеяньняў, якія яўна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, дадзеных ёй па службе, што пацягнула цяжкія наступствы, і асуджаны на тры гады пазбаўленьня волі без канфіскацыі маёмасьці з пазбаўленьнем права займаць пэўныя пасады на той жа тэрмін. У дачыненьні да аднаго зь іх прыменена адтэрміноўка выкананьня пакараньня на два гады, другі накіраваны адбываць пакараньне ў папраўчую калёнію ўзмоцненага рэжыму.

**31.03.2015** Набыў моц прысуд у дачыненьні да былога галоўнага бухгальтара Віцебскага цэнтральнага спартовага комплексу. Вэрдыкт суду: пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі тэрмінам на пяць гадоў з адтэрміноўкай выкананьня пакараньня на тры гады з пазбаўленьнем права займаць пэўныя пасады.

Як паведамляе ўпраўленьне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Віцебскага аблвыканкаму, супрацоўнікамі УБЭЗ УУС і АБЭЗ Першамайскага РАУС Віцебску ў выніку правядзеньня апэратыўна-вышуковых мерапрыемстваў, скіраваных на спыненьне фактаў крадзяжоў, што ўчыняюцца службовымі асобамі ў розных галінах эканомікі краіны, была выкрытая злачынная дзейнасьць былога галоўнага бухгальтара дзяржаўнай установы фізычнай культуры і спорту "Віцебскі ЦСК".

На працягу 2013 году праз неабгрунтаванае ўключэньне сябе ў сьпісы на налічэньне заработнай платы яна выкрала грашовыя сродкі ўстановы ў суме 92,7 мільёну рублёў. Таксама было выяўлена, што, працуючы на пасадзе галоўнага бухгальтара ЗП "Глобал-Віцебск", жанчына на працягу 2011-2012 гадоў праз неабгрунтаванае ўключэньня сябе і свайго сваяка ў сьпісы на налічэньне заработнай платы ўчыніла крадзеж грашовых сродкаў у суме 107 мільёнаў рублёў.

Пракуратурай Віцебску па гэтых эпізодах злачыннай дзейнасьці былі распачатыя справы на падставе частак 3 і 4 артыкулу 210 УК (крадзяжы шляхам злоўжываньня службовымі паўнамоцтвамі ў буйным і асабліва буйным памеры).

Судом Першамайскага раёну Віцебску пастаноўлены прысуд на падставе частак 3, 4 артыкулу 210 КК, паводле якога абвінавачаная была прыгавораная да адбываньня пакараньня ў выглядзе пазбаўленьня волі тэрмінам на пяць гадоў з адтэрміноўкай выкананьня пакараньня на тры гады, з пазбаўленьнем права займаць арганізацыйна-распарадчыя і адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады на пяць гадоў.

**01.04.2015** Упраўленьнем Сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці расьсьледуецца справа ў дачыненьні да начальніка Віцебскай абласной інспэкцыі рэспубліканскай установы "Дзяржаўная хлебная інспэкцыя" на падставе артыкулу 430 КК (атрыманьне хабару).

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласьці Іна Гарбачова, падчас папярэдняга сьледзтва выяўлена, што кіраўнік сыстэматычна атрымліваў хабар у выглядзе таварна-матэрыяльных каштоўнасьцяў за выдачу дазвольных дакумэнтаў на выкарыстаньне асобных відаў сыравіны пры вытворчасьці прадукцыі на прадпрыемствах вобласьці.

Службовай асобе інкрымінуецца прыблізна 50 эпізодаў злачыннай дзейнасьці.

**12.04.2015** Сьледчы камітэт распачаў крымінальную справу ў дачыненьні да былога дырэктара ААТ «Віцебскі садавінагародніны камбінат». Сьледзтвам выяўлена, што службовая асоба, каб пазьбегнуць прыцягненьня да дысцыплінарнай адказнасьці за неналежнае выкананьне службовых абавязкаў па скарачэньні складзкіх запасаў дало падначаленым работнікам заведама незаконнае распараджэньне па пахаваньні пад зямлёй 15 тон дзіцячага харчаваньня са скончаным тэрмінам прыдатнасьці, а таксама больш за 10 тон шклабою, паведаміла прэс– служба СК па Віцебскай вобласьці.

Шкода, прычыненая прадпрыемству злачыннымі дзеяньнямі, склала каля 200 мільёнаў беларускіх рублёў.

Дзеяньні падазраванага кваліфікаваныя сьледзтвам паводле ч. 3 арт. 426 (Перавышэньне службовых паўнамоцтваў) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

У цяперашні час расьсьледаваньне крымінальнай справы працягваецца. Асобная ўвага падчас расьсьледаваньня надаецца выяўленьню прычын і ўмоў, якія спрыялі зьдзяйсьненьню злачынства. Выкрываюцца факты безгаспадарчасьці і абыякавых адносін да маёмасьці прадпрыемства. Апроч таго, сьледзтвам ацэньваецца шкода, прычыненая навакольнаму асяродзьдзю падчас пахаваньня адыходаў у несанкцыянаваным месцы.

## Грамадзянскія ініцыятывы і акцыі




**04.07.2014** Падчас размовы **кааардынатара аргкамітэту БХД у Віцебскай вобласьці Тацьцяны Севярынец** з намесьнікам старшыні Віцебскага аблвыканкаму Анатолем Дзівуліным, апошні паабяцаў, што ў мікраараёнах Білева ў Віцебску "ўсё будзе". З гэтай нагоды актывісты БХД зладзілі флэш-моб наконт гэтых абяцаньняў.

Яны выйшлі на вуліцу з рондалем, да якога прыклеілі паперкі – назвы «страваў»: «пошта», «паліклініка», «дзіцячы садок», «школа» і інш. Да сябе актывісты прымацавалі паперкі з назвамі органаў ўлады – гар- і аблвыканкаму. Пасьля мінакам былі раздадзеныя аднаразовыя талеркі, у якія актывісты сталі «накладваць» чарпаком «стравы» з рондаля. Такім чынам яны «накармілі» месьцічаў абяцанкамі ад улады.

Актывісты БХД тлумачаць чаму яны зладзілі такі флэш-моб: «Шмат чаго зь неабходнага 20-ці тысячам насельніцтва Білева было ўжо паабяцана. 2010 год – паліклінічны комплекс, 2011 год – закрыцьцё палігону цьвёрдых бытавых адходаў; будаўніцтва сьмецьцеперапрацоўчага камбінату ў раёне Касачы-Копці за 30 кілямэтраў ад мяжы гораду, 2012 год – новая школа, 2014 год – дзіцячы садок. Абяцаюць улады і пошту. Але дагэтуль тут гэтых неабходных аб'ектаў няма», – распавяла ўдзельніца акцыі Тацьцяна Севярынец.

**08.07.2014** Віцебская абласная рада грамадзкага аб'яднаньня "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" зьвярнулася да прэм'ер-міністра Міхаіла Мясьніковіча і кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта Андрэя Кабякова з прапановай ушанаваць памяць Генадзя Бураўкіна.

У сваім звароце віцебскія сябры ТБМ адзначаюць вялікі ўклад у разьвіцьцё Беларусі, які ўнёс Генадзь Мікалаевіч Бураўкін як паэт, дзяржаўны і грамадзкі дзеяч. Усё яго жыцьцё – прыклад самаадданага служэньня сваёй Радзіме,— падкрэсьліваецца ў лістох.

Для ўшанаваньні памяці славутага земляка ТБМ прапануе наступнае:
Выдаць у дзяржаўным выдавецтве да 80-годзьдзя паэта выбраныя яго творы;
Усталяваць у Менску на доме, дзе жыў Генадзь Бураўкін, мэмарыяльную дошку;
Назваць у гонар Генадзя Бураўкіна вуліцы ў Менску, Полацку, Расонах;
Прысвоіць імя Генадзя Бураўкіна адной зь бібліятэк на радзіме паэта (на Віцебшчыне).

**22.07.2014** Лекцыя «Права на Мову» адбылася ў Наваполацку, у офісе мясцовай філіі Праваабарончага цэнтру «Вясна». Яе правёў вядомы **лінгвіст** і **грамадзкі дзяяч Вінцук Вячорка**. Падчас лекцыі разглядаліся праблемы дыскрымінацыі па моў-


Аляксандар Жучкоў

най прыкмеце падчас зваротаў у органы дзяржаўнай улады, мэтодыкі адстойваньня правоў на адукацыю на беларускай мове і інш. На найбліжэйшы час запляналаваны круглы стол, падчас якога будуць абмеркаваныя дакладныя захады ў Наваполацку па абароне правоў на карыстаньне беларускай мовай.

Таксама падчас мерапрыемства было праведзенае апытаньне слухачоў для высьвятленьня праблемаў, якія парушаюць правы навапалачанаў. Актывісты адзначылі, што найбольш значнымі ў Наваполацку праблемамі зьяўляюцца стан экалёгіі (першае месца ў краіне па выкідах шкодных рэчываў у паветра) і парушэньне права на свабоду мірных сходаў (за апошнія гады ў горадзе не было дазволена ніводнай акцыі). Найбліжэйшым часам па гэтых тэмах будуць арганізаваныя лекцыі і праведзеныя круглыя сталы.

**22.07.2014** На Глыбоччыне жыхары змагаюцца супраць дзеяньняў уладаў, якія перакрылі дарогу, якая вядзе з раённага цэнтру ў вёску Дзеркаўшчына. Гэта зьвязана з пагрозай афрыканскай чумы сьвіней, бо траса праходзіць каля сьвінакомплексу “Маліноўшчына”.

Дарогу спрабавалі перакрыць яшчэ мінулай восеньню, аднак жыхары на гэта ўвагі не зьвярнулі. Хтосьці нават скраў дарожныя знакі, што забараняюць праезд. Цяпер жа улады высыпалі на дарогу тры вялікія прычэпы жвіру. А вось знакаў пра аб’езд не паставілі.

Мясцовыя жыхары аб’яжджаць комплекс ня хочуць і ў сваім змаганьні карыстаюцца не зусім законнымі мэтадамі — зьнішчаюць знакі, што забараняюць праезд. Акрамя таго, вяскоўцы пракапалі праз кучу пяску праезд.

**24.07.2014** Удзельнікі кампаніі “Народны кантроль”, што ладзіцца актывістамі БХД, перадалі ў Віцебскі абласны і гарадзкі выканкамы, Віцебскі Савет дэпутатаў копіі подпісаў жыхароў мікрараёнаў Білева за будаўніцтва паліклінічнага комплексу. Арыгіналы подпісаў былі перасланыя ў Міністэрства аховы здароўя Беларусі. Прадстаўнікам уладаў было перададзена 4108 подпісаў на 271 аркушы.

Як распавяла **каардынатар аргкамітэту па стварэньні партыі “Беларуская хрысьціянская дэмакратыя”** ў Віцебскай вобласьці **Тацьцяна Севярынец**, прадстаўнікі ўладаў былі зьдзіўленыя такой колькасьцю подпісаў.

**25.07.2014** У Віцебску прайшла сустрэча з аргкамітэтам па сьвяткаваньні 500-годзьдзя Аршанскай бітвы. Імпрэза адбылася ў “Эўрапейскім клюбе”. Перад прысутнымі выступіў мастак, сябра Беларускага саюзу мастакоў, ураджэнец Воршы, **намесьнік старшыні аргкамітэту Мікола Купава**, які распавёў пра гістарычную бітву і яе адлюстраваньне на знакамітай карціне невядомага мастака “Бітва пад



Андрэй Мельнікаў

Воршай", якая захоўваецца ў Варшаўскім мастацкім музэі. Копію карціны можна ўбачыць у аршанскім касьцёле сьвятога Язэпа.

Разам з **палітолягам** і **грамадзкім дзеячом Аляксандрам Жучковым** спадар Купава падзяліўся ўласнымі культуралягічнымі досьледамі пра гісторыю стварэньня карціны, а таксама расказаў пра праграму сьвяткаваньня 500-гадовага юбілею бітвы, якая адбылася 8 верасьня 1514 года паміж 30-тысячным войскам ВКЛ пад камандаваньнем Канстантына Астроскага і 80-тысячным войскам Маскоўскага княства. Бітва скончылася бліскучай перамогай войска ВКЛ, якая мела вялікае гістарычнае значэньне для тагачаснай Эўропы.

Сустрэчу завяршыў выступ **Андрэя Мельнікава**, **паэта** і **барда**, аднаго з пачынальнікаў бардаўскага фэсту, які праводзіцца ў памяць пра ўдзельнікаў Аршанскай бітвы ў першыя выходныя верасьня ў Аршанскім раёне.

**04.08.2014** У розных пунктах віцебскіх мікрараёнаў Білева актывісты аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» правялі флэшмобы – «зборы сродкаў для ўладаў».

«На ўсе нашы звароты, на шматысячныя подпісы гараджанаў аб будаўніцтве сьмецьцеперапрацоўчага заводу, паліклінічнага комплексу і іншых важных для Білева аб'ектаў улады стабільна адказваюць, што ў іх няма грошай», – патлумачыла сэнс акцыі **каардынатар аргкамітэту БХД у Віцебскай вобласьці Тацьцяна Севярынец**.

**09.08.2014** Жыхарам Віцебску ўдалося дамагчыся «амаль цьвярозай» зоны адпачынку. Пасьля масавых зваротаў да гарадзкіх уладаў, складаньня інтэрнэт-пэтыцыяў і скаргаў у розныя інстанцыі просьба аматараў актыўнага правядзеньня часу была задаволеная: у зоне адпачынку на набярэжнай Віцьбы больш не прадаюць моцных сьпіртовых напояў.

Гарадзкі аб'ект – набярэжная Віцьбы разам з часткай парку імя Фрунзэ – будаваўся найперш для заняткаў спортам і шпацыраў зь дзецьмі, якія цяпер вымушаны назіраць п'яныя кампаніі і слухаць непрыстойную лаянку. Такі пункт гледжаньня выказалі аўтары інтэрнэт-пэтыцыі на імя старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца, і тыя, хто яе падтрымаў.

У звароце вялася размова пра шматлікія харчовыя пункты, дзе гандлююць моцнымі напоямі. І пра тое, што ў сувязі з празьмерным ужываньнем алькаголю на тэрыторыі парку рэгулярна назіраюцца непрыстойныя паводзіны грамадзян. Зва-


Аляксандар Ільлінец

роты ў міліцыю таксама дапамагалі далёка не заўжды, і на тэрыторыі зоны адпачынку ці не штодзённа адбываліся правапарушэньні, якія п.1 арт.17.3 КаАП РБ кваліфікуе як “зьяўленьне ў грамадзкім месцы ў п’яным выглядзе, які абражае чалавечую годнасьць і маральнасьць”.

У сацыяльнай сетцы “УКантакце” была створаная і адмысловая суполка “Я за спартыўную і культурную Віцьбу”.

Праўда, пасьля выступу аматараў актыўнага адпачынку неўзабаве зьявіўся і зварот іх апанэнтаў: гандляроў харчовых пунктаў, якіх забарона продажу алькагольных напояў хвалявала пэрспэктывай страціць прыбыткі, а таксама аматараў тых самых напояў, якія прапаноўвалі ролерам і раварыстам падацца кудысьці ў іншае месца, калі суседзтва з кавярнямі ім не падабаецца…

Віцебскія ўлады паспрабавалі дагадзіць і адным і другім: у продажы на тэрыторыі зоны адпачынку пакінулі толькі піва. Аматары здаровага ладу жыцьця лічаць гэта перамогай, хаця і частковай. Факт застаецца фактам: упершыню ў гісторыі гораду жыхары самі выступілі з прапановай абмежаваць у Віцебску тэрыторыю, вольную ад алькаголю. Толькі іх просьбу ў поўнай меры так і не задаволілі.

**24.08.2014** Віцебскія актывісты адзначылі Дзень незалежнасьці Ўкраіны. Некалькі сяброў руху «За свабоду» і партыі БНФ прайшлі па горадзе з жоўта-блакітным украінскім сьцягам. Іхны маршрут распачаўся ад помніку князю Альгерду і завяршыўся ля крыжа Эўфрасіньні Полацкай на ўзьбярэжжы Дзьвіны каля Ўсьпенскага сабору.

«Па дарозе нас ніхто не чапаў, але праз пэўны час мы заўважылі, што нас суправаджае незнаёмы хлопец у цывільным і з відэакамэрай. Аднак ён да нас не наблізіўся, не замінаў запаліць сьвечкі, пакласьці кветкі да крыжа і памаліцца за мір ва Ўкраіне ды за тых, хто загінуў за незалежнасьць братняга ўкраінскага народу. Пакуль мы ішлі па вуліцы Суворава, да нас зьвярталіся мінакі. Але без аніякае агрэсіі — толькі пыталіся, чаму мы ідзем з украінскім сьцягам. Патлумачылі, што 24 жніўня адзначаюць Дзень незалежнасьці Ўкраіны, і што мы салідарныя з тымі, хто адстойвае там волю і незалежнасьць», — распавёў віцебскі **каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў**.

Тое, што ўсё абышлося без затрыманьняў, ня можа быць гарантыяй таго, што ў міліцыянтаў ня зьявіцца прэтэнзіяў да актывістаў, лічыць **сябар партыі БНФ Аляксандар Ільлінец**: «Я фатаграфаваў ускладаньне кветак і сяброў са сьцягам. І нейкі незнаёмы чалавек пачаў абурацца, што я здымаю нешта ня тое. Ці гэта быў выпадковы мінак, ці нейкі правакатар — я ня ведаю. Але па дарозе дахаты — а я


Алена Бураўцова

ехаў на ровары — мяне дагнала машына ДАІ, зь яе выйшаў міліцыянт, папрасіў прад'явіць дакумэнты і перапісаў усе мае асабістыя дадзеныя».

**28.08.2014** Падчас збору подпісаў за будаўніцтва палiклiнiчнага комплексу ў мікраараёнах Білева Віцебску ўдзельнікі кампаніі “Народны кантроль” пачулі ад жыхароў шмат скаргаў на жыцьцё ў новабудоўлях. Адна з праблемаў – наяўнасьць вялікай колькасьці бадзяжных сабак. Яны зьбіваюцца ў вялікія зграі, вольна бегаюць па мікрараёнах, накідваюцца на людзей, асабліва небясьпечныя яны для дзяцей. Занепакоеныя людзі распавядалі пра выпадкі, калі сабакі паводзіліся вельмі агрэсіўна і накідваліся на дзяцей пры дарослых.

Актывісты кампаніі склалі адмысловы калектыўны зварот, і жыхарка мікрараёну Білева-2 **Алена Бураўцова** сабрала 85 подпісаў. Подпісы перадалі ў адміністрацыю Віцебскай спэцаўтабазы. Менавіта тут адказваюць за адлоў зьдзічэлых жывёл і перадачу іх у сваю філію-прытулак. Адначасова сабралі дапамогу з рэчаў, посуду, крупаў, макаронаў і мясных костак, якую разам са спадарыняй Аленай актывісты перадалі ў прытулак для бяздомных жывёл.

**28.08.2014** Віцебскія актывісты ствараюць новую сацыяльна-прававую арганізацыю. Аўтар ідэі, **сябра партыі БНФ Аляксандар Ільінец**, зьбірае дакумэнты для рэгістрацыі аб'яднаньня “Прамэтэй”. Устаноўчы сход арганізацыі аднадумцы ўжо правялі і цяпер вызначаюцца з канкрэтнымі накірункамі працы.

Паводле Аляксандра Ільінца, арганізацыя аб'ядная жыхароў Віцебску, якіх турбуюць дзьве праблемы: “Адна праблема – сацыяльная. Мы хочам палепшыць жыцьцё, выкарыстоўваючы гарантаваныя Канстытуцыяй правы. Прыкладам, права на годнае жыцьцё. У гэтым рэчышчы праца ўжо распачалася: яшчэ год таму мы заняліся абсталяваньнем дзіцячай пляцоўкі сіламі жыхароў аднаго канкрэтнага двара. І ў нас атрымалася прыцягнуць да гэтай справы нават дзяржаўныя структуры. Вынік быў станоўчы: дзіцячая пляцоўка на вуліцы Чкалава зьявілася. Цяпер мы хочам падвышаць інфармаванасьць насельніцтва ў прававой сфэры. У тым ліку ў галіне працоўнага права. Бо неаднаразова даводзіцца сутыкацца з парушэньнямі правоў на прадпрыемствах, з падманам і грубым стаўленьнем з боку наймальнікаў і гэтак далей”.

Аляксандар Ільінец завочна навучаецца на юрыдычным факультэце Віцебскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. На сёньняшні дзень ён беспрацоўны: яго звольнілі з пасады майстра ў брыгадзе цэху ўласнай вытворчасьці крамы №139 гандлёвай сеткі “Веста”. Здарылася гэта якраз пасьля гісторыі з добраўпарадкаваньнем дзі-


Алена Грачышнікава

цячай пляцоўкі. Пасьля гэтага ўладкавацца на іншую працу не ўдаецца.

Аляксандр Ільінец лічыць, што самае неабходнае – гэта пашырэньне інфармаванасьці насельніцтва ў прававых пытаньнях. Таму ў плянах “Прамэтэя” – рэгістрацыя арганізацыі і дапамога тым, чые правы парушаюцца, а таксама правядзеньне сустрэч і распаўсюд адукацыйных матэрыялаў.

**28.08.2014** Краязнаўцы з Воршы і Лёзна ўшанавалі памяць паўстанца Ігната Будзіловіча. Ігнат Будзіловіч – паўстанец Каліноўскага – узначальваў Аршанскі паўстанцкі атрад. У вёсцы Пагосьцішча, якая знаходзіцца ў Лёзьненскім раёне, адбыўся апошні бой яго атраду. Сам кіраўнік атраду быў расстраляны ў Воршы, дакладнае месца пахаваньня знайсьці сёньня немагчыма. Адзіны помнік, зьвязаны з Ігнатам Будзіловічам, сёньня знаходзіцца менавіта ў Пагосьцішчы. Таму другі год запар аршанцы арганізоўваюць тут памінальную вечарыну 28 жніўня – у дзень расстрэлу Будзіловіча.

Гэтым разам у Пагосьцішча прыехала і стваральніца помніку Лёзьненская **краязнаўца Алена Іванаўна Грачышнікава**. Менавіта яна 19 жніўня 2006 году разам з вучнямі школы, у якой тады выкладала, уласнымі рукамі паставіла помнік у гонар Будзілавіча і паўстанцаў яго атраду, якія загінулі ў тым баі. Праўда, помнік прыйшлося ставіць цэлых дзесяць гадоў. Першая спроба паставіць помнік скончылася тым, што камяні, сабраныя шкалярамі пры дапамозе калгасу, былі кімсьці расьцягнутыя. Праз 10 гадоў адбылася другая спроба паставіць помнік, і на гэты раз камяні ня толькі не былі расьцягнутыя, іх дапамагалі зьбіраць і мясцовыя жыхары. Мясцовы выканкам адвёў пляцоўку пад помнік на тым месцы, дзе была першая ў Лёзьненскім раёне царква.

Падчас імпрэзы ўдзельнікі ўсклалі кветкі да помніку, запалілі зьнічкі, чыталі вершы, у выкананьні **Ўладзіслава Лепяшынскага** было сьпета некалькі лірычных песень.

**30.08.2014** Доктар Ігар Пастноў павіншаваў Лукашэнку зь юбілеем. Вядомы віцебскі «лекар-праўдаруб» правёў свой аднаасобны «віншавальны» пікет, нягледзячы на забарону ўладаў. Праўда, рабіць гэта яму давялося ў малалюдным месцы — на лясным ускрайку пад Віцебскам.

У руках Ігар Пастноў трымаў партрэт юбіляра: выяву Аляксандра Лукашэнкі з газэты «Советская Белоруссия», пад якой былі словы «Мы свабодныя грамадзяне свабоднай краіны». А таксама свой разьліковы квіток і яшчэ адну газэтную публікацыю — «Каля дзьвюх тысяч дзяцей-наркаманаў. І гэта па адным Віцебскім рэ-



Уладзіслаў Леляшынскі

гіёне».

Такім чынам ён хацеў прадэманстраваць, наколькі свабоднымі і шчасьлівымі пачуваюцца сёньня беларусы: «Чалавек у нас нават ня мае права павіншаваць прэзыдэнта — легітымнага ці не, гэта кожны лічыць па-свойму — з днём нараджэньня! Я выканаў усе ўмовы ўладаў, усе патрабаваньні, якія мусіць выканаць заяўнік — і мне ўсё адно не дазволілі!»

Ён падаваў заяўку ў адміністрацыю Кастрычніцкага раёну, але дазволу і не атрымаў.

Падчас пікету віцебскі «лекар-праўдаруб» запісаў відэазварот.

**12.09.2014** У мястэчку Лужкі адкрылі памятны знак адраджэнцу іўрыту. Для ўдзелу ў імпрэзе прыбылі **амбасадар Ізраілю ў Беларусі Ёсіф Шагал** з дэлегацыяй гэтай краіны. Спачатку госьці наведалі Глыбокае, дзе на Алеі знакамітых землякоў стаіць бюст адраджэнцу іўрыту Эліэзэру Бэн-Егудзе. Ён у свой час паўтара года вучыўся ў Глыбокім, адсюль былі яго першая і другая жонкі.

Высокіх гасьцей сустракалі мясцовыя ўлады на чале з кіраўніком раёну Алегам Морхатам. Разам з ізраільскай дэлегацыяй прыехаў і праўнук Бэн-Егуды **Гіль Хаваў**, рэстаранны крытык і вядоўца тэлешоў. Пасьля мітынгу госьці накіраваліся да брацкай магілы, дзе пахаваныя ахвяры глыбоцкага гета, зьнішчаныя нацыстамі ў жніўні 1943 году. Там адбылася жалобная цырымонія ўшанаваньня ахвяр нацызму, пасьля чаго дэлегацыя адбыла ў Лужкі.

У Лужках дэлегацыю сустрэлі прадстаўнікі Шаркоўшчынскага райвыканкаму, а таксама жыхары Лужкоў, якіх сабралася хіба не палова былога мястэчка. Пасьля прывітальных слоў госьці адкрылі памятны знак, які ўсталяваны на камені ў сквэры на галоўнай плошчы мястэчка. Да гэтага каменя праўнук Бэн-Егуды Гіль Хаваў паклаў дзіцячыя малюнкі са школы, якую калісьці адкрыў яго знакаміты прадзед, а таксама малюнак сваёй дачкі.

Пасьля гэтага адбыўся невялікі канцэрт, на якім госьці выканалі песьні на іўрыце, а мясцовыя выканаўцы прывіталі гасьцей беларускімі песьнямі. Напрыканцы ўдзельнікі мерапрыемства зрабілі агульны здымак на памяць разам зь мясцовымі жыхарамі.

**14.09.2014** Цягам трох дзён у Віцебску праходзіла габрэйская міжнародная адукацыйна-культурна-забаўляльная канфэрэнцыя «Арт-Лімуд Беларусь». Гэтае мерапрыемства адбывалася ў Віцебску ўжо другі раз і сёлета сабрала значна больш удзельнікаў: каля 650 чалавек прыехалі зь Беларусі, Украіны, Расеі, Вялікай Бры-


Ёсіф Шагал

таніі, Ізраіля, ЗША і шэрагу іншых краін, перад якімі выступілі больш за сто прамоўцаў, сярод якіх шмат вядомых дзеячаў культуры.

На адкрыцьці канфэрэнцыі **амбасадар Ізраіля ў Беларусі Ёсіф Шагал** паведаміў журналістам, што 19 верасьня ў Менску адбудзецца падпісаньне дамовы пра скасаваньне візавага рэжыму паміж Ізраілем і Беларусьсю. Пасьля гэтага грамадзяне нашых краін змогуць на працягу 180 дзён, гэта значыць паўгода, знаходзіцца на тэрыторыі адпаведна Ізраіля або Беларусі без афармленьня візы. Такое самае пагадненьне дзейнічае паміж Ізраілем і Ўкраінай.

Сёлета пляцоўкамі канфэрэнцыі «Арт-Лимуд Беларусь» сталі Віцебскі мастацкі музэй, Беларускі тэатар "Лялька" і Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатар імя Якуба Коласа, дзе праходзіла да васьмі мерапрыемстваў адначасова. У праграме «Арт-Лимуд Беларусь 2014» выставы, лекцыі, майстар-клясы, трэнінгі, гульня «Што? Дзе? Калі?», абрад запальваньня сьвечак і ранішняя малітва. Удзельнікі канфэрэнцыі маглі пакінуць сваіх дзяцей пад наглядам выхавальнікаў і важатых, арганізатары падрыхтавалі адразу дзьве дзіцячыя праграмы для розных узростаў: 5-10 гадоў і 11-13 гадоў.

**15.09.2014** Дзеля дапамогі вымушаным мігрантам з Украіны ў Віцебску створаная валянтэрская суполка «УКантакце», якая супрацоўнічае з абласной арганізацыяй Чырвонага Крыжа. Назва суполкі – «Беларусь. Дапамога ўцекачам Віцебск Віцебская вобл.», яе мэта – падтрымка перасяленцаў з Украіны, якія прыехалі ў Віцебскі рэгіён. У суполцы разьмяшчаюцца паведамленьні як ад саміх украінскіх грамадзян, накшталт «Маладая сям'я ўцекачоў з Данецку прыме ў дар ўсё неабходнае для жыцьця! Жывем недалёка ад Воршы, Межава, хатку далі зусім пустую», так і ад беларусаў, якія прапануюць канкрэтную дапамогу.

Інфармацыя правяраецца на дакладнасьць. Супольнасьць каардынуе дабрачынную дзейнасьць нашых суграмадзян, каб даць старт сем'ям з Украіны, падтрымаць іх, пакуль яны не ўладкуюцца на працу і не атрымаюць першую зарплату. З гэтай мэтай створаная адмысловая анкета, запоўніўшы якую можна стаць валянтэрам і паказаць, чым канкрэтна ты можаш дапамагчы (вопраткай, сродкамі асабістай гігіены, прадметамі ўжытку, пасьцельнай бялізнай, мэбляй і г.д.). Надоечы суполкай запушчаная дабрачынная эстафэта сярод грузаперавозчыкаў, бо досыць часта трэба даставіць перасяленцам буйнагабарытныя рэчы.

**17.09.2014** У Віцебску прэзэнтавалі кнігу **Алеся Бяляцкага** «Іртутнае срэбра



Алесь Бяляцкі

жыцьця». Аўтар прыехаў у Віцебск разам з **укладальніцай кнігі Аленай Лапцёнак**. На сустрэчы ў «Эўрапейскім клюбе» яны распавялі гісторыю стварэньня зборніка эсэ, што былі напісаныя ў зьняволеньні ў Бабруйскай калёніі, куды аўтар трапіў за праваабарончую дзейнасьць.

Кніга «Іртутнае срэбра жыцьця. Пралог. Нататкі праваабаронцы» прысьвечаная беларускаму і міжнароднаму праваабарончаму руху, а таксама падзеям 2010 году ў Беларусі. У выданьне ўвайшлі лісты з успамінамі ды развагамі, апісаныя працоўныя будні, а таксама падзеі, што папярэднічалі арышту праваабаронцы, міжнародныя паездкі.

Падчас сустрэчы Алесь Бяляцкі расказаў, што магчымасьць пісаць гэтую кнігу істотна падтрымлівала яго ў турме: хоць часу на творчасьць было няшмат, але сыстэматызацыя падзеяў, што адбыліся пасьля выбараў 2010 году, дапамагала яму засяродзіцца на рэчах, больш істотных для праваабаронцы, чымся наўкольны турэмны побыт.

Паводле ўкладальніцы кнігі Алены Лапцёнак, свае нарысы Алесь Бяляцкі накіроўваў на волю ў выглядзе лістоў, і ўжо потым іх рыхтавалі да друку. Фактычна макет кнігі быў гатовы да канца 2013 году, але выдаць яе так хутка не ўдалося. Першую прэзэнтацыю зборніка эсэ плянавалі арганізаваць у чэрвені гэтага году, і вялікай радасьцю для сябраў і аднадумцаў стала тое, што 21 чэрвеня аўтар выйшаў на волю.

Як распавёў Алесь Бяляцкі, за час зьняволеньня – амаль за 3 гады – ён атрымаў 40 тысяч лістоў ад сваіх аднадумцаў.

Прэзэнтацыя кнігі прайшла ў цёплай сяброўскай абстаноўцы, ахвотныя задавалі пытаньні праваабаронцу, кожны прысутны атрымаў зборнік «Іртутнае срэбра жыцьця» ў падарунак, і аўтар з задавальненьнем раздаваў аўтографы старым і новым віцебскім сябрам.

**18.09.2014** У Глыбокім у межах кампаніі “Народны кантроль” утвораная ініцыятыўная група па зборы подпісаў за закрыцьцё турмы, якая знаходзіцца ў маляўнічым месцы ў самым цэнтры гораду на беразе возера, паведаміла **каардынатар аргкамітэту па стварэньні партыі “Беларуская хрысьціянская дэмакратыя” па Віцебшчыне Тацьцяна Севярынец**.

Апроч таго, што турма псуе зьнешні выгляд цэнтру Глыбокага і ўсім сваім выглядам нагадвае пра часы сталінскіх рэпрэсіяў (перад ёй на ўспамін рэпрэсіяў нават усталяваныя праваслаўныя крыж і звон), яна таксама ўвасабляе сабой жывую


Віктар Марціновіч

памяць часоў ганеньняў на хрысьціян. Бо перад тым, як стаць турмой, будынак быў спачатку ўніяцкай царквой, потым праваслаўнай і каталіцкім касьцёлам.

**21.09.2014** Супрацоўнікі Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі сабралі паўтары тысячы подпісаў у абарону гендырэктара **Ганны Шарэйкі**, якую абвінавачваюць у «злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі».

«Заўтра я еду на закрытую сэсію ў Менск, мяне пазбавяць дэпутацкай недатыкальнасьці і кіроўца вернецца адзін. Вы толькі не расслабляйцеся, працуйце. Усё будзе добра, сьледзтва разьбярэцца, і мяне адпусьцяць», – гэтак 13 жніўня Ганна Шарэйка, гендырэктар Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі, сэнатар Савету Рэспублікі разьвіталася на планёрцы з падначаленымі. 14 жніўня пасьля сэсіі яе затрымалі і адвезьлі ў менскі ізалятар.

**23.09.2014** У Віцебску была створаная пляцформа для сумеснай дзейнасьці палітычных і грамадзкіх структур гораду. На сустрэчы з удзелам прадстаўнікоў аргкамітэту партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя", гарадзкой арганізацыі камуністаў "Справядлівы сьвет", НГА "Пэрспэктыва", "Вольны горад", "Гавары праўду" былі абмеркаваныя найбольш вострыя праблемы гораду.

Адна зь якіх – няякаснае мэдычнае абслугоўваньне віцяблян. Вынікам сустрэчы стала падпісаньне дамовы аб правядзеньні ў Віцебску супольнай кампаніі "За якасную мэдыцыну для ўсіх". У планах "круглыя сталы" з удзелам экспэртаў, збор подпісаў, сумесныя акцыі.

**23.09.2014** Вядомы беларускі **пісьменьнік**, **журналіст**, **мастацтвазнаўца Віктар Марціновіч** прадставіць свой новы раман "Мова" на Франкфурцкім кніжным кірмашы. Аб гэтым аўтар кнігі, якую называюць "баявіком" пра беларускую мову, паведаміў прыхільнікам сваёй творчасьці на сустрэчы ў Віцебску. Яна адбылася ў бітлз-клюбе "Паддашак".

«"Мова" ў арыгінале выдадзеная па-беларуску. Але ёсьць і рускамоўная вэрсія. Учора атрымаў першую прапанову ад знанага перакладчыка перакласьці на ангельскую. Дапушчаю, што гучаньне твору будзе інтэрнацыянальным. У кастрычніку я еду ў Франкфурт-на-Майне, дзе праходзіць самы буйны ў сьвеце кніжны кірмаш, і буду там рабіць прэзэнтацыю "Мовы"», – распавёў Віктар Марціновіч.

Ён падкрэсьліў, што ў Беларусі першая прэзэнтацыя яго новага раману прайшла менавіта ў Віцебску: "Гэта значны, адметны для мяне горад" (Марціновіч абараніў


Уладзімер Булаўскі

доктарскую дысэртацыю на тэму “Віцебскі авангард (1918-1922): сацыякультурны кантэкст і мастацкая крытыка”).

У Менску крыху раней, 10 верасьня, была аўтограф-сэсія, на якой пісьменьнік толькі падпісваў кнігі. Віцебская сустрэча адбылася, як зазначыў спадар Марціновіч, дзякуючы настойлівасьці і энэргічнасьці **каардынатара грамадзкай культурніцкай кампаніі “Будзьма беларусамі!”** на Віцебшчыне **Ўладзімера Булаўскага**. У беларускай сталіцы прэзэнтацыя твору заплянаваная пазьней.

На сустрэчы можна было набыць раман на беларускай і расейскай мовах, атрымаць аўтограф і, натуральна, задаць пытаньні пісьменьніку.

**26.09.2014** Старшыню Віцебскага аблвыканкаму просяць вылучыць месцы для актыўных відаў спорту. Онлайн-пэтыцыя «Вылучыце зямельныя ўчасткі для арганізацыі пляцовак для гульні ў лязэртаг і вяровачнага парку на дрэвах у парку “Мазурына”» – так называецца пэтыцыя, пад якой зьбіраюць подпісы інтэрнэт-карыстальнікаў.

«У горадзе няма спэцыялізаваных пляцовак. Гульні ў лязэртаг і пэйнтбол арганізуюцца непрафэсійнымі вядоўцамі ў такіх месцах, як закінутыя недабудаваныя заводы, аварыйныя будынкі, безгаспадарныя пабудовы, што вельмі небясьпечна для здароўя гульцоў і ня можа быць выкарыстана для сямейнага адпачынку. Горад мае патрэбу ў прафэсійна спраектаванай бясьпечнай пляцоўцы з разьвітой інфраструктурай, якая ўключае ў сябе такія неабходныя рэчы, як аўтамабільная стаянка, прыбіральні, распранальні, грамадзкае харчаваньне (кавярні) і г.д. для паўнавартаснага адпачынку ўсёй сям’ёй», – гаворыцца ў пэтыцыі, аўтарам якой зьяўляецца **Канстантын Філіпаў**.

Ён зьяўляецца дырэктарам ТАА «Арэна-піца» і просіць месьцічаў падтрымаць ініцыятыву, якую адхілілі мясцовыя ўлады: «Адгукнуўшыся на просьбы месьцічаў, вывучыўшы досьвед суседніх краін у гэтым пытаньні, ТАА «Арэна-піца» набыло закінуты будынак ў паркавай зоне, атрымала дазвол на яго рэканструкцыю і зьвярнулася ў Віцебскі гарвыканкам з просьбай аб выдзяленьні зямельнага ўчастку ў часовае карыстаньне з мэтай рэалізацыі праекту па ўладкаваньні прафэсійнай пляцоўкі для гульні ў лязэртаг і вяровачнага парку, што зьяўляецца цалкам новым варыянтам актыўнага адпачынку. У гарадох суседніх краін (Летува, Расея) гэткія паркі карыстаюцца велізарнай папулярнасьцю, прыцягваючы ня толькі мясцовае насельніцтва, але і турыстаў. Аднак, дазволіўшы рэканструкцыю памяшканьня, Віцебскі гарвыканкам сваім лістом № 01-02-17/5801 ад 10.09.2014 г.


Канстантын Філіпаў

адмовіў у выдзяленьні зямельных участкаў пад разьмяшчэньне пляцоўкі для гульні ў лязэртаг і вяровачнага парку на дрэвах, тым самым пазбавіўшы жыхароў гораду магчымасьці займацца ўлюбёнымі відамі актыўнага адпачынку ў цывілізаваных умовах».

У Віцебску відавочна адчуваецца дэфіцыт месцаў адпачынку з магчымасьцю заняцца актыўнымі відамі спорту. Жыхары аб'ядноўваюцца па інтарэсах і прыстасоўваюцца да існуючых умоў, аднак праблемы гэта не вырашае. У іншых гарадох Віцебскай вобласьці сытуацыя ня лепш.

**09.10.2014** У Віцебску ладзяць акцыю ў падтрымку прытулку для бяздомных жывёл. Акцыю «Пакармі коціка!» прыдумала і распачала віцебскі **фатограф Вольга Слуцкая**. Мэта акцыі – падтрымаць прытулак для бяздомных жывёл і дапамагчы «братам меншым», якія апынуліся на дварэ па віне чалавека. Да кампаніі далучылася і крама хэндмэйду «Магазын-28», якая паабяцала ўдзельнікам 28% зьніжку на наступную пакупку.

Ахвотным узяць удзел у акцыі прапануецца пакарміць бяздомнага ката ці сабаку і пералічыць 20 000 рублёў на рахунак прытулку для жывёл. Прадугледжаны і другі варыянт дапамогі: проста пералічыць 100 000 рублёў, якія ў прытулку выкарыстаюць на набыцьцё ежы і мэдыкамэнтаў. Факт удзелу ў акцыі рэкамэндуецца зьняць на відэа і фота, а пасьля апублікаваць у сацыяльнай сетцы ды запрасіць далучыцца да ініцыятывы трох сваіх сяброў.

Як вядома, віцебскі прытулак для бяздомных жывёл адчувае фінансавыя цяжкасьці. Ён практычна заўсёды перапоўнены, бо жывёл туды часьцей за ўсё проста падкідваюць былыя «гаспадары». Работнікі ўстановы гатовыя прыняць любую дапамогу ад землякоў: тут будуць рады кожнаму, хто прынясе прадукты, рызьзё, прадметы догляду за жывёламі.

**10.10.2014** Праваабаронцы Віцебску зладзілі акцыю супраць сьмяротнага пакараньня. Акцыя прайшла ў межах тыдня супраць сьмяротнага пакараньня, мерапрыемствы якога ладзяцца па ўсёй Беларусі з 5 па 10 кастрычніка. Праваабаронцы расклеілі па горадзе налепкі з тэкстам «Мы супраць сьмяротнага пакараньня». У цэнтры гораду мінакам раздаваліся інфармацыйныя матэрыялы. Такія матэрыялы былі параскіданыя таксама па паштовых скрынях некалькіх дамоў Віцебску.

Сярод інфармацыі, якую распаўсюджвалі праваабаронцы, было рашэньне Камітэту па правох чалавека ААН наконт вынясеньня сьмяротнага прысуду жыхару Віцебску Ўладзіславу Кавалёву ў 2012 годзе. Зварот у КПЧ падавалі маці


Вольга Слуцкая

і сястра асуджанага. Камітэт неаднаразова прасіў улады Беларусі не прыводзіць прысуд у выкананьне, аж пакуль справа ня будзе разгледжаная камітэтам, але гэтыя просьбы былі праігнараваныя. Згодна з рашэньнем КПЧ, Беларусь парушыла ў дачыненьні да Ўладзіслава Кавалёва шэраг артыкулаў Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, у тым ліку артыкул 6 – права на жыцьцё.

**12.10.2014** Маладыя прыхільнікі дэмакратычных прафсаюзаў вучыліся весьці калектыўныя перамовы. У Наваполацку цягам 3 дзён праходзіў нацыянальны сэмінар моладзевай сеткі Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў, па тэме – «Калектыўныя перамовы».

На сустрэчы была прадстаўленая кароткая прэзэнтацыя матэрыялу па калектыўных перамовах і асабістым досьведзе моладзевага экспэрта галяндзкага прафсаюзу ФНВ Бандгэнотэн. Моладзевыя актывісты вылучылі асноўныя элемэнты вядзеньня перамоваў з наймальнікам і замацавалі атрыманыя веды практычнымі заняткамі ў выглядзе ролевай гульні.

**17.10.2014** У Воршы-Заходняй прайшла сустрэча жыхароў з прадстаўнікамі ўлады. Ад райвыканкаму Заходнюю наведаў першы намесьнік старшыні Сяргей Пац, а таксама прадстаўнікі аддзелу эканомікі і аддзелу гандлю. Паводле слоў жыхароў, чыноўнікі такога ўзроўню сустракаліся зь людзьмі ў раёне або вельмі даўно, або наогул ніколі. У агульнай складанасьці прыйшлі ў двор дому №5 па вуліцы Чырвонагвардзейскай, які ў гэты дзень стаў пляцоўкай дыялёгу з уладай, каля 70 чалавек. Асноўная тэма сустрэчы – магчымасьць будаўніцтва ў раёне паўнавартаснага гандлёвага цэнтру.

Для мясцовых жыхароў гандлёвы цэнтар – гэта ня толькі камэрцыйны праект, але і сацыяльны, што і было адзначана ў звароце, які падпісалі 47 жыхароў раёну. Ён і стаў прычынай праведзенай сустрэчы. Гэтае пытаньне абмяркоўвалася першым. Паводле слоў адказных асоб, у раёне ў будучыні можа быць не адзін, а два гандлёвыя цэнтры. Першы заплянаваны ўжо зараз у раёне новай прыватнай забудовы па вуліцы Паркавай (Сельгастэхніка). Другі на просьбу жыхароў Заходняй можа паўстаць у іншым месцы. Чыноўнікі запісалі магчымыя месцы для гандлёвага цэнтру, якія тут жа на месцы прапанавалі жыхары раёну. Гэтыя варыянты цяпер будуць разгледжаныя з пункту гледжаньня нарматываў і прапанаваныя на аўкцыён патэнцыйным інвэстарам.

Далей гаворка пайшла пра іншыя праблемы раёну, якіх назапасілася вельмі шмат. Так, наконт пытаньня закрытага ў раёне аптэчнага шапіка было сказана, што



Ігар Лялькоў

перад прадпрыемствам “Фармацыя” будзе яшчэ раз пастаўленае пытаньне пра аднаўленьне працы аптэкі, а таксама будзе прапрацаванае пытаньне пра перанос аптэчнага шапіка з крамы №4 на тэрыторыю шпіталя.

Што да пытаньня даўно закрытай лазьні, чыноўнікі адказалі, што цяпер рыхтуецца да адкрыцьця (робіцца рамонт) лазьня ў раёне вакзалу, якая раней належала чыгунцы, а цяпер перададзеная гораду. Наконт таго каб лазьню пабудаваць бліжэй да Заходняй, было адзначана, што зараз гэтае пытаньне складанае, але будзе абмеркаваны прапанаваны на месцы варыянт – стварыць лазьню за кошт інвэстара, які займаецца гэткім бізнэсам. Таксама згадвалася пытаньне ўсталёўкі ў раёне банкамату або, прынамсі, інфакіёску. Яно будзе абмеркаванае з прадстаўнікамі “Беларусбанку” і Орса, каб усталяваць яго або ў мясцовым аддзяленьні банку, або ў краме №4.

Былі і больш дробныя, але ня менш важныя пытаньні. У прыватнасьці, жыхары дому, у двары якога і была сустрэча, зьвярнулі ўвагу намесьніка старшыні райвыканкаму на адкрыты каналізацыйны калодзеж, які знаходзіцца на шляху школьнікаў і зь якога тырчаць патэнцыйна небясьпечныя для жыцьця штыры. Калодзеж ужо доўгі час адкрыты, тое што ў яго ніхто дагэтуль не зваліўся – заслуга мясцовых жыхароў, якія самастойна прыкрылі дзірку наколькі маглі. Паводле слоў Сяргея Паца, ужо на наступны дзень тут будуць рабочыя, якія вырашаць пытаньне з гэтым калодзежам.

**19.10.2014** У Віцебску адбыліся грамадзкія слуханьні “Як зрабіць мэдыцыну якаснай і даступнай?”, якія падрыхтавалі ўдзельнікі ініцыятывы “Народны рэфэрэндум”. Сустрэча адбывалася ў Віцебскім “Эўрапейскім клюбе”. Каля 40 жыхароў Віцебску і Віцебскай вобласьці разам з экспэртамі і прадстаўнікамі партыйных і грамадзкіх арганізацый і рухаў абмеркавалі праблемы сучаснай беларускай мэдыцыны і паспрабавалі вызначыць рэкамэндацыі па паляпшэньні справаў ва ўстановах аховы здароўя.

На пачатку сустрэчы удзельнікаў віталі **намесьнік старшыні партыі БНФ Ігар Лялькоў**, **генэральны сакратар БСДП (Грамада) Мечыслаў Грыб**, **каардынатарка кампаніі “Гавары праўду” па Віцебскай вобласьці Лідзія Сагідуліна**, **каардынатар руху “За свабоду” па Віцебскай вобласьці Хрыстафор Жаляпаў**.

Экспэртам на сустрэчы выступіла доктарка са шматгадовым стажам, супрацоўніца Магілеўскай абласной станцыі пераліваньня крыві **Натальля Шкадун**, якая прадставіла агульную карціну стану ўстановаў аховы здароўя Беларусі,


Мечыслаў Грыб

умоваў працы лекараў і малодшага мэдперсаналу паліклінік і шпіталяў, а таксама выказала свае прапановы па рэфармаваньні гэтай сыстэмы ў нашай краіне.

Удзельнікі слуханьняў актыўна ўдзельнічалі ў абмеркаваньні прапанаваных тэзаў. Вядомы віцебскі **доктар Ігар Пастноў** распавёў пра стан мэдычных установаў Віцебску, пра хранічнае недафінансаваньне мэдычных установаў, калясальныя і нічым не абгрунтаваныя выдаткі на так званы “рамонт”, агучыў свае прапановы па зьменах у сыстэму аховы здароўя. Віцябляне таксама зьвярнулі ўвагу на стан зоны адпачынку “Мазурына”, некалі ўтульнае месца для жыхароў гораду, дзе зараз нічога няма, і як выказалася адна з актыўных удзельніц дыскусіі: “Вады папіць няма дзе, кавярня не працуе, сьмецьце і бруд на пляцоўках”. Былі закранутыя пытаньні праграмы навучаньня ў Віцебскім мэдунівэрсытэце і чэргаў у віцебскіх паліклініках.

Напрыканцы дыскусіі вядомая **дзяячка БХД Таццяна Севярынец** зьвярнула ўвагу прысутных на тое, што рашэньнем гарадзкога Савету дэпутатаў Віцебску №22 ад 18 верасьня 2014 году ў інвэстыцыйную праграму гораду ўнесеныя зьмены, якія скарачаюць аб’ёмы фінансаваньня па галіне “Ахова здароўя“ ў Віцебску на цэлых 30%. Такім чынам, удзельнікі слуханьняў змаглі належным чынам ацаніць “клопат” дзяржавы пра мэдычнае абслугоўваньне сваіх грамадзянаў.

**24.10.2014** Могілкі пад назовам «Клінічныя» месьцяцца калі ня ў самым цэнтры Віцебску, то, прынамсі, не на ўскраіне. Побач Віцебскі тэхналягічны ўнівэрсытэт, некалькі школ і да адміністрацыі Кастрычніцкага раёну адзін тралейбусны прыпынак. Тым ня менш старыя могілкі, дзе ўжо даўно не хаваюць, знаходзяцца ў жахлівым стане. Зладзіць тут прыбіраньне вырашылі віцебскія прыхільнікі стварэньня партыі БХД.

Гэтыя маленькія могілкі з вывернутымі крыжамі месьцяцца за паўсотні крокаў ад вуліцы Праўды — адной з цэнтральных у Віцебску. Іх аддзяляюць ад «гарадзкой цывілізацыі» ўсяго толькі шэрагі гаражоў, а ўражаньне такое, што слова «цывілізацыя» тут зусім недарэчы.

Каля трох дзясяткаў крыжоў, месцамі пагнутых і паламаных, некалькі надмагільных пліт, якія практычна ўрасьлі ў зямлю, але нічым не адзначаных магіл — у некалькі разоў болей. Ад іх засталіся толькі капцы-грудкі. Але жыхары найбліжэйшых вуліц — 3-й і 4-й Клінічных — даўно ўжо прызвычаіліся да такога суседзтва: паколькі плоту тут няма, яны не абыходзяць могілкі, а зразаюць шлях наўпрост па сьцежцы, пракладзенай паміж магіламі і паваленымі крыжамі.


Лідзія Сагідуліна

Месца апошняга спачыну віцяблян ператварылася ў прыстанак асобаў бяз пэўнага месца жыхарства ды аматараў алькаголю. Таму тут вельмі шмат сьмецьця, хаця на адным з дрэваў і прымацаваная шыльда з пагрозаю пакараньня за гэткія дзеяньні. Жалобнае месца ператварылася ў непрыстойнае, лічыць **Тацьцяна Севярынец**, **каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД**. Яна і склікала гэты суботнік па добраўпарадкаваньні могілак.

На заклік Тацьцяны Севярынец адгукнуліся пяцёра чалавек. Разам згрэблі лісьце, прыбралі сьмецьце і абламаныя галіны бярозак, што растуць на могілках. Жыхары хат, што побач, — а вакол могілак прыватны сэктар — далучыцца да прыбіраньня не пажадалі, хаця спадарыня Тацьцяна іх і запрашала.

«Клінічныя» могілкі маюць статус закансэрваваных. Нават не зачыненых, дзе пахаваньні магчымыя, калі ёсьць вольнае месца каля магіл сваякоў. Такіх закансэрваваных могілак у Віцебску тры, і на усіх фіксуюцца выпадкі вандалізму. Улетку такое адбылося на «Яроменскіх» могілках, дзе падлеткі пашкодзілі некалькі помнікаў. Адмысловай аховы на такіх могілках няма, і міліцыя прыяжджае сюды хіба толькі па выкліку.

**29.10.2014** Віцебскія актывісты добраўпарадкавалі месца пахаваньня ахвяр камунізму ў Паляях. Некалькі гадоў на ўзьлеску каля вёскі Паляі ствараецца самаробны мэмарыял – у памяць пра мірных жыхароў, якіх расстрэльвалі тут у 1930-50 гады. Тут усталявана некалькі крыжоў, і добраўпарадкаваньне гэтага месца стала клопатам віцебскіх актывістаў.

Нягледзячы на тое, што мясцовыя сябры партыі БНФ сабралі сьведчаньні старажылаў, якія памятаюць пра расстрэлы савецкіх грамадзян, да афіцыйнага ўшанаваньня іх памяці справа так і не дайшла. Улады адмаўляюцца паставіць тут нейкі памятны знак, і таму віцебскія актывісты ствараюць самаробны мэмарыял самі – ставяць крыжы на ўзор таго, як гэта зроблена ў Курапатах пад Менскам.

Самы высокі крыж – мэталёвы, на ім надпіс "Ахвярам таталітарнага рэжыму", астатнія крыжы меншыя, пераважна драўляныя. Некалькі разоў крыжы ў гэтых мясьцінах нішчылі невядомыя, але актывісты ставілі новыя.

Мінімум два-тры разы на год каля самаробнага мэмарыялу робяць прыборку – звычайна ўвесну і напярэдадні Дзядоў. Сёлета сябры партыі БНФ і руху "За свабоду" зноў прыехалі ў Паляі – павысякалі хмызьнякі, прыбралі сьмецьце, згадалі ўсіх, хто бязьвінна загінуў у гады сталінскага тэрору.


Тацьцяна Грыневіч-Матафонава

**30.10.2014** У Глыбокім і Гермавічах прэзэнтавалі фільм «Глыбоцкая змова». Фільм распавядае пра дзейнасьць Саюзу беларускіх патрыётаў у першыя пасьляваенныя гады ў Глыбокім і Паставах, пра тую жорсткасьць, якую праявіла савецкая дзяржава да гэтых юнакоў і дзяўчат. На сустрэчах выступіла таксама **сьпявачка Тацьцяна Грыневіч-Матафонава**.

**01.11.2014** З нагоды восеньскіх Дзядоў па заведзенай традыцыі шэраг сяброў віцебскіх партыяў, грамадзкіх рухаў і журналістаў з ініцыятывы **Барыса Хамайды** наведалі грамадзкі мэмарыял Паляі і могілкі, на якіх пахаваныя віцебскія грамадзкія і партыйныя актывісты, якія адышлі ў вечнасьць.

Сымбалічны мэмарыял Паляі, які ўвасабляе месца масавых забойстваў рэпрэсаваных беларускіх грамадзянаў у 30-я гады мінулага стагодзьдзя, стаў першым аб'ектам, на які завіталі неабыякавыя да сваёй гісторыі віцебчукі. Імпрэза пачалося з добраўпарадкаваньня тэрыторыі і аздабленьня крыжоў бел-чырвона-белымі стужкамі. А пасьля ўскладаньня кветак выказаліся тыя, каму было, што сказаць.

Барыс Хамайда, у прыватнасьці, зазначыў, што "надыдзе той час, калі расчыняцца архівы, вывезеныя ў пачатку вайны зь Віцебску". І ўсё стане вядомым. "Тады мы даведаемся, колькі насамрэч людзей было забіта за права «людзьмі звацца»".

**Сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** працягнуў узьнятую тэму: "Людзі хацелі жыць па-людзку, але крыважэрны сталінскі рэжым асіраціў тысячы сем'яў па ўсёй Беларусі. Паводле непацьверджаных дадзеных толькі ў Віцебскай вобласьці было забіта 36 тысячаў чалавек. І Паляі – гэта адно зь дзесяткаў, а мо' і сотняў месцаў, дзе па сьведчаньнях мясцовых жыхароў энкавэдысты зьнішчалі найлепшых людзей беларускай нацыі".

Украінка **Антаніна Піванос**, грамадзянка Беларусі, зьвярнула ўвагу на тое, што на ейнай Радзіме грамадзяне лепей ведаюць сваю гісторыю і лепей шануюць памяць пра мінулае. Нават 9 траўня – гэта ня Дзень вызваленьня Ўкраіны, а ўсяго толькі – Дзень вызваленьня ад нямецка-фашысцкай акупацыі.

Імпрэза завяршылася малітвай за Беларусь. Пасьля чаго ўсе разам прасьпявалі гімн "Магутны Божа".

Наступным месцам наведваньня сталі могілкі за вёскай Друкава, на якіх пахаваны Ўладзімер Плешчанка. Нечаканасьцю стала вестка пра заўчасную сьмерць сёлета ягонага брата.

Напрыканцы актывісты адведалі Віцебскія гарадзкія могілкі "Копці", дзе



Антаніна Піванос

пахаваныя Сяргей Цярэнцьеў, Аляксандар Мудрычэнка, Раман Салаўян, Алена Залеская. Над магілай кожнага зь дзеячаў беларускага адраджэньня, якія адышлі ў іншы сьвет, прагучалі словы ўспамінаў і падзякі за зьдзейсьненае імі на карысьць Бацькаўшчыны. Асабліва шмат добрага прыгадалася ля магілы Алены Залескай, па сапраўднаму інтэлігентнай і цікавай жанчыны, якая ў 1991 годзе пашыла першы ў Віцебску бел-чырвона-белы сьцяг, вывешаны пасьля над гарадзкой ратушай, і ўвяла моду на шалікі нацыянальных беларускіх колераў.

**01.11.2014** Вернікі ўніяцкай царквы сьвятога Язафата ў Полацку сабраліся на супольную малітву на Бельчыцкіх могілках. На могілках знаходзіцца Крыж пакуты ў памяць беларусаў, рэпрэсаваных савецкім рэжымам. Казаньне да тых, хто сабраўся, прамовіў **сьвятар Аляксандар Шаўцоў**.

Крыж быў усталяваны ў 1991 годзе. Менавіта тут, у Бельчыцкім лесе, як сьведчыць паданьне, супрацоўнікі НКВД хавалі свае ахвяры. Таму штогод на Дзяды, у памяць ахвяр бальшавіцкага і фашыстоўскага рэжымаў, ля Крыжа пакуты ладзяцца памінальныя мерапрыемствы.

**02.11.2014** Прадстаўнікі грамадзка-палітычных арганізацыяў Воршы адзначылі Дзяды. Яны традыцыйна наведалі помнік на месцы масавых расстрэлаў на Кабыляцкай гары. Прысутныя правялі невялікую прыборку тэрыторыі каля помніку, а потым запалілі зьнічкі ў памяць пра загінулых там нявінна забітых людзей. Прагучалі ўспаміны сваякоў, да помніку ляглі вянкі і жывыя кветкі.

Гісторыкі мяркуюць, што на Кабыляцкай гары могуць знаходзіцца парэшткі каля 5000 расстраляных пры канцы 1930-х гадоў жыхароў рэгіёну.

**02.11.2014** Глыбоцкія журналісты наведалі магілу Яўгена Самсонава. Яўген Самсонаў быў актыўным сябрам Глыбоцкай суполкі Беларускай асацыяцыі журналістаў. Ён раптоўна памёр у ліпені гэтага году.

**05.11.2014** Віцебскія журналісты далучыліся да сусьветнай кампаніі «Станем за журналістыку!» 5 лістапада па ўсім сьвеце праходзілі акцыі салідарнасьці “Станем за журналістыку”. Яны ладзяцца з ініцыятывы Міжнароднай Фэдэрацыі Журналістаў (МФЖ) і прысьвечаныя барацьбе журналістаў за іхныя правы, супраць палітычнага і эканамічнага ціску на СМІ, фізычнага гвалту супраць журналістаў і складаных умоваў працы. Незалежныя журналісты зь Віцебску далучыліся да сусьветнай кампанію ў падтрымку свабоднай журналістыкі.


Аляксандар Шаўцоў

Віцебскія сябры Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) выпускалі з клетак вольных птушак прэсы і фатаграфаваліся на фоне свайго любімага гарадзкога графіці.

Пра тое, што праводзіцца акцыя “Станем за журналістыку”, жыхары Віцебску маглі даведацца і ад вядомага **распаўсюдніка незалежнай прэсы Барыса Хамайды**. Сябры БАЖ падрыхтавалі інфармацыю пра гэтую ініцыятыву Міжнароднай Фэдэрацыі Журналістаў, а таксама пра тое, што для беларускай незалежнай журналістыкі самай надзённай праблемай сталі пакараньні за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ (у Віцебску з гэтай нагоды траім журналістам таксама былі вынесеныя папярэджаньні абласной пракуратуры).

Віцебскія мінакі разглядалі інфармацыйны плякат, прымацаваны побач з выданьнямі, якія распаўсюджвае Барыс Хамайда, а журналісты тым часам сфатаграфаваліся каля зачыненага на рэканструкцыю будынку раённага Дому культуры. Да журналістаў далучыліся і віцебскія актывісты – **сябры аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Таццяна Севярынец** і **Алена Шабуня**.

Месца для пэрформансу было выбранае невыпадкова: на будынку РДК ёсьць графіці, якое шмат хто ў Віцебску лічыць мастацкім увасабленьнем лёсу сучаснай вольнай прэсы. На сьцяне намаляваныя тры клеткі, а скрозь краты прарываецца і ўрэшце ляціць на волю птушка, зробленая з газэты.

Падобных птушак-арыгамі нарабілі і віцебскія БАЖаўцы, вырашыўшы працягнуць тэму, якую закранулі  мастакі-графіцісты. Рэквізытам для пэрформансу сталі і стылізаваныя папяровыя клеткі  – як увасабленьне ціску на журналістаў, якіх імкнуцца зрабіць паслухмянымі і паднявольнымі. Журналісты сфатаграфаваліся, “выпускаючы” за папяровыя краты вольных газэтных птушак. А напрыканцы пэрформансу былі ўшчэнт разарваныя і самі клеткі.

**10.11.2014** Быў дадзены старт кампаніі “Павышэньне якасьці мэдычнага абслугоўваньня ў Віцебску”. Пра гэта ўдзельнікі кампаніі абвесьцілі на прэсавай канфэрэнцыі, якая адбылася ў Віцебску.

Удзельнікі кампаніі падвялі вынікі анкетаваньня насельніцтва па якасьці мэдычнага абслугоўваньня, зь якога вынікае, што большасьць апытаных не задаволеная станам мэдыцыны ў абласным цэнтры – 36 адсоткаў. 30,6% хутчэй задаволеныя, 14,4% — зусім не задаволеныя. Рэспандэнты адзначаюць, што мэдычныя работнікі ставяцца да іх з раздражненьнем і абыякавасьцю — 43,2%, але 41,4% кажуць, што іх абслугоўваюць у паліклініках і лякарнях ветліва, уважліва. Пры тым, што 55,8% апытаных наведваюць мэдычныя ўстановы толькі некалькі разоў

на год.

З праблемаў называюць наяўнасьць вялікіх чэргаў – 41,4%; цяжкасьці з атрыманьнем кансультацыяў вузкіх спэцыялістаў — 28,8%; цяжкасьці з атрыманьнем накіраваньняў — 21,6%; дрэнную арганізацыю працы рэгістратуры — 18%. Усе 100% апытаных карысталіся платнымі паслугамі. Галоўная прычына — неабходнасьць доўга чакаць бескаштоўныя паслугі, дасьледваньні — 36%; адсутнасьць патрэбных паслуг у паліклініцы — 27%; “не прапаноўвалі без аплаты” — 25,2%. Аплачвалі людзі і агляд—45%, інструмэнтар, прылады — 50,4%; лекі ў стацыянарах — 10,8%.

Апроч гэтага, існуюць ў Віцебску вялікія праблемы з будаўніцтвам новых паліклінік, даўно заплянаваных гарадзкімі ўладамі (Білева, Поўдзень-7), рамонтам шпіталя №2, інфэкцыйнай. У верасьні ўлады моўчкі скарацілі зь бюджэту гораду фінансаваньне аховы здароўя на 30%.

Усё гэта вельмі непакоіць людзей. Удзельнікі кампаніі мяркуюць паспрыяць вырашэньню згаданых праблем. Будуць складзеныя адмысловыя звароты ў Міністэрства аховы здароўя, гарадзкі выканкам, замаўляцца пікеты, звароты да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, мясцовы Савет.

**12.11.2014** Зь ініцыятывы **сябра віцебскай гарадзкой арганізацыі КХП-БНФ Яна Дзяржаўцава** ў лесе за вёскай Хайсы Віцебскага раёну на месцы меркаваных масавых расстрэлаў грамадзян органамі НКУС у другой палове 30-х гадоў былі ўсталяваныя памятныя крыжы, ускладзеныя кветкі і вянок, а таксама адпраўленая памінальная паніхіда ля парэштках бязьвінна забітых людзей.

Асноўная дзея разгарнулася каля сымбалічнай магілы, дзе сьвятар адслужыў паніхіду. У сваім слове ён зьвярнуў увагу прысутных на тое, што ва ўсіх гэтых акалічнасьцях найгалаўнейшае – “Хто гэтыя людзі, за якіх мы молімся? Чаму яны тут апынуліся? Мы хацелі б прачытаць спіс імёнаў ахвяраў, як гэта ў царкве прынята. Ёсць імя – за яго моляцца. Гэта – такая вялікая ласка. Хацелася б, каб гэтыя ахвяры і злачынцы былі названыя. Пра гэта мы молімся і просім Госпада”.

**Сябра КХП-БНФ Пятро Сарапеня** зазначыў, што ў 30-х гадох хваля рэпрэсіяў пракацілася па ўсёй Беларусі. Ён прыгадаў сваю сустрэчу з былым кіраўніком сельскагаспадарчай камуны зь вёскі Дворышча Шумілінскага раёну. Той распавядаў: “ Неяк у вёску прыехаў упаўнаважаны і павёў мясцовы актыў па хатах вяскоўцаў, што адмовіліся ісці ў камуну. Аднаму беднаму селяніну, што жыў бабылём, начальнік з раёну прапанаваў за ўступленне ў камуну карову. Але той адказаў, што ўступіць у яе толькі тады, “калі сонца пачне ўзыходзіць на захадзе, а заходзіць на ўсходзе”. 10 чалавек забралі тады зь вёскі, зь якіх гадоў праз 7 вярнуліся толькі двое. Той селянін не вярнуўся таксама. Мо’ некаторыя зь іх і ляжаць тут? Ва ўсёй гэтай справе ўражвае тое, што “сёньняшнія ўлады не прыкладаюць ніякіх намаганьняў для высьвятленьня гістарычнай праўды і ня робяць нічога, каб людзі пра яе ведалі”.

**27.11.2014** Больш за 600 жыхароў Воршы паставілі свае подпісы пад патрабаваньнем да Аршанскага райвыканкаму выканаць дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў галіне аховы здароўя ў адпаведнасьці з артыкулам 9 Закону РБ №322-З ад


Яўген Анішчанка

11.11.2009 г. “Аб дзяржаўных мінімальных стандартах”, паведаміў пра хаду кампаніі “Народны кантроль” **каардынатар аргкамітэту БХД Яўген Анішчанка**.

Паводле яго слоў, у горадзе назіраецца пастаянны адток мэдычных кадраў. Узьнікла сытуацыя, калі вузкіх спэцыялістаў налічваюцца адзінкі на цэлы горад. Да некаторых спэцыялістаў чарга па запісу даходзіць да двух месяцаў.

У межах маштабнай мадэрнізацыі сыстэмы аховы здароўя вобласьці ў пачатку 2012 году ў Воршы пачалося будаўніцтва лячэбнага 10-павярховага корпусу гарадзкога шпіталя №1 імя Сямашкі. Ён павінен стаць найбуйнейшым мэдычным аб’ектам у раёне.

Заплянавана, што гэта будзе адзіны сучасны лячэбны цэнтар з мноствам аддзяленьняў, якія пераедуць сюды зь іншых карпусоў шпіталя і мэдычных установаў гораду: нэўралягічным, гемадыялізу, гінэкалягічным, тэрапэўтычным, кардыялягічным, лор-хвароб і афтальмалягічным. Акрамя таго, заплянаваны два дапаможныя аддзяленьні: дыягностыкі і аднаўленчае (фізыялячэньне, масаж і г. д.). На 1-м паверсе разьмесьціцца рэанімацыйнае аддзяленьне, пашырыцца лябараторыя. Пры гэтым улады замоўчваюць той факт, што аддзяленьні, якія перавядуць у новы корпус, падвергнуцца скарачэньню ложка-месцаў, некаторыя, паводле слоў лекараў, скароцяць удвая.

Увод у строй новага корпусу быў заплянаваны на канец 2013 году. Але тэрміны здачы аб’екту ўжо пераносіліся двойчы. Сёлета недабудаваны корпус будзе, імаверна, ізноў зімаваць бяз даху. “Няма грошай”, – кажуць улады гораду. Тым ня менш пры адсутнасьці сродкаў гарадзкія ўлады за апошнія чатыры гады на падсьвятленьне дамоў і сьвяточную ілюмінацыю выдаткавалі каля 300 тысяч даляраў, а з апошніх “неабходных” гораду набыткаў – гэта купля да Новага году вулічнай елкі коштам 420 мільёнаў рублёў.

“А пакуль мы лечымся ў шпіталёх, якія былі пабудаваныя да «гістарычнага матэрыялізму»”, – адзначыў Яўген Анішчанка.

**12.12.2014** Зварот ад імя больш за 1000 віцебчукоў за якасную мэдыцыну быў дасланы поштаю у Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь. Таксама лісты былі асабіста перададзеныя ў Віцебскі гарадзкі выканаўчы камітэт і Савет дэпутатаў.

У звароце жыхары выказваюць заклапочанасьць пагаршэньнем якасьці і даступнасьці мэдычнага абслугоўваньня, заклікаюць Віцебскі гарвыканкам выконваць дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў галіне аховы здароўя і завяршыць бу-


Вадзім Кузьмін

даўніцтва даўно заплянаваных паліклінік. А таксама тэрмінам у адзін месяц арганізаваць грамадзкія слуханьні па гэтых праблемах з прадстаўнікамі ўсіх структур, якія адказваюць за стан мэдыцыны ў горадзе.

16 сьнежня адбудзецца сэсія, на якой Віцебскія гарадзкія ўлады будуць прымаць бюджэт на 2015 год, калі і стане вядома, ці будзе фінансаваньне будаўніцтва 1-й чаргі паліклінічнага комплексу ў Білева. А вось на паліклініку ў мікрараёне Поўдзень-7 павінна быць, паколькі яно ўжо пачатае.

Пра гэта **актывісты форуму "За якасную мэдыцыну ў Віцебску" Тацьцяна Севярынец, Алена Шабуня** ды **Вадзім Кузьмін** даведаліся на сустрэчы са старшынём Віцебскага гарсавету дэпутатаў Міхаілам Партным, галоўным лекарам Цэнтральнай паліклінікі Станіславам Цітовічам ды намесьнікам старшыні гарвыканкаму Ўладзімерам Шломам.

"Нам адзначылі, што ў Віцебску нараджальнасьць упершыню за шмат гадоў перавысіла сьмяротнасьць на 211 чалавек. Гэта зьвязваюць з паляпшэньнем якасьці мэдычнага абслугоўваньня. У нас жа якраз па якасьці і былі пытаньні, якія, сфрмуляваныя ў калектыўным звароце ад жыхароў Віцебску, і былі перададзеныя спадару Партному", – паведаміла каардынатар аргкамітэту БХД па Віцебшчыне Тацьцяна Севярынец.

"Гутарка доўжылася гадзіну замест выдзеленых паўгадзіны. Шмат пытаньняў было абмеркавана. Зразумела, што ня ўсё так хутка, як хацелася б і патрэбна, будзе вырашана. І хаця спадар Цітовіч настойваў, што хапае і вузкіх спэцыялістаў (адна з галоўных праблем гораду), аднак пасьля асабістай гісторыі Вадзіма Кузьміна вымушаны быў паабяцаць дапамагчы таму трапіць да патрэбнага спэцыяліста. Дзякуй, што хоць камусьці канкрэтная карысьць ад нашай сустрэчы. Адзначым, што гарадзкая прэса з пачаткам кампаніі форуму стала больш увагі надаваць пытаньням мэдыцыны", – падкрэсьліла яна.

**24.12.2014** Праваабаронцы Віцебску даслалі віншавальныя паштоўкі беларускім палітвязьням: «Віцебскія праваабаронцы шчыра віншуюць Вас са сьвятам Божага нараджэньня і Новым 2015 годам. Жадаем Вам здароўя і ўдач у Новым годзе. Трымайцеся», – напісалі яны кожнаму з шасьці чалавек, якія ўтрымліваюцца за кратамі за свае палітычныя перакананьні: **Мікалаю Статкевічу**, **Мікалаю Дзядку**, **Ігару Аліневічу**, **Яўгену Васьковічу**, **Арцёму Пракапенку**, **Юрыю Рубцову**.

**Праваабаронца Леанід Сьвецік**: «Пачынаючы з 2011 году, віцебскія праваабаронцы пастаянна ладзяць акцыі ў падтрымку палітычных актывістаў, якія былі асуджаныя і адбывалі пакараньні ў турмах і папраўчых калёніях. Для нас важна, што пра зьняволеных памятаюць, маральна падтрымліваюць іх і чакаюць на волі. Мы


Леанід Гаравы

разумеем, што маральная падтрымка – гэта практычна адзіная магчымасьць выказаць салідарнасьць з тымі, хто за сваю грамадзянскую пазыцыю апынуўся ізаляваным дзяржавай ад грамадзтва, ад паплечнікаў па барацьбе за лепшую будучыню для Беларусі».

**28.12.2014** Пра мясцовае самакіраваньне і ўдзел грамадзянаў у вырашэньні пытаньняў на мясцовым узроўні гаварылі на сэмінары ў Паставах. Яго ладзіла грамадзкае аб'яднаньне „Самакіраваньне і грамадзтва" для актывістаў Пастаўшчыны і Глыбоччыны.

Паводле словаў **кіраўніка грамадзкага аб'яднаньня Хрыстафора Жаляпава**, гэтае аб'яднаньне было створанае дзеля таго, каб спрыяць актывізацыі дзейнасьці простых грамадзянаў у вырашэньні тых мясцовых праблемаў, якія ёсьць у кожным населеным пункце: „Усё ж такі Беларусь – гэта эўрапейская краіна, і мы ўсе хочам, каб гэта была эўрапейская краіна. Для таго, каб мы былі эўрапейскай краінай, мы мусім ствараць той асяродак, у якім мы жывём паводле эўрапейскіх стандартаў. У Эўропе самае галоўнае – гэта ўдзел грамадзян, у Эўропе людзі вырашаюць, як яны павінны жыць".

На сэмінары прысутных пазнаёмілі з Эўрапейскай хартыяй мясцовага самакіраваньня. А таксама разгледзелі сучаснае заканадаўства пра грамадзкае тэрытарыяльнае самакіраваньне і ўдзел грамадзян у вырашэньні пытаньняў мясцовага значэньня праз грамадзкія абмеркаваньні і звароты.

**11.01.2015** Праваабаронцы і журналісты Віцебску ў памяць ахвяраў тэракту ў Францыі сфатаграфаваліся з плякатамі, на якіх было напісана «Je suis Charlie» («Я – Шарлі»). Гэтак яны выказалі сваю салідарнасьць з французскім народам. Таксама на памяць людзей, якія загінулі ў выніку нападу на рэдакцыю французскага часопісу «Charlie Hebdo», былі ўскладзеныя кветкі да сьцяны зь вядомым ў горадзе графіці з клеткамі і птушкамі, якое сымбалізуе свабоду прэсы і выказваньня меркаваньняў.

**30.01.2015** сябры Беларускай асацыяцыі журналістаў сустрэліся ў Віцебску для супольнага абмеркаваньня шырокага кола праблемаў. Калегі разважалі пра аспэкты ўзаемадзеяньня НДА зь мясцовымі ўладамі, пра асаблівасьці працы журналістаў, што зьявіліся ў сувязі са зьменамі ў Законе аб СМІ, пра пэрспэктыўныя пляны дзейнасьці ў 2015 годзе. А таксама вучыліся, якім чынам можна палепшыць напаўненьне мясцовых інтэрнэт-сайтаў за кошт якасных фотарэпартажаў.

**Леанід Гаравы**, **сябра БАЖ** з райцэнтру Гарадок, які таксама зьяўляецца экспэртам ГА "Самакіраваньне і грамадзтва", прадставіў прысутным вынікі маніторынгу ацэнкі ўдзелу НДА і грамадзкасьці ў працэсе прыняцьця рашэньняў мясцовымі


Аляксандар Зянкоў

ўладамі. На прыкладах Віцебску, Аршанскага і Пастаўскага раёнаў ён распавёў пра цяжкасьці, зь якімі сутыкаюцца грамадзяне, у тым ліку і журналісты, калі спрабуюць прыцягнуць увагу мясцовых уладаў да вырашэньня канкрэтных праблем. Прадметам аналізу Гаравога сталі сайты мясцовых органаў улады, дзе вельмі нерэгулярна публікуюцца рашэньні выканкамаў, гарадзкіх і раённых саветаў.

Прысутныя акцэнтавалі ўвагу на праблеме атрыманьня інфармацыі ад дзяржаўных структураў, а таксама на тым, што журналістам недзяржаўных СМІ практычна немагчыма трапіць на паседжаньні выканкамаў і мясцовых саветаў. Гэта вядзе да таго, што спажыўцам інфармацыі – мясцовым жыхарам – не ўдаецца атрымаць аб'ектыўнага апісаньня шмат якіх праблемных сытуацыяў у рэгіёне, якія часта прыхоўваюць ад увагі шырокай грамадзкасьці або папросту замоўчваюць.

Тэму складанасьці журналісцкай працы працягнуў праваабаронца, **сябра ГА "БАЖ" Павал Левінаў**. Ён казаў пра аспэкты працы журналіста, зьвязаныя са зьменамі ў Законе аб сродках масавай інфармацыі, у тым ліку датычна інтэрнэт-СМІ – тым сродкам інфармаваньня і камунікацыі з чытачамі, які робіцца ўсё больш папулярным і запатрабаваным.

Гэтыя акалічнасьці, на думку прысутных, зьяўляюцца істотным стымулам для паляпшэньня працы мясцовых інтэрнэт-рэсурсаў. Як можна дапоўніць і ўдасканаліць зьмест матэрыялаў сайту за кошт якасных фотаздымкаў і фотарэпартажаў, распавёў фатограф і відэаапэратар **Аляксандар Зянкоў**, **кіраўнік барысаўскай суполкі ГА "БАЖ"**. Удзельнікамі віцебскай сустрэчы якраз і былі ў асноўным тыя, хто займаецца рэдагаваньнем мясцовых інтэрнэт-рэсурсаў (у Віцебску і Віцебскім раёне, Гарадку і Бешанковічах) або супрацоўнічае з рэгіянальнымі інтэрнэт-выданьнямі. Было абмеркавана шмат практычных пытаньняў наконт апрацоўкі фота і розных аспэктаў жанру фотарэпартажу.

Паколькі на сустрэчу ў Віцебск прыехалі прадстаўнікі розных рэгіёнаў, яны выказвалі пажаданьні і наконт далейшага міжрэгіянальнага супрацоўніцтва. У першую чаргу паміж суполкамі Віцебшчыны, дзе найбольшая колькасьць сяброў БАЖ жыве ў абласным цэнтры, Полацку, Глыбокім, Воршы, а таксама паміж філіямі найбліжэйшых рэгіёнаў суседніх абласьцей (Барысава, Горак, Бабруйску). Міжрэгіянальныя сустрэчы, прысьвечаныя супольным праблемам суседніх рэгіёнаў або арганізаваныя з мэтаю навучаньня, мусяць паспрыяць і росту прафэсійнага майстэрства, і наладжваньню сяброўскіх сувязяў, і ўмацаваньню журналісцкай салідарнасьці.

**30.01.2015** Віцебскай грамадзкасьці не ўдаецца паўплываць на сутнасьць рашэнь-

няў мясцовай улады. Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі “Маніторынгу ацэнкі ўдзелу НДА і грамадзкасьці ў працэсе прыняцьця рашэньняў на мясцовым узроўні”. Вынікамі маніторынгу віцебскія актывісты падзяліліся з журналістамі і праваабаронцамі.

**Леанід Гаравы**, **экспэрт віцебскага грамадзкага аб’яднаньня “Самакіраваньне і грамадзтва”**, распавёў, што маніторынг цягам апошніх 6-ці месяцаў 2014 году праводзіўся ў Віцебску, а таксама ў Аршанскім і Пастаўскім раёнах. Матэрыяламі для аналізу былі афіцыйныя сайты мясцовых органаў улады і дакумэнты, якія тычацца спробаў узаемадзеяньня актывістаў НДА зь мясцовымі ўладамі.

“Мясцовыя ўлады Віцебску, Аршаншчыны і Пастаўшчыны, здаецца, ня надта імкнуцца да супрацоўніцтва з грамадзянамі і прадстаўнікамі НДА. Выканаўчымі камітэтамі і мясцовымі саветамі не прадугледжаныя прававыя мэханізмы, якія можна было б скарыстаць для агалошваньня нейкай праблемы. Напрыклад, грамадзяне і НДА ня могуць зрабіць так, каб нейкае вострае пытаньне было вынесенае на паседжаньне органу ўлады, або паўплываць на сутнасьць рашэньня па нейкім пытаньні”.

Паводле Леаніда Гаравога, улады настолькі аддаленыя ад простых грамадзянаў, што нават ня лічаць патрэбным знаёміць апошніх са сваімі рашэньнямі. Хаця права на атрыманьне праўдзівай і вычарпальнай інфармацыі мае кожны грамадзянін Беларусі, нават афіцыйныя сайты не сьпяшаюцца паведамляць, што адбываецца “ва ўладзе”. Прыкладам, на сайце Віцебскага гарвыканкаму за ўвесь 2014 год апублікаваныя ўсяго два рашэньні гэтага органу ўлады, і абодва датаваныя першым паўгодзьдзем. На сайце аршанскага райвыканкаму існуе разьдзел “Афіцыйнае апублікаваньне”, адмыслова прадугледжаны для публікацыі рашэньняў. Аднак ён пусты. Што да Аршанскага райсавету, то на інтэрнэт-старонцы ў адпаведным разьдзеле прадстаўленае адзінае рашэньне – і тое за 2012 год. Нібыта ў 2014 годзе дэўтаты не працавалі і нічога не вырашалі. На сайце Пастаўскага райвыканкаму таксама апублікаванае ўсяго адно рашэньне, датаванае 2014 годам.

Атрымліваецца, што органы ўлады існуюць самі па сабе і не зацікаўленыя ў супрацоўніцтве зь мясцовымі жыхарамі. Але і мясцовыя жыхары ня могуць праявіць ініцыятыву, каб зьвярнуць на сябе ўвагу ўладаў. Адным з самых паказальным фактаў зьяўляецца немагчымасьць скарыстацца правам на правядзеньне масавых мерапрыемстваў, лічыць віцебскі **каардынатар руху “За свабоду” Хрыстафор Жаляпаў**:

“У дзяржавы і на мясцовым узроўні намінальна існуюць мэханізмы ўплыву на мясцовыя ўлады праз выказваньне грамадзкай думкі – напрыклад, падчас пікетаў, сходаў, іншых масавых акцыяў. Але на практыцы гэтым правам і ўдзельнікі НДА, і шараговыя грамадзяне скарыстацца ня могуць: паводле рашэньняў Віцебскага гарвыканкаму, Аршанскага гарвыканкаму, Пастаўскага райвыканкаму створаныя такія ўмовы, што заяўкі на мерапрыемствы не задавальняюць. Патрабуюць папярэдніх дамоваў на абслугоўваньне міліцыяй, урачамі, камунальнымі службамі, а тыя, у сваю чаргу, ад заключэньня дамоваў ухіляюцца. Паўплываць на ўлады, каб яны зьмянілі свае рашэньні, зрабіўшы іх выканальнымі, таксама не


Аркадзь Шульман

ўдаецца: што да рашэньня Віцебскага гарвыканкаму наконт арганізацыі і правядзеньня масавых акцыяў, нам заўжды адказваюць, што яно бездакорнае ў юрыдычным сэнсе, і таму зьмены ў ім не патрэбныя".

Удзельнікі маніторынгу прыйшлі да несуцяшальных высноваў. У мясцовых уладаў няма зафіксаваных заканадаўствам абавязкаў даваць справаздачу насельніцтву, кансультавацца зь мясцовымі жыхарамі наконт наступных крокаў у палітыцы, арганізоўваць абмеркаваньні надзённых пытаньняў і гэтак далей. А жаданьня грамадзянаў зьвярнуць на сябе ўвагу ўладаў далёка не дастаткова, каб гэта ўвасобілася ў жыцьцё: з 2009 году ў Віцебску і ў рэгіёнах выканкамы не дазволілі ніводнага масавага мерапрыемства, калі ініцыятыва сыходзіла ад грамадзкіх актывістаў. І ўсе спробы рэалізаваць свае права на публічнае выказваньне меркаваньняў скончваліся судовымі пакараньнямі за правядзеньне несанкцыянаваных масавых акцыяў.

**11.02.2015** Прадстаўнікі габрэйскай грамады Віцебску і Санкт-Пецярбурга ініцыявалі добраўпарадкаваньне аднаго з найстарэйшых габрэйскіх пахаваньняў у Беларусі – могілак у горадзе Бешанковічы. Пра гэта паведаміў **кіраўнік габрэйскай грамады Віцебску**, гісторык і журналіст **Аркадзь Шульман**.

"Апошнія пахаваньня праводзіліся некалькі дзесяцігодзьдзяў таму. Паколькі ў Бешанковічах ўжо няма габрэйскай грамады, а ў тых старых-габрэяў, хто дажывае тут свой век, бракуе сіл на расчыстку могілак, яны парасьлі лесам і хмызьняком, скрозь завалы часам цяжка прабрацца да пахаваньняў. Два гады таму быў праведзены суботнік, але могілкі зноў прыйшлі ў запусьценьне. Ініцыятыва добраўпарадкаваньня была падтрымана мясцовымі ўладамі. У добраўпарадкаваньні возьме ўдзел група зь Віцебску, Менску, Санкт-Пецярбургу, чые продкі жылі ў прыгожым мястэчку Бешанковічы. Узяліся паўдзельнічаць і маладзёны з наваполацкага моладзевага грамадзкага аб'яднаньня. Таксама абяцаў падлучыцца мясцовы лясгас, на тэрыторыі якога разьмешчаныя могілкі. І мы запрашаем усіх неабыякавых далучыцца да гэтай акцыі", – сказаў Аркадзь Шульман.

Летам пачнуцца работы па расчыстцы тэрыторыі могілак у Бешанковічах ад завалаў. Плянуюцца чэрвеньскі і жнівеньскі працоўныя лягеры.

**21.02.2015** Віцебск стаў 45-м горадам краіны, у якім былы **палітвязень Павал Севярынец**, **сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя»** (БХД) прэзэнтаваў сваю новую кнігу «Беларуская глыбіня». Сустрэча з прыхільнікамі ягонай творчай і палітычнай дзейнасьці адбылася ў памяшканьні «Эўрапейскага клюбу».

Зборнік складаецца з 84-х эсэ, напісаных з 2011 па 2013 гады, падчас адбыцьця


Павал Севярынец

«хіміі» за Плошчу-2010 у вёсцы Куплін Пружанскага раёну Берасьцейскай вобласьці.

Пасьля прэзэнтацыі Павал Севярынец адказаў на шэраг пытаньняў, зададзеных прысутнымі, а напрыканцы кожны ахвотны змог атрымаць кнігу з уласнаручным пісьмовым пажаданьнем аўтара.

**01.03.2015** Напярэдадні гадавіны з дня сьмерці Рыгора Барадуліна на курсах «Мова-нанова» ў Віцебску прайшлі заняткі, прысьвечаныя вялікаму паэту сучаснасьці. Нямала цёплых слоў было сказана вядоўцамі і слухачамі ў адрас «дзядзькі Рыгора», які пакінуў пасьля сябе вялікую творчую спадчыну.

Вершы Барадуліна слухачы курсаў беларускай мовы з задавальненьнем чыталі ўслых. І самі напісалі невялікія паэмы, прысьвечаныя ўлюбёнаму паэту. Таксама на курсах прайшла прэзэнтацыя слоўніку Сьцяпана Некрашэвіча «Расійска-беларускі слоўнік», напісаная тарашкевіцай.

А скончыліся заняткі выступам гурту «Re1ikt» са Сьветлагорску, якая з 1999 году карыстаецца посьпехам сярод беларусаў, якія шануюць стыль гранж, рок, фолькмэтал. Цяпер хлопцы рыхтуюцца да выпуску новага альбому, прысьвечанага звычайным беларусам, якім сёньня даводзіцца нялёгка.

**21.03.2015** У Полацку 21 сакавіка адбылася дыскусія аб магчымасьцях удзелу ў мясцовым самакіраваньні. З палачанамі сустрэліся экспэрты ў галіне самакіраваньня мясцовых супольнасьцяў **праваабаронца Леанід Гаравы** і **юрыст Міхаіл Пліска**. Грамадзяне яшчэ маюць магчымасьці ўплываць на прыняцьце рашэньняў на мясцовым узроўні, але гэтыя магчымасьці мінімальныя. Беларусам яшчэ далёка да эўрапейскіх стандартаў ўдзелу грамадзян у кіраваньні жыцьця ў сваёй мясцовасьці і, тым больш, у сваёй краіне.

Экспэрты распавялі пра беларускія законы, якія рэгулююць удзел грамадзян у прыняцьці рашэньняў на мясцовым узроўні, такія як закон «Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні ў Рэспубліцы Беларусь». Артыкул 35 закону дае магчымасьць уносіць на разгляд мясцовага савету матываваныя прапановы па пытаньнях мясцовага значэньня і нават падрыхтаваныя праекты рашэньняў па якім-небудзь пытаньні. Выканкамы на месцах абавязаныя такія праекты рашэньняў разгледзець і апублікаваць вынік у мясцовай газэце.

Экспэрт віцебскага грамадзкага аб’яднаньня «Самакіраваньне і грамадзтва» Леанід Гаравы распавёў аб эўрапейскіх стандартах у галіне самакіраваньня. У прыватнасьці аб «Кодэксе рэкамендаванай практыкі грамадзянскага ўдзелу ў працэсе прыняцьця рашэньняў», які прыняты Канфэрэнцыяй Міжнародных няўрадавых

арганізацыяў у кастрычніку 2009 году. Кодэкс прыводзіць рэкамэндацыі і практыкі супрацоўніцтва органаў дзяржаўнага кіраваньня і мясцовых асацыяцыяў грамадзян. Пры гэтым кодэкс не прымушае да выкананьня якіх-небудзь правілаў, а прапануе прымяняць прынцыпы зь лепшых практык прыняцьця рашэньняў, якія паляпшаюць жыцьцё грамадзян.

Удзельнікам мерапрыемства была раздадзеная літаратура, якая дапамагае мясцовым грамадзкім арганізацыям палепшыць практыку ўплыву грамадзян на рашэньні, якія прымаюцца мясцовай уладай.

**24.03.2015** Ствараецца грамадзкая ініцыятыва дзеля ўшанаваньня памяці ахвяр сталінізму на Віцебшчыне. Рабочая назва грамадзкай ініцыятывы — «Хайсы». Паводле **сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава**, ініцыятыве далі імя вёскі, дзе ў лістападзе мінулага году віцебскія партыйцы ўшанавалі памяць невядомых ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў.

Менавіта Яну Дзяржаўцаву належыць ідэя «Хайсоў». Бо толькі намаганьнямі грамадзкасьці, на ягоную думку, можна змусіць мясцовыя ўлады ўсур’ёз узяцца за расьсьледаваньне даўніх забойстваў і ўшанаваньне памяці загінулых.

Ініцыятыва «Хайсы» ствараецца, каб зьвяртацца да адказных структураў не прыватным чынам, а ад імя грамадзкай супольнасьці. Удзельнічаць у ініцыятыве пагадзіліся прадстаўнікі розных партыяў і грамадзкія актывісты. Пачаць дзейнасьць вырашылі са збору подпісаў пад калектыўным лістом у Мазалаўскі сельсавет, каб атрымаць дазвол на добраўпарадкаваньне месца расстрэлу і ўсталяваньне памятнага знаку. У далейшых плянах ініцыятывы «Хайсы» — стварэньне інтэрактыўнай мапы, каб кожны ахвотны меў магчымасьць даведацца пра гісторыю гэтых мясьцін і наведаць іх.

Таксама вырашылі працягваць зьбіраць сьведчаньні тых, хто памятае пра сталінскія расстрэлы 1930–50-х гадоў. Прычым ня толькі каля вёсак Хайсы і Дрыкольле, а па ўсім Віцебскім раёне, ці нават шырэй — па ўсёй Віцебскай вобласьці. Бо сьведкі тых падзеяў адзін за адным сыходзяць у лепшы сьвет, а іх успаміны — гэта вельмі каштоўны гістарычны матэрыял. Калі-небудзь гэтыя ўспаміны стануць падставай для ўсталяваньня ў Віцебску помніку ахвярам сталінізму — з такой прапановай удзельнікі ініцыятывы «Хайсы» зьбіраюцца зьвярнуцца ў Віцебскі аблвыканкам.

**24.03.2015** Актывісты «Маладой Беларусі» павіншавалі жыхароў Віцебску з Днём Волі. Напярэдадні сьвята яны вывесілі забароненыя ўладамі бел-чырвона-белы сцяг на шматпавярховым будынку на скрыжаванні Маскоўскага праспэкту і вуліцы Чкалава.

**25.03.2015** У Дзень Волі белыя і чырвоныя стужкі зьявіліся каля віцебскіх мастоў. Чыя гэта ідэя – невядома, але мінакі адразу зьвярнулі ўвагу на незвычайную зьяву. На стужках белага колеру зробленыя надпісы «Жыве Беларусь!» і «Дзень волі».

**25.03.2015** У Глыбокім адзначылі Дзень Волі. Сьвяткаваньне пачалося з прэзэнтацыі кнігі вершаў «Шурпатая дарога» Віктара Сікоры, сына слыннага садавода Івана Сікоры з Малых Алашкаў. Гэтую кнігу вершаў, менавіта да Дня Волі, саматужна, у колькасьці 25 асобнікаў, цягам ночы, выдрукаваў на прынтары і сшыў


Язэп Квач

**Зьміцер Лупач**.

Віктар Сікора ў 1942 годзе паступіў у Пастаўскую настаўніцкую сэмінарыю, у якой выкладаў Барыс Кіт. Зь вясны 1944 году сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Улетку 1944 году – на падпольнай працы. Вясной 1945 году арганізаваў антысавецкі партызанскі атрад. Арыштаваны 5 сьнежня 1945 года, вязень ГУЛАГу. У Беларусь вярнуўся напрыканцы 1954 году. Жыў у вёсцы Малыя Алашкі ля Шаркоўшчыны. Пісаў патрыятычныя вершы. Памёр 1 ліпеня 2008 году.

Цяпер мясцовыя шаркоўшчынскія грамадзкія актывісты, найперш Язэп Квач, які дасьледаваў рукапісны архіў В. Сікоры, са сшыткаў вершаў Віктара Сікоры зрабілі кнігу, вершы падрыхтавала да друку і апрацавала падсьвільская паэтка **Марыя Баравік**.

На прэзентацыі кнігі ў Глыбокім выступілі **Язэп Квач** і **Ада Эльеўна Райчонак**, якая асабіста знала ня толькі Віктара Сікору, але і яго бацьку Івана Сікору, слыннага беларускага садавода. Было прачытана колькі вершаў паэта. Усе прысутныя атрымалі па кнізе вершаў Віктара Сікоры.

Потым усе прысутныя рушылі з кветкамі да Алеі Славы, дзе да помніку аднаму з айцоў БНР Вацлаву Ластоўскаму былі ўскладзеныя кветкі. Далей, на Копцеўскім цьвінтары, былі ўскладзеныя кветкі на магіле Альбэрта Бацяноўскага, студэнта Глыбоцкай пэдвучэльні, сябра падпольнай арганізацыі Саюзу Беларускіх Патрыётаў, вязьня ГУЛАГу.

А на заканчэньне грамада рушыла да дому па вул. Горкага, 22, на якім усталяваная шыльда яшчэ аднаму айцу БНР Клаўдыюшу Дуж-Душэўскаму, аўтару бел-чырвона-белага сьцягу. Кветкі да шыльды паклаў цяперашні гаспадар дому спадар Салодкі.

**25.03.2015** Паводле даўняй ужо завядзёнкі жыхары Віцебску ў Дзень Волі 25 сакавіка ўскладаюць кветкі да мэмарыяльнай дошкі ў гонар Васіля Быкава і да помніку Ўладзімеру Караткевічу.

Сёлета ўскладаньне кветак прайшло таксама: зь дзясятак жыхароў абласнога цэнтру сабраліся каля помніка князю Альгерду, прайшлі да Усьпенскага сабору, дзе ўшанавалі памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, парэшткі якіх былі знойдзены пад царкоўнымі сьценамі ў час рэстаўрацыі. А потым усклалі кветкі да мэмарыяльнай дошкі на будынку былой мастацкай вучэльні, дзе вучыўся Васіль Быкаў, і да помніку Ўладзімеру Караткевічу.

Увесь маршрут сьледам за тымі, хто вырашыў такім чынам адзначыць Дзень волі, прайшлі віцебскія міліцыянты. Спачатку іх было пад дзясятак, урэшце засталіся

трое — але не шарагоўцы, а прадстаўнікі абласной управы МУС. Блізка супрацоўнікі міліцыі не падыходзілі — назіралі здалёк, а ў самым пачатку шляху зьнялі ўсіх прысутных на відэакамэру.

**27.08.2015** На тэрыторыі Віцебскай каталіцкай дыяцэзіі пачала дзейнічаць перасоўная выстава ў абарону жыцьця і сям'і: «Ёсьць два шляхі: шлях жыцьця і шлях сьмерці».

Цэнтральны стэнд выставы, як камень на скрыжаваньні, заклікае задумацца пра выбар свайго шляху, пра наступствы рашэньняў, што прымаюцца ў самых галоўных пытаньнях быцьця: жыцьця і сьмерці.

Выстава складаецца з 20 рол-стэндаў і суправаджаецца мультымэдыйнымі прэзэнтацыямі. У ёй прадстаўленыя дэмаграфічныя праблемы сучаснага сьвету, трагедыя адмовы ад нараджэньня дзяцей, шкода кантрацэпцыі і абортаў для духоўнага і фізычнага здароўя мужа і жонкі. Акрамя таго, яна арыентуе слухачоў на цнатлівасьць, натуральнае і гарманічнае сужэнства, заснаванае на любові і ўзаемапавазе.

Выстава зьяўляецца вынікам пяцігадовай працы супрацоўнікаў і валянтэраў дабрачыннага фонду «Адкрытыя сэрцы». Яна заснаваная на вопыце правядзеньня лекцыяў на тэмы абароны жыцьця і сям'і ў розных аўдыторыях у 2007-2014 гадох.

Выстава ўжо пачала свой шлях, пазнаёміцца зь ёй магла моладзь на сустрэчы ў Воршы, парафіяне парафіі Св. Айца Піё, а таксама парафіяне віцебскіх касьцёлаў Сьвятога Духа і Езуса Міласэрнага. Далей выстава будзе падарожнічаць па ўсёй Віцебскай вобласьці і за яе межамі.

**30.03.2015** Актывісты кампаніі "Віцебску – веладарожкі" у рамках "Народнага кантролю" 28 сакавіка правялі ў Віцебску велапрабег па праспэкце Перамогі – вуліцы Воінаў-інтэрнацыяналістаў – вуліцы Чкалава – праспэкце Перамогі. Мэта мерапрыемства – прыцягнуць увагу і мінакоў, і ўлады да гэтай надзённай праблемы.

На адным з ровараў быў зьмешчаны дэвіз кампаніі "Віцебску – веладарожкі". З надыходам вясны гэтая праблема абвастраецца, паколькі павялічваецца небясьпека сутыкненьня раварыстаў зь пешаходамі, а на дарозе – з аўтамабілістамі.

Таксама быў дасланы электронны зварот у Віцебскі гарвыканкам наконт гэтай праблемы. Зварот зарэгістраваны за № 1136. "Мы настойваем на найхутчэйшым вырашэньні праблемы. Гораду гэта абыдзецца малой крывёю, а парадку і зручнасьці павялічыцца ў разы", – адзначыла **каардынатар кампаніі "Віцебску – веладарожкі" Тацьцяна Севярынец**.

**31.03.2015** У Глыбокім грамадзкія актывісты зладзілі вулічную акцыю па раздачы мінакам стужак зь беларускім арнамэнтам. «У глыбоцкіх крамах не знайшлі стужак зь бел-чырвона-белым узорам, але ўсё адно вырашылі раздаць стужкі, хоць і з дадаткам зялёнага колеру, бо гэта таксама нейкі напамін людзям пра беларускасьць", – распавёў **удзельнік акцыі Зьміцер Лупач**.

Стужкі зь беларускім арнамэнтам былі раздадзеныя ў цэнтры гораду, у парку Перамогі. Такія акцыі, паводле слоў актывістаў, яны будуць ладзіць часьцей.


Ніна Турчына

**02.04.2015** Амаль 70 жыхароў дому № 7 па вуліцы Міру ў Воршы масава прыйшлі на сход, каб вырашыць праблему добраўпарадкаваньня двара.

Дом у цэнтры гораду, дзе месьціцца кнігарня «Родник», з боку вуліцы выглядае цалкам прыстойна. Але такое адчуваньне імгненьнем зьнікае, калі заходзіш у двор. Вялікая безгаспадарная тэрыторыя са зьдзічэлымі запушчанымі кветнікамі, паўразьбітымі рэшткамі былых спартовых збудаваньняў і хаатычная паркоўка аўтамабіляў проста на траве.

У рэшце рэшт жыхарам такі стан спраў парадкам надакучыў. Яны на сход, каб перадаць Аршанскім камунальным службам свае прапановы па рамонце двара. Праект пляну яшчэ трэба ўзгадніць з зацікаўленымі арганізацыямі – газавікамі, водаканалам, электрасеткамі, сувязістамі і г.д. На сходзе абралі адказных асоб ад кожнага з васьмі пад’ездаў дому. Жыхары дому маюць рашучы настрой і наважаныя дамагацца работ па добраўпарадкаваньні.

**04.04.2015** У Верхнядзьвінску прайшла сустрэча, прысьвечаная абароне працоўных правоў. Сустрэча, на якой абмяркоўваліся апошнія зьмены ў працоўным заканадаўстве, была арганізаваная Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй (Грамада) – БСДП(Г). Экспэрты ў галіне працоўнага права, прафсаюзнага руху і псыхалёгіі азнаёмілі прысутных са спэцыфікай сёньняшніх працоўных адносін у Беларусі.

У ліку іншага абмяркоўваліся юрыдычныя адметнасьці і наступствы ўвядзеньня дэкрэту №5 «Аб узмацненьні патрабаваньняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацыяў». Сярод новаўвядзеньняў дэкрэту №5 адзначаліся наступныя: 1) пазбаўленьне прэміяльных даплат стымулюючага характару на некалькі месяцаў; 2) зьмяненьне ўмоваў працы на працягу сямі дзён; 3) дысцыплінарнае спагнаньне на запатрабаваньне мясцовых уладаў.

Паводле расказаў людзей, усё згаданае дэ-факта практыкаваліся і раней, але цяпер такая практыка ў адносінах паміж работнікамі і кіраўнікамі прадпрыемстваў і арганізацыяў узаконеная. Дэкрэт збольшага абагульніў усе наяўныя ў розных законах падставы да звальненьня работнікаў і надаў ім статус дыскрэдытуючых прычын звальненьня. Такія звальненьні цяпер могуць ускладніць наступнае ўладкаваньне на працу, прычым больш складанасьцяў узьнікне ў кіруючых работнікаў.

Экспэрт у галіне прафсаюзнай абароны працоўных **Ніна Турчына**, **намесьніца старшыні Беларускага незалежнага прафсаюзу (БНП) працоўных ААТ «Нафтан»**, распавяла аб практычным досьведзе прафсаюзу ў абароне інтарэсаў працоўных. Паводле яе слоў, дэмакратычныя прафсаюзы ў Беларусі малалікія з-за ціску на працоўных начальнікамі, якія перашкаджаюць ўступленьні рабочых у гэтыя


Тацьцяна Караткевіч

прафсаюзы. А старыя савецкія прафсаюзы фэдэрацыі, у якія заганяюць рабочых, адкрыта становяцца на бок дырэктараў. Але і ў такіх умовах дэмакратычныя прафсаюзы здольныя адстаяць інтарэсы сваіх сяброў. Да дэмакратычнага прафсаюзу БНП могуць належаць толькі рабочыя, і недапушчальны ўдзел начальнікаў, каб не было канфлікту інтарэсаў.

Частку сустрэчы правёў псыхоляг, які даў практычныя навыкі псыхалягічнай абароны ад стрэсавых сытуацыяў у працоўных узаемаадносінах работніка з начальнікамі. Псыхалягічныя стрэсы на працы істотна ўскладняюць жыцьцё, і з гэтым трэба ўмець змагацца. Практыкаваньні, праведзеныя з удзельнікамі сустрэчы, у далейшым дапамогуць апошнім у іх штодзённым жыцьці і пры зносінах з начальствам.

**14.04.2015** У Глыбокім зьбіралі подпісы за гістарычныя назвы вуліц. У сваім звароце да мясцовых уладаў людзі просяць згадаць на шыльдах гістарычныя назвы вуліц. За гэты сабрана каля шасьці дзясяткаў подпісаў жыхароў гораду. Подпісы перадалі ў глыбоцкі раённы Савет дэпутатаў. Разам з подпісамі быў перададзены і ўзор шыльды, якую распрацавалі прадстаўнікі грамадзкасьці Глыбокага.

У акцыі ўзяла ўдзел **Тацьцяна Караткевіч**, якую ініцыятыва “Народны рэфэрэндум” можа вылучыць кандыдатам у прэзыдэнты. Яна адмыслова прыехала зь Менску.

**26.04.2015** У гадавіну Чарнобыля ў Віцебску была праведзеная акцыя памяці. Пасьля невялічкага мітынгу быў спушчаны на ваду Заходняй Дзьвіны вянок з жалобным надпісам: «Героям-ліквідатарам Чарнобыля ад нас, жывых».

Падобныя акцыі ў гэты дзень ладзіліся таксама ў Воршы, Полацку і Наваполацку.

Ліквідатары чарнобыльскай аварыі, якія жывуць сягоньня ў Віцебску, на чале з былым начальнікам штаба аператыўнай групы ГА СССР па ліквідацыі наступстваў катастрофы на атамнай станцыі палкоўнікам у адстаўцы **Анатолем Гнеўкам** штогод праводзяць акцыю памяці ахвяр катастрофы.

Варта адзначыць, што ні разу на мерапрыемства не прыходзілі прадстаўнікі гарадзкой і абласной улады. Але ўвесь час накіроўваліся да месца акцыі пераапранутыя вартавыя парадку.

Гэтым разам на мерапрыемстве ў Віцебску прысутнічалі **сябра КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў**, **сябра БНФ Кастусь Смолікаў**, **Вадзім Кузьмін (партыя «Справядлівы сьвет»)**, прадстаўнікі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі («Грамада»), некалькі вернікаў Віцебскай парафіі Грэка-Каталіцкай Царквы і іншыя жыхары Віцебску. Ян Дзяржаўцаў уручыў арганізатару акцыі Анатолю Гнеўку букет зь


Анатоль Гнеўка

бел-чырвона-белых кветак і пажадаў здароўя усім чарнобыльцам Віцебшчыны.

**22.05.2015** Канфэрэнцыя «Душпастырства і сацыяльная дапамога зьняволеным у месцах пазбаўленьня волі», якая праходзіла на базе Віцебскай духоўнай сэмінарыі, сабрала праваслаўных і каталіцкіх герархаў зь Беларусі, Расеі, Украіны і Аўстрыі, а таксама праваахоўнікаў і навукоўцаў-пэнітэнцыярыстаў з вышэйшых навучальных установў.

Разам яны разьбіраліся, як лепш арганізаваць посттэалягічную адукацыю і навучаньне сьвятароў, якія нясуць служэньне ў папраўчых установах, каб яны маглі ў поўнай меры аказваць духоўна-пастырскую, псыхалягічную, юрыдычную і сацыяльна-адаптацыйную дапамогу вязьням.

У завяршэньне форуму замежнікам паказалі, якія ўмовы створаныя ў нашай краіне для асоб, якія адбываюць пакараньне. Госьці наведалі лячэбна-працоўны прафілякторый у Наваполацку і папраўчую калёнію ў Віцебску. Да прыкладу, у ПК-3 яны азнаёміліся з умовамі жыцьця і побыту пастаяльцаў, наведалі мясцовую царкву. Апроч таго, там адбылося падпісаньне рэзалюцыі па выніках канфэрэнцыі.

«Мы прынялі вельмі важны дакумэнт, зьвязаны з арганізацыяй адукацыйнага працэсу для турэмных сьвятароў. Асабліва для тых зь іх, хто ў далейшым стане штатным супрацоўнікам крымінальна-выканаўчай сыстэмы Расеі, Украіны і Беларусі, – сказаў старшыня сынадальнага аддзелу па турэмным служэньні Маскоўскага патрыярхату **япіскап Краснагорскі Ірынарх (Грэзін)**. – Выказваем падзяку ўсім, хто ўдзельнічаў у працы канфэрэнцыі, у тым ліку аўстрыйскаму біскупу Францу Шарлю».

**27.05.2015** У Віцебску з ініцыятывы Чырвонага Крыжа прайшоў маратон інвалідаў-вазочнікаў. Людзі з абмежаванымі магчымасьцямі сабраліся раніцай і ўсклалі кветкі да Вечнага Агню, каб ушанаваць памяць продкаў, якія змагаліся за Перамогу. А пасьля, ужо з дапамогай валянтэраў з Чырвонага Крыжа і Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўнівэрсытэту, маратонцы рушылі на перакрыжаваньне вуліц Леніна і Жасткова.

**31.05.2015** Актывісты аргкамітэту па стварэньні грамадзкай ініцыятывы «Хайсы» адведалі месца масавых пахаваньняў – лес каля вёскі Хайсы.

Яны запалілі сьвечкі і ўсклалі кветкі на краі самых вялікіх ямін, дзе ляжаць чалавечыя парэшткі. Яшчэ ўвосень тут былі ўсталяваныя некалькі крыжоў, і цяпер актывісты грамадзкай ініцыятывы павязалі на іх стужкі зь беларускім арнамэнтам.

**07.06.2015** Збор подпісаў за ўсталяваньне памятнай шыльды ў гонар вядомага на


Надзея Язьмер

Глыбоччыне аграноma Баляслава Лапыра распачалі грамадзкія актывісты гораду. Дзякуючы яму Глыбокае славіцца ўраджайнасьцю вішань, менавіта ён выводзіў розныя ўстойлівыя гатункі гэтай ягады і прывозіў іх з замежжа.

«Гэты чалавек варты таго, каб яго ўшанавалі. Ягоная заслуга ня толькі ў тым, што ён быў добрым аграномам, але ён быў вялікім беларускім патрыётам, змагаўся за беларускую мову ў тагачаснай Рэчы Паспалітай», – кажа мясцовы **актывіст Зьміцер Лупач**.

Напрыканцы Другой Сусьветнай вайны Баляслаў Лапыр трапіў у лягер гораду Ваўкавыску. І аднойчы не вярнууўся з допыту, зьнік назаўжды ў калідорах НКВД. Яму інкрымінавалі супрацу зь немцамі за працу ў адміністрацыі. Ён ня быў асуджаны і таму ня быў і рэабілітаваны.

**10.06.2015** У Наваполацку прайшла сустрэча сяброў і прыхільнікаў «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі». Падчас сустрэчы **сустаршыня аргкамітэту БХД Павал Севярынец** прэзэнтаваў кнігу «Беларуская глыбіня». Удзел у сустрэчы ўзялі каля 20 чалавек.

На сустрэчы таксама абмяркоўвалася падрыхтоўка зьезду БХД 13 чэрвеня, кампанія «Права выбару», выбарчая кампанія 2015 году. Сярод удзельнікаў сустрэчы былі маці былых палітвязьняў – **Андрэя Гайдукова** і **Аляксандра Францкевіча**.

**16.06.2015** Скасаваньне льготных крэдытаў ударыла па малазабясьпечаных сем'ях. Жыхарка Полацку **Надзея Язьмер** ініцыявала на пляцформе Change.org збор подпісаў за аднаўленьне выдачы льготных крэдытаў і зьвяртаецца ў тэксьце да прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова.

«Нам скасавалі выдачу льготных крэдытаў. А што рабіць тым, хто пачаў будоўлю? Наша сям'я жыла ў інтэрнаце 10 гадоў і, нарэшце, атрымала права на тое, каб узяць ільготны крэдыт. Мы атрымалі надзел, паставілі падмурак, прыйшлі афармляць крэдыт у банк, а нам кажуць, што льготнае крэдытаваньне спыненае. Гэта несправядліва, так падманваць людзей і ставіць іх у бязвыходнае становішча! Сродкаў на крэдытаваньне, заплянаваных у 2015 годзе, выстарчыла толькі на 2 месяцы. І дзе ваша «падтрымка дзяржавы»? Дзе «стабільнасьць»? Колькі яшчэ чыноўнікі будуць набіваць свае кішэні?», – зьдзіўляецца жыхарка Полацку.

**20.06.2015** На Ўшаччыне адзначылі 91-я ўгодкі нараджэньня Васіля Быкава. Урачыстасьць прайшла ў двары дому-музэю пісьменьніка ў вёсцы Бычкі. Прысутнічалі на імпрэзе блізу паўтары сотні чалавек зь Віцебску, Менску, Полацку, Глыбокага, Гародні, Паставаў, Шаркоўшчыны і іншых гарадоў нашай краіны. Былі нават госьці з Украіны. Падчас сьвяткаваньня была ўручаная прэмія


Ада Райчонак

“За свабоду думкі”, якую сёлета атрымаў **Ніл Гілевіч**.

Па традыцыі адкрыў мерапрыемства **кіраўнік Віцебскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы Іосіф Навумчык**. Потым адбыліся літаратурныя чытаньні, прысьвечаныя Васілю Быкаву, пасьля якіх Віцебская арганізацыя ТБМ уручыла дыплёмы за ўжываньне беларускай мовы ў мясцовых СМІ ў 2014 годзе. Іх атрымалі раённыя выданьні з Шуміліна, Мёраў, Браслава, Докшыц і Паставаў, а таксама два незалежныя выданьні – газэта “Вольнае Глыбокае” і “Каталіцкі Веснік”.

Пасьля адбылося аб’яўленьне лаўрэата прэміі “За свабоду думкі”. Сёлетняга ляўрэата прадставіў **мастак Алесь Марачкін**. Сам Ніл Гілевіч па стане здароўя прыехаць ня змог, але даслаў сваё прывітальнае слова, якое прагучала на імпрэзе.

Удзельнікі сьвяткаваньня змаглі пачуць песьні ў выкананьні **Лявона Вольскага**, **Тацьцяны Матафонавай**, **Георгія Станкевіча**.

**27.06.2015** У вёсцы Германавічы, што ў Шаркоўшчынскім раёне, прайшло народнае гуляньне «бульбяны фэст». Імпрэза была арганізаваная самімі мясцовымі жыхарамі для сябе і гасьцей. Народнае сьвята праходзіла ў двары звычайнай вясковай хаты, у якой знаходзіцца прыватны культурна-асьветніцкі цэнтар імя Язэпа Драздовіча, створаны шчырай беларускай, пэнсіянэркай **Адай Райчонак**.

На імпрэзе прысутнічала каля 50 жыхароў Германавіч і гасьцей зь Віцебску, Полацку, Глыбокага, Лепеля, Менску. Удзельнікаў частавалі традыцыйнымі бульбянымі стравамі і мясцовымі напоямі, у вырабе якіх выкарыстоўваецца бульба.

Традыцыйныя беларускія дранікі гатаваліся наўпрост у двары на вачох ва ўдзельнікаў сьвята і доўга не залежваліся на талерках. Краязнаўца Ада Райчонак адзначыла, што хоць бульба і зьяўляецца нашым нацыянальным прадуктам, але такое сьвята ладзіцца ўпершыню, магчыма і ва ўсёй Беларусі.

Арганізатары распавядалі пра гісторыю Беларусі, пра зараджэньне традыцыі вырошчваньня бульбы ў Беларусі і іншых краінах сьвету. Былі конкурсы з прызамі, выступы музыкаў зь песьнямі і сумеснымі беларускімі танцамі. Песьні на беларускай мове выконвалі **барды Георгі Станкевіч** і **Тацьцяна Матафонава**.

## Дзеяньні праваабаронцаў па адстойваньні грамадзкіх інтарэсаў

**16.09.2014 Праваабаронца Павал Левінаў** дамагаецца пачатку адміністрацыйнага працэсу ў дачыненьні да газэты «Аптечка Еламеда». На думку Левінава, выдаўцы і распаўсюджвальнікі газэты, якая зарэгістраваная ў Расеі, павінны быць прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасьці за яе незаконны выраб і распаўсюд на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

З адпаведным патрабаваньнем праваабаронца зьвярнуўся ў аддзел унутраных спраў адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску яшчэ на пачатку верасьня бягучага году. І вось надоечы стала вядома: участковы інспэктар АУС адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску старшы лейтэнант міліцыі В. Пагарэльскі пастанавіў – справу аб адміністрацыйным правапарушэньні ў дачыненьні да расейскага выданьня спыніць. Сваё рашэньне Пагарэльскі абгрунтаваў адказам намесьніка Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігара Лапцёнка ад 16 чэрвеня 2009 г., зь якога вынікае, што адмененая працэдура выдачы дазволаў для распаўсюду расейскіх пэрыядычных выданьняў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Аднак, як лічыць праваабаронца, участковы інспэктар вынес пастанову, якая не грунтуецца на дзейным заканадаўстве. Свае довады Левінаў строіць на падставе судовых рашэньняў, вынесеных апошнімі гадамі ў дачыненьні да рэдакцыі і супрацоўнікаў газэты « Віцебскі кур'ер», якая таксама зарэгістраваная ў Расеі.

Так, 4 траўня 2010 году судзьдзя суду Першамайскага раёну Віцебску Валянціна Кісьмярошкіна разгледзела справу аб адміністрацыйным правапарушэньні ў дачыненьні да **Віктара Рамнёва**, якая паступіла ад начальніка АУС адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску. Віцебскі актывіст перавозіў у легкавіку 56 асобнікаў расейскага пэрыядычнага выданьня – газэты «Віцебскі кур'ер» і быў прыцягнуты за гэта да адказнасьці на падставе часткі 2 артыкулу 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях.

Судовая пастанова, вынесеная судзьдзёй Кісьмерошкінай, абвяшчала: «Паводле адношаньня Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь ад 20.04.2010 году прадукцыя замежнага сродку масавай інфармацыі можа быць распаўсюджаная ў Рэспубліцы Беларусь на падставе атрыманьня дазволу ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасьці з п.5 арт.17 Закону Рэспублікі Беларусь ад 17.07.2008 году "Аб сродках масавай інфармацыі". У цяперашні час распрацаванае палажэньне аб парадку выдачы дазволу на распаўсюд прадукцыі замежнага сродку масавай інфармацыі».

Згаданая пастанова суду была абскарджаная, і судзьдзя Віцебскага абласнога суду Ірына Смалякова пацьвердзіла законнасьць пастановы судзьдзі Кісьмярошкінай аб прыцягненьні Рамнёва да адміністрацыйнай адказнасьці, адзначыўшы, што «дазволу Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на распаўсюд на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь газэты "Віцебскі кур'ер", зарэгістраванай на тэрыторыі Расейскай Фэдэрацыі, Рамнёў В.А. ня мае».

Прызнаў справядлівым прыцягненьне Віктара Рамнёва да адміністрацыйнай адказнасьці і намесьнік старшыні Вярхоўнага Суду Валер Калінковіч, паколькі «дазвол Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на распаўсюд на тэрыторыі

Рэспублікі Беларусь газэты “Віцебскі кур’ер”, зарэгістраванай на тэрыторыі Расейскай Федэрацыіі Рэмнеў В.А. ня мае, што пацьвярджаецца лістом Міністэрства інфармацыі №03-03/2698 ад 10 лістапада 2010 г.».

Названы факт прыцягненьня распаўсюдніка газэты «Віцебскі кур’ер» не зьяўляецца адзінкавым. У кастрычніку 2012 году судзьдзёй суду Першамайскага раёну Віцебску Натальляй Караблінай за распаўсюд 241 асобніка газэты «Віцебскі кур’ер» быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасьці **Міхаіл Жураўлёў**. Справа Жураўлёва была прынятая ў вытворчасьць па прадстаўленьні начальніка АУС адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску.

У пастанове судзьдзя Караблінa адзначыла: «Газэта “Віцебскі кур’ер” зарэгістраваная на тэрыторыі Расейскай Фэдэрацыі і дазволу Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на распаўсюд на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь гэтай газэты ня маецца». І касацыйная, і наглядныя судовыя інстанцыі, і нават пракурор гораду Віцебску пацьвердзілі законнасьць адміністрацыйнага пакараньня грамадзяніна Жураўлёва.

На думку Паўла Левінава, факты перасьледу распаўсюджвальнікаў газэты «Віцебскі кур’ер» наўпрост сьведчаць пра яе дыскрымінацыю, а таксама пра выбарачнасьць прымяненьня дзейнага заканадаўства ў дачыненьні да парушальнікаў закону аб СМІ. Бо наконт распаўсюду адных замежных сродкаў масавай інфармацыі (газэта «Віцебскі кур’ер») начальнік АУС адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску згаджаецца з накіраваньнем справы аб адміністрацыйным правапарушэньні ў суд, а ў дачыненьні да другіх (газэта «Аптечка Еламеда») – пры аналягічных прыкметах парушэньня закону – згаджаецца з пастановай пра спыненьне справы.

Пры такіх акалічнасьцях, мяркуе праваабаронца Павал Левінаў, пастанова пра спыненьне справы аб адміністрацыйным правапарушэньні (незаконны распаўсюд газэты «Аптечка Еламеда») падлягае адмене, і справа павінна быць даведзеная да суду.

**20.10.2014 Віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік** зьвярнуўся ў гарвыканкам з заявай, у якой прасіў паведаміць яму адрас найбліжэйшага бомбасховішча. «Гэтая інфармацыя патрэбная мне для забесьпячэньня абароны жыцьця і здароўя членаў маёй сям’і, а таксама жыхароў дому, у выпадку і пад час надзвычайнай сытуацыі», – напісаў ён у сваёй заяве.

Адказ, які прыйшоў за подпісам в.а. начальніка гарадзкога аддзелу па надзвычайных сытуацыях установы «Віцебскае абласное ўпраўленьне МНС» М.П. Дука, вельмі зьдзівіў праваабаронцу.

Як вынікае зь ліста спадара Дука, яго ведамства навучылася прагназаваць надзвычайныя сытуацыі. Маўляў, цягам доўгага часу ў Беларусі не было такіх сытуацыяў, няма іх і зараз. А калі яны ўсё ж раптам калі-небудзь узьнікнуць, мы вам пра гэта загадзя паведамім, – да гэтага зводзіцца адказ высокапастаўленага супрацоўніка МНС.

А в.а. начальніка аб’ёмам у два абзацы заслугоўвае таго, каб працытаваць яго:

«На вашую заяву ад 02.09.2014 г. паведамляем, што на тэрыторыі г. Віцебску за апошнія дзесяцігодзьдзі надзвычайных сытуацыяў, у выніку якіх, як Вы пішаце, неабходна хавацца ў бомбасховішчах, не зафіксавана. Таксама на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь няма такіх надзвычайных сытуацыяў, з-за якіх неабходна хавацца ў бомбасховішчах.

У выпадку асаблівага пэрыяду, інфармацыя пра ахоўныя ўкрыцьці, дзе будзе забясьпечаная абарона жыцьця і здароўя членаў Вашай сям'і і жыхароў дому №[…], будзе ўсім жыхарам даведзеная загадзя ў вызначаным заканадаўстве парадку».

**30.10.2014 Праваабаронца Павал Левінаў** праінфармаваў Віцебскі гарвыканкам аб правядзеньні адзінаасобнага вулічнага шэсьця. У якасьці маршруту ён пазначыў дарогу ад свайго дому да крамы "Віцебскія прадукты". І атрымаў пісьмовую забарону на падставе таго, што ня выканаў патрабаваньняў рашэньня гарвыканкаму "Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску".

"Заяўка ў гарвыканкам была пададзеная, бо мой маршрут у краму праходзіць па тэрыторыі двух раёнаў – Кастрычніцкага і Першамайскага. А забарону я атрымаў, бо не заключыў дамоваў на абслугоўваньне маёй адзінаасобнай акцыі супрацоўнікамі міліцыі, паліклінікі і службы ЖКГ. Большы абсурд уявіць цяжка: гарвыканкам патрабуе, каб я ішоў у краму ў суправаджэньні міліцыянта, урача і дворніка зь мяцёлкай. Бо ў рашэньні гарвыканкаму "Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску" гаворыцца, што заяўнікі, каб атрымаць дазвол на нейкую акцыю, мусяць разам з заяўкай падаваць і дамовы, заключаныя з цэнтральнай гарадзкой паліклінікай, міліцыяй і прадпрыемствам ЖКГ. У той самы час гарадзкія ўлады прадэманстравалі і ўласнае няведаньне заканадаўства: каб акцыя лічылася масавым мерапрыемствам, у ёй павінны узяць удзел прынамсі 2 чалавекі. Я ж зьбіраўся ісьці адзін. Значыцца, маё шэсьце пад заканадаўства аб масавых акцыях не падпадае наогул", – тлумачыць праваабаронца.

Павал Левінаў падрыхтаваў заяву ў суд наконт забароны адзінаасобнага шэсьця. Там напісана, што гарвыканкам парушае ягонае права на правядзеньне акцыяў. Праваабаронца лічыць, што патрабаваньні рашэньня гарвыканкаму №881 невыканальныя – адпаведна, трэба прадэманстраваць уладам абсурднасьць такіх дакумэнтаў:

"За апошнія 5 гадоў, з часу прыняцьця гэтага рашэньня, у Віцебску не было дазволена ніводнай акцыі з ініцыятывы мясцовых актывістаў. Бо міліцыя і паліклініка адмаўляюцца заключаць дамовы з заяўнікамі, спасылаючыся на розныя прычыны. Таму я імкнуся прадэманстраваць, што з такім падыходам пад парушэньне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах можна падвесьці ўсё што заўгодна, у тым ліку пэрсанальны паход у краму. Няхай віцебскія ўлады ведаюць, што іхныя высілкі выглядаюць сьмешна і не выклікаюць павагі ў грамадзян".

Спроба давесьці сытуацыю з масавымі акцыямі да абсурду ўжо ня першая ў Паўла Левінава. Раней ён падаваў заяўку ў Чыгуначную раённую адміністацыю, каб правесьці сход грамадзян у лазьні. Высьветлілася, і там зьбірацца кампаніямі нельга: праваабаронцу адказалі, што і ў гэтым выпадку трэба заключаць дамовы з мэдыкамі, супрацоўнікамі ЖКГ і міліцыяй.


Павал Левінаў

Павал Левінаў перакананы, што ўмовы атрыманьня дазволу на масавыя мерапрыемствы ў Віцебску трэба мяняць, бо яны невыканальныя.

**06.11.2014** Віцебскі **праваабаронца Павал Левінаў** даслаў электронны зварот на сайт Аляксандра Лукашэнкі. Ён патлумачыў, што нагодай для гэтага сталася сувэнірная прадукцыя, якая прадаецца ў Віцебску. Фотаздымак магніта на лядоўню праваабаронца даслаў разам са сваім зваротам.

«У гандляроў сувэнірамі, якія стаяць уздоўж вуліцы Суворава ў Віцебску, можна часам заўважыць прадукцыю вельмі сумнеўнага ідэалягічнага зьместу, не кажучы ўжо пра мастацкія вартасьці. Ды прыкладу, гэты магніт. На ім выявы дзяржаўных сьцягоў Беларусі і Расеі, а таксама выявы Аляксандра Лукашэнкі і Ўладзімера Пуціна, якія паціскаюць адзін аднаму рукі. Подпіс: «Расея. Белая і Вялікая». Нібыта абедзьве дзяржавы ёсьць адзінай краінай. Таму ў электронным звароце я так і пішу: «На Беларусь, у прыватнасьці на горад Віцебск, марудна, але ўпэўнена распаўсюджваецца экспансія з боку Расейскай Фэдэрацыі. То ў нас нейкія людзі, прыкідваючыся глуханямымі, раздаюць расейскія сьцяжкі, а ДАІ нібыта не заўважае парушэньняў, нават калі гэта адбываецца на праезнай частцы. ДАІ не зьвяртае ўвагу і на георгіеўскія стужкі, затое бел-чырвона-белую сымболіку прымушае прыбіраць. Цяпер вось ажыцьцяўляецца продаж сувэнірнай прадукцыі антыбеларускага зьместу. Я лічу неабходным, каб кіраўніцтву Віцебску і вобласьці ўказалі на недапушчальнасьць падобных рэчаў», — гаворыць Павал Левінаў.

Гандаль сувэнірнай прадукцыяй на пешаходнай частцы вуліцы Суворава ў цэнтры Віцебску санкцыянаваны мясцовымі ўладамі. Разьлік зроблены на тое, што яна прыцягне ўвагу турыстаў. На памежнай Віцебшчыне самая большая частка турыстаў — менавіта з Расейскай Фэдэрацыі.

**26.11.2014 Праваабаронца Павал Левінаў** даслаў у адміністрацыю Чыгуначнага раёну заяву пра тое, што 12 сьнежня ён зьбіраецца сфатаграфавацца зь сябрамі на фоне гарадзкога краявіду. "Від масавага фатаграфаваньня: пэрформанс – форма сучаснага мастацтва, калі творам зьяўляюцца дзеяньні групы", – піша праваабаронца, маючы на ўвазе, што ўдзельнікі фотаздымак падчас фотасэсіі могуць перамяшчацца, прымаць нейкія позы, мець пры сабе рэчы, каб падчас здымак перадаваць іх іншым удзельнікам, і гэтак далей.

Павал Левінаў падкрэсьлівае, што бярэ асабіста на сябе абавязкі па захаваньні правапарадку падчас фотасэсіі, што не дапусьціць фактаў наяўнасьці ва ўдзельнікаў нейкіх прадметаў або рэчываў, якія могуць быць крыніцай небясьпекі для іншых.

“Я хачу атрымаць афіцыйны адказ ад уладаў, ці трэба прасіць дазволу на масавае фатаграфаваньне, ці не. Зьбіраюся правесьці пэрформанс з фотасэсіяй на вуліцы Ільлінскага – у тым месцы, дзе ў пачатку месяцу сфатаграфаваліся віцебскія журналісты і актывісты, на якіх потым за гэта склалі пратаколы як на ўдзельнікаў несанкцыянаванай акцыі”, – кажа Павал Левінаў. – Калі мне адкажуць, што дазвол на фатаграфаваньне не патрэбен, то тады незразумела, чаму супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС вінавацяць удзельнікаў фотасэсіі за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. А калі напішуць, што дазвол патрэбен, ці мне не дазваляюць ладзіць фотасэсію зь якой-небудзь прычыны – гэта будзе сапраўдны скандал. Бо ў такім выпадку атрымаецца, што сфатаграфавацца на вуліцы – гэта правапарушэньне, і ўсе аматары здымацца на фоне гарадзкіх краявідаў – правапарушальнікі”.

Зварот праваабаронцы ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну зьвязаны з тым, што супраць удзельнікаў фотасэсіі на вуліцы Ільлінскага, каля былога будынку раённага дому культуры, цяпер заводзяць адміністрацыйныя справы і прызначаюць суды. Ідэя фотасэсіі палягала ў тым, каб працягнуць тэму, узьнятую невядомым мастаком-графітыстам: на сьцяне будынку намалявана, як зробленая з газэты птушка вылятае з клеткі. Удзельнікі фотасэсіі таксама трымалі ў руках папяровыя клеткі і зробленых з газэты птушак-арыгамі. Паводле высновы начальніка аддзелу аховы прафіляктыкі і правапарадку міліцыі Чыгуначнага раёну Аляксандра Рыбакова, які складаў пратаколы пра адміністрацыйнае правапарушэньне, гэта быў пікет, а прысутныя “выказвалі свае грамадзкія і палітычныя перакананьні”.

З такой трактоўкай падзеяў ня згодзен ніводзін зь пяці чалавек, якія ўжо атрымалі позвы ў суд на 28 лістапада (**журналісты Алена Сьцяпанава** і **Зьміцер Казакевіч**, **грамадзкая актывістка Алена Шабуня**) і 1 сьнежня (**грамадзкая актывістка Тацьцяна Севярынец**, **журналіст Кастусь Мардзьвінцаў**).

**02.12.2014 Віцебскі праваабаронца Валер Місьнікаў** лічыць, што віцебскія журналісты знаходзяцца ў небясьпецы, іх перасьледуе міліцыя, і судзьдзі адкрыта парушаюць правы, прапісаныя ў законах. Ён напісаў адкрыты ліст да «дзяржаўных адказных службовых асоб». Падставай да напісаньня ліста сталі адміністрацыйныя справы супраць журналістаў за фота на фоне графіці.

Вось, што напісана ў адкрытым лісьце Валера Місьнікава:

«Прычынай перасьледу сталі выкладзеныя на інтэрнэт-сайтах фатаграфіі трупы журналістаў і мінака з папяровымі клеткамі і птушкамі на фоне аналягічнага графіці на сьцяне раённага Дому культуры, даўно зачыненага.

Менавіта фатаграфіі пэрформансу спарадзілі ў галовах міліцыянтаў міліцэйскія фантазіі з законапарушальным ухілам. І не выпадкова, бо сутнасьць іх працы палягае ў бачаньні ва ўсім і ва ўсіх простых людзях законапарушальнікаў. Прэзумпцыі гожасьці ў міліцыянтаў не існуе для неслужбовых асоб.

На ўказаньне абласнога кіраўніцтва раённы маёр міліцыі А. Рыбакоў склаў на ўдзельнікаў фотасэсіі адміністрацыйныя пратаколы, у якіх абвінавáціў сфатаграфаваных ў вольным выразе сваіх грамадзка-палітычных меркаваньняў і ў парушэньні працэдуры вызначанага парадку арганізацыі або правядзеньня масавых

мерапрыемстваў, ток бок пікетаваньня. За гэта артыкулам 23.34. КаАП Рэспублікі Беларусь прадугледжаная адказнасьць у выглядзе папярэджаньня, або накладаньня штрафу ў памеры да 30 базавых велічынь, або адміністрацыйны арышт.

Аднак і ахоўнікі працэдурнага парадку для свабоднага выказваньня думкі (А. Рыбакоў), і адпраўнікі правасудзьдзя (Д. Губанаў, А. Цыганкова) адмовіліся чуць і бачыць тое, што ні ў Законе аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь, ні ў дыспазыцыі артыкулу Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях не прапісаныя паняцьці і іх азначэньні як малая група (колькасьць якой 2 – 7 чалавек), як фотасэсія, як пэрформанс.

Больш таго, аб’яднаўшыся, міліцыянт і судзьдзі стварылі групу асоб, якая адкрыта і прынародна праігнаравала патрабаваньне артыкулаў 33, 8, 23 Канстытуцыі (Асноўнага Закону) Рэспублікі Беларусь і арт. 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, наўмысна адкрыта парушылі патрабаваньне артыкулу 2 Закону «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», артыкулу 23.34 Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях – гэта нормы матэрыяльнага права.

А далей пайшоў шэраг парушэньняў нормаў працэсуальнага права, так судзьдзя А. Цыганкова пазбавіла групу асоб на прысутнасьць у адкрытым судовым разглядзе адміністрацыйнага матэрыялу ў дачыненьні да К. Мардзьвінцава, чым парушыла правы людзей, прапісаныя ў артыкулах 2.3 (забесьпячэньне абароны правоў і свабод), 2.7 (прэзумпцыя невінаватасьці – абставіны не могуць грунтавацца на здагадках), 2.9 (публічнасьць адміністрацыйнага працэсу), 2.11 (мова, на якой вядзецца адміністрацыйны працэс, а ня мовы), 2.14 (адкрыты разгляд справы аб адміністрацыйным правапарушэньні), 5.4 (парадак вырашэньня адводу судзьдзі – у габінэце застаўся сакратар судовага паседжаньня, судзьдзя выходзіла з габінэту ў іншы габінэт, не абвяшчалася ўся пастанова) ПВКаАП Рэспублікі Беларусь – гэта нормы працэсуальнага права.

За ўчыненыя толькі судзьдзёй А. Цыганковай дзеі прадугледжаная крымінальная адказнасьць артыкуламі 190 (Парушэньне раўнапраўя грамадзян), 392 (Вынясеньне заведама неправасуднага судовага акту), 395 (Фальсыфікацыя доказаў), 424 (Злоўжываньне ўладай).

У пацьверджаньне праўдзівасьці выкладзенага цытую частку тэксту з сайту Радыё Свабода: «Абвінавачаньні грунтуюцца выключна на здагадках складальніка пратаколу маёра Рыбакова, які не хаваў сваіх аргумэнтаў кшталту «мне здаецца»,«я прачытаў», «я так лічу, бо мне здаецца».

Я, законапаслухмяны грамадзянін і добрапрыстойны праваабаронца Законаў Рэспублікі Беларусь і правоў чалавека, прапісаных ў законе, даводжу да грамадзкасьці і дзяржаўных адказных службовых асобаў вядомыя мне факты законапарушэньняў службовымі асобамі суду і міліцыі Чыгуначнага раёну г. Віцебску для прыняцьця мер па спыненьні дзеяньняў і прыцягненьні вінаватых да адказнасьці».

**10.12.2014** Віцебскі **праваабаронца Леанід Сьвецік** накіраваў шэраг прапановаў мясцовым уладам і дзяржаўным СМІ рэгіёну, што да адзначэньня 10 сьнежня – Міжнароднага дня правоў чалавека, але ўсе ягоныя прапановы былі фактычна

праігнараваныя.

Таксама падавалася заяўка на правядзеньне 10 сьнежня пікету з мэтай публічна адзначыць 66-годзьдзе прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. І хоць месцам правядзеньня пікету была пазначаная адна з трох пляцовак у горадзе, адмыслова адведзеных мясцовымі ўладамі пад масавыя мерапрыемствы, намесьнік кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Аляксандар Ільмовіч акцыю забараніў: маўляў, арганізатар пікету не далучыў да заяўкі дамоваў, прадугледжаных рашэньнем гарвыканкаму.

Леанід Сьвецік прапанаваў Віцебскаму гарвыканкаму і Віцебскаму савету дэпутатаў зладзіць круглы стол з удзелам прадстаўнікоў гарадзкіх органаў улады, праваабаронцаў, лідэраў грамадзкіх аб'яднаньняў і палітычных партыяў, а таксама журналістаў. У межах круглага стала прапанавалася абмеркаваць стан грамадзянскіх і палітычных правоў у Віцебску, а таксама праінфармаваць жыхароў гораду пра магчымасьці і спосабы абароны эканамічных, сацыяльных і культурных правоў.

«Паведамляем, што выканаўчым камітэтам не заплянаванае правядзеньне «круглага стала», прысьвечанага 66-годзьдзю прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека», – коратка адказаў на прапанову намесьнік старшыні гарвыканкаму Ўладзімер Шлома. А з гарадзкога савету дэпутатаў адказу праваабаронца так і не дачакаўся.

Не атрымаў ніякага адказу Леанід Сьвецік і з гарадзкой газэты «Віцьбічы», галоўнаму рэдактару якой ён прапанаваў падрыхтаваць публікацыі на тэму правоў чалавека, у тым ліку ўзяць інтэрвію з праваабаронцамі. Затое адказала дырэктарка тэлерадыёкампаніі «Віцебск» Алена Панцюхова, на імя якой дасылалася падобная прапанова. «Безумоўна, прапанаваная Вамі тэма цікавая, аднак на стварэньне тэлеперадачы, прысьвечанай 66-годзьдзю прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека, у РУПРТЦ «Тэлерадыёкампанія «Віцебск» выдаткаваньне грашовых сродкаў заплянаванае не было», – напісала яна.

«Праваабаронцы зьвяртаюцца да дзяржаўных органаў, арганізацыяў і СМІ з прапановамі сумесна прасоўваць у масы ідэі правоў чалавека, прававой дзяржавы, міжнародныя стандарты ў сфэры правоў чалавека, а тыя і «носам не вядуць». Некаторыя нават фармальна не адказваюць на лісты. Гэта абуральна», – пракамэнтаваў Леанід Сьвецік рэакцыю ўладаў і дзяржаўных СМІ на яго прапановы.

**11.12.2014** Віцебскі **праваабаронца Павал Левінаў** дамогся перамогі: Міністэрства ўнутраных справаў прызнала асобныя парушэньні, дапушчаныя супрацоўнікамі Першамайскага РАУС Віцебску і УУС Віцебскага аблвыканкаму.

Напярэдадні 26 жніўня 2014 году супрацоўнікі Першамайскага РАУС Віцебску "для вырашэньня пытаньня аб зьняцьці з прафіляктычнага ўліку" грамадзянскага **актывіста Аляксандра Галаваня** ўручылі позву суседзям **Валянціны Галавань** (яго-най маці) для перадачы апошняй. Рэч у тым, што ейны сын у той час адсутнічаў на тэрыторыі Беларусі. Аднак нягледзячы на гэта, у згаданы дзень ён мусіў зьявіцца ў габінэт №58 Першамайскага РАУС Віцебску к 9 гадзінам 50 хвілінам. Позву падпісаў намесьнік начальніка РАУС палкоўнік А.І. Цярэшчанка.

Далей падзеі разгортваліся наступным чынам: не дачакаўшыся спадара А. Галава-

ня, кіраўніцтва РАУС, відаць, адправіла на ягоныя пошукі сваіх падначаленых, бо некалькі невядомых асобаў, якія назваліся супрацоўнікамі міліцыі, незаконна пранікл ў жытло грамадзянкі Валянціны Галавань, дзе супраць яе волі правялі агляд кватэры і мэблі.

Апроч таго, у той самы дзень раніцай двое грамадзян у цывільным, прадставіўшыся супрацоўнікамі міліцыі, спрабавалі перашкодзіць **Рыгору Галаваню** (мужу Валянціны) прайсьці на працу. Яны без тлумачэньня якіх-небудзь прычынаў настойліва запрашалі яго праехаць у АУС Першамайскага раёну Віцебску.

Пасьля гэтага інцыдэнту грамадзянка Галавань зьвярнулася да прадстаўніка Рэспубліканскага праваабарончага грамадзкага аб'яднаньня "Беларускі Хэльсынскі Камітэт" Паўла Левінава з просьбай абараніць ейныя інтарэсы ў сувязі з парушэньнем канстытуцыйнага права на недатыкальнасьць прыватнага жытла.

2 верасьня Павал Левінаў трапіў на асабісты прыём да начальніка АУС адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску палкоўніка міліцыі А.І. Цярэшчанкі і ўручыў яму зварот "Аб парушэньні правоў грамадзянкі В.Р. Галавань і заканадаўства Рэспублікі Беларусь". Аднак палкоўнік, спаслаўшыся на тое, што спадаром Левінавым не прадстаўленыя дакумэнты, якія надавалі б яму права абараняць інтарэсы грамадзянкі Галавань, пакінуў зварот без разгляду па сутнасьці.

Не пагадзіўшыся з гэткім рашэньнем, 3 кастрычніка Павал Левінаў накіраваў начальніку УУС Віцебскага аблвыканкаму палкоўніку міліцыі Манько Ю.М. зварот "Аб перашкодзе законнай дзейнасьці грамадзкага аб'яднаньня РПГА "БХК" і парушэньні заканадаўства аб зваротах грамадзян", бо згодна са Статутам грамадзкага аб'яднаньня ейныя прадстаўнікі маюць права абараняць у дзяржаўных органах правы і законныя інтарэсы асобаў, якія лічаць, што іхныя правы парушаныя, і якія звярнуліся ў адпаведным парадку ў грамадзкае аб'яднаньне.

Спадар Левінаў меркаваў, што начальнік АУС адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску палкоўнік міліцыі Цярэшчанка, пакінуўшы ягоны зварот без разгляду па сутнасьці, перашкодзіў ягонай законнай дзейнасьці. Апроч таго, у дзеяньнях службовай асобы ён ўгледзеў яшчэ адно парушэньне: згодна з часткай трэцяй артыкулу 15 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" палкоўнік міліцыі Цярэшчанка А.І. мусіў паведаміць аб пакіданьні пісьмовага звароту без разгляду па сутнасьці на працягу пяці дзён, а не на дваццаць другі дзень, як было зроблена насамрэч.

У звароце была выказаная просьба абавязаць палкоўніка міліцыі Цярэшчанку А.І. разгледзець зварот грамадзянкі Валянціны Галавань па сутнасьці і ўказаць яму на недапушчальнасьць парушэньня Закону Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб".

Аднак насуперак здароваму сэнсу намесьнік начальніка УУС аблвыканкаму палкоўнік міліцыі Манько Ю.М., спаслаўшыся "на пункт 3 артыкулу 1 Грамадзянскага працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь", паведаміў, што патрабаваньне аб разглядзе звароту па сутнасьці зьяўляецца неабгрунтаваным і не падлягае задавальненьню, а довад пра тое, што палкоўнік міліцыі Цярэшчанка А.І. перашкодзіў законнай дзейнасьці РПГА "БХК" з'яўляецца непацьверджаным.

Апроч таго, спадар Манько паведаміў, што будзе праведзеная службовая праверка, па выніках якой будзе вырашанае пытаньне наконт прыцягненьня да дысцыплінарнай адказнасьці вінаватых службовых асобаў АУС адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску.

Адказ на свой зварот да намесьніка начальніка УУС аблвыканкаму палкоўніка міліцыі Манько Ю.М. спадар Левінаў замест 18 кастрычніка атрымаў 22 кастрычніка, што зьяўляецца парушэньнем Закону РБ “Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб”. Да таго ж, як сцвярджае Павал Левінаў, ніякай дадатковай праверкі і вывучэньня звароту не праводзілася.

Пры такіх абставінах, на думку Левінава, нельга было прызнаць разгледжаным па сутнасьці зварот “Аб перашкодзе законнай дзейнасьці грамадзкага аб’яднаньня РПГА “БХК” і парушэньні заканадаўства аб зваротах грамадзян” намесьнікам начальніка УУС аблвыканкаму палкоўнікам міліцыі Маньковым Ю. М. Таму ён зьвярнуўся ў Міністэрства ўнутраных справаў са скаргай.

У скарзе, адасланай у МУС 30 кастрычніка, Павал Левінаў прасіў абавязаць начальніка РАУС адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску палкоўніка міліцыі Цярэшчанку А.І. разгледзець зварот прадстаўніка РПГА “БХК” у інтарэсах грамадзянкі Валянціны Галавань па сутнасьці; указаць намесьніку начальніка УУС аблвыканкаму палкоўніку міліцыі Манькову Ю.М. на недапушчальнасьць парушэньня Закону Рэспублікі Беларусь “Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб”; а асобаў, якія перашкаджалі законнай дзейнасьці РПГА “БХК”, прыцягнуць да вызначанай заканадаўствам адказнасьці.

На сваю скаргу з Міністэрства ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь Павал Левінаў атрымаў адказ за подпісам намесьніка начальніка галоўнага ўпраўленьня аховы правапарадку і прафіляктыкі міліцыі грамадзкай бясьпекі МУС РБ А.Г. Каразея наступнага зьместу:

“Праведзенай праверкай выяўленыя асобныя парушэньні, дапушчаныя супрацоўнікамі Першамайскага РАУС г. Віцебску і УУС Віцебскага аблвыканкаму пры разглядзе Вашых зваротаў. У гэтай сувязі УУС Віцебскага аблвыканкаму даручана прыняць неабходныя меры рэагаваньня да вінаватых, а таксама арганізаваць праверку довадаў аб парушэньні недатыкальнасьці жытла Галавань В.Р. у парадку, прадугледжаным крымінальна-працэсуальным заканадаўствам. Аб выніках Вы будзеце апавешчаныя дадаткова. Прыносім прабачэньні за непрафэсійныя дзеяньні супрацоўнікаў органаў унутраных справаў.

Адначасова інфармуем, што довады аб парушэньні супрацоўнікамі УУС Віцебскага аблвыканкаму тэрміну разгляду Вашага звароту ад 03.10.2014 не знайшлі аб’ектыўнага пацьверджаньня.”

**18.12.2014 Віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік** зьвярнуўся ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з прапановай разгледзець пытаньне пра страхаваньне жыцьця і здароўя зьняволеных (асуджаных). Дэпутаты пераслалі прапанову праваабаронцы ў Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў і Міністэрства фінансаў, адкуль прыйшлі адказы, зь якіх вынікае, што дзяржаўныя органы не зацікаўленыя ва ўвядзеньні абавязковага страхаваньня жыцьця і зда-


Леанід Сьвецік

роўя тых, хто знаходзіцца ў месцах пазбаўленьня волі.

У Палату прадстаўнікоў Леанід Сьвецік зьвярнуўся яшчэ ў кастрычніку. У сваім звароце ён пісаў: «Згодна з артыкуламі 24 і 45 дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзяржава абараняе жыцьцё чалавека ад любых супрацьпраўных замахаў і гарантуе яму права на ахову здароўя. Гэтае права распаўсюджваецца на зьняволеных і асуджаных судом асобаў».

На думку праваабаронцы, адным са спосабаў абароны жыцьця і здароўя зьняволеных/асуджаных, які б спрыяў рэалізацыі згаданага права, зьяўляецца заканадаўча замацаванае абавязковае страхаваньне іх жыцьця і здароўя. Таму ён прасіў дэпутатаў ПП НС РБ вывучыць досьвед і прапановы страхавых кампаніяў, а таксама праваабарончых арганізацыяў па страхаваньні зьняволеных. Пасьля дэталёвага вывучэньня гэтага пытаньня праваабаронца прапанаваў дэпутатам распрацаваць і заканадаўча замацаваць права зьняволеных на страхаваньне ад няшчасных выпадкаў, а таксама на страхаваньне ад супрацьпраўных дзеяньняў трэціх асобаў, у тым ліку работнікаў Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў Рэспублікі Беларусь (ДВП РБ).

Прапанова Леаніда Сьвеціка была разгледжаная Пастаяннай камісіяй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльных пытаньнях. Дэпутаты адмовіліся рэагаваць на зварот з фармальных меркаваньняў, бо ПП НС «…разглядае праекты законаў, унесеныя суб’ектамі права заканадаўчай ініцыятывы ў вызначаным парадку».

Дзеля разгляду па сутнасьці старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльных пытаньнях Уладзімер Васіленка накіраваў зварот праваабаронцы ў Міністэрства фінансаў і ў Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў МУС.

Першы намесьнік начальніка ДВП Сяргей Працэнка паведаміў, што замацоўваць заканадаўча абавязковае страхаваньне жыцьця і здароўя зьняволеных (асуджаных) няма неабходнасьці, бо ў дзейным заканадаўстве гэтае пытаньне вырашанае ў поўным аб’ёме.

Першы намесьнік міністра фінансаў Уладзімер Амарын, спасылаючыся на частку 2 артыкулу 825 Грамадзянскага кодэксу Рэспублікі Беларусь, паведаміў, што абавязаць любога грамадзяніна краіны страхаваць сваё жыцьцё і здароўе заканадаўча немагчыма. Гэтае палажэньне тычыцца таксама вязьняў і асуджаных асобаў, але права на добраахвотнае страхаваньне ў іх маецца. У адказе, апрача ўсяго іншага, паведамлялася, што страхавыя арганізацыі маюць магчымасьць аказваць страхавыя паслугі ў месцах утрыманьня зьняволеных, і страхавальнікі самастойна

вызначаюць ўмовы і віды паслуг.

У мэтах выяўленьня зацікаўленасьці страхавых арганізацыяў у распрацоўцы і ўвядзеньні новага страхавога прадукту – добраахвотнага страхаваньня жыцьця і здароўя зьняволеных (асуджаных) Міністэрства фінансаў зьвярнулася ў Беларускую асацыяцыю страхоўшчыкаў, членамі якой зьяўляюцца практычна ўсе страхавыя арганізацыі Рэспублікі Беларусь.

Беларуская асацыяцыя страхоўшчыкаў праінфармавала міністэрства пра наступнае:

«Досьвед правядзеньня страхаваньня асуджаных у добраахвотнай форме існуе ў Расейскай Фэдэрацыі. Гэты від страхаваньня прызначаны для страхаваньня фізычных асобаў, якія адбываюць пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі ва ўстановах крымінальна-выканаўчай сыстэмы, і праводзіцца на добраахвотнай аснове на жаданьне асуджаных або іхных сваякоў.

Пасьля неаднаразовых спробаў шэрагу страхавых арганізацыяў укараніць гэты від страхаваньня ў Расейскай Фэдэрацыі, на сёньняшні дзень працягваюць страхаваць асуджаных ТАА СК «Держава», РК Гарант «Согласие», «БАЛТ-страхование» і «Ренессанс». Шэраг арганізацыяў, напрыклад, Вайсковая страхавая кампанія, прыпынілі гэты від страхаваньня з-за значных страхавых выплат.

Страхавым выпадкам у большасьці страхоўшчыкаў зьяўляецца няшчасны выпадак, які адбыўся ў выніку супрацьпраўных дзеяньняў работнікаў установаў і органаў, якія выконваюць крымінальныя пакараньня ў выглядзе пазбаўленьня волі.

У той самы час страхавыя арганізацыі Расейскай Фэдэрацыі адзначаюць шэраг цяжкасьцяў у ажыцьцяўленьні страхаваньня жыцьця і здароўя асуджаных, а менавіта: немагчымасьць аб’ектыўнай ацэнкі рызыкаў пры заключэньні дамоваў страхаваньня, факты махлярства і членашкодніцтва, абцяжаранасьць кантролю і аб’ектыўнай ацэнкі страхавых выпадкаў, закрытасьць пэнітэнцыярнай сыстэмы і непразрыстасьць крымінальна-выканаўчай сыстэмы.

Пры гэтым асноўнай праблемай у ажыцьцяўленьні такога страхаваньня зьяўляецца цяжкасьць запратакаляваць страхавы выпадак і атрымаць неабходныя дакумэнты, на падставе якіх можа быць зьдзейсьненая страхавая выплата. Установы крымінальна-выканаўчай сыстэмы зьяўляюцца закрытымі і не дапускаюць страхоўшчыкаў ў папраўчыя ўстановы для дэталёвага высьвятленьня акалічнасьцяў здарэньня, што адбылося.

Паводле інфармацыі Беларускай асацыяцыі страхоўшчыкаў, з улікам досьведу ажыцьцяўленьня добраахвотнага страхаваньня асуджаных у Расейскай Фэдэрацыі страхавыя арганізацыі Рэспублікі Беларусь ня выказалі зацікаўленасьці ў ажыцьцяўленьні гэтага віду страхаваньня».

Выходзіць, што ўсім зацікаўленым дзяржаўным органам і страхавым фірмам палітычна або эканамічна ня выгадна абавязковае страхаваньне жыцьця і здароўя зьняволеных (асуджаных).

Зь іншага боку, сумная статыстыка зь месцаў зьняволеньня сьведчыць пра некалькі дзясяткаў памерлых ці загінулых зьняволеных штогод і каля 90 тысяч пакуту-

юць на розныя цяжкія захворваньні. Дык што праблемы ёсьць, і іх неабходна вырашаць у тэрміновым парадку.

«Наяўнасьць у зьняволеных/асуджаных асобаў страхавога полісу спрыяла б паляпшэньню ўмоваў працы і побыту ў папраўчых установах, працоўнай дысцыпліны, захаваньню законнасьці з боку супрацоўнікаў органаў і ўстаноў крымінальна-выканаўчай сыстэмы, садзейнічала б гуманізацыі сыстэмы выкананьня пакараньняў у Рэспубліцы Беларусь», – лічыць праваабаронца Леанід Сьвецік.

**18.02.2015** У Віцебску працягваецца змаганьне за права фатаграфавацца на вуліцах гораду: **праваабаронца Павал Левінаў** напісаў скаргу ў пракуратуру наконт штрафаў за фотасэсію на фоне графіці "з птушкамі і клеткамі". Гарвыканкам даслаў яму пісьмовы адказ, што фотасэсія ня лічыцца масавым мерапрыемствам.

У скарзе на імя пракурора Віцебскай вобласьці Павал Левінаў піша, што Рэспубліка Беларусь на дзяржаўным узроўні мусіць гарантаваць кожнаму грамадзяніну захаванасьць ягоных правоў. Таму ён лічыць, што суд Чыгуначнага раёну, аштрафаваўшы яго на 25 базавых велічынь за ўдзел у фотасэсіі як за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, парушыў адразу некалькі ягоных правоў: права на мірныя сходы, на выказваньне сваіх меркаваньняў і на свабоду карыстацца сваімі правамі як асобы, дзеяньні якой не нясуць аніякае шкоды людзям або дзяржаўным інтарэсам.

Ён згадвае, што штраф, прысуджаны судзьдзёй Аленай Цыганковай, не атрымалася аспрэчыць ні ў абласным судзе, ні пасьля звароту да старшыні абласнога суду. Усе судовыя структуры і службоўцы сышліся на тым, што ў лістападзе 2014 году віцебскія журналісты і актывісты правялі несанкцыянаваную акцыю, калі сфатаграфаваліся на фоне графіці – выяваў трох клетак, зь якіх на волю вылятаюць птушкі. Шасьцёра ўдзельнікаў фотасэсіі былі аштрафаваныя, яшчэ адзін адбыў трое сутак арышту ў ізалятары часовага ўтрыманьня.

На думку праваабаронцы, сытуацыя атрымалася бязглуздая: "Паводле суду, кожны грамадзянін мусіць прасіць дазволу ва ўладаў, каб сфатаграфавацца ў тым ці іншым месцы. Гэта ненармальна! Але тую самую выснову падтрымала і Чыгуначная раённая адміністрацыя: я зьвярнуўся па дазвол на фотасэсію, падобную да той, што адбылася з маім удзелам у лістападзе. Атрымаў адмову за подпісам намесьніцы старшыні Ляпёшкінай. Абскардзіў яе ў гарвыканкаме, і атрымаў адтуль за подпісам намесьніка старшыні гарвыканкаму Ўладзімера Шломы адказ зусім іншага зьместу. Маўляў, фатаграфаваньне не ўваходзіць у пералік імпрэзаў, пералічаных у заканадаўстве аб масавых мерапрыемствах. Адпаведна, ні па якія дазволы зьвяртацца ня трэба. Тым ня менш сямёра ўдзельнікаў лістападаўскай фотасэсіі засталіся пакараныя! Я буду спрабаваць абскардзіць рашэньне пра штраф, якое тычыцца мяне, і ў выпадку посьпеху я дапамагу бараніцца кожнаму, хто трапіў у такое самае становішча".

Павал Левінаў зьвяртаўся ў абласную пракуратуру двойчы. Уласна са скаргай на парушэньне законнасьці і сваіх правоў, і з дадаткам да скаргі. У другім дакумэнце ён спасылаецца на выказваньні Аляксандра Лукашэнкі падчас прэсавай канфэрэнцыі 29 студзеня 2015 году – пра тое, што міліцыя дарма выказвала прэтэнзіі да грамадзян, якія мірным шляхам выказвалі сваё стаўленьне да забойства француз-

кіх журналістаў, супрацоўнікаў часопіса “Charlie Hebdo”. 4 лютага мусілі разглядаць адміністрацыйныя справы ў дачыненьні да **лідэра АГП Анатоля Лябедзькі**, **намесьніка старшыні партыі “Зялёных” Дзьмітрыя Кучука** і **Паўла Канавальчыка**. Яны прыйшлі да амбасады Францыі з плякатамі “Я — Шарлі”, каб далучыцца да сусьветнай хвалі салідарнасьці з расстралянымі супрацоўнікамі парыскага часопісу. Удзельнікаў акцыі затрымалі і склалі на іх пратаколы. Але працэсы былі адмененыя.

Павал Левінаў перакананы, што і пакараньні ўдзельнікам фотасэсіі ў Віцебску варта адмяніць, бо яны не рабілі нічога такога, што магло б нанесьці шкоду. Наадварот, лічыць праваабаронца, шкоду аўтарытэту Рэспублікі Беларусь нанёс маёр міліцыі Аляксандар Рыбакоў, які склаў на ўдзельнікаў фотасэсіі адміністрацыйныя пратаколы, і пра гэтыя парушэньні правоў асобы стала вядома далёка за межамі краіны. Замежныя журналісты нават правялі ў Брусэлі акцыю дзеля падтрымкі віцебскіх калег — яны таксама сфатаграфаваліся з папяровымі кветкамі і птушкамі, зробленымі з газэты. А яшчэ трымалі ў руках шыльдачкі з надпісам “Хіба гэта злачынства?”

**28.02.2015** Пастаянная камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўстве, разгледзеўшы зварот віцебскага **праваабаронцы Леаніда Сьвеціка**, палічыла немэтазгоднай распрацоўку і зацьвярджэньне пераліку захворваньняў, пры наяўнасьці якіх можа разглядацца пытаньне аб вызваленьні хворых грамадзян ад адміністрацыйнага арышту і замене яго больш мяккімі пакараньнямі.

Яшчэ ў сьнежні 2014 году Леанід Сьвецік зьвярнуўся ў парлямэнт краіны з прапановай, у якім прасіў зьвярнуцца ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з даручэньнем распрацаваць папраўкі ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях (КаАП) з улікам Пераліку захворваньняў Міжнароднай статыстычнай класіфікацыі хваробаў і праблемаў, зьвязаных са здароўем, 10-га перагляду (МКБ-10). Гэтая Міжнародная клясыфікацыя хваробаў, распрацаваная Сусьветнай арганізацыяй аховы здароўя, са студзеня 2007 году зьяўляецца агульнапрынятай клясыфікацыяй для кадаваньня мэдычных дыягназаў.

Віцебскі праваабаронца, зьвяртаючыся ў ПП НС РБ, зыходзіў з таго, што ў дзеючым КаАП адсутнічае канкрэтны пералік захворваньняў, якія перашкаджаюць адбываньню адміністрацыйнага арышту.

Так, у частцы 2 артыкулу 6.7 КабАП не ўтрымліваецца прамога ўказаньня на тое, што асобы з наяўнасьцю шэрагу захворваньняў ня могуць быць арыштаваныя.

Артыкул 8.6 КаАП прадугледжвае вызваленьне ад адміністрацыйнага спагнаньня або замену адміністрацыйнага спагнаньня больш мяккім з прычыны захворваньня. Аднак якія захворваньні і ў якой стадыі – у гэтым артыкуле не ўдакладняецца. Гэтая акалічнасьць дае магчымасьць шырока трактаваць правапрымяняльнікам дыспазыцыю гэтага артыкулу і часьцяком прыводзіць да парушэньня правоў і законных інтарэсаў грамадзян.

Атрымаўшы адказ ад беларускіх парлямэнтароў, Леанід Сьвецік выказаў зьдзіўленьне гэткай негуманнай рэакцыяй на яго прапанову. Паводле словаў праваба-

ронцы, праблема ўдасканаленьня заканадаўства ёсьць прамая функцыя парлямэнту. Адсутнасьць пераліку захворваньняў, якія перашкаджаюць адбываньню адміністрацыйнага арышту, зьяўляецца прагалам ў заканадаўстве, ускладняе адпраўленьне правасудзьдзя і ўшчамляе правы вялікай катэгорыі грамадзян.

Праваабаронца прывёў прыклад з асуджэньнем да адміністрацыйнага арышту асоб, якія пакутуюць на псыхічныя захворваньні. Паводле статыстычных дадзеных, кажа Леанід, кожны восьмы беларус пакутуе на псіхічныя разладзьдзі і разладзьдзі паводзінаў, якія патрабуюць аказаньня мэдычнай дапамогі. Неадмыслоўцам, якімі зьяўляюцца работнікі міліцыі і судзьдзі, часам складана распазнаць у чалавеку некаторыя захворваньні і разладзьдзі. І гэтая катэгорыя хворых можа быць лёгка асуджаная на адбываньне адміністрацыйнага арышту.

Да іх належаць, напрыклад, хворыя на дэпрэсію, якую цяжка распазнаць нават лекарам-псыхіятрам. У выніку – асуджэньне на адміністрацыйны арышт грамадзян, якія пакутуюць на дэпрэсію, і адбываньне імі арышту ў ізалятары часовага ўтрыманьня – у месцы, якое небясьпечнае для людзей, якія пакутуюць на псыхічныя захворваньні.

Леанід Сьвецік мяркуе, што дэпутатам парлямэнту рана ці позна давядзецца вярнуцца да разгляду пытаньня аб распрацоўцы і зацьвярджэньні пераліку захворваньняў, пры наяўнасьці якіх можа разглядацца пытаньне аб вызваленьні хворых грамадзян ад адміністрацыйнага арышту і замене яго больш мяккімі пакараньнямі. Бо гэтае пытаньне ўжо вырашанае станоўча ў некаторых краінах – чальцах Саюзнай дзяржавы Беларусі і РФ, МС і Эўразійскага эканамічнага саюзу. У той жа Расеі, напрыклад, у сьнежні 2014 году рашэньнем расейскага ўраду зацьверджаны пералік захворваньняў, якія перашкаджаюць адбываньню адміністрацыйнага арышту.

**12.03.2015** Падчас маніторынгу судоў Віцебску **праваабаронцам Паўлам Левінавым** быў выяўлены факт – у судзе Кастрычніцкага раёну, дзе старшынём ёсьць Яўген Буруноў, чыніць правасудзьдзе судзьдзя Алена Протас, ягоная жонка.

Праваабаронца законна палічыў, што гэта яўнае парушэньне парадку работы суду, якое павінна быць вырашанае ў найкарацейшы тэрмін, прычым адзін з сужэнцаў мусіць неадкладна выйсьці з падпарадкаваньня іншага. Напрыклад, сысьці ў чарговы або вымушаны адпачынак.

Згодна з артыкулам 7 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь», усе судзьдзі агульных судоў зьяўляюцца дзяржаўнымі службоўцамі, і на іх распаўсюджваюцца ўсе палажэньні гэтага закону.

У законе аб дзяржслужбе згадваецца, што дзяржаўная служба павінна быць спыненая ў выпадку, калі дзяржслужбоўцы аказваюцца ў стане блізкай роднасьці або сваяцтва, а іх службовая дзейнасьць зьвязаная зь непасрэднай падпарадкаванасьцю або падкантрольнасьцю аднаго зь іх другому.

У гэтым выпадку судзьдзя Протас непасрэдна падпарадкаваная старшыню суду Бурунову. Таму, згодна з артыкулам 40 закону аб дзяржслужбе, дзяржаўная служба аднаго з судзьдзяў-сужэнцаў павінна быць неадкладна спыненая, калі няма немагчымасьці пераводу каго-небудзь зь іх у іншы суд або яны адмаўляюцца ад такога

пераводу.

Для спыненьня парушэньня закону аб дзяржслужбе ў Кастрычніцкім райсудзе Віцебску праваабаронца Левінаў зьвярнуўся ў Віцебскі абласны суд з патрабаваньнем ліквідаваць усе абставіны, якія спрыяюць парушэньню дзеючага заканадаўства.

Старшыня Віцебскага абласнога суду Мікалай Хамічонак пасьпяшаўся паведаміць праваабаронцу, што ўсе неабходныя дзеяньні суд распачаў – дакумэнты пра перапрызначэньне судзьдзі суду Кастрычніцкага раёну г. Віцебску Протас А.С. у іншы раённы суд вобласьці аформленыя і накіраваныя ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь. Гэта было зроблена непасрэдна пасьля рэгістрацыі шлюбу Протас А.С. са старшынём суду Кастрычніцкага раёну г. Віцебска Буруновым Я.І.

Намесьнік Старшыні Вярхоўнага Суду Валер Калінковіч пацьвердзіў, што, так, дакумэнты зь Віцебску атрыманыя і накіраваныя ў адміністрацыю прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь для прызначэньня Алены Протас ў іншы суд з вызваленьнем яе ад пасады судзьдзі суду Кастрычніцкага раёну Віцебску.

**15.03.2015** Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь паабяцала ўлічыць прапанову **праваабаронцы Леаніда Сьвеціка** пры дапрацоўцы праекту нарматыўна-прававога акту, накіраванага на прафіляктыку сацыяльнага ўтрыманства.

Усё пачалося з таго, што яшчэ ў лютым 2015 году Леанід Сьвецік зьвярнуўся ў Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы, сацыяльнай абароне, справах вэтэранаў і інвалідаў з прапановай унесьці папраўкі ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб занятасьці насельніцтва Рэспублікі Беларусь».

Сутнасьць сваёй прапановы праваабаронца сфармуляваў наступным чынам: даць афіцыйнае азначэньне паняцьця «дармаед», бо гэта дазволіць аднолькава вызначаць асоб, якія не вядуць працоўнай дзейнасьці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і за яе межамі.

Леанід растлумачыў, што азначэньне паняцьця «дармаед» таксама неабходна для вырашэньня прававой калізіі паміж патрабаваньнямі артыкулу 41 (Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу як найбольш годны спосаб самасьцьвярджэньня чалавека, гэта значыць права на выбар прафэсіі, роду заняткаў і працы ў адпаведнасьці з пакліканьнем, здольнасьцямі, адукацыяй, прафэсійнай падрыхтоўкай і з улікам грамадзкіх патрэбнасьцяў, а таксама на здаровыя і бясьпечныя ўмовы працы) і артыкулу 56 (Грамадзяне Рэспублікі Беларусь абавязаныя браць удзел у фінансаваньні дзяржаўных расходаў праз выплату дзяржаўных падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў) Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Таксама праваабаронца прапанаваў унесьці ў Закон «Аб занятасьці насельніцтва Рэспублікі Беларусь» прававую норму, якая абавязвае беспрацоўных грамадзян на працягу аднаго каляндарнага месяцу стаць на ўлік у службе занятасьці. На думку Леаніда Сьвеціка, гэтая заканадаўча замацаваная норма спросьціць улік усіх непрацаўладкаваных грамадзян, дазволіць сыстэме адукацыі арганізаваць падрыхтоўку запатрабаваных на рынку працы рабочых, інжынэрна-тэхнічных і кіраўніц-

кіх кадраў, эфэктыўна кіраваць працоўнымі рэсурсамі.

Азнаёміўшыся з прапановамі праваабаронцы, ад імя Пастаяннай камісіі па працы і сацыяльных пытаньнях яе старшыня Уладзімер Васіленка адказаў, што згодна зь дзейным заканадаўствам Палата прадстаўнікоў разглядае толькі тыя праекты законаў, якія ўносяцца ў парлямэнт суб'ектамі, якія валодаюць заканадаўчай ініцыятывай.

Далей у адказе паведамляецца аб тым, што ў цяперашні час у Палаце Прадстаўнікоў на разглядзе няма законапраектаў, накіраваных на ўрэгуляваньне ўзьнятых праваабаронцам пытаньняў. Таму яго зварот быў перанакіраваны ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь для разгляду і магчымага ўліку прапаноў у межах плянавага карэктаваньня заканадаўства аб занятасьці насельніцтва.

Першы намесьнік міністра Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь Пётар Грушнік паведаміў Леаніду аб тым, што яго прапанова наконт азначэньня паняцьця «дармаед» прынятае да ведама і будзе разгледжанае пры дапрацоўцы праекту нарматыўна-прававога акту, накіраванага на прафіляктыку сацыяльнага ўтрыманства.

У той самы час спадар Грушнік адмовіў у падтрымцы прапановы праваабаронцы ў частцы замацаваньня абавязку непрацуючых грамадзян зарэгістравацца ў органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне на працягу аднаго месяцу пасьля страты працы (звальненьня). На думку чыноўніка, гэтая норма будзе супярэчыць праву грамадзян на выбар спосабу атрыманьня садзейнічаньня ў працаўладкаваньні.

Тым ня менш ад імя Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь намесьнік міністра падзякаваў праваабаронцу Леаніду Сьвецiку за актыўную грамадзянскую пазыцыю і ўдзел у вырашэньні агульнадзяржаўных праблем.

**04.04.2015 Павал Левінаў** патрабуе знайсьці і пакараць гандляроў сьцяжкамі СССР. Ён даслаў заяву на імя начальніка УУС Віцебскага аблвыканкаму і паведаміў пра факты неаднаразовага зьяўленьня невядомых асобаў зь чырвонымі сьцяжкамі каля гандлёвага цэнтру «Эвіком».

Да заявы Павал Левінаў прыклаў фотаздымкі хлопца і дзяўчыны, якія 20 і 25 сакавіка парушалі грамадзкі парадак – заміналі праходу мінакоў, чапляліся да іх з прапановамі набыць сымболіку былога Савецкага Саюзу, а таксама дэманстравалі свае грамадзка-палітычныя погляды, паказваючы паперку са словамі «Народжаны ў СССР».

На думку праваабаронцы, дзеяньні невядомых падпадаюць пад адміністрацыйны артыкул 23.34 – арганізацыя і правядзеньне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства:

«Хлопец і дзяўчына, якія 20 і 25 сакавіка знаходзіліся на вуліцы Царашковай, каля гандлёвага цэнтру „Эвіком", яўна выражалі свае грамадзка-палітычныя інтарэсы. Можна сказаць, што гэта было пікетаваньне з выкарыстаньнем сьцягоў, не зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку. Больш таго, яны заміналі руху мінакоў. Мі-

ліцыя мусіць адрэагаваць адпаведным чынам на гэтае правапарушэньне і пакараць вінаватых – бо караюць жа ў нас за бел-чырвона-белыя сьцягі. Высьветліць асобы пікетоўцаў, я думаю, ня цяжка: я дасылаю начальніку абласнога УУС фотаздымкі з інтэрнэту, а таксама зробленыя мной і маімі сябрамі».

Павал Левінаў падкрэсьлівае, што распаўсюднікі савецкіх сьцяжкоў не хаваюцца, дзейнічаюць адкрыта, зьяўляюцца каля рынку «Эвіком» часта і нават фатаграфавацца не бянтэжацца. Толькі не размаўляюць – паказваюць на мігах, што глуханямыя.

Праваабаронца просіць, каб начальнік абласной міліцэйскай управы ўзяў гэтую справу пад уласны кантроль і накіраваў яе для разбору сваім падначаленым – у Кастрычніцкі райаддзел міліцыі:

«Няхай разьбіраюцца, бо закон павінен працаваць аднолькава ў дачыненьні да кожнага грамадзяніна. Вызначыць асобы прыхільнікаў СССР і адпаведнай сымболікі ня цяжка: змог жа начальнік аддзелу аховы правапарадку Чыгуначнага РАУС маёр Аляксандар Рыбакоў вызначыць удзельнікаў знакамітай фотасэсіі з птушкамі і клеткамі. Журналістаў і актывістаў вызначылі таксама па фотаздымках у інтэрнэце, і маёр Рыбакоў склаў на кожнага пратакол за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Хоць у іх нават сьцягоў не было, толькі папяровыя клеткі ды птушкі-арыгамі – і то міліцыя, а потым і суд вырашылі, што мы дэманстравалі грамадзка-палітычныя інтарэсы… Вось людзі з савецкай сымболікай пэўна гэта робяць!»

Спадар Левінаў просіць праінфармаваць яго пра ход расьсьледаваньня гэтай справы. Тым больш што распаўсюд савецкіх сьцяжкоў абурае месьцічаў. Гэтаксама як і навязьлівасьць распаўсюднікаў: хлопец і дзяўчына падпільноўваюць мінакоў, торкаюць у рукі сьцяжок, а потым паказваюць паперку, дзе напісаны кошт – 20 тысяч рублёў. Амаль ніхто не купляе – усе аддаюць сьцяжкі назад, даведаўшыся, што гэта не падарунак.

Пра распаўсюд сьцягоў СССР на вуліцах паведамляюць жыхары шмат якіх гарадоў Беларусі.

**07.04.2015** Пасьля зваротаў у Вярхоўны Суд **праваабаронцу Паўлу Левінаву** ўдалося дамагчыся выпраўленьня хібаў у працы судоў Чыгуначнага раёну Віцебску і Лепельскага раёну Віцебскай вобласці, якія ўзьніклі праз недастатковы кантроль з боку кіраўніцтва судоў за дзейнасьцю сваіх падначаленых і неналежнае захоўваньне маёмасьці.

Спадар Левінаў высьветліў, што інфармацыя, разьмешчаная на стэндзе Чыгуначнага суду Віцебску ад 10 студзеня «ўводзіць грамадзян у зман, а менавіта, пазначае, што памер базавай велічыні ў адпаведнасьці з пастановай Савету Міністраў РБ ад 25 сакавіка 2014 г. № 255 “Аб устанаўленьні памеру базавай велічыні” складае 150 000 рублёў». І гэта пры тым ,што «ў адпаведнасьці з пастановай Савету Міністраў РБ ад 29 сьнежня 2014 году № 1255 …базавая велічыня вызначаная ў памеры 180 000 рублёў».

Спачатку па тлумачэньне праваабаронца зьвярнуўся да старшыні Чыгуначнага раёну Віцебску. У сваё апраўданьне старшыня суду Раіса Лупянкова паведаміла,

што 3 лістапада 2014 году «нявысьветленая асоба» зьняла «з інфармацыйнага стэнду, разьмешчанага на 1-м паверсе будынку суду, інфармацыю аб вызначэньні памеру базавай велічыні… ў суме 150 000 рублёў». А пасьля, 10 студзеня 2015 году, тая самая асоба замест інфармацыі пра сэмінар разьмясьціла на стэндзе раней зьнятую інфармацыю.

Апрача гэтага парушэньня, Павал Левінаў заўважыў, «што на будынку суду Чыгуначнага раёну г. Віцебску на больш як двухмэтровай вышыні ўсталяваная шыльда, згодна зь якой гэты суд падведамасны Міністэрству юстыцыі Рэспублікі Беларусь», а не Вярхоўнаму Суду РБ, як насамрэч.

Адзначыўшы згаданыя факты, Павал Левінаў даслаў у Вярхоўны Суд скаргу, у якой паставіў пад сумнеў законнасьць вынесенага яму прысуду і папрасіў сярод іншага зрабіць неадкладныя захады для навядзеньня належнага парадку ў судзе Чыгуначнага раёну Віцебску.

У сваім другім лісьце ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь спадар Левінаў у якасьці дадатковага прыкладу, які сьведчыць пра недастатковы кантроль з боку кіраўніцтва асобных судоў за дзейнасьцю падначаленых і неналежнае захоўваньне маёмасьці, прывёў факт, выяўлены 16 сакавіка ў Лепелі. Павал Левінаў убачыў, што «на будынку суду Лепельскага раёну Віцебскай вобласьці на месцы разьмяшчэньня Дзяржаўнага Сьцягу Рэспублікі Беларусь знаходзіцца нейкае абшарпанае палотнішча з колерамі Дзяржаўнага Сьцягу Рэспублікі Беларусь». У такім стаўленьні да дзяржаўнай сымболікі ён угледзеў зьдзек са сьцягу і папрасіў Вярхоўны Суд зрабіць адпаведныя захады.

Скаргі, дасланыя праваабаронцам у Вярхоўны Суд, былі перанакіраваныя ў Віцебскі абласны суд, адкуль за подпісам ягонага старшыні Мікалая Хамічонка Левінаў і атрымаў адказы на ўзьнятыя ў лістох пытаньні. Старшыня Віцебскага абласнога суду паведаміў, што «ў цяперашні час на будынку суду Лепельскага раёну Віцебскай вобласьці размешчаны Дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь, які адпавядае ўсім неабходным патрабаваньням. На адрас старшыні суду Нікіцінай В.Л. накіраванае прадстаўленьне аб неабходнасьці ажыцьцяўленьня пастаяннага кантролю за станам дзяржаўнай сымболікі Рэспублікі Беларусь у судзе. Апроч таго, старшыня суду Нікіціна В.Л. за неналежнае ўтрыманьне будынку ў адпаведнасьці з вызначанымі патрабаваньнямі па выніках працы за месяц дэпрэмаваная».

Што тычыцца фактаў парушэньняў, зафіксаваных праваабаронцам у судзе Чыгуначнага раёну, то памылковыя зьвесткі аб падпарадкаваньні суду «Міністэрству юстыцыі Рэспублікі Беларусь, ліквідаваныя», а «старшыні суду Чыгуначнага раёну г. Віцебску Лупянковай Р.К. строга ўказана на адсутнасьць належнай арганізацыі працы суду па агульных пытаньнях».

**10.04.2015** Вось ужо паўгода віцебскі **праваабаронца Валер Місьнікаў** вядзе цяжбу зь віцебскімі гарадзкой і абласной пракуратурамі на карысьць незалежных журналістаў.

Ва ўсіх зваротах праваабаронца ставіў перад службовымі асобамі з пракуратур пытаньне наконт законнасьці прыцягненьня **журналістаў Алены Сьцяпанавай** і **Кастуся Мардзьвінцава** да адміністрацыйнай адказнасьці за ўдзел у скандальнай


Валер Місьнікаў

фотасэсіі, якая адбылася ў Віцебску 5 лістапада 2014 году.

Аднак пракуратуры адмовілі Місьнікаву ў абароне Законаў і Канстытуцыі краіны ад парушэньняў адказнымі службовымі асобамі – маёрам міліцыі Аляксандрам Рыбаковым, судзьдзямі Дзянісам Ґубанавым і Аленай Цыганковай, якія перасьледавалі журналістаў за іх удзел у фотасэсіі.

Так, пракурор Віцебску Юры Раманоўскі адмовіўся разглядаць заяву спадара Місьнікава па сутнасьці з прычыне таго, што ў яго не было пацьверджаньня яго паўнамоцтваў на права зьвяртацца ў пракуратуру ад асобаў, правы якіх, на думку праваабаронцы, былі парушаныя.

Наконт такога адказу Раманоўскага Валер Місьнікаў задаецца рытарычным пытаньнем: ці запатрабаваў бы зь яго пракурор гораду даверанасьць, калі б ён паведаміў пра цяжкае злачынства, учыненае ў дачыненьні да трэцяй асобы?

Віцебскі праваабаронца зьдзіўлены такім фармальным падыходам з боку пракурора гораду. Бо ў гарадзкую пракуратуру паступіла заява пра парушэньне Закону і Канстытуцыі. У такой сытуацыі, перакананы Валер Місьнікаў, пракурор папросту абавязаны адрэагаваць на гэткую заяву і разгледзець яе па сутнасьці.

Скарга на бязьдзейнасьць пракурора гораду ў абласную пракуратуру не дала належнага выніку. Пракурор Віцебскай вобласьці ня ўгледзеў парушэньняў у адказе гарадзкой пракуратуры, якая знаходзіцца ў яго падпарадкаваньні, і вырашыў, што для прыняцьця мераў пракурорскага рэагаваньня няма падставаў.

У пасіўнасьці пракуратур Валер Місьнікаў бачыць небясьпечныя наступствы для грамадзкай бясьпекі, бо такая пазыцыя служкаў закону адбівае ў законапаслухмяных грамадзян ахвоту паведамляць у пракуратуры пра парушэньні Закону, што здарыліся, культывуе ў грамадзтве прававы нігілізм і абыякавасьць да фактаў парушэньня службовымі асобамі дзейнага заканадаўства.

Пацярпеўшы няўдачу ў абароне правоў і законных інтарэсаў журналістаў на мясцовым узроўні, праваабаронца рыхтуе скаргу ў Ґенэральную пракуратуру краіны. Ён спадзяецца, што ў Ґенэральнай пракуратуры зьвернуць належную ўвагу на яго паведамленьне пра парушэньні работнікамі міліцыі і судзьдзямі Закону і пры гэтым не запатрабуюць даверанасьці на прадстаўленьне інтарэсаў журналістаў у гэтым дзяржаўным органе.

**29.04.2015** Ґенэральная пракуратура ня стала рэагаваць на паведамленьне віцебскага праваабаронцы аб зьдзейсьненых парушэньнях закону. Зварот у Ґенэральную пракуратуру **Валер Місьнікаў** падаў пасьля таго, як ня змог дамагчыся праўды на мясцовым узроўню. Раней з аналягічнымі зваротамі, у якіх паведамляў пра

парушэньне заканадаўства міліцыянтамі і судзьдзямі, датычнымі да рэпрэсіяў супраць журналістаў – удзельнікаў сумнавядомай фотасэсіі з клеткамі ў птушкамі, праваабаронца зьвяртаўся ў Віцебскую гарадзкую і абласную пракуратуры, але беспасьпяхова.

У сваім звароце ў гарадзкую пракуратуру Валер Міськікаў спрабаваў давесьці яе супрацоўнікам, што маёр міліцыі Аляксандар Рыбакоў і судзьдзі Чыгуначнага райсуду Віцебску Алена Цыганкова і Дзяніс Ґубанаў, зьдзяйсьняючы расправу над журналістамі і грамадзкімі актывістамі, парушылі законы краіны і Канстытуцыю. Ён слушна меркаваў, што задача пракуратуры – нагляд за захаваньнем законнасьці, а таму яна мусіць старанна правяраць усе паведамленьні пра супрацьпраўныя дзеяньні. Аднак у гарадзкой пракуратуры ня сталі разьбірацца, ці парушылі службовыя асобы міліцыі і суду закон. Ня сталі ўнікаць у справу і ў абласной пракуратуры, куды Валер Міськікаў накіраваў скаргу на бязьдзейнасьць пракурора гораду.

Праваабаронца спадзяваўся, што дапаможа ва ўсім разабрацца Менск. Але зварот у генэральную пракуратуру таксама ня даў плёну. Начальніца аддзелу па наглядзе і захаваньні правоў і свабод грамадзян Марына Папова, як раней і пракуроры мясцовага ўзроўню, паведаміла праваабаронцу, што ён, маўляў, ня мае паўнамоцтваў прадстаўляць інтарэсы асоб, прыцягнутых да адміністрацыйнай адказнасьці, бо ў яго няма даверанасьці, афармленай належным чынам, прадстаўляць іх інтарэсы.

Валер Міськікаў дужа зьдзіўлены такім стаўленьнем пракурорскіх работнікаў да яго зваротаў. Ён жа зусім не зьбіраўся дзейнічаць ад імя пакараных журналістаў і актывістаў як іхны прадстаўнік. Яго мэтай была паказаць пракурорам на незаконнасьць дзеяньняў службовых асоб. Кожны грамадзянін, якому стала вядома пра парушэньні закону і Канстытуцыі, мае права паведаміць пра іх у пракуратуру – і абавязак пракуратуры разабрацца, ці сапраўды дратаваньне закону мела месца. Але ў пракуратуры, выходзіць, па-іншаму глядзяць на правы грамадзян і свае абавязкі: грамадзянін ня можа проста так зьвярнуцца ў пракуратуру з паведамленьнем пра правапарушэньне – ён, аказваецца, мусіць мець яшчэ нейкія даверанасьці.

**24.05.2015** Канстытуцыйны Суд краіны ў асобе начальніка сакратарыяту Аляксандра Каравая адмовіўся выказаць прававую пазыцыю суду наконт пытаньняў абмежаваньня і абароны права прыватнай уласнасьці. Пра гэта суд прасіў **праваабаронца Леанід Сьвецік**.

Фармальнай прычынай ўхіленьня канстытуцыйнага судовага органу ад вырашэньня пастаўленага перад ім пытаньня стала адсутнасьць у праваабаронцы даверанасьці на прадстаўленьне інтарэсаў грамадзян у судзе, у якіх мясцовымі органамі ўлады была адчужаная прыватная ўласнасьць (будынкі і зямельныя ўчасткі) для дзяржаўных патрэб.

У сваім звароце праваабаронца паведамляў Канстытуцыйнаму суду пра тое, што яму пастаянна скардзяцца грамадзяне, у якіх мясцовымі органамі ўлады былі канфіскаваныя для дзяржаўных патрэб зямельныя ўчасткі з разьмешчанымі на іх жылымі і гаспадарчымі пабудовамі. Такія выпадкі не адзінкавыя. Толькі ў 2014-2015 гадох з такімі скаргамі да Леаніда зьвярнуліся больш за 20 жыхароў паўночнай сталіцы.

«Для мяне відавочна, што органамі дзяржаўнага кіраваньня і судамі парушаюцца канстытуцыйныя правы грамадзян у сфэры валоданьня прыватнай уласнасьцю. У прыватнасьці, парушаюцца артыкулы 13, 29, 44, 48, 60 Асноўнага закону краіны – Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь», – сьцьвярджае Леанід Сьвецік.

У артыкулах, пералічаных праваабаронцам, пацьвярджаецца існаваньне як дзяржаўнай, гэтак і прыватнай уласнасьці. Згодна з Канстытуцыяй, дзяржава бярэ на сябе адказнасьць за захаванасьць правоў валоданьня і распараджэньня ўласнасьцю грамадзянамі.

Больш таго, у беларускай Канстытуцыі адназначна сказана пра тое, што прымусовае адчужэньне маёмасьці дапускаецца толькі па матывах грамадзкай неабходнасьці пры захаваньні вызначаных законам умоў і парадку яе адабраньня. Прычым адчужэньне маёмасьці прыватных асоб магчымае толькі па рашэньні кампэтэнтнага, незалежнага і бесстароньняга суду ў вызначаныя законам тэрміны, а сама канфіскацыя павінна суправаджацца поўнай і своечасовай кампэнсацыяй кошту адчужанай маёмасьці.

Але на практыцы, лічыць віцебскі праваабаронца, адбываецца інакш. Часьцяком адчужэньне прыватнай уласнасьці суправаджаецца парушэньнем канстытуцыйных прынцыпаў.

Тыповым інцыдэнтам, які даказвае існаваньне такіх парушэньняў, на думку Леаніда Сьвеціка, зьяўляецца апошні выпадак масавага адабраньня з далейшым іх зносам больш як 70-ці лецішчаў у жыхароў Віцебску. Гэтыя лецішчы знаходзяцца ў зоне магчымага падтапленьня водамі вадасховішча, якое ўзьнікне па завяршэньні будаўніцтва Віцебскай гідраэлектрастанцыі. Уладальнікі лецішчаў ня згодныя як з самім фактам адабраньня дачных участкаў і жылых будынкаў, так і з памерамі кампэнсацыяў за іх канфіскацыю для дзяржпатрэбаў.

Праваабаронца выказвае заклапочанасьць абыякавасьцю Канстытуцыйнага суду да праблем, зь якімі сутыкаюцца грамадзяне краіны пры адабраньні ў іх прыватнай уласнасьці органамі ўлады. Бо павага правоў грамадзян на валоданьне і распараджэньне ўласнасьцю зьяўляецца адным з асноватворных прынцыпаў дзяржаўнага ладу, які забясьпечвае стабільнасьць і сацыяльны спакой у грамадзтве.

«Ухіляючыся ад апэратыўнага рэагаваньня на парушэньне канстытуцыйных правоў грамадзян у сфэры аховы правоў уласнасьці, Канстытуцыйны суд не спрыяе цывілізаванаму вырашэньню праблемы, зьмяншае свой аўтарытэт і падрывае давер да сябе і сваіх рашэньняў», – мяркуе праваабаронца.

**01.06.2015** Упраўленьне юстыцыі адхіліла кандыдатуру віцебскага праваабаронцы ў склад назіральнай камісіі. **Паўла Левінава** вылучыла у склад абласной грамадзкай назіральнай камісіі рэспубліканскае праваабарончае рэспубліканскае аб'яднаньне «Беларускі Хэльсынскі Камітэт». У галоўнае ўпраўленьне юстыцыі абласнога выканкаму была накіраваная адпаведная папера з просьбай зацьвердзіць кандыдатуру БХК. Аднак просьба задаволеная не была.

Фармальнай прычынай такога рашэньня ўпраўленьня юстыцыі стала тое, што Павал Левінаў быў вылучаны ў склад камісіі як прадстаўнік рэспубліканскага грамадзкага аб'яднаньня, у той час як згодна з палажэньнем аб назіральных камісіях,

зацьверджаным пастановай Савету Міністраў, «абласныя і Менская гарадзкая грамадзкія назіральныя камісіі пры галоўных упраўленьнях юстыцыі аблвыканкамаў і Менскага гарвыканкаму фармуюцца з прадстаўнікоў мясцовых грамадзкіх аб'яднаньняў, арганізацыйных структураў міжнародных і рэспубліканскіх грамадзкіх аб'яднаньняў, якія ажыцьцяўляюць сваю дзейнасьць на тэрыторыі адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Рэспублікі Беларусь».

Абласныя грамадзкія назіральныя камісіі пры галоўных упраўленьнях юстыцыі аблвыканкамаў дзейнічаюць ва ўсіх абласьцях краіны. Мэта гэтых камісіяў – ажыцьцяўляць грамадзкі кантроль за дзейнасьцю органаў і ўстановаў, якія выконваюць пакараньне і іншыя меры крымінальнай адказнасьці.

Згодна з дадзенымі, апублікаванымі на сайце Міністэрства юстыцыі, у склад Віцебскай абласной грамадзкай назіральнай камісіі уваходзяць 11 чалавек. Ніводнага прадстаўніка праваабарончых арганізацыяў у складзе Віцебскай назіральнай камісіі няма.

**04.06.2015** Прадстаўнікі віцебскіх пракуратураў ізноў праігнаравалі заявы **праваабаронцы Валера Місьнікава** пра факты парушэньня дзейнага заканадаўства з боку шэрагу службовых асоб. Вартавыя правапарадку, спасылаючыся на закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, аб'явілі спадара Місьнікава неналежным заяўнікам і пакінулі яго скаргі без разгляду і пракурорскага рэагаваньня.

Вось ужо больш за паўгода праваабаронца вядзе безвыніковае ліставаньне з пракурорам гораду Віцебску Юрыем Рама免оўскім і пракурорам Віцебскай вобласьці Генадзем Дыско. На неаднаразовыя заявы Валера пра парушэньні патрабаваньняў заканадаўства – пра непадаваньне інфармацыі заяўніку або наўмыснае яе скажэньне дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі ды кіраўнікамі прадпрыемстваў – пракуроры не адрэагавалі належным чынам і не правялі неабходных праверак.

І, як вынік, не было складзена ніводнага пратаколу аб правапарушэньнях у дачыненьні да нядбайных чыноўнікаў (у выпадках, калі праверка выявіла б такія правапарушэньні) і не вынесена ніводнай пастановы аб адмове ва ўзбуджэньні адміністрацыйных спраў (калі сыгнал аб правапарушэньні аказаўся б ілжывым).

Так, адказныя работнікі пракуратуры адмовіліся прыцягнуць да адказнасьці кіраўніцтва ААТ «Чырвоны Кастрычнік» за тое, што службовыя асобы гэтага прадпрыемства незаконна звольнілі маладога спэцыяліста, які не пасьпеў адпрацаваць належны тэрмін па разьмеркаваньні. Прычыну сваёй адмовы ад рэагаваньня на паведамленьне аб правапарушэньні вартавыя закону патлумачылі тым, што заяўнікам выступіў не пацярпелы малады спэцыяліст, а праваабаронца Місьнікаў.

Апошні ў сваіх заявах і скаргах у пракуратуру таксама неаднаразова зважаў таксама на парушэньні з боку работнікаў міліцыі і судзьдзяў Закону «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» і міжнародных дамоваў у сфэры свабоды мірных сходаў.

Ва ўсіх выпадках пракуроры адмовіліся разглядаць заявы аб парушэньнях закону з-за адсутнасьці ў праваабаронцы дакумэнтаў, якія б пацьвярджалі яго паўнамоцтвы прадстаўляць інтарэсы грамадзян у дзяржаўных органах.

На падставе шасьцімесячнага ліставаньня з органамі пракуратуры, Валер Місьнікаў робіць выснову: «Вера ў тое, што ашуканству з боку прадстаўнікоў улады супрацьстаяць і пракуратура, і сілавыя структуры дзяржавы зьяўляецца наіўнай памылкай».

**15.06.2015 Павал Левінаў** падаў у суд на Белтэлерадыёкампанію. Сваю «скаргу на дзеяньні дзяржаўнага органу, якія ўшчамляюць права на свабоднае выказваньне меркаваньня» праваабаронца накіраваў у суд Першамайскага раёну Менску. Ён просіць суд абавязаць Нацыянальную дзяржаўную тэлерадыёкампанію даць яму магчымасьць выступіць у этэры тэлеканалу «Беларусь-1».

Такім спосабам віцебскі праваабаронца хоча дамагчыся рэалізацыі свайго права на абвяржэньне зьвестак, распаўсюджаных у тэлепраграме «Клюб рэдактараў» 7 лютага (з паўторам 9 лютага), якія, на яго думку, не адпавядаюць рэчаіснасьці і зьневажаюць яго гонар, годнасьць і дзелавую рэпутацыю.

У згаданым выпуску тэлепраграмы, які збольшага быў прысьвечаны праблемам ва Ўкраіне, цягам амаль трох хвілін абмяркоўвалася сустрэча беларускіх праваабаронцаў са спэцыяльным дакладчыкам ААН па правох чалавека ў Беларусі Міклашам Харашці, што адбылася ў Вільні. Падчас абмеркаваньня ў этэры даваліся нэгатыўныя ацэнкі дзеяньням праваабаронцаў.

Так, старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька неаднаразова зьняважліва выказваўся аб праваабаронцах, называючы іх «так званымі праваабаронцамі», якія нешта ўкладвалі «яму [Міклашу Харашці] там у вушы». А госьць тэлепраграмы, дэпутат Менскага гарсавету Георгі Атаманаў, ужыў выраз «праваабарончая шпана».

Павал Левінаў, які быў адным з удзельнікаў сустрэчы беларускіх праваабаронцаў са спэцдакладчыкам ААН, палічыў што выказваньні, што прагучалі ў этэры дзяржаўнай тэлевізіі, ня толькі не адпавядаюць рэчаіснасьці, але і зьняважылі яго асабіста:

«Займаюся праваабарончай дзейнасьцю больш за 40 гадоў, зьяўляюся сябрам Рады Рэспубліканскага праваабарончага грамадзкага аб'яднаньня «Беларускі Хэльсынскі Камітэт» і прадстаўніком аб'яднаньня на тэрыторыі гораду Віцебску і Віцебскай вобласьці. Усё, што прагучала ў тэлеперадачы «Клюб рэдактараў», лічу не адпаведным рэчаіснасьці і зьневажальным для майго гонару і годнасьці. Не адпавядаюць рэчаіснасьці зьвесткі аб праваабаронцах, аб нашым месцы і ролі ў беларускім грамадзтве, інфармацыя пра тое, што мы зьяўляемся «праваабарончай шпаной», а таксама што мы рабілі нейкія маніпуляцыі з вушамі спэцыяльнага дакладчыка, мандат якога быў уведзены рэзалюцыяй Рады па правох чалавека ААН».

Перад тым, як зьвярнуцца ў суд, Павал Левінаў паспрабаваў быў вырашыць пытаньне праз зварот наўпрост у Белтэлерадыёкампанію. Ён спасылаўся на артыкул 41 Закону «Аб сродках масавай інфармацыі», згодна з часткай 1 якога фізычныя асобы маюць права патрабаваць ад юрыдычнай асобы, на якую ўскладзеныя функцыі рэдакцыі сродку масавай інфармацыі, абвяржэньня распаўсюджаных зьвестак, калі гэтыя зьвесткі не адпавядаюць рэчаіснасьці, зьневажаюць іх гонар,

годнасьць або дзелавую рэпутацыю. Аднак кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі адказала на патрабаваньне праваабаронцы адмовай.

Таксама Левінаў спадзяваўся заручыцца падтрымкай органаў МУС. Была напісаная заява у міліцыю, у якой праваабаронца прасіў прыцягнуць удзельнікаў тэлеперадачы, якія дапусьцілі некарэктныя выказваньні ў этэры, да адміністрацыйнай адказнасьці паводле артыкулу 9.3 КаАП («зьнявага»). Але і міліцыянты нічым не дапамаглі.

**17.06.2015** У цяперашні час зьяўляецца немэтазгодным ініцыяваньне пытаньня пра правядзеньне парлямэнцкіх слуханьняў па тэме «Вынікі правапрымяненьня Закону Рэспублікі Беларусь "Аб парадку і ўмовах накіраваньня грамадзян ў лячэбна-працоўныя прафілякторыі і ўмовах знаходжаньня ў іх"». Пра гэта паведаміў **праваабаронцу Леаніду Сьвецiку** старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па правох чалавека, нацыянальных стасунках і сродках масавай інфармацыі Андрэй Навумовіч.

Леанід Сьвецік, які зьвярнуўся ў Палату прадстаўнікоў з прапановай правесьці парлямэнцкія слуханьні, ставіць пад сумнеў якасьць прымусовага лекаваньня грамадзян, якія пакутуюць на алька– або нарказалежнасьць, у лячэбна-працоўных прафілякторыях (ЛПП). На ўтрыманьне, ахову і лекаваньне грамадзян у ЛПП дзяржава траціць велізарныя як матэрыяльныя, гэтак і нематэрыяльныя рэсурсы. Аднак пакуль ніхто глыбока ў ўсебакова не аналізаваў, наколькі высокая эфэктыўнасьць працы ЛПП з пункту гледжаньня эканомікі, маралі і гуманнасьці.

У сваім звароце да парлямэнтароў віцебскі праваабаронца таксама зьвярнуў увагу на тое, што кіраўнікі ўстановаў Дэпартамэнту па выкананьні пакараньняў, у непасрэдным распараджэньні якога знаходзяцца ЛПП, усяляк пазьбягаюць афішаваць, што адбываецца за калючым дротам і высокімі платамі лячэбных установаў. Таму, як сьцьвярджае Леанід Сьвецік, многімі грамадзянамі і праваабарончымі грамадзкімі арганізацыямі адмоўна ўспрымаецца тая акалічнасьць, што сыстэма ЛПП знаходзіцца ў распараджэньні МУС – дзяржаўным органе, прызначэньне якога – караць, а не лекаваць.

Апроч таго, на думку праваабаронцы, сам факт утрыманьня ў ЛПП грамадзян, якія маюць патрэбу ў лекаваньні ад алькагалізму і наркаманіі, прыніжае іх чалавечую годнасьць. Ён таксама адзначае, што грамадзкімі арганізацыямі і мэдычнымі работнікамі мэтад лекаваньня па формуле «прымусовае лекаваньне праз прымусовую працу» ўспрымаецца як парушэньне правоў чалавека, у прыватнасьці парушэньне артыкулу 8 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Зыходзячы з вышэйпададзенай аргумэнтацыі, Леанід Сьвецік прапанаваў пастаяннай камісіі ПП НС па правох чалавека, нацыянальных стасунках і сродках масавай інфармацыі выступіць ініцыятарам правядзеньня парлямэнцкіх слуханьняў па тэме «Вынікі правапрымяненьня Закону Рэспублікі Беларусь "Аб парадку і ўмовах накіраваньня грамадзян ў лячэбна-працоўныя прафілякторыі і ўмовах знаходжаньня ў іх"».

Адказ Леаніду Сьвецiку на яго прапанову прыйшоў за подпісам старшыні пастаяннай камісіі Андрэя Навумовіча. Ён паведаміў праваабаронцу, што 14 траўня

2014 году Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу былі прыняты праект Закону «Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаньнях накіраваньня грамадзян у лячэбна-працоўныя прафілакторыі і аб умовах знаходжаньня ў іх» (гэты закон набыў моц 29 чэрвеня 2014 году).

«Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў – сябры Камісіі актыўна ўдзельнічалі ў разглядзе праекту згаданага закону. Напрыклад, па маёй прапанове ў яго было ўнесенае палажэньне пра магчымасьць скарачэньня тэрміну знаходжаньня грамадзяніна ў лячэбна-працоўным прафілакторыі. Законам таксама замацаваная норма пра спыненьне знаходжаньня ў лячэбна-працоўным прафілакторыі грамадзян, якія дасягнулі пэнсійнага ўзросту (мужчын – шасьцідзесяці гадоў, жанчын – пяцідзесяці пяці гадоў), цяжарных жанчын, інвалідаў I і II групы, грамадзян з захворваньнем, што перашкаджае іх знаходжаньню ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, па рашэньні начальніка лячэбна-працоўнага прафілакторыя», – паведаміў Андрэй Навумовіч.

Старшыня пастаяннай камісіі ніжняй палаты беларускага парлямэнту праінфармаваў праваабаронцу таксама пра тое, што 14 траўня 2015 году ў Менскай вобласьці адбыўся сэмінар на тэму «Умовы ўтрыманьня асобаў ва ўстановах крымінальна-выканаўчай сыстэмы Рэспублікі Беларусь і парадак функцыянаваньня папраўчых установаў». Апроч дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у сэмінары ўзялі ўдзел прадстаўнікі Адміністрацыі прэзыдэнта, Генэральнай пракуратуры, МУС, Савету Рэспублікі НС, Нацыянальнага цэнтру заканадаўства і прававых дасьледаваньняў, кіраўнікі мясцовых органаў улады. На згаданым сэмінары абмяркоўвалася і пытаньне функцыянаваньня лячэбна-працоўных прафілакторыяў.

«У сувязі з гэтым, а таксама з улікам таго, што з моманту ўступленьня ў сілу апошніх зьменаў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб парадку і ўмовах накіраваньня грамадзян у лячэбна-працоўныя прафілакторыі і ўмовах знаходжаньня ў іх” мінула менш за год, лічым ініцыяваньне пытаньня аб правядзеньне згаданых парлямэнцкіх слуханьняў ў цяперашні час немэтазгодным», – гэтак завяршыў свой адказ на прапанову праваабаронцы Леаніда Сьвеціка старшыня пастаяннай камісіі ПП НС па правох чалавека, нацыянальных стасунках і сродках масавай інфармацыі Навумовіч.

## Звароты грамадзян у Камітэт па правох чалавека ААН


Ігар Базараў

**25.07.2014** Камітэт ААН па правох чалавека на 111-й сэсіі разгледзеў скаргі двух віцебчукоў. Вэрдыкт, вынесены камітэтам: Рэспубліка Беларусь парушыла правы **Ігара Базарава** і **Валера Аляксандрава**, пакараўшы іх пяць гадоў таму штрафамі за ўдзел у несанкцыянаваным вулічным шэсьці. Паводле камітэту, улады парушылі частку 2 артыкулу 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох (права на свабоднае выказваньне свайго меркаваньня), а ў адносінах да Базарава быў парушаны яшчэ і артыкул 21 пакту (права на мірныя сходы).

Падзеі, якія вымусілі актывістаў зьвярнуцца па дапамогу ў КПЧ, адбыліся ў 2009 годзе. Ігар Базараў і Валер Аляксандраў вырашылі адзначыць Дзень волі. 25 сакавіка яны разам зь Сяргеем Каваленкам выйшлі зь бел-чырвона-белым сьцягам у цэнтар Віцебску. У справу ўмяшалася міліцыя: хлопцаў абвінавацілі ў парушэньні артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне парадку арганізацыі ці правядзеньня масавых мерапрыемстваў). 27 сакавіка судзьдзя суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Алена Казілава вынесла рашэньне аб пакараньні актывістаў штрафамі: кожны зь іх мусіў выплаціць у даход дзяржавы па 70 тысяч рублёў (па дзьве базавыя велічыні). Спробы абскардзіць гэтае рашэньне ў Віцебскім абласным і Вярхоўным судох не далі плёну.

Як адзначыў камітэт у рашэньнях, прынятых у дачыненьні да віцебскіх актывістаў, калі ўводзяцца нейкія абмежаваньні правоў, дзяржава павінна растлумачыць, дзеля дасягненьня якіх легітымных мэтаў правы абмяжоўваюцца. Аднак урад Беларусі не растлумачыў, якім чынам маўклівы рух траіх чалавек па ходніках у абедзенны час парушыў правы і свабоды іншых людзей або стварыў пагрозу нацыянальнай бясьпецы ці грамадзкаму парадку. Таму камітэт прыйшоў да высновы, што перасьлед Базарава і Аляксандрава за іх удзел у мірным сходзе, хаця ён і ня быў санкцыянаваны ўладамі, зьяўляецца неабгрунтаваным абмежаваньнем правоў.

Згодна з рашэньнем КПЧ, Беларусь як удзельнік Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох абавязаная забясьпечыць віцебскім актывістам эфэктыўныя сродкі прававой абароны, а таксама кампэнсацыю і пакрыцьцё накладзеных на іх штрафаў. Таксама дзяржава павінна зрабіць захады па недапушчэньні аналягічных парушэньняў у будучыні; камітэт нагадаў уладам


Валер Аляксандраў

Беларусі, што яны мусяць перагледзець заканадаўства, у прыватнасьці Закон аб масавых мерапрыемствах ад 30 сьнежня 1997 году.

**31.10.2014** Камітэт ААН па правох чалавека апублікаваў рашэньне па звароце № 1987/2010, прынятае на 112-й сэсіі камітэту. Згодна з гэтым рашэньнем, Рэспубліка Беларусь як краіна – удзельнік Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох прызнаная парушальніцай правоў віцебскага актывіста **Анатоля Стамброўскага**, прадугледжаных пунктам 2 артыкулу 19 пакту.

У сваёй скарзе ў КПЧ Анатоль Стамброўскі сьцьвярджаў, што ён зьяўляецца ахвярай парушэньня Беларусьсю ягоных правоў. 3 красавіка 2009 году ён хацеў зладзіць адзіночны пікет у пешаходнай зоне на скрыжаваньні дзьвюх вуліц Віцебску з мэтай прыцягненьня грамадзкай увагі да парушэньняў заканадаўства органамі ўлады. Аднак Віцебскі гарвыканкам правядзеньне пікету забараніў.

Гарвыканкам адзначыў, што правядзеньне пікету нібыта парушыла б дарожны рух, парадак перамяшчэньня людзей, грамадзкую бясьпеку і парадак. У забароне пікету было адзначана таксама, што прапанавае актывістам месца яго правядзеньня не ўваходзіць у сьпіс дазволеных для правядзеньня масавых мерапрыемстваў месцаў, у той час як згодна з пастановай гарвыканкаму грамадзкія мерапрыемствы можна ладзіць толькі ў некалькіх канкрэтна пазначаных месцах у Віцебску.

Анатоль Стамброўскі абскардзіў рашэньне аб забароне пікету ў судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску, сьцьвярджаючы, што гарвыканкам парушыў яго канстытуцыйнае права на свабоду выказваньня меркаваньняў. Актывіст спрабаваў давесьці суду, што прычына забароны пікету, які нібыта замінаў бы дарожнаму руху, зьяўляецца надуманай і неправамернай, бо адзін чалавек, што стаіць у пешаходнай зоне на скрыжаваньні вуліц, наўрад ці зрабіў бы такое.

Аднак райсуд не прыслухаўся да аргумэнтаў актывіста і, спаслаўшыся на тое, што пастанова Віцебскага гарвыканкаму адпавядае палажэньням Закону Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах», пакінуў скаргу без задавальненьня. Потым нібыта правільнасьць такога рашэньня суду Кастрычніцкага раёну Віцебску пацьвердзілі Віцебскі абласны суд, куды падаваліся касацыйная і наглядная скаргі, і Вярхоўны Суд, куды таксама падавалася скарга згодна з працэдурай перагляду ў парадку нагляду. Такім чынам, суды прызналі, што палажэньні Закону «Аб масавых мерапрыемствах» зьяўляюцца дэ-факта вышэйшымі за  канстытуцыйную норму, згодна зь якой кожны грамадзянін мае права на свабоду выказваньня меркаваньняў.


Анатоль Стамброўскі

Камітэт па правох чалавека, куды ў рэшце рэшт паскардзіўся віцебскі актывіст, некалькі разоў спрабаваў дамагчыся ад уладаў Беларусі тлумачэньняў па сутнасьці скаргі. Але беларускія ўлады адмовіліся даць такія тлумачэньні. Яны адно заявілі, што скарга Стамброўскага не павінна была рэгістравацца камітэтам, бо аўтар звароту ў камітэт нібыта ня вычарпаў усіх даступных сродкаў прававой абароны ўнутры краіны, уключаючы падачу ў пракуратуру хадайніцтва пра перагляд у парадку нагляду рашэньня, якое ўступіла ў сілу.

Падчас камунікацыі з КПЧ улады Беларусі адзначылі, што паведамленьне Стамброўскага і шэраг іншых паведамленьняў былі зарэгістраваныя нібыта ў парушэньне Факультатыўнага пратаколу да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, а таму любыя рашэньні, прынятыя камітэтам у дачыненьні да гэтых паведамленьняў, будуць уважацца за юрыдычна несапраўдныя. Таксама беларускія ўлады заявілі, што яны не абавязаныя прызнаваць правілы працэдуры КПЧ і тлумачэньне ім палажэньняў Факультатыўнага пратаколу і што спасылкі на практыку камітэту, якая даўно склалася, не зьяўляюцца для яго юрыдычна апраўданымі.

У рашэньні па справе Дамброўскага КПЧ асобна пракамэнтаваў адмову Беларусі ад супрацоўніцтва з камітэтам: «Камітэт нагадвае, што ў адпаведнасьці з пунктам 2 артыкулу 39 Пакту ён мае права вызначаць свае ўласныя правілы працэдуры, якія дзяржавы-ўдзельнікі пагадзіліся прызнаваць. Ён далей адзначае, што ў сілу далучэньня да Факультатыўнага пратаколу дзяржава – удзельнік Пакту прызнае кампэтэнцыю Камітэту прымаць і разглядаць паведамленьні ад асобаў, якія сьцьвярджаюць, што яны зьяўляюцца ахвярамі парушэньня якога-небудзь з правоў, выкладзеных у Пакце (прэамбула і артыкул 1 Факультатыўнага пратаколу). З далучэньня да Факультатыўнага пратаколу вынікае абавязак дзяржавы добрасумленна супрацоўнічаць з Камітэтам, з тым каб ён мог разглядаць такія паведамленьні, і пасьля іх вывучэньня накіроўваць сваю Пазыцыю дзяржавеўдзельніку і зацікаўленай асобе (пункты 1 і 4 артыкула 5). З гэтымі забавязаньнямі несумяшчальныя любыя дзеяньні дзяржавы-ўдзельніка, якія будуць замінаць ці перашкаджаць Камітэту ў разглядзе і вывучэньні паведамленьня, а таксама ў фармуляваньні ім сваіх Пазыцыяў. Камітэт упаўнаважаны самастойна вызначаць, ці трэба рэгістраваць паведамленьне. Камітэт адзначае, што, не прызнаючы яго кампэтэнцыю ў гэтым пытаньні і загадзя заяўляючы, што яна ня будзе прызнаваць рашэньня Камітэту ў дачыненьні да прымальнасьці і сутнасьці паведамленьня, дзяржава-ўдзельнік парушае свае забавязаньні, прадугледжаныя артыкулам 1 Факультатыўнага пратаколу да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох».

Нягледзячы на пярэчаньні ўладаў Беларусі, камітэт палічыў скаргу Стамброўскага прымальнай і разгледзеў яе па сутнасьці. Вынік разгляду такі: «Дзяржава-ўдзельнік не прадставіла ніякіх заўвагаў па сутнасьці гэтага паведамленьня… Мясцовыя ўлады дзяржавы-ўдзельніка забаранілі аўтару паведамленьня правядзеньне пікету 3 красавіка 2009 году, абмежаваўшы такім чынам ягонае права на распаўсюд ягонага меркаваньня пра дзейнасьць уладаў дзяржавы-ўдзельніка… Нацыянальныя органы не патлумачылі, якім чынам падчас правядзеньня адзіночнага пікету ў пешаходнай зоне аўтар можа парушыць дарожны рух, парадак перамяшчэньня людзей, грамадзкую бясьпеку і парадак у названым месцы, і як абмежаваньні правоў аўтара паведамленьня, прадугледжаных артыкулам 19 Пакту, абгрунтоўваюцца пунктам 3 артыкулу 19 Пакту. Пры гэтых акалічнасьцях і з улікам таго, што ад дзяржавы-ўдзельніка не паступіла ніякай інфармацыі па гэтым пытаньні ў абгрунтаваньне ўстанаўленьня абмежаваньня дзеля мэтаў, прадугледжаных у пункце 3 артыкулу 19 Пакту, Камітэт робіць выснову пра тое, што правы аўтара паведамленьня, прадугледжаныя пунктам 2 артыкулу 19 Пакту, былі парушаныя».

Цяпер улады Беларусі абавязаныя забясьпечыць Анатолю Стамброўскаму эфэктыўны сродак прававой абароны, уключаючы пакрыцьцё панесеных ім судовых выдаткаў і кампэнсацыю. Згодна з рашэньнем КПЧ, у мэтах забесьпячэньня поўнага ажыцьцяўленьня ў краіне правоў, прадугледжаных артыкулам 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, Беларусь мусіць перагледзець унутранае заканадаўства. Таксама дзяржава абавязаная зрабіць захады па недапушчэньні зьдзяйсьненьня ёй аналягічных парушэньняў у будучыні.

Рашэньне, прынятае Камітэтам ААН па правох чалавека па скарзе Анатоля Стамброўскага, – далёка ня адзінае ў шэрагу падобных. Цягам апошніх некалькіх гадоў КПЧ прызнаў дзясяткі выпадкаў парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі. Найчасьцей беларусы скардзяцца на парушэньне Беларусьсю артыкулу 19 пакту, які забясьпечвае права на свабоду выказваньня меркаваньняў і распаўсюд інфармацыі. Аднак беларускія ўлады, нягледзячы на ўзятыя дзяржавай на сябе міжнародныя забавязаньні, упарта адмаўляюцца выконваць рашэньні камітэту.

**14.02.2015 Праваабаронца Павал Левінаў** атрымаў паведамленьне пра тое, што скарга **распаўсюдніка газэты «Віцебскі кур'ер» Міхаіла Жураўлёва** зарэгістраваная. Упраўленьне Вярхоўнага Камісара па правох чалавека ААН праінфармавала пра рэгістрацыю пад нумарам 2495/2014 пададзенага на разгляд КПЧ паведамленьня згодна з Факультатыўным пратаколам да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох.

Гэтае паведамленьне было падрыхтаванае праваабаронцам у інтарэсах Міхаіла Жураўлёва.

Як была справа: спачатку супрацоўнікамі міліцыі аддзелу ўнутраных спраў адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску ў дачыненьні да Міхаіла Жураўлёва быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні за незаконны, на іх думку, распаўсюд газэты «Віцебскі Кур'ер».

Потым судзьдзя суду Першамайскага раёну Віцебску Натальля Кораблина, ня доўга разьбіраючыся, падвергла Міхаіла Жураўлёва адміністрацыйнаму штрафу,


Пётар Бярлінаў

што ў 1,5 разы перавышае памер пэнсіі, якую ён атрымлівае. Удзячныя чытачы «Віцебскага Кур'еру» сабралі неабходную суму і дапамаглі Міхаілу выплаціць штраф.

Абскарджаньне вышэй не дапамагло: судзьдзя Віцебскага абласнога суду Ірына Смалякова, таксама як і старшыня гэтага суду Мікалай Хамічонак ня ўгледзелі падстаў да скасаваньня вынесенай пастановы. Абскарджаньне яшчэ вышэй таксама не прынесла выніку: і намесьнік старшыні Вярхоўнага Суду Рэспублікі Беларусь Валер Калінковіч застаўся глухі да довадаў Міхаіла Жураўлёва.

Спрабаваў быў Міхаіл Жураўлёў адстаяць свае права ў Камісіі па правах чалавека Садружнасьці Незалежных Дзяржаў, але высьветлілася, што Камісія гэтая дагэтуль ня створаная і правоў грамадзян СНД абараніць ня можа.

«Прыцягненьне да адміністрацыйнай адказнасьці за выказваньне свайго меркаваньня праз распаўсюд інфармацыі з дапамогай друку парушыла права Міхаіла Жураўлёва, гарантаванае артыкулам 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Накладаньне адміністрацыйнага спагнаньня за распаўсюд інфармацыі ёсьць ня што іншае, як ухіленьне Рэспублікі Беларусь у асобе вышэйпералічаных судзьдзяў і структур ад узятых забавязаньняў па недапушчальнасьці зьдзяйсьняць дзеяньні, накіраваныя на зьнішчэньне правоў і свабод, прадугледжаных пактам», – мяркуе праваабаронца Павал Левінаў.

Цяпер слова за кампэтэнтным міжнародным органам.

**29.04.2015** Жыхар Віцебску **Пётар Бярлінаў** зьвярнуўся з індывідуальнай скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН, бо ён быў, на яго думку, незаконна і несправядліва падвергнуты кароткатэрміноваму пазбаўленьню волі па адміністрацыйнай справе.

Нагодай для такога суворага пакараньня паслужыў выпадковы ўдзел Пятра ў групавым фатаграфаваньні на адной з вуліц гораду. Судзьдзя суду Чыгуначнага раёну Віцебску Алена Цыганкова ўсьлед за маёрам міліцыі Аляксандрам Рыбаковым палічыла фатаграфаваньне масавым мерапрыемствам, прызнала Бярлінава вінаватым і падвергла адміністрацыйнага арышту на трое сутак з утрыманьнем яго ў ізалятары часовага ўтрыманьня.

У сваёй скарзе Бярлінаў прыводзіць довады таго, што ён стаў ахвярай дзеяньняў з боку дзяржаўных органаў і арганізацыяў. Так, Пётар паведамляе пра тое, што касацыйная і наглядныя судовыя інстанцыі, куды ён зьвяртаўся са скаргамі на рашэньне судзьдзі Цыганковай, разгледзелі скаргі не на яго карысьць. Паводле меркаваньня заяўніка, судзьдзя Цыганкова была прадузятай. Яна адназначна прыняла

бок абвінавачваньня і не стала высьвятляць усе акалічнасьці, фактычны бок справы, ня стала знаходзіць аб’ектыўныя дадзеныя яго невінаватасьці і недатычнасьці.

На думку Бярлінава, судовае рашэньне суду першай інстанцыі не зьяўлялася справядлівым. Усе ўдзельнікі фотасэсіі былі пакараныя штрафамі. І толькі ён адзін за тое ж самае правапарушэньне, што і астатнія (удзел у пікетаваньні), быў падвергнуты адміністрацыйнаму арышту. Бо гэты від пакараньня расцэньваецца грамадзтвам і дзяржавай як найбольш карны, г.зн. ужываецца толькі ў крайніх, асаблівых выпадках у адміністрацыйнай вытворчасьці.

«Адміністрацыйны арышт успрыняты мною як пакараньне, не прапарцыйнае ўчыненаму дзеяньню. Бо калі мае паводзіны расцэньваць як удзел у пікеце, то маімі ўчынкамі не былі ўшчэмленыя правы і рэпутацыя іншых асоб. Да таго ж я не рабіў замах на бясьпеку, грамадзкі парадак і маральнасьць насельніцтва, якія ахоўваюцца дзяржавай. Прынамсі, мне не ставілася ў віну гэта судом», – сьцьвярджае Бярлінаў.

Ён мяркуе, што з боку дзяржавы грубым чынам было парушанае яго права на справядлівы, бесстароньні і незалежны суд. І выказвае шкадаваньне, што касацыйная і наглядныя судовыя інстанцыі не ўлічылі ўсе яго довады і рэабілітуючыя акалічнасьці.

Пётар Бярлінаў, пакрыўджаны беларускай дзяржавай грамадзянін, просіць Камітэт па правох чалавека прызнаць яго скаргу прымальнай для разгляду па сутнасьці. Ён настойвае на тым, каб Рэспубліка Беларусь была прызнаная парушальнікам Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, ліквідавала ўсе дапушчаныя парушэньні і аднавіла яго грамадзянскія правы, а таксама пакрыла яму маральную шкоду ў выглядзе грашовай кампэнсацыі.

**16.05.2015** Урад Беларусі спыніў ліставаньне з КПЧ наконт скаргі жыхара Віцебску **Міхаіла Жураўлёва**. Падставай для гэткага радыкальнага рашэньня беларускіх уладаў стала тая акалічнасьць, што скаргу спадару Жураўлёву падрыхтаваў і ад яго імя накіраваў у Камітэт ААН па правох чалавека **праваабаронца Павал Левінаў**.

З камэнтара ўраду вынікае тое, што беларуская дзяржава дужа пакрыўдзілася на Камітэт за рэгістрацыю скаргі Жураўлёва, дасланую Левінавым. Да таго ж незадаволенасьць дзяржавы выклікала тое, што Камітэт не зрабіў ласку паведаміць уладам пра прычыны, па якіх ахвяра – М. Жураўлёў ня змог падаць сваю скаргу самастойна. Такім чынам, беларускія ўлады мяркуюць, што была парушаная працэдура падачы скаргі ў КПЧ.

Акрамя таго, дзяржава – меркаваны парушальнік Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правох настойвае на тым, што Камітэт па правох чалавека не павінен разглядаць ніякіх паведамленьняў ад асобы, пакуль не пераканаецца ў тым, што гэтая асоба вычарпала ўсе даступныя ўнутраныя сродкі прававой абароны.

Абгрунтоўваючы сваё патрабаваньне, беларуская дзяржава ў сваім камэнтары на скаргу Жураўлёва піша: «Інфармацыя, якая зьмяшчаецца ў паведамленьні, сьведчыць пра тое, што асобаю, ад імя якой прадстаўленае паведамленьне, не былі вы-




чарпаныя ўсе даступныя ў Рэспубліцы Беларусь сродкі прававой абароны. Міхаіл Жураўлёў не скарыстаўся правам звароту ў Генэральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь».

Угледзеўшы ў названых фактах працэсуальныя парушэньні, беларускія ўлады адхілілі скаргу Жураўлёва і паведамілі Камітэту, што далейшы разгляд КПЧ скаргі Жураўлёва будзе расцэньвацца дзяржавай як заахвочваньне аўтара, Паўла Левінава, да дзеяньняў, якія не прадугледжаныя працэдурнымі дакумэнтамі Камітэту, і злоўжываньня правам звароту ў міжнародныя органы.

У апошнім сказе свайго камэнтара ад 26 сакавіка 2015 году ўрад Беларусі паведамляе Камітэту пра спыненьне далейшага ліставаньня зь ім наконт скаргі Міхаіла Жураўлёва.

У сваім зваротным камэнтары праваабаронца Павал Левінаў рашуча адкідае ўсе аргумэнты дзяржавы Рэспублікі Беларусь, на падставе якіх яно спыніла ліставаньне з КПЧ ААН, і ацэньвае іх як безгрунтоўныя і ў працэсуальным, і ў фактычным сэнсе.

Праваабаронца сьцьвярджае, што права накіраваць зварот у КПЧ ад імя Міхаіла Жураўлёва ён атрымаў пасьля афармленьня афіцыйнага дакумэнту – даверанасьці ад апошняга на вядзеньне справы ў Камітэце. У самым паведамленьні адзначана, што Міхаіл Жураўлёў зьяўляецца пэнсіянэрам-інвалідам і ня можа сам паўнавартасна падрыхтаваць скаргу ў КПЧ.

Варта адзначыць, што ў міжнароднай практыцы такія адносіны паміж заяўнікам і яго падапечным прызнаюцца законнымі і абгрунтаванымі і зьяўляюцца дастатковымі для абароны асоб ва ўсіх інстанцыях аж да міжнародных.

Левінаў таксама паведамляе, што пастанова судзьдзі суду Першамайскага раёну Віцебску Натальлі Карабліной, якой у кастрычніку 2012 году Міхаіл Жураўлёў быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасьці за распаўсюд газэты «Віцебскі Кур'ер», была абскарджаная і ў касацыйным, і ў наглядным парадку. Але ўсе беларускія судовыя інстанцыі адмовілі яму ў абароне яго грамадзянскіх правоў.

Што тычыцца аргумэнту дзяржавы, быццам бы Міхаіл Жураўлёў ня вычарпаў усе ўнутраныя сродкі прававой абароны, не падаўшы скаргу ў Генэральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь, дык насамрэч такая скарга была пададзеная ў красавіку 2013 году, і Генпракуратура даручыла яе разгляд пракурору гораду Віцебску. Пракурор гораду правам прынясеньня пратэсту на пастанову па справе аб адміністрацыйным правапарушэньні ў дачыненьні да Міхаіла Жураўлёва не скарыстаўся. Такім чынам, выводзіць Левінаў, Жураўлёвым былі вычарпаныя ня толькі ўсе

ўнутраныя эфэктыўныя, але і надзвычайныя сродкі прававой абароны.

З гэтага праваабаронца робіць выснову, што ў яго дзеяньнях адсутнічаюць парушэньні працэдур ААН, на падставах якіх Камітэт па правох чалавека павінен завяршыць разгляд скаргі Жураўлёва, і настойвае на далейшым яе разглядзе.